Сяргей Чыгрын

# Слонімскія падмуркі

*Гісторыка-краязнаўчыя*
*і літаратуразнаўчыя артыкулы*

Мінск, «Кнігазбор», 2012

УДК [908+821.161.3.09](476.6)
ББК 63.3(4Беи)
Ч11

Фундатар выдання — зямляк Аляксандр Міско.

**Чыгрын, С.**

Ч11 Слонімскія падмуркі : гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы / Сяргей Чыгрын. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 296 с.

ISBN 978-985-7007-87-5.

Кніга Сяргея Чыгрына прысвечана Слонімшчыне, яе гісторыі і помнікам, а таксама знакамітым людзям, якія адтуль родам.

**УДК [908+821.161.3.09](476.6)**
**ББК 63.3(4Беи)**

**ISBN 978-985-7007-87-5**

© Чыгрын С., 2012
© Афармленне. ПУП «Кнігазбор», 2012

# СЛОНІМШЧЫНЕ ПАШАНЦАВАЛА

Працуючы над будучым энцыклапедычным даведнікам «Літаратурныя мясціны Беларусі», я пераканаўся, што «салаўіныя», паэтычныя гнёзды «кучкуюцца» пераважна па суседству. У адных рэгіёнах іх болей, у іншых — меней. Але абсалютна пустынных, ненаселеных пісьменнікамі мясцін не бывае. Зямля, нараджаючы сваіх песняроў, імкнецца да раўнамернага іх размяшчэння.

І ўжо іншая справа, ёсць ці не побач з паэтамі, празаікамі, драматургамі, літаратуразнаўцамі ў тым або іншым рэгіёне пісьменнікі-краязнаўцы (ці дакладней, радзімазнаўцы), якія адшукалі б, асэнсоўвалі б свае літаратурныя багацці. Зрабіць тое ж з Мінска або з абласнога цэнтра куды складаней, бо не ведаеш істотных, мясцовых рэалій.

І вось, збіраючы і апрацоўваючы матэрыялы для будучага даведніка па Гродзенскай вобласці, я пабачыў, што такіх ці прыблізна такіх энтузіястаў тут не густа. Да прыкладу, многае робіць для сваёй Смаргоншчыны Арсень Ліс, аднак у коле яго інтарэсаў яўна пераважае навука, фальклярыстыка. Зэльвенскі патрыятызм выразна праяўляецца ў творчасці Міхася Скоблы, але ўсё ж найперш ён паэт, ды і патрыятызм яго распаўсюджваецца ледзь не на ўсю Беларусь. Не адно забытае імя, у тым ліку і пісьменніцкае, вярнула Карэліччыне аўтар некалькіх краязнаўчых кніжак Святлана Кошур, аднак у першую чаргу яна кіруецца не пісьменніцкімі, а музейнымі інтарэсамі. І гэта было б датычна да Гродзеншчыны ўсё ці амаль усё, калі б не Слонімшчына. Калісьці тут займаўся тым, што мы цяпер называем літаратурным краязнаўствам, Гальяш Леўчык (1880–1944), адзін з герояў гэтай кнігі, потым цікавіўся мінулым сваёй «малой радзімы» Алег Лойка (1931–2008), а цяпер іх эстафету пераняў Сяргей Чыгрын.

Найперш скажу ў гэтай прадмове колькі слоў пра аўтара нарысаў-артыкулаў аб'яднаных ва ўяўных гісторыка-краязнаўчых і літаратурных нататках пад назвай «Слонімскія падмуркі». Прыводжу іх услед за тымі звесткамі, якія былі прысланы Сяргеем Чыгрыном для энцыклапедычнага даведніка «Літаратурныя мясціны Беларусі». Нарадзіўся ён 24 верасня 1958 года ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна ў сялянскай сям'і. Васьмігодку закончыў у сваёй роднай вёсцы. Затым вучыўся на тэатральным аддзяленні Магілёўскага культасветвучылішча, працаваў загадчыкам Сынковіцкага сельскага клуба Зэльвенскага раёна. У 1985 годзе скончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў настаўнікам, у рэдакцыях газеты «Слонімскі веснік» і «Газеты Слонімскай». Жыве ў Слоніме, цяпер працуе загадчыкам літаратурнай часткі Слонімскага драматычнага тэатра.

Выдаў зборнікі паэзіі «Шчырая Шчара» (1993), «Горад без цябе» (1999), «Лірыка» (2007), «Камень Міндоўга» (2009), кнігі гісторыка-краязнаўчых і літаратурных артыкулаў «Янка Купала і Слонімшчына» (1993), «Родам са Слонімшчыны» (2003), «Пакліканыя на родны парог» (2005), «Чамяры і

чамяроўцы» (2006), «У пошуках слонімскіх скарбаў» (2007), «Беларуская Беласточчына» (2008), «З беластоцкай зямлі» (2008), «Тэатр у Слоніме» (2008), «Мастак Антон Карніцкі» (2009), «Жыў роднай песняй» (2010), «Альбярцін» (2011) «Па слядах Купалы і Коласа» (2012), «Такі іх лёс» (2012) і іншыя.

Уклаў і выдаў у Беластоку літаратурную спадчыну С. Грынкевіча, Ф. Грышкевіча, У. Казлоўшчыка («Вяртанне да сваіх», 1999), а таксама гістарычныя нарысы М. Шкялёнка («Беларусь і суседзі», 2003). Сабраў і выдаў літаратурную спадчыну Сяргея Хмары «Рабінавы хмель» (2009), Леаніда Трубача «Паміж песняй і болем» (2010), Юры Весялкоўскага «Я веру» (2009), кнігі Анатоля Іверса «Аўсяныя росы» (2011), «З глыбінь жыцця» (2012), «Жыццё і творчасць Анатоля Іверса» (2012), Алеся Сучка «Захацелася шчасця» (2012) і іншыя. З'яўляецца аўтарам і выдаўцом шматлікіх беларускіх буклетаў, паштовак, плакатаў, праграмак, а таксама песень.

На беларускую мову пераклаў вершы французскіх паэтаў Поля Элюара, Луізы Мішэль, Эжэна Пацье, Поля Верлена, украінскіх паэтаў Рыгора Елішэвіча, Валерыя Бойчанкі, Любові Пшанічнай, турэцкага паэта Фазыла Хюсню Дагларджы і іншых. Пераклаў таксама на родную мову п'есы А. Хайта, К. Манье, Э. Успенскага, К. Гальдоні, А. Астроўскага, С. Міхалкова, С. Пракоф'евай, Н. Абрамцавай, Г. Лабакіна, К. Папова, М. Каляды і іншых драматургаў. Многія спектаклі па іх п'есах пастаўлены на сцэне Слонімскага драмтэатра і іншых тэатраў Беларусі. Напісаў таксама п'есу для дзяцей «Белая Мышка» (у сааўтарстве з Аляксеем Якімовічам, пастаўлена ў 2005 годзе), а таксама п'есы «Зачараваная хатка» (2011) «Падарункі Дзеда Мароза» (2011). Вельмі часта друкуецца не толькі ў мінскай і гродзенскай перыёдыцы, але і ў беластоцкім тыднёвіку «Ніва», розных замежных штогодніках і альманахах.

І вось перад намі новая кніга пісьменніка і даследчыка Сяргея Чыгрына — «Слонімскія падмуркі». Яна цалкам прысвечана радзіме аўтара, яе гісторыі, помнікам, асобам, падзеям. Большую палову зборніка склалі нарысы пра людзей, што нарадзіліся і ўзгадаваліся на слонімскай зямлі. Сярод постацяў, вернутых Сяргеем Чыгрыном з небыцця, ёсць нямала забытых, невядомых. Для мяне асабіста такімі паказаліся Генрых Мілачэўскі, Аляксандр Жукоўскі, Уладзімір Шундрык, Ян Канопка і іншыя.

Такім чынам, Слонімшчыне сапраўды пашанцавала, што на яе тэрыторыі нарадзіўся і цяпер жыве такі пісьменнік-краязнавец, як Сяргей Чыгрын. Калі будзе, можа, складацца «Гісторыя Слонімшчыны» ці «Энцыклапедыя Слонімшчыны» або новая кніга накшталт «Памяці», то цалкам магчыма, асабліва калі ўлічыць багацце матэрыялу, што вынікі росшукаў Сяргея Чыгрына, у тым ліку ўключаныя ў гэты зборнік, зоймуць там грунтоўную, а галоўнае — адкрывальніцкую частку.

*Адам МАЛЬДЗІС,*
*доктар філалагічных навук, прафесар*

# 1

## ЗАВІТАЕМ У ПАЛЕСКІЯ АФІНЫ — СТАРАЖЫТНЫ СЛОНІМ

Калі вы яшчэ не былі ў старажытным беларускім горадзе Слоніме, то спазніліся як мінімум на 200–300 гадоў. І шмат чаго ўжо не ўбачыце. Але моцна засмучацца не трэба. Бо Слонім — горад, пра які можна распавядаць бясконца, ды і паглядзець тут ёсць на што нават і сёння.

Слонім мае вялікую гісторыю, і пра яго пісаць і расказваць можна бясконца. Але сёння многіх простых слонімцаў хвалюе пытанне: няўжо Слоніму ўсяго толькі 760 гадоў? Сапраўды, першае пісьмовае ўпамінанне Слоніма ў Іпацьеўскім летапісе адносіцца да 1252 года. Да гэтага года адносіцца і першая пісьмовая згадка пра Ваўкавыск. Але кіраўніцтва Ваўкавыска і яго жыхары некалькі гадоў таму адзначылі 1000-годдзе свайго горада. І гэта правільна. Цікава, хто ж скрэмзаў гістарычную дату нашага роднага горада, дзе мы нарадзіліся і жывём, дзе жылі нашы дзяды і прадзеды? Як жа так атрымліваецца, што ў Ваўкавыску і ў іншых гарадах Беларусі і свету ўсе падобныя юбілеі адзначаюцца згодна з гістарычнымі крыніцамі і датамі, а ў нас — цям-цялям. Як можа быць Слоніму 760 гадоў, калі ён ужо больш за 200 гадоў існаваў да гэтай даты? Пра гэта пісалі і пішуць беларускія і польскія гісторыкі, пра гэта сведчаць і многія летапісы, архівы, дакументы, энцыклапедыі і кнігі.

Аказваецца, Слонім узнік не ў XIII стагоддзі, а ў першай палове XI стагоддзя. У 1040 годзе адбыўся рабаўнічы паход кіеўскага палка князя Яраслава Мудрага на паселішчы панёманскай Літвы (Гарадзеншчыны). Як пішуць гісторыкі М. Балінскі і Т. Ліпінскі, спасылаючыся на польскага гісторыка XV стагоддзя Яна Длугаша, гэты самы Яраслаў Мудры, «спаткаўшыся на палях сломінскіх (слонімскіх) з літвінамі, перамог іх так, што затым, праехаўшы ўласна Літву да самага Нёмана, прымусіў яе на нейкі час падпарадкавацца». На думку гісторыкаў, калі існавалі «палі слонімскія», то, лагічна, мусіў існаваць і сам Слонім. Бо адкуль тады ўзяліся слонімскія палі? Вядома ж, ад Слоніма. Такім чынам, спасылаючыся на слыннага гісторыка Длугаша, у гістарычных даведках аб Слоніме з’явілася дата — 1040 год. Некаторыя памылкова пішуць — 1036 год, але ў такой шматвяковай гісторыі 3–5 гадоў асаблівага значэння не маюць. Згадваецца Слонім пад 1040 годам і ў старажытнарускім летапісе «По-

весть временных лет». Аб гэтым сцвярджае і доктар гістарычных навук Васіль Мялешка. У сваёй кнізе «Слоним», якая пабачыла свет на рускай мове ў 1962 годзе, ён піша: «Первое летописное упоминание о Слониме относится к 1040 году и связывается с борьбой древнерусского князя Ярослава Владимировича против литовцев, проживавших по соседству с дреговичами. В польской летописи отмечается, что князь Ярослав Владимирович в 1040 году одержал победу над литовцами и обязал их платить дань». Пра гэта паведамляе і польскі гісторык Анджэй Дычкоўскі ў кнізе «Słonim» (Варшава, 1992): «Pierwsze wzmianki o Słonimiu pochodzą z roku 1040…». А Васіль Супрун у сваёй кнізе «100 пытанняў і адказаў» (Слонім, 2002) сцвярджае наступнае: «Як старажытны славянскі апорны пункт на рацэ Шчара, Слонім быў заснаваны не пазней X стагоддзя». І падобных крыніц можна прыводзіць безліч.

З 1040 да 1252 года Слонім пабачыў і перажыў шмат бітваў, захопаў і адбудоў. У 1103 годзе каля Слоніма адбылася бітва паўднёварускіх дружын з мясцовымі абаронцамі. Горад удалося выратаваць. У самым пачатку XIII стагоддзя на Слонім напалі галіцка-валынскія князі і захапілі яго. У адказ на гэта слонімскія воіны ў 1205 годзе разам з дружынамі літвінаў і яцвягаў прымалі ўдзел у паходзе на Валынь.

У 1241 годзе на Слонім напалі войскі татарскага хана Койдана і амаль поўнасцю знішчылі гарадскі драўляны замак. На дапамогу слонімцам прыйшлі дружыны вялікага князя Вялікага Княства Літоўскага Міндоўга. Усе разам вызвалілі горад ад захопнікаў і адбудавалі замак. З 1245 года Слонім ахоўваўся дружынамі князя Міндоўга, а з 1248 года яго гаспадаром быў сын Міндоўга князь Войшалк.

Галіцка-валынскія князі сумесна з татарамі некалькі разоў спрабавалі захапіць Слонім, але войскі нашага князя Войшалка іх адбівалі. І толькі ў 1252 годзе чужынцы захапілі горад над Шчарай. Пра гэта ў Іпацьеўскім летапісе згадваецца: «Даниил же и Василько, брат его, разгадав со сыном, брата си посла на Волковыеск, а сына на Услоним, а сам иде ко Здитову: и поимаша грады многы».

Вось такі кароткі экскурс у далёкую гісторыю Слоніма. З яго відаць, што гісторыя горада пачынаецца не з 1252 года, а з 1040-га. Гэтую дату і трэба лічыць днём нараджэння горада Слоніма. Мы павінны ганарыцца тым, што Слонім на Гродзеншчыне старэйшы за многія іншыя гарады Беларусі і мае вялікую і даўнюю гісторыю, і скажаць яе ніхто не мае права.

Да XIV стагоддзя назва Слоніма ў пісьмовых дакументах фігуравала як Услонім, Вслонім, Васлонім. Пытанне паходжання назвы Слоніма і цяпер цікавіць многіх даследчыкаў. Адны з іх выказваюць версію, што горад названы так, бо тут знаходзілі шмат слановых і мамантавых касцей. Іншыя даследчыкі кажуць, што назва горада паходзіць ад польскіх слоў «слома» (салома) ці «слоніна» (сала), спасылаючыся на саламяныя стрэхі старых будынкаў горада і шырокі гандаль салам. Гісторык Васіль Мялешка некалі прапанаваў сваю версію наконт назвы горада. Ён пісаў, што назва «Слонім» паходзіць ад слоў «сленіс», «сленумас», што азначае «нізіна», «нізінны». А слонімскі краязнавец Васіль Супрун сцвярджаў,

што назва «Услонім» паходзіць ад слова «услон», «услона» — заслон, пэўнае засланяючае збудаванне. Бо, як вядома, рака Шчара, якая працякае праз Слонім, яшчэ ў старажытныя часы была важнай магістраллю, якая злучала Палессе з Панямоннем і Прыбалтыкай.

З канца XIII стагоддзя Слонім уваходзіў у Вялікае Княства Літоўскае. Пры князю Альгердзе Слонім ахоўваўся яго братам Кейстутам, які валодаў і Трокамі. Трокі, дарэчы, былі месцам яго асноўнага княжання. Тым не менш князь з сынам Вітаўтам часта бывалі ў слонімскім замку і добра ведалі гэты край. Пасля трагічнай смерці Кейстута Слонім перайшоў пад непасрэдную апеку князя Вітаўта. Вітаўт любіў Слонім. Ён вельмі часта тут бываў, а ў 1409 годзе наведаў Слонім разам з жонкаю Ганнай.

У 1410 годзе ў Грунвальдскай бітве пад камандаваннем вялікага князя Вітаўта мужна змагаліся і слонімскія харугвы. А пасля перамогі, Слонімскае княства было ператорана ў Слонімскі павет і ўвайшло ў Трокскае ваяводства Вялікага Княства Літоўскага. Дзесьці ў 1490 годзе вялікім князем літоўскім і каралём польскім Казімірам Ягелончыкам побач з Замкавай плошчай быў пабудаваны першы ў горадзе каталіцкі касцёл. Цяпер на гэтым месцы ўзвышаецца касцёл Святога Андрэя — прыгажосць горада Слоніма.

Вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага і кароль Польшчы Жыгімонт I Стары ў 1532 годзе даў Слоніму магдэбургскае права. З гэтага часу ўся ўлада ў горадзе перайшла ў рукі рады. Зыгмунд III Ваза ў 1591 годзе пацвердзіў Слоніму магдэбургскае права і даў герб гораду: залаты леў з падвойным сярэбраным крыжам на блакітным полі. З 1631 да 1685 года ў Слоніме праходзілі перадсеймавыя генеральныя сеймікі.

Інтэнсіўнае развіццё горада прыпадае на той час, калі слонімскім старостам стаў вялікі літоўскі канцлер Леў Сапега. Новы староста спрыяў уздыму культуры і прамысловасці горада, яго палітычнай значнасці. Побач з замкам на беразе Шчары Леў Сапега ўзвёў мураваны палац, названы яго імем. У гэты час Сапега сабраў і меў вялікую бібліятэку і архіў. Паруліўся ён і аб добраўпарадкаванні вуліц і мастоў горада. Не без заходу слонімскага старосты з 1605 года горад атрымаў права «склада». Гэта абавязвала розных купцоў, якія везлі праз горад тавары, спыняцца і гандляваць імі ў Слоніме. Леў Сапега заснаваў у горадзе над Шчарай першы ткацкі цэх.

Калі вы першы раз прыехалі ў Слонім, то лепш за ўсё пачаць знаёмства з горадам менавіта з плошчы Льва Сапегі. На гэтай плошчы сёння ўзвышаецца касцёл Святога Андрэя, пабудаваны ў 1775 годзе. Настаяцель касцёла вам распавядае цікавую гісторыю пра гэты храм, а яшчэ пра тое, як у слонімскім касцёле ў спецыяльным куфэрачку зберагалася сэрца Міхала Казіміра Агінскага. А калі Слонім захапілі бальшавікі, яно было ўкрадзена і вывезена далёка на Усход.

З плошчы Льва Сапегі вы можаце прайсці праз масты і патрапіць у слонімскі гарадскі парк. Праз парк працякае славуты канал Агінскага. Так-так, я не памыліўся, менавіта канал Агінскага. Справа ў тым, што росквіт Слоніма ў другой палове XVIII стагоддзя звязаны з дзейнасцю вялікага гетмана літоўскага Міхала Казіміра Агінскага. У 1771 годзе Агінскі

перайшоў на бок Барскай канфедэрацыі, але не здолеў са сваім войскам заняць Нясвіж і Слуцк. У ноч на 23 верасня 1771 года яго трохтысячнае войска было разбіта пад Сталавічамі (цяпер Баранавіцкі раён) рускімі войскамі Суворава. Пасля паражэння Міхал Казімір Агінскі эмігрыраваў. Але праз чатыры гады, атрымаўшы амністыю і секвестраваныя маёнткі, Агінскі вярнуўся ў Слонім, дзе пабудаваў некалькі прадпрыемстваў, друкарню, заснаваў тэатр і капэлу. Па яго ініцыятыве і на яго сродкі быў пабудаваны ў Слоніме і канал Агінскага.

У тэатры Агінскага працавалі прафесійныя беларускія, польскія, нямецкія, італьянскія оперныя і драматычныя акцёры, мастакі, прыгонны хор і балет. Тэатр меў свае філіялы ў Целяханах і ў Седльцах. Рэпертуар, які ставіўся на сцэне тэатра, уключаў 60 опер, 18 балетаў, 3 музычныя камедыі, 253 сімфоніі і больш за 460 іншых музычных твораў. У 1781 годзе функцыянаваў «плывучы тэатр» на баржах на Агінскім канале ў Слоніме. А «дом оперы» меў вялікую сцэну, прыстасаваную для паказаў любых барочных спектакляў, оперных і балетных, для выхаду вялікай колькасці спевакоў і артыстаў, для тэатральных баталій коннікаў і водных феерый (частка сцэны затаплялася вадой з канала, і па ёй плавалі лодкі), для складаных дэкарацый, розных сцэнічных эфектаў. Тэхнічныя магчымасці сцэны дазвалялі паказваць і два фантаны, якія асвятляліся бенгальскімі агнямі.

Побач з тэатрам у 1765 годзе ў Слоніме пачала дзейнічаць першая кавярня («кафенхаўс»). Гэта быў сапраўдны шыкоўны цагляны будынак, аздоблены ўнутры шаўковымі шпалерамі і гравюрамі на медзі. Посуд тут быў фаянсавы варшаўскай вытворчасці.

Сам Міхал Казімір Агінскі пісаў музыку і літаратурныя творы, некаторыя з іх былі надрукаваны ў слонімскай друкарні. Ён выдаў кнігу «Байкі і не байкі» ў двух тамах. Як паэт, драматург і перакладчык, ён увайшоў у гісторыю польскай літаратуры. Як расказваюць гістарычныя крыніцы, калі памёр Ж. Ж. Русо, Агінскі адразу адправіўся ў кабінет караля і сказаў: «Ваша міласць, памёр мой калега!». Кароль палічыў, што гаворка ідзе пра польскага польнага гетмана Сасноўскага. «Не, — запярэчыў Агінскі, — я маю на ўвазе смерць Русо!». Калі ж ён убачыў здзіўленне караля, то растлумачыў: «Бо Русо ж напісаў музыку да оперы «Le Devin du Village». Я таксама пісаў лібрэта і музыку да операў, якія былі пастаўлены ў Слоніме. У гэтым сэнсе Русо — мой калега!».

Тэатр Агінскага ў Слоніме знаходзіўся на Опернай вуліцы. Але, на вялікі жаль, будынак тэатра да сённяшніх дзён не захаваўся. Але ёсць у Слоніме Оперная вуліца — назвы такой не мае ні адзін горад у свеце. І той, хто наведае Слонім, можа прайсціся па гэтай вуліцы, па якой некалі спяшаліся артысты ў свой славуты ў Еўропе тэатр. А яшчэ захавалася аўстэрыя, пабудаваная з цэглы архітэктарам Я. Боем, які праектаваў пры палацы Агінскага шэраг барочных надворных пабудоў. Палова першага паверха аўстэрыі была адведзена пад гасціную, перакрытую чатырма ветразевымі скляпеннямі з цэнтральнай апорай. Пад гэтай часткаю дома знаходзяцца шырокія скляпеністыя падвалы. Цэнтральная лесвіца вузкага

вестыбюля вядзе на другі жылы паверх. Аўстэрыя — адзіная ўцалелая пабудова аднаго з цікавейшых палацавых ансамбляў Беларусі другой паловы XVIII стагоддзя. Яна сёння дае ўяўленне аб агульным характары яго барочнай архітэктуры.

Слонім часоў Агінскага нярэдка называлі палескімі Афінамі. Сюды ў святочныя дні з'язджаліся вяльможы і багацейшая шляхта з усяго краю і нават з Варшавы. Горад меў узорны парадак. Скверы, сады, аранжарэі і рыбныя ставы ствараліся і дагдядаліся лепшымі спецыялістамі Еўропы. Дарэчы, у Слоніме пры двары Міхала Казіміра Агінскага прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады яго пляменніка Міхала Клеафаса Агінскага, аўтара вядомага ўсім паланэза «Развітанне з Радзімаю». Тут ён атрымаў пачатковую музычную адукацыю ў вядомага музыканта і кампазітара Іосіфа Казлоўскага.

Той тэатральны шлях, які пачаў у Слоніме Міхал Казімір Агінскі амаль 300 гадоў назад, працягваецца і сёння. У горадзе існуе прафесійны дзяржаўны драматычны тэатр, які ставіць спектаклі па п'есах беларускіх, рускіх, польскіх, французскіх і італьянскіх драматургаў. Спектаклі ставяцца як для дарослых, так і для юных гледачоў. Калі ў цэнтры горада пабудуецца новы будынак тэатра, то плошчу Леніна, я ў гэта веру, пераймянуюць у Тэатральную плошчу і перад тэатрам паставяць помнік Міхалу Казіміру Агінскаму.

Калі вы азнаёміліся з мясцінамі, звязанымі з Львом Сапегам і Агінскімі, вы можаце наведаць яшчэ ў цэнтры Слоніма кляштар бернардзінак і кляштар бернардзінцаў, Спаса-Праабражэнскі праваслаўны сабор і сінагогу. Слонімская сінагога — найстарэйшы архітэктурны помнік у Слоніме. Яна была пабудавана ажно ў 1642 годзе. Гэта выдатны помнік архітэктуры барока з архітэктурна-кампазіцыйнымі прыёмамі, характэрнымі для манументальнага дойлідства Беларусі XVII–XVIII стагоддзяў і арыгінальным арнаментальна-дэкаратыўным вырашэннем інтэр'ера. У будучым плануецца тут зрабіць беларускі рэспубліканскі музей яўрэйскага мастацтва.

Слонім — горад шматканфесійны. На левым беразе канала Агінскага знаходзіцца і слонімская мячэць. Можна завітаць і сюды, дзе старшыня-імам слонімскай мусульманскай абшчыны Сулейман Байрашэўскі раскажа вам гісторыю мусульман на слонімскай зямлі, зробіць экскурсію па мячэці. Татары ў Слоніме з'явіліся ў XVI стагоддзі, а ў 1765 годзе тут ужо была мячэць. Цяпер пры мячэці існуе нядзельная мусульманская школа, арганізавана навучанне арабскай мове, гісторыі ісламу.

Азнаёміўшыся ў Слоніме з усімі канфесіямі і іх храмамі, цяпер абавязкова неабходна вярнуцца ў цэнтр горада і наведаць мясцовы краязнаўчы музей імя Язэпа Стаброўскага. Язэп Стаброўскі быў археолагам, краязнаўцам, гісторыкам, філосафам, вынаходнікам, заснавальнікам музея ў Слоніме ў 1929 годзе.

Дзякуючы сваім здольнасцям Язэп Стаброўскі атрымаў магчымасць закончыць Полацкі кадэцкі корпус, Маскоўскі археалагічны інстытут і Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце. Быў чле-

нам-карэспандэнтам Віленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага таварыства і сябрам Яраслаўскага археалагічнага таварыства.

Восенню 1924 года Язэп Стаброўскі арганізаваў у Слоніме выставу старадаўніх дакументаў і кніг, якія збіраў шмат гадоў. Выстава выклікала вялікую цікавасць у наведвальнікаў, асабліва сярод моладзі. Пасля яе закрыцця ўвесь сабраны археалагічны матэрыял і каштоўную калекцыю вырабаў каменнага веку Стаброўскі паклаў у аснову гісторыка-краязнаўчага музея, які расчыніў дзверы перад наведвальнікамі ў верасні 1929 года.

Сапраўдны росквіт музей Стаброўскага ў Слоніме набыў у канцы 1939 года і напачатку 40-х гадоў. Жыхары горада і раёна ахвотна наведвалі музей. Дзякуючы нашаму гісторыку і краязнаўцу ён узбагаціўся дарагімі калекцыямі — мінералагічнай і палеанталагічнай, выставамі па гісторыі і рэлігіі, карцінамі, нумізматыкай, этнаграфічным матэрыялам. Усё складалася даволі добра, але раптам — вайна. У чэрвені 1941 года гаспадарамі ў Слоніме ўжо былі немцы. І ўсё ж 2 кастрычніка 1942 года на Паркавай вуліцы, 42 у старажытным горадзе над Шчарай музей зноў адчыніў свае дзверы.

Язэп Стаброўскі пражыў 98 гадоў. Пасля сябе пакінуў музей у Слоніме. Экспазіцыя яго налічвае сёння 9 залаў. Экспанаты гістарычнага аддзела вас пазнаёмяць з гісторыяй краю ад сівой даўніны і па сённяшні дзень. Зацікавяць і экспанаты аддзела прыроды, якія распавядаюць аб насельніках ледніковай фаўны краю, яго ландшафце, сучасным жывёльным, раслінным свеце, карысных выкапнях. Сярод экспанатаў музея ёсць вельмі рэдкія і нават унікальныя. Да іх належаць старaславянскі ідал X стагоддзя, клад польска-літоўскіх манет XVI–XVIII стагоддзяў, калекцыя старадрукаў і дакументаў XVI–XIX стагоддзяў, царкоўных рэчаў XVIII–XIX стагоддзяў, стары драўляны водаправод XVIII стагоддзя, бронзавы бюст Напалеона, выкананы ў Парыжы ў 1885 годзе, Статут Вялікага Княства Літоўскага на польскай мове 1648 года, план Слоніма 1825 года, планы асобных маёнткаў XVIII–XIX стагоддзяў і іншыя.

Краязнаўчы музей у Слоніме праводзіць экскурсіі для дарослых і для дзяцей, тэматычныя заняткі са школьнікамі і дашкольнікамі, стварае штогод па 10 выстаў, якія прысвячаюцца знамянальным датам у жыцці Беларусі і горада, знакамітым землякам. Тут наладжваюцца розныя выставы мастакоў, майстроў народнай творчасці, цікавых экспанатаў з фондаў музея. Кожны год музей наведвае каля 30 тысяч чалавек.

З краязнаўчага музея вам трэба толькі перайсці вуліцу, і вы трапіце ў музей кнігі Слонімскай цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Якуба Коласа. Гэта першы музей кнігі ў Гродзенскай вобласці. Складаецца ён з дзвюх залаў. Адна зала прысвечана класіку беларускай літаратуры Якубу Коласу, імя якога носіць бібліятэка. Другая зала музея распавядае пра літаратурную Слонімшчыну.

Ёсць у Слоніме яшчэ «Музей горад Слонім і яго героі», мемарыяльны музей сярэдняй школы № 2, які прысвечаны героям Другой сусветнай вайны Кузьме Гнідашу і Клары Давыдзюк, народны музей імя Аляксандра

Жукоўскага сярэдняй школы № 4, у фондзе якога захоўваюцца звыш 6 тысяч унікальных экспанатаў. За адзін дзень вы нават і не зможаце абысці гэтыя музеі.

А яшчэ вы абавязкова павінны трапіць у Альбярцін — стары мікраараён горада Слоніма. Раней гэта быў пасёлак. А яшчэ раней — сядзіба маршалка Слонімскага павета Войцеха Пуслоўскага. Да сённяшніх дзён захаваўся яго мураваны палац, дзе некалі знаходзілася багатая калекцыя твораў мастацтва. Захаваліся стайня і пейзажны парк. Ды калі шчыра казаць, пасля наведвання Слоніма — ён будзе доўга ў вас стаяць перад вачыма, бо гэты горад не падобны на ўсе іншыя гарады Беларусі абсалютна нічым. Ён сам па сабе, ён вельмі цікавы, ён разнастайны сваімі гістарычнымі і культурнымі мясцінамі.

## ЛЕЎ САПЕГА І СЛОНІМ

У маім хатнім архіве захоўваецца копія акта Слонімскага раённага краязнаўчага музея ад 30 верасня 1944 года, у якім пералічаны разрабаваныя падчас Другой сусветнай вайны слонімскія каштоўнасці. Сярод пералічаных скарбаў, якія зніклі са слонімскага музея, пад нумарам адзін запісана шахматная дошка з дзвюх палавінак з чорнага дрэва і слановай касці гетмана Льва Сапегі (XVI ст.). Дзякаваць Богу, у музеі да сённяшніх дзён захоўваецца Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 года, перавыдадзены па-польску ў 1648 годзе. Гэта адзіны дакумент, які сёння нагадвае пра выдатнага дзяржаўнага і грамадскага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегу, які на працягу 47 гадоў быў старостам слонімскім і пакінуў значны след на зямлі слонімскай.

Тыя, хто цікавіцца гісторыяй Вялікага Княства Літоўскага, ведае, што ў лютым 1584 года Леў Сапега ў рангу пасла ВКЛ быў накіраваны ў Маскву да цара Івана IV, каб вырашыць шэраг памежных пытанняў і абмяняцца ваеннапалоннымі. Аднак пасольства часова затрымалі ў Мажайску, бо якраз у сакавіку 1584 года памёр Іван Грозны. Тым не менш нашы паслы дабраліся да рускага цара Фёдара Іванавіча і былі ім прынятыя. Перамовы адбыліся на належным узроўні, падчас якіх было падпісана перамір’е, а Льву Сапегу ўдалося вызваліць каля 1000 ліцвінаў. За ўдалую дыпламатычную місію Леў Сапега 2 лютага 1585 года атрымаў пасаду падканцлера Вялікага Княства Літоўскага, а 20 ліпеня 1586 года атрымаў пажыццёва Слонімскае староства. Сюды ўвайшлі двары і маёнткі Слонімскага павета — Авішчы (Вітараж), Альба (Косаў), Востраў, Бароўка, Бацікі, Белавіца, Бліжня, Була, Бусячы, Вязавец (Вензавец), Дзярэўна, Езерніца (Азярніца), Здзетэль, Здзітаў Стары, Ількавічы, Ладэніца, Ласосна, Мерачоўшчызна, Палонск, Пярвалкі, Радванае, Ружаны, Сідараўшчызна, Шапякі, Явар. Яшчэ да 1611 года Леў Сапега атрымаў у пажыццёвую спадчыну Слонімскае лясніцтва, адзін двор па смерці Эразма Баркоўскага (у 1599 годзе), а таксама прывілей вялікага князя, паводле якога яго жонцы

давалася права на трыманне Рэтаўскага і Блудзенскага старостваў. А горад Слонім стаў галоўнай рэзідэнцыяй канцлера. Фінансавыя магчымасці Льва Сапегі хутка пачалі расці, таму ён мог не толькі сам набываць мноства двароў, але і даваць у пазыку наяўныя грошы. Напрыклад, мінскі ваявода Ян Пац 27 чэрвеня 1600 года выдаў яму пазыковы акт на 625 коп грошай. Зыходзячы з ускосных сведчанняў, Леў Сапега меў шмат даўжнікоў. Аднак асноўныя фінансавыя выдаткі ён выкарыстоўваў для набыцця ўсё новых і новых двароў (Лазутка Станіслаў. Леў Сапега (1557–1633). Магілёў, 2004. С. 65).

Але Леў Сапега не толькі набываў для сябе новыя ўладанні, ён хутка стаў сапраўдным магнатам і быў даволі шчырым чалавекам. Ён пачаў дарыць некаторыя свае ўладанні сваякам і сябрам. Кузіне Раіне Сапяжанцы і яе мужу Грыгалю Трызне Сапега падараваў фальварак Булы ў Слонімскім старостве. А вёску Бароўка, што знаходзілася ў Слонімскім старостве, ахвяраваў слонімскаму маршалку Аўрааму Мялешку і яго жонцы Багдане…

Леў Сапега любіў Слонім. Пры ім горад над Шчарай стаў культурным, прамысловым і палітычным месцам. Побач з замкам на беразе Шчары канцлер Сапега ўзвёў мураваны палац, дзе са студзеня 1597 года праходзілі генеральныя сеймікі Вялікага Княства Літоўскага. Сюды прыязджалі пасланцы з Віленскага, Наваградскага, Менскага, Смаленскага, Чарнігаўскага і іншых ваяводстваў. Гэтыя сеймікі адбываліся ў Слоніме ажно да 1685 года, калі ўжо і не было Льва Сапегі.

У слонімскім замку знаходзіліся і добрая бібліятэка, архіў, творы мастацтва. Леў Сапега добраўпарадкаваў у Слоніме вуліцы, масты, дарогі, пабудаваў шмат аўстэрыяў. У 1595 годзе слонімскі староста аднавіў (спалілі крымскія татары ў 1506 годзе) касцёл Святога Андрэя. Пазней ён быў перабудаваны, а сучасны выгляд набыў у 1775 годзе. Сярод вялікай колькасці сапегаўскіх фундацый (канцлер на тэрыторыі ВКЛ збудаваў 25 храмаў) касцёл Святога Андрэя ў Слоніме да сённяшніх дзён выдзяляецца сваім адметным архітэктурным стылем. У часы Льва Сапегі касцёл Святога Андрэя ў Слоніме ператвараецца ў адзін з цэнтраў рэлігійнага жыцця не толькі горада, але і ўсяго княства. На тэалагічныя дыспуты сюды прыязджаюць Сымон Будны і Пётр Скарга.

Акрамя касцёла Святога Андрэя чальцы сапегаўскай дынастыі ўзвялі ў Слоніме касцёл бернардзінцаў, малітоўню для рэгулярных лютэранскіх канонікаў. Акрамя гэтага Сапегі спрыялі распаўсюджванню ў Слоніме школаў ды калегіумаў, якія дзейнічалі пры гарадскіх касцёлах і цэрквах. У Слоніме часоў Льва Сапегі, як піша Валянцін Дубатоўка ў сваёй кнізе «Архіпелаг Сапегаў», існавала «адна з самых вялікіх у ВКЛ друкарня, дзе, як мяркуюць некаторыя даследчыкі, набіраўся вядомы на ўсю Еўропу Статут Вялікага княства Літоўскага» (Дубатоўка Валянцін. Архіпелаг Сапегаў. Мінск, 2002. С. 117).

Леў Сапега ў Слоніме адкрываў таксама новыя кірмашы, прамысловыя мануфактуры, будаваў адміністрацыйныя ды гаспадарчыя будынкі. Дарэ-

чы, у сапегаўскіх тастаментах Слонім і аднайменнае староства падаюцца як родавая маёмасць.

Слонім і яго жыхары і сёння ганарацца сваім гербам, распрацаваным і ўхваленым па хадайніцтву Льва Сапегі ў 1561 годзе: на блакітным полі залаты леў з гербам «Ліс» у лапах. А таксама і знакамітым Жыровіцкім Евангеллем з уласнаручным фундушавым запісам канцлера.

Пра канцлера Вялікага Княства Літоўскага Льва Сапегу сёння нагадвае ў Слоніме плошча перад касцёлам Святога Андрэя, якая носіць яго імя. А слонімскі скульптар лаўрэат Дзяржаўных прэмій СССР і Беларусі Іван Міско працуе над помнікам Льву Сапегу, які ён плануе ўстанавіць у Слоніме. Толькі калі гэта будзе — невядома.

## ЛЁС СТАРАЖЫТНЫХ СЛОНІМСКІХ СКАРБАЎ

Доктар філалагічных навук Адам Мальдзіс меў рацыю, калі сказаў, што «Беларусь з'яўляецца адзінай краінай у свеце, краінай-выключэннем, дзе нацыянальных культурных скарбаў, матэрыяльных і духоўных, на радзіме меней, чым за яе межамі. Прычынай таму ваенныя навалы, што хвалямі пракочваліся праз нашу зямлю, і драпежніцкая палітыка суседзяў» (зборнік «100 пытанняў з гісторыі Беларусі». Мінск, 1993. С. 73). У гэтым упэўніваўся і я асабіста, калі бачыў, напрыклад, старадаўнія слонімскія зборы ў музеях Польшчы, Швецыі, Літвы, Расіі. У адным з музеяў Вроцлава ўдалося мне знайсці слонімскую паштовую карэту, у Слупску ўбачыў слонімскія гадзіннікі, а ў шведскім горадзе Арэбра — фарфор і фаянс са Слоніма.

Сёння цяжка і нават немагчыма пералічыць усе тыя нацыянальныя багацці, што стагоддзямі вывозіліся толькі, прыкладам, са слонімскай зямлі ў блізкія і далёкія краіны свету. Найбольш слонімскіх скарбаў знікла падчас розных войнаў, але найбольш — у часе Першай і Другой сусветнай. На захад і ўсход захопніцкім шляхам вывозілі са Слонімшчыны каштоўныя кнігі, рукапісы, карціны, фотаздымкі, дываны, габелены, музычныя інструменты, крыжы і абразы, манеты, медалі, зброю, фарфор, фаянс, розныя вырабы з дрэва, золата, бронзы і срэбра. Шмат разоў рабаваліся слонімскі музей, архівы, Жыровіцкая семінарыя, палац Слізняў у вёсцы Дзявяткавічы, тэатр Агінскага ў Слоніме і палац Пуслоўскіх у Альбярціне. Рабаваліся таксама праваслаўныя, каталіцкія і ўніяцкія храмы, мячэці, сінагогі і цэрквы іншых канфесій зямлі слонімскай.

У красавіку 1613 года пачалося будаўніцтва Жыровіцкага ўніяцкага манастыра і царквы, дзе знаходзіўся цудатворны абраз Жыровіцкай Багародзіцы. Ствараў гэты найважнейшы рэлігійны асяродак Язафат Кунцэвіч, а яго фундатарамі былі Ян Мялешка, Даніла Солтан і Рыгор Трызна.

Жыровіцкі абраз прыцягваў сотні тысяч пілігрымаў. А пасля далучэння Беларусі да Расіі Жыровічы адышлі да праваслаўнай царквы. Але на працягу чатырох стагоддзяў Жыровічы рабавалі чужынцы з захаду і з усходу, з поўдня і з поўначы. А рабаваць было што, бо ў манастыры знаходзілася вялікая бібліятэка, архіў і свая друкарня. А ў 1842 годзе біскуп Язэп Сямашка пачаў у Жыровіцкім манастыры спальваць уніяцкія стараддрукі. Напачатку кнігамі распальвалі печы, а пасля яны гарэлі ў вогнішчы на пляцы. На працягу 10 гадоў паводле загаду Сямашкі спалілі некалькі тысяч беларускіх уніяцкіх стараддрукаў. А тыя, што не згарэлі, укралі і вывезлі ў іншыя дзяржавы.

У архіве Санкт-Пецярбургскага аддзялення Інстытута гісторыі Расійскай акадэміі навук сёння шмат цікавых дакументаў, якія маюць непасрэднае дачыненне да гісторыі Жыровічаў. У фондзе былога прафесара Жыровіцкай духоўнай семінарыі Пракопа Нілавіча Дабрахотава (Максімава) значацца 2492 адзінкі захавання збораў на польскай, лацінскай і старабеларускай мовах. Гэтыя сабраныя рарытэты Дабрахотаў вывез з Жыровічаў яшчэ ў 1845 годзе. Найперш гэта дэкрэт Слонімскага земскага суда па справе паміж Іванам Мялешкам і Данілам Солтанам за Жыровічы, 1609 года; выпіс са слонімскіх земскіх кніг запісу Івана Аляксандравіча Солтана аб перадачы маёнтка Жыровічы сваёй жонцы, 20.09.1572 года; пасланне кіеўскага ўніяцкага мітрапаліта Антонія Сялявы да Жыровіцкага суперыёра Канстанціна Вітапольскага, 23.06.1653 года; спіс вучняў Жыровіцкай школы XVIII стагоддзя; зборнік гістарычных звестак пра Жыровіцкі манастыр з апавяданняў і спраў старых людзей, што заслугоўваюць даверу, склаў Антоній Завадскі, 1713 год; кніга найдаўнейшых цудаў абраза Жыровіцкай Маці Божай, XVII стагоддзя; акт продажу Данілам Солтанам маёнтка Жыровічы з прысёлкамі літоўскаму канцлеру Льву Сапегу, 06.07.1621; вопісы Жыровіцкага манастыра — 1753, 1778, 1785, 1800 года і іншыя. Там захоўваюцца таксама пратаколы Жыровіцкай генеральнай кангрэгацыі айцоў базыльянаў, 1792 года; нумары штодзённага часопіса суперыёраў Жыровіцкага манастыра, 1772–1786 гадоў; заўвагі Паўла Дабрахотава з гісторыі брацтва пры Жыровіцкім абразе Маці Божай, 1837–1863 гадоў, і дзясяткі іншых каштоўнасцей.

У архіве Санкт-Пецярбургскага аддзялення захоўваюцца і копіі дакументаў пра мястэчка Жыровічы, зборнік гістарычных звестак пра Жыровічы, 1713 года, апісанне Жыровіцкага манастыра ў 1713 годзе, панегірык шведскаму каралю Густаву Адольфу на лацінскай мове, складзены ў Жыровічах, а таксама зборнікі Антонія Завадскага, дзе маецца шмат звестак пра Жыровічы і суседні з Жыровічамі Быцень.

Беларускія літаратуразнаўцы і гісторыкі Адам Мальдзіс і Язэп Янушкевіч выявілі ў аддзеле рукапісаў фонду базыльянскіх манастыроў навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Украіны ў Львове матэрыялы на польскай мове пра апісанне цудаў у Жыровічах 1758 года, апісанне цудаў у манастырскай царкве ў Жыровічах 1620–1756 гадоў. А ў Нацыянальным дзяржаўным гістарычным архіве ў Львове гэтымі навукоўцамі знойдзены звесткі пра гісторыю царквы ў Слоніме, выяўлены

кніга ўліку прыхаджан, якія спавядаліся ў царкве ў Жыровічах у 1791–1800 гадах, звесткі пра маёмасць манастыроў у Быцені і ў Жыровічах, матэрыялы базыльянскага манастыра ў Жыровічах, справаздача аб праверцы бібліятэкі Жыровіцкага вучылішча ў XIX стагоддзі, справа аб папаўненні бібліятэкі ў Жыровічах (XIX ст.) і справа пра ўніяцкія кнігі, канфіскаваныя ў Жыровічах.

Акрамя як у Жыровічах, рабаваліся храмы розных канфесій і ў Слоніме. Пасля паўстання 1863 года царская ўлада пачала закрываць каталіцкія касцёлы. У снежні 1864 года расфармавалі бібліятэку касцёла бернардзінцаў у Слоніме. Рукапісы і многія кнігі касцёла апынуліся ў Віленскай цэнтральнай публічнай бібліятэцы. А касцельная бібліятэка ў Слоніме тады складалася з 2774 тамоў, пераважна старадрукаў. Поўны каталог кніг за 1798 і 1845 гады на сённяшні дзень захоўваецца ў бібліятэцы Віленскага ўніверсітэта. А ў Кракаве ў архіве айцоў канонікаў рэгулярных лютэранскіх захоўваецца рукапісны (без сігнатуры) каталог бібліятэкі слонімскага кляштара канонікаў лютэранскіх за 1705 год.

Вывезлі ў Львоў і ў Ватыкан увесь уніяцкі архіў з Альбярціна. Сёння ў бібліятэцы Russicuma ў Італіі можна знайсці шмат дакументаў, кніг, фотаздымкаў, поўны збор часопіса «Да Злучэньня» і шэраг іншых матэрыялаў, якія расказваюць пра цэнтр уніяцкага руху ў перыяд міжваеннага дваццаціголдзя (1921–1939) у Альбярціне.

У сярэдзіне XIX стагоддзя ў вёсцы Дзявяткавічы на Слонімшчыне быў пабудаваны трохпавярховы палац прадстаўнікоў беларускага шляхецкага роду Слізняў у стылі рэтраготыка. На самы вялікі жаль, да сённяшняга часу палац Слізняў не збярогся, зніклі з яго ў невядомых кірунках тысячы каштоўнасцей, якія збіраліся Слізнямі на працягу трох стагоддзяў. Са зброевага пакоя палаца знік цэлы арсенал старадаўняй зброі. Са шкляных шафаў прапалі каралеўскія прывілеі, тастаменты, інвентар, сямейная карэспандэнцыя і тысячы розных дакументаў, звязаных з жыццём і дзейнасцю Мялешкаў і Слізняў. Расцягнулі бібліятэку палаца, дзе знаходзіліся рэдкія старадаўнія выданні, хронікі, радзівілаўская Біблія, кнігі, выдадзеныя ў Рыме, Антверпене, Жэневе, творы французскіх класікаў, паэзія Вергілія і Гарацыя, слоўнікі і энцыклапедыі.

Невядома куды знікла мэбля антычных часоў, партрэты Слізняў і Тышкевічаў, фамільнае сталовае срэбра, фарфор, шкло, персідскія дываны. У жоўтым салоне на адной са сцен палаца вісела вялікае палатно работы Януара Сухадольскага «Напалоханыя коні перад навальніцаю»… Дзе ўсё гэта цяпер?..

Апусцеў у 1914–1944 гадах і палац Пуслоўскіх у Альбярціне. Рабавалі яго бальшавікі і немцы. Сёе-тое Пуслоўскім удалося вывезці ў Вялікабрытанію. Але большая частка альбярцінскіх каштоўнасцей (абсталяванне прадпрыемстваў, калекцыі карцін, бронзавай і мармуровай скульптуры, гравюр і габеленаў, кнігі) паехалі ў Германію і Расію.

Газета «Тыдзень Польскі», якая выдаецца ў Лондане, змясціла ў 2004 годзе пад рубрыкай «На Крэсах» артыкул «Альбярцін» Р. Міроўскага, дзе падрабязна апісваецца сядзіба Пуслоўскіх у Альбярціне каля Слоніма.

Аўтар прыводзіць звесткі пра музейныя, архіўныя і бібліятэчныя каштоўнасці, якія захоўваліся ў мясцовым палацы. «Калекцыя карцін з Альбярціна магла б з поспехам экспанавацца ў многіх еўрапейскіх галерэях», — сцвярджае аўтар. Тут знаходзіліся эскізы «Галоўкі» Леанарда да Вінчы, «Кентаўра» Рубенса, дзве карціны Пітэра Брэйгеля, некалькі венецыянскіх партрэтаў. З польскіх мастакоў называюцца Шыман Чаховіч, Юліуш Косак, Францішак Жмурка. Апрача таго, у палацы знаходзіліся сямейныя партрэты, выявы каралёў і гетманаў Вялікага Княства Літоўскага. На сценах размяшчалася вялікая калекцыя саксонскага і мясцовага фарфору. Бібліятэка магла ганарыцца польскімі і італьянскімі выданнямі XVII стагоддзя, энцыклапедыямі, атласамі і геаграфічнымі мапамі (картамі). У архіве захоўваліся дакументы на пергаміне (некаторыя нават з XV стагоддзя).

Паводле Р. Міроўскага, усе зборы ў час Першай сусветнай вайны, калі пачалося нямецкае наступленне, вывезлі з Альбярціна ў Маскву. На гэтым іх сляды губляюцца.

Згубіліся сляды і каштоўнасцей, вывезеных з палаца Льва Сапегі, а пасля з тэатра Міхала Казіміра Агінскага са Слоніма. Вывозіліся найперш музычныя інструменты, карціны, нотныя сшыткі, кнігі, касцюмы спачатку ў Польшчу, а пасля ў Расію.

Рабаваўся Слонім і ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Міхась Скобла ў сваёй кнізе «Дзярэчынскі дыярыюш» піша: «У сьпісе сканфіскаванай зброі, якую перад адпраўкай у Пецярбург часова зьберагалі ў памяшканьні Слонімскага земскага суда, знаходзім дваццаць адно найменьне: штурмакі турэцкія й ангельскія, стрэльбы звычайныя й духавыя, пісталеты ангельскія й шаблі вугорскія, меч абасечны ў скураных похвах і нават спраўны лук» (Міхась Скобла. Дзярэчынскі дыярыюш. Мінск, 1999. С. 74).

Знікалі каштоўнасці са Слоніма і ў XX стагоддзі. Але былі ў нашым старажытным горадзе людзі, якія іх і зберагалі ад рабаўнікоў. Гэта краязнавец, гісторык і археолаг Язэп Стаброўскі. Дзякуючы яму, у верасні 1929 года на аснове ўласных археалагічных, нумізматычных, этнаграфічных і бібліяфільскіх калекцый Язэп Стаброўскі адкрыў у Слоніме краязнаўчы музей. У музеі налічваліся сотні найкаштоўнейшых экспанатаў, якія Язэп Стаброўскі збіраў усё жыццё. А пасля іх, якія змог, аберагаў ад польскіх, нямецкіх і савецкіх рабаўнікоў.

На жаль, большая частка каштоўных экспанатаў, сабраных Язэпам Стаброўскім, бясследна знікла. У аўтара гэтых радкоў у хатнім архіве захоўваецца акт ад 30 верасня 1944 года, у якім пералічаны разрабаваныя падчас нямецка-фашысцкай акупацыі каштоўнасці. На працягу чатырох гадоў са слонімскага музея зніклі:

1. Шахматная дошка з дзвюх палавінак з чорнага дрэва і слановай косці гетмана Льва Сапегі (XVI ст.).

2. Англійскі гадзіннікавы механізм без аправы (XVII ст.).

3. Нападлогавы гадзіннік XVIII ст.

4. Вялікі круглы срэбны англійскі гадзіннік у трайным срэбным кувверце са срэбным ланцужком (XVIII ст.).

5. Бронзавы медаль з выяваю Хрыста.
6. Статуэтка з дрэва вялебнага Ніла Сорскага.
7. Пудзілы птушак і звяроў.
8. Калекцыі манет розных дзяржаў з пачатку першага стагоддзя. У тым ліку паўкілаграма срэбных манет.
9. Беларускія народныя касцюмы, бялізна, дываны, паясы, абсталяванне беларускай хаткі і г. д.
10. Серыя срэбных, бронзавых і пазалочаных значкоў, медалёў, крыжыкаў, ордэнаў розных дзяржаў.
11. Сем партрэтаў і дваццаць тры карціны (масла) на палатне ў пазалочаных рамах галандскіх, рускіх і польскіх мастакоў XVI стагоддзя.
12. 514 кніг старых выданняў на рускай, польскай, лацінскай, французскай, беларускай, шведскай, нямецкай і іншых мовах.
13. Сімфаньета — музычная скрынка з жалезнымі пласцінкамі IX стагоддзя.
14. Старадаўні фарфоравы і срэбны посуд і крыштальныя келіхі XVII стагоддзя, якімі карысталіся царскія, княскія, графскія і іншыя вяльможы.
15. Камплект грамафонных пласцінак з дакладам Сталіна аб праекце Канстытуцыі СССР.
16. Срэбны медаль-манета 138 года да нашай эры з надпісам на старажытна-яўрэйскай мове часоў Сімона Макавея.
17. Рознакаляровы пояс з конскіх валасоў, які выткаў на працягу шасці гадоў палітасуджаны польскай турмы М. Галаўко.
18. Бронзавы абразок з выяваю распятага Хрыста (XVI ст.).
19. 18 штук вырабаў з мастацкай фініфці растоўскай работы Назарава.
20. Каўказскі «кубінскі» дыван памерам 4 х 1,3 м і вагою 24 кг.
21. Старадаўнія скрыпка і патэфон.
22. 200 пласцінак з галасамі вядомых рускіх, італьянскіх, французскіх, польскіх, яўрэйскіх і іншых спевакоў.
23. 372 кнігі рускіх класікаў і акадэмічныя выданні ў скураных пераплётах.
24. Навуковыя працы Язэпа Стаброўскага: калекцыя фотаздымкаў курганоў, альбом з малюнкамі (каля 3000 штук), рукапісныя сшыткі па археалогіі, якія пісаліся і збіраліся на працягу 52 гадоў.
25. Венскі мікраскоп Рэйхерта з двума аб'ектывамі ў паліраванай скрынцы з чырвонага дрэва і з калекцыяй прэпаратаў да яго.
26. Фотаапарат з чырвонага дрэва з аб'ектывам, імгненным затворам, памерам 18 × 24 см, у футляры.
27. Камплект інструментаў цяслярскіх і сталярскіх.
28. 7 венскіх крэслаў з гнутага ясеню.
29. Канапа двайная са сценкамі.
30. Столік ясянёвы паліраваны.
31. Дубовы пісьмовы стол з дзвюма тумбачкамі.
32. 5 шкляных шафаў у ясянёвых аправах.
33. 14 княскіх і графскіх пячатак з XVII ст.
34. Амулет егіпецкі.

35. Пісьмовы старадаўні прыбор з белага мармуру з бронзаю.
36. Старадаўняя настольная лямпа з фарфоравым абажурам.

Акрамя вышэйпералічаных каштоўнасцей, немцы вывезлі 180 карцін слонімскага мастака Антона Карніцкага, разрабавалі фотамайстэрню Юзафа Шыманчыка, хату-музей Гальяша Леўчыка. З фотамайстэрні зніклі сотні негатываў і рэдкіх фотаздымкаў. З хаткі Леўчыка прапалі каштоўныя газеты, часопісы, кнігі, фотаздымкі, пісьмы, паштоўкі, рэлігійныя выданні, карціны беларускіх мастакоў, музычныя інструменты. Ды і саму гістарычную хатку знішчылі ў 1960-х гадах. Вялікая слонімская калекцыя старажытнасцей Гальяша Леўчыка бясследна прапала і з варшаўскай кватэры, якая знаходзілася ў доме № 50 на Кашыковай вуліцы.

Паціху знікалі каштоўнасці са Слоніма і ў пасляваенны час. Вось адзін невялікі прыклад, звязаны ўсё з тым жа Язэпам Стаброўскім.

…У 1812 годзе, калі адступала французская армія, у дом бабулі Стаброўскага забег паранены французскі афіцэр і папрасіў дапамогі. У знак падзякі ён падараваў мапу заходніх раёнаў Расійскай імперыі з пазначанымі мясцінамі, дзе французы захавалі нарабаваныя каштоўнасці. На жаль, да раніцы вайсковец напалеонаўскай арміі не дажыў. Стаброўскія яго пахавалі, а мапа засталася ім. Гэтую мапу бабуля Стаброўскага перадала сваёй дачцэ, а тая перад смерцю — свайму сыну Язэпу. Язэп Стаброўскі вельмі яе шанаваў і зберагаў.

Аднойчы ў 60-х гадах мінулага стагоддзя музей у Слоніме наведаў нехта Л. Аляксееў — супрацоўнік Інстытута археалогіі АН СССР. І Стаброўскі паказаў яму гэтую сямейную рэліквію. Аляксееву яна адразу кінулася ў вочы. Але Стаброўскі мапу нікому не даваў. Тады Аляксееў пачаў наведвацца ў Слонім часцей, пакуль не выманіў у Язэпа Язэпавіча на невялікі тэрмін гэтую каштоўнасць нібыта для навуковых даследаванняў. З той пары няма ні Аляксеева, ні мапы. Стаброўскі некалькі разоў пісаў у Інстытут археалогіі, тэлефанаваў, але нічога не дабіўся — мапа знікла назаўсёды. І такіх прыкладаў можна прывесці вельмі шмат.

Сёння таксама са Слонімшчыны вывозяцца каштоўнасці, найперш з прыватных хатніх архіваў і калекцый. Людзі вязуць іх у Польшчу, Германію і ў Расію. Там прадаюць і дамоў вяртаюцца з грашыма. А грошы ідуць на жыццё ці на вучобу дзяцей і ўнукаў. Таму цяжка цяпер паверыць, што некалі нашая Бацькаўшчына і яе народ стануць жыць заможна, а ўкрадзеныя і вывезеныя ва ўсе канцы свету каштоўнасці пачнуць вяртацца ў Беларусь, і ў прыватнасці на Слонімшчыну.

# МАНЕТНЫЯ СКАРБЫ

На тэрыторыі нашай рэспублікі за апошнія 160 гадоў было зарэгістравана каля паўтары тысячы розных знойдзеных скарбаў. А горад Слонім, як сказаў аднойчы доктар гістарычных навук, прафесар Валянцін Рабцэвіч (1934–2008), дык проста знаходзіцца на манетных скарбах розных стагоддзяў.

Слонімская зямля сапраўды тоіць у сабе шмат скарбаў, найперш манетных. Там зберагаюцца і былі знойдзены не толькі грашовыя знакі розных стагоддзяў нашай Бацькаўшчыны, але і манеты з усяго свету: ад чэшскіх грошаў і венгерскіх дынарыяў да турэцкіх мангыраў і лівонскіх манет. Толькі ў гады Другой сусветнай вайны са Слонімскага краязнаўчага музея бясследна зніклі срэбны медаль-манета 138 года да нараджэння Хрыстова з надпісам на старажытнаяўрэйскай мове часоў Сімона Макавея, а таксама калекцыя манет розных дзяржаў з пачатку І стагоддзя.

Сёння ў Слонімскім краязнаўчым музеі, па словах супрацоўніцы музея Ірыны Шпырковай, у нумізматычнай калекцыі музея знаходзіцца каля 5 тысяч грашовых адзінак, з якіх 4230 — гэта скарб польскіх і літоўскіх манет XVI–XVIII стагоддзяў. Ёсць у музеі манеты Расіі, Швецыі, Даніі і іншых дзяржаў.

У мінулым стагоддзі падчас раскопак курганнага могільніка ў вёсцы Орлавічы былі знойдзены лівонскія манеты XVI стагоддзя з сярэбранага сплаву. Як расказваў слонімскі гісторык Ігар Падгарадзецкі (цяпер жыве ў Германіі), манетныя скарбы і асобныя манеты вельмі часта слонімцы знаходзілі і знаходзяць на сваіх агародах, ці ў полі і ў лесе, ці падчас рамонту розных збудаванняў і земляробчых работ. Некаторыя шчасліўчыкі гэтыя манеты захоўваюць у сваіх хатніх куфэрках, а іншыя здаюць іх у музей ці прадаюць нумізматам. Па словах Ігара Падгарадзецкага, аднойчы ў 1970-х гадах у Шчары чалавек дзесяць гулялі ў вадзяного «бэрака». Раптам хлопчыкі пачулі крык жанчыны, якая паласкала на мосціку бялізну: «Хлопчыкі, дапамажыце!» Аказалася, што ў ваду ўпаў ключ ад яе хатніх дзвярэй. Хлопцы пачалі даваць нырца і шукаць ключ. Але замест ключа адзін з падлеткаў выцягнуў невялікі мяшэчак. Хлопчык зубамі разарваў пакет, і ў ваду з пакета пасыпаліся манеты. Усе школьнікі імгненна акунуліся ў ваду і пачалі шукаць манеты. Праз хвілін дваццаць хлопцы выйшлі на бераг і пачалі падлічваць свой «улоў». Пазней школьнікі даведаліся, што гэта былі галандскія залатыя дукаты XVII стагоддзя. Але вось як яны трапілі ў раку Шчару, да сённяшніх дзён застаецца загадкай.

У 1954 годзе бібліятэкар Аляксей Абрамчык з вёскі Вішава Слонімскага раёна ехаў на веласіпедзе ў краму ў вёску Баяры. Па дарозе з веласіпеда зляцеў ланцуг. Спыніўшыся на краі дарогі, Аляксей пачаў насаджваць ланцуг. Аж бачыць: проста пад пярэднім колам веласіпеда валяецца некалькі старых манет. Капнуўшы зверху нагою, вясковец натрапіў на гліняныя чарапкі і знайшоў яшчэ некалькі дзясяткаў манет. У гэты дзень Аляксей Абрамчык да вясковай крамы так і не даехаў. Ён да самага вечара

калупаўся ў зямлі і назбіраў цэлы скарб — 1700 манет. Па памеры 10 манет былі большыя за астатнія. Гэтыя манеты і штук 30 іншых ён падараваў мясцоваму начальству і проста вяскоўцам. Астатнія забрала жанчына, якая прыехала з Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея. Вясковец нават сабе не пакінуў ніводнай манеткі. Праз пэўны час Аляксей Абрамчык напісаў пісьмо ў музей і папрасіў узнагароды. Па пошце яму прыслалі на той час усяго 20 рублёў.

У траўні 1969 года «Гродзенская праўда» надрукавала невялікі артыкул пра тое, як шасцікласнік Дзераўноўскай сярэдняй школы Слонімскага раёна Вячаслаў Левяроўскі знайшоў сярэбраны скарб на сваім агародзе. Хлопчык капаў зямлю пад градку. Раптам рыдлёўка стукнулася аб нешта цвёрдае. Вячаслаў падумаў, што гэта камень, і вырашыў выкапаць яго і выкінуць з агарода. Але цвёрдым прадметам аказалася не што іншае, як гаршчок-скарбонка, у якім нешта звінела і перасыпалася. Хлопчык дастаў скарбонку, адбіў дно, і на зямлю пасыпаліся сярэбраныя манеты — 517 штук, яны былі чаканены ў XVII — пачатку XVIII ст. Амаль увесь знойдзены скарб манет хлопчык перадаў у музей Дзераўноўскай сярэдняй школы. Але хутка гэты скарб дырэктар школы Васіль Вараб’ёў перадаў у Гродзенскі дзяржаўны гісторыка-археалагічны музей. Праўда, не ўсе, а толькі капілку і 247 манет. Астатнія манеты дзесьці зніклі, магчыма, іх вяскоўцам раздаў сам Вячаслаў Левяроўскі, які іх знайшоў. За перададзеныя манеты школьны музей у Дзераўной атрымаў падзяку з гродзенскага музея. Гэтая падзяка і цяпер захоўваецца ў школьным музеі.

Падобных прыкладаў, якія распавядаюць пра слонімцаў-шчасліўчыкаў, можна прывесці шмат. Адным траплялі цэлыя скарбы манет, іншым — па адной-дзве. Сёння, згодна са статыстычным апытаннем, пошукі і знаходкі скарбаў займаюць у свеце другое месца ў спісе сапраўдных прыгод пасля сплаву па горнай рацэ.

## ВУЛІЦЫ СЛОНІМА

Слонім шмат перацярпеў на сваім вяку. Знішчаўся, гарэў і аднаўляўся. Адбудоўваў яго народ, які любіў сваю зямлю і свой горад, а таксама яго гісторыю. Так было заўсёды і так будзе. Бо ў тым родным краі, дзе нарадзіўся, дзе вучыўся, дзе прайшлі маленства і юнацтва, дзе кожны камень дарагі, кожная вуліца, завулак, помнік, шыльда, — жылі нашы дзяды і прадзеды, якія не менш за нас любілі і бераглі свой куток. І тым больш западае ў сэрца ўсё тое, што звязана наогул з гісторыяй Бацькаўшчыны. Ды і гісторыя Слоніма, дзе мы жывём, ёсць паўсюдна, яна побач: у помніках, у музеях, у назвах вуліц, завулкаў і плошчаў і, нарэшце, у нас з вамі, у нашых сэрцах. І ад таго, як мы адносімся да мінулага, залежыць, якое стаўленне да яго будзе ў нашых дзяцей, унукаў і праўнукаў. Без мінулага, як вядома, няма будучыні. Пра гісторыю нашага старажытнага горада можна пісаць бясконца. Пра адны толькі вуліцы Слоніма, пра іх

з’яўленне, знішчэнне, перайменаванне і адраджэнне можна выдаць добрую манаграфію. Бо вуліцы Слоніма — гэта ягонае аблічча. Яны павінны і адпавядаць свайму часу, і захоўваць гістарычнае аблічча горада. На вялікі жаль, сёння не адпавядаюць часу многія назвы вуліц Слоніма, якія абыякава пераймяноўваліся, а таксама мянялі свой выгляд. Да сённяшняга часу няма ў старажытным горадзе над Шчарай вуліцы, якая б стала візітнай карткай Слоніма, як, напрыклад, Брадвей, Пікадзілі, Неўскі праспект, Арбат і г. д. Многія могуць падумаць: ну і параўнаў — Брадвей з Першамайскай у Слоніме. А чаму б і не? Няхай бы і ў нас быў свой маленькі Арбат у цэнтры горада — з фантанамі, прыгожымі чыстымі кафэ, барамі, рэстаранамі, з культурным абслугоўваннем, з музыкай Міхала Агінскага. І не гойсалі б машыны праз гістарычны цэнтр горада, а аб’язджалі б яго. Інакш мы хутка знішчым і тое, што пакуль уцалела і захавалася ад войнаў і акупантаў. Быў час, калі творчая інтэлігенцыя Слонімшчыны моцна спрачалася наконт перайменавання гістарычных назваў нашых вуліц. Некаторыя назвы вуліц у канцы 1990-х гадоў удалося выратаваць ад мясцовага манкуртства. Вуліцы Ружанскай вярнулі яе гістарычную назву пасля Патрыса Лумумбы — афрыканскага негра. Вуліца Энгельса стала, як і 70 гадоў таму, называцца Опернай. Плошчы Горкага надалі імя славутага слонімскага старосты Льва Сапегі. Першы праспект у Слоніме стаў называцца праспектам Незалежнасці. А новая вуліца побач з гэтым праспектам стала насіць імя Францішка Скарыны. Хоць і не поўнасцю, але ўдалося вярнуць старую назву Студэнцкай вуліцы (палова ранейшай Студэнцкай вуліцы цяпер носіць імя Хлюпіна — палкоўніка, які ў гады вайны загінуў у танку каля Слоніма). Але многіх гістарычных назваў вуліц Слоніма вярнуць так і не ўдалося. Найперш тых, якія ў 1950–1980-х гадах мясцовымі камуністамі па-нахабнаму пераймяноўваліся. З’явіліся плошча Леніна, вуліцы К. Маркса, М. Тарэза, Войкава, Камуністычная, Савецкая, Камсамольская і г. д. Вось якія назвы плошчаў, вуліц і завулкаў (паводле гісторыка Васіля Супруна) былі ў Слоніме ў 1933 годзе.

Вуліцы: Абозная, бульвар Агінскага, Агародная, Акцызная, Андрэеўская, Альбярцінская, Баранавіцкая, Берагавая, Бернардзінская, Бэма, Бэрка Ёселевіча, Глухая, Гранічная, Грыбаўская, Гандлёвая, пляц Вольнасці, Віленская, Выганавая, Вясёлая, Доўгая, Жабінка, Жвіркі і Вігуры, Жыровіцкая, Жыромская, Загарадная, Замкавая, Зялёная, Касцельная, Касцюшкі, 11-га Лістапада, пляц Сапегі, Каляёвая, Магістрацкая, Манапольная, 3-га Мая, Маставая, Міцкевіча, Нарушэвіча, Оперная, Палявая, Папярэчная, Князя Панятоўскага, Правіянтовая, Пераскок, Маршалка Пілсудскага, Рыбацкая, Рэзкі, Сельская, Сенная, Славацкага, Студэнцкая, Сянкевіча, Татарская, Турэмная, Уланская, Школьная, Школьны Двор, Шасэйная, Астатняя, Падгорная, плошча Гандлёвая, Ружанская.

Завулкі: Андрэеўскі, Аптэчны, Багажны, Вузкі, Выганавы, Зялёны, Ганчарны, Драўляны, Кароткі, Кашаровы, Кафлёвы, Круты, Крывы, Бляхарскі, Малы, 3-га Мая, Мяшчанскі, Міхайлоўскі, Палявы, Новы, Князя Панятоўскага, Ружанскі, Рэзніцкі, Слясарскі, Татарскі, Турэмны, Цесны, Школьны, Чыгуначны. А цяпер давайце адсочым, як у пасляваенны час у

Слоніме перайменоўваліся вуліцы, плошчы і завулкі пачынаючы з 1950-х гадоў. Альбярцінская вуліца стала вуліцай Гагарына, Жабінка — П. Марозава, Доўгая — Касманаўтаў, Глухая — Калініна, Абозавая — Астроўскага, Славацкага і Мангольская — Мічурына, Правіянтовая — Вясёлая, Ліпавая — Мірошніка, Скубішоўка — Катоўскага, Малы завулак — 8-га Сакавіка, Падгорная — Сінічкіна, Жыровіцкая — Марыса Тарэза, завулак Міра — завулак Дастаеўскага, Бернардзінская — Банкавая — В. Крайняга, Крывы завулак — Камуністычная, Шырокая — Гнідаша, Міхайлаўскі завулак — Някрасава, Гандлёвая плошча — плошча Леніна, Жыромская — Даватара, Рэзкі — завулак Уз’яднання, Галоўная — Карбышава, Школьны Двор — Савецкая, Анурсеўская —3-га Мая — Чырвонаармейская, Рыбацкая і Мокры завулак — К. Давідзюк, Замкавая — Камсамольская, Татарская — Кірава і г. д. Гэтымі савецка-камуністычнымі назвамі парушылася славутая гісторыя вуліц нашага старажытнага горада. З сённяшніх назваў нам здаецца, што гісторыя слонімскіх вуліц пачынаецца не раней як з 1945 года. Але гэта далёка не так. Яшчэ ў 1857 годзе ў Слоніме налічвалася 14 вуліц, у тым ліку 10 брукаваных, і дзве плошчы без назваў. Найбольш добраўпарадкаванымі былі Рынкавая, Маставая, Панасоўская, Ружанская, Жыровіцкая, Бернардзінская, Замкавая, Рыбацкая і Татарская вуліцы. Дарэчы, Татарская вуліца ў Слоніме існуе з 1717 года, а ў 1952 годзе яе перайменавалі ў вуліцу Кірава. У 1890 годзе ў Слоніме ўжо было 35 вуліц. Напрыклад, вуліца Агінскага існавала яшчэ ў другой палове XVIII стагоддзя. А вось Вакзальная вуліца з’явілася ў Слоніме ў 1886 годзе. Але, бадай, адной з самых старажытных вуліц у нашым горадзе лічыцца вуліца Васі Крайняга (першапачаткова яна называлася Спаскай, пасля Бернардзінскай, потым Банкаўскай). Вуліца існавала ўжо ў XVII стагоддзі. Калгасная вуліца мела некалі назву Французскі тракт (XIX ст.), а вуліца Пушкіна вядзе свой пачатак таксама з XVII стагоддзя як Панасоўская вуліца. У сярэдзіне 1930-х гадоў у Слоніме налічвалася ўжо 65 вуліц, 32 завулкі і 3 плошчы. Лёс многіх вуліц быў трагічны. Але вуліцы, як і людзі, — адны паміраюць, іншыя нараджаюцца. Сёння ў Слоніме налічваецца больш за 200 вуліц, завулкаў і плошчаў. Ёсць адзін праспект. Вядома, у наш час можна доўга дыскутаваць на тэму, наколькі апраўданы былі ўсе ранейшыя перайменаванні і якія назвы лепшыя — гістарычныя ці тыя, якія ўжо ёсць. А маладое пакаленне слонімцаў нават і не ведае, кім быў той чалавек, імем якога названа тая ці іншая слонімская вуліца, і што ён зрабіў для роднага горада. Таму паспрабуем коратка расказаць пра людзей, імёнамі якіх названы вуліцы Слоніма.

**Міхал Казімір Агінскі** (1730–1800) — дзяржаўны дзеяч Рэчы Паспалітай, кампазітар, пісьменнік, мецэнат. Жыў у Слоніме, дзе пабудаваў некалькі прамысловых прадпрыемстваў, друкарню, стварыў тэатр і капэлу, балетную і музычную школы.

**Мікалай Астроўскі** (1904–1936), **Мікалай Гогаль** (1809–1852), **Максім Горкі** (1868–1936), **Фёдар Дастаеўскі** (1821–1881), **Уладзімір Маякоўскі** (1893–1930), **Міхаіл Лермантаў** (1814–1841), **Мікалай Някрасаў** (1821–1878), **Аляксандр Пушкін** (1799–1837), **Леў Талстой**

(1828–1910) — рускія пісьменнікі. Ніякага дачынення да Слоніма яны не маюць.

**Міхаіл Анішчык** (1905–1973) нарадзіўся ў Івацэвіцкім раёне. У 1929 годзе з'яўляўся сакратаром Слонімскага акруговага камітэта КСМЗБ. У гады вайны быў адным з кіраўнікоў партызанскага падполля і партызанскага руху ў былой Баранавіцкай вобласці. Пасля вайны працаваў на партыйнай рабоце. У 1955–1963 гадах з'яўляўся дэпутатам ВС БССР.

**Максім Багдановіч** (1891–1917) нарадзіўся ў Мінску. Класік беларускай літаратуры. Творчасць яго прасякнута пафасам патрыятычнага служэння сацыяльнаму і нацыянальнаму вызваленню беларускага народа.

**Канстанцін Заслонаў** (1910–1942) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху ў гады вайны на Віцебшчыне. Герой Савецкага Саюза. Да Слоніма ніякіх дачыненняў не мае.

**Уладзімір Бялько** (1911–1933) нарадзіўся ў вёсцы Мялькانавічы. Вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі. У канцы 20–30-х гадоў змагаўся на Слонімшчыне за адкрыццё беларускіх школ. Выдаваў газету «Піянер». Закатаваны польскай паліцыяй у Касцянёўскім пастарунку.

**Францішак Багушэвіч** (1840–1900) нарадзіўся на Віленшчыне. Класік беларускай літаратуры. Рэвалюцыйны дэмакрат, адзін з пачынальнікаў крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры, будзіцель гістарычнай і нацыянальнай свядомасці беларускага народа.

**Мікалай Вінаградаў** (1898–1977) — рускі вайсковец. У гады вайны вызваляў Слонім ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**Пётр Войкаў** (1888–1927) — рускі рэвалюцыянер і кат. Прымаў удзел у забойстве былога імператара царскай Расіі Мікалая II Раманава і яго сям'і. Ніякага дачынення да Беларусі і Слоніма не мае.

**Пётр Баграціён** (1765–1812) нарадзіўся ў Дагестане. Рускі генерал ад інфантэрыі, герой Айчыннай вайны 1812 года. Ніякага дачынення да Слоніма не мае.

**Юрый Гагарын** (1934–1968) — першы ў свеце касманаўт. Ніякага дачынення да Слоніма не мае.

**Мікалай Гастэла** (1907–1941) — рускі вайсковец. Герой Савецкага Саюза. Ніякага дачынення да Слоніма не мае.

**Кузьма Гнідаш (Гнедаш)** (1914–1944) — рускі вайсковец. У 1944 годзе ля Слоніма, каб не трапіць да немцаў у палон, узарваў сябе гранатай.

**Іван Дабрыян** (1913–1970) нарадзіўся ў вёсцы Какошчыцы Слонімскага раёна. Быў сакратаром Слонімскага райкама КПЗБ, сакратаром Навагрудскага акруговага камітэта камсамола. У гады вайны — арганізатар партызанскага руху на Слонімшчыне. Пасля вайны ўзначальваў калгас імя Леніна, быў старшынёй Слонімскага райвыканкама.

**Леў Даватар** (1903–1941) нарадзіўся на Віцебшчыне. Герой Савецкага Саюза. Да Слоніма ніякага дачынення не мае.

**Клара Давідзюк** (1924–1944) — маскоўская камсамолка. У гады вайны была радысткай, каля Слоніма ўзарвала сябе гранатай.

**Фелікс Дзяржынскі** (1877–1926) — савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч. Адзін з арганізатараў «чырвонага тэрору» і ініцыятараў стварэння сталінскіх лагераў. Ніякага дачынення да Слоніма не мае.

**Міхаіл Калінін** (1875–1946) — расійскі рэвалюцыянер, савецкі дзяржаўны дзеяч. Да Беларусі і Слоніма ніякіх дачыненняў не мае.

**Дзмітрый Карбышаў** (1880–1945) — рускі вайсковец. Герой Савецкага Саюза. Да Слоніма ніякіх дачыненняў не мае.

**Сяргей Кіраў** (1886–1934) — дзеяч камуністычнай партыі і савецкай дзяржавы. Ніякага дачынення да Беларусі і Слоніма не мае.

**Якуб Колас** (1882–1956) — народны пісьменнік Беларусі, лаўрэат шматлікіх літаратурных прэмій. Класік беларускай літаратуры.

**Юрый Кавалеўскі** (1906–1936) нарадзіўся ў вёсцы Шылавічы. Актыўны беларускі дзеяч на Слонімшчыне ў 20–30-х гадах мінулага стагоддзя. Узначальваў Слонімскі акруговы камітэт камсамола.

**Леў Сапега** (1557–1633) — беларускі дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, слонімскі староста. Адзін з самых адукаваных людзей свайго часу, які спрыяў культуры і прамысловасці Слоніма, яго палітычнай значнасці.

**Сяргей Каралёў** (1907–1966) — савецкі вучоны і канструктар у галіне ракетабудавання і касманаўтыкі. Да Беларусі і Слоніма ніякага дачынення не мае.

**Сяргей Лазо** (1894–1920) — удзельнік грамадзянскай вайны ў Сібіры і ў Прымор'і Расіі. Ніякага дачынення да Беларусі і Слоніма не меў.

**Ганна Кароль** (1902–1948) нарадзілася ў вёсцы Чамяры. Прымала актыўны ўдзел у нацыянальна-вызваленчым руху ў Заходняй Беларусі. Была дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

**Валерыян Куйбышаў** (1888–1935) — удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Расіі, савецкі дзяржаўны дзеяч. Ніякага дачынення да Беларусі і Слоніма не мае.

**Янка Купала** (1882–1942) — народны пісьменнік Беларусі. Класік беларускай літаратуры. У 1939 годзе быў у Слоніме, сябраваў з многімі слонімскімі пісьменнікамі.

**Рыгор Катоўскі** (1881–1925) — савецкі военачальнік. Ніякага дачынення да Беларусі і Слоніма не мае.

**Міхаіл Кутузаў** (1745–1813) — расійскі палкаводзец, дыпламат, генерал-фельдмаршал. Ніякага дачынення да Слоніма не мае.

**Васіль Крайні** (1929–1944) нарадзіўся ў вёсцы Сяргеевічы. Піянер-герой, партызан.

**Уладзімір Ульянаў (Ленін)** (1870–1924) — заснавальнік камуністычнай партыі ў Расіі і савецкай дзяржавы. Ніякага дачынення да Слоніма не мае.

**Яўген Леашэня** (1900–1981) нарадзіўся ў Альбярціне. Беларускі вайсковец, краязнавец. Генерал-лейтэнант інжынерных войск.

**Міхаіл Ламаносаў** (1711–1765) — рускі вучоны-прыродазнавец, паэт, мастак, гісторык. Ніякага дачынення да Беларусі і Слоніма не мае.

**Карл Маркс** (1818–1883) — мысляр, грамадскі дзеяч, рэвалюцыянер, заснавальнік марксізму. Ніякага дачынення да Слоніма не мае.

**Дзмітрый Мендзялееў** (1834–1907) — расійскі вучоны, член-карэспандэнт Пецярбургскай АН. Ніякага дачынення да Слоніма не мае.

**Мікалай Мірошнік** (1925–1944) — яфрэйтар з Харкаўшчыны. У гады вайны пры вызваленні Слоніма закрыў сабою варожы дот.

**Адам Міцкевіч** (1798–1855) — класік польскай і беларускай літаратуры, грамадскі дзеяч, публіцыст.

**Валерый Чкалаў** (1904–1938) — рускі лётчык-выпрабавальнік, Герой Савецкага Саюза. Да Беларусі і Слоніма ніякага дачынення не мае.

**Мікалай Шчорс** (1895–1919) — герой грамадзянскай вайны на Украіне. Ніякага дачынення да Слоніма не мае.

**Вера Харужая** (1903–1942) — дзяячка рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, публіцыстка, партызанка, арганізатар камуністычнага падполля ў гады вайны ў Віцебску. Да Слоніма ніякага дачынення не мае.

**Іван Мічурын** (1855–1935) — расійскі селекцыянер-практык і раслінавод. Ніякага дачынення да Беларусі і Слоніма не мае.

**Аляксандр Сувораў** (1730–1800) — расійскі палкаводзец. Кат беларускага і польскага народаў. Ніякага станоўчага дачынення да Слоніма і Беларусі не мае.

**Іса Пліеў** (1903–1979) — рускі вайсковец, двойчы Герой Савецкага Саюза. У гады вайны вызваляў Слонім.

**Францішак Скарына** (1490–1551) — вялікі беларускі асветнік-гуманіст, першадрукар, грамадскі дзеяч, вучоны-медык, пісьменнік.

**Фёдар Сінічкін** (1901–1962) — рускі вайсковец. Герой Савецкага Саюза. Працаваў старшынёю Слонімскага гарвыканкама.

**Валянцін Таўлай** (1914–1947) — беларускі пісьменнік. Дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі на Слонімшчыне.

**Марыс Тарэз** (1900–1964) — дзеяч міжнароднага камуністычнага і рабочага руху. Ніякага дачынення да Беларусі і Слоніма не мае.

**Уладзімір Яршоў** (1906–1979) — рускі вайсковец. У гады вайны вызваляў Слонім.

**Іван Тутарынаў** (1904–1978) — рускі вайсковец. У 1944 годзе вызваляў Слонім.

**Канстанцін Цыялкоўскі** (1857–1935) — расійскі вучоны і вынаходнік у галіне аэрадынамікі і ракетнай тэхнікі. Да Слоніма ніякага дачынення не мае.

**Паўлік Марозаў** (1918–1932) — старшыня піянерскага атрада ў Свярдлоўскай губерні Расіі, данёс уладам на свайго бацьку-«кулака». Ніякага дачынення да Беларусі і Слоніма не мае.

**Іван Чарняхоўскі** (1906–1945) — савецкі ваенны дзеяч, двойчы Герой Савецкага Саюза. Да Слоніма ніякага дачынення не мае.

Ёсць яшчэ вуліцы ў Слоніме, якія носяць імёны Галаўскога, Плятніцкага, Чапаева, якія ніякіх адносін да гісторыі нашага горада не маюць. Адна з крайніх вуліц Слоніма носіць імя Васіля Пеляніцына, які ў свой час быў старшынёю Слонімскага гарвыканкама, трымаў у горадзе парадак і дысцыпліну, яго вельмі паважалі гараджане. А цяпер, шаноўныя землякі, давайце падлічым, колькі выпадковых людзей трапіла ў гісторыю

нашых вуліц. І за што ім ад нас такая пашана і памяць? У іх ёсць свае радзімы, і няхай іх там ушаноўваюць. А гонар і традыцыі нашых продкаў на Слонімшчыне павінны абараняць мы, нашчадкі. Іншая справа, што гэта ў нас не робіцца. На абыякавасць, бязграматнасць і бяспамяцтва захварэлі тыя чыноўнікі, якія непасрэдна адказваюць за гістарычнае аблічча нашых вуліц і плошчаў. Ды і бяздумна таптаць гісторыю горада над Шчарай нельга. Да сённяшняга часу ў Слоніме няма вуліц, якія б насілі імёны нашых самых слынных землякоў: гісторыка, археолага, краязнаўца Язэпа Стаброўскага, дактароў медыцынскіх навук Андрэя Пракапчука і Венцаслава Пелікана, доктара філалагічных навук Канстанціна Пушкарэвіча, братоў Уладзіміра і Яўгена Хлябцэвічаў, пісьменнікаў Гальяша Леўчыка, Сяргея Дарожнага, Анатоля Іверса, Якуба Міско, Кандрата Лейкі, Алега Лойкі, Янкі Саламевіча, доктара гістарычных навук Міхаіла Міско, мастака Антона Карніцкага, кампазітара Міхала Агінскага, маршалка Войцеха Пуслоўскага, рэлігійных дзеячаў Лукаша Дзекуць-Малея, Хведара Данілюка, кіраўніка паўстання 1833 года Міхала Валовіча, палітыка Максіма Бурсевіча, кампазітара і музыканта Антона Валынчыка, краязнаўца і гісторыка Аляксандра Жукоўскага, рэжысёра Мікалая Варвашэвіча і многіх іншых слонімцаў. Божа ж мой, дык мы нічога не зрабілі, каб ушанаваць памяць пра нашых знакамітых слонімскіх людзей! Хто ж пра іх калі-небудзь успомніць, як не мы?..

## КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ НА СЛОНІМШЧЫНЕ

У пачатку кастрычніка 1862 года, едучы са Слоніма ў Ваўкавыск на паштовых конях, Кастусь Каліноўскі ў вёсцы Шайнякі (Шулякі) Слонімскага павета раскідвае трэці нумар «Мужыцкай праўды». Праз два тыдні ў вёску прыбывае прыстаў 2-га стану Слонімскага павета Л. Агацін і знаходзіць некалькі экзэмпляраў газеты. З кнігі для запісу падарожных ён даведваецца, што распаўсюджвальнікам быў Каліноўскі. Гродзенскі губернатар І. Галер атрымлівае рапарт аб гэтым ад прыстава Агаціна:

«Временнообязанным крестьянам от некоторого времени подбрасываются злонамеренными людьми экземпляры брошюр для чтения под заглавием «Мужыцкая праўда». Брошюры эти крестьяне, читая между собой, извлекают разнородную мысль. Желая затем открыть таковые, отправлялся я вчерашнего числа в д. Шейняки во вверенном мне стане, по тракту Волковысскому, расположенному, где при содействии местного старосты Людвига Левковича открыл 2 экз. помянутой брошюры. Из числа крестьян деревни Шейняки Мартин Микуцин, Антон Агиевич и Михаил Лукашевич объяснили, что 7 числа настоящего октября месяца в 5 часов пополудни проезжий, следуя почтовым трактом через д. Шейняки в г. Волковыск на паре почтовых лошадей, выбрасывал свертки бумаг

на дорогу, и помянутые крестьяне, поднимая, обращались к грамотным своим собратьям прочитать.

Вышесказанный пассажир одетым был в овчинной шубе, покрытой казалось им, сукном, воротник от оной из длинных черных барашков, фуражку на голове имел гражданского ведомства со звездочкой. Сам был росту среднего, брюнет, усов черных, лет около 36. Если бы в этаком костюме представить вышесказанного пассажира, крестьяне (его) опознают. Кучер же, везший его, был ямщик из Рожанской почтовой станции, белокурый, усов русых.

Последствием такового разъяснения крестьян обращался я на Рожанскую почтовую станцию и по забранной мною лично справке обнаружил, что проезжим пассажиром был, как видно из книги, в 5 часов выехавший некто дворянин Викентий Калиновский по подорожной в. п. от 5 октября за № 16668, ему выданной возвращающимся из г. Слонима в г. Волковыск. Насколько я мог удостовериться изпод руки, означенный Калиновский служит в одном из присутственных мест г. Волковыска. Ямщик же почтовой Рожанской станции Талай, действительно таких примет, как показали вышесказанные крестьяне, возил Калиновского в Подороск.

Усматривая из представляемых мною при сем двух брошюр, что оные имеют цель возмутительную и противозаконную, почитаю за обязанность донести в. п. и почтительнейше присовокупить, что за обращением таковых брошюр между крестьянами имею бдительное наблюдение. 27 октября 1862 г. Становой пристав, колежский асессор Агатин (Революционный подъем в Литве и Белоруссии в 1861–1862 гг. М., 1964. С. 477).

Прачытаўшы рапарт, Галер даручае гродзенскаму жандарскаму штабафіцэру Лелякову расследаваць справу і адшукаць Каліноўскага. Але 16 красавіка 1863 года гродзенскі губернатар даносіць генерал-губернатару пра беспаспяховасць пошукаў Каліноўскага. З гэтага часу мужны змагар пераходзіць на нелегальнае становішча.

У сярэдзіне мая 1863 года Кастусь Каліноўскі і паўстанцкі цывільны начальнік Гродзенскага ваяводства Э. Заблоцкі робяць паездку па Слонімскім і Ваўкавыскім паветах з мэтай праверкі дзейнасці паўстанцкіх атрадаў і навядзення парадку ў арганізацыі. Каліноўскі і Заблоцкі пабылі ў паўстанцкім лагеры пад Мілавідамі, які быў у Слонімскім павеце, дзе групавалася некалькі атрадаў пад камандаваннем палкоўніка Аляксандра Лянкевіча («Ляндэра»). Тут яны правялі агляд паўстанцаў, праверылі зброю, боепрыпасы, касу. Каліноўскі выступіў перад паўстанцамі з прамовай, у якой заклікаў іх да барацьбы за волю.

А 22 мая паўстанцы Лянкевіча правялі ўдалы бой з царскімі войскамі пад Мілавідамі на Брэсцкай шашы. Вось як апісвае гэты бой гісторык В. Кашпераў: «Узброеныя паўстанцы сабраліся ў лесе каля вёскі Мілавіды Слонімскага павета. Да іх далучыліся ямшчыкі паштовых станцый, рабочыя Міхаліцкага шклозавода, дваровыя і батракі памешчыцкіх маёнткаў. У маі 1863 г. у лагеры паўстанцаў пад Мілавідамі налічвалася каля 800 чалавек.

Аб сканцэнтраванні паўстанцаў пад Мілавідамі даведаліся царскія ўлады і кінулі на разгром лагера тры роты добра ўзброеных салдат, казакаў і артылерыю пад камандаваннем генерала Манюкіна. Туманнай раніцай 3 чэрвеня (па новым стылі) 1863 г. царскія войскі, раздзяліўшыся на некалькі атрадаў, пачалі наступленне. Разгарэўся бой. Паўстанцы заманьвалі праціўніка ў гушчар. Артылерыя, не бачачы іх, маўчала.

Пасля перадыху зноў успыхнуў бой. Артылерыя пачала абстрэл лесу, але снарады траплялі не так па паўстанцах, як па карніках. Гэта выклікала сярод іх паніку. Карнікі пачалі адступаць, пакідаючы забітых і параненых. Карная экспедыцыя закончылася 4 чэрвеня няўдачай» (В. Кашпераў. Было гэта пад Мілавідамі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1982. № 3. С. 25).

Даведаўшыся аб перамозе, Кастусь Каліноўскі быў вельмі рады. Працягваючы сваю інспекцыйную паездку за Бугам, ён шмат разоў расказваў паўстанцам пра слонімскіх сялян і пра бітву пад Мілавідамі.

## СЛОНІМСКІЯ КІРМАШЫ

Першыя кірмашы на Беларусі былі зафіксаваныя дазволамі ў Гродне і ў Полацку ў 1496 і ў 1498 гадах. Дазвол на адкрыццё кірмашоў давалі магдэбургскае права, прывілеі вялікіх князёў Вялікага Княства Літоўскага і каралёў польскіх, пастановы і ўказы царскага ўрада. Большасць кірмашоў праходзіла з вясны да пачатку восені, дамінавалі 1–2-дзённыя таргі. Гандлёвы абарот кірмашоў вагаўся ад некалькі сотняў да мільёнаў рублёў. У іх удзельнічалі ад некалькі дзясяткаў да 15 тысяч чалавек.

Кароль Жыгімонт І Стары ў 1532 годзе надаў Слоніму магдэбургскае права, якое ўводзіла ў горадзе самакіраванне і давала значную незалежнасць ад княжацкай адміністрацыі. А 13 траўня 1558 года кароль Жыгімонт ІІ Аўгуст увёў у Слоніме два двухтыднёвыя кірмашы. Гэты год можна лічыць годам заснавання слонімскіх кірмашоў. А ў 2008 годзе ім споўніцца 450 гадоў.

Вельмі выгаднае геаграфічнае палажэнне Слоніма заўсёды рабіла яго бойкім для гандлю месцам. Праз горад праязджалі даволі шмат людзей як з Захаду, так з Усходу. Усё гэта, як піша гісторык Васіль Супрун, у значнай ступені прычынялася да развіцця харчовай вытворчасці, гандлю і адпачынку. Так, у 1810 годзе на 2940 гарадскіх жыхароў у Слоніме было 58 кавярняў і корчмаў. А колькі цяпер у Слоніме рэстаранаў і бараў? Ды і што сабой уяўляюць гэтыя месцы адпачынку па культуры абслугоўвання і па разнастайнасці страў — слонімцы добра ведаюць.

Штотыднёвыя кірмашы сцягвалі ў Слонім нямала сялян не толькі са Слонімшчыны, але і з іншых паветаў і нават дзяржаў. Некалькі разоў на год наладжваліся ў горадзе над Шчарай вялікія кірмашы, якія доўжыліся шмат дзён. Сюды з’язджаліся купцы і сяляне з далёкіх мясцін. Гандаль ішоў не толькі коньмі, быдлам, сельскагаспадарчай прадукцыяй, але і

прамысловымі таварамі, ганчарнымі, кавальскімі і іншымі вырабамі. «Горад у такія дні, — як піша Васіль Супрун у сваёй кнізе «Дзеі над Шчарай», —ператвараўся ў многагалосы вулей, а пасля кірмашу ў розныя напрамкі расцякаліся фурманкі сялян, фаэтоны купцоў, брычкі багатых землеўладальнікаў і босая галота» (Васіль Супрун. Дзеі над Шчарай. Слонім, 2000. С. 60).

Кожны год 7 чэрвеня ў Слоніме адбываўся Траецкі кірмаш (у дзень святой Тройцы). Сюды з'язджаліся больш за 3000 чалавек. Гандлёвыя аперацыі праводзіліся на гарадскім рынку і ў лаўках (крамах). У 1830-я гады сюды прывозілі тавараў на суму 1020 рублёў (на той час гэта былі даволі вялікія грошы), у 1840-я — на суму 4685 рублёў, у 1850-я — на суму 7655 рублёў. Як бачыце, тавараў на Траецкім кірмашы ў Слоніме прадавалася з гадамі ўсё больш і больш.

Для беларускіх кірмашоў канца XVIII — першай паловы XIX стагоддзя характэрна спецыялізацыя гандлю па асобных гарадах. Таварная спецыялізацыя дапамагала купцам, рамеснікам, сялянам больш мэтанакіравана арыентаваць пакупнікоў на набыццё патрэбных рэчаў. Слонім тады быў цэнтрам гандлю збожжам, жывёлай, гарэлкай. Аднак універсальны характар Траецкага кірмашу рабіў вольным доступ сюды і іншых тавараў: глінянага посуду, хатняга палатна, фабрычнага сукна, прылад працы і іншых гаспадарчых прадметаў.

Даволі ажыўленым быў гандаль у Слоніме і ў базарныя дні: па чацвяргах і нядзелях. На базары з'язджаліся сяляне з навакольных вёсак. Прадметамі куплі-продажу былі харчовыя прыпасы, жывёла, гаспадарчыя прылады і г. д.

Адкрыццё ў 1804 годзе суднаходства па канале Агінскага значна ажывіла гандаль Слоніма з іншымі гарадамі. Па канале Агінскага, а пасля па Шчары і па Нёмане штогод адпраўлялі ў Прыбалтыку вялікую колькасць хлеба, будаўнічых матэрыялаў, воску, скур. Толькі ў 1815 годзе са Слоніма за мяжу было адпраўлена 300 пудоў воску, 500 пудоў мёду і іншых тавараў. Значная колькасць тавараў прывозілася ў Слонім. Так, напрыклад, толькі ў 1857 годзе на слонімскай прыстані было разгружана 67 суднаў. Дзякуючы Шчары і каналу Агінскага, па якім дзень і ноч прывозілі і адвозілі тавары, шырока развіваўся і гандаль на мясцовым рынку. У 1878 годзе ў Слоніме мелася 206 лавак і 53 склады з таварамі, а ў 1901 годзе лавак гандлёвых у Слоніме было каля 700. Нават беластоцкі камерцыйны банк меў у нашым горадзе сваё аддзяленне, дзейнічала таварыства ўзаемнага крэдыту.

Развіццё прамысловасці і гандлю садзейнічала росту насельніцтва. Калі ў 1858 годзе ў Слоніме пражывала 8760 чалавек, то ў 1897 годзе было ўжо каля 16 тысяч…

Слонім — горад кірмашоў, гандлю, крамаў і бараў. Але мала хто займаўся гісторыяй слонімскіх кірмашоў і гандлю, таму вестак пра іх захавалася не дужа многа. Тым не менш кірмашы ў Слоніме праходзяць і цяпер, а значыць, традыцыі іх 450-гадовай даўніны жывуць і сёння.

# НЕКАЛІ ПЛАНАВАЛІ ПАБУДАВАЦЬ ЧЫГУНКУ СЛОНІМ–НАВАГРУДАК

Яшчэ ў 1886 годзе праз Слонім прайшла першая лінія чыгункі Баранавічы–Беласток. У Слоніме тады была адкрыта і чыгуначная станцыя. Замест яе ў 1922 годзе быў пабудаваны чыгуначны вакзал, які захаваўся да сённяшніх дзён. Такі самы вакзал, як і ў Слоніме, быў пабудаваны і ў Бельску на Беласточчыне.

Нядаўна, гартаючы старыя падшыўкі газеты «Беларускі дзень» за 1928 год (газета выходзіла ў Вільні), знайшоў вельмі цікавую інфармацыю. У прыватнасці, паведамлялася пра тое, што плануецца пачаць будаўніцтва чыгункі Слонім–Навагрудак–Маладзечна. Усё будаўніцтва павінна каштаваць 49 мільёнаў польскіх злотых. А гэта на той час былі вельмі вялікія грошы.

Польскі ўрад на гэта будаўніцтва шукаў фундатараў. Напрыклад, спадар Савіч, што працаваў у фірме, якой у 1928 годзе належала Налібоцкая пушча, паабяцаў навагрудскаму ваяводзе Бэчковічу выдаткаваць на будаўніцтва чыгункі 15 мільёнаў злотых.

20 траўня 1928 года адбылася нават спецыяльная сходка, прысвечаная будаўніцтву чыгункі Слонім–Навагрудак–Маладзечна. На ёй выступоўцы казалі, што думка наконт пабудовы гэтай чыгункі вялася даўно. Таму што дзвюх чыгунак, якія праходзілі праз Навагрудскае ваяводства, для патрэбаў гаспадарскіх спраў не хапала. З існуючых чыгунак толькі адна ішла на захад, гэта значыць Стоўбцы–Баранавічы–Слонім. А чыгунка Баранавічы–Ліда–Вільня мела для Навагрудскага ваяводства кірунак толькі мясцовага значэння. Газета «Беларускі дзень» 30 траўня 1928 года пісала (падаецца ў арыгінале): «Нічога дзіўнага, што наваградскае грамадзянства з вялікім заінтэрасаваньнем адносіцца да думкі будовы чугункі. Дзякуючы ініцыятыве п. ваяв. Бэчковіча думка гэная ўваходзіць на зусім рэальныя торы. Заінтэрасаваныя гаспадарскія і прамысловыя сфэры далі згоду прыйсці з дапамогай, бяручы на сябе частку коштаў, г. зн. каля 20% і бяручы на сябе цяжар сфінансаваньня будовы пры помачы заграчных капіталаў».

Паводле прапанаванага праекту, чыгунка ішла б з Маладзечна праз Івянец, Налібокі, Шчорсы, Навагрудак, дзе крыжавалася б з другой лініяй Ліда–Баранавічы, ішла б потым на Дзятлава, Казлоўшчыну і да Слоніма.

На вялікі жаль, у канцы 20-х гадоў XX стагоддзя чыгунка Слонім–Навагрудак–Маладзечна так і не з’явілася. І ў Казлоўшчыне, і ў Дзятлаве, і ў Навагрудку чыгункі няма да сённяшніх дзён, і магчыма, ніколі яна не будзе пракладзена. Чыгункай сёння можна даехаць да нашага Слоніма з захаду на усход і з усходу на захад, а таксама да Наваельні Дзятлаўскага раёна. Бо ў Наваельні чыгунка была пабудавана ажно ў 1884 годзе, яна праходзіць з Вільні на Лунінец.

# НАРОДНЫЯ ВУЧЫЛІШЧЫ, 1876 ГОД

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне (Ф. 1624. Воп. 2. Спр. 49) нядаўна знайшоў цікавыя дакументы, звязаныя з гісторыяй адукацыі Слонімскага павета. Гэтыя дакументы адносяцца да другой паловы XIX стагоддзя.

Архіўныя дакументы сведчаць, што ў 1864 годзе ў Слонімскім павеце дзейнічалі народныя вучылішчы ў вёсках і мястэчках Бялавічы, Гошчава, Бусяж, Косава, Мізгеры, Дзявяткавічы, Сынкава, Варанілавічы, Клімовічы, Ягневічы, Звяроўшчына, Ахонава, Дварэц, Мілавіды і іншых (назвы даюцца паводле дакументаў 150-гадовай даўніны). Усіх у 1864 годзе ў Слонімскім павеце было 24 народныя вучылішчы. У Слоніме былі таксама два прыходскія вучылішчы: падрыхтоўчы клас пры дваранскім павятовым вучылішчы і Замосцеўскае аднакласнае прыходскае вучылішча ў фарштаце г. Слоніма. Сельскае народнае вучылішча складалася з вучылішчнага дома, дома для службы, хаты для вучняў, якія прыходзілі на вучобу з далёкіх вёсак.

Вось як выглядаў на той час штат Слонімскага народнага аднакласнага вучылішча:

Жалаванне настаўніку складала 200 рублёў у месяц.

Жалаванне законанастаўніку права — 40 рублёў.

На падручнікі і ўзнагароды вучням выдаткоўвалася 30 рублёў.

Арэнда памяшканняў для вучылішча і настаўнікаў складала 100 рублёў.

На ацяпленне і чысціню трацілася 40 рублёў.

Вартаўнік атрымліваў 50 рублёў.

Першапачатковую адукацыю павінны былі атрымліваць усе хлопчыкі ва ўзросце ад 10 да 15 гадоў. Гэта была элементарная адукацыя ў аб'ёме вучэбнага курса прыходскіх вучылішчаў. За першы прапушчаны без вучобы год абавязковага ўзросту, гэта значыць за неадукацыю хлопчыка на 11-м годзе яго жыцця, з бацькоў браўся штраф у памеры ад 3 да 30 рублёў. Калі хлопчык не хадзіў больш у школу, то бацькі атрымлівалі большы штраф — ад 7 да 70 рублёў, гледзячы які быў дабрабыт у сям'і.

У Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Гродне захоўваецца просьба-паведамленне штатнага наглядчыка вучылішча М. Дубнякова да ваеннага начальніка Слоніма і павета ад 27 верасня 1864 года. Наглядчык Дубнякоў паведамляе, што ў нядаўна адкрытым Слонімскім народным вучылішчы не павялічваецца колькасць вучняў, а наадварот, змяншаецца: замест 30 хлопчыкаў і 2 дзяўчынак, якія спачатку паступілі, засталіся толькі 15 хлопчыкаў, а дзяўчынкі зусім пакінулі вучыцца. «А між іншым ёсць магчымасць, — як паведамляе Дубнякоў, — адкрыць пры вучылішчы і асобнае аддзяленне для дзяўчынак, з павелічэннем якіх будзе прызначаны дадатковы настаўнік ці настаўніца».

Далей штатны наглядчык паведамляе, што адгаварылі дзяўчынак вучыцца Іосіф Краўцэвіч і Анастасія Бараноўская з Ружанскай вуліцы. А з ліку хлопчыкаў, якія пакінулі наведваць урокі, гэта Антон Федарэнка

з Замкавай вуліцы з дома яўрэя Нахімоўскага, Аляксандр Семянчук з Жыровіцкай вуліцы, Баляслаў Усціновіч таксама з Жыровіцкай вуліцы. Наглядчык Дубнякоў прапануе аштрафаваць бацькоў за гэта.

Збераглася ў архіве і ведамасць пра вучылішчы і школы трэцяга стану Слонімскага павета, якая была складзена 15 лістапада 1864 года. Напрыклад, у грамадскай народнай школе ў вёсцы Парэчча налічвалася 10 хлопчыкаў, а дзяўчынак зусім не было. Вучыў іх Парэцкі праваслаўны святар Аляксандр Гарачка. Вучні там знаходзіліся на сваім утрыманні, а настаўнік атрымліваў жалаванне ад сялян Кастровіцкай воласці.

Грамадскія школы таксама працавалі ў мястэчку Езярніца (Азярніца), дзе вучыліся 47 хлопчыкаў і 10 дзяўчынак, вучыў усіх Іосіф Заторскі. У Кастровічах хадзілі ў школу 21 хлопчык і 6 дзяўчынак, вучыў іх Пётр Сямашка.

У 1876 годзе ў Слонімскім павеце існавалі 40 народных вучылішчаў, 2 прыходскія вучылішчы і 10 сельскіх вучылішчаў. Самымі старымі і вопытнымі настаўнікамі былі: Геранім Бараноўскі, які працаваў у Галынкаўскім народным вучылішчы з 1 снежня 1863 года, Аляксандр Трусевіч, настаўнік Слонімскага прыходскага вучылішча, які працаваў там з 1 кастрычніка 1866 года, Марыя Трусевіч, настаўніца жаночай змены пры Слонімскім прыходскім вучылішчы, якая там працавала з 17 верасня 1869 года, святар Аляксандр Гарачка, настаўнік Парэцкага сельскага вучылішча, які там працаваў з 1 студзеня 1863 года, Восіп Віторскі, настаўнік Азярніцкага народнага вучылішча, які там працаваў з 1 снежня 1863 года. Дарэчы, Восіп Міхайлавіч Віторскі, а не Вікторскі, як гэта пісала раней прэса, у свой час у Азярніцкім вучылішчы вучыў Кандрата Лейку, які з палатнянай торбачкай бегаў са Збочна ў Азярніцкае вучылішча, ды вучыўся добра, быў любімцам гэтага настаўніка за здольнасць, дапытлівасць і працавітасць. З цягам часу Кандрат Лейка стане адным з першых сейбітаў на ніве беларускай літаратуры канца XIX — пачатку XX стагоддзя.

За кожным настаўнікам і яго працай пільна сачылі штатныя наглядчыкі вучылішчаў, правяралі іх і штогод атэстоўвалі. У фондзе 1, воп. 7, адзінка захоўвання 1731 Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне захоўваецца спіс настаўнікаў народных вучылішчаў Слонімскага павета, якія прайшлі атэстацыю 30 чэрвеня 1875 года. Вось некаторыя з іх. Гэта Міхаіл Райко, настаўнік Сасноўскага народнага вучылішча, атэставаны па паводзінах добра. Паводзіны добрыя аказаліся ў настаўнікаў Ігната Родзевіча з Міжэвіцкага вучылішча, Уладзіміра Садоўскага з Перавалокскага вучылішча, Фамы Жукоўскага з Пасініцкага вучылішча, Івана Аўсяйца з Кастровіцкага вучылішча, Аляксандра Гарачкі з Парэцкага вучылішча, Івана Бертушэвіча з Альбярцінскага вучылішча, Рыгора Хоміча з Шылавіцкага вучылішча, Івана Юрэвіча з Мяльканавіцкага вучылішча, Парымона Жыткевіча з Жыровіцкага вучылішча і іншых. А вось у Васіля Алфееўскага з Дзявяткавіцкага вучылішча запісана, што ён «привержен к пьянству, не соответствует своему назначению, ибо подобное поведение в наставнике недопущено быть терпимым».

# ВАКЗАЛЫ-БЛІЗНЯТЫ Ў БЕЛЬСКУ-ПАДЛЯШСКІМ І Ў СЛОНІМЕ

Гартаючы цудоўны фотаальбом старых фотаздымкаў «Bielsk Podlaski» (2003) Крысціны Мазурук і Дарафея Фіёніка, спыніўся на старонках 72–75 на якіх адлюстраваны стары чыгуначны вакзал у Бельску-Падляшскім. Калі не прыгледжуся, дык вакзал у Бельску-Падляшскім быў такі, як у маім родным горадзе Слоніме. Праўда, у Бельску-Падляшскім яго даўно няма, а вось у Слоніме ён захаваўся да сённяшніх дзён. Адным словам, у 1920-х гадах у Заходняй Беларусі па адным праекце былі пабудаваныя два вакзалы-блізняты ў стылі мадэрн.

Пра лёс чыгуначнага вакзала ў Бельску-Падляшскім спытаўся ў краязнаўца і гісторыка Дарафея Фіёніка. Ён пра свой рэгіён ведае амаль усё. Дый лепшага знаўцу па гісторыі Бельшчыны на Беласточчыне няма. На маё пытанне пра вакзал у Бельску-Падляшскім спадар Дарафей Фіёнік сказаў: «Я таксама, будучы некалькі разоў праездам праз Слонім, звярнуў увагу на падабенства вашага вакзала з былым нашым. Ён, на вялікі жаль, не захаваўся, узарвалі яго немцы у час адступлення у 1944 годзе. Да палавіны 1980-х гадоў быў яшчэ добра захаваны падмурак з абчэсаных камянёў і характэрныя сходы з бетоннымі кулямі. Можна было на гэтым падмурку адбудаваць вакзал, але пабудавалі новы, вялікі і непрыгожы, які цяпер пустуе. Стары вакзал быў пабудаваны дзесьці ў 1920–1930-х гадах на месцы ранейшага, драўлянага, якога разбурылі падчас Першай сусветнай вайны. Звестак пра архітэктара ці іншых праекціроўшчыкаў я, на жаль, ніякіх не знайшоў. З успамінаў перадваенных бяльшчан ведаю толькі, што вялікая зала чыгуначнага вакзала выкарыстоўвалася таксама для правядзення святочных баляў…».

Слонімцам пашанцавала больш, чым бяльшчанам. Вакзал у Слоніме ўжо амаль 90 гадоў сустракае і праводзіць пасажыраў. І ў Слоніме, і ў Бельску-Падляшскім вакзалы былі пабудаваныя ў 1922 годзе. Побач з вакзаламі ў гэтых двух гарадах з’явіліся і воданапорныя вежы, узведзеныя таксама ў стылі матэрн і разам яны складалі адзіны архітэктурны ансамбль.

Вакзал у Слоніме, так, як і ў Бельску-Падляшскім, пабудаваны з цэглы. Будынак мае высокі мансардавы дах складанага пластычнага малюнка. Пластычнасць экстэр’еру вакзала надаюць рустоўка, рытм прамавугольных і арачных аконных праёмаў, барочныя рэмінісцэнцыі ў форме «разарванага» франтона, фігурны шчыт са стылізаванымі валютамі. Планіроўка вакзала змешаная — калідорна-анфіладная. У цэнтры — квадратны ў плане вестыбюль, ад якога кароткія пераходы вядуць у касавую залу, залу чакання і на перон. Так было і ў вакзале Бельску-Падляшскім.

Воданапорныя вежы былі пабудаваныя адначасова з чыгуначнымі вакзаламі.

Трох’яруснае васьміграннае ў сячэнні збудаванне ў Слоніме мае пластычныя архітэктурныя формы. Так было і ў воданапорнай вежы ў

Бельску-Падляшскім. Першы ярус — гэта магутная аснова з вуглавымі контрфорсамі і маналітнымі плоскасцямі сцен. Звужаны да верху стройны другі ярус выкарыстаны як апора для трэцяга — верхняга аб'ёму, у якім знаходзіўся рэзервуар з вадой. Яго гранёная «чаша» завершана пластычным шатровым дахам з «заломам» і слухавымі вокнамі. У архітэктуры гэтых інжынерных збудаванняў з вялікай тэктанічнай дасканаласцю ўвасоблены былі іх функцыянальныя прызначэнні.

Вось такі лёс нашых старых вакзалаў. Жыхары Бельска, калі жадаюць паглядзець на вакзал, які некалі быў у іх горадзе, могуць наведаць Слонім. Праўда, з гадамі чуць-чуць знешні выгляд будынка змяніўся, тым болей, што нядаўна вакзал у Слоніме капітальна адрамантавалі

## СЛОНІМСКІЯ КАРАНІ ФРАНЦУЗСКАГА ПАЭТА

З вёскі Кастровічы Слонімскага раёна бярэ пачатак вядомы беларускі род Кастравіцкіх. Згадваецца ён яшчэ ў летапісах 1600 года. Род меў свой герб Байбуза (змяя, якая спускаецца па страле з трыма грыбамі).

Адзін з прадстаўнікоў роду Кастравіцкіх яшчэ ў XVII стагоддзі атрымаў тытул стражніка мсціслаўскага, а яго сыну Яну дастаўся ў спадчыну маёнтак у Мінскім ваяводстве.

Сам Ян Кастравіцкі быў намеснікам суддзі. А Антоні Кастравіцкі ў 1718 годзе быў нават войтам мінскім.

У канцы XVII — першай палове XVIII стагоддзя Кастравіцкія валодалі некалькімі маёнткамі на Беларусі. Жылі Кастравіцкія не толькі на Слонімшчыне, але і на Навагрудчыне, Койданаўшчыне і ў іншых мясцінах.

З гэтага роду паходзіў і Міхал Апалінарый Кастравіцкі — дзед класіка французскай паэзіі Гіёма Апалінэра. Дзед быў збяднелым дваранінам, чалавекам дэмакратычных поглядаў. Ён разам са сваімі братамі Юзафам і Адамам прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863 года.

За гэта царскія ўлады выслалі Кастравіцкіх у Сібір, але Міхалу Кастравіцкаму з сям'ёй удалося ўцячы ў Італію. Там, у Рыме, у 1880 годзе ў яго дачкі Ангелікі нарадзіўся пазашлюбны сын Вільгельм Кастравіцкі — будучы вялікі паэт Францыі Гіём Апалінэр.

Амаль усё жыццё наш далёкі продак за мяжою не меў юрыдычных правоў, бо быў сынам рэвалюцыянера-эмігранта. Працаваў на розных работах: то канторшчыкам, то хатнім настаўнікам, пісаў то ананімныя творы, то раманы на заказ. Добраахвотнікам пайшоў на фронт, дзе атрымаў цяжкае раненне, пасля чаго Вільгельм атрымаў французскае грамадзянства.

Першыя вершы ў французскім друку пад сваім уласным прозвішчам Вільгельм Кастравіцкі апублікаваў у 1901 годзе. Пасля пачалі з'яўляцца творы пад яго літаратурным псеўданімам Гіём Апалінэр.

Праз 10 гадоў у Парыжы выходзіць з друку яго першы паэтычны зборнік «Бестыярый, або Картэж Арфея» — кніга невялікіх вершаў пра

жывёл. Вось як гучыць верш «Заяц» па-беларуску ў перакладзе Эдзі Агняцвет:

Не будзь, як заяц той, юрлівы,
Ці палюбоўнік палахлівы.
Хай мозг працуе з сэрцам згодны
І, як зайчыха, будзе плодны.

Дарэчы, Эдзі Агняцвет пераклала шмат вершаў нашага земляка. І ў 1973 годзе ў Мінску з друку выйшаў на беларускай мове паэтычны зборнік Гіёма Апалінэра «Зямны акіян».

Пасля выхаду ў Парыжы першай паэтычнай кнігі Апалінэр становіцца папулярным і вядомым у Францыі паэтам. Рэгулярна выходзяць з друку яго кнігі, інтэрв'ю, апавяданні, артыкулы. Ён знаёміцца з многімі вялікімі людзьмі Францыі, шчыра сябруе з Пікасо, сам спрабуе маляваць і цікавіцца сучасным мастацтвам.

Побач з паэтам заўсёды была яго маці Ангеліка. Гэта яна расказвала сыну пра радзіму яго дзядоў і прадзедаў, спявала сыну беларускія песні. І Гіём Апалінэр пра гэта добра ведаў. Але пабываць у Беларусі, а тым больш на Слонімшчыне, яму не ўдалося.

Даследчыкі беларускай літаратуры сцвярджаюць, што дзед Апалінэра і бацька беларускага паэта Каруся Каганца былі стрыечнымі братамі. А бабцы паэта — Людвісі Кастравіцкай — вялікі Адам Міцкевіч прысвячаў нават свае вершы.

## ПУСЛОЎСКІЯ І АЛЬБЯРЦІН

Альбярцін — адзін з найпрыгажэйшых мікрараёнаў старажытнага горада Слоніма. А ў мінулых стагоддзях Альбярцін быў маёнткам, мястэчкам, пасёлкам. Сёння слонімскі мікрараён Альбярцін вядомы сваім кардонна-папяровым заводам — буйным прадпрыемствам Беларусі. Мінаючы яго, пераязджаеш мост праз рэчку Ісу. З правага боку — на першы позірк, даволі непрыкметны паварот, у канцы якога відаць белыя слупы брамы — праз яе можна заехаць да сядзібы Пуслоўскіх.

Дзякаваць Богу, да сённяшніх дзён захаваліся палац, стайня, флігелі, акружаныя вялікім паркам. Побач знаходзіцца возера са сціплым вадаспадам, далей пачынаецца лес. Кіламетраў чатыры ад маёнтка Пуслоўскіх у лесе можна ўбачыць яшчэ адзін помнік прыроды — расколаты камень-валун. Ён больш за тры метры ў вышыню, тры з паловай метры ў шырыню і ў даўжыню.

Сярод слонімцаў бытуе легенда, што неяк вяртаўся пан Пуслоўскі з лецішча ў свой маёнтак у Альбярцін. У дарозе яго застала навальніца. Фаэтон Пуслоўскага спыніўся каля самага каменя-валуна. У гэты момант моцна стукнула маланка і трапіла проста ў камень, які ад удару раскалоўся на дзве часткі.

Два тыдні ў маёнтку Пуслоўскіх гарэлі свечкі ў знак таго, што камень выратаваў пана. Спадар Пуслоўскі пасля загадаў паставіць на камені крыж.

Аднойчы слугі Пуслоўскага спрабавалі нават даведацца, на колькі метраў валун знаходзіцца ў зямлі. Яны пракапалі ўглыб на некалькі метраў зямлю, але асновы так і не знайшлі. Пан загадаў спыніць гэту работу і засыпаць яму. Што слугі і зрабілі.

Сёння людзі кажуць, што некалі ў шчыліну расколатага каменя магла ўлезці толькі рука. А цяпер шчыліна стала шырынёй больш як метр. Мабыць, быў на камені і крыж, бо зверху яго ёсць паглыбленне.

Альбярцін — як памешчыцкая сядзіба, так і сама назва — з’явіўся ў палове XIX стагоддзя. Да гэтага часу быў там толькі фальварак, які належаў да Вялікіх Шылавічаў (Шыдловічаў), дзе знаходзілася першапачатковая сядзіба. Паводле існуючага да Першай сусветнай вайны ў Альбярціне архіва, самая даўняя згадка пра Шылавічы адносіцца да паловы XV стагоддзя. Датычыла яна перадачы мясцовай маёмасці ў якасці пасагу дачцэ князя Пяцігорскага, калі тая выходзіла замуж за Юндзіла. Чарговая заценка датаваная канцом XVI стагоддзя сведчыць, што чарговы ўладальнік Няміра прадаў Шылавічы канцлеру Вялікага Княства Літоўскага Льву Сапегу. Сапега купіў яшчэ ў Паўла Верашчакі суседнія Якімавічы. Пасля памерлай у 1667 годзе Анны Сапяжанкі Шылавічы атрымаў яе апякун Гіляры Палубінскі, маршалак Вялікага Княства Літоўскага, які прадаў іх у 1679 годзе Ганне з Копцяў Сапяжанцы, а Якімавічы, Шастакі і Ісаевічы — Цыпрыяну Паўлу Бжастоўскаму (памёр у 1688), рэферэндару Вялікага Княства Літоўскага. Неўзабаве адкупіў ён ад Сапегаў таксама і Шылавічы, а ягоныя патомкі далі пачатак г. зв. «шылавіцкай» галіне (S. K. Kossakowski. Monografie historyczno-genealogiczne niektórych rodzin polskich. Warszawa, 1876. S. 2).

У Бжастоўскіх у 1809 годзе Шылавічы купіў Войцех Пуслоўскі (1762–1833), маршалак слонімскі, дэпутат Чатырохгадовага сейма, жанаты з княгіняй Юзэфай Друцкай-Любецкай, дачкой Францішка, кашталяна пінскага, сястрой міністра Ксаверыя. Пасля яго маёмасць дасталася ў спадчыну сыну Уладзіславу (1801–1859), які быў жанаты з княгіняй Генавефай Друцкай-Любецкай, дачкой міністра. Затым гэтая маёмасць перайшла ў спадчыну ўнуку Францішку Ксаверыю (1847–1908), які ажаніўся з Леантынай Влодэк. Апошнім уладальнікам Шылавіч, Альбярціна і палескіх маёмасцяў быў сын Францішка Ксаверыя — Уладзіслаў Пуслоўскі (1871–1964), жанаты з Крысцінай Марыяй, княгіняй Піньятэлі д’Арагон. Купіўшы Шылавічы, якія тады называлі «графствам», Войцех Пуслоўскі асеў у існуючай там, ужо з часоў Бжастоўскіх, сядзібе. На тэму яго знешняга выгляду не захавалася ніякіх звестак, бо гэты будынак згарэў неўзабаве пасля 1833 года. Пражываючы ў Шылавічах, Войцех Пуслоўскі значна разбудаваў невялікі фабрычны пасёлак, які знаходзіўся побач. У гэты пасёлак перавёз з Хомска суконную і дывановую фабрыкі, а таксама ўзвёў шэраг іншых будынкаў у «аляксандраўскім» стылі. Адным з такіх будынкаў быў таксама двухпавярховы мураваны дом.

Пасля пажару сядзібы, калі не было дзе жыць, чарговы ўладальнік Шылавіч Уладзіслаў Пуслоўскі вырашыў пабудаваць новае жыллё ў іншым месцы. Пачаткам яго меў быць менавіта стары мураваны дом. Дабудаваў тады да яго пад прамым вуглом новае крыло, якое, паводле ягонага праекта, павінна было быць цэнтральным, прадстаўнічым корпусам. З правага боку планавалася дабудаваць трэцяе крыло, падобнае на колішні мураваны дом. Аднак гэтых планаў Уладзіславу Пуслоўскаму поўнасцю не ўдалося здзейсніць, бо ў выніку канфлікту з князем Паскевічам вымушаны ён быў на доўгі час пакінуць краіну.

Пра сам Альбярцін захаваліся звесткі, што так назваў свой маёнтак Войцех Пуслоўскі ў гонар сына Альберта. Але сына з імем Альберт у Пуслоўскага не было. Ён меў чатырох сыноў — Уладзіслава (1801–1859), Адама Тытуса (Цітуса) (1803–1854), Францішка Ксаверыя (1806–1874), Вандаліна (1814–1884) і дзвюх дачок — Генафему і Марту.

Па іншых крыніцах, Войцех Пуслоўскі меў пяцярых сыноў. Але даследчыкі, магчыма, блытаюць, бо лічаць, што Францішак — гэта адзін сын, а Ксаверый — другі.

Сам Войцех Пуслоўскі (1762–1833) нарадзіўся ў Песках на поўдні былога Слонімскага павета (цяпер Бярозаўскі раён Брэсцкай вобласці). Скончыў павятовую школу камісіі народнай адукацыі ў Слоніме. Быў дэпутатам Трыбунала Вялікага Княства Літоўскага, маршалкам Слонімскага павета. Валодаў маёнткамі Пескі, Шылавічы, Альбярцін, Сынковічы, Шулякі, Косава, Міхалін Слонімскага павета і іншымі. У Слоніме меў добрую сядзібу, а ў Вільні — Антаколь і палац.

Дзякуючы Войцеху Пуслоўскаму, у першай палове XIX стагоддзя ў маёнтку Альбярцін былі пабудаваныя палац, флігель, стайня, закладзены парк, адкрыты некалькі прадпрыемстваў і г. д.

Уладзіслаў Пуслоўскі (1801–1859) нарадзіўся ў Шылавічах (Шыдловічах). Калі маёнтах у Шылавічах згарэў, ён пераехаў у новую рэзідэнцыю — Альбярцін, дзе і гаспадарыў пэўны час.

Пуслоўскі Адам Тытус (Цітус) (1803–1854) нарадзіўся ў Песках Слонімскага павета, служыў у войску, а пасля асеў у маёнтку Плянта на Піншчыне. У час паўстання 1830–1831 гадоў узначальваў паўстанцкія атрады Пінскага павета. У апошнія гады свайго жыцця жыў у Прусіі і Францыі.

Пуслоўскі Францішак Ксаверый (1806–1874) скончыў Калегіум нобіліум у Варшаве. Падарожнічаў па Германіі, Англіі, Францыі, Італіі. У 1830-х гадах быў маршалкам Слонімскага павета. У палацы ў Крулікарні пад Варшавай сабраў калекцыю карцін, бронзавай і мармуровай скульптуры, гравюр, габеленаў, бібліятэку.

У 1853–1859 гадах Францішак Пуслоўскі быў намеснікам старшыні, а ў 1862–1864 і 1867–1868 гадах — старшынёй Варшаўскага Таварыства Дабрачыннасці. У 1856 годзе галоўным з фундатарскіх праектаў Пуслоўскага стаў касцёл Святога Міхала на вуліцы Пулаўскай у Варшаве. А ў 1865 годзе Пуслоўскі пабудаваў за ўласныя грошы вялікую капліцу на тэрыторыі парку ў Крулікарні. Капліца была шыкоўна аздоблена,

у галоўным алтары знаходзіўся абраз Юзафа Сімлера. У 1865 годзе Пуслоўскі разам з Я. Блохам, Л. Кроненбергам, Л. Натансанам стаў арганізатарам справы па будаўніцтву дамоў для рамеснікаў і рабочых. Пуслоўскі быў камергерам расійскага двара, а ў 1871 годзе папа Пій IX надаў яму (і яго брату Вандаліну) тытул графа рымскага. Памёр Пуслоўскі Францішак Ксаверый у Варшаве і там пахаваны ў склепе касцёла Святога Аляксандра.

Вандалін Пуслоўскі (1814–1884) з'яўляўся ўладальнікам Косава, дзе збудаваў палац. Быў вялікім калекцыянерам і аматарам мастацтва. Пасля смерці брата Францішка Ксаверыя валодаў Крулікарняй.

Зыгмунт Пуслоўскі (1849–1913) — сын Уладзіслава і ўнук Войцеха Пуслоўскіх. Атрымаў у спадчыну ад бацькі вялікія маёнткі. Быў калекцыянерам мастацкіх твораў. Памёр у Альбярціне…

Усе войны апошніх двух стагоддзяў не міналі Альбярціна. 19 ліпеня 1812 года праз Альбярцін адступала Другая руская армія пад кіраўніцтвам Пятра Баграціёна. Пасля яе адступлення ў палацы Пуслоўскіх месціўся штаб 12-га аўстрыйскага корпуса генерала Г. Шварцэнберга. Войцех Пуслоўскі і яго сям'я падтрымлівалі французскую армію Напалеона Банапарта, які паабяцаў аднавіць Вялікае Княства Літоўскае. Пры фінансавай падтрымцы Пуслоўскіх ураджэнец Слонімскага павета генерал Ян Канопка сфарміраваў конны полк уланаў. Была яшчэ створана слонімская жандармерыя на чале з капітанам Юргашкам, а таксама гвардыя з 54 асоб. Французскую армію ў асноўным папаўнялі прадстаўнікі літоўскай (беларускай) шляхты. Калі 20 кастрычніка 1812 года ў Слонім уварваліся салдаты рускай арміі генерала Яфіма Чапліца, яны хацелі злавіць Яна Канопку, але гэта ім не ўдалося — ён і іншыя ліцвіны-вайскоўцы своечасова пакінулі Слонім, бо яго і генерала Яна Дамброўскага папярэдзілі Пуслоўскія аб небяспецы.

Пасля паспяховай аперацыі Чапліц, да прыходу асноўных сіл адмірала Чычагава, затрымаўся ў Альбярціне ў палацы Пуслоўскіх. Ці ведалі рускія, што Пуслоўскія падтрымлівалі Напалеона, — цяжка сказаць. Але Пуслоўскіх ніхто не зачапіў.

Праз 18 гадоў Войцех Пуслоўскі разам са сваімі сынамі і ўнукамі актыўна падтрымае шляхецкае паўстанне на Беларусі і Літве ў працяг паўстання ў Польшчы за адраджэнне Рэчы Паспалітай у межах 1772 года. Сын Войцеха Пуслоўскага — Цітус Пуслоўскі стварыць паўстанцкі атрад колькасцю каля 1000 чалавек. У атрадзе Цітуса было нямала рабочых і тэхнікаў з бацькавай суконнай фабрыкі. У атрадзе Міхала Валовіча найбольш было сялян. Сродкі для паўстанцаў давалі Войцех Пуслоўскі і бацька Міхала Валовіча — Казімір Валовіч. Валовіч-старэйшы нават заклаў свой маёнтак з землямі ў Пецярбургскай захоўнай казне за 30 150 рублёў.

На Беларусь для задушэння паўстання было сцягнута 125-тысячнае расійскае войска. Паўстанне было задушана. Цітусу Пуслоўскаму пашанцавала. Яго ў адміністрацыйным парадку выслалі ва Уфу, скуль праз пэўны час удалося ўцячы ў Прусію, а потым у Францыю. Вярнуўся Цітус у Альбярцін напрыканцы свайго жыцця, дзе ў 1854 годзе памёр у Песках.

У 1863–1864 гадах на Беларусі ўспыхнула новае паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Актыўна ствараліся паўстанцкія атрады і на Слонімшчыне, куды ўваходзілі прадстаўнікі беларускага дваранства — І. Стравінскі, Ф. Мікульскі, А. Кераноўскі, І. і З. Ягалкоўскія, А. Эйсмант і іншыя. Узначаленыя імі партызанскія атрады атрымлівалі правіянт, зброю, коней ад некаторых мясцовых багатых людзей, у тым ліку і ад Пуслоўскіх з Альбярціна. Але і тады ўсё скончылася паразай.

Пасля смерці Войцеха Пуслоўскага ўласнікамі Альбярціна сталі яго сыны і ўнукі. Унук Войцеха Пуслоўскага Уладзіслаў Пуслоўскі (1871–1964), які быў уласнікам Альбярціна да 1939 года, у пасёлку працягваў справу дзеда і таксама адкрыў шмат прадпрыемстваў. Пры ім у першыя дзесяцігоддзі XX стагоддзя Альбярцін стаў буйным прамысловым цэнтрам Навагрудчыны.

Самымі цяжкімі для Уладзіслава Пуслоўскага і Альбярціна былі Першая сусветная і польска-савецкая войны.

Першая сусветная вайна прымусіла Пуслоўскіх вывесці найбольш каштоўныя рэчы ў Маскву. Для гэтага спатрэбілася чатыры з паловай вагоны. Пасля вайны з вывезеных вагонаў назад удалося вярнуць толькі паўвагона, астатнія бясследна зніклі.

Падчас Першай сусветнай вайны ў палацы Пуслоўскіх жыў нямецкі камандуючы фронтам князь Леапольд Баварскі. У той час Альбярцін наведвалі прынц Караль (пазней — імператар Аўстрыі) і Вільгельм II. У палацы Пуслоўскіх знаходзіўся са сваім штабам і кайзераўскі генерал Воерж. Яму спадабаўся палац, парк і флігель Пуслоўскіх. Асабліва партрэты каралёў Рэчы Паспалітай, якія ўпрыгожвалі палац. Пра гэтыя карціны згадвае ў сваёй кнізе «Wycieczki Słonimskie» Станіслаў Лорэнц (Lorentz Stanisław. Wycieczki Słonimskie. Słonim, 1933. S. 17).

Адступаючы, генерал Воерж забраў з сабой 10 партрэтаў каралёў, і, магчыма, цяпер яны знаходзяцца ў прыватных калекцыях Германіі. Дарэчы, сам Войцех Пуслоўскі і яго сыны былі заўзятымі калекцыянерамі беларускай даўніны і кніг. Кнігазбор, з некалькіх тысяч тамоў, знаходзіўся ў асобнай вялікай зале, застаўленай навокал высокімі шафамі з чырвонага дрэва — дзевяць шафаў было ў стылі Луі-Філіпа, тры ў стылі дырэкторыі, упрыгожаныя бронзамі. Пустое месца займалі стэлажы, якія дасягалі столі. Некаторыя кніжкі, галоўным чынам польскія і італьянскія, захоўваліся з XVII стагоддзя, далей ішлі кнігі XVIII стагоддзя, энцыклапедычныя выданні, старыя атласы і старыя карты колішніх польскіх зямель. Самым каштоўным быў багаты архіў, які ўцалеў з пажару папярэдняга двара, — ён адносіўся да XV стагоддзя і датычыў усіх сем'яў, з якімі звязана было мінулае мясцовых маёнткаў. Сярод архіўных дакументаў былі пергаментныя каралеўскія наданні з подпісамі манархаў і пячаткамі, копіі Літоўскай метрыкі, карэспандэнцыя шэрагу пакаленняў, тастаменты, маёмасныя дакументы і іншыя. У бібліятэцы стаяў таксама тэлескоп з усімі астранамічнымі прыборамі, а таксам два шары — зямны і нябесны Адамса з Лондана з 1880 года.

Асабліва гэтым захапляліся Вандалін і Францішак Пуслоўскія. Але за часы нямецка-польска-савецкай акупацыі 1914–1945 гадоў палац Пуслоўскіх у Альбярціне апусцеў.

Сёе-тое Пуслоўскім удалося вывезці ў Вялікабрытанію і Францыю. Але большая частка альбярцінскіх каштоўнасцей (абсталяванне прадпрыемстваў, калекцыі карцін, бронзавай і мармуровай скульптуры, гравюр і габеленаў, кнігі) паехалі ў Германію і Расію.

У 1996 годзе польская даследчыца Уршуля Пашкевіч знайшла ў Торуні каталог, дакладней інвентар кнігазбору з альбярцінскага палаца Пуслоўскіх (21 старонка ненумараваная). Усе кнігі былі пазначаны экслібрысам Ex-librys Francisci Puslowski (Paszkiewicz U. Rękopiśmienne inwentarze i katalogi bibliotek z ziem Wschodnich Rzeczypospolitej. Warszawa, 1996. S.12).

Лёс багатага і значнага кнігазбору Пуслоўскіх вельмі складаны, і пуцявіны яго заблытаў не менш складаны час. Цяпер кнігі з экслібрысамі, пячаткамі, штампамі вялікай сям'і Пуслоўскіх можна сустрэць у бібліятэках Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі і далёкага замежжа. Напрыклад, у кнігазборы Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея прыватная калекцыя Пуслоўскіх адна з найбольш значных. Тут захоўваецца звыш шасці тысяч тамоў па самых розных галінах ведаў: філасофіі, тэалогіі, гісторыі, прыродазнаўству. Яшчэ ў 1879 годзе Вандалін Пуслоўскі падараваў бібліятэцы Акадэміі Мастацтваў у Кракаве 30 тамоў рукапісаў XVII–XVIII стагоддзяў, а таксама аўтографы, пісьмы і г. д. (Słownik pracowników książki Polskiej. Warszawa; Łódź, 1986. S. 180).

Пасля Першай сусветнай вайны з бежанства з Расіі паціху пачалі вяртацца людзі ў родны Альбярцін. Толькі не ўсе. Многія загінулі ў дарозе і ў далёкай галоднай Расіі, некаторыя там засталіся жыць. Але большасць з іх дабіралася дадому. І тыя, хто вяртаўся ў Альбярцін, зноў на працу прыходзілі да Уладзіслава Пуслоўскага. І ён іх браў, даваў не толькі працу, але і жыллё, хатнюю жыўнасць, трохі зямлі. Уладзіслаў Пуслоўскі быў шчырым, добрым, простым чалавекам. Дапамагаў ён фінансамі і сваім сваякам, даваў ім каштоўныя парады, найперш звязаныя з зямлёй і лесам. Вось як успамінае адзін са сваіх прыездаў да Уладзіслава Пуслоўскага ў Альбярцін яго сваяк Юзаф Гадлеўскі ў кнізе ўспамінаў «На пераломе эпох», якая выйшла на польскай мове ў Лондане ў 1978 годзе: «Прыехалі мы ў Альбярцін у мароз. Снегу было па калена. Дзядзька з жонкай прынялі нас вельмі гасцінна. Атрымалі мы пакой з відам на маляўнічае альбярцінскае возера, якое было замерзлае і моцна пакрытае снегам.

Палац у Альбярціне абсталяваны быў мэбляй, дастаўленай з Рацінева, з Памор'я, часткова неадкладна дакупленай. У час вайны (маецца на ўвазе Першай сусветнай вайны. — *С. Ч.*) Альбярцін быў дашчэнту аграблены войскам і насельніцтвам. У палацы было цёпла і ўтульна, а кафельныя печы і каміны прыемна абагравалі вялікія пакоі, ствараючы атмасферу цішыні і спакою.

Толькі пасля некалькіх дзён, калі мы адпачылі пасля падарожжа, дзядзька забраў мяне ў свой офіс, паказаў мне планы сваіх уладанняў

і даў мне да выбару некалькі аб'ектаў. Сярод іх былі: Ніва, Ніннічы на Палессі, Басіны, Шыдловічы (маецца на ўвазе вёска Шылавічы, якая так называецца цяпер. — *С. Ч.*) і Сынковічы з фальваркамі ў Слонімскім павеце. Падчас гутаркі дзядзька апісваў мясцовыя ўмовы, глебу, ураджайнасць, стан паасобных аб'ектаў, а таксама банкаўскія і сервітутныя запазычанасці і г. д.

З-за мяцеліцы нам давялося чакаць пару дзён, пакуль не расчысцяць дарог, каб можна было даехаць па чарзе ў Басіны, Шыдловічы і Сынковічы, да якіх недалёка ад Альбярціна.

Нарэшце наступіла добрае надвор'е, і мы пачалі агляд паасобных маёнткаў. Спачатку паехалі мы ў Шыдловічы, якія знаходзіліся над самай Шчарай, у пяці кіламетрах ад Слоніма. Шыдловічы былі вельмі знішчаныя пасля вайны. Забудова, апрача мураванай аборы, стайні і некалькіх баракаў, была спалена. Фальварак над Шчарай меў часткова падмоклыя і заліўныя сенажаці, землі былі сярэднеўраджайныя, месцам пясчаныя. На кожным кроку бачны былі ваенныя знішчэнні — разваліны вінакурні і забудовы… У лесе таксама відаць сляды рабаўнічай гаспадаркі як расіян, так і немцаў… Агульнае ўражанне было прыгнятальнае, асабліва таму, што фальварак пазбаўлены быў дрэў, апрача адной вольхі над невялічкай дрыгвой…

Вярталіся мы праз Слонім. Тры чвэрці насельніцтва гэтага мястэчка складалі яўрэі. У час Першай сусветнай вайны большая частка яго згарэла, ад дамоў засталіся толькі счарнелыя коміны. Але і тут відаць былі новыя ўзведзеныя домікі і камянічкі. Паволі зажывалі раны, атрыманыя падчас вайны.

На другі дзень адправіліся мы з тым самым фурманам Войцехам у Сынковічы. Фурман расказваў нам па дарозе свае ваенныя прыгоды, асабліва небяспечныя здарэнні з немцамі. Расказваў таксама і пра мясцовыя прыгоды. На кожным кроку бачны былі ваенныя знішчэнні. Людзі вярталіся з бежанства з Расіі і, не знаходзячы сваіх сядзіб, туліліся ў зямлянках, без акон, з часовым комінам з паржавелай бляхі. Мінулі мы фальварак Грыбава, уладальнікам якога быў расіянін Заградзін, потым пераязджалі праз вёску Чамяры — надта русіфікаванай, з насельніцтвам, прыхільным да камунізму.

Нарэшце мы ўехалі ў лес — з аднаго боку цягнулася палоска казённых лясоў, а з другога — будучых уласнасцю Сынковічаў. Былі гэта змешаныя лясы, а менавіта: яліны, сосны, грабы, дубы, ясені, а таксама алешнік. Немцы не ўсё перацерабілі. Сынковічы знаходзіліся далей ад чыгункі, а насельніцтва падалося ў бежанства. Не хапала рабочых рук і коней, неабходных для вывазкі драўніны.

Від дрэў паказваў, што глеба і падглеба былі разнароднымі, але зусім не дрэнныя. Лес быў даволі шчыльны, падлесак у ім складалі ядловец, ракітнік і ляшчына. Фурман Войцех паведаміў нам, што сасновы ўзгорак называецца Хваінка. Калі мы толькі яго мінулі, паказалася забудова, а дакладней кажучы, рэшткі забудовы Сынковіч. Гэта былі Сынковічы другія, якія знаходзілася паўкіламетра ад шашы. Пазней называлі мы іх

Піяцкімі альбо Вінакурнымі. У адрозненне ад Сынковіч першых, якія атрымалі назву Графскія альбо Касцельныя. Сынковічы першыя ляжалі трохі далей, пры колішнім тракце.

Дарога ў фальварак не была расчышчана, і коні, фыркаючы, ледзь заехалі па глыбокім снезе ў двор.

Пуслоўскія ў асноўным ворную зямлю здавалі ў арэнду, а ў сваім распараджэнні захоўвалі лясы. Толькі Альбярцін, Пескі і Шыдловічы апрацоўвалі самі, ставячыся да іх, як да месца сваёй сельскагаспадарчай практыкі…» (Godlewski Józef. Na przełomie epok. Londyn, 1978. S. 260–262. Пераклад на беларускую мову Віталя Лубы).

Вельмі актыўна і весела праходзіла ў Альбярціне і свецкае жыццё Пуслоўскіх. Яны былі даволі гасціннымі людзьмі. Таму вельмі часта ў альбярцінскім маёнтку збіраліся госці з усёй Еўропы. А сын Уладзіслава Пуслоўскага — Ксаверый быў яшчэ заўзятым паляўнічым. Калі прыязджалі госці, ён арганізоўваў грандыёзнае паляванне, у якім прымалі ўдзел усе госці. Калі паляванне завяршалася, першым дамоў вяртаўся ляснік. Ён трубіў у ражок, нагадваючы ўсім, што паляванне прайшло дужа паспяхова. Праз пэўны час з палявання вярталіся гаспадары і госці. Перад палацам, насупраць цэнтральнага ўваходу, аматары палявання раскладвалі вялікае вогнішча і клалі вакол яго свае трафеі: дзікоў, лісіц, ваўкоў, зайцаў. А потым пачынаўся пір, які працягваўся да самай раніцы. Госці весяліліся каля палаца і ў самім будынку. Галоўны ўваход палаца аформлены скульптурамі ляжачых львоў — дэкаратыўны элемент архітэктуры класіцызму першай паловы XIX стагоддзя. Аўтарам гэтых ільвоў быў вялікі італьянскі скульптар Антоніа Канова (1757–1822). Той скульптар, імя якога Папа Пій VII загадаў упісаць у Залатую кнігу Капітолія і надаў яму тытул маркіза д'Іскіа. Самыя вялікія яго працы цяпер знаходзяцца ў парыжскім Луўры і ў пецярбургскім Эрмітажы. Відаць, Антоніа Канова быў добра знаёмы яшчэ з Войцехам Пуслоўскім, па просьбе якога былі зроблены гэтыя шыкоўныя скульптуры. Яшчэ два венецыянскія львы стаялі каля ўвахода на тэрасу. Але яны да сённяшніх дзён у Альбярціне не зберагліся.

У самім палацы сцяну ў кабінеце Пуслоўскага над камінам распісваў вядомы мастак Францішак Жмурка. У доме быў вялікі набор старой мэблі, калекцыя фарфору, адзення і мундзіраў, пачынаючы з канца XVIII стагоддзя. Наведвальнікам надоўга запаміналася кітайская хатка з бронзы, вышынёй 2,5 метраў, якая асвятлялася срэбранымі званочкамі, а таксама шэсць мармуровых бюстаў на міфалагічныя тэмы канца XVIII стагоддзя і г. д.

На першым паверсе будынка пры жыцці Пуслоўскіх знаходзілася вялікая зала для трапезы. Былі тут яшчэ танцавальная зала і пакоі аканомкі і пакаёўкі. А на другім паверсе — спальня гаспадароў і шматлікія пакоі для гасцей. Пад палацам быў вінны склеп, а пад службовым флігелем — склеп, дзе захоўваліся прадукты. У службовым флігелі месціліся кухня, сталовая для службовага персаналу, хлебапякарня, пральня і пакой, дзе жыў повар. На другім паверсе жылі слугі. Уладзіслаў Пуслоўскі меў

свой уласны аўтамабіль і шафёра, які яго вазіў і абслугоўваў аўтамабіль. У стайні гаспадар трымаў дарагіх коней…

У 1990-х гадах у Слоніме пашчаслівілася пазнаёміцца з Іванам Катко, які два гады, пачынаючы з 1937 года, працаваў у Пуслоўскага пастухом. Ён пагадзіўся адказаць на некаторыя мае пытанні, якія вельмі дапаўняюць мой матэрыял пра Пуслоўскіх і Альбярцін. Памяць, праўда, не ўсё захавала з той пары. Але падчас гутаркі Іван Герасімавіч Катко сёе-тое ўспомніў.

— Давайце пачнём нашу гутарку са знаёмства з вамі. Вы адкуль родам, Іван Герасімавіч?

— Мае бацькі родам з вёскі Савічы Слонімскага раёна. У 1927 годзе ў іх нарадзіўся я. І калі мне споўнілася шэсць гадоў, пайшоў у польскую школу. Скончыў чатыры класы. Неяк аднойчы да бацькі прыходзіць ляснік Кастусь Сітнік і кажа, што пан Уладзіслаў Пуслоўскі шукае добрага пастуха, каб змог пасвіць чатырнаццаць яго цялят. Ну і адначасова дазваляў пасвіць і сваіх кароў. А ў нас тады былі дзве каровы і цялушка. І бацька пагадзіўся, але запытаўся пра плату.

— І колькі Пуслоўскі за гэта плаціў?

— За сезон плаціў 6 злотых за адну цялушку, а ўсіх было 14 жывёл. Памножце 6 на 14 — атрымліваецца 84 злотыя.

— Гэта на той час былі вялікія грошы ці не?

— За 6 злотых у 1930-я гады мінулага стагоддзя можна было купіць 3 бутэлькі гарэлкі. Добрыя боты каштавалі 7 злотых, касцюм — 14 злотых. А карову можна было купіць за 60–70 злотых.

— Значыць, для сям'і быў нядрэнны заробак?

— Нядрэнны, таму і прыйшлося мне тых цялят пасвіць да верасня 1939 года. Цяляты знаходзіліся ў лесніка Сітніка, і я кожны дзень са свайго хутара Зарэчча прыходзіў туды, выганяў цялят і пасвіў іх па лесе. Акрамя заробку, Пуслоўскі дазваляў майму бацьку бясплатна нарыхтоўваць для сябе дровы.

— А чым займаўся ваш бацька?

— Мой бацька быў бондарам: вырабляў з дрэва бочкі, балеі, лыжкі, вокны, дзверы, вуллі. Яму патрабаваўся лес. І Пуслоўскі бясплатна яго даваў.

— Ці цяжка было працаваць пастухом?

— Нялёгка. Але я ніколі цялят у лесе не губляў. Я іх так да сябе прывучыў, што яны заўсёды былі побач. На дзвюх цялушках нават катаўся. А выганяў іх да ўсходу сонца. Неяк праспаў і спазніўся, каб своечасова выгнаць жывёл на пашу, дык мяне Сітнік за гэта добра набіў кіем. Бацька паехаў і паскардзіўся наконт гэтага пану Пуслоўскаму. Пан моцна лаяў Сітніка.

— А ці сустракаліся вы з самім Уладзіславам Пуслоўскім?

— Сустракаўся. Ён часта наведваўся да ляснічага ў такой лёгкай карэце. Сустракаўся і з яго сынам Ксаверыем, які прыязджаў у Савіцкі лес на паляванне. Але сын быў разбэшчаны, любіў выпіць і пагуляць з жанчынамі.

— На якой мове размаўляў пан Пуслоўскі?

— Ён размаўляў толькі на беларускай мове. Можа, з багатымі на фэстах гутарыў па-польску, але я чуў ад яго толькі беларускую мову.

— А ў палацы Пуслоўскага ў Альбярціне вам не пашанцавала пабываць?

— Быў з бацькам і ў Альбярціне, у канторы Пуслоўскага, дзе бацька атрымліваў за мяне заробак. Але ў самім палацы пабываць не давялося. Тады ў Альбярціне было ўсё вельмі прыгожа, чыста, культурна. Ды і пан Пуслоўскі да людзей адносіўся дужа шчыра, добра, па чалавечы міла. Калі ў каго было якое няшчасце — заўсёды дапамагаў. Хата згарыць — дасць бясплатна лесу, карова здохне — купіць карову. Людзі яго вельмі паважалі і любілі за такую дабрыню.

— А ці памятаеце, як Пуслоўскія ў 1939 годзе пакінулі Альбярцін?

— Не, не памятаю. Але мне расказваў бацька, што за два тыдні да прыходу ў Слонім бальшавікоў усе Пуслоўскія на цягніку выехалі кудысьці на Захад, мусіць у Францыю і ў Англію…

Сапраўды, у самым пачатку верасня 1939 года Уладзіслаў Пуслоўскі з сям'ёй назаўсёды пакінуў Альбярцін. Месцам жыхарства ён выбраў Парыж. У пажылым веку (пражыў 93 гады) спадар Пуслоўскі захапляўся гістарычнымі даследаваннямі. Ён быў жанаты з Крысцінай Марыяй Піньятэлі д'Арагон, прадстаўніцай італьянска-іспанскага княжаскага роду (Polski slownik biograficzny. Wrocław, 1986. T. XXIX/3. Zesz. 122. S. 422).

Яны мелі сыноў — Францішка і Ксаверыя — і дачку Марыю (Крысціну). Францішак з 1939 года жыў у ЗША, працаваў у Польскім інстытуце ў Нью-Ёрку, а Ксаверый пасяліўся ў Іспаніі. Цяпер нашчадкі Пуслоўскіх жывуць у многіх краінах свету. І пра Альбярцін яны ведаюць з успамінаў сваіх бацькоў, дзядоў і прадзедаў, а бачаць яго толькі на старых сямейных фотаздымках.

## ІТАЛЬЯНСКАЯ КУРТЫЗАНКА СПЯВАЛА НА СЛОНІМСКАЙ СЦЭНЕ

У славутага ўкраінскага і рускага жывапісца XVIII — пачатку XIX стагоддзя Дзмітрыя Лявіцкага ёсць партрэт, на якім адлюстравана італьянская прымадонна Ганна Давія дэ Бярнуці. Карціна знаходзіцца ў расійскай Дзяржаўнай Трацякоўскай галерэі ў Маскве.

Дзякуючы карціне Дзмітрыя Лявіцкага слонімцы могуць сёння пазнаёміцца з вобразам той жанчыны, якая ў свой час спявала на сцэне слонімскага тэатра Міхала Казіміра Агінскага. А яшчэ гэтая прыдворная і таленавітая дама, куртызанка і авантурыстка вельмі любіла мужчын, асабліва таленавітых і багатых.

У 1776 годзе Ганна Давія дэ Бярнуці выступала ў Варшаве. Там яна пазнаёмілася з Міхалам Казімірам Агінскім. Тым больш, што гетман быў толькі на тры гады за яе старэйшы. Фліртт паміж Ганнай і Міхалам скончыўся тым, што спявачка дала згоду выступаць на сцэне слонімскага тэатра і тры гады жыць у Слоніме. Было нават падпісана пісьмовае пагадненне ад 1 сакавіка 1777 года, дзе вялася размова і пра месячны заро-

бак у 25 дукатаў з харчаваннем. Пра гэта згадвае і Анджэй Цеханавецкі ў сваёй кнізе «Michal Kazimierz Oginski und sein Musenhof zu Slonim» (Кёльн, 1961).

Спявачка прыехала ў Слонім і пачала працаваць у тэатры Агінскага. Але раптам, па невядомых сёння прычынах, пагадненне паміж Агінскім і Ганнай Давія дэ Бярнуці губляе сілу, і спявачка вяртаецца летам 1777 года ў Варшаву, дзе выступае ў операх «Маляр, закаханы ў сваю натуршчыцу» Грэтры і ў «Галантнай Патроне» Паізіела. Пра яе апошнюю вельмі ўдалую ролю згадвалі яшчэ ў 1785 годзе.

З Варшавы прыдворная дама едзе ў Гродна, дзе яна знаёміцца са сваім равеснікам Антоніем Тызенгаўзам. Ён прапаноўвае ёй працу ў сваім Гродзенскім тэатры Тызенгаўза. І Ганна Давія дэ Бярнуці пагаджаецца. Пэўны час яна працуе ў Гродне, але ў 1781 годзе «першая спявачка оперы-буф і другая — сур'ёзнай оперы» едзе ў Санкт-Пецярбург, дзе мае вялікі сцэнічны поспех. І не толькі…

У горадзе на Няве спявачка знаёміцца з многімі вядомымі і багатымі асобамі. Адным з першых, з кім пазнаёмілася Ганна, быў мастак Дзмітрый Лявіцкі. Майстэрства яго як мастака характарызуецца лёгкасцю ў перадачы разнастайнасці душэўнага стану тых герояў, якіх ён ствараў. Глыбокая павага Лявіцкага да асобы чалавека адчувальна адбіваецца ў яго партрэтах. Поруч з тонкай натхнёнасцю, адзначанай пэндзлем мастака, ён быў здольны выразіць і менш глыбокі, а часам проста бяздушны ўнутраны свет сваёй мадэлі. Такім атрымаўся і партрэт Ганны Давія дэ Бярнуці, намаляваны алеем на палатне ў 1782 годзе.

У Санкт-Пецярбургу куртызанка і спакусніца становіцца каханкаю князя А. А. Безбародзькі. За яе «каханне» князь траціць на Ганну вялікія грошы: ён плоціць ёй кожны месяц па 8 тысяч залатых рублёў. А калі спявачка едзе на адпачынак у Італію, то яе забяспечвае не толькі грашыма, але і каштоўнасцямі. Пра гэта даведалася Кацярына II і вельмі раззлавалася. За 24 гадзіны яна выслала красуню з Расіі.

Пасля Санкт-Пецярбурга Ганна Давія дэ Бярнуці зноў прыязджае ў Слонім і выступае на сцэне тэатра Агінскага. У спісах артыстаў капэлы Агінскага за 1785 год ёсць і яе прозвішча.

Час ад'езду Ганны Давія дэ Бярнуці з нашай дзяржавы застаецца невядомы. Ва ўсякім выпадку ў 1792 годзе спакусніца-артыстка ўжо жыве і выступае ў Неапалі. Але ўжо не як спявачка, а як камедыйная артыстка. Яна пражыла 78 гадоў, і ў яе жыцці было што і каго ўспомніць.

# ГЕНЕРАЛ ЯН КАНОПКА

У 1812 годзе супраць расійскіх войскаў на баку Банапарта Напалеона выступалі пяць ліцвінскіх палкоў пяхоты і чатыры ўланскія палкі. Адным з напалеонаўскіх военачальнікаў і арганізатарам славутай імператарскай гвардыі быў мой зямляк са Слонімшчыны генерал Ян Канопка.

Нарадзіўся Ян Канопка ў маёнтку Скоўдзічы Слонімскага павета 27 снежня 1777 года (па іншых звестках 1775 года) у сям'і ліцвінскіх (беларускіх) шляхцічаў Францішка і Ганны Канопкаў. З маленства Ян марыць сваё жыццё звязаць з арміяй. І калі яму споўнілася 15 гадоў, ён пайшоў на вайсковую службу ў Другі ўланскі полк і змагаўся супраць расійскіх войск ў складзе Восьмай украінскай брыгады Народнай кавалерыі, якою кіраваў генерал Станіслаў Макраноўскі. Малады Ян Канопка спадабаўся генералу Макраноўскаму сваёй смеласцю і рашучасцю, асабліва ён вызначыўся ў бітвах пры Барушкаўцах і Зелянцах.

Калі пачалося паўстанне 1794 года пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, да свайго земляка далучыўся і Ян Канопка. Ён, разам з Касцюшкам, падпісаў Акт паўстання, і на кракаўскім рынку даў прысягу на вернасць паўстанню. Ён, як і Тадэвуш Касцюшка, пакляўся змагацца за непарушнасць Рэчы Паспалітай, устанаўленне самаўладдзя народа і ўсеагульную свабоду. Спачатку Ян Канопка вызначыўся пры абароне Варшавы, пасля чаго атрымаў званне лейтэнанта. Лейтэнант Канопка едзе на Літву і далучаецца да дывізіі Серакоўскага. У бітве пад Мацяёвіцамі паказаў сябе адважным воінам, хаця быў паранены ў руку. Восенню 1794 года за адвагу і мужнасць у баях, Тадэвуш Касцюшка яго ўзнагародзіў пярсцёнкам з надпісам: «Айчына свайму абаронцу».

Пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай, Ян Канопка эмігрыраваў у Францыю. Там смелы воін адразу паступіў на вайсковую службу ў Першы гусарскі полк, а 21 сакавіка 1796 года атрымаў званне сублейтэнанта. Падчас службы наш зямляк пазнаёміўся з капітанам Язэпам Сулкоўскім. Капітан Сулкоўскі ў Валезе меў гонар прадставіць Яна Канопку генералу Банапарту Напалеону. Напалеону спадабаўся Канопка, і генерал прызначыў яго на службу ў Легіён Ламбардыі (Legion de Lombardie) са званнем лейтэнанта.

З гэтай пары пачаліся нялёгкія вайсковыя і ваенныя будні Канопкі. Ён удзельнічае супраць краін Першай і Другой антыфранцузскай кааліцыі. 4 лютага 1797 года наш зямляк вызначыўся пры захопе аўстрыйскай батарэі пад Феанцэй, за што быў пераведзены ў званні капітана ў Першы грэнадзёрскі батальён польскіх легіёнаў. Пад кіраўніцтвам генералаў Шампіёне і Макдональда актыўна ўдзельнічае ў баявых дзеяннях супраць Неапалітанскага каралеўства, у складзе капітана Княжэвіча выдатна паказаў сябе ў баях пры Чывіта-Кастэлана, потым на рацэ Трэбіі, пры Боска і Нові. А пры Расіглiёне разам са сваімі 150 легіянерамі захапіў аўстрыйскую пазіцыю, якую абараняў гарнізон з дзвюх тысяч салдат.

Баявыя дзеянні і перамогі Яна Канопкі працягваюцца і тады, калі ён у 1800 годзе змагаецца на Дунаі пад камандаваннем Віктара Маро. За гэтыя заслугі ён становіцца шэфам батальёна і перамагае ў баях пры Гагенліндэне.

Спіс баявых дзеянняў і перамог нашага земляка Яна Канопкі можна працягваць. Пасля таго як быў заключаны мір, наш вайсковец служыць у Італіі шэфам эскадрона польскай кавалерыі генерала Аляксандра Ражнецкага, удзельнічае ў кампаніях 1805–1806 гадоў пад камандаваннем прынца Багарнэ.

У сакавіку 1807 года Ян Канопка ўжо маёр Пятага палка егераў, прымае ўдзел у Польскай кампаніі, а летам змагаецца пры Фрыдландзе, дзе яго полк захоплівае шмат палонных і 6 гармат. Канопка хутка займаецца рэарганізацыяй польска-італьянскага легіёна ў Першы ўланскі полк Віслінскага легіёна і ў званні палкоўніка яго ўзначальвае.

З 1808 года палкоўнік Ян Канопка змагаецца ў Іспаніі, удзельнічае ў аблозе Сарагосы, вызначаецца ў баях пры Тудзеле і Маллене, а таксама ў баявых аперацыях супраць партызан, якія называлі яго полк «пякельнымі піканосцамі».

У сакавіку 1809 года Яна Канопку выклікаюць у Парыж. Праўда, праз год ён прызначаецца камандзірам Віслінскага палка і восенню выступае супраць англа-іспанскіх пазіцый, умела атакуе брытанскую пяхотную брыгаду падпалкоўніка Джона Колбарна, якая знаходзілася на вялікім і недаступным узгорку. Яго вайскоўцы непрыкметна падняліся на ўзвышаную мясцовасць і пачалі з англічанамі біцца. Праз некалькі хвілін з 1600 салдат Колбарна былі забіты і паранены 1300 і захоплена 5 штандараў. 6 жніўня 1811 года за гэты подзвіг і за ўсе ранейшыя перамогі Яну Канопку было прысвоена званне брыгаднага генерала, ён быў узнагароджаны Залатым крыжам ордэна «Virtuti Militari»…

У 1772 годзе тры краіны — Расія, Аўстрыя і Прусія — дамовіліся паміж сабой падзяліць Рэч Паспалітую. Кожная з гэтых дзяржаў адарвала сабе частку чужой зямлі. Да Расіі былі далучаны ўсходнія землі Беларусі з Віцебскам, Магілёвам, Гомелем… Лепшыя людзі Вялікага Княства Літоўскага і Польшчы спрабавалі выратаваць сваю дзяржаву ад пагібелі. Шмат хто з беларусаў (ліцвінаў) спадзяваўся на Напалеона Банапарта, што менавіта ён дапаможа адрадзіць Вялікае Княства Літоўскае. Тым больш, што Напалеон у 1807 годзе стварыў Варшаўскае княства. А калі землі былога Вялікага Княства Літоўскага былі вызвалены з-пад расійскага прыгнёту, Напалеон утварыў і Камісію Часовага ўрада Вялікага Княства. Сябры Камісіі прысягнулі на вернасць імператару, гэта значыць, што Беларусь фармальна была абвешчана саюзніцай Францыі. Камісія Часовага ўрада з дазволу імператара пачала ствараць уласныя ўзброеныя сілы, якія далучаліся да напалеонаўскай арміі. Гэту Камісію з радасцю падтрымаў і генерал-ліцвін Ян Канопка, які ўсё жыццё марыў ваяваць за сваю Бацькаўшчыну — Вялікае Княства. З дазволу Напалеона Ян Канопка сфармаваў Трэці ліцвінскі ўланскі полк імператарскай гвардыі. Гэты полк непасрэдна падпарадкоўваўся Напалеону і насіў «не белую кукарду,

а французскую трохкаляровую з накладзеным на яе белым мальтыйскім крыжам» («Наш радавод». Кніга 8. Гродна; Беласток, 1999 (2000). С. 278), хаця ўсе жаўнеры-ліцвіны насілі кукарду «Пагоня». Да Яна Канопкі далучыўся і эскадрон беларускіх татараў на чале з Мустафой Ахматовічам. Усяго на баку Напалеона ваявалі 24 тысячы беларускіх жаўнераў, а па іншых звестках — 80 тысяч, а на баку Кутузава — 32 тысячы (Михаил Голденков. Утраченная Русь. Минск, 2010. С. 320).

У сярэдзіне кастрычніка 1812 года расійскі генерал-маёр Яфім Чапліц даведаўся, што з Гродна на Мінск рухаецца гвардзейскі ліцвінскі полк Яна Канопкі. Яго аснову складала моладзь былога Вялікага Княства Літоўскага. Там служылі Валовічы, Ромеры, Платэры, Хлявінскія, Пузыны, Пуслоўскія, Памарнацкія ды іншыя ўнукі і праўнукі шляхецкіх родаў. Полк быў добра ўзброены і меў адпаведна на 444 чалавекі 121 фурманку. Разам з палком ехалі жонкі генералаў Канопкі, Дамброўскага і Заёнчака. У родным Слоніме Ян Канопка вырашыў затрымацца на некалькі дзён. У дзень вайскоўцы папаўнялі запасы фуражу ў навакольных вёсках, заклікалі да сябе ў полк слонімскіх юнакоў, тлумачылі людзям намеры Напалеона аднавіць Вялікае Княства Літоўскае. І гэта давала плён. Хутка полк Яна Канопкі налічваў ужо 800 чалавек. А вечарам гвардзейцы шпацыравалі з маладымі паненкамі. Такі шпацыр у Слоніме яны наладзілі і 19 кастрычніка. Хаця аўстрыйскі генерал Мор, адступаючы з-пад Пінска, і генерал Дамброўскі з-пад Барысава папярэджвалі Канопку, што рускія наступаюць з поўдня праз Брэст вялікімі сіламі. Але генерал Канопка не паслухаўся, ды і не думаў, што рускія так хутка могуць дабрацца да Слоніма.

Пакуль гвардзейцы разам з Канопкам адпачываюць у Слоніме, п'юць шампанскае і віно, прамаўляюць тосты за Напалеона, за адраджэнне Вялікага Княства, да Пружан даходзіць рускі перадавы атрад генерала Чапліца. Пасля нялёгкай дарогі рускія рыхтуюцца да адпачынку. Але хутка атрымліваюць загад адмірала Чычагава — атакаваць конна-гвардзейскі полк Яна Канопкі ў Слоніме. Генерал Чапліц выклікае да сябе капітана Івана Арнольдзі: «Маю пра вас звесткі, капітан, што вы добра ведаеце Слонім». — «Так, — адказвае Арнольдзі. — Тры гады кватараваў у гэтым горадзе. Меў гонар састаяць ад'ютантам пры графе Кутайсаве (рускі генерал Кутайсаў узначальваў артылерыю ў Заходняй рускай арміі, загінуў пры Барадзіно. — *С. Ч.*). «У такім выпадку я спадзяюся на вас», — працягвае генерал і выкладае план маючай адбыцца справы, у якой капітану адводзіцца немалаважная роля.

У Слоніме Ян Канопка адпачывае і не падазрае аб небяспецы. Але, калі гулянка была ў самым разгары, да генерала падбягае яго ад'ютант Стральбіцкі і дакладвае экстранае паведамленне аб тым, што да Слоніма падыходзяць рускія. Хутка баль сціхае. Госці разбягаюцца. А Канопка імгненна казну і генеральскіх жонак пад аховай нешматлікага эскорту выпраўляе ў Дзярэчын. А сам з палком уцякае на Вільню іншай дарогай. Толькі яны зніклі, як Арнольдзі з некалькімі казакамі прабраўся да дома Канопкі. Але нідзе не ўбачыў ні варты, ні нават вартавога каля ганка.

Не трацячы ні хвіліны, Арнольдзі кідаецца ў пакоі. Але нідзе нікога ён так і не знайшоў. Гусары прывялі аднекуль дворніка, які і расказаў, што гадзіну назад Канопка адправіў на Дзярэчын атрад уланаў з касаю, а сам, сабраўшы полк, паскакаў на Вільню.

Капітан Арнольдзі адразу пасылае ганца да Чапліца, каб паведаміць пра ўцёк Канопкі, а сам з невялікім атрадам пускаецца па дарозе на Дзярэчын. За пяць кіламетраў ад Дзярэчына, які піша Міхась Скобла ў сваёй кнізе «Дзярэчынскі дыярыуш» (Мінск, 1999. С. 62), каля вёскі Галынка, рускія дагналі ўцекачоў. Завязаўся няроўны бой. Казну Арнольдзі захапіў, а вось генеральскія жонкі паспелі пераправіцца на пароме праз рэчку Луконіцу і схавацца ў дзярэчынскім палацы Сапегаў.

Калі Яфім Чапліц даведаўся пра тое, што генерал Канопка ўцёк са Слоніма на Вільню, пакідае ў Ружанах пяхоту і артылерыю з абозам і сам асабіста бярэ атрад гусараў і казакаў, імчыць за ўцекачамі па віленскай дарозе. Праз некалькі гадзін рускія даганяюць ліцвінскі полк, пачынаецца рукапашны бой. Рускім удаецца адрэзаць частку палка Яна Канопкі ад галоўнага атрада ўланаў. А ўраднік Дзячкін, дагнаўшы Яна Канопку, раніць яго дзідай і бярэ ў палон. У палон таксама трапілі палкоўнік Хлусевіч, капітаны Дзяржынскі, Солтан, Дэге, Ронікер, Тышкевіч, Лянон, Лукоўскі, 5 паручыкаў, 42 унтэр-афіцэры, 5 трубачоў і 170 жаўнераў (Швед В. В., Данскіх С. У. Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805–1815 гады». Гродна, 2006. С. 150).

Трапіўшы ў палон, генерал Ян Канопка не падымаючы галавы ішоў каля маўклівай сцяны палоннага палка. Насустрач яму спакойна рухаўся генерал Яфім Чапліц. Тварам да твару сустрэліся два генералы — переможац і пераможны. Сустрэліся два ліцвіны (беларусы), якія ваявалі па розныя бакі барыкад. Яфім Чапліц быў родам з дваран Магілёўскай губерні. Але яго карані шляхецкага роду Чапліцаў — прынёманскія. У канцы XVII стагоддзя Чапліцы валодалі невялікімі маёнткамі ў Лідскім павеце. Чапліц уважліва разглядваў шаблю палоннага генерала. Вычытаўшы на эфесе «За адвагу…», не змог стрымаць усмешкі. Вось як іх гутарку апісаў кандыдат ваенна-тэхнічных навук Яўген Леашэня (1900–1981) у сваёй рукапіснай працы «Да гісторыі Слонімшчыны», якая захоўваецца ў Слонімскім краязнаўчым музеі:

— Не думаў я, генерал, што адважныя так уцякаюць! — сказаў Чапліц.

Канопка абурыўся:

— Я жадаў бы памерці ў баі!

— Дазволю ў вас спытаць, за што? — пацікавіўся Чапліц.

— За свабоду Айчыны… — пачаў казаць Канопка.

— Якую хацелі набыць у радах захопніцкай арміі Напалеона, — спыніў яго Чапліц і, ужо адыходзячы, дадаў. — Яшчэ Аляксандр Неўскі казаў: хто пойдзе на нас з мячом, той ад мяча і загіне. Шкада, але вы не ўлічылі гэтага, генерал…

Самае цікавае ў сустрэчы гэтых двух генералаў тое, што між сабой яны гутарку вялі па-беларуску. Іх размова было доўгай. Канопка абвінаваціў у сваім паражэнні мясцовую слонімскую адміністрацыю і жыхароў, якія

не папярэдзілі пра надыход ворага. Але Чапліц адказаў, што «ён сам змарнаваў полк і загубіў людзей».

Пасля паспяховай аперацыі Яфім Чапліц да прыходу асноўных сіл адмірала Чычагава затрымаўся ў палацы Пуслоўскіх у Альбярціне (тады гэта быў пасёлак, цяпер — мікраараён Слоніма. — *С. Ч.*). 7 лістапада 1812 года амаль 60-тысячная армія Чычагава праз Слонім рушыла на Нясвіж і далей на Мінск. «Санкт-Петербургские ведомости» № 87 ад 29 кастрычніка 1812 пісалі: «Адмирал Чичагов доносит от 9-го числа октября, что корпус армии ему вверенной, под командою генерал-майора Чаплица, 8 числа [октября] занял город Слоним, взяв в плен генерала Конопку со всем его отрядом состоящим из 3 Уланского полка французской гвардии. В числе пленных находится один полковник, два подполковника, кроме многих субалтерн-офицеров.

Равномерно взят весь обоз и воинская казна».

Пасля гэтай перамогі Трэці ліцвінскі ўланскі полк імператарскай гвардыі генерала Яна Канопкі як баявая адзінка спыніў сваё існаванне. А сам генерал быў арыштаваны і адпраўлены ў палон у Санкт-Пецярбург. З паўночнай сталіцы Расіі праз год яго накіравалі ў Херсон, дзе ён цяжка захварэў. У 1814 годзе Яна Канопку вызвалілі з палону і ён як прыватная асоба прыехаў у Варшаву. Там яму хутка прапанавалі ўзначаліць Першую кавалерыйскую брыгаду Каралеўства Польскага. Але генерал адмовіўся. Па-першае, ён моцна хварэў, па-другое, служыць Каралеўству Польскаму ён не жадаў: да самай смерці генерал марыў пра адраджэнне сваёй Бацькаўшчыны — Вялікага Княства Літоўскага.

1 студзеня 1815 года (па іншых звестках 20 снежня 1814 года) генерала Яна Канопкі не стала. Ён памёр у Варшаве, але прасіў пахаваць яго на Слонімшчыне. Дзе пахавалі генерала — да сённяшніх дзён невядома. Па адной з версій ён быў пахаваны ў роднай вёсцы Скоўдзічы Слонімскага павета альбо ў Слоніме. Па іншых звестках — у Дзятлаве ці ў вёсцы Дубраўка на Дзятлаўшчыне. Былы дырэктар Дзятлаўскага раённага музея Фёдар Красюк, калі я звярнуўся да яго з пытаннем, дзе пахаваны генерал 1812 года Ян Канопка сказаў: «Я некалі цікавіўся асобай Яна Канопкі. І шмат гадоў з краязнаўцамі шукаў яго магілу і на вясковых могілках у Дубраўцы, і на могілках у Дзятлаве. Але мы магілы генерала так і не знайшлі. Калі б ён быў пахаваны на адных з гэтых могілак, то гэта магіла была б нам усім знаёма, але яе нідзе няма. Ці то час яе зруйнаваў з зямлёй, ці проста генерал быў пахаваны ў іншым месцы». Пакуль не ўдалося знайсці яго магілы і ў вёсцы Скоўдзічы, і на ўсіх слонімскіх могілках. Калі, напрыклад, на старых Ружанскіх могілках у Слоніме ёсць надмагілле ў выглядзе саркафага з чырвонага граніту на магіле генерала ад інфантэрыі Міхаіла Лявіцкага (1769–1832), удзельніка вайны 1812 года на баку расійскіх войск, то яна ўсім слонімцам знаёмая. А вось магілу генерала Яна Канопкі, які, праўда, ваяваў на баку Напалеона, адшукаць пакуль немагчыма. Вядома ж, наш слаўны генерал падчас Расійскай імперыі, куды ўваходзіла Беларусь, і ў гады савецкай улады ў XX стагоддзі заўсёды быў ворагам. Ворагам для расійцаў, камуністаў, бальшавікоў, а для нас,

беларусаў, генерал Ян Канопка — наш нацыянальны герой, абаронца сваёй Айчыны. Хаця і палякі яго лічаць адным з лепшых польскіх афіцэраў напалеонаўскай эпохі, а таксама французы — сваім героем.

## ГЕРОЙ І ЗДРАДНІК

У XIX стагоддзі сярод беларусаў, як і сёння, былі здраднікі. Адзін з іх — стараста Макарэвіч, магіла якога знаходзіцца на могілках недалёка ад царквы ў вёсцы Азярніца Слонімскага раёна. Макарэвіч выдаў расійскім войскам некаторых паўстанцаў 1863 года, у тым ліку аднаго з кіраўнікоў паўстання на Гродзеншчыне — Карла Масальскага .

Карл Ксаверавіч Масальскі быў родным дзядзькам па маці заснавальніка Слонімскага краязнаўчага музея Язэпа Стаброўскага.

Сельскі стараста вёскі Азярніца Слонімскага павета выдаў яго царскім карнікам, якія злавілі Карла Масальскага і прывезлі ў Слонім. Закутага ў кайданы Карла Масальскага пасадзілі ў драўляную клетку, паставілі яе на возе і вазілі напаказ па ўсім горадзе. Наперадзе ішоў атрад узброеных салдат пад камандай воінскага начальніка. Барабаншчыкі білі ў барабаны. Жыхары Слоніма з жахам глядзелі на гэтае відовішча. Нарэшце, Карла Масальскага правезлі па Студэнцкай вуліцы, павярнулі на Маставую вуліцу (цяпер яна носіць імя Янкі Купалы) і спыніліся каля моста праз раку Шчару.

На балоце стаяў закапаны слуп, да якога падвялі Карла Масальскага. Яго хацелі прывязаць да слупа і завязаць вочы, але ён адмовіўся.

Салдаты выстраіліся і па камандзе начальніка ўзялі вінтоўкі і трымалі іх напагатове. Масальскі глядзеў проста на салдат. Начальнік выцягнуў шаблю з ножнаў і падаў каманду:

— Рота, плі!

Салдаты не стралялі. Іх бянтэжыў і палохаў позірк паўстанца. Раз’юшаны начальнік закрычаў:

— Сволачы, страляйце! А не, дык вас саміх пастраляю!

Салдаты выстралілі амаль усе ўверх. Толькі адна куля трапіла ў Масальскага, аднак ён не здрыгануўся, стаяў з горда ўзнятай галавой. Падняўшы руку, Карл Масальскі крыкнуў:

— Няхай жыве свабода!

Па камандзе начальніка зноў грымнуў залп. І на гэты раз Масальскі не ўпаў.

Уражаны начальнік спытаў:

— Масальскі, ты жывы?

— Жывы!

Новы ўзмах шаблі начальніка, новая каманда, новы залп. Нарэшце акрываўлены Карл Масальскі апусціўся на зямлю.

Жаўнеры доўга не падыходзілі да паўстанца, баяліся. А потым, калі начальнік пачаў на іх крычаць, вывезлі і закапалі невядома дзе.

Так у 1863 годзе ў Слоніме загінуў камандзір паўстанцкага атрада Карл Ксаверавіч Масальскі, які змагаўся за волю нашага народа, супраць царскага самадзяржаўя.

Пра тое, як загінуў Карл Масальскі, Язэпу Стаброўскаму расказвала яго маці. А ён, калі працаваў у Слонімскім музеі, распавядаў усім, хто пытаўся пра паўстанне 1863 года.

Прайшло некалькі гадоў пасля паўстання, але былыя паўстанцы аднойчы падпільнавалі Макарэвіча і забілі, гэтым самым адпомсціўшы яму за Карла Масальскага. Гродзенскі генерал-губернатар за тое, што ён выдаў паўстанцаў, «узнагародзіў» яго пасмяротна: загадаў пахаваць Макарэвіча каля самай царквы ў вёсцы Азярніца і ўсталяваць надмагільны помнік. Загад губернатара выканалі. На помніку прымацавалі дзве шыльды. На адной шыльдзе напісалі: «Замученный польскими мятежниками», а на другой змясцілі такі тэкст: «Памятник сей сооружён в 1869 г. в назидание потомству по инициативе и на средства Его Высокопревосходительства г. Виленского, Ковенского и Гродненского генерал-губернатора И. С. Каханова при материальном содействии крестьян Чемерской волости».

У 1930-х гадах шыльду з тэкстам «Замученный польскими мятежниками» людзі сарвалі і выкінулі. Да нашых дзён у Азярніцы каля Свята-Мікалаеўскай царквы зберaглася магіла здрадніка Макарэвіча і адзін надпіс на помніку. Але гісторыкаў і вяскоўцаў магіла Макарэвіча сёння зусім не цікавіць.

## ЧАМЯРЫ І ЧАМЯРОЎЦЫ

Калі ехаць з Баранавічаў на Беласток, то адразу пры шашы за Слонімам раскінулася вёска Чамяры. Яшчэ ў 1905 годзе ў ёй пражывалі 800 жыхароў, а цяпер — напалавіну менш (на 1 студзеня 2003 года — 197 двароў, 419 жыхароў). Тады вёска складалася з хутароў. І каб сёння ўсе іх абысці са старэйшым чамяроўцам-экскурсаводам, які расказаў бы пра лёс жыхароў кожнага хутара, не хапіла б і цэлага тыдня.

Паводле народнай легенды, яшчэ ў XIV стагоддзі ў даліне ракі Валобрынкі пасяліліся 17 сем'яў з урочышча Падоськавічы. З Падоськавічаў яны ўцяклі ад эпідэміі чумы, якая там успыхнула (гэтую хваробу на Слонімшчыне называлі чамер. Нават у сварцы можна было пачуць: «Ах, каб цябе чамер пабраў!») (Памяць. Слонімскі раён. Мінск, 2004. С. 742).

Паводле іншай легенды, назва вёскі Чамяры паходзіць ад расліны чамярыцы, якой тады шмат расло ў пойме ракі Валобрынкі.

Вёска Чамяры знаходзіцца на шляху з Захаду на Усход. Усе войны, якія праходзілі праз Беларусь, не мінaлі Чамяроў. Нават сёння адзін з пагоркаў за вёскаю мясцовыя жыхары называюць Шведскай гарою. У час Паўночнай вайны ў 1700–1721 гадах тут шмат загінула шведаў. А тры іншыя пагоркі, па словах чамяроўцаў, — гэта брацкія магілы французскіх салдат і афіцэраў 1812 года. Праходзілі праз Чамяры яшчэ і нямецкія, і

польскія, і рускія «вызваліцелі». Ад іх рук гінулі людзі, знішчаліся вясковыя хаты, сады, агароды, лес. Але Чамяры і чамяроўцы не скарыліся, выстаялі, перамаглі, адужалі шматвяковае гора і бяду.

У 1550 годзе вёска Чамяры (Чамяровічы, Чэмяровічы, Чамеры) упамінаецца як дзяржаўная ўласнасць у Слонімскім старостве Вялікага Княства Літоўскага. З 1594 года Чамяры становяцца цэнтрам войтаўства Слонімскага староства. Праўда, з XVII стагоддзя войтаўства знаходзілася на чыншавым становішчы, аднак землеўладальнікі рабілі спробу перавесці сялян у разрад цяглавых, патрабуючы ад іх выканання паншчыны, што выклікала з боку вяскоўцаў супраціўленне. На працягу 1660–1690-х гадоў сяляне адмаўляліся выконваць павіннасці і дамагліся магчымасці плаціць толькі грашовы чынш. У 1679 годзе чыншавае становішча вёскі было пацверджана каралём: «Хотя король издал упомянутый декрет, это нисколько не мешало его канцелярии выдавать тем же крестьянам Слонимского староства подтверждения и новые грамоты на замену отработонных повинностей чиншем и др. В 1679 году, например, с. Соколово было выдано подтверждение пожалованной ему королём грамоты на голый чинш. Такие же подтверждения получили крестьяне сёл Лопухово, Кракотка, Переволока, Сосновка, Кокощицы, Селявичи, Чемеры, Ходевичи и др.» (Мелешко В. И. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII–XVIII в. Минск, 1982. С. 129).

Чамяроўскіх сялян усё роўна прымушалі адрабляць паншчыну. Але яны аднойчы дружна заявілі, што ніякіх павіннасцей выконваць не будуць. Так і сталася на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў.

У 1794 годзе многія чамяроўцы падтрымалі Кракаўскі акт аб пачатку паўстання на ўсёй тэрыторыі Рэчы Паспалітай пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі супраць расійскай акупацыі. З лозунгам «Вольнасць. Цэласць. Незалежнасць» чамяроўскія сяляне папаўнялі атрады М. К. Агінскага, Ф. Сапегі, К. Серакоўскага і змагаліся за сваю Айчыну. Але паўстанне ў канцы верасня 1794 года было задушана рускімі войскамі. Многія чамяроўцы загінулі, а некаторых саслалі на катаргу. З гэтага часу вёска Чамяры і яе жыхары апынулася ў складзе Расійскай імперыі. Паводле рэвізіі, у вёсцы тады засталіся толькі 42 сялянскія душы мужчынскага полу.

Моцна закранула чамяроўскіх сялян рэформа 1861 года, якая не дала ні зямлі, ні волі, а, наадварот, выклікала вялікае незадавальненне. У 1863 годзе на Беларусі пачынаецца паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага, якое дружна падтрымалі і чамяроўцы. У кастрычніку 1862 года, едучы са Слоніма ў Ваўкавыск на паштовых конях, Кастусь Каліноўскі ў Слонімскім павеце раскідваў трэці нумар «Мужыцкай праўды». Найбольш нумароў было раздадзена сялянам і раскідана ў вёсках Чамяры, Сынковічы і Шайнякі.

Пасля паўстання 1863 года жыццё чамяроўскіх сялян не палепшылася. Не хапала зямлі, даймалі непасільныя падаткі, розныя працоўныя павіннасці. Гэта вельмі ўплывала і на ўзаемаадносіны вяскоўцаў. Як расказваў мне некалі слонімскі гісторык, былы дырэктар Чамяроўскай

няпоўнай сярэдняй школы Аляксандр Жукоўскі (1920–1995), у 1890 годзе чамяровец Іван Хвясеня атруціў сваіх братоў Георгія і Ануфрыя, каб стаць адзіным спадчыннікам бацькавай зямлі. Ці, напрыклад, такі выпадак: ажно сем гадоў працягваўся суд за мяжу — палоску зямлі шырынёй каля 20 см — паміж Іванам Андрэевічам Міско і Андрэем Вікенцьевічам Міско. А Вікенцій Кудзелька падчас спрэчкі за зямлю застрэліў нават сваю швагерку і яе свёкра. Адзінай уцехай для чамяроўскага селяніна-бедняка ў той час была мясцовая карчма, дзе за кварту гарэлкі карчмары Іцка і Ласка выманьвалі ў вяскоўцаў мерку мукі альбо штосьці іншае.

У канцы XIX — пачатку XX стагоддзя большасць чамяроўцаў не мелі ніякай адукацыі. Да 1880 года ў вёсцы быў так званы «гарнцавы настаўнік», які па чарзе вучыў дзяцей па хатах. За гэту вучобу настаўніку трэба было плаціць збожжам ці грашыма. І багацейшыя чамяроўцы сваіх дзяцей вучылі. Аляксандр Заградзін, напрыклад, пасля чамяроўскай адукацыі скончыў Варшаўскі політэхнічны інстытут. Даслужыўся да штабс-капітана царскай арміі, а пасля перайшоў на бок бальшавікоў. У 1920 годзе ў складзе Каўказскай арміі аднаўляў нафтавую прамысловасць Грознага, дзе і загінуў.

У 1905 годзе ў Чамярах была адкрыта аднакласная царкоўнапрыходская вучэльня. Чамяроўскія дзеці сталі атрымліваць пачатковую адукацыю. Некаторыя з іх пасля вучэльні ішлі працаваць, а іншыя — ехалі ў Вільню па новыя веды. Але неўзабаве пачалася Першая сусветная вайна. Многія кармільцы сем’яў апынуліся на фронце, а іншых у жніўні 1915 года з родных вёсак выганялі рускія казакі, палілі іх хаты і хлявы, абяцаючы, што там, у Расіі, ім усё кампенсуюць. Але на чужыне чамяроўскія беженцы, як і многія беларусы, зазналі шмат новых пакут і гора. А пра кампенсацыю ў Расіі ніхто ніколі не ўспамінаў. Вось якія згадкі пра час бежанства пакінуў чамяроўскі паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско): «Адным з найбольшых для чалавека дароў прыроды з’яўляецца памяць. Памяць свайго, роднага, без чаго цяжка, а ў некаторых выпадках і немагчыма жыць. Вядома, зразумеў я гэта не тады, як у жніўні 1915 года сям’я адпраўлялася ў бежанства, а значна пазней, як вырас і ўсё пачаў асэнсоўваць. Не скажу, што тады мне было кепска з бацькамі. Не, было добра, і ўсё ж нешта незразумелае азмрочвала дзіцячы настрой, заносіла на плач. Увесь час перад вачыма стаяла сцяжынка ад хаты да гумна. Калі ўспамінаю мінулае, то здаецца, быццам гляджу на тую дарожку праз адвернуты бінокль.

У бежанстве давялося жыць у двух гарадах. Мабыць, па нейкім размеркаванні наша сям’я прыбыла ў невялікі гарадок Казанскай губерні. Дзед быў добрым бондарам і адразу ўзяўся за прывычную работу. І я цешыўся з яго работы. Не так з работы, як з клёпачных абрэзкаў, з якіх будаваў домікі, выкладваў на падлозе чыгуначныя саставы. Бацька нудзіўся, не знаходзячы сабе занятку, хоць быў някепскім дзясятнікам — практыкам дарожнага будаўніцтва. У хуткім часе, даведаўшыся, што патрэбныя спецыялісты па пракладцы чыгункі ў ваколіцах Кіева, махнуў туды і там застаўся. А вясною прыехалі да бацькі маці і я.

Знаходжанне на Украіне, наддняпроўскія прасторы, куды часта браў мяне бацька, фармавалі маё далейшае дзяцінства. Здаваўся цудам прымітыўны від транспарту — дрызіна. Захаплялі сваім хараством бясконцыя квітнеючыя лугі, фантастычныя слупы белага дыму ад кастроў, калі ў абедны перапынак рабочыя смажылі на ражэнчыках сала.

Пад вечар — ізноў на дрызіне — вярталіся ў горад. Маці ўсе вочы прагледзела, чакаючы нас. Яна моцна сумавала: «Калі паедзем дадому?». — «Хутка паедзем», — адказваў бацька і сам упадаў у нейкае задуменне. Смутак бацькоў перадаваўся мне, перад вачыма паўставала сцяжынка, што пралягла ад хаты да гумна.

І вось аднойчы на панадворку загрукаталі колы. Гэта бацька прыехаў, купіўшы каня і воза… Паклаўшы на воз небагаты скарб, нарэшце вырушылі ў дарогу і ўзялі курс на Слонім.

Дарога не радавала. Трапляліся спаленыя вёскі, разбураныя хаты. «А што нас чакае дома?» — задавалі пытанне то бацька, то маці. Яшчэ здалёк бацька ўбачыў хату і з палёгкай уздыхнуў: стаіць… Так, хата стаяла, нават тырчаў серп пад страхой, заткнуты пад крокву. А гумно згарэла. І дарожка да яго зарасла палыном, крапівой і лебядою. Словам, летам 1918 года мы былі дома.

Назаўтра паехалі аглядаць поле. Палоска зарасла густым бярэзнікам. Бацька распаліў агеньчык, пачаў высякаць падлесак, а я цягаў галлё на касцёр.

Вельмі цяжка было аднаўляць гаспадарку. Дакучаў і знясільваў голад. Неяк перазімавалі. Варылі крапіву і тую ж лебяду, што буяла навакол. У самую галадуху вярнулася з-пад Казані другая палавіна сям'і. Старыя не вытрымалі нягодаў, хутка памерлі. Страцілі мы яшчэ дзве душы — заўчасна памерлі маленькія брат Саша і сястрычка Галя…» (Анатоль Іверс: «Сум і радасць нашу…» // Мікуліч М. У. Пошук вядзе ў глыбіню. Гродна, 1998. С. 141–142).

У 1918–1921 гадах вярталіся з бежанства і іншыя чамяроўцы. Многім з іх убачыць родныя мясціны так і не ўдалося: адны памерлі ад холаду і голаду ў Расіі, іншыя — па дарозе дамоў. А тыя, хто вярнуўся, доўга яшчэ цярпелі нястачу. Ды і вёска Чамяры Слонімскага павета паводле Рыжскай мірнай дамовы адышла пад Польшчу. Але, нягледзячы на гэта, яе жыхары вярталіся здалёк дамоў, бо родная зямелька — як зморанаму пасцелька. Ці, як кажуць у Чамярах: у сваёй хаце і вуглы дапамагаюць. Але не ўсім чамяроўскія вуглы дапамагалі. Вяртанцаў чакалі новыя выпрабаванні. Пра гэта добра згадаў у сваёй кнізе «Маё маўклівае сэрца» яшчэ адзін знаны чамяровец — журналіст і публіцыст Якуб Міско (1911–1981): «Першы раз ехаў я ў пасажырскім вагоне, і міжвольна прыгадаўся мне той таварны цягнік, які чатыры гады назад вёз нас — бежанцаў — з Тамбоўскай губерні дадому. Як пераехалі за Негарэлым мяжу — пачалася Польшча. На мяне тады гэта не зрабіла асаблівага ўражання. Усё адбылося неяк звычайна, без хваляванняў. Пераехалі мяжу, і ўсё. Учора былі яшчэ Саветы, а сёння, калі ласка, Польшча. Што яно такое, гэтая Польшча, ніхто толкам не ведаў. Запомнілася адно — чужая, датуль не чутая мова, нейкія вельмі вялікія і блішчастыя брылькі на шапках начальнікаў, іх воклічы:

— Прэндзэй, прэндзэй!

У Баранавічах быў каранцінны пункт для бежанцаў. Там у бараках лютавалі хваробы, асабліва тыф. Яны касілі людзей бязлітасна.

Мы прасядзелі ў каранціне два тыдні, а адтуль ужо нас адправілі ў Слонім. Я амаль не памятаў ні Чамяроў, ні свае хаты, бо, як уцякалі ў 1915 годзе ад немцаў, быў яшчэ зусім малы. І ніяк не мог зразумець, што гэта адбываецца. Ужо каторы раз дапытваўся ў бацькі:

— Тато, а чаго мы туды едзем?

Бацька тлумачыў:

— Як гэто — чаго? Там, сынок, наша зямля… Бацькаўшчына.

У Слоніме, выгрузіўшы клункі з вагона, бацька з іншымі мужчынамі падаўся шукаць якіх-небудзь фурманак, каб даехаць да Чамяроў. Толькі ў другой палове дня, паклаўшы на воз небагаты скарб, мы рушылі ў вёску, да якой было пяць кіламетраў. Па дарозе бацька не вытрымаў, збочыў-такі на сваю, першую ад горада, палоску зямлі. Яму вельмі рупіла паглядзець, якая яна, гэтая палоска, пасля шасці гадоў разлукі, што на ёй расце. Праз нейкі час ён дагнаў нас. Быў задаволены, у руках трымаў некалькі бульбін.

— Будзем з картоплямі. Нехта пасадзіў на нашым полі. За работу і насенне аддамо, што належыцца, а картоплі выкапаем самі. Картоплі някепскія.

І вось наша паселішча. Маці як глянула, так і залямантавала на ўвесь грудок: «А Божа ж мой, Божа! А што ж мы рабіцімем? Гэта ж ні хаты, ні латы!..»

Там, дзе некалі былі хата і хлеў, цяпер тырчаў толькі насуплены комін. Вакол яго на грудках буялі быльнёг ды крапіва. Нідзе ні шульца, ні парканіны. Стаяў і ціха шапацеў адзін толькі ясень з шырокай прыгожай кронай — маўклівы сведка ўсяго, што тут адбывалася ў апошнія гады. Ён перажыў пажары, чуў выбухі гарматных стрэлаў, бачыў кайзераўскіх немцаў, польскіх легіянераў, чырвонаармейцаў. Такія ж папялішчы былі ў суседзяў — Саванцоў, Папкоў, Стасёў… Вайна прайшла тут вогненным валам.

Тым часам набеглі суседзі, што вярнуліся з бежанства крыху раней. Пачаліся здароўканне, роспыты, плач. Усё злілося ў суцэльны гоман.

— Ну што, Гарасім, знацца, таксама на бацькаўшчыну?

— Пацягнула, брат, як магнітам. І Захар вунь Стасёў прыехаў, і Іван Ляснічаў…

— А мая ж ты Мар’ечка! Гэто ж якая, няўрокам кажучы, была, гэдака і вярнулася. Дальбог, не пастарэла.

— Ой, дзе ты бачыла, Агата.

— А хлопцы гэто ўжэ падраслі. А-ёй, то ж не пазнаць.

— Дзякаваць Богу, растуць. А вы ці даўно вярнуліся?

— Не, якраз на Спасаўку.

Бацька гаварыў, распытваўся пра тое, як тут жывецца, а з галавы, відаць, не выходзіла думка: што рабіць? Трэба ж недзе прыткнуцца. Восень на дварэ. Пад небам начаваць не будзеш. Мацеры сказаў:

— Ну, годзе. Плач не плач, а трэба нешта рабіць. Вось, кажуць, уласць памагае. Картопель сваіх накапаем. Неяк будзе. Як усе, так і мы.

З другога канца грудка прыйшоў дзядзька Іван, які таксама прыехаў разам з намі.

— Я думаю так, — сказаў ён, — няма чаго тут выдумляць. Збірайце манаткі — і да мяне. Хата, дзякаваць Богу, ацалела. Пакуль што якое — будзем жыць.

Так нас, былых бежанцаў, сустрэлі родныя гоні. Спадзяванні бацькі наконт таго, што «ўласць дапаможа», не спраўдзіліся. Куды ён ні патыкаўся — у гміну ці ў павет, — ніхто нічога не абяцаў: ні хлеба, ні дзерава, ні пазычкі на тое, каб прыдбаць каня. Бацьку, праўда, не пакідала вера ў справядлівасць. Быць не можа, гаварыў ён, павінна быць нейкая падмога. Казалі ж, што пагарэльцаў не пакінуць у бядзе.

Але чым больш абіваў парогі розных устаноў, тым большы одум агортваў яго. Аднаго дня вярнуўся з горада змізарнелы, галодны, сеў ля стала, падпёр далонню галаву, сказаў:

— Каб яны так сонца бачылі, як мы ўбачым ад іх палёгку.

Маці моўчкі паставіла на стол міску капусты, палажыла лусту хлеба, асцярожна спыталася:

— Нічога не дастукаўся?

— Трасцы ў іх дастукаешся.

Яшчэ не разумеў я ўсяго сэнсу бацькавых слоў, але ў маю свядомасць ужо непрыкметна ўваходзіла нешта такое, чаго дагэтуль не адчуваў. Узіраўся на бацьку, на худы, засмучаны яго твар, на тое, як нервова варушацца яго жаўлакі, і мне рабілася балюча.

Марным аказалася і спадзяванне на ўласныя картоплі. Праз некалькі дзён пасля прыезду дамоў мы, узяўшы мяшкі і пазычаныя ў суседзяў капачкі, усім гуртам выправіліся па «свае» картоплі. Якое ж было наша здзіўленне, калі ўбачылі, што на тым полі ад бульбы застаўся толькі след. Нехта пастараўся выкапаць так чыста, што не пакінуў ніводнага клубня…» (Міско Якуб. Маё маўклівае сэрца. Мінск, 1983. С. 9–11).

З 1921 да верасня 1939 года вёска Чамяры ўваходзіла ў склад Польшчы. У 1921 годзе яна налічвала 80 двароў у якіх пражывалі 418 чалавек. Гэта былі нялёгкія гады для чамяроўцаў. Цяжкім ярмом на сялян клаліся розныя падаткі, была вялікая розніца ў цэнах на сельскагаспадарчыя прадукты і прамысловыя тавары. Асабліва дарага каштавала лячэнне. У музеі сярэдняй школы № 4 г. Слоніма захоўваецца прадпісанне Чамяроўскай гміны на імя жыхара вёскі Чамяры Аляксея Дэйкі. Селяніну Дэйку прапаноўвалася на працягу сямі дзён унесці ў касу Слонімскай гарадской бальніцы 366 злотых за лячэнне паламанай нагі. Столькі ж каштавалі, напрыклад, 183 пуды збожжа. А восенню за 366 злотых можна было тады купіць 5–6 кароў. А каб выпасваць гэтых кароў у дзяржаўным лесе, таксама трэба было плаціць. Гэта пацвярджае яшчэ адзін дакумент са школьнага музея — квітанцыя, выдадзеная Слонімскім надлясніцтвам на імя чамяроўца Я. К. Міско. У ёй чорным па белым напісана, што вясковец за права пасвіць жывёлу ў лесе павінен заплаціць 13 злотых…

У сярэдзіне 1920-х гадоў у Чамярах пачаў узмацняцца нацыянальны рух, галоўным завадатарам якога быў мясцовы інтэлігент і педагог Максім Бурсевіч. У 1925 годзе з дапамогай сваіх землякоў ён адкрыў у вёсцы прыватную беларускую школу. Знайшлася прасторная хата якраз пасярэдзіне вёскі. Выпісалі з Вільні сякія-такія падручнікі. Мужчыны парабілі парты, і заняткі пачаліся. Цеснавата было, не хапала кніжак і сшыткаў, але дзеці з радасным настроем беглі ў школу. У сваю школу, дзе гучала родная мова. Але Максім Бурсевіч адчуваў, што за беларускую школу польскія ўлады не пагладзяць па галоўцы. І тым не менш ён рабіў усё, каб у самадзейнай школе было так, як у сапраўднай, а можа нават і лепш. Тут вучылі не толькі пісаць і чытаць, але пачалі наладжваць вечары мастацкай самадзейнасці, у якіх прымалі ўдзел і вучні, і іх бацькі. Яны дэкламавалі беларускія вершы, спявалі песні, паказвалі сцэны з «Паўлінкі», «Прымакоў», з іншых п’ес.

Тры месяцы існавала беларуская школа ў Чамярах. Усё, здавалася, ішло добра, пакуль аднойчы ў час заняткаў у клас не ўвайшлі два паліцыянты. Адзін з іх аб’явіў, што школа зачыняецца, таму вучні могуць ісці дахаты, а пан настаўнік няхай застанецца.

— Вы не маеце права, — запратэставаў Максім Бурсевіч. — Гэта гарантавана канстытуцыяй.

— Ёсць рашэнне павятовай улады, — паведаміў старшы паліцыянт.

Паліцыянты дапыталі настаўніка, напісалі пратакол і падагульнілі:

— Вы праводзіце бальшавіцкую работу.

Максім Бурсевіч усміхнуўся:

— Калі беларуская асвета — гэта бальшавіцкая работа, дык бальшавікі, відаць, нядрэнныя людзі… (Чыгрын Сяргей. Родам са Слонімшчыны. Слонім ; Мінск, 2003. С. 6–7).

Але беларускую школу ў Чамярах закрылі. Беларускія паслы ў сейме рабілі нават запыт міністру асветы. Яны патрабавалі растлумачыць: на якой падставе ў Чамярах была закрыта беларуская школа? Чаму парушаецца Канстытуцыя Рэчы Паспалітай? Але гэта не дапамагло. У вёску прыслалі новага настаўніка-паланізатара, які пачаў агітаваць бацькоў, каб іх дзеці ішлі вучыцца ў польскую школу. Пра барацьбу чамяроўцаў за родную школу сведчыць артыкул «Барацьба сялян вёскі Чамяры за адкрыццё беларускай школы», які быў змешчаны ў газеце «Савецкая Беларусь» за 4 сакавіка 1925 года. Вось што пісала газета: «Першага сакавіка ў Чамярах адбыўся сельскі сход, скліканы па загадзе гміны. Грамада сабралася вялікая, каля 75 асоб. Сакратар гміны запрапанаваў сходу, каб усе дзеці, якія хадзілі ў прыватную беларускую школу, зараз жа пайшлі да школы польскай. Калі не пойдуць, дык бацькі будуць пакараны штрафамі, а гміна сцягне і тыя штрафы, якія былі накладзены на вёску ў лістападзе. Абапіраючыся на тое, што цяпер вёска беларускай школы не мае і дзеці зусім не вучацца, інспектар і гміна прымусяць дзяцей пайсці да школы польскай. Сход гэтай заявай быў абураны, і грамада пачала прасіць сакратара гміны запісаць у пратакол: «Каб вучыцеля з Чамяроўскай польскай школы ўлады найхутчэй забралі і перавялі ў тую вёску, дзе ёсць шмат палякаў, а ў Чамяроўскую школу каб далі таго, каго вёска папросіць і

дзеці-вучні пажадаюць. А пакуль гэных змен не будзе, пакуль польскі вучыцель будзе ў школе біць дзяцей за тое, што яны не разумеюць польскай мовы, дык ніводнае дзіця не пераступіць парога польскай школы. Хай не толькі штрафуюць бацькоў за дзяцей, але катуюць іх за дзяцей, бацькі не згодзяцца пасылаць сваіх дзяцей на катаванне, а дзеці, хто як зможа, будуць уцякаць ад ката». Сакратар гэтай заявы ад сходу запісаць адмовіўся, аднак, мусіць, баючыся абуранага настрою сходу, абяцаў жаданне сходу абгаварыць на паседжанні гміннай рады. На гэтым сход і закончыўся.

Такім чынам, селянін, не баючыся ні штрафаў, ні арыштаў, згаджаючыся нават на катаванне, стойка стаіць за сваю мову, за родную школу, за беларускасць. І хаця існаваўшую ў Чамярах прыватную беларускую школу зачынілі, але існуючага ў беларускага селяніна духу ніхто не зможа. *Чамеравец*».

Пад псеўданімамі Чамеравец, Чамяровец, Чэмеравец, Беларус, Вачавідзец, Трылісьцік, Трылісьцінік, Янка Ведайка, Чупрановіч, па словах Янкі Саламевіча, аўтара «Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)», у беларускім савецкім і віленскім друку выступаў сам Максім Бурсевіч. Вось што Чупрыновіч пісаў у віленскай «Беларускай вёсцы» 2 снежня 1925 года, дзе былі змешчаны дзве яго інфармацыі з Чамяроў пад загалоўкамі «Арышты» і «Змаганьне за родную школу». У «Арыштах» ён паведамляў: «Як ведама, арышты ў Заходняй Беларусі з'яўляюцца звычайнаю праяваю, так сказаць, грамадскага жыцця. Арыштамі ўлада, відаць, хоча забіць усялякі рух на т. в. «Крэсах», як нацыянальны, так і культурны. Арыштоўваюць вельмі часта людзей зусім нявінна, але толькі абы тэрарызаваць. Нядаўна сталіся гэтакія арышты. У вёсцы Чамяры арыштавалі 16 асоб. З ліку арыштаваных 14 былі звольнены праз дзён 10, а двох сядзелі ажно па сем тыдняў, і пусцілі іх пад залог усяе маёмасьці — 20 кастрычніка. Прычына арышту — нібы падвышка гадоў, каб не йсці да войска. Дык былі заарыштаваны і тыя, хто нібы падвышаў гады, і сведкі іх, і солтыс. 5 кастрычніка з вёскі Чамяры заарыштавалі жыхара Якава Пракапчука і пасадзілі ў вастрог у Слоніме. Прычыны — нікому не вядомы. Пракапчуку каля 60 гадоў, і ўся вёска (ажно 55 асоб) сцвердзіла сваімі подпісамі прыгавор, што Пракапчук жыў дома ціха, палітыкай не займаўся, карыстаўся заўсёды чэсцю справядлівага жыхара грамады і г. д. Подпісы людзей і справядлівасць сказанага ў заяве-пратаколе сцвердзіў пячаткаю і сваім подпісам грамадскі солтыс. Пратакол і заява-просьба пераданы ў канцылярыю пана пракурора — аднак жа вёсцы не вераць, і арыштаваны сядзіць сабе ў вастрозе. Дык што ж рабіць яшчэ, каб паверылі і згадзіліся з просьбай цэлай вёскі?!.»

У другой інфармацыі з Чамяроў Чупрыновіч паведамляе: «У свой час вёска Чамяры злажыла 63 дэкларацыі на 81 вучня і падала да павятовага школьнага інспектара. За пасведчанне дэкларацыяў заплацілі гміне ажно 31 зл. 50 гр. Праз нейкі час усіх дэкларантаў вызваў да сябе ў канцылярыю школьны інспектар Кажан і дамагаўся зрачыся роднай школы, але дэкляранты стаялі на сваём. Тады была вывешана аб'ява, каб да 20 чэрвеня злажылі заявы, хто хоча школы польскай. Аднак з школьнага

абводу ніводнай заявы не падалі, і ў канцы канцоў цяпер маюць… тую ж польскую школу з польскай «навучыцелькай»!.. І старыя, і малыя плачуць моўчкі, каб мець родную школу, але нічога зрабіць не могуць. Таварыства Беларускай Школы ў Радашкавічах падало заяву да пана куратара шк. вокругу ў Беластоку, каб далі канцэсію (права) адчыніць у Чамярах прыватную беларускую школу, але да гэтага часу ад 20 траўня г. г. ніякіх чутак нямашака. Відаць, зноў дзеткам замест роднай мовы прыйдзецца праз цэлую зіму ганяць сабак па вуліцы. А ці адна зімачка ўжо прапала?».

Дарэчы, дзякуючы Максіму Бурсевічу, штогод, пачынаючы з 1926 года, чамяроўцы паступалі і вучыліся ў Віленскай беларускай гімназіі. Сярод такіх былі Анатоль Іверс, Якуб Міско, Ігар Бурсевіч, Фіякціст Міско, Мікола Бурсевіч і іншыя хлопцы. Максім Бурсевіч быў знаёмы і сябраваў з дырэктарам гімназіі Радаславам Астроўскім. І калі ў каго з чамяроўцаў не хапала ведаў, дык праз Максіма Бурсевіча і Радаслава Астроўскага іх усё роўна залічвалі ў гімназію. Пра гэта згадвае ў сваёй кнізе «Маё маўклівае сэрца» Якуб Міско: «На другі дзень я, добра наглянцаваўшы боты, пайшоў на прыём да дырэктара гімназіі Р. Астроўскага, несучы з сабою пісьмо ад Максіма Бурсевіча. Убачыў дзверы з надпісам «Дырэктар» і асцярожна пастукаў (так мне раіў Ігар (маецца на ўвазе Ігар Бурсевіч, аднакурснік і аднавясковец Якуба Міско. — *С. Ч.*). З кабінета данёсся зычны голас:

— Увайдзіце!

Я падаў дырэктару пісьмо і пачаў чакаць. Мне ўжо было вядома, што дырэктар — чалавек напышлівы і вельмі рэзкі. З надзеяй глядзеў на гэтага плячыстага мужчыну ў рагавых акулярах, на яго энэргічны, аздоблены пышнымі рудаватымі вусамі твар. Астроўскі прачытаў пісьмо, кінуў на мяне позірк:

— Дзе вучыўся?

— Трохі ў Расіі, а пасля сам па сабе, — нясмела адказаў я.

— І думаеш у чацвёрты клас?

— Хацелася б.

— Ну-ну, — мармытнуў дырэктар. — Здавай экзамены, паглядзім.

Экзамены я здаў добра, і нават па нямецкай мове, якой вельмі баяўся… За добрую здачу экзаменаў мяне не толькі прынялі ў чацвёрты клас, а яшчэ аслабанілі ад платы за вучобу і за інтэрнат» (Міско Якуб. Маё маўклівае сэрца. Мінск, 1983. С. 14).

Ва ўспамінах чамяроўскага паэта Анатоля Іверса (рукапіс захоўваецца ў аўтара гэтай кнігі, які перадаў Янка Саламевіч) згадваецца, што вакол Чамяроў у сярэдзіне 1920-х гадоў пасялілася 14 польскіх вайсковых асаднікаў. Яны захапілі лепшыя землі, занявольвалі беднату, вялі гавенне на тутэйшае насельніцтва. Але людзі не маўчалі. У 1925 годзе ў Чамярах ужо дзейнічалі тры ячэйкі камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (КПЗБ), а праз год узнікла і моладзевая арганізацыя. Трэба адзначыць, што КПЗБ была тады беларускай арыентаванасці, сябры яе змагаліся за адкрыццё беларускіх школаў, праводзілі нацыянальныя святы, сустрэчы, прэзентацыі. Была створана і актыўна дзейнічала таксама Міжнародная арганізацыя дапамогі змагарам рэвалюцыі. Анатоль Іверс

піша: «Імкнучыся знішчыць беларускую культуру і апалячыць беларусаў, правіцелі буржуазна-памешчыцкай Польшчы стваралі на вёсках розныя арганізацыі тыпу «Колко млодзежы», «Стшэлец», дзе праводзілі ў адносінах да мясцовага насельніцтва варожую агітацыю. Але людзі змагаліся з палітыкай акупантаў. Вось урывак са справаздачы Слонімскага акружкама камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі (КСМЗБ) за лістапад 1932 года: «Солтыс сумесна з настаўнікам арганізавалі «Колко млодзежы вейскей» (гурток вясковай моладзі) у вёсцы Чамяры. Каго запалохалі, а каму паабяцалі ільготы пры спагнанні падаткаў, крэдыты і г. д. Удалося арганізаваць чалавек да 30. У вёсцы пачаліся п'янкі, бойкі. Жыцця не было. Наша камсамольская ячэйка вырашыла разбіць КМВ. Пачалі праводзіць шырокую растлумачальную работу, і хутка нам удалося адлучыць частку моладзі ад КМВ. Цяпер Колко млодзежы вейскей амаль замірае…» Далей Анатоль Іверс успамінае: «Каб адцягнуць увагу ад барацьбы за свае правы, разбіць згуртаванасць сялян, польскія ўлады правялі ў вёсцы Чамяры так званую камасацыю (ліквідацыю цераспалосіц, з'яднанне разрозненых участкаў з перасяленнем некаторых гаспадароў на хутары). І тым не менш у 1934 годзе ў Чамярах забаставалі рабочыя, якія працавалі на пасадцы лесу. Да іх далучыліся лясныя рабочыя з навакольных вёсак, што сведчыла аб салідарнасці працоўных.

Хоць палякі ліквідавалі масавыя легальныя арганізацыі, але дэфензіва не змагла знішчыць падполле. Страшныя катаванні ў засценках дэфензівы перанеслі Іван, Мікалай і Сяргей Багданчукі, Іван Кароль, Якуб Міско, Даніла і Цімох Хвясені і многія іншыя. Прайшла праз катаванні, польскія турмы, Картуз-Бярозу і чамяроўская дзяўчына Ганна Кароль. У канцы 1939 года вяскоўцы выбралі яе старшынёю сялянскага камітэта ў Чамярах. А з 1940 года да пачатку вайны яна працавала старшынёю Парэцкага, а пасля Шылавіцкага сельсаветаў на Слонімшчыне. Была дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР…».

Жыццё Ганны Кароль трагічна абарвалася ў снежні 1947 года. Яе застрэлілі невядомыя ў сваёй хаце праз акно.

Пахавалі Ганну Кароль у Слоніме. А праз пэўны час адной з вуліц горада прысвоілі яе імя, устанавілі мемарыяльную дошку.

Вядома, калі глядзець на тагачасныя падзеі з сённяшняй часавай далечыні, то Ганна Кароль стала чарговай ахвярай савецкай улады. Большая палова слонімскіх сялян была супраць бальшавікоў і калгасаў. А чамяроўскай жанчыне, якая актыўна ўдзельнічала ў «кіпучым стваральным» жыцці, трэба было сілаю заганяць вяскоўцаў у калгасы, забіраць ад іх нажытае дабро. А каму хацелася з ім развітвацца? Хіба толькі для гультаёў і п'яніц калгасы былі выратавальнай радасцю. А для астатніх людзей — не. Вось за гэта і заплаціла сваім жыццём чамяроўская савецкая актывістка.

Цікавай старонкай летапісу вёскі Чамяры было стварэнне і дзейнасць на яе тэрыторыі ў канцы 20-х гадоў мінулага стагоддзя легальных гурткоў Беларускай сялянска-рабочай грамады (БСРГ) і Таварыства белару-

скай школы (ТБШ). У дакументах архіўнага фонду «Каманда паліцыі Слонімскага павета», у справе са справаздачамі і данясеннямі паліцыі за 1926–1927 гады, адшукаліся звесткі, што 25 жніўня 1926 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета быў створаны гурток Беларускай сялянска-рабочай грамады. Старшынёю гуртка быў абраны Рыгор Іскрык, а сакратаром — Васіль Бурсевіч, скарбнікам — Васіль Міско (жыхары гэтай вёскі). Па дадзеных паліцыі гурток грамады ў Чамярах налічваў 60 сяброў. Дзейнасць Грамады была забаронена з 21 сакавіка 1927 года (Дзяржархіў Гродзенскай вобласці. Ф. 687. Воп. 2. Спр. 13. Арк. 66–67). У тым жа архіўным фондзе знайшлася інфармацыя, што па стану на 12 снежня 1928 года ў вёсцы Чамяры Чамяроўскай гміны Слонімскага павета дзейнічаў гурток Таварыства беларускай школы (ТБШ). Старшынёю гуртка быў Павел Міско, былы сябра Грамады (Дзяржархіў Гродзенскай вобласці. Ф. 687. Воп. 2. Спр. 18. Арк. 98–99).

Бясспрэчна, і Грамада, і ТБШ праводзілі ў Чамярах вялікую культурна-асветную дзейнасць. Пра гэта шмат пісала віленская беларуская прэса. «Культурнае жыццё на вёсцы прабуджаецца і пачынае біць крыніцай, і гэта амаль пры поўнай адсутнасці беларускіх школаў. А што ж было б, каб існавалі беларускія школы? Аб гэтым не варта гаварыць, бо кожны ведае сам. Тое самае і ў нашай вёсцы Чамярох. У нядзелю 22.IV.1928 стараннем гуртка Таварыства Беларускай Школы быў наладжаны спектакль-вечарына. У праграму ўвайшлі: «У зімовы вечар» — п’еса ў адным акце Ажэшкавай, «Чорт і баба» — жарт у адным акце Ф. Аляхновіча, нацыянальныя скокі («Юрка», «Лявоніха») і агульныя танцы.

П’есы прайшлі даволі жыва, хаця і заўважаліся пэўныя недахопы, а асабліва ў выглядзе сцэны і ў грыміроўцы артыстаў. Таксама відаць было заслабае веданне роляў, і глядзельнікі задаволіліся тым, што бачылі перад сабою. Надта добрае ўражанне на публіку зрабілі нацыянальныя танцы. Маладыя хлопцы і дзяўчаты пад гукі мандалінаў у нацыянальных касцюмах досыць па-мастацку выканалі «Лявоніху» і «Юрку», чым проста зачаравалі публіку.

Праграма закончылася а 12 гадзіне ночы, і старыя спакойна, з радаснымі настроямі, з добрымі надзеямі пайшлі дамоў на адпачынак, а моладзь зараз жа зарганізавала агульныя танцы, і без гарэлкі, з здаровымі думкамі гулялі аж да другой гадзіны раніцы.

Трэба зазначыць, аднак, што ўсе былі надта засмучаныя тым, што пасля спектаклю не было дэкламацыі вершаў, чым наагул глядзельнікі заўсёды надта захопліваюцца.

Не адбылася ж дэкламацыя з прычыны забароны Слонімскім старастаю, нягледзячы на тое, што ўсе вершы, пададзеныя на перагляд, дазволены Віленскім камісарам Ураду для дэкламацыі. Чаму гэта так шмат на гэтых бедных «Крэсах» камісараў, лёгка даведацца таму, хто ведае панскую палітыку ў адносінах да развіцця нацыянальных культураў.

Даход у суме 67 злотых пайшоў на карысць Народнага Дому, які ўжо будуецца ў Чамярох.

Так расце свядомасць працоўных Беларусі, і ніякім спосабам ворагам працы не ўдасца спыніць гэтага росту. *Хлопчык*» (Голас працы. 1928. № 6, 1 траўня).

Ці такі прыклад, пра які згадвала «Наша праўда» 16 ліпеня 1927 года: «Нягледзячы на тое, што ў нядзелю 26 красавіка 1927 года ў вёсцы Чамяры былі згуляны п'еса Янкі Купалы «Паўлінка» разам з «Заручынамі Паўлінкі», нашы артысты пастараліся да касьбы, пакуль яшчэ гумна парожныя, падрыхтаваць п'есу «Мікітаў лапаць» Кудзелькі, і з дазволу старасты ў нядзелю 3 ліпеня 1927 году згулялі яе. Уваход быў па білетах, цана якіх ад 20 да 50 грошаў. Народу было каля 300 чалавек — шмат болей, як на першай вечарыне. Увесь даход пайшоў на справы культурна-прасветныя. Артысты згулялі свае ролі дужа добра, нягледзячы на тое, што на падгатоўку было зусім мала часу. Народ вельмі захапіўся Чамяроўскім тэатрам, але, на жаль, прыходзіць час сенакосу, і гумна ўсе запоўняцца сенам, збожжам, так што не будзе месца для спектаклю. І вось, дзякуючы гэтаму, цяпер у іх з'явілася думка будаваць народны дом, дзе б маглі без ніякіх перашкодаў наладжваць спектаклі і т. п. Хай жа гэта думка не пакіне іх аж да здзяйснення! Асаблівую ўвагу на гэта павінна звярнуць моладзь… *Я. М.*».

Народны дом у Чамярах усё ж пабудавалі. Для гэтай мэты ва ўрочышчы Палаўшчына скасілі траву, высушылі і прадалі сена. А таксама зрэзалі частку грамадскага лесу і прадалі драўніну. Працавалі чамяроўцы талакою і Народны дом пабудавалі. Але ён не доўга праіснаваў, неўзабаве польская паліцыя яго зачыніла.

У Чамярах у другой палове 20-х і 30-х гадах мінулага стагоддзя было шмат пісьменных людзей. Некаторыя навучыліся чытаць і пісаць у бежанстве і з Расіі прывезлі сякія-такія рускія кнігі. Іх перадавалі з рук у рукі і чыталі ўслых. Многія кнігі і часопісы прывозілі з Вільні. Таму цяга да друкаванага слова ў чамяроўцаў з кожным годам расла. Кніга рабілася людской патрэбай, але не кожны мог мець яе.

І тады ўзнікла думка арганізаваць бібліятэку. Пачалі з таго, што некалькі пісьменных хлопцаў абышлі ўсе хаты, сабралі адразу некалькі дзясяткаў кніг. Часова бібліятэку вырашылі размясціць у хаце Герасіма Міско. Яго сын Якуб са сваім сябрам Іванам Міско збілі дзве сасновыя дошкі, пагаблявалі і зрабілі шыльду. На ёй напісалі: «Чамяроўская бібліятэка імя Якуба Коласа». Шыльду прыбілі да сцяны хаты.

Бібліятэка за кароткі час свайго існавання мела больш за тысячу тамоў. Былі там амаль усе беларускія кнігі і часопісы, якія выдаваліся ў Вільні, творы рускіх пісьменнікаў, а таксама польская класіка — Міцкевіч, Славацкі, Сянкевіч. «Зрабілася неяк весялей і ўтульней. Што ні кажы, хоць невялікая, але свая бібліятэка. Такога ў сяле ніколі не было. Цяпер да нас наведваліся нават тыя, хто ледзь ведаў літары. Прыходзілі і з хутароў. Проста цікавіліся, што такое робіцца ў гэтай бібліятэцы. Памятаю, зайшла пажылая кабета. Спыталася:

— Казалі, тут е гэдака кніжка, што вельмі справядліва пра нас піша: нейкі Хранцішак ці што яе напісаў. Фамілію, далібо, забылася.

— Францішак Багушэвіч?

— Во, во, ён!

— Дык вы ж, цётка, чытаць не ўмееце.

— А мне ўнучак пачытае, ён — як рэпу грызе.

Прыйшлося даваць цётцы «Дудку беларускую». Васіль Разомчыкаў дазнаўся недзе пра жыццёвы шлях Якуба Коласа. Заходзіць у бібліятэку і адразу:

— О гэто-то пісацель, цара не пабаяўся.

— Хто, дзядзько, не пабаяўся?

— Якуб Колас — вось хто. У цюрме сядзеў. Бо праўду піша.

Здараліся, як у кожнай справе, і канфліктныя сітуацыі. Убягае аднойчы цётка і на ўсю хату:

— Зачыняйце, мусіць, гэту вашу кнігарню. Чытакі пазнаходзіліся.

— Што з вамі, цётко? — здзівіўся я.

— Як што? Оньдзека мой завала як унурыцца ў гэто вашо чытанё, то пра ўсё забывае, газы не наўмеешся. Да чаго гэто дойдзе, га?

Яе мужык Лукаш і праўда любіў кніжкі і многа чытаў. Гаспадар ён быў не сказаць каб кепскі і, вядома, не мог за кніжкаю забыць пра тое, што трэба, напрыклад, каню ці карове даць. З раўнавагі цётку вывела, відавочна, тое, што газа без дай прычыны гарыць. Трэба сказаць, што газа тады была дарагая: літр яе каштаваў шэсцьдзясят грошаў. Прадаўшы пуд жыта, можна было купіць усяго тры літры газы. Вельмі дарагія былі і іншыя тавары першай неабходнасці. Кілаграм солі каштаваў, напрыклад, 35 грошаў, а цукру — адзін злоты сорак грошаў, мыла — адзін злоты семдзесят грошаў. Дзе ж тут накупляешся?

Такіх сутычак вакол бібліятэкі было, вядома, няшмат, а калі яны і ўзнікалі, дык заўсёды вырашаліся, як кажуць, шляхам перагавораў. Другая жонка, бывала, пасварыцца ды сціхне! Тым часам бібліятэка ўпрыгожыла жыццё чамяроўцаў. Кнігі, газеты далі новы штуршок росту свядомасці людзей, раскатурхалі іх, памаглі ўбачыць больш, разумець лепш.

Існавала бібліятэка амаль год. Расла, багацела. Кніжкі ўжо не змяшчаліся ў адной скрыні, і бацька зрабіў другую. Да бібліятэкі прывыклі старыя і малыя. Ужо нават і вельмі сварлівыя гаспадыні не лаялі сваіх мужыкоў за тое, што «дарма смаляць газу». Ніхто не прыходзіў з патрабаваннем закрыць «кнігарню».

Затое зусім нечакана з’явіліся іншыя «госці» — у сініх мундзірах. Здарылася тое самае, што і са школай. Па загаду павятовых уладаў паліцэйскія аб’явілі, што бібліятэка закрываецца. Яны забралі абедзве скрыні з кнігамі, паклалі іх на воз і патарахцелі недзе ў горад. Чамяроўцы маркотна глядзелі ім услед. Даведаўшыся, што здарылася, Васіль Платонаў усміхнуўся.

— А што я казаў? Пацешыліся трохі, і годзе. Каб вельмі граматнымі не парабіліся. Навука, браце, не для мужыкоў.

І ўсё ж бібліятэка, як і школа, пакінула ў жыцці вёскі добры след. Кніжкі ўсё больш уваходзілі ў побыт людзей» (Міско Якуб. Маё маўклівае сэрца. Мінск, 1983. С. 42–43).

У час ліквідацыі Чамяроўскай бібліятэкі імя Якуба Коласа некаторыя беларускія кнігі не трапілі ў паліцэйскія мяшкі. У прыватных сховішчах вяскоўцаў захаваліся творы айчынных драматургаў. Па іх мясцовая моладзь пачала ставіць у вёсцы спектаклі. Рэпертуар быў даволі шырокі. Найбольшым поспехам карысталася «Паўлінка» Янкі Купалы. Самадзейныя чамяроўскія артысты пры размеркаванні роляў стараліся адхіліць ролю пана Быкоўскага. Ну, а калі хто яе браў, то іграў па-сапраўднаму смешна і праўдзіва.

Добра прымала публіка спектаклі па п’есах Уладзіслава Галубка і Францішка Аляхновіча. Большасць беларускіх спектакляў ставілі ў прасторных гумнах. Паэт Анатоль Іверс успамінаў і мне часта расказваў, што не так цяжка было падрыхтаваць спектакль, як атрымаць дазвол на яго пастаноўку ў пана павятовага старасты. А часам і дазвол не вырашаў справы. Існавала паліцыя, якая знаходзіла безліч прычын, каб забараніць вечарыну. Адной з прычынаў забароны, напрыклад, магла быць пры ўваходзе ў гумно адсутнасць дзвюх бочак з вадой і мётлаў на ражнах. Іх наяўнасць, лічылася, гарантавала супрацьпажарную бяспеку. Супрацьпаказана была і салома ў гумне. Але вясною рэдка ў якога гаспадара ляжалі ў гумне сена ці салома.

Кожны спектакль у Чамярах прымяркоўваўся да якога-небудзь свята. Тады ішлі на прадстаўленне і старыя, і малыя, не кажучы пра моладзь. Юнакі і дзяўчаты прыходзілі нават з суседніх вёсак. А гэтага не жадала паліцыя. Вечарыны са спектаклямі заўсёды завяршаліся дэкламацыяй вершаў. Аднойчы, калі чыталі верш Янкі Купалы «Ворагам Беларушчыны», паліцэйскі сцягваў са сцэны чытальніка.

Ажывілася культурна-нацыянальнае жыццё ў Чамярах у другой палове 1930-х гадоў. Пра гэта часам згадвала віленская беларуская прэса. Інфармацыі пісаў і дасылаў у Вільню чамяровец Іван Міско, які падпісваўся псеўданімам Антоль Іверс. У часопісе «Беларускі летапіс» за 1937 год чытаем: «Беларуская сцэна на вёсцы. Вёска Чамяры. Для павярхоўнага наглядчыка можа здавацца, што беларускае культурна-нацыянальнае жыццё на вёсцы замёрла, іменна таму, што няма школаў, прэсы, культурна-асветных арганізацыяў. Аднак не ёсць так блага, як можа здавацца. Беларускі рух падняўся вышэй перашкодаў і пацёк іншым руслам, што трэба прызнаць зусім натуральным. Бо калі жыве народ, то ён мусіць тварыць тое, што ўласціва кожнаму народу, — мусіць тварыць сваю культуру.

Нічога дзіўнага, што ў нашых умовах беларуская сцэна на вёсцы робіць шпаркія поступы. У сучасны момант толькі пры помачы спектакляў прыходзіцца моладзі вучыцца пісаць, чытаць і працаваць на грамадскую карысць. У такіх выпадках для шкодных навыкаў, як карты, гарэлка, дзікія разгулы, няма месца. Нашай моладзі таксама стрэліла ў галаву добрая думка. Успамінаючы тое, што было калісьці (Нар. Дом, Бібліятэка, пара дзесяткаў зладжаных прадстаўленняў), рашылі не сядзець на прызбе і не прыглядацца, — як іншыя, напіўшыся, выбіваюць па хатах шыбы, а ўзяцца і наладзіць хоць адну вечарыну.

Дагаварыўшыся з кіраўніком школы, прыступілі да працы… Зладзілі тры вечарыны, а даход прызначылі на ўтрыманне школьнага радыё. Зімою ставілі «Мікітаў лапаць» і «Паўлінку». Трэцяя вечарына адбылася на другі дзень Праваслаўнага Вялікадня. Ставілі п'есы «Дзядзька Якуб» і «Лекары і лекі». Прышлося змагацца з вялікімі труднасцямі. Публікі было шмат, а малая школьная заля змусіла артыстаў паўтарыць п'есу два разы. Апошні раз прадстаўленне адбывалася ўжо ў гумне. Апрача беларускай п'есы, вучыцель загадаў паставіць і польскую. Але адпаведнае польскае п'есы ў вёсцы і па-за вёскаю не знайшлося. Тады пералажылі на польскую мову «Лекары і лекі». Мала таго. У прыватнай хаце няможна рабіць рэпетыцыі… Артыстаў прышлося мяняць ледзь не кожны дзень. Таксама трэба зазначыць, што ніводная друкарня ў Слоніме не згадзілася друкаваць абвесткі ў беларускай мове без дазволу старасты. У канцы канцоў кіраўнік нашае школы (дырэктарам польскай школы ў Чамярах быў тады Карл Навакоўскі. — *С. Ч.*) сказаў, што гэта вечарына апошняя. Трэба яму верыць, але не трэба траціць надзеі. Будзем шукаць іншага выхаду, бо сядзець на прызбе і чакаць нешта гатовае не прыходзіцца. *А-і*» (Беларускі летапіс. 1937. № 6–7. С. 147–148).

Але чамяроўцы на прызбе не сядзелі. Адны працавалі на ўласнай зямлі, другія вучыліся, а трэція займаліся палітыкай. Так Чамяры дажылі да верасня 1939 года. Прыход Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь вяскоўцы ўспрынялі па-рознаму: асцярожна і радасна. Сцяпан Міско ў сваім артыкуле «Вёска Чамяры», які быў апублікаваны ў часопісе «Полымя» ў 1968 годзе, піша: «Мне запомніўся 1939 год. 17 верасня. Падпольшчыкі абяззброілі ўвесь слонімскі гарнізон яшчэ за некалькі дзён да прыходу Чырвонай Арміі. Ніхто не адбіваўся. Адзін толькі польскі афіцэр стрэліў у чамяроўскіх хлопцаў, калі яны забіралі зброю ў жаўнераў. Салдаты ж былі беларускія, украінскія ды польскія хлопцы, і ім хацелася хутчэй дадому. Калі паявіліся першыя танкі, усе чамяроўцы выйшлі на гасцінец, хлеб з соллю вынеслі — сустракалі ж сваіх братоў.

Праз якія месяц-два да маёй маці прыехала сястра Волька. Дваццаць год не бачыліся, было аб чым пагаварыць, што ўспомніць. Павыходзілі з турмаў падпольшчыкі, пачалі будаваць савецкую ўладу. На прадвесні саракавога года ў Чамярах арганізавалі першы ў раёне калгас, адкрылі сямігадовую школу. Чамяроўцы кінуліся ў навуку. Помню, у наш чацвёрты клас прыйшлі хлопцы, старэйшыя за мяне на пяць-шэсць год. Людзі пачалі па-сапраўднаму жыць. Але ўсё гэта хутка скончылася» (Міско Сцяпан. Вёска Чамяры // Полымя. 1968. № 8. С. 182).

Хутка ўсё скончылася, бо адразу з прыходам Чырвонай Арміі пачаліся рэпрэсіі. Па стану на 7 кастрычніка 1939 года органамі НКУС БССР у Заходняй Беларусі было арыштавана больш за 2,7 тыс. чалавек. Сталінскія рэпрэсіі не абмінулі і Чамяры. У Мінску быў арыштаваны і прыгавораны «тройкай» упраўлення Народнага камісарыята ўнутраных спраў (УНКУС) па Ленінградскай вобласці да вышэйшай меры пакарання Максім Бурсевіч. Ці ведалі пра гэта яго чамяроўскія вучні? Магчыма, не. У верасні 1939 года арышты пачаліся і ў Чамярах. Спачатку былі выкліканыя ў Касцянёўскі

сельсавет два чамяроўскія хлопцы — Антон Міско і Гаўрыла Чыгрын. І — бясследна прапалі назаўсёды. У лістападзе 1939 года арыштавалі Якуба Міско і двух яго родных братоў Васіля і Івана. Пра тое, што рабілася ў гэты час у Чамярах, хадзілі розныя чуткі. Але чуткі чуткамі, а Васіля і Івана Міско ў 1940 годзе засудзілі на восем гадоў турмы. Праўда Якубу пашанцавала: з турмы ён напісаў пісьмо П. К. Панамарэнку, які даў каманду «разобраться по существу». Дзякуй Богу, разабраліся, і Якуб Міско апынуўся на волі.

Толькі ніхто «не разабраўся» з лёсам яго братоў. Пад канец 1944 года землякі атрымалі першае пісьмо ад Івана са сталінскіх лагераў з Комі АССР. А ў 1948 годзе, адбыўшы за нішто васьмігадовае зняволенне, ён вярнуўся ў свае Чамяры. Іван і расказаў, што Васіль у 1941 годзе знямогся ад цяжкай працы, ад холаду і голаду, захварэў і памёр у Карэліі. А як пачалася вайна, то зняволеных, у тым ліку і Івана, адправілі ў Комі АССР на лесанарыхтоўкі. Пазней абодвух (Васіля пасмяротна) рэабілітавалі. Іван усё жыццё пражыў у родных Чамярах. Нялёгка было, бо хапала ўсяго: і здзекаў, і абразаў, і розных плётак начуўся ў свой адрас. Бо людзі не ведалі праўды. У 1989 годзе і яго не стала.

Быў рэпрэсаваны і чамяроўскі палітык, змагар і вязень польскіх турмаў (адсядзеў 7 гадоў, з іх некалькі гадоў у адзіночнай камеры № 38 гродзенскай турмы) Аляксандр Багданчук. Пасля лагераў жыў у Томску, працаваў будаўніком. Ён прымаў удзел у паўстанні нарачанскіх сялян-рыбакоў у 1935 годзе і быў паранены. Дарэчы, Аляксандр Багданчук (тады — Стах) стаў для Максіма Танка прататыпам Грышкі — героя паэмы «Нарач». А яшчэ, як успамінала Аляксандра Бергман, «ён разам з Ігнатам Дварчаніным і Антонам Мальцам вывелі ў поле высокіх чыноўнікаў Навагрaдскага ваяводства! Ды што там, аднаго ваяводства. Сарвалі путы, накладзеныя на ўсю Заходнюю Беларусь у выбарчай кампаніі ў сейм у 1928 годзе. Сталі яны ўпапярок дарогі Пілсудскаму, які загадаў, каб на гэты раз не дапусціць у сейм ніводнага левіцовага беларускага пасла. Гэтую волю Пілсудскага здзяйсняла цэлая армія чыноўнікаў і ўстановаў ва ўсіх паўночна-ўсходніх ваяводствах. Яны ўздумалі, каб не дапусціць да прадстаўлення левіцовых выбарчых спіскаў, затрымаць у арышце тых, хто склаў гэтыя спіскі. Але тры мужыкі перахітрылі іх усіх. Планы «валадароў свету» рынулі, і беларускі левіцовы клуб «Змаганне» ўсё ж паўстаў у 1928 годзе і дзейнічаў два з паловай гады. Ды што там многа гаварыць. Багданчук быў тым, які кропля за кропляй і вялікімі порцыямі сардэчную сваю кроў і натужную працу свайго мозгу і волі аддаў дзеля таго, каб людзям жылося лягчэй і каб было гэта наша жыццё прыгажэйшым. Такім застаўся ў маёй памяці» (Бергман Аляксандра. Замест кветак на свежую магілу Аляксандра Багданчука // Ніва. 1977. 27 лют.).

Калі пачалася Другая сусветная вайна, для жыхароў вёскі Чамяры наступілі новыя выпрабаванні. 26 чэрвеня 1941 года Слонім і Чамяры былі ўжо акупаваны немцамі. У першыя дні вайны многіх мужчын і юнакоў забралі на фронт, і яны адтуль ужо не вярнуліся. Гэта Мікалай Агееў, Іван, Сямён, Уладзімір, Міхась і Фёдар Багданчукі, Леанід Чыгрын,

Іван Бурсевіч, Іван, Мікалай, Сцяпан і Уладзімір Дземяшэвічы, Ілья Кавальчук, Іван Ляменка, Міхась Саванец, Сцяпан Рэдзька, Яфім Сушко, Андрэй Ціханчук, Іван Хвясеня і дзясяткі іншых чамяроўцаў. Падчас вайны вёска страціла 126 сваіх жыхароў, згарэлі 32 хаты. У Калдычэўскім лагеры смерці загінулі Дарафей Міско і Вера Міско — бацька і жонка паэта Анатоля Іверса, у Асвенцыме — Міхась Міско і Міхал Багданчук, у Германіі — Ніна Клімовіч.

Некаторыя чамяроўцы, якія падчас акупацыі знаходзіліся ў роднай вёсцы, пайшлі ў партызаны — адны ў савецкія, другія — у беларускую народную партызанку (БНП). Феакціст Міско за ўдзел у беларускім нацыянальным руху, звінавачаны ў забойстве правакатара, дванаццаць гадоў правёў у турмах Польшчы. Калі пачалася вайна, уцёк з турмы ў Грудзёндзку і дабраўся да родных Чамяроў. Тут арганізаваў антыфашысцкае супраціўленне, карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод аднавяскоўцаў і слонімскай моладзі. У канцы 1943 года савецкім партызанскім рухам на Слонімшчыне кіраваў сакратар падпольнага райкама кампартыі, упаўнаважаны ЦК КПБ і Беларускага штаба партызанскага руху Міхал Анішчык, які вярнуўся з фронту з дзвюма радысткамі. Таварыш Анішчык падпарадкаваў сабе і антыфашысцкае падполле. Як расказваў мне паэт Анатоль Іверс, у лютым 1944 года ў брыгаднай зямлянцы Міхал Анішчык праводзіў сход. Сярод прысутных былі Феакціст і Іван Міско. Хлопцы стаялі недалёка ад акенца каля дзвярэй. Раптам за дзвярыма раздаўся стрэл, і Феакціст пачаў падаць. Іван падхапіў яго на рукі, але праз пару хвілін зямляк быў ужо мёртвы. Пасля стала вядома, што з пісталета страляла радыстка Анішчыка Яўгенія Валахановіч (падпольная клічка Вольга). Партызаны адразу хацелі яе застрэліць, але перашкодзіў Анішчык. Ён сказаў, што гэта быў «выпадковы» стрэл. Валахановіч з групаю партызан адправілі кудысьці на захад, дзе яна нібыта загінула. Так рукамі сваёй радысткі камуніст Анішчык знішчыў Феакціста Міско — аднаго з самых папулярных чамяроўцаў на Слонімшчыне ў 30–40-х гадах мінулага стагоддзя. Былыя партызаны і сёння прыгадваюць Феакціста Міско. Кажуць, што Анішчык знішчыў Міско дзеля таго, каб пасля вайны той не стварыў яму канкурэнцыі на пасадзе партыйнага кіраўніка раёна.

Дэфензіва і турмы Польшчы з’явіліся выпрабаваннем на сталасць і далі загартоўку яшчэ аднаму чамяроўцу — Мікалаю Бурсевічу. Да вайны ён працаваў настаўнікам. У 1943 годзе стварыў падпольную друкарню і пачаў выдаваць раённую газету «Вольная праца». Рэдакцыя і друкарня знаходзіліся ў лесе. Усяго было выпушчана 16 нумароў, кожны тыражом ад 350 да 500 паасобнікаў. Выдаваў Мікалай Бурсевіч са сваімі сябрамі і розныя заклікі, пракламацыі, звароты. Пасля вайны ён пэўны час быў рэдактарам Слонімскай раённай газеты…

Вайна ў Чамярах закончылася не 10 ліпеня 1944 года, калі вёску пакінулі немцы і прыйшлі савецкія войскі, а напрыканцы 1948 года. Многія чамяроўцы баяліся, што пры саветах зноў пачнуцца рэпрэсіі. Таму яны ішлі ў атрады БНП. Самым шматлікім атрадам у ваколіцах Чамяроў быў атрад «Хваля», які праіснаваў да сярэдзіны 1948 года. Супольна з ім

дзейнічалі невялікія партызанскія атрады пад кіраўніцтвам Хаванскага і Зярнова.

У траўні 1946 года чамяровец Міхась Чыгрын разам з Міхасём Ракевічам і Васілём Супруном стварылі ў Слоніме моладзевае беларускае патрыятычнае падполле пад канспірацыйнаю назваю «Чайка». Дарэчы, Міхась Чыгрын вучыўся ў Чамяроўскай школе і ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі. А ў 1945 годзе стаў навучэнцам Жыровіцкага сельскагаспадарчага тэхнікума, дзе стварыў сярод навучэнцаў філію «Чайкі». У чэрвені 1947 года яго арыштавалі органы МГБ. Быў асуджаны на 10 гадоў зняволення і 3 гады пазбаўлення правоў. Пакаранне адбываў у турмах Оршы і Баранавічаў і канцлагерах Інты. У Беларусь вярнуўся ў канцы 1980-х гадоў.

«Чайка» на Слонімшчыне не планавала займацца дыверсіямі, а ставіла задачу будзіць свядомасць беларусаў, змагацца за нацыянальныя правы і годнасць свайго народа, яго культуру, мову, гісторыю, за свабоду і незалежнасць Беларусі. Адзін з арганізатараў «Чайкі» Васіль Супрун (1926–2007), які жыў і памёр у Слоніме, успамінаў: «За год існавання патрыятычнае падполле з лакальнай слонімскай «Чайкі» перарасло ў даволі шырокі нацыянальны рух, які кіраваўся яго Цэнтрам і меў свае падпольныя групы ў былых Баранавіцкай, Брэсцкай, Маладзечанскай і Пінскай абласцях. Як ужо адзначалася, па прычыне канспірацыі я не мог ведаць аб жыцці і дзеяннях падпольных груп. І толькі значна пазней мне стала вядома, што Антон Кабак даручэнне Цэнтра выканаў належна. Ім на тэрыторыі Ільянскага раёна Маладзечанскай вобласці недзе ў траўні 1947 года была заснавана падпольная патрыятычная група пад кіраўніцтвам настаўніка Сяргея Яноўскага, якому і былі перададзены Загад і Інструкцыя Цэнтра. Аналагічныя дакументы былі перададзены і кіраўніку падполля па Пінскай вобласці Мікалаю Ляскаўцу. Незалежна ад нашага патрыятычнага падполля, у 1946 годзе (як выявілася) існавалі і іншыя арганізацыі антыбальшавіцкага супраціўлення на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Гэта Саюз беларускіх патрыётаў (СБП) у Глыбоцкай і Пастаўскай педвучэльнях і іншыя.

Імгненнымі знічкамі ўспыхнулі мы на цёмным небе Беларусі і згарэлі, так і не паспеўшы асвяціць яе прасторы. А так хацелася сваёй ахвярнай барацьбой за нацыянальную ідэю і свабоду разбудзіць патрыятычную свядомасць народа, яго магутныя сілы. Хоць не многія змаглі заўважыць агмені нашых шчырых сэрцаў, пачуць наш кліч, але сталінская зграя зразумела, што Беларусь не скарона, што ў яе глыбінях выспяваюць сілы, здольныя парваць ланцугі няволі і годна ўзняць штандары Незалежнасці.

Наша барацьба была няроўнай. Мы ведалі, што ідзём на мукі і на смерць, але лёс і гонар Беларусі былі для нас святымі, і мы не маглі паводзіць сябе інакш.

Можа, нехта сёння не зразумее нас, нашу ахвярнасць, бо для таго, каб разумець патрыётаў, трэба імі стаць, трэба любіць Беларусь — як любілі яе мы!» (Супрун Васіль. Штрыхі з успамінаў. Слонім, 2003. С. 55–56).

Моцна любілі Беларусь і чамяроўцы, але найбольш — свой куточак, сваю вёску. Толькі абараніцца ад усіх войнаў і рэпрэсій ім было цяжка. Пасля вайны пачаліся новыя арышты, ліквідоўвалася прыватная гаспадарка, вяскоўцаў сілаю заганялі ў калгас, які арганізавалі ў Чамярах у 1949 годзе. Праўда, старшынёю калгаса вяскоўцы абралі свайго хлопца — партызана і франтавіка Мікалая Хвясеню.

Вёска паціху пачала адбудоўвацца, дзеці пайшлі ў школу, а пасля школы — паступалі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Дарэчы, некалі ў школе ў Чамярах быў краязнаўчы музей, які арганізаваў Аляксандр Жукоўскі. Музей займаў толькі два пакоі. Але ў ім былі цікавыя экспанаты, якія расказвалі пра гісторыю вёскі, а таксама партрэты знакамітых чамяроўцаў — вучоных, пісьменнікаў, мастакоў, вайскоўцаў, дактароў, работнікаў сельскай гаспадаркі, будаўнікоў. Напрыклад, чамяровец Яўген Багданчук за вытворчыя поспехі на будаўніцтве Лукомскай ДРЭС у 1975 годзе атрымаў званне Героя Сацыялістычнай Працы. Ён быў дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР у 1975–1980 гадах. А Андрэй Міско стаў кандыдатам сельскагаспадарчых навук, спецыялістам па гатунковай агратэхніцы яравой і азімай пшаніцы і селекцыі азімай пшаніцы. У 1998 годзе атрымаў Дзяржаўную прэмію Беларусі.

З Чамяроў паходзяць шмат іншых знаных людзей, якія заслугоўваюць не толькі згадак у кнізе і памяці сваіх землякоў, а цэлых манаграфій і помнікаў. Гэта знакаміты беларускі палітык, педагог і публіцыст Максім Бурсевіч (1890–1937), дактары медыцынскіх навук Андрэй і Ілля Пракапчукі, доктар гістарычных навук Міхаіл Міско (1904–1972), паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) (1912–1999), журналіст і пісьменнік Якуб Міско (1911–1981), кандыдат мастацтвазнаўства і культуролаг Сцяпан Міско (1930), кандыдат філалагічных навук, паэт Іван Чыгрын (1931–2006), скульптар Іван Міско (1932), кандыдат мастацтвазнаўства, педагог і драматург Уладзімір Іскрык (1942), паэт Ігар Бурсевіч (1949) і іншыя.

# СУПЕРЫЁРЫ І ВЫКЛАДЧЫКІ ЎСХОДНЯЙ МІСІІ АЙЦОЎ ЕЗУІТАЎ У АЛЬБЯРЦІНЕ (1924–1942)

У выніку заключанай у сакавіку 1921 года Рыжскай дамовы паміж РСФСР і БССР, з аднаго боку, і ІІ Рэччу Паспалітай — з другога, шэраг этнічных беларускіх зямель увайшлі ў адміністрацыйныя межы Польскай дзяржавы. Каталіцкая царква была незадаволена фактам перабольшання на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў насельніцтва праваслаўнага веравызнання, хаця былі яны пераважна патомкамі колішніх уніятаў, якіх адлучылі ад каталіцкага касцёла сто гадоў таму. Ішлі гады, але пераход у каталіцызм стаў рэдкай з'явай у выніку мабілізацыі праваслаўнай царквы, адсутнасці арганізаванай акцыі з боку каталікаў, нежадання многіх праваслаўных мяняць веравызнанне, што многімі ўспрымалася як здрада сваёй нацыянальнасці. Таму нарадзілася ідэя прыцягненне дысідэнтаў да касцельнага адзінства без змены абраду, пры захаванні моўных, культурных і бытавых адасобленасцей. Папа Пій ХІ у энцыкліцы Ecclesiam Dei з нагоды юбілею святога Язафата Кунцэвіча ў 1923 годзе паўторна звярнуўся да праваслаўных з заклікам вярнуцца да касцельнага адзінства, гарантуючы ім шанаванне свайго абраду. Тады падляшскі біскуп Генрык Пшаздзецкі запрапанаваў план стварэння прыходаў уніяцкага абраду, падпарадкаваных мясцовым лацінскім біскупам. Ён прапанаваў таксама, каб у рэалізацыю плана актыўна ўключыць ордэн езуітаў. Пій ХІ план падтрымаў, а генерал ордэна Уладзімір Ледухоўскі абавязаўся яго выканаць. Такім чынам узнікла «ўсходняе адгалінаванне» Таварыства Ісуса.

24 ліпеня 1924 года віленскі біскуп Юры Матулевіч выдаў дэкрэт аб утварэнні Альбярцінскай парафіі славяна-візантыйскага абраду. У траўні 1924 года ў Альбярціне з'явіліся першыя два айцы езуіты — а. Караль Буржуа і а. Міхал Маліноўскі, якія 4 лістапада заклалі пачатак усходняй місіі айцоў езуітаў сярод беларусаў.

Караль Буржуа (1887–1963) нарадзіўся ў Парыжы. Гэта быў першы неаўніяцкі езуіт у Польшчы, а таксама ў Альбярціне. Тут ён працаваў з траўня 1924 да снежня 1925 года. Выконваў абавязкі кіраўніка місіі. Аб сваёй працы напісаў успаміны і надрукаваў у газеце «Etudes» (№ 191, 1927 год). Пасля Альбярціна працаваў настаўнікам французскай мовы ў Празе, у Эстоніі, а з 1950 года жыў сярод рускіх эмігрантаў у Сан-Паўлу ў Бразіліі, дзе і памёр.

Міхал Маліноўскі (1887–1942) вучыўся ў Пецярбургскай духоўнай семінарыі, быў прафесарам духоўнай семінарыі ў Вільні. У Альбярціне знаходзіўся з 1924 да 1927 гадоў. Пасля працаваў суперыёрам і мадэратарам Марыянскай садаліцыі ў Варшаве, Познані, Лодзі. У 1940 годзе быў арыштаваны немцамі і загінуў у канцлагеры ў Дахау.

Уладзіслаў Пуслоўскі, якому ў той час належаў Альбярцін, падтрымаў працу айцоў езуітаў, і ахвяраваў на гэтыя мэты свой будынак. Ён быў занядбаны, але езуіты абяцалі, што яны навядуць там парадак. Побач

знаходзілася каплічка лацінскага абраду. А адзін з пакояў старога будынка пераабсталявалі пад каплічку ўсходняга абраду, у якой пачаў служыць а. Караль Буржуа. Айцец Міхал Маліноўскі ахапіў абслугаю каплічку лацінскага абраду. Наогул, альбярцінскія айцы належалі да розных нацыянальнасцей. Гэта былі немцы, палякі, чэхі, балгары, украінцы, французы, беларусы, румыны, славакі і іншыя. Але агульнай мэтай для іх была і засталася павага найперш да беларускага народа, сярод якога яны вялі сваю місійную дзейнасць.

У 1925 годзе сакратар генерала ордэна езуітаў Уладзімір Пянткевіч стаў протаігуменам адкрытага там манастыра. Але ў 1930–1932 гадах, як пісаў часопіс «Złučennie», супраць унійскае акцыі пачаліся прэсавыя кампаніі і перашкоды, маўляў, уніяты праводзяць русіфікацыю. «Трэба было бараніцца жывым словам і пяром, ездзіць да адзінак урада на высокіх становішчах. Слабае здароўе протаігумена а. Пянткевіча не вытрымала гэтых фізічных і маральных цярпенняў. У сакавіку 1933 года было зложана яго цела на мясцовым магільніку пад соснамі» (Złučennie. 1938, студзень. С. 9).

Праўда, Уладзімір Пянткевіч яшчэ паспеў напісаць невялікую кніжачку на польскай мове «Праўда аб Альбярціне» і выдаць яе ў 1932 годзе ў Кракаве. У ёй ён даў грунтоўны адказ сп. Есьману з Бярдовіч (вёска на Слонімшчыне. — *С. Ч.*) і каноніку Адаму Абрамовічу з Беластока, якія ўсюды пісалі і гаварылі, што нібыта дзейнасць уніяцкага руху ў Альбярціне праводзіцца на рускай мове. Уладзімір Пянткевіч у «Праўдзе аб Альбярціне» пісаў: «Імправізуе тады і сп. Есьман ды расказвае, што пасля нашага пасялення на Слонімшчыне мы загадзя вырашылі, што як у набажэнствах, так і ў кантактах з усходнім насельніцтвам будзем пастаянна карыстацца выключна рускай мовай і ўсю прапаганду весці на ёй жа… Перш за ўсё хачу супакоіць чытачоў, што мы ніколі не прынялі для сябе такога неразумнага прынцыпу, які нашы крытыкі сілаю спрабуюць нам унушаць. Які ж быў бы сэнс і які ж дзіўны праект, каб уніяцкую працу ў Польшчы, ці хаця б нават на Слонімшчыне, весці выключна на рускай мове?! Які ж быў бы сэнс і проста вар'яцтва ў людзей, якія хаця не вучыліся ўніяцкай працы ні ў рэдакцыі беластоцкай «Заранкі», ні ў сп. Есьмана ў Бердавічах, аднак не зваліліся на крэсы з Месяца і безнадзейна не страцілі пачуцця рэчаіснасці, каб не ведаць, што Слонімшчына і Навагрудчына — гэта не Калуга ці Вязьма, і не разумець, што ўніяцкая акцыя на крэсах Польшчы — галоўным і першачарговым чынам, а ў пераважнай большасці выпадкаў нават выключна — мусіць весціся на беларускай і ўкраінскай мовах» (Piątkiewicz Włodzimierz. Prawda o Albiertynie. Kraków, 1932. С. 11. Пераклад Віталя Лубы).

Тым не менш Альбярцін хутка атрымаў статус першага ў Заходняй Беларусі прыхода ўсходнеславянскага абраду, а ў 1926 годзе місія была зацверджана як навіцыят (установа для падрыхтоўкі да ўступлення ў сябры манаскага ордэна), які заснаваў свой філіял у вёсцы Сынковічы (гэта 15 кіламетраў ад Альбярціна), а Сынковіцкая крэпасць-царква стала цэнтрам прыхода ўсходнеславянскага абраду. У 1927–1931 гадах у

Альбярцін прыбылі новыя групы навіцыяў, з ліку мясцовай беларускай і польскай моладзі; у канцы 1932 года тут прайшлі падрыхтоўку больш за 60 святароў, а манастыр у Альбярціне і філіял у Сынковічах мелі 25 місіянераў (Рэлігія і царква на Беларусі. Мінск, 2001. С. 13).

1927 годзе ў Альбярцін з Варшавы прыехалі Павел Мацэвіч і Эдвард Войтчак. А ў 1928 годзе на дапамогу альбярцінскім айцам быў пасланы француз Піліп дэ Рэжыс. Ён вельмі хутка вывучыў беларускую і польскую мовы. Працаваў соцыем майстра навіцыята і адміністратарам прыхода ў Альбярціне. У 1932 годзе стаў майстрам навіцыята і выкладчыкам візантыйска-славянскай літургіі. Праз год перавёўся ў Рым, а пасля пераехаў у Аргенціну, дзе ў 1955 годзе памёр у Буэнас-Айрэсе.

Заслужаным уніяцкім дзеячам і арганізатарам усходняй місіі быў Антон Дуброўскі (Дамброўскі) (1896–1947). Нарадзіўся ён на Браслаўшчыне, вывучаў філасофію і багаслоўе ў Кракаве і ў Рыме, жыў і працаваў у Альбярціне спачатку духоўным айцом, потым — міністрам дому, соцыем магістра навіцыята і адміністратарам неаўніяцкага прыхода, суперыёрам усходняй місіі, рэктарам і магістрам навіцыята ў Альбярціне. Шмат пісаў артыкулаў на тэму ўсходняй місіі і грэка-славянскага абраду, якія чыталіся на ўніяцкіх кангрэсах.

У 1935 годзе ў Альбярцін прыехаў малады айцец Станіслаў Ласкі (1904–1944). Ігумен і майстар навіцыята адразу актыўна ўзяўся за працу. Ён пабудаваў царкву і касцёл лацінскага абраду ў Альбярціне, а таксама шырока займаўся публічнай дзейнасцю на карысць касцельнай уніі. У 1944 годзе яго арыштавалі ў Польшчы немцы і вывезлі ў канцлагер Маўтгаўзен, дзе Станіслаў Ласкі быў расстраляны.

Амерыканскі езуіт польскага паходжання Вальтэр Цішак (1904–1984) быў місіянерам у Альбярціне з 1938 года. У 1941 годзе ён быў рэпрэсіраваны. Памёр у ЗША.

Год аперырыем працаваў у Альбярціне і ў Жыровічах Тадэвуш Мацяёўскі (1912–1994), майстрам навіцыята ў Альбярціне — Стэфан Сакач (1890–1973), суперыёрам і міністрам з 1931 да 1936 года — Антоні Зомбэк (1899–1989) і іншыя святары візантыйска-славянскага абраду. Іх дзейнасць і жыццё заслугоўваюць асобных манаграфій.

Згадваючы пра даваенны Альбярцін, нельга абмінуць і яшчэ дзве яркія асобы — Антона Неманцэвіча (1893–1943) і Антонія Гжыбоўскага (1904–1943).

Антон Неманцэвіч скончыў Пецярбурскую каталіцкую духоўную акадэмію і папскі Усходні інстытут у Рыме, абараніў доктарскую дысертацыю. Выконваў святарскія абавязкі ў Альбярціне і пры ўніяцкай парафіі ў Сынковічах. У 1932–1937 гадах рэдагаваў беларускі ўніяцкі часопіс «Да злучэньня». А ў 1938 годзе разам з Янам Урбанам выдаваў часопіс «Злучэньне».

У 1940 годзе львоўскім мітрапалітам Андрэем Шаптыцкім нелегальна быў зацверджаны Беларускі Экзархат Грэка-Каталіцкай царквы, кананічна пацверджаны праз год Ватыканам і ўзначалены Антонам Неманцэвічам.

Беларускі Экзарх, як духоўны прадстаўнік беларускага народа, мог выступаць ад ягонага імя ў Ватыкане.

У траўні 1942 года айцец Неманцэвіч разам са сваімі паплечнікамі заснаваў Апостальства Малітвы за Беларусь. Гэта значыць, кожны грэка-каталіцкі святар абавязаўся адзін раз у месяц праводзіць службу, на якой маліўся за беларускі народ. Але ўжо праз тры месяцы Антона Неманцэвіча арыштоўваюць супрацоўнікі СД, вывозяць яго ў Мінск і там расстрэльваюць.

Трагічным аказаўся лёс у Альбярціне і айца Антонія Гжыбоўскага. Пасля Кракава і Любліна, дзе ён вывучаў філасофію і багаслоўе, малады святар прыехаў у Альбярцін і быў прызначаны рэктарам лацінскага касцёла. Калі на Слонімшчыну прыйшлі немцы, айцец Гжыбоўскі вельмі шмат дапамагаў яўрэем, беларусам, палякам. Гэта не падабалася савецкім партызанам. Яны пераапрануліся ў нямецкую форму і 20 кастрычніка 1943 года ноччу ўварваліся ў яго дом, разбудзілі і вывезлі ў лес недалёка ад Альбярціна. Там яго расстралялі і закапалі ў зямлю…

Рэпрэсіі нямецкіх і савецкіх уладаў, а таксама знішчэнне айцоў Неманцэвіча і Гжыбоўскага, спынілі езуіцкую дзейнасць у Альбярціне. Пра апошнія гады дзейнасці ўсходняй місіі айцоў езуітаў у Альбярціне добра згадвае ў сваёй кнізе «З богам у Расеі» альбярцінскі ўніят Вальтэр Цішак: «Мая праца ў Альбярціне на дзве трэці была душпастырскай і на трэць настаўніцкай. Я выкладаў этыку маладым езуітам, якія вывучалі ў нашай місіі ўсходні абрад, і дзецям у школе — катэхізіс. Акрамя таго, быў вандроўным святаром, які наведваў у Альбярціне і навакольных вёсках сем'і, даючы ім парады, размаўляючы са старымі бабулямі і з хворымі, выконваючы тысячы дзеянняў, як і належыць душпастыру малога мястэчка. З-за таго, што нас у Альбярціне было мала, толькі трое святароў апрача начальніка а. Дамброўскага, і з-за таго, што я быў новапрыбылым чальцом, я атрымаў у спадчыну розныя дробныя павіннасці, якія звычайна выпадаюць на маладзейшага вікарыя.

Сам Альбярцін не быў горадам. Сапраўдным горадам быў Слонім над Шчарай, прамысловы асяродак на трасе галоўнай чыгуначнай лініі з Масквы ў Варшаву. Ад моста праз Шчару трэба было ісці пакручастай бруднай дарогай чатыры з паловай кіламетры да паселішча Альбярцін. Чыгунка таксама праходзіла праз Альбярцін, але гэта быў толькі прыпынак на трасе да Масквы. Адзінай магчымасцю далучыцца да гістарычнай славы, якую мог сабе дазволіць Альбярцін, быў напалеонаўскі гасцінец, які шырокім пасам працінаў лес у паўночным накірунку. Ён уяўляў сабой рэшткі дарогі, якая была збудавана пры Напалеоне ў час нападу на Расею.

Я прыбыў у Альбярцін у лістападзе 1938 года, адразу пасля канферэнцыі ў Мюнхене, на якой прынялі рашэнне раздзяліць Чэхаславаччыну і такім чынам забяспечыць, як выказаўся Чэмберлен, «мір у наш час». Але хутка пасля майго прыезду Гітлер пачаў свой паход па здабыццю Гданьскага калідора. Усю зіму сітуацыя пагаршалася, ранняй вясной нават разышлася пагалоска, што пераапранутыя нямецкія салдаты прабраліся ў Гданьск і падрыхтаваліся да захопу горада раптоўнай атакай. Вяскоўцы

ў Альбярціне сеялі яравыя, не ведаючы, ці здолеюць у гэтым годзе зняць ураджай. Позняй вясной ужо паўсюль гаварылі пра вайну.

22 жніўня 1939 года Рыбентроп і Молатаў аб'явілі, што немцы і Расея падпісалі пакт аб узаемным ненападзе. Хутка пасля гэтага я атрымаў пасланне з амерыканскай амбасады ў Варшаве са звесткай, што неўзабаве можа выбухнуць вайна і што я павінен падрыхтавацца пакінуць Польшчу. Абмеркаваў гэта з а. Дамброўскім і сказаў яму, што не хачу выязджаць. Я з'явіўся ў Польшчы, каб працаваць ва ўсходняй місіі, да таго ж я не пакідаў надзеі, што паеду ў Расею, і вайна можа даць мне магчымасць менавіта для гэтага. Адпісаў у амбасаду, што я патрэбны ў парафіі і застануся там, дзе я неабходны.

Праз некалькі дзён, 1 верасня 1939 года, Гітлер напаў на Польшчу. Увесь час слухалі радыё: навіны былі кепскія. На працягу невялікага часу нямецкія войскі акружылі Варшаву, горад быў абложаны і бамбаваны. Рэшткі польскага войска ішлі на ўсход уздоўж напалеонаўскага гасцінца праз Слонім і Альбярцін. Варшаўскае радыё змоўкла, і мы ўжо ведалі, што лёс Польшчы прадвызначаны. Што яшчэ горш, разышліся чуткі, што расейцы трымаюць велізарнае войска каля ўсходняй мяжы і хутка ўвойдуць у Польшчу.

Урэшце а. Дамброўскі вырашыў адаслаць езуіцкіх навіцыятаў дадому, прынамсі да часу такога ўсталявання сітуацыі, каб можна было рабіць планы на будучыню. Ён сам паехаў у Вільню, каб спытацца ў біскупа, што рабіць з місіяй і парафіяй. З прычыны таго, што я амерыканскі грамадзянін, а. Дамброўскі вырашыў часова даверыць кіраўніцтва місіі мне. Айцец Грыбоўскі, які быў пробашчам парафіі лацінскага абраду, і а. Літвінскі, другі вікарый парафіі ўсходняга абраду, меліся заставацца з парафіянамі ў паселішчы.

Тады мы меркавалі, што немцы, а таксама і расейцы будуць паважаць амерыканскі пашпарт. У найгоршым выпадку амерыканская амбасада будзе заўсёды ведаць, дзе я, і здолее мне дапамагчы. Такім чынам сталася, што я, малады амерыканец, у дні, калі ўвайшлі расейцы, быў адзіным святаром місіі ў Альбярціне.

Першы расейскі афіцэр з'явіўся аднойчы пасля сняданку. Калі ён конна заехаў, каб паглядзець нашу езуіцкую місію, я знаходзіўся на падворку. Быў гэта чалавек сярэдняга ўзросту ў запыленым мундзіры колеру хакі з чырвонымі нашыўкамі расейскай арміі. Ветліва прывітаўся і аднёсся да мяне з павагай. Паглядаючы з-пад брыля, ён шчыра, так мне здалося, быццам просячы прабачэння, паведаміў, што можа ўзнікнуць патрэба ў расквартараванні некалькіх чальцоў штаба на некалькі дзён у нашых будынках. Ягоныя вочы выражалі стому. Ён здаваўся такім ветлівым, амаль прыязным, і я пачаў спадзявацца, што ўмовы жыцця ў Альбярціне пад расейскай акупацыяй, магчыма, не будуць кепскімі. На няшчасце, гэта быў апошні раз, калі я бачыў менавіта гэтага афіцэра. Думаю, ён урэшце вырашыў, што сядзіба графа Пуслоўскага будзе лепшай кватэрай для яго і ягонага штаба.

Пасля абеду таго дня з’явілася расейская вайсковая калона. Яе начальнік, малады капітан, не быў ні сімпатычным, ні агрэсіўным, а проста вельмі дзелавітым у практычных справах. Растлумачыў, што мае загад заняць семінарыю пад кватэры для войска. Паведаміў, што я магу захаваць за сабой пакой на другім паверсе і забраць, што хачу, з царкоўнага майна, бібліятэчных кніжак і маіх асабістых рэчаў, але астатнія будынкі з іх мэбляй будуць рэквізаваныя. Аднак абяцаў, што царква застанецца некранутай. Дзеля большай упэўненасці загадаў зрабіць праход праз падворак, каб людзі, ідучы ў царкву, не праходзілі па тэрыторыі, рэквізаванай для войска. Загадаў таксама замкнуць дзверы з семінарыі ў царкву, каб вайскоўцы не здолелі ўвайсці тым шляхам да царквы.

З’явіліся вайсковыя падраздзелы і занялі будынак. Пасля доўгіх дзён маршу жаўнеры кінуліся на семінарыю — як калісьці рэвалюцыянеры на Зімовы Палац. У двор заехалі грузавікі, і жаўнеры пачалі кідаць на іх праз вокны бібліятэкі ўсё, што трапляла ім у рукі. Кніжкі лёталі ва ўсіх накірунках. Жаўнеры ў двары смяяліся і жартавалі, крычалі на тых, што кідалі кніжкі праз вокны. Ім адказвалі гэтым жа. Урэшце кніжкі былі вывезены на знішчэнне.

Калі гэта рабілася, я з жахам убачыў, як адзін з жаўнераў закінуў трос на манумент Найсвяцейшага Сэрца, што стаяў у двары, прывязаў да грузавіка і, пад гучныя крыкі жаўнераў, паваліў яго, разбіўшы на дробныя кавалкі. Абломкі пагрузілі на машыны і вывезлі. Назіраючы за гэтай сцэнай, я не мог зразумець, ці гэты асаблівы подзвіг быў выкананы па загаду, ці гэта быў выбрык кагосьці з жаўнераў.

Наступная ноч было найгоршай з перажытых мной у Альбярціне. Спаць не мог, бо нада мной няспынна туды-сюды хадзілі жаўнеры. А назаўтра я быў выкліканы на асабістую гутарку з палітруком, агентам камуністычнай партыі альбо тайнай міліцыі, які меўся ў кожнай адзінцы Чырвонай Арміі. Ён хацеў даведацца, дзе ў Альбярціне знаходзяцца былыя чыноўнікі польскай улады. Я аб гэтым нічога не ведаў, так яму і сказаў. Ужываючы метад, з якім я добра пазнаёміўся пазней, палітрук задаў мне тое ж самае пытанне некалькі разоў у рознай форме. Настойваў на маім адказе, аргументуючы, што, калі я яму дапамагу, то тым самым дапамагу «народу». «Мая дзейнасць з’яўляецца не палітычнай, а душпастырскай, — адказваў я. — Як пробашч дапамагаю людзям у духоўных справах і, калі маю магчымасць, у матэрыяльных».

Тут ён раззлаваўся, а з мяне гэтага было ўжо даволі. Я памкнуўся ўстаць, але ён мяне затрымаў, загадаўшы вярнуцца і сесці. Аднак астатнюю частку нашай «гутаркі» быў пачцівы і ветлівы. Неўзабаве правадзіў мяне да дзвярэй, кажучы, што хутка выкліча мяне зноў.

Замест яго праз некалькі дзён мяне выклікаў капітан. Паведаміў, што вайсковы статут забараняе цывільным асобам жыць у адным памяшканні з войскам. «Прапанаваў», каб я перайшоў жыць у маленькі дамок у канцы саду місіі. Гэты сад некалі быў дворыкам яе нерухомай маёмасці. Перабраўся адразу пасля абеду, а вечарам да мяне далучыліся айцы Грыбоўскі і Літвінскі. Мы былі радыя, што жывём разам, супольна,

але праз некаторы час мясцовы камуністычны камітэт вырашыў, што чатырохпакаёвы дамок для трох «буржуазных святароў» — гэта задужа. І прыслалі некалькі сем'яў, каб жылі з намі. Мы ўтрох занялі адзін пакой, дзве сям'і памясціліся ў вялікай сталовай, а тры — у меншым пакоі. Кухняй карысталіся пазменна…

Аднойчы раніцай, калі я прыйшоў у царкву, каб адправіць імшу, то застаў дзверцы ад кораба для святых дароў адкрытымі, а абрус з ахвярніка скінутым. Заўважыў таксама адсутнасць Найсвяцейшага Сакраманту. Я быў узрушаны. А калі заўважыў, што дзверы ў жаўнерскую дзяжурку ўжо не забітыя цвікамі, адразу зразумеў, што сталася і чаму.

Пасля абеду я паспрабаваў сустрэцца з капітанам, каб скласці скаргу, але безвынікова. Лацінская царква ў Альбярціне надалей функцыянавала нармальна, і наведвала яе больш людзей, чым калі-небудзь дагэтуль. Здавалася, што жаўнеры асабліва ненавідзелі каталікоў усходняга абраду, як чальцоў Царквы супрацьлеглай расейскаму праваслаўю, але амаль не перашкаджалі каталікам лацінскага абраду, і шмат нашых вернікаў удзельнічалі ў святой імшы пераважна там. Таму я неахвотна вырашыў зачыніць царкву ўсходняга абраду. Перш чым зрабіць гэта, апошні раз абышоў яе з праверкай і выявіў, што жаўнеры, так, каб ніхто аб гэтым не ведаў, ператварылі гарышча ў прыбіральню. З гэтага часу адпраўлялі імшу толькі ў лацінскай царкве альбо, для нешматлікіх парафіянаў, у нашым пакоі ў садовым дамку.

Менавіта ў гэты час прыйшла тэлеграма з амерыканскай амбасады. Прыйшла з Масквы, куды пераехала амбасада пасля падзення Варшавы. Мне раілі пераехаць у Маскву, адкуль маглі адправіць у Злучаныя Штаты, альбо, калі палічу гэта больш пажаданым, накіравацца ў амерыканскую амбасаду ў Румыніі. Я паказаў гэтую тэлеграму маім сябрам-святарам, і мы сумесна яе абмеркавалі. Палічылі, што я павінен выехаць. Праца ўсходняй місіі здавалася ў дадзены момант цалкам знішчанай. Асабіста я мала чаго здолеў бы зрабіць, таму мог быць лёгка заменены іншымі айцамі. Агент НКУС, праз чые рукі, мабыць, прайшла тэлеграма, таксама «падказваў», што я, амерыканскі грамадзянін, павінен неадкладна пакінуць краіну. А я, насуперак тым прыспешванням, адчуваў, што адказваю за парафію і місію перад айцом Дамброўскім і павінен застацца да таго часу, пакуль не ўзгадню ўсё з ім. Аб гэтым пасля абеду напісаў у амбасаду, маўляў, вырашыў застацца ў парафіі, якая мне даверана. Не маю намеру пакідаць маіх авечак.

Крыху пазней прыйшла неспадзяванка. З езуіцкага аддзела тэалогіі ў Львове прыбылі айцы Нястроў і Макар са звесткамі ад айца Дамброўскага, што біскуп вырашыў часова зачыніць усходнюю місію ў Альбярціне. Гэта было сапраўды дзіўнае спатканне для нас, трох мушкецёраў, тут, у гэтым маленькім дамку ў глыбіні саду, пад чорным покрывам акупацыі расейскімі войскамі.

Макар, высокі грузін, быў надзіва поўны захаплення. Са сваімі доўгімі хвалістымі валасамі, арліным носам і бліскучымі чорнымі вачыма, ён быў падобны на прыроджанага авантурыста, а падарожжа з Львова да

Альбярціна яшчэ ўзмацніла ягоны запал. Нястроў прадстаўляў іншы тып авантурыста, хоць такім не выглядаў. Быў моцна складзены, амаль лысы, з мясістым носам, які рабіў яго падобным да Талстога. Жаданне працаваць толькі ў Расеі штурхнула яго наперад, і ў той вечар ён быў вельмі ажыўлены. Ён сказаў мне, што адчувае: надышоў час ажыццяўлення нашых сумесных мараў. Расейцы занялі Польшчу, такім чынам, мы фактычна ў Расеі. А. Дамброўскі, зачыніўшы місію, вызваліў мяне ад абавязкаў у Альбярціне. А. Грыбоўскі, як меркавалася, мог заняцца тут лацінскай парафіяй. Чаму нам не выкарыстаць гэты шанец і не выслізнуць у глыб Расеі? Нястроў і Макар множылі аргументы, і мой энтузіязм рос. Урэшце разам вырашылі спрабаваць, калі згодзіцца наша начальства.

Дыскутавалі амаль да позняга ранку, і нашы планы станавіліся ўсё больш акрэсленымі. Нястроў і Макар меліся вярнуцца ў Львоў, а потым Макар павінен прыехаць па мяне. З-за таго, што наша начальства знаходзілася ў Львове, усё павінна было пачацца адгэтуль. Я тым часам, не ўзбуджаючы падазрэнняў, што збіраюся з'ехаць, даводжу да ладу справы ў Альбярціне. Памятаю яшчэ свае словы да Нястрова пры развітанні з ім той ноччу: «У Расеі будзем вясною».

Праз тыдзень, як і абяцаў, вярнуўся Макар, і на змярканні мы абодва выслізнулі з дома на дарогу да Слоніма. Цягнікі ўжо хадзілі не па раскладу, а на тыя, што хадзілі, нельга было набыць квіткі. Для майго грузінскага таварыша гэта паслужыла толькі выклікам. Мы дачакаліся на станцыі Слонім цягніка да Масквы і селі без квіткоў. Ні да каго не звяртаючыся, праехалі Альбярцін. З акна цягніка апошні раз убачылі сядзібу…» (Ks. Walter Ciszek. Z Bogiem w Rosji (1939–1963). London, 1988. С. 27–34. Пераклад Паўла Ляхновіча).

## СЛОНІМСКАЯ ССЫЛКА АДАМА СТАНКЕВІЧА

Імя беларускага рэлігійнага, палітычнага і культурна-асветнага дзеяча, аднаго з заснавальнікаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, рэдактара часопіса «Хрысціянская думка» Адама Станкевіча (1891–1949) паціху вяртаецца з небыцця.

Ужо надрукаваны яго многія працы, напісаны пра яго артыкулы, успаміны, з друку выйшлі дзве ягоныя кнігі твораў.

Да пачатку Другой сусветнай вайны Адам Станкевіч пэўны час жыў у Слоніме і вёў богаслужэнне ў касцёле бернардзінак, які знаходзіцца ў самым цэнтры горада. А выслалі яго сюды з Вільні за тое, што быў беларускім святаром і вёў службу на беларускай мове: «Варожа ставіцца да польскай дзяржаўнасці і апошнім часам на тэрыторыі Вільні і Віленшчыны разгарнуў барацьбу беларусаў за аўтаномію, імкнучыся да дасягнення поўнай незалежнасці Беларусі. Над дзейнасцю кс. Станкевіча ўстанавіць

патаемнае назіранне» (з ліста следчага аддзела ў Вільні ў Навагрудак у справе высялення кс. Адама Станкевіча ў Слонім 14 студзеня 1939 года).

Так, 27 снежня 1938 года выехалі з Вільні выселеныя з прыгранічнай паласы на пяць гадоў рашэннем віленскага ваяводы кс. Адам Станкевіч, кс. Уладзіслаў Талочка і інжынер Адольф Клімовіч. Уладзіслаў Талочка пасяліўся ў Беластоку, Адольф Клімовіч — у Варшаве, а Адам Станкевіч — у Слоніме. Праўда, ён яшчэ паспеў перад высяленнем выдаць у Вільні кніжку «Беларускі хрысьціянскі рух».

Новы 1939 год ксёндз Адам Станкевіч сустрэў у Слоніме. Акрамя службы ў касцёле бернардзінак (служыў па-польску, па-беларуску польскія ўлады не дазволілі), шмат пісаў на роднай мове, перапісваўся з беларусамі з Вільні, Беластока, Варшавы, Прагі, Мінска, Санкт-Пецярбурга і іншых гарадоў. Тут, у Слоніме, ён нават пісаў свае «Каляндарныя нататкі», якія ажно ў 2004 годзе (№ 9) упершыню апублікаваў часопіс «Куфэрак Віленшчыны». Вось некаторыя слонімскія запісы нататкаў Адама Станкевіча:

## 1938 год

28 лістапада. Быў тут а. А. Дуброўскі (Антон Дуброўскі (1896–1947) — беларускі каталіцкі святар усходняга абраду, тэолаг, прафесар філасофіі, педагог і публіцыст, арганізатар усходняй місіі, адзін з арганізатараў неаўніяцкага руху ў Заходняй Беларусі. — *С. Ч.*) з Альбярціна. Казаў, што праваслаўных палякаў сапраўды крыху ёсьць, гэта палякі, якія дзеля жанімскіх і разводных спраў пакінулі каталіцтва і перайшлі ў праваслаўе.

У Слоніме (у парафіі) за год больш-менш сто праваслаўных пераходзіць у каталіцтва. Староньнікі спалянізаваньня беларусаў бядуюць, што доўга трэба чакаць.

У Слонімскім гарнізоне за год сярэднім дваццаць жаўнераў праваслаўных прымае каталіцтва і польшчыцца. Так жа доўга чакаць.

Палякі ўважаюць, што Гітлер толькі для прыманкі стаіць за самаазначэньне народаў, а сапраўды імкнецца іх зьнішчыць да званьня.

Паводле чутак у восень 1938 года камуністы Слонімскага павету хацелі збройна заняць Слонім.

Камуністы былі прыціхшы, цяпер, як кажуць, ізноў ажывіліся. Гэта ў Слонімскім павеце.

Падчас выбараў у Слонімскім павеце былі мейсцы, дзе галасавала 5%, рэшта ўцякла ў лясы і хавалася. Так, толькі беларуская народная праца можа тут направіць адносіны.

У Пінскую Дух. Р-К Семінарыю ў 1938 годзе не было ані аднаго кандыдата. Прычына? Розныя ёсьць, але і тое ёсьць прычынай, што ў сучасных варунках ксёндз мусіць ісьці проціў свайго, беларускага народу, мусіць яго палянізаваць.

## 1939 год

7 студзеня. Кс. Рэшэць (Язэп Рэшэць (Рэшаць) (1890–1958) — беларускі каталіцкі сьвятар, доктар філасофіі і тэалогіі, педагог, пісьменнік, публіцыст. У беларускім друку выступаў пад псеўданімам Я. Рушчанец. — *С. Ч.*) хацеў уступіць у езуіты і прыняць усходні абрад. Усе езуіты былі за прыняцьце, проціў быў толькі адзін а. А. Дуброўскі (беларус). Ён уважаў што характар Рэшэця, як дужа самастойны, у езуіты не падыходзіць. Здаецца, што і погляды Рэшэця на праблему беларускую нацыянальную так жа адыгралі тут сваю ролю.

25 студзеня. Першы мой выезд на сяло. Быў у Радзівіловічах: раней вёска, цяпер калёніі, гм. Чамяры. Усе каталікі і шляхта: тут і ў іншых мясцох Горадзеншчыны, бадай, выключна на захадзе, здараюцца цэлыя вёскі шляхоцкія. Натуральна, лічаць сябе палякамі, беларускасьці не чураюцца, дома гавораць выключна па-беларуску. Што яны паходзяць з Польшчы, — гэта ня цьвердзяць і нават гэтаму пярэчаць, кажуць — яны нас парабілі шляхтай, а мы тутэйшыя спрадвякоў. Дужа рэлігійныя. Бязбожніцтва, якое шырыцца сярод праваслаўных беларусаў, іх прымае жахам і яшчэ больш уцьвяржае ў веры. Да беларускасьці не варожыя. Настроены дэмакратычна.

8 лютага. Цікавы дыялог: на дарозе за Слонімам спатыкаю трох сялян, беларусаў, на адным возе. Поддаль бачу нейкі вялікі будынак — ні то палац, ні то цэрква. — Што гэта? — пытаю. — Палац панскі. Ці тут яшчэ ёсць паны? — А як жа, каб у Польшчы, ды без паноў. У іх уся сіла. — Што ў вас, як жывецца? — Добра для тых, хто бярэ грошы, мяса таннае, збожжа таннае. — Ці чытаеце вы якія беларускія газеты? На што нам беларускія, нам гэтакія не патрэбныя. — Але тут ўжо пачалі « біць адбой», спужаліся сваёй сьмелай гутаркі прада мной, якога, пэўне ж, уважалі за паляка. Дзеля гэтага пачалі скрываць сваю беларускасьць і пачалі круціць язык на польскі лад, — што ў іх зусім не выходзіла. З гэтага спатканьня я бачу ў іх: 1) Бальшавіцкі настрой іх душы агулам, 2) Поўную адсутнасьць якіх-небудзь сантыметраў да Польшчы, 3) Вялікі сацыяльны (бальшавіцкі) радыкалізм, 4) Павярхоўнасьць беларускай нацыянальнай сьведамасьці.

Гэты мой дыялёг з трыма — гэта верная, больш-менш, ілюстрацыя псыхалёгіі праваслаўных беларусаў усяго Слонімскага пав. Паважная культурная бел. нац. праца (школа, прэса і г. д.) маглі б тут памагчы, але ж гэтага няма. Квіс гаўдэбіт?

12 лютага. Быў сёньня ў мяне чалавек з сяла (Слонімшчына), сьведамы беларус Н. Казаў: a) Усе праваслаўныя Беларусы арыентуюцца на Маскву. b) Народ тут даволі сьведамы сацыяльна і палітычна, але нацыянальна нямнога. c) Праваслаўе, дзякуючы няробству духавенства, угодлівасьці і вялікай грошаахвотнасьці, уплыву так і ня мае…

— Слонімская паліцыя «радзіць» кнігаром жыдом, каб прадавалі «Работніка», бо беларускія сяляне дужа шмат яго купляюць, а гэта не пажадана.

— Неласкава так жа вока і на продаж беларускіх кніжак і газет, бо праз гэта беларускія сяляне ўсьведамляюцца, а да гэтага дапускаць ня можна.

— Польскія кругі цьвердзяць, што сярод бел. сялянства дух камунізму ўпаў, бо яго саветы цяпер не падтрымліваюць, але тыя ж кругі бядуюць, што беларуская вёска кінута сама сабе і палякі там ня робяць, бадай, нічога.

— Агулам народ тут дужа бедны. Многія, многія ходзяць проста ў лапцях, нават жанчыны, часам дзяўчаты. Ніхто аб іх не дбае — іх толькі палянізуюць. Але і гэта ідзе туга. Народ трымаецца інстынктыўна сваёй беларускай нацыянальнай стыхіі. А ўсё ж народ наш цьвёрды і апорны на чужыя павевы.

— Прыпомніліся: Праф. М. Баброўскі сто гадоў таму, як быў зь Віленскага ўнiверсітэту сасланы царом у Жыровіцы, мусіў ня раз бываць і праяжджаць праз Слонім. У Вільні: жыў я ў Дамініканскіх мурох, дзе быў вязьнем і чакаў на расстрэл Кастусь Каліноўскі.

1 красавіка. Давялося пабываць у Дзярэчыне. Праяжджаў каля Сынковіч (слаўны касьцёл-крэпасьць) і каля Зэльвы. Усюды чысьцюсенькія беларусы. У Дзярэчыне была споведзь людзей. Старыя спавядаліся пераважна па-беларуску, або выстагнуць колькі «афіцыяльных» грахоў страшэнна перакручанай беларускай на польскі лад. Маладыя, што вучацца ў школе, што былі ў школе і што былі ў войску, спавядаюцца па-польску: трафарэт, які датыча грахоў, што запісаны ў кніжцы для набажэнства. Спавядаюцца агулам, «афіцыяльна», каб адбыць павіннасьць. Душа не раскрываецца, бо чужая, мала знаная мова, на гэта ім не дазваляе. Словам, польскі каталіцызм Беларусам робіць крыўду. Ён спыняе іх духоўны рост і калеча душу. Ці спольшчацца Беларусы? Агулам не: яны трымаюцца беларускай стыхіі, або мо лепш — яна іх трымаецца. Польшчацца толькі тыя, якія даступаюцца да ўрадавага карыта, але так жа часта без душы гэта робяць, няшчыра, мэханічна.

— Беларуская справа агулам сярод польскага каталіцкага духавенства здабыла права грамадзянства, прынамсі, тэарытычна. Перад вайной пляваліся, кідаліся да вачэй, плялі небыліцы. Цяпер гэтага няма. Шмат аб ёй ведаюць, цікавяцца і часам рухаюцца.

5 траўня. Казаў мне тут адзін ксёндз, што найлягчэй палянізуюцца палешукі. Яны, казаў, ня маюць ніякіх ідэалаў. Лёгка перапісваюцца на каталікоў-лацiньнікаў для інтарэсу. Гэта ўсё гэны ксёндз быццам сьцвердзіў уласным досьведам. Другі, ізноў ксёндз, ня ўмеючы па-беларуску, а працуючы на беларускай парахвіі, казаў: «Дужа цяжка працаваць ксяндзу, які не разумее народу і якога не разумее народ». Сьвятая праўда. Тым часам афіцыяльны польскі касьцёл гэтага «не разумее» і аб гэтым і слухаць ня хоча. «Мувце по-польску, а каждый вас зрозуме», — вось лёзунг афіцыяльнага ў нас касьцёла.

— Цікавая спасьцярога. На дэканальнай у Слоніме канфэрэнцыі жыровіцкі пробашч кс. Слемп, родам з Галіцыі, сказаў, што ў яго (у Жыровіцах) каталікі-лацiньнікі (іншых няма) — гэта выключна прывезеныя з Польшчы этнаграфічнай асаднікі, што гэты элемент дрэнны пад кожным углядам (рэлігія, маральнасьць) і што іх куды перавышаюць мяс-

цовыя, Беларусы. Казаў, што гэтыя мясцовыя дужа здольныя людзі, што прыемней пагаварыць з дзецьмі першай клясы, як са старымі асаднікамі. Так, народ наш здольны, толькі Бог яму долі ня даў.

19 траўня. Спаткаў праваслаўную працэсію — ішла зьнекуль ды ў Слонім. Пяялі. Паслухаў. Ад вуха да вуха рэзалі: «Ты прошёл свой тернистый путь, надривая грудь…». Неяк гэтак. Словам, расейшчына. Здаецца, хоць бы царкоўна-славяншчына, але не, падпсутая маскоўшчына. Адвечная рана робіцца і ные: з аднаго боку «польская вера», а з другога «расейская» — самыя грубыя падробкі хрысьціянства. У каталікаў хоць нешта новае, беларускае ў жыцьці рэлігійным народу робіцца, а ў праваслаўных нічагусенькі. Якая трагедыя народу!

— У Слоніме вядзецца прапаганда сярод праваслаўных у кірунку стварэньня польскага праваслаўя. Розныя кар'ерысты і афэрысты як сярод сьвецкіх, так і духоўных на гэта ідуць. Для народу гэтая «ідэя» дзікая і чужая. Бліжэйшая мэта гэтай акцыі — завесьці ў царкве польскую мову. Некаторыя з маладых папоў на гэта ідуць. Кар'ера, добры хлеб, выгоднае і спакойнае жыцьцё. — Магчыма, што гэта акцыя Беларусам не зашкодзіць — аслабіць крыху расейшчыну, а з гэтага скарыстае мясцовая беларуская стыхія. Але ці беларуская? Можа, якраз расейская?

8 чэрвеня. У Слоніме працэсія Божага Цела. На працэсіі і я. Пасьля працэсіі ў дэкана прыняцьце. Староства, ваенныя, паліцыя, ксяндзы… Меў доўгую гутарку з старастам Ольшэвскім. Вось яго пагляды: Беларусаў трэба асыміляваць, зрабіць палякамі, дзеля гэтага ім не даецца магчымасьць тварыць сваю беларускую культуру, бо гэта сэпаратызм. Беларускі народны рух заўсёды выкарыстае супраць Польшчы Масква і затым на яго дазволіць ня можа. Вынадараўленьне Беларусам не прынясе крыўды, бо яны самі хочаць быць палякамі і яны ніякі народ і не маюць ніякай культуры. Як бачым — ніякіх ідэалаў, ніякай этыкі, ніякай культуры — толькі зоолёгія. Ну і паглядзі — гэтак выходзіла з гэнай гутаркі: як немцы пазбаўлялі палякоў зямлі, дык гэта дрэнна, а як палякі не дапускаюць сьведамаму беларусу без дазволу ваяводзтва купіць зямлю, дык гэта добра. Як цар праз царкву русіфікаваў, дык гэта дрэнна, а як палякі бяруцца да палянізаваньня праз царкву, дык гэта добра.

— Агулам, у яго перакананьні, няма ніякага беларускага народнага руху, а калі што ёсьць, дык гэта работа камуністаў або групкі «зачадзоных» (даслоўна) зь Вільна інтэлігентаў.

Асыміляцыя, казаў, ідзе ў яго і ў суседніх паветах усёй парай. Ну, паглядзім.

— Па маім прыезьдзе з Арлянят (сёлета вясной), дзе я быў з дазволу ваяводы, наслалі поўна шпікоў, якія дапытваліся ў сялян, што я рабіў, што гаварыў, ці зьбіраў людзей і т. д.

25 ліпеня. Тое самае было і па маім выезьдзе другі раз (летам 8–10 ліпеня 1939). Хадзілі сышчыкі і паліцыянты, ці ня думаю я «перавярнуць Польшчы». Мусіць, слаба яны чуюцца, калі мяне ды гэтак баяцца. Або проста грошы бяруць дармаеды, дык стараюцца «працаваць».

3 жніўня. Першы раз у жыцьці адведаў Жыровіцы. Калі ўпаў у саборы перад цудоўным абразом Маці Божай Жыровіцкай, стала ў мяне ў яве ўся слаўная Жыровіц мінуўшчына. А сяньня тут што? «Безобразие и запустение». У пабазылянскіх мурох — «школа рольніча», як-бы не знайшлося чаго больш адпаведнага. Праваслаўнае духавенства запужанае і беднае, але трымаецца маскоўшчыны. Каталіцкі лацінскі ксёндз, польскі патрыёт, уторкнуты з касьцёлам (б. уніяцкі) і з клябаніяй у праваслаўную масу, чуецца маленькім і слабенькім. Расейшчына затаілася, і пальшчызна бязьсільная выгнаць яе. Беларускай ідэі, адзінай натуральнай падставы хрысьціянскай тут працы, стараняцца як духавенства праваслаўнае, так і каталіцкае. Адныя чакаюць лепшых часоў, а другія на «цудоўнае» праменьваньне польскай культуры і на асыміляцыю беларускага народу. Затым зь іх працы няма ніякага сэнсу. Народ ня любіць і ня верыць і адным, і другім, бо чужынцы. А беларуская народная стыхія і нават сьведамасьць беларуская існуе. У гэтым і будучыня беларускага народу.

12 жніўня. Гэтымі днямі забрыў я на Слонімскі каталіцкі парахвіяльны магільнік. Шумяць высокія хвойкі на прасторы. Сапраўды, могільнік прасторны — шмат, шмат «незаселенага» месца. Але і няма на ім месца для беларусаў праваслаўных. Яшчэ гадоў таму дзесяць хаваліся разам, але дзекан Расалоўскі (звестак пра Расалоўскага на жаль у аўтара гэтага матэрыялу няма. — *С. Ч.*) прагнаў праваслаўных за плот. Там яны сяньня і хаваюцца. Пусты там пясок і крыха малажавых хвояк. А ўсьцяж гаворыцца аб уніі. Як жа горкая іронія. Бо ж у сутнасьці не матывы рэлігійныя прагналі беларусаў за плот, але польскія палітычныя. даканала гэта адсутнасьць праўдзівай рэлігіі. Праваслаўныя і каталікі — гэта ж па рэлігіі найраднейшыя браты. Гэтаму дзекану ішло аб тое, каб затрымаць і ўцьвярдзіць фікцыю «польскай» і «рускай» веры, каб быў магільнік «польскі» і «рускі», каб нідзе і ніколі сярод Беларусаў не аказалася хрысьціянская і беларуская нацыянальная сынтэза. Але дарма. Жыцьцё і праўда гэтаму не паддаюцца і не паддадуцца.

2 верасьня. Сяньня атрымаў адмову з Мін. Спр. Унутр. На маё «адволане» ад пастановы Віленск. ваяводы «слаўнага» Бацянскага прабываць мне ж у Віленскім ваяводзтве. Адмову атрымаў у старастве слонімскім у нач. бясьпечнасьці. З яго боку ў гутарцы са мною былі акцэнты згодлівыя, акцэнты польска-беларускага паразуменьня. Казаў, што шкадуе, што міністэрства прыслала адмову.

18 верасьня. Сяньня Савецкая армія заняла Слонім. Мясцовае насельніцтва ў вялікай большасьці вітала энтуз’ястычна. Сяньня, як даведаўся з радыё, так жа занята Вільня. Цікавасьць, як там усё выглядае…

У Слоніме Адам Станкевіч напісаў вялікую працу «З літуанізмаў у беларускай мове» і надрукаваў яе ў алфавітным парадку ў некалькіх нумарах квартальніка «Калосьсе». Праца гэтая выклікала вялікі рэзананс. Многім яна не падабалася. Так, напрыклад, у газеце «Беларускі фронт» (15.5.39, № 10) з’яўляецца вялікі артыкул «Аб «літуанізмах» Адама Станкевіча» нейкага Ш-ць. Ён моцна крытыкуе аўтара, абражае яго, наводзіць паніку і г. д. Прачытаўшы гэта, спадар Станкевіч дасылае са Слоніма ў «Ка-

лосьсе» тактоўнае пісьмо-адказ: «Паважаны Грам. Рэдактар, не адмоўце памясьціць у «Калосьсі» гэтых некалькі слоў: «Я дужа ўдзячны гр. Ш-ць («Бел. Фронт» № 10, 15.6.39) за крытычныя і фаховыя ўвагі да маёй працы «З літуанізмаў у беларускай мове»; падчырківаю — за крытычныя й фаховыя, характару языкаведнага, бо-ж, апрача гэтага, чаго там толькі няма?! Але transeat! Мне йдзець аб дасьледжаньне літуанізмаў у беларускай мове й з слушных (а ня ўсе так гэткія!) заўвагаў у гэтай праблеме я ахвотна скарыстаю, калі праца мая будзе выходзіць асобнай адбіткай. Тады выкажу так-жа свой пагляд і што да тых заўвагаў гр. Ш-ць, з якімі я не згаджаюся.

Прыміце, Гр. Рэдактар, словы маёй да Вас пашаны. Ад. Станкевіч. Слонім, 17.5.39».

Жывучы ў Слоніме, Адам Станкевіч пільна сачыў за выхадам новых беларускіх кніг. 27 красавіка 1939 года ён піша грунтоўную рэцэнзію на кніжку беларускага паэта і даследчыка Хведара Ільяшэвіча «Друкарня дома Мамонічаў у Вільні (1575–1622)» і друкуе яе ў часопісе «Калосьсе» (1939, № 2). Крытык спыняецца на кожным з пяці раздзелаў працы Хведара Ільяшэвіча, указвае на іх каштоўнасць і значэнне. «Кніжка Хведара Ільяшэвіча, — адзначае А. Станкевіч, — гэта значны ўклад у маладую беларускую навуку. Агульнай, аднак, нястачай кніжкі зьяўляецца нявыразны яе воблік беларускі. Мамонічы — гэта беларускія патрыёты й беларускія культурнікі, й кніжкі іх прызначаны для беларускага народу. Тымчасам гэта ў Хв. І. ня толькі што з націскам не адзначана, але нават як-бы сарамліва прыхавана пад бліжэй неазначанымі тэрмінамі: «Русь, рускі, патрыёт, Вял. Кн. Літоўскае» і інш. Я разумею, што да гэткай «саромлівасьці», што да беларускасьці прымушалі аўтара абставіны, у якіх праца была пісана й выдана. Затое цяпер аўтар павінен сваю цэнную працу пералажыць на беларускі язык, паставіць «беларускія точкі» над усімі «і», раскрыць усе «дужкі», паставіць , дзе трэба, «беларускія націскі» і… пабеларуску выдаць. Але хто выдасьць? Гэтая кніжка мусіць праявіць сваю беларускую «душу» й мусіць прыадзецца ў сваю беларускую «вопрадку».

За слонімскі перыяд жыцця кс. Адамам Станкевічам было напісана яшчэ шэраг артыкулаў і рэцэнзій. Тут, у Слоніме, ён дапамог мясцоваму паэту Анатолю Іверсу (Івану Міско) наладзіць сувязі з Вільняй наконт выдання яго першага паэтычнага зборніка «Песьні на загонах». Пра гэта пры жыцці не раз расказваў мне наш старэйшы слонімскі паэт. Яны сустрэліся ў Слоніме ў 1939 годзе. І была на гэта нагода. Выдавецтва «Калосьсе» рыхтавала да друку зборнік вершаў Анатоля Іверса «Песьні на загонах». Рэдактар выдавецтва Ян Шутовіч, ведаючы, што паліцыя на вёсцы правярае, а часам і забірае карэспандэнцыю, карэктурныя лісткі зборніка прыслаў у касцёл у Слонім Адаму Станкевічу, а паэту напісаў пісьмо, каб той абавязкова зайшоў да ксяндза, што Іверс і зрабіў.

Гаспадар доміка, які знаходзіўся на касцельнай тэрыторыі, сустрэў слонімскага паэта ў сваім пакоі па-хатняму, без сутаны:

— Ведаю, ведаю пра вас. Вось карэктура вашай кнігі, уважліва прачытайце і зрабіце папраўкі, калі знойдзеце памылкі.

Малады Анатоль Іверс усхваляваўся, убачыўшы надрукаваныя на лістках свае вершы. Вочы сталі вільготнымі, і ён хутчэй па памяці, чым зрокава, пачаў чытаць вершаваныя радкі. Сям-там на палях ужо былі вынаскі літар, зробленыя Адамам Станкевічам. Першы раз слонімскі паэт спасцігаў карэктарную мудрасць і, бадай, не знайшоў ні адной незаўважанай і не папраўленай памылкова набранай у тэксце літары.

Пасля яны яшчэ доўга гутарылі, а напрыканцы сустрэчы Адам Станкевіч спытаў, ці надакучвае паліцыя.

— Яшчэ як дакучае, — сказаў Іверс, — лазіць па пятах, забірае з паштовага агенцтва беларускія і ўкраінскія газеты. Арыштоўвае хлопцаў перад святамі, рэдка абыходзіцца без катаванняў у дэфензіве. Забараняе ставіць беларускія спектаклі…

— Вось што, браток, не трэба лезці на ражон, — параіў Адам Вікенцьевіч. — Хоць, праўда, і я не ўсцярогся, бачыце, саслалі з Вільні ў Слонім. І тут не дазволілі ў касцёле праводзіць службу на беларускай мове…

На развітанне Адам Станкевіч запрасіў слонімскага паэта заходзіць часцей. Але больш ім сустрэцца не ўдалося, хоць пражыў ён у горадзе над Шчарай амаль год.

На працягу года Адаму Станкевічу са Слоніма і Адольфу Клімовічу з Варшавы пару разоў усё ж дазволілі наведаць Вільню. Прычым адзін раз Адам Станкевіч выступаў нават сведкам абароны ў судзе па справе Г. Дэмбінскага, заснавальніка газеты «Poprostu» (Chryscijanskaja Dumka. 1939 г. № 13. С. 7).

3 кастрычніка 1939 года Адам Станкевіч назаўсёды развітаўся са Слонімам і прыехаў у Вільню. Тут ён аднавіў выданне «Крыніцы», сустракаўся з прэзідэнтам Літвы А. Сметанам, узначальваў Беларускі цэнтр у Літве, выдаваў свае кнігі і брашуры, стварыў «Камісію Аховы Культурных Памятнікаў Беларусі», займаўся педагагічнай дзейнасцю. 13 красавіка 1949 года яго арыштавалі органы НКУС, а 31 жніўня асобая нарада пры Міністэрстве дзяржаўнай бяспекі СССР прысудзіла яму 25 гадоў лагера па артыкулу 58 КК СССР (здрада Радзіме). У канцы лістапада 1949 года Адама Станкевіча не стала. Яго энкавэдысты проста забілі. Пахаваны беларускі святар у вёсцы Шаўчэнка Тайшэцкага раёна Іркуцкай вобласці Расіі.

## ГАЛЬЯШ ЛЕЎЧЫК І БЕЛАРУСКІ РУХ У ВАРШАВЕ (1900–1939)

Пра беларускі рух у Варшаве ў першай палове XX стагоддзя зрэдчасу ў нашым друку згадвалі Пятро Ластаўка, Францішак Каравацкі, Юры Туронак і іншыя літаратуразнаўцы і гісторыкі. Але гэта былі невялікія згадкі-імгненні пра беларусаў і беларускія таварыствы ў Варшаве. І наогул беларускі перыяд у даваеннай Варшаве першай паловы XX стагоддзя ў

Польшчы і ў Беларусі сур’ёзна і грунтоўна не даследаваны. Ён патрабуе дасканалага акадэмічна-манаграфічнага падыходу і вывучэння, ды і сіламі аднаго даследчыка тут не абысціся. Да гэтага павінны мець дачыненне некалькі аўтараў. І па гэтай тэме даўно пара правесці ў Варшаве, у Беластоку ці ў Мінску навуковую канферэнцыю, каб пасля ўсе выступленні сабраць і выдаць пад адной вокладкай. Гэта неабходна не толькі нам, беларусам і беларускай гісторыі, але і дзеля гісторыі Варшавы і Польшчы ў цэлым. Бо беларускі рух і яго дзеячы ў Варшаве — гэта гісторыя дзвюх краін і нашых народаў. Нялёгкі быў пачатак XX стагоддзя для Варшавы, а тым больш ён быў няпростым для беларусаў, якія там жылі, працавалі, стваралі беларускія таварыствы, саюзы, арганізацыі. Але гэта ўсё было, гэта факт, і пра гэта трэба распавядаць сёння, каб захаваць для нашых нашчадкаў, для нашай агульнай гісторыі. Паспрабую і я заглянуць ў беларускую Варшаву напачатку XX стагоддзя. Ну, хаця б зрабіць туды невялікую вандроўку-згадку.

Беларускае жыццё ў Варшаве хутчэй за ўсё пачало закладвацца, калі ў 1893 годзе ў Варшаўскі імператарскі ўніверсітэт на працу прыехаў беларускі акадэмік і філолаг Яўхім Карскі. Спачатку ён працаваў прафесарам, затым экстраардынарным прафесарам на кафедры рускай і стараславянскай моў і гісторыі рускай літаратуры. Пасля прафесар выкладаў там славянскую палеаграфію, рускую дыялекталогію і граматыку царкоўнаславянскай мовы. У варшаўскі перыяд сваёй педагагічнай дзейнасці, карыстаючыся ўсеагульнай павагай, Яўхім Карскі два разы выбіраўся рэктарам Варшаўскага ўніверсітэта — у 1905 і 1908 гадах. Адначасова з педагагічнай дзейнасцю наш вучоны праяўляў вялікую цікавасць да беларускага жыцця ў Варшаве, спрыяў гэтаму, як мог дапамагаў беларускім студэнтам. У 1908–1913 гады там было арганізавана і праведзена шмат беларускіх вечарынак. У іх прымалі ўдзел і сам Карскі, яго жонка і дзеці.

Гальяш Леўчык у Варшаву трапіў у 1904 годзе. Ён уладкаваўся на працу чарцёжнікам у гарадскі магістрат і наведваў лекцыі ў школе мастацтваў. За гэты час Леўчык знаходзіць у Варшаве шмат беларусаў, знаёміцца з імі, арганізоўвае сустрэчы, ладзіць вечарыны. Першая інфармацыя пра беларускую дзейнасць Гальяша Леўчыка і яго сяброў у Варшаве змясціла «Наша Ніва» 1(14) снежня 1911 года. Аўтар Саўка Бурывой (Рамуальд Зямкевіч) паведамляў, што 21 лістапада адбылася вечарына студэнтаў-беларусаў Варшаўскага ўніверсітэта. Аўтар пісаў пра нейкага Пшчолко, які «гаварыў на сцэне сьмешных казак у расейско-беларускай гутарцы», пра маленькую дзяўчынку ў пекнай беларускай апратцы, якая мовіла словамі Янкі Купалы: «Чаго нам трэба» і «Чаго б я хацеў»… Пасля пра другую дзяўчынку, якая чытала верш «Не цурайся мяне, панічок» і «Панскую ласку». Потым на сцэну выйшаў Гальяш Леўчык, якога, як апісвае аўтар, «мы ўбачылі на лаўцы хвораго, слабого, ледзь жывога мальца беларуса, ў згрэбнай сарочцы, прыкрытаго старэнькай сьвітай — тып праўдзіваго беларуса-мужыка. Быў то малады песьняр Леўчык Гальяш. Ён слабым голасам пад гітару прапеяў: «Мне трэба ўмерці» і апрыч таго пасьля шмат

чаго дэклямаваў. Усё выпаўніў шчыра і публіцы надта спадабаўся». Далеў выступаў хор, які спяваў беларускія песні.

Жывучы ў Варшаве, Гальяш Леўчык сабраў вялікую і каштоўную бібліятэку, ён калекцыянаваў усё беларускае: кнігі, паштоўкі, творы мастацтва, музычныя інструменты, значкі, фотаздымкі. На жаль, у гады Другой сусветнай вайны ўсё гэта бясследна прапала. Але гэта было пазней. А тады кожнаму беларусу Варшавы і беларусам, якія прыязджалі сюды, Гальяш Леўчык з радасцю паказваў сваю калекцыю, дапамагаў матэрыяламі ў напісанні той ці іншай працы. Хачу адзначыць, што тады ў Варшаве жыў і яшчэ адзін беларускі калекцыянер кніг і рукапісаў Рамуальд Зямкевіч (1881–1944). Ён нават быў больш заўзятым калекцыянерам і бібліяфілам, чым Леўчык. Кажуць, што Зямкевіч быў такі фанатычны бібліяфіл, што не прапускаў ніводнае старое беларускае кніжкі, асабліва калі яна «дрэнна ляжала». У выніку ён сабраў найвялікшую калекцыю рарытэтаў, але, на жаль, і яго ўся калекцыя згарэла ў вайну. Добра, што Рамуальд Зямкевіч хоць паспеў апублікаваць некаторыя рукапісы ў друку. Не ведаю толькі, як яны мірыліся і сябравалі — два калекцыянеры, два вялікія аматары беларускіх кніг — Рамуальд Зямкевіч і Гальяш Леўчык. У пісьме да Івана Луцкевіча ад 4 ліпеня 1911 года Гальяш Леўчык пісаў пра Рамуальда Зямкевіча: «Ну і цікавы з яго, аднак, экзэмпляр, наколькі я мог яго пазнаць!.. Зусім ён мяне здзівіў, асабліва знаннем беларускай бібліяграфіі. Ад яго я шмат чаго даведаўся. Калі ён махлюе, ды духам не ўпадзе, і будзе ісці крэпка, то смела можна сказаць, што вялікую карысць ён калісьці Беларусі прынясе! Шкада, што нямаш яму як там у Вільні альбо ў Варшаве пакуль што аперціся, каб матэрыяльна яму было лягчэй, а то, бедны, зусім ужо вытрасся!.. Я яму крыху памог, але далей трудна! Але, здаецца, ён не махлюе, а кажа праўду…» (Рукапісны аддзел бібліятэкі Нацыянальнай Акадэміі навук Літвы. Ф. 21. Спр. 260. Арк. 2–3).

У 1913 годзе на курсы садоўніцтва, агародніцтва і пчалярства прыехала ў Варшаву Зоська Верас (Людвіка Войцік). Там яна пазнаёмілася з Гальяшом Леўчыкам. Аднойчы яе і Марысю Галубянку, якая жыла ў Варшаве і працавала настаўніцай у школе Вавэльбэрга, Гальяш паклікаў да сябе ў госці. «Жыў тады Леўчык на вуліцы Леапальдыны, 35, кв. 32. Кватэра была, здаецца, на трэцім паверсе», — згадвае Зоська Верас (газета «Рунь» (Літва). 2000. 3 жніўня). Далей Зоська Верас прыгадвае: «Пакой здаваўся вузкім, таму што ягоная сцяна была абсталявана даволі шырокімі паліцамі ад падлогі да столі. І на іх стаялі кніжкі, кніжкі, кніжкі… Сапраўды, гэта была вялікая, цікавая і каштоўная бібліятэка. Сабранае было хіба што ўсё, што выйшла з друку ў беларускай мове… Усе паліцы былі ўпрыгожаны партрэтамі пісьменнікаў, паштоўкамі, краявідамі. Шмат што было купленае, але й шмат падараванае аўтарамі ды знаёмымі. Тыя кнігі, што стаялі ніжэй, мы з Марысяй аглядалі самі, а тыя, што высока, Леўчык здымаў і паказваў сам. Не адну гадзіну гэты занятак забраў нам. Нарэшце Гальяш сказаў: «Ну й замучыў я вас… Пара адпачыць!» Мы адмаўляліся, не жадаючы клопату, але былі змушаныя пагадзіцца. Пілі добра прыгатаваную гарбатку, і да яе было сёе-тое смачнае. Пасля Леўчык прапяяў нам пару

песняў пад акампанемэнт гітары. Голас меў прыгожы. Пяяў і граў умела. Развіталіся мы з ім позна вечарам».

Калі я сустракаўся з Зоськай Верас у Вільні ў 1987 годзе, то таксама запытаўся ў яе пра Гальяша Леўчыка. Пісьменніца вельмі цёпла ўспаміналa пра яго. Расказала мне пра тое, як Гальяш Леўчык у Варшаве пазнаёміў яе з многімі беларусамі. Яны часта ездзілі ў Ажарова, што пад Варшавай, да беларускай сям'і Сталыгваў, якія там мелі свой дом. Памятаецца, як Зоська Верас мне згадвала і пра тое, што Леўчык лічыў сваім абавязкам ведаць кожнага беларуса, які прыязджаў у Варшаву, прыцягнуць у сваю групу, каб ён не згубіўся ў людскім моры і не забываўся сваёй мовы, як ён сам казаў. А калі беларусу не было дзе начаваць, ён клікаў яго да сябе ў маленькую кватэру на вуліцу Леапальдыны. Неяк Гальяш Леўчык завёў Зоську Верас і да Міхала Федароўскага, які прыняў іх шчыра і ветліва.

У 1919 годзе ў Варшаве арганізоўваецца Беларускі камітэт. Вакол яго хутка згуртаваліся многія вядомыя беларусы Варшавы, якія актыўна пачалі пашыраць нацыянальную свядомасць. Часопіс «Беларускі летапіс» (1938. № 4. С. 11) пісаў, што Беларускі камітэт выпісваў усе беларускія газеты і часопісы, а таксама кніжкі. З іх была створана бібліятэка. А Гальяш Леўчык быў адным з самых актыўных сяброў камітэта. У Слонімскім раённым краязнаўчым музеі захоўваецца адзін фотаздымак. На здымку фатограф зрабіў надпіс на беларускай мове лацінкай: «Беларускія валасныя старшыны Слонімскага павету Гарадзенскай губерні». У кожнага з іх маецца на грудзях медаль. На адваротным баку здымка ёсць штамп «Беларускі камітэт у Варшаві» і круглая пячатка з такім жа надпісам. Магчыма, фотаздымак у Слонім трапіў праз Гальяша Леўчыка (паэт быў родам са Слоніма, тут у яго была хата і вялікая калекцыя старых рэчаў, кніг, паштовак і г. д. Большая нават, чым у Варшаве. — С. Ч.). Гэта ён фотаздымак прывёз з Варшавы пасля таго, як не стала там Беларускага камітэта ў 1922 годзе. Яго дзейнасць была спынена тадышняй польскай уладай.

З 1922 да 1930 года беларускі рух у Варшаве не меў актыўнай дзейнасці. У 1928 годзе зямляк Гальяша Леўчыка — Павел Крынчык быў выбраны паслом польскага сейма па спісу, выстаўленаму КПЗБ. Павел Крынчык некалі згадваў, што быў добра знаёмы з Леўчыкам. Гальяш Леўчык часам заходзіў да яго ў беларускі пасольскі клуб «Змаганьне», які месціўся ў Варшаве на Маршалкоўскай, 76. Беларускія палітыкі ў Варшаве часам яму аказвалі фінансавую дапамогу.

У 1930 годзе ў польскай сталіцы ствараецца Саюз беларускіх студэнтаў у Варшаве. Разам з віленскімі студэнтамі беларускія хлопцы і дзяўчаты з Варшавы ладзяць розныя цікавыя мерапрыемствы: выступаюць з лекцыямі, дэкламацыямі літаратурных твораў, з тэатральнымі пастаноўкамі і г. д. Праіснаваў гэты Саюз усяго тры гады, і дзейнасць яго была спынена польскай уладай. Гальяш Леўчык у гэты час працуе служачым у Найвышэйшым судзе ў Варшаве і актыўна перакладае рэлігійную літаратуру метадыстаў на беларускую мову. Гэтыя пераклады з'яўляліся ў выданнях «Арфа Сіану», «Новае Жыцьцё» і «Дух праўды». За пера-

клады, вядома ж, ён атрымліваў пэўны ганарар. Таму актыўнага ўдзелу ў Саюзе беларускіх студэнтаў у Варшаве ён не прымаў. Але там бываў, даваў кансультацыі, парады, выступаў перад студэнтамі.

Не ўдзельнічаў Гальяш Леўчык і ў кіраўніцтве Асветнага таварыства ў Варшаве (іншыя яго згадваюць як Беларускае культурнае таварыства ў Варшаве). Гэтае таварыства з'явілася восенню 1936 года і праіснавала да пачатку Другой сусветнай вайны. Але паэт прымаў у таварыстве самую актыўную дзейнасць. Ён часта выступаў перад сябрамі таварыства з вершамі і заўсёды спяваў свае песні пад уласны акампанемент гітары.

Асветнае таварыства беларусаў у Варшаве, нягледзячы на няпростыя палітычныя і эканамічныя ўмовы, разгарнула вялікую і актыўную беларускую дзейнасць. Старшынёй таварыства быў Я. Гапановіч, сакратаром — П. Ластаўка. Сябры таварыства арганізоўвалі розныя творчыя сустрэчы, канцэрты, вечары. Іх мэтай было стварэнне беларускіх бібліятэк, клубаў, аказанне матэрыяльнай і маральнай падтрымкі сябрам АТБ і ўсім беларусам, якія жылі ў Варшаве. Часопіс «Беларускі летапіс» (1937. № 6–7, 8) апублікаваў тады цікавае пісьмо беларускага работніка з Варшавы Фабіяна Вайцілёнка. Артыкул так і называецца: «Беларускія работнікі ў Варшаве». Дык вось спадар Вайцілёнак піша: «Падаць дакладны лік беларусаў у Варшаве трудна: у кожным выпадку даходзіць ён да некалькі тысяч. Аб гэтым, што беларусаў тут значная колькасць, сьведчыць і той факт, што на вуліцах Варшавы часта можна пачуць беларускую мову. Сярод натоўпу людзей, праходзячых па тратуарах, мы, беларусы, пазнаём адзін аднаго якраз па мове. Вельмі скора пры гэтым завязываецца знаёмства і паўстае шчырая прыязьнь. Наймацней за ўсё нас тут лучыць у вадну цесную сям'ю родная мова…». Што датычыць асветы, дык аўтар Вайцілёнак на гэты конт вось як разважае: «Ня можна сказаць, што беларусы ў Варшаве выракліся сваёй мовы, але беларускае друкаванае слова пашыраецца слаба. Дзеля гэтага заклікаю беларусоў у Варшаве зьвярнуць увагу на беларускае друкаванае слова, каторае выходзе пераважна ў Вільні і каштуе сьмешна танныя складкі, на каторыя сяньня можа сабе пазволіць амаль кожны беларус у Варшаве… Найгорш з дзяцьмі, каторыя падрастаюць бяз школы. Сумна глядзець на тых дзяцей, якія ўжо разумеюць, што яны дзеці беларускіх бацькоў, прагнуць чытаць і пісаць у роднай мове і ня маюць дзе гэтага навучыцца…».

У 1936 годзе ў Варшаву з Познані прыязджае беларускі спявак Міхась Забэйда-Суміцкі. Тут ён жыве, выступае з канцэртамі і спявае на польскім радыё. У свае радыёканцэрты спявак заўсёды ўключаў і беларускія песні. Вакол Міхася Забэйды-Суміцкага гуртаваліся беларусы Варшавы. Са спеваком добра быў знаёмы і Гальяш Леўчык. Бацька Гальяша быў родам з вёскі Шэйпічы, што блізу Ружанаў. У гэтай вёсцы нарадзіўся і Міхась Забэйда-Суміцкі. Спявак нават кахаў Стасю Ляўковіч — сваячніцу Гальяша Леўчыка (сапраўднае прозвішча Ляўковіч). У Варшаве землякі сустрэліся. Ім было пра што пагутарыць, каго і што ўспомніць. Аднойчы сябры Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве наладзілі ў кансерваторыі канцэрт Міхася Забэйды-Суміцкага. Часопіс «Калоссе» (1937. № 1 (10))

пісаў: «27.02.37 у варшаўскай кансэрваторыі адбыўся канцэрт песьні. Выступаў слаўны тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі. З прасьпяваных ім песень, найлепш спадабаліся публіцы песьні беларускія». А Пётр Ластаўка згадваў (Беларускі каляндар. Беласток, 1980. С. 148): «Пакідаючы кансерваторыю, слухачы гаварылі, што вось і беларусы маюць свайго Кепуру, а «Express Poranny» ў сваёй карэспандэнцыі пісаў 28 мая: «Цудоўныя гэтыя беларускія песні, ды яшчэ ў такім выкананні!». Прыхільна адгукнуліся аб выступленні Забэйды таксама і іншыя газеты, падкрэсліваючы, што даўно не было ў кансерваторыі такога добрага канцэрта».

Летам 1939 года сябры Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве наладзілі сустрэчу з Максімам Танкам. На сустрэчу прыйшлі 50 польскіх літаратараў, дзясяткі беларусаў з усёй Варшавы. Вечарына, як згадвае Пятро Ластаўка ў вышэй названым «Беларускім календары», працягвалася тры гадзіны. Максім Танк чытаў свае вершы і па-беларуску, і па-польску. У тагачаснай польскай прэсе з’явіліся артыкулы з наступнымі загалоўкамі: «Максім Танк у Варшаве», «Максім Танк — беларускі Ясенін» і г. д. Беларускі паэт тады проста зачараваў усіх прысутных сваёй паэзіяй і сваім выступленнем.

На вялікі жаль, Другая сусветная вайна спыніла працу Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве. А Гальяш Леўчык летам 1944 года памірае ад цяжкай хваробы ў Варшаве ці, магчыма, па дарозе з Варшавы ў Слонім.

## СЛОНІМСКІЯ МАСТАКІ ПАД НЯМЕЦКАЙ АКУПАЦЫЯЙ (1941–1944)

Горад Слонім быў заняты нямецкімі войскамі 26 чэрвеня 1941 года, дзе адразу палявой камендатурай стварыліся органы грамадзянскай улады, якія ёй падпарадкоўваліся і працавалі пад яе кантролем. У створаных мясцовых органах упраўлення амаль усе кіруючыя пасады спачатку займалі палякі. Але да беларусаў яны ставіліся не зусім лаяльна і пагардліва, асабліва да тых, хто сюды прыехаў з Усходняй Беларусі. У пачатку ліпеня 1944 года ў Слоніме быў прызначаны фельдкамендантам маёр Кіцына. Ён правёў рэарганізацыю мясцовай улады і прыцягнуў у яе органы грамадзян беларускай нацынальнасці. Замест «грамадзянскай стражы» была створана дапаможная паліцыя, якая ў асноўным складалася з беларусаў.

Палітычныя абставіны пры Польшчы і пры бальшавіках у Заходняй Беларусі да пачатку Другой сусветнай вайны асабліва не давалі магчымасці развіцця беларускім талентам. Беларус тады не мог атрымаць, напрыклад, адмысловае мастацкае асветы, не мог вывучыць той самай тэорыі мастацтва. Ён быў і заставаўся самавукам, і толькі адзінкам удавалася неяк атрымаць адукацыю ў мастацкіх школах. Немцы, наадварот, гэтай справе не пярэчылі.

Напачатку вайны і падчас акупацыі ў Слоніме пражывалі звыш 15 таленавітых мастакоў («Раніца», Берлін, 1944, 16 студзеня).

Найбольш яркай асобай быў Антон Карніцкі. «З Антонам Карніцкім, — прыгадаў у адным з пісем да аўтара гэтых радкоў Барыс Данілюк з ЗША, — пазнаёміў мяне ў канцы 1941 года Сяргей Новік-Пяюн, які прасіў Карніцкага для Слонімскага краязнаўчага музея намаляваць партрэт Францішка Скарыны. Партрэт удаўся лепшы за ўсе партрэты Скарыны, якія даводзілася мне бачыць за ўсё маё жыццё. Пакуль Антон працаваў над карцінай, я з Новікам-Пеюном пару разоў заходзілі да яго на кватэру на другі паверх камянічкі на заходнім баку Першамайскай вуліцы каля рынку. Пры Польшчы гэта вуліца ў Слоніме насіла імя Сянкевіча. Антон Карніцкі быў яшчэ малады, але вельмі інтэлігентны і таленавіты чалавек, які мусіў зарабляць на жыццё маляваннем партрэтаў нямецкіх афіцэраў. Не магу прыгадаць нічога, што паказвала б на хваробу сухотаў у гэтага чалавека. Але яго нечаканая смерць была для мяне і беларусаў Слоніма вялікім шокам».

Антон Карніцкі нарадзіўся ў 1913 годзе ў Адэсе, куды ў пошуках заробку выехалі яго бацькі з Навагрудчыны. У 1922 годзе сям'я вярнулася ў Слонім. Жылі ў Рышчыцах у доме № 5. Антон спачатку вучыўся ў польскай гімназіі імя Адама Міцкевіча ў Навагрудку, а потым — у мастацкай школе Панкевіча ў Варшаве. Але скончыць яе яму не ўдалося, бо на вучобу не хапіла фінансавых сродкаў. Таму ў 1939 годзе Антон вярнуўся ў Слонім да бацькоў. Пазней мастацкія веды чэрпаў шляхам самаадукацыі, дзякуючы сваёй энергіі і адданасці, якія праяўляў да мастацтва.

Беларускі паэт, публіцыст і выдавец Сяргей Хмара часта ў сваіх выданнях згадваў пра Антона Карніцкага, якога добра ведаў падчас нямецкай акупацыі. «Гэта быў чалавек упрост звар'яцелы на сваім мастацтве. Бывала, немцы рабілі масавыя аблавы па дамах і хапалі мужчын і дзяўчат, каб адправіць у Нямеччыну. Усе перапалоханыя хаваліся хто-куды, а Антон Карніцкі выходзіў на слонімскі рынак, расстаўляў сваё складное крэсельца, мальберт і зарысоўваў тыпы з натуры», — пісаў Сяргей Хмара (Казлоўскі М. Галасы разбуджаных птушак. Мінск, 2006. С. 163).

Праўда, у адну з такіх аблаў забралі і Антона. Дзякуючы беларусам, якія працавалі ў нямецкай адміністрацыі, мастака выпусцілі на волю, тым больш што ён быў ужо хворы на сухоты. Гебітскамісар Слоніма Эрэн папрасіў Карніцкага маляваць яму карціны, якія той у яго паабяцаў абменьваць на харчаванне.

Сеансы пачаліся неадкладна. Эрэн пазіраваў гадзінамі ў сваім рабочым кабінеце. Антон працаваў да поўнага знясілення. Хацелася хутчэй пакончыць з гэтым непрыемным заказам. Але Эрэн уваходзіў у смак, завальваючы яго ўсё новымі і новымі заказамі. Гебітскамісару яўна падабаліся працы Карніцкага, нават тыя з іх, што рабіліся экспромтам. Ён не лічыў патрэбным скрываць сваіх намераў ад мастака, прад'явіўшы аднойчы яму сваё патрабаванне: «Не трэба пад карцінамі вашага прозвішча, пан Карніцкі…» Дарэчы, падчас акупацыі Слоніма немцы вывезлі ў Германію 180 карцін Антона Карніцкага.

У снежні 1943 — студзені 1944 года мастак ужо не мог падняцца, але спрабаваў маляваць, лежачы ў ложку. Яго часта наведвалі слонімскія

мастакі і паэт Сяргей Новік-Пяюн, які згадваў, што мастак ужо не мог хадзіць, толькі сядзеў і ляжаў. Ён меў шмат карцін і цэлы альбом карыкатур на немцаў. А 25 студзеня 1944 года Антон Карніцкі памёр. Яго пахавалі на Ружанскіх могілках у Слоніме. На жаль, магілу мне да сённяшніх дзён знайсці не ўдалося.

Пры немцах пра творчасць Антона Карніцкага шмат пісала беларуская прэса. Адзін з нумароў часопіса «Новы шлях» у 1943 годзе надрукаваў 6 рэпрадукцый яго карцін і партрэт мастака. А таксама тэкст да іх, у якім сцвярджалася, што Антон Карніцкі не з’яўляецца прыхільнікам чыстага імпрэсіянізму ці чыстага натуралізму, бо над сваімі кампазіцыямі ён працаваў яшчэ мала, а творчасць ягоная абмяжоўвалася да нарысаў з натуры акварэллю і алейнымі фарбамі. Змест твораў Карніцкага — гэта жыццё беларускай вёскі, — як краявід, так і людзі.

Пасля смерці Антона Карніцкага ў 1943 годзе ў Слоніме была адкрыта асабістая выстава карцін мастака. Сёння ў Слонімскім краязнаўчым музеі захоўваецца некалькі твораў Антона Карніцкага, астатнія — у прыватных архівах Беларусі, Польшчы, Літвы і Германіі.

Падчас нямецкай акупацыі другой па таленту, пасля Антона Карніцкага, у Слоніме была мастачка Кладзія Хруцкая. Калі я ў Барыса Данілюка (1923–2011) неяк спытаў, што ён ведае пра Клаўдзію Хруцкую, слонімец, які жыў ў ЗША, адказаў: «Мая жонка Марыя была вучаніцай Клаўдзіі Хруцкай. Пры Польшчы яна выкладала беларускую мову ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі, пакуль яе не зачынілі ў 1936 годзе. Думаю, што дзякуючы Хруцкай бібліятэка семінарыі займела, як на той час, багаты беларускі збор, з якога я шчодра браў веды, калі стаў свядомым беларусам. Пры немцах Клаўдзія Хруцкая таксама была настаўніцай. Жыла яна з дачкой Ганкай блізка праз дом ці два ад нас на Бляхарскім завулку каля Падгорнай вуліцы (цяпер, мабыць, гэтага дома ўжо няма). Мая жонка была знаёмая з Ганкай, ведаў крыху і я яе. Зрэдку сустракаліся, віталіся, нават аднойчы, не памятаю з якой прычыны, мы заходзілі да яе на кватэру…».

У 1990-х гадах я знайшоў Ганку (Ганну) — дачку Клаўдзіі Хруцкай і даведаўся, што яна жыве ў Торуні ў Польшчы. Летам 1996 года я сабраўся да яе паехаць і сказаў пра гэта слонімскаму паэту Анатолю Іверсу (Івану Дарафеевічу Міско), які ў вайну таксама добра ведаў Кладзію Хруцкую і яе мужа. Іван Дарафеевіч дужа ўзрадаваўся, што я паеду да дачкі Клаўдзіі Хруцкай. Ён перадаў шчыры паклон Ганцы і ліст для яе. На вялікі жаль, сустрэцца мне з Ганнай Хруцкай не ўдалося, яе хутка не стала, але захавалася ў маім хатнім архіве пісьмо да пані Ганны ад Анатоля Іверса У ім паэт пісаў, што добра ведаў Клаўдзію Хруцкую, якая ў 1943 годзе намалявала яго партрэт, які захоўваецца да гэтага часу (цяпер партрэт Анатоля Іверса, намаляваны Клаўдзіяй Хруцкай, захоўваецца ў сына паэта — Канстанціна Міско. — *С. Ч.*). «Успамінаю, — пісаў у лісце да дачкі Клаўдзіі Хруцкай Ганны Анатоль Іверс, — таксама добрым словам і пана Хруцкага, які працаваў касірам гарадской управы. Будучы кіраўніком падпольнай антыфашысцкай арганізацыі ў Слоніме, для легальнага

пражывання тут, і я працаваў у гаруправе, у агульным аддзеле. Там, атрымліваючы зарплату, пазнаёміўся з вельмі спакойным, разважлівым касірам. Трэба зазначыць, што ў Слоніме нямецкія акупацыйныя маркі хадзілі нараўне з савецкімі рублямі (1:1). Я папрасіў касіра, ці зможа ён мяняць фальшывыя нямецкія грошы (мне прыносілі з лесу) на рублі. Пан Хруцкі без лішніх слоў згадзіўся. Прызначыў толькі дзень: «Заўтра 30 000 альбо 50 000». І я ў прызначаны дзень дастаў з партфеля адну пачку, а на яе месца клаў атрыманую з касы… Прыпамінаю і вас, пані Ганна. Хадзілі вы ў ярка-чырвоным плашчыку. Ваша мама з першых дзён працы над маім партрэтам была шчырая са мной, заўсёды трывожылася за лёс сваёй дачкі… Мой партрэт цяпер знаходзіцца на відным месцы. Гляджу на яго і кожны дзень успамінаю ўсіх вас…».

У 1995 годзе ў Слоніме Анатоль Іверс выдаў зборнік вершаў «Прыдарожныя сосны». Туды ён уключыў і рэпрадукцыю свайго партрэта, намаляванага мастачкай Клаўдзіяй Хруцкай у 1943 годзе.

Творы Клаўдзіі Хруцкай вельмі часта ў 1942–1944 гадах выстаўляліся ў Слоніме. Пра яе творы і выставы пісалі акупацыйныя беларускія газеты «Раніца», «Беларуская Газэта», «Слонімскі кур'ер», «Слонімская газэта» і іншыя. Прэса адзначала, што Клаўдзія Хруцкая — найперш мастачка партрэтаў. Гэта партрэты-галовы. Але цікавасць ідзе не далей каларыстычна-пластычных задач. З гэтага боку яе партрэты імпанавалі вышуканым колерам і безумоўным падабенствам. Выдатнымі партрэтамі атрымаліся партрэт дачкі Ганны, партрэт паэткі Наталлі Арсенневай, які выдатна перадае яе характэрны твар, партрэт Сяргея Хмары, Анатоля Іверса і іншыя (Слонімская газэта. 1944. 25 крас.).

Захаплялася Клаўдзія Хруцкая і нацюрмортамі, пейзажамі. Пейзажныя творы мастачкі мелі спецыфічныя адзнакі: у іх шмат паветра і сонца. Але галоўнае іх хараство ў іх фарбах. Хруцкая наогул з'яўлялася культурнай каларысткай, і колеру яна заўсёды аддавала больш увагі, чым форме і малюнку.

Пасля вайны Клаўдзія Хруцкая з сям'ёй пераехала ў Заходнюю Польшчу, дзе і пражыла свае апошнія гады.

Цікавай і своеасаблівай мастачкай у акупаваным немцамі Слоніме была Рэгіна (Алена) Бялецкая. Яна любіла маляваць партрэты знакамітых беларусаў: Францішка Скарыну, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Кастуся Каліноўскага, Францішка Багушэвіча і іншых.

Быў 1943 год. Неяк заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея Язэп Стаброўскі папрасіў мастачку намаляваць Кастуся Каліноўскага, бо набліжалася гадавіна паўстання 1863 года. Мастачка памятала карціну Пятра Сергіевіча «Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў». Але тут патрэбен быў партрэт кіраўніка паўстання. І яна пачала ў Слоніме шукаць натуршчыка, падобнага да Кастуся. І неўзабаве яго знайшла. Гэта быў Георгій Пыцель — вучань адной з гарадскіх слонімскіх школ. Высокі статны юнак з густой чарнявай шавялюрай і блакітнымі вачыма на мужым твары вельмі нагадваў правадыра сялянскага паўстання. Рэгіна загадала Юрку,

так звалі яго сябры, адпусціць валасы падаўжэй, бо так патрабавала мода другой паловы XIX стагоддзя. Натуршчык «абваласаціўся», і мастачка прынялася за справу. А надышоў час — і карціна заняла ганаровае месца ў адной з залаў Слонімскага музея.

Пасля вайны Рэгіна Бялецкая пераехала ў Польшу, жыла ў Быдгашчы, дзе і памерла. Пры жыцці мастачка актыўна перапісвалася з многімі слонімцамі, дасылала свае творы.

5 сакавіка 1944 года ў Слоніме адкрылася першая гарадская выстава мясцовых мастакоў. Яе арганізавала мясцовае Беларускае культурнае згуртаванне. У выставе прымалі ўдзел 10 мастакоў: Клаўдзія Хруцкая, Аркадзь Бенікаў, Рыгор Чарнышоў, Юры Любанскі, Сергіюш Грудкоўскі, Вера Калюцік-Сташэўская, Ніна Жыткевіч, Фелікс Засадскі, А. Паўленка (імя даведацца не ўдалося). Трынаццацігадовы мастак Валянцін Філіповіч выставіў шэсць сваіх дасканалых малюнкаў. Разам наведвальнікам тады было прапанавана 76 карцін, з іх — 15 графічных работ і адна вышыванка «Жніво», 6 работ скульптараў-самавукаў. «Слонімская газэта» 25 красавіка 1944 года пісала: «Мастакі Бенікаў і Чарнышоў паказалі добрую школу. Два пейзажы Чарнышова («Дворык» (алей) і «Дворык» (акварэль)) сведчаць пра высокую прафесійную культуру і з'яўляюцца найбольш закончанымі працамі… «Смаленская крэпасць» Бенікава таксама адзіны абраз на выстаўцы, у якім мастак з намерам імкнуўся да настраёвасці — таму, хто адчувае лірычны смутак нашай прыроды, гэты вобраз у гэтым вельмі дапаможа… Аўтапартрэт Аркадзя Бенікава, нягледзячы на недапрацаванасць і брудкаваты колер, усё ж вельмі ўдалы. Асобна выдзяляецца невялічкая акварэль «Смаленскі сабор» — рэч сапраўды віртуозная і вартая слонімскага музея… Здольным мастаком паказаў сябе Юры Любанскі. Мог бы дасягнуць большых поспехаў, калі б менш займаўся «тэорыямі» і прапарцыянальна больш вучыўся ў прыроды, уважліва ўглядаючыся ў яе фарбы і прыслухоўваючыся да яе настрою. Адумысная грубасць ягонае манеры пазбаўляе акварэль каштоўнай далікатнасці. Таму ж ягоныя «Лета», «Восень», «Зіма» не хочуць лічыцца з порамі года, маючы аднолькавы лілаваты колер. Любанскаму належыць быць з прыродай на «вы», бо яна не любіць фамільярнага абыходжання. Захапленне самой тэхнікай вядзе да манернасці, а манернае мастацтва — мастацтва бяссэнсавае… Нягледзячы на на наіўнасць у дэталях твораў Веры Калюцік, яны выразна перадаюць ідэю вядомых арыгіналаў. Такой удалай працай з'яўляюцца «Першы крок» і бюст Францішка Скарыны. Партрэты з натуры атрымаліся горшымі… У маленскім Філіповічу заўчасна бачыцца вундэркінд… Усю сцяну на выставе занялі «эфектоўныя» абразы спадара Грудкоўскага. Але ўсе гэтыя «квітнеючыя сады» — слабаватыя…» (Слонімская газэта. 1944. 25 крас.). Вось такія былі заўвагі адносна твораў слонімскіх мастакоў.

Яшчэ летам 1943 года сярод слонімскіх мастакоў з'явілася ідэя стварыць у Слоніме мастацкую школу, хаця ваенныя абставіны не вельмі спрыялі гэтаму пачынанню. Але хутка пачаліся падрыхтоўчыя работы, каб напачатку 1944 года адкрыць школу, дзе побач з практычнымі павінны

праводзіцца і тэарытычныя заняткі. Арганізатарам гэтай справы даручылі быць Сергіюшу Грудкоўскаму. Ён справіўся са сваёй задачай, і напачатку 1944 года ў Слоніме яму ўдалося арганізаваць не мастацкую школу, а мастацкую студыю. У ёй самадзейныя творцы вучыліся маляваць, набіраліся мастацкага вопыту пад кіраўніцтвам сваіх кваліфікаваных сяброў. Дарэчы, Сергіюша Грудкоўскага ў 1944 годзе, калі Слонім быў вызвалены ад немцаў савецкімі войскамі, забралі на фронт. Пасля вайны ён паступіў на вучобу ў Варшаўскую акадэмію мастацтваў. Яго настаўнікамі былі знакамітыя польскія прафесары Ян Цыбіс і Януш Падоцкі. Сергіюш Грудкоўскі стварыў каля 500 мастацкіх твораў, прымаў удзел у 22 персанальных выставах у розных гарадах Польшчы, а таксама ў Будапешце, Вене і ў Слоніме. Ён жыве ў Варшаве. У лістападзе 2006 года пан Грудкоўскі перадаў для Слонімскага краязнаўчага музея імя Язэпа Стаброўскага калекцыю сваіх акварэляў.

Акрамя вышэй названых мастакоў, падчас нямецкай акупацыі ў Слоніме пражывалі і займаліся творчасцю і такія самадзейныя мастакі, як Г. Саўчук, Н. Кучар, Я. Санюк, Ягалкоўскі, А. Гайдук, У. Анцута і іншыя. Лёс многіх пакуль невядомы. Вядома, што брат Санюка ў вайну выступаў на сцэне Слонімскага народнага дома, але пасля застрэліўся. Сам мастак летам 1944 года выехаў на Захад. Вера Калюцік таксама пасля вайны выехала ў Германію. Яна добра ведала царкоўныя спевы, бо да вайны спявала ў царкоўным хоры ў Слоніме. За мяжой таксама наведвала праваслаўныя царкоўныя хоры, прымала ўдзел у мастацкіх выставах. Што датычыць Усевалада Анцуты, дык пра яго мне ў лісце згадаў усё той самы Барыс Данілюк з Амерыкі: «Пазнаёміўся я з сям’ёй Анцутаў у 1933 годзе ў «Русском благотворительном обществе» ў Слоніме, у якім ягоная маці-ўдава была вялікай актывісткай і найбольшай маскоўскай шавіністкай. Мелі яны два дамы на Рыбацкай вуліцы — адзін спераду мураваны, а другі быў драўляны на панадворку. Магчыма, яны трымалі кватэрантаў і за гэта жылі. Адзін год у тым драўляным доме месцілася тое рускае «общество» з ягонай кіраўніцай Аленай Івановай. Старэйшы Усеваладаў брат Сяргей вывучыўся на пекара-цукерніка і быў нават адчыніў у Слоніме модную тады цукерню, але яго прадпрыемства доўга не пратрымалася, бо сам гаспадар моцна піў. Тое самае з ім было і ў Амерыцы. Малодшы брат Анцутаў, ці не праз савецкі палон, апынуўся ў арміі Андэрса, а пазней, як я чуў, жыў у Англіі. Сам Усевалад (Сева) у 1935 годзе скончыў Слонімскую настаўніцкую семінарыю. Маляваць яго заахвоціла Клаўдзія Хруцкая, якая працавала ў семінарыі. Пры першых саветах Усевалад Анцута працаваў настаўнікам у Парэцкай школе, а пры немцах настаўнічаў у Слоніме. На эміграцыі я бачыў толькі адзіны ягоны абраз, які ён падараваў катэдральнаму сабору БАПЦ Святога Кірылы Тураўскага ў Брукліне (ЗША)».

2 красавіка 1944 года ў Слоніме адкрылася выстава народнага мастацтва, на якой было паказана рэпрэзентаванае майстэрства ткачых Слонімскай акругі (Слонімская акруга пры немцах налічвала 171 563 чалавекі. Сюды

ўваходзілі Слонімскі, Казлоўшчынскі, Дзярэчынскі, Быценскі і Косаўскі раёны. — *С. Ч.*). Свае найлепшыя вырабы паказалі вяскоўцы з вёсак Казлоўшчына, Азярніца, Мядзвінавічы, Пляшкі, Парэчча, Хадзявічы. Пра выставу пісала нават берлінская беларуская газета «Раніца»: «З выстаўленых экспанатаў можна бачыць, што найбольш па-мастацку ткуць свае радзюшкі сялянкі з-пад Казлоўшчыны і з-пад Азярніцы. Выстаўленыя з гэтых ваколіц ваўнясыя капы адны з лепшых (Ліда Лішык з Мядзвінавіч). Але і іншыя куткі Слонімшчыны таксама сцвярджаюць выстаўленымі тканінамі, што ўсюды цвіце гэтае народнае мастацтва. Між іншым вельмі цікавыя экспанаты выстаўлены Лізай Малышчык з вёскі Пляшкі, Аленай Талерчык з Парэчча, Марыяй Сяргей з Нараставіч і Аленай Шундрык з Хадзявіч. Тэматыка ўзораў: кола, ваконцы, гуркі, зоркі, Ярылаў крыж, канюшынка, васілёк, ружы, букеты, лісце, птушкі і іншае. Да 40 адценняў розных колераў можна выявіць у гэтым каляровым багацці тканінаў Слонімшчыны» (Раніца. Берлін, 1944. 14 траўня).

Праўда, выстава ахоплівала толькі немалую частку багацця ўзораў народнага мастацтва слонімскай беларускай вёскі. Ваенны час не дазваляў шырэй і больш поўна разгарнуцца гэтай выставе. Але ўжо праз тыдзень, 9 красавіка 1944 года, у Слоніме адкрылася новая выстава-продаж вышыванак, якую наладзіла Беларускае культурнае таварыства. Найбольш яркімі і арыгінальнымі былі вышываныя кашулі слонімскага мастака Алеся Асіпчыка. Асабліва імі зацікавіліся самі немцы.

Жыццёвы лёс Алеся Асіпчыка (1909–1990) быў доўгім (ён пражыў 81 год), але нялёгкім. Нарадзіўся Алесь Асіпчык (на эміграцыі ён стаў Алесем Асіповіч-Асіпчыкам) на Слонімшчыне. З 1944 года жыў у Германіі, ЗША, Канадзе. У 1947 годзе ў Баварыі выдаў сваю кніжку «Цудатворны Абраз Жыровіцкае Божае Маці і Жыровіцкі манастыр», а таксама яе сам аформіў. З'яўляўся адным з ініцыятараў і заснавальнікам Жыровіцкага праваслаўнага брацтва. З 1950-х гадоў быў звязаны з Расійскім аб'яднаннем таварыства ўзаемадапамогі (РООВА). Друкаваўся на старонках беларускіх эміграцыйных выданняў. Апошнія гады жыцця правёў у доме састарэлых у г. Джэксан (штат Нью-Ёрк), дзе і памёр 14 сакавіка 1990 года.

У траўні 1944 года Беларускае культурнае таварыства зноў наладзіла выставу слонімскіх мастакоў. Яна працягвалася два тыдні. У ёй прымалі ўдзел 7 мясцовых мастакоў: К. Хруцкая, Ю. Любанскі, А. Паўленка, Ф. Засадскі, А. Гайдук, А. Бенікаў, Р. Чарнышоў. На выставе экспанаваўся 71 малюнак, пераважна гэта былі пейзажы.

11 кастрычніка 1942 года, пасля рэарганізацыі, у Слоніме адбылося ўрачыстае адкрыццё краязнаўчага музея. Найбольшую ўвагу прыцягвалі ў музеі аддзелы гістарычна-этнаграфічны і беларускага адраджэння. Там экспанавалася цэлая серыя партрэтаў вялікіх людзей Беларусі — ад Францішка Скарыны і Льва Сапегі да Кастуся Каліноўскага. У музеі знаходзілася калекцыя алейных абразоў і замалёвак слонімскага паэта Гальяша Леўчыка. Дарэчы, першы свой паэтычны зборнік «Чыжык беларускі», які пабачыў свет у 1912 годзе ў Вільні, Гальяш Леўчык сам афармляў.

На другую палову 1944 года ў Слоніме планавалася новая выстава мясцовых мастакоў, але 10 ліпеня ў горад над Шчарай прыйшлі савецкія войскі.

## ЛІКВІДАЦЫЯ ЯЎРЭЯЎ У СЛОНІМЕ

У верасні 1939 года Слонім увайшоў у склад Савецкага Саюза. Яўрэйскае насельніцтва Слоніма на гэты час значна вырасла і дасягнула 27 тысяч чалавек. У 1921 годзе слонімскіх яўрэяў налічвалася — 6917 чалавек, у 1931 годзе — 8650. У верасні 1939 года колькасць яўрэяў павялічылася за кошт бежанцаў з Польшчы, якая была акупавана нацысцкай Германіяй. Пасля ўстанаўлення савецкай улады ў Слоніме, пачалося планамернае знішчэнне яўрэйскіх абшчын і рэлігійных устаноў, палітычных арганізацый. 12 красавіка 1940 года НКУС дэпартаваў у Сібір каля тысячы яўрэяў.

25 чэрвеня 1941 года Слонім занялі германскія войскі. 17 ліпеня гэтага ж года немцы арыштавалі 1200 мужчын-яўрэяў і расстралялі на ўскраіне горада. 14 лістапада 1941 года нацысты знішчылі каля 9000 яўрэяў са Слоніма і з вёсак Слонімскага раёна. У снежні 1941 года немцамі было створана гета, якое займала вялікую плошчу, прылягаючую да ракі Шчара і канала Агінскага. З 29 чэрвеня да 15 ліпеня 1942 года тут былі знішчаны яшчэ каля 9000 яўрэяў. Тады гітлераўцы акружылі гета і падпалілі яго, а хто спрабаваў уцячы — стралялі. 20 жніўня 1942 года фашысты расстралялі яшчэ 400 чалавек, а ў снежні 1942 года была здзейснена апошняя «акцыя», пасля якой слонімскае гета апусцела.

Масавыя расстрэлы мясцовых жыхароў, у тым ліку і яўрэяў, адбываліся і недалёка ад Слоніма, на Петралевіцкай гары. Заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея Язэп Стаброўскі перапісаў надпісы на табліцах і крыжах, што былі на Петралевіцкай гары. Вось змест некаторых з іх: «У гэтай брацкай магіле пакояцца звыш адной тысячы яўрэяў, грамадзян горада Слоніма, закатаваных нямецкімі вылюдкамі 20 жніўня 1942 года».

За 1 км на паўднёвы ўсход ад Слоніма каля шашы на Баранавічы ў 8 магілах пахаваны каля 30 тысяч чалавек, якіх расстралялі гітлераўцы. Вельмі шмат тут было расстраляна яўрэяў, якіх прывозілі не толькі са Слоніма і мясцовых вёсак, але і з Польшчы, Літвы, Украіны. На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1967 годзе пастаўлена стэла. Імёны загінуўшых не ўстаноўлены. Гэта месца называецца Чапялёўскія палі.

У лесе за 5 км ад Слоніма, справа ад дарогі ў вёску Дзераўная, пахаваны 2 тысячы жыхароў Слоніма, якіх у 1943 годзе расстралялі гітлераўцы. Большасць з іх людзі яўрэйскай нацыянальнасці. Імёны загінуўшых не ўстаноўлены.

Напачатку верасня 1942 года ў Слоніме засталося каля 300 асоб яўрэйскай нацыянальнасці, якіх праз тры месяцы таксама знішчылі. Па

сведчанні Слонімскага гебітскамісара Эрэна, на працягу першых 1,5 года акупацыі на Слонімшчыне было знішчана каля 25 тысяч яўрэяў» (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 4683. Воп. 3. Спр. 971. Л. 359).

У міжваенны час у Слоніме былі дзве сінагогі. Яны ў вайну не пацярпелі. Адна сінагога сёння прыстасавана пад спартыўную залу Слонімскага медыцынскага вучылішча, а другая (асноўная) — пустуе. Яна знаходзіцца ў цэнтры Слоніма і з'яўляецца самым старым помнікам горада, пабудаваным яшчэ ў 1642 годзе. І хоць цяжкі лёс напаткаў яўрэйскую абшчыну ў гады Другой сусветнай вайны, сінагогі выстаялі. У вайну ў самай старой сінагозе немцы збіралі яўрэяў для спецыяльнага сартавання: адных адтуль адпраўлялі ў гета, другіх — на Петралевіцкую гару, іншых — на розныя работы. Але ніхто не падпальваў слонімскіх сінагог разам з людзьмі. Таму яны і ўцалелі. А вось у 1881 годзе, калі ў Слоніме быў вялікі пажар, моцна пацярпела і галоўная сінагога горада. Але адразу пасля пажару на ахвяраванні прыхаджан дзейнасць сінагогі была ўзноўлена, хоць мясцовыя ўлады не далі на гэта дазвол. Больш слонімскія сінагогі не гарэлі.

## КАЛЯ ВЫТОКАЎ

Вёску Вялікая Кракотка, што на Слонімшчыне, Уладзімір Караткевіч назваў самай прыгожай вёскай на свеце. Але вёска не толькі прыгожая, але і знакамітая. Знакамітая Вялікая Кракотка найперш тым, што тут яшчэ ў 1927 годзе пры гуртку Таварыства беларускай школы вясковая моладзь заснавала бібліятэку-чытальню, якую назвалі імем народнага паэта Беларусі Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры рэспублікі, якой было нададзена імя песняра. У 1949 годзе Валянцін Таўлай у сваім артыкуле «Творчасць Янкі Купалы ў барацьбе за ўз'яднанне беларускага народа» (Полымя. 1949. № 10) пісаў: «Імем Янкі Купалы называліся беларускія культурна-асветныя ўстановы — бібліятэкі і чытальні. Нам дакументальна вядома, што ў вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна сяляне, якія арганізаваліся ў гурток ТБШ (Таварыства беларускай школы), у 1927 годзе заснавалі шляхам ахвяраванняў кніжак і грошай на закуп літаратуры вясковую бібліятэку-чытальню і прысвоілі ёй імя нашага слаўнага песняра Янкі Купалы. Аб гэтым паведамляла «Наша праўда» № 11 ад 11 мая 1927 года…».

Кожны раз, калі еду ў гэту вёску, прыгадваю верш Міколы Арочкі, прысвечаны Вялікакракоцкай сельскай бібліятэцы імя Янкі Купалы:

Мой цэлы свет: Вялікая Кракотка,
Часоў бурлівых родны мацярык.
Была Кракотка, як рака ў паводку.
Была Кракотка — гнеў, і боль, і крык.
Кракотка — гэта хвойны пах узлесся,

Гняздо за пазухай зялёных гор.
З таго гнязда заклекатала песня,
Што клікала з нізіны: «Гэй, да зор!..».
Рашаўся лёс… Прадвесне гнала крыгі.
І вось тады з-пад стрэх мацерыка
Дрыготка пацягнулася да кнігі
Мазольная сялянская рука.
Святая прага ведаў і пазнання!
У родным слове чалавек ажыў!
Было тут вашай еднасцю змаганне,
А духам мужнасці Купала быў.
Хто знае, колькі іх адсюль, упартых,
Узняў да барацьбы змагарны край?
Не дарам верш, якім пілуюць краты,
З зямлі вось гэтай здабываў Таўлай.
Нязломны дух… Жывая сіла мовы.
Жыву з тых дзён я вашаю красой.
Жыткевічы… Збраевіч… Трафімовіч…
Ля вас я грэўся словам і душой!
Я ўдзячны вашай дабраце і хлебу,
Хоць менее ўсё рук — іх кліча дол.
Вучылі ж вы, як сеяць зерні ў глебу,
Каб луста праўды асвячала стол.
Нашу я сёння, замест эпілога,
Гаркоту з вашых апусцелых хат.
За бурны век вы вызналі так многа!
Ды пра такое думаў хто?..
Наўрад.
Мой родны свет:
Я ў кожнай тут часцінцы
Жыву — дзялю трывогу і слязу.
І ўсё, чым з каранёў тут прычасціўся,
Я ў людства, як урок ваш, панясу.

Невыпадкова ў гэтых паэтычных радках Мікола Арочка ўспамінае прозвішчы Жыткевічаў, Збраевіча і Трафімовіча. Бо арганізатарамі ТБШ і бібліятэкі ў той нялёгкі 1927 год у вёсцы былі Рыгор Акулевіч, Сцяпан Ігнатовіч, Васіль Трафімовіч, Сямён Жыткевіч, Павел Таўлай, Кастусь Петручэня і іншыя вясковыя хлопцы. Дарэчы, Рыгор Акулевіч, каб пазбегнуць арыштаў з боку польскіх уладаў, у 1928 годзе эмігрыраваў у Канаду, дзе актыўна ўключыўся ў рабочы і фермерскі рух, прымаў удзел у выпуску першай рускай газеты ў Канадзе «Канадский гудок», нараджэнне якой вітаў Максім Горкі. Газета мела і беларускую старонку. У Другую сусветную вайну Рыгор Акулевіч добраахвотнікам пайшоў на фронт, у баях з немцамі быў цяжка паранены. Пасля вайны ў Канадзе ён рэдагаваў газету «Вестник», напісаў і выдаў кнігі «Рускія ў Канадзе» і

«50 год Беларускай рэспублiцы». У апошнiя гады свайго жыцця адышоў ад беларускасцi.

У 1927 годзе сваю працу кракоцкая моладзь пачала з таго, што сабрала сярод насельнiцтва кнiгi i грошы на набыццё лiтаратуры i iнвентару. Знайшлося для культурнай установы i памяшканне — хата Данiлы Грасевiча, якi не вярнуўся з бежанства. На заклiк вялiкакракоцкiх сялян адгукнулiся i жыхары суседнiх вёсак Рудаўка i Малая Кракотка. Бiблiятэкарам на грамадскiх пачатках працаваў Сямён Акулевiч.

Спачатку сабралi для бiблiятэкi каля трыццацi кнiг. Гэта былi пераважна былi творы для вясковых драмгурткоў. Энтузiясты культурнай работы працягвалi збiраць сярод насельнiцтва кнiгi i грошы на набыццё лiтаратуры. I кнiжны фонд увесь час папаўняўся. У канцы 1928 года бiблiятэка налiчвала каля тысячы назваў беларускiх, рускiх i польскiх кнiг i каля двухсот чытачоў. Тады кракоцкiя юнакi, сярод iх быў i Валянцiн Таўлай, якiя вучылiся ў Вiленскай беларускай гiмназii, закупiлi i прывезлi сотнi кнiг рускай i беларускай класiкi. З павелiчэннем кнiжнага фонду было створана дзве фiлii бiблiятэкi. Адной фiлiяй у суседняй з Вялiкай Кракоткай вёсцы Рудаўка кiраваў Павел Кулак, а Малакракоцкай фiлiяй загадвала Людмiла Кулак.

Адначасова пры бiблiятэцы i пры вясковым гуртку ТБШ былi створаны драматычны, харавы i музычны калектывы. Iмi кiравалi Васiль Трафiмовiч i Аляксандр Жыткевiч. Рэпетыцыi праводзiлiся ў памяшканнi бiблiятэкi, а спектаклi — у адрамантаваным i прыстасаваным школьным хляве. Пастаноўкi былi платнымi. За вырučаныя грошы, папаўняўся кнiжны фонд бiблiятэкi i аказвалася дапамога палiтзняволеным.

За кароткi час свайго iснавання драмгуртoк паставiў шмат п’ес беларускiх i ўкраiнскiх драматургаў, у тым лiку «Паўлiнку», «Раскiданае гняздо», «Прымакоў», «На папасе» Янкi Купалы, «Збянтэжанага Саўку» Леапольда Родзевiча, п’есы Францiшка Аляхновiча i Уладзiслава Галубка. Пастаноўкi i вечары песень давалi не толькi культурны адпачынак, але з’яўлялiся моцным сродкам палiтычнай агiтацыi. Пра кожную прэм’еру ў Вялiкай Кракотцы пiсала вiленская газета «Наша праўда». Давайце пагартаем тагачасныя нумары газеты за 1927 год.

У артыкуле «Праца ў нас пашыраецца» («Наша праўда» за 11 чэрвеня 1927 г.) паведамлялася: «22 траўня ў нашай вёсцы Вялiкая Кракотка адбыўся спектакль. Пастаўлена была драма Галубка ў чатырох актах «Апошняе спатканьне». Апрача сяброў Таварыства Беларускае Школы, прысутных было болей як 50 асоб. 28 траўня адбылося памiнаньне паэта Максiма Багдановiча з прычыны дзясятых угодкаў яго сьмерцi. Тут прачытана была лекцыя на тэму «Жыцьцё i творчасьць Максiма Багдановiча». Цiкава адзначыць, што пасьля лекцыi стараста прыслаў паперку, у якой кажа, што дзеля таго, што лекцыя была публiчная, а не толькi для сяброў Таварыства Беларускай Школы, трэба прасiць у старасты дазволу на лекцыю, што толькi паведамiць мала. Хочучы ўзмоцнiць сваю працу матэрыяльна, мы зьвярнулiся з лiстамi ў Амэрыку. Адзiн лiст паслалi «Форду», а другi сваiм землякам. «Форд» адказаў нам, што з такiмi

лістамі, як наш, зьвяртаецца да яго шмат хто, і што ўсіх іх задаволіць ён ня можа. А на другі ліст атрымалі лепшы адказ, тут відаць братэрскія сэрцы нашых землякоў адгукнуліся на наш кліч, бо пішуць яны, што ўжо сабралі па падпіснову лісту 20 даляраў і 70 цэнтаў, і што хутка вышлюць гэтыя грошы нам. Хутка манімся паставіць новы спектакль, хочам згуляць «Паўлінку» і «Заручыны Паўлінкі». Добра было б, каб з Вільні нам больш п’есаў падкінулі, як «Суд», «Гурток» і іншыя п’есы. Збіраемся арганізаваць хор і аркестр. Але і на гэтым праца наша ня спыніцца, як выканаем гэта, яшчэ далей пойдзем».

Пастаноўкі «Паўлінкі» і «Заручынаў Паўлінкі» у Вялікай Кракотцы вясковая моладзь ажыццявіла.

У пачатку 1928 года ў вёсцы Вялікая Кракотка з’явілася яшчэ адна грамадская арганізацыя — кааператыў «Дабрабыт». Частка яго даходаў ішла на набыццё літаратуры для бібліятэкі імя Янкі Купалы і на іншыя культурна-асветныя мерапрыемствы. Вось тады і было вырашана пачаць будаўніцтва Народнага дома, у якім размясціўся б кааператыў, бібліятэка-чытальня, глядзельная зала на 300 месцаў, сцэна і грымовачная. І ў 1930 годзе ў Вялікай Кракотцы ўсё ж пабудавалі Народны дом, а на Новы, 1931 год там нават адбыўся вялікі беларускі канцэрт. Віленская «Беларуская газэта» за 30 верасня 1933 года пісала: «Усяго некалькі гадоў існуе ў нашай вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага павета спажывецкі каапэратыў. Запраўды, пасля ліквідацыі гуртка ТБШ, каапэратыўная арганізацыя сталася ў нашай вёсцы пунктам, групуючым навокал сябе лепшыя культурнаасьветныя сілы нашай вёскі. Наш каапэратыў не агранічыўся толькі залажэньнем гандлёвага склепу. Ён, побач з нясеньнем вясковай масе пэўных матэрыяльных палёгкаў — заняўся актыўнай культурнаасьветнай дзейнасьцю. Пры яго дапамозе збудаваны Народны Дом, які ў сёньняшніх варунках зьяўляецца запраўдным гонарам вёскі. Сяляне з суседніх ваколіц прыходзяць часта палюбавацца нашым дасягненьнем і, убачыўшы тое, што мы маем і робім, запальваюцца да нацыянальна-вызваленчай працы. Народны дом у нас не пустуе. Мы часта ладзім сьпектаклі-вечарыны, каторыя сьцягаюць масы сялянства з суседніх вёсак. Даход з вечарыны мы аддаем на пашырэньне й узмацненьне культурнай работы. Выпісваем газэты, кніжкі, пасылаем на падтрыманьне беларускіх культурнаасьветных арганізацыяў. Такім чынам, паміма труднасьцяў, якія мы перажылі ў пачатку заснаваньня каапэратыву, сяньня арганізацыя наша стаіць на моцных падставах. Дзейная і масавая праца ўсіх членаў каапэратыву ва ўсіх галінах, прадбачаных статутам, зьяўляецца гваранцыяй таго, што мы ня толькі будзем жыць, але і стала развівацца, паміма злых наскокаў з боку паасобных маласьвядомых альбо варожых элементаў аб закладаньні гурткоў самаадукацыі або вывучэньня беларускай мовы. Таксама неабходна было б пастарацца аб заінсталяваньні ў Народным Доме агульнага радыя».

А тым часам польская паліцыя перашкаджала дзейнасці беларускіх грамадскіх арганізацый. Праіснаваўшы некалькі гадоў, бібліятэка-чытальня імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы была зачынена паліцыяй,

а кнігі канфіскаваны. Праўда, тыя выданні, якія знаходзіліся ў чытачоў і ў перасоўках у вёсках Рудаўка, Малая Кракотка, яшчэ доўга хадзілі па руках і чыталіся вяскоўцамі.

Затым пачаліся рэпрэсіі супраць актывістаў, многіх без суда і следства кінулі ў канцлагер Картуз-Бяроза. Так, Сцяпан Ігнатовіч быў засуджаны на сем гадоў турэмнага зняволення, Рыгор Збраевіч — на пяць, Кастусь Петручэня — на шэсць гадоў турмы. Паэту Валянціну Таўлаю, якога арыштоўвалі неаднаразова, далі восем гадоў.

У верасні 1939 года слаўную купалаўскую бібліятэку ў вёсцы Вялікая Кракотка зноў аднавілі, але праз некаторы час яе дзейнасць была спынена — ужо гітлераўскім нашэсцем.

Дата новага нараджэння Вялікакракоцкай бібліятэкі — жнівень 1946 года. Аднойчы ў вёску завітаў супрацоўнік слонімскай раённай газеты «Вольная праца» паэт Анатоль Іверс. Ён сабраў калгасны сход, на якім было аднадушна вырашана прызначыць загадчыкам бібліятэкі імя Янкі Купалы інваліда вайны Аляксандра Жыткевіча. Трыццаць гадоў адпрацаваў Аляксандр Іванавіч, рабіў усё, каб яго родная бібліятэка апраўдала імя вялікага Купалы.

Многія пісьменнікі дарылі кнігі з аўтографамі асабіста яму як чалавеку, які любіў сваю справу і шырока прапагандаваў родную літаратуру і культуру. Гэтыя кнігі Аляксандр Іванавіч Жыткевіч пакідаў у бібліятэцы, каб чыталі вяскоўцы. «Дарагому Аляксандру Іванавічу Жыткевічу і вялікаму сябру кнігі з сардэчнай павагай Мікола Арочка», — аўтограф земляка на кнізе «Крылатае семя». Піліп Пестрак на сваёй кнізе «Неспадзяванак» напісаў: «Жыткевічу Аляксандру — ад шчырага сэрца».

Вялікую дапамогу ў рабоце бібліятэкі аказала і жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Жывучы ў Мінску, яна амаль кожны месяц прысылала ў бібліятэку пісьмы, бандэролі і пасылкі з кнігамі і альбомамі. У 1951 годзе Уладзіслава Францаўна ўпершыню наведала Вялікую Кракотку, а ў 1957 годзе прымала ўдзел у святкаванні 30-годдзя бібліятэкі. Сустрэчы з гэтай жанчынай Аляксандр Жыткевіч (у 1999 годзе яго не стала) заўсёды ўспамінаў з вялікім хваляваннем, радасцю і цеплынёй. Уладзіслава Францаўна была вельмі задаволена, што бібліятэка на Слонімшчыне носіць імя Янкі Купалы.

Дзякуючы цётцы Уладзі, для бібліятэкі прыслалі свае кнігі з аўтографамі Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Андрэй Макаёнак і многія іншыя вядомыя пісьменнікі.

У 1957 годзе бібліятэку наведалі Пятрусь Броўка, Янка Брыль і Іван Шамякін. Пятрусь Броўка падараваў бібліятэцы свой двухтомнік. На першым томе ён напісаў: «Бібліятэцы імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы. З вялікай пашанай да яе прыхільнікаў і актыўных чытачоў. Пятрусь Броўка. 29.5.1957 г.». Свае аўтографы бібліятэцы тады пакінулі Янка Брыль і Іван Шамякін.

У 1961 годзе свой двухтомнік з аўтографам прыслаў з Мінска Янка Брыль: «Чытачам бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы — з зямляцкай павагай і найлепшымі пажаданнямі Янка Брыль. Мінск, 6.01.61 г.».

На святкаванне 30-годдзя бібліятэкі ў 1957 годзе ў Вялікую Кракотку прыехалі з Мінска Максім Лужанін, Рыгор Няхай, Пятро Прыходзька, супрацоўнікі музея Янкі Купалы, якія з сабою ў дар прывезлі каля 50 кніг з аўтографамі беларускіх пісьменнікаў. «Кракоцкай бібліятэцы імя Янкі Купалы ў дзень яе слаўнага трыццацігоддзя ад аўтара Пятра Прыходзькі» — так напісаў на сваёй кнізе «Салдаты міру» паэт-франтавік.

У 1972 годзе Вялікакракоцкая бібліятэка адзначала 90-годдзе з дня нараджэння Янкі Купалы. У вялікім літаратурным вечары, які праходзіў у Вялікай Кракотцы, прымалі ўдзел Сяргей Грахоўскі, Алег Лойка, Анатоль Іверс, Янка Саламевіч і іншыя літаратары. Як памяць пра сустрэчу захоўвала бібліятэка іх кнігі з аўтографамі. Пакінуў аўтограф Сяргей Грахоўскі на кнізе «Тры вымярэнні»: «Чытачам бібліятэкі імя Янкі Купалы ў Вялікай Кракотцы. Жадаю жыць у шчасці, любіць і шанаваць ніву, засеяную Купалавай шчодрай рукою».

Захоўваліся ў бібліятэцы і кнігі з аўтографамі Алеся Якімовіча, Міколы Аўрамчыка, Леаніда Прокшы, Івана Навуменкі, Сяргея Панізьніка і многіх іншых нашых творцаў. Але самая каштоўная рэліквія, якую захоўвала бібліятэка, — гэта аўтограф Якуба Коласа. У 1952 годзе з Мінска ён прыслаў бібліятэцы сваю кнігу «Адшчапенец», выдадзеную ў 1950 годзе. На ёй чарнільнай ручкаю напісана: «Бібліятэцы імя Янкі Купалы вёскі Вялікая Кракотка. Якуб Колас. 2.8.1952 г.». Цяпер кніга з аўтографам захоўваецца ў Слонімскай цэнтральнай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа.

Вялікакракоцкая сельская бібліятэка імя Янкі Купалы Слонімскага раёна за свой 80-гадовы шлях шмат разоў адзначалася ўзнагародамі. У 1960 і 1967 гадах гэтая ўстанова культуры за шматгадовую плённую працу была ўзнагароджана ганаровымі граматамі Міністэрства культуры СССР. Дзве ганаровыя граматы і два дыпломы атрымала бібліятэка ад Міністэрства культуры і Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі.

У 2005 годзе бібліятэка ў Вялікай Кракотцы набыла новы статус і стала бібліятэкай-музеем імя Янкі Купалы. А ў 2007 годзе яна адзначыла сваё 80-годдзе. Але гэта быў апошні юбілей бібліятэкі ў Кракотцы. У 2008 годзе яе закрылі, а каштоўныя кнігі і фotaздымкі перадалі ў іншыя бібліятэкі Слонімшчыны, а таксама ў Сялявіцкую сельскую бібліятэку. Усе акупацыі і войны перажыла слаўная Купалаўская бібліятэка, а вось сённяшні час перажыць не змагла. Шкада…

# ЯНКА КУПАЛА НА СЛОНІМСКАЙ СЦЭНЕ

Народны паэт Беларусі Янка Купала быў і застаецца самым папулярным пісьменнікам на Слонімшчыне. Аб гэтым сведчыць і вышэй згаданы факт пра тое, што яшчэ ў 1927 годзе сяляне вёскі Вялікая Кракотка прысвоілі яго імя мясцовай бібліятэцы-чытальні. Гэта была першая ўстанова культуры ў Беларусі, якой было прысвоена імя Янкі Купалы.

Найбольш папулярнымі творамі нашага песняра ў першай палове XX стагоддзя былі яго драматычныя творы. Яшчэ ў 20-я гады XX стагоддзя на Слонімшчыне на самадзейнай сцэне вельмі часта ставіліся яго п'есы «Прымакі», «Паўлінка», «Раскіданае гняздо», «На папасе», «Сон на кургане». Аб лепшых пастаноўках купалаўскіх п'ес часта пісалі беларускія газеты і часопісы. Вось, напрыклад, што распавядала невялікая нататка «Паўлінка» на вёсцы», якая была надрукавана ў віленскай «Нашай праўдзе» 23 ліпеня 1927 года: «У нядзелю 26 чэрвеня гуртком Таварыства Беларускай Школы (ТБШ) у вёсцы Вялікая Кракотка Міжэвіцкай воласьці Слонімскага павета быў наладжаны сьпектакль на карысьць бібліятэкі-чытальні. Згулялі п'есы: «Паўлінка» Янкі Купалы і «Заручыны Паўлінкі» Ф. Аляхновіча. Дзякуючы таму, што на гэты дзень быў у вёсцы фэст — народу сабралася як на рэдкасьць. За 10–15 вёрст прыходзілі, каб паглядзець на гульню кракоцкіх артыстаў-аматараў. На жаль, тэатральная зала не магла ўсіх зьмясціць, і шмат каму прыйшлосяісьці дамоў. Гулялі надта добра. Кожны артыст як бы перажываў сваю ролю і гэтае перажываньне пераходзіла на глядзельнікаў. Грыміроўка і касцюміроўка не мела жаднае заганы. Асабліва добра гуляла Зося Жыткевіч у ролі Паўлінкі. Яна дала поўны абраз маладое вясковае дзяўчыны, здольнае не толькі да каханьня, але і да ажыцьцяўленьня тых сьветлых ідэалаў, якія пакінуў у яе душы вучыцель-народнік Якім Сарока, а яе задушэўныя спевы, мастацкія па выкананьні, проста зачароўвалі глядзельнікаў. Васіль Трафімовіч сваёй гульнёю, як у ролі Быкоўскага, так і ў выкананьні папярэдніх роляў, паказаў, што мог бы гуляць і не абы як. Харавыя сьпевы (агульныя) у п'есах выйшлі вельмі добра. Відаць, што харавая секцыя пад кіраўніцтвам самавука-рэгента Васіля Трафімовіча стаіць на адпаведнай вышыні. Сьпектакль прайшоў з вялікім посьпехам. І хоць білеты былі не дарагія, ад 50 да 30 грошаў, збор вынес на 64 злотых».

У 1928 годзе «Паўлінку» Янкі Купалы сябры гуртка Таварыства беларускай школы паставілі і ў вёсцы Касцяні. Пра касцянёўскіх артыстаў паведаміла 16 траўня 1928 года газета «Голас працы». Яна пісала: «У аўторак 17 красавіка 1928 года ў вёсцы Касьцяні Чамерскай гміны Слонімскага павета была пастаўлена «Паўлінка». Найлепш выканала ролю Паўлінкі Мар'я Легаць. Тут, можна сказаць, не было ніякіх заганаў, як з боку мастацкага, так і з іншага. Гэтая маладая дзяўчына сваім гарачым сэрцам зусім зразумела, зусім адчула настрой, перажываньне Паўлінкі. Яна дала характэрны абраз маладое вясковае дзяўчыны, у душы якой гарыць не толькі жаданьне каханьня, але і імкненьне да новага, лепшага

жыцьця, якое (імгненне) у душы яе пакінуў вучыцель з новымі сьветлымі ідэаламі — Сарока. Таксама вельмі мастацка яна адпяяла песні, якія проста зачароўвалі прысутных. У будучым з яе можна было б спадзявацца добрай артыстычнай сілы. Далей надта добра была выканана роль Якіма Сарокі — Лаўрыном Якімчыкам. Ён зусім ясна прадставіў сабою тып маладога вучыцеля-народніка, які, пазнаўшы гора працоўнага люду, аддае ўсе свае сілы, усю энэргію на вызваленьне яго з путаў няволі. У яго далікатных абходах з Паўлінкаю не відаць было нічога згніўшага, старога панскага, а нешта простае, мілае, яснае.

Надзя Мароз сваім даволі мастацкім выкананьнем ролі Альжбеты дала прысутным прадстаўленьне старой шляхцянкі, якая абсалютна нічым не цікавіцца, а толькі «пільнуе сваю спадніцу і панчохі». Трэба, аднак, зазначыць, што ў яе было замала рухаў. Гэта, наогул, у вясковых артыстаў вельмі часта заўважаецца.

Паміж іншымі ролямі заслугоўвае на ўвагу роль Быкоўскага, а таксама Крыніцкага. Гэтыя ролі былі згуляны таксама ніштo сабе, але ўжо не так, як папярэднія. У Быкоўскага малавата было відаць «хвастаньня», замала «агіды» да ўсяго «мужыцкага». У Сцяпана Крыніцкага малавата відаць было «шляхоцкага гонару». Не вельмі прымусовыя і страшныя звароты да дачкі. Замала «бацькавай волі». Трошкі зацiхая гутарка. Апрача таго, яму не варта было мець на сабе вопратку — «галіфэ», бо, наогул, у той час, які адбівае «Паўлінка», магчыма, што ўжо існавалі «галіфэ», але старыя шляхтуны — праціўнікі ўсякіх навінаў, глядзелі на іх крывым вокам.

Рэшта артыстаў згулялі так сабе, сярэдне. Відаць, было мала падгатоўкі. Асабліва гэта заўважалася ў гасьцёх, з якіх хлапцы, дзякуючы няўвазе, сядзелі тварамі да дзяўчат, а плячыма да публікі. Гуляючы ж на сцэне, заўсёды трэба сачыць за тым, каб быць тварам да глядзельнікаў.

Таксама вельмі добрае ўражаньне ў прысутных пакінулі па сабе песьні, якія сустракаліся ў п’есе і якія былі выкананы артыстамі як найляпей. Песьняй «Ах ты, Нёман, рака» слухачы проста такі зачароўваліся, чуючы мілыя зыкі, ідучыя з маладых, здаровых грудзей сваіх паднявольных сыноў-змагароў.

Агулам кажучы, трэба зазначыць, што п’еса была б шмат ляпей згуляна, калі б зрабілі генеральную рэпетыцыю. Але, дзякуючы таму, што стараста даў дазвол толькі за некалькі гадзін перад пачаткам сьпектаклю (артысты ўжо страцілі надзею на атрыманьне дазволу і дзеля гэтага не рабілі генеральнай рэпетыцыі).

Ня гледзячы, аднак, на ўсё гэта, ня гледзячы на тое, што была вельмі кепская пагода, народу сабралася каля двухсот асоб, якія задаволіліся тым, што бачылі перад сваімі вачыма. Увесь даход у суме 36 злотых пайшоў на карысць бібліятэкі-чытальні пры гуртку Таварыства Беларускай Школы ў вёсцы Касьцяні. Дык вось што зрабілі нашы хлапцы і дзяўчаты, замест таго, каб напіцца гарэлкі ды паднімаць розныя бойкі! Чэсьць вам, касьцянёўскія артысты — змагары з цемраю — адвечным ворагам працоўных мас. На вас надзея вашых загнаных бацькоў, братоў і сёстраў. Ідзеця, браты, наперад! Не зважайце на цёмную ноч! Збуджайце

масы да новага, лепшага жыцьця. У гэтай цёмнай ночы будзеце вы тымі шляхаводнымі зоркамі, якія асьвячаюць шлях да іншага жыцьця, дзе ня будзе ні зьдзекаў, ні гора, ні сьлёз, ні багатых, ні бедных, а ўсе роўныя як адзін! Дзе будуць усе як браты. І будзе ўнукаў панаваньне там, дзе сягоньня плача дзед!».

Вось такімі гучнымі словамі закончыў свой матэрыял нехта Вяскор, які пісаў пра «Паўлінку» ў «Голасе працы». Ставіліся тады гэтая камедыя і ў вёсцы Азярніца сіламі азярніцкага гуртка ТБШ. Былы дзеяч Заходняй Беларусі, пасол польскага сейма па спісе КПЗБ Павел Крынчык (1898–1975) згадваў, што ў 1927 годзе драмсекцыя гуртка ТБШ вёскі Вострава ставіла таксама «Паўлінку» Янкі Купалы ў вёсцы Вострава ў гумне Якуба Мазаля і ў мястэчку Дзярэчын у мурах Сапегаў (тады Вострава і Дзярэчын належалі да Слонімскага павета. — *С. Ч.*). Ролю Паўлінкі выконвала дзяўчына з вёскі Монькавічы Вольга Жоглік, якая прыходзіла ў Вострава на рэпетыцыі за 15 кіламетраў. Пазьней вяскоўцы пачалі яе зваць проста Паўлінка. Вельмі добра выконваў ролю Сцяпана Крыніцкага былы настаўнік Слонімскага народнага вучылішча Міхась Галенда. А ролю Пустарэвіча выконваў Астап Захарчук, які ў 1922 годзе прыехаў з заробкаў з Амерыкі.

Жонка Паўла Крынчыка — Алена Лябецкая (1903–1982) была старшынёй Казлоўшчынскага гуртка ТБШ (вёска Казлоўшчына цяпер адносіцца да Дзятлаўскага раёна, а тады — да Слонімскага павета. — *С. Ч.*). Некалі яна ўспамінала, што «Паўлінка» ставілася сіламі драмсекцыі гуртка ТБШ у Казлоўшчыне ў гумне Тарасюка. Ролю Паўлінкі выконвала дзяўчына з вёскі Лявонавічы Ганна Мазоль, якая была і ўдзельніцай хору пры гэтым жа гуртку. Хор, дарэчы, выконваў песні «Жыў на свеце Лявон» і «А хто там ідзе» на словы Янкі Купалы. Матыў гэтых песень быў прыдуманы самымі харыстамі. Гераічная постаць Лявона нагадвала тады вобраз падпольшчыка, якога праследавала польская паліцыя. А сама Алена Лябецкая са сцэны дэкламавала вершы Янкі Купалы «Ворагам беларушчыны», «Мужык», паэму «Курган». Сіламі гэтага гуртка «Паўлінка» ставілася нават у Слоніме. Алена Лябецкая ў сваіх успамінах, якія былі надрукаваныя ў кнізе «У суровыя гады падполля» (Мінск, 1958. С. 98) згадвае: «У Слоніме мы паставілі ў памяшканні, дзе цяпер знаходзіцца Народны дом, «Паўлінку» Янкі Купалы». Першая беларуская п’еса ў Народным доме! І ставілі яе вясковыя дзяўчаты і хлопцы, «хамы», як называлі нас польскія паны. Усё гэта было незвычайна ў тыя часы. Нашы спектаклі і песні па-рэвалюцыйнаму дзейнічалі на гледачоў. А хто яны былі, гэтыя гледачы, — рабочыя і сяляне, якія занялі першыя рады. Кажухі мільгалі ў асветленых залах. Паліцэйскія захваляваліся, забегалі, але спектакль адбыўся».

Не спынялася дзейнасць самадзейных драматычных калектываў на Слонімшчыне і ў 1930-х гадах. Аб гэтым сведчыць допіс «Беларуская сцэна на вёсцы» паэта Анатоля Іверса з вёскі Чамяры, які быў змешчаны ў часопісе «Беларускі летапіс» № 6–7 за травень–чэрвень 1937 года: «У нашых умовах беларуская сцэна на вёсцы робіць шпаркія поступы.

У сучасны момант толькі пры помачы спектакляў прыходзіцца вучыцца пісаць і працаваць на грамадскую карысць. У такіх выпадках для шкодных навыкаў, як карты, гарэлка, дзікія разгулы, няма месца». Далей аўтар паведамляе, што зімою 1937 года ў памяшканні мясцовай польскай школы была пастаўлена «Паўлінка». Школьная зала была перапоўнена гледачамі. Артысты вымушаны былі паўтарыць пастаноўку п'есы. У падрыхтоўцы і пастаноўцы беларускіх спектакляў прымаў актыўны ўдзел і Анатоль Іверс. На дазвол пастаноўкі спектакля ўправа гуртка ТБШ падавала заяву ў староства, дзе рэферэнт бяспекі ставіў розныя перашкоды. Але ўсведамленне важнасці культурна-масавай работы надавала сілы сябрам гурткоў ТБШ і дапамагала пераносіць вялікія цяжкасці.

Пасля Другой сусветнай вайны драматургія Янкі Купалы зноў вярнулася на слонімскую сцэну. Хаця і падчас нямецкай акупацыі ў Слоніме пры Беларускім Народным доме дзейнічаў тэатральны гурток, які стварыў Сяргей Новік-Пяюн. Па словах сведкаў, сярод пастаўленых п'ес гэтым гуртком былі і «Прымакі» Янкі Купалы.

У 1948 годзе пры Слонімскім РДК стварыўся тэатральны гурток. У 1959 годзе гэты гурток паставіў славутую «Паўлінку» (рэжысёр Міхаіл Фрыдман). За гэты спектакль слонімскаму тэатральнаму гуртку было нададзена званне народнага тэатра. З «Паўлінкаю» Слонімскі народны тэатр аб'ездзіў амаль усю Беларусь і меў найвялікшы поспех.

У 1968 годзе калектыў Слонімскага народнага тэатра узначаліў малады рэжысёр Мікалай Варвашэвіч. Сваю творчую кар'еру рэжысёр вырашыў пачаць з купалаўскай «Паўлінкі». А слонімцы з цікавасцю чакалі гэтай прэм'еры. І яна адбылася 12 снежня 1968 года. Трэба адзначыць, што самадзейныя артысты працавалі тады з захапленнем. Яны ведалі, што ім цяжка канкурыраваць з прафесійнымі дзяржаўнымі тэатрамі, але жаданне сказаць «сваё слова» брала перавагу. Да таго ж народныя сакавітыя характары, чароўная і маляўнічая мова, востра-камедыйныя сітуацыі былі добрай школай для аматараў сцэны.

Першай вартасцю спектакля ў Слоніме стала вернасць выканаўцаў драматургічнай аснове — п'есе Янкі Купалы. Пры ўсіх прыватных недахопах, спектакль заваяваў гледача, прынёс радаснае пачуццё сустрэчы з даўно знаёмай усім беларусам п'есай у новым — старанным і трапяткім — выкананні. Артысты народнага тэатра здолелі так сыграць некаторыя эпізоды, што ўспрымаліся яны, як новыя, як адкрыццё. І зала сустракала смехам Агату, якая кажа, нібы вось тут, зараз на сцэне, знаходзіць гэтыя словы: «Тудэма-сюдэма, куды тут садзіцца! Ноч на дварэ, кабыла за плотам, паўвярсты да дому, а гэты тудэма-сюдэма, начніца касавокая, не вытрымаў, каб людзям не нарабіць у ночы неспакойства…».

І далей глядач з непасрэдным пачуццём сочыць за тым, як разгортваліся падзеі. Актыўнае ўзаемадзеянне залы і сцэны працягвалася аж да заключнай рэплікі Сцяпана Крыніцкага: «Каханенькія, родненькія, дзве дзюркі ў носе і скончылося!».

Яркімі, маляўнічымі рысамі характару надзяліла сваю гераіню тады выканаўца ролі Паўлінкі Святлана Варвашэвіч (жыве цяпер у Свіслачы).

Яна перадала прывабнасць і душэўную прыгажосць сялянскай дзяўчыны. У спектаклі гледачы яе ўбачылі і вясёлай, і жыццярадаснай, і задумлівай, і пакутаючай. І гэтыя змены настрояў у гераіні былі жыццёва апраўданыя, гранічна натуральныя і заканамерныя.

Цікава іграў ролю Пранцыся Пустарэвіча артыст народнага тэатра Андрэй Каханоўскі. Яго Пустарэвіч быў веселуном, жартаўнікам, які любіў пагутарыць з моладдзю. Крыху Пустарэвіч атрымаўся баязлівым, але стараўся не паказваць гэтага. Ён пакрыкваў на жонку, хоць і пабойваўся яе. Артыст іграў свайго героя свабодна і лёгка. І падабаўся гледачам. Дарэчы, Андрэй Каханоўскі некалі быў акцёрам у тэатры Уладзіслава Галубка.

Слонімскаму артысту Аляксандру Гуку ўдалося знайсці свае фарбы для вобраза Адольфа Быкоўскага. Малады акцёр тады не пайшоў на простае капіраванне вобразаў, створаных прафесійнымі майстрамі, як часам робяць некаторыя выканаўцы гэтай ролі на самадзейнай сцэне. Праўда, ён іншы раз збіваўся, нават траціў псіхалагічную праўду ў паводзінах свайго героя.

Ролю Сцяпана Крыніцкага ў тым спектаклі сыграў сам рэжысёр Мікалай Варвашэвіч. Іграў яго энергічным, хітраватым і не вельмі шчодрым. Выканаўцу ўсё ж удалося знайсці адпаведны грым, дакладныя дэталі ў характары, у манерах.

Удумліва і праўдзіва іграла Альжбету Людміла Клімовіч. Яе Альжбета была мяккай, душэўнай, не мітуслівай жанчынай, якая тонка адчувала гумар і жарт.

Жывым, вельмі шчырым і непасрэдным атрымаўся ў спектаклі Якім Сарока, якога сыграў Анатоль Цярэнін. Якім у артыста атрымаўся паюначаму гарачым, крыху фантазёрам з чыстай душой. Гэта быў першы выхад маладога самадзейнага артыста на слонімскую сцэну.

Жывасць дыялогу, яркасць вонкавага малюнка і паводзін персанажаў п’есы вызначылі мастацкую своеасаблівасць той «Паўлінкі». Нацыянальную характэрнасць прыдавалі спектаклю і народныя матывы ў дэкарацыях (мастак Пётр Слезнік) і ў музычным афармленні (кампазітар Міхась Гарабец), пабудаваным на народных мелодыях і песнях.

Тэатральныя крытыкі тады адзначылі і асобныя шарахаватасці спектакля «Паўлінка». Напрыклад, некаторым маладым выканаўцам яшчэ не хапала артыстычнага майстэрства, выканаўчай культуры. Але затое была ўласціва тая шчырасць, якая маецца і заўсёды характэрна для народнага мастацтва.

Аб той «Паўлінцы» на слонімскай сцэне згадалі многія беларускія газеты. «Звязда» 21 снежня 1969 года пісала: «Рабочыя саўгаса «Сасноўка» задоўга да пачатку спектакля запоўнілі памяшканне Яруціцкага сельскага клуба. У гэты вечар Слонімскі народны тэатр паказаў хлебаробам сваю новую работу па п’есе Янкі Купалы «Паўлінка». Спектакль вельмі спадабаўся сельскім гледачам…». А «Гродненская правда» (20 сакавіка 1969 г.) пра «Паўлінку» падкрэсліла: «Мы расходимся, унося с собой хорошие впечатления, простив некоторые недостатки этого весёлого и яркого спектакля…».

У 1986 годзе рэжысёр Мікалай Варвашэвіч зноў вяртаецца да купалаўскай камедыі. Шэсць першых прадстаўленняў «Паўлінкі» адбыліся ў Слоніме, а сёмае — на сцэне вучэбнага тэатра Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута (цяпер Беларуская акадэмія мастацтваў) перад студэнтамі і выкладчыкамі ВНУ Мінска і жыхарамі сталіцы. Тыднёвік «Літаратура і мастацтва» 6 чэрвеня 1986 года паведамляў: «Добры акцёрскі ансамбль, рэалістычная сцэнаграфія (афармляў спектакль рэжысёр-пастаноўшчык), музычная партытура спектакля яшчэ раз засведчылі высокі творчы ўзровень вядомага ў рэспубліцы народнага тэатра».

Дык што новага ў параўнанні з 1968 годам унёс у «Паўлінку» рэжысёр Мікалай Варвашэвіч? Тут адразу можна зазначыць, што калектывам і рэжысёрам, безумоўна, быў знойдзены свой паварот агульнага рашэння камедыі. Асабліва тады адметна вылучыўся дынамічнасцю дзеі другі акт, што выразна адцяніла адну з выдатнейшых рысаў камедыі — займальнасць інтрыгі.

З самага пачатку спектакля рэжысёр умела ўвёў гледачоў у абставіны часу дзеяння. Калі гледачы глядзелі на афармленне спектакля, іх уражвала не проста праўда ўвасобленага на сцэнічнай пляцоўцы жыцця, а вобразная праўда, праўда, моцная сваёй абагуленай выразнасцю. Дастаткова было аднаго позірку на рэалістычна ўмоўны пакой вясковай хаты, дзе адбывалася ўсё сцэнічнае дзеянне, каб скласці сабе ўяўленне аб героях, аб іх нацыянальнай і сацыяльнай заглыбленасці.

Другі, удала знойдзены, кірунак у афармленні спектакля можна было назваць метафарычным. Мастак знайшоў тады своеасаблівае, адзінае на ўвесь спектакль відарыснае рашэнне, якое выражала сутнасць рэжысёрскай задумы камедыі ў яе ідэйным плане. Гэтай удалай, па-наватарску ўбачанай і ўведзенай метафарычнай дэталлю быў куфар. З аднаго боку, ён нібы з'яўляўся аздабленнем пакоя, з другога… Не больш як крэсла ён быў для Якіма, вясковых музыкаў, але як любоўна агледжваў яго сам гаспадар, Сцяпан Крыніцкі, — гэта быў сімвал яго дабрабыту і заможнасці. Як прыцягваў ён пільную ўвагу Быкоўскага, сімвалізуючы выгодны і багаты пасаг нявесты.

Цікава былі выбраны і пастаўлены рэжысёрам мізансцэны, што немалаважна, бо менавіта праз іх выражалася душа, сутнасць асобных эпізодаў, бачны былі вобраз унутранага стану герояў. Асабліва вылучалася адна — яна ўзвышалася да мастацкага выяўлення ідэі спектакля: выразнай класавай пазіцыі, скіраванасці супраць пагардлівых адносінаў да простага чалавека, да ўсяго народнага. Хочацца прыгадаць яе.

Ішла каларытная бытавая сцэна гасціны. Дзяўчаты спявалі народныя беларускія песні, а пан Адольф Быкоўскі сядзеў наводшыбе, спіною да гасцей, усім сваім выглядам падкрэсліваючы пагарду да ўсяго «мужыцкага». Адзін штрых, але ён быў удалы. Менавіта праз такія штрыхі выстройвалася тады рэжысёрам Мікалаем Варвашэвічам «Паўлінка». Выстройвалася яшчэ і дзякуючы, безумоўна, майстэрскаму выкананню ролі Быкоўскага Віктарам Касікоўскім. Галоўным для акцёра было ўменне

пранікнуць ва ўнутраны свет ствараемага вобразу, раскрыць яго сутнасць і індывідуальныя асаблівасці — усё гэта ўдалося выканаўцу. Асабліва камічнымі выглядалі любоўныя заляцанні, дзе Быкоўскі імкнуўся паказаць сябе вельмі далікатным і галантным кавалерам, ганарыстасць і фанабэрыя, якія гратэскна падкрэсліваў артыст Касікоўскі ў сваім герою.

Камічнасцю і маляўнічасцю з боку артыстычнага майстэрства вызначаліся вобразы Агаты і Альжбеты, якія ігралі артысткі народнага тэатра Кацярына Палішчук і Марыя Гурская. Іх выкананне было настолькі своеасаблівым, што глядач забываўся на параўнанне з ужо вядомымі прафесійнымі выканаўцамі гэтых роляў, а гэта, заўважце, найлепшы паказчык поспеху.

Пасля прэм’еры з рэцэнзіяй на спектакль у мясцовым друку выступіла пісьменніца і педагог Алена Руцкая. Яна, у прыватнасці, пісала: «Нялёгкая сэнсавая нагрузка ляжыць на вобразах прадстаўнікоў маладога пакалення ў камедыі — Паўлінцы і Якіму. Рамантычна лірычная тэма кахання ў падачы іх вобразаў пераплятаецца з сацыяльнай тэмай ідэйных імкненняў. Спалучэнне больш чым складанае, а выканаўцы маладыя дэбютанты: Паўлінка — Л. П. Чайкоўская, Якім Сарока — Ф. І. Мядзведзеў. Тым больш варта адзначыць, што ўдалося ім самае галоўнае: пранікненне ў свет перажыванняў і трывог сваіх герояў, у свет характараў. Падкупляе непасрэднасцю і дасціпнасцю вобраз гераіні, лірычнай цеплынёй — вобраз Якіма. Але ўспомнім словы нашага земляка, аўтара кнігі пра Янку Купалу «Як агонь, як вада» Алега Лойкі: «Не вельмі смешнай напісалася ў Купалы першая яго камедыя: смеху-то ў ёй хапае… а стогн душы, драма любоўная і палітычная — вось фінал п’есы «Паўлінка». Менавіта драматызм з-за таго, што герояў хочуць пазбавіць іх кахання, найвялікшага свята жыцця, павінен яскравей прасвечвацца ў паасобных момантах выканання роляў маладымі артыстамі» (За перамогу камунізму. Слонім, 1986. 12 крас.). І з рэцэнзентам нельга не пагадзіцца. Тым не менш адной з лепшых сцэн «Паўлінкі» 1986 года, што рэдка бывае, але запомнілася, — гэта масавая сцэна гасцін у доме Крыніцкіх. Дэталёва рэжысёрам прадуманы і па-майстэрску выведзены былі паводзіны кожнага ўдзельніка масоўкі. Рэплікі, як вехі, якія складалі слоўную партытуру сцэны. Стварыўся вобраз адзінага цэлага — народа. Такія пастаноўкі памятаюцца вельмі доўга.

У 1993 годзе заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, рэжысёр Мікалай Варвашэвіч ставіць на слонімскай сцэне купалаўскія «Прымакі». Але ўжо не на сцэне народнага тэатра, а на сцэне прафесійнага дзяржаўнага Слонімскага беларускага драматычнага тэатра (цяпер Слонімскі драматычны тэатр). Пачыналіся «Прымакі» звычайна. Максім Кутас (артыст Віктар Багушэвіч) пасля добрага перапою пачынае ўспамінаць, што было ўчора, думае, куды ён трапіў. Бо ў яго хаце «павуцінне па ўсіх чатырох кутках, а тут толькі на трох…». Але гэта яшчэ паўбяды. На самай справе здарылася так, што Максім Кутас і Трахім Сініца (артыст Сяргей Бачкоў) памяняліся сваімі жонкамі. Калі памылка выкрылася, пасля першага замяшання і перажытага страху за вынікі, якія здарыліся, адбываецца камічная сямейная перапалка. Але ўсё, як мы веда-

ем, скончылася прыемнай развязкай, заручынамі сына Максіма — Мацейкі (артыст Васіль Сявец) і дачкі Трахіма — Кацярынкі (артыстка Іна Ёрш).

Аднак не будзе перабольшваннем, калі дадаць, што асноўны змест «Прымакоў» і поспех спектакля надавалі тады народныя песні і танцы, вельмі ўдала і па-мастацку быў скампанаваны этнаграфічны матэрыял.

У пастаноўцы слонімскіх артыстаў спектакль «Прымакі» набыў у 1993 годзе новае і свежае ўвасабленне. Добра адчуваліся беражлівыя адносіны пастаноўшчыка да тэксту твора, сучаснае прачытанне п'есы, акцёрскае стварэнне вобразаў і г. д.

У 2002 годзе Слонімскі беларускі драматычны тэатр зноў вяртаецца да камедыі Янкі Купалы. Спектакль тады вырашае паставіць рэжысёр тэатра Віктар Бутакоў, які прыехаў у Слонім з Усходне-Казахстанскага абласнога рускага тэатра драмы імя Жамбыла горада Усць-Каменагорска. Зусім не ведаючы беларускай драматургіі, звычаяў, нораваў, беларускага жыцця і гісторыі, рэжысёр узяўся за «Прымакі» і паставіў. Пачынаўся спектакль арыгінальна. Тры вясковыя пляткаркі (артысткі Ірына Яцук, Вікторыя Міхальчык, Надзея Ільчанка) распавядалі адна адной аб тым, што дзеецца ў вёсцы, а таксама разважалі пра мужыкоў. У п'есе Янкі Купалы гэтага няма. Але такая своеасаблівая задумка рэжысёра надала спектаклю новае і свежае ўспрыманне. А далей падзеі на сцэне адбываліся, як у п'есе. Камізм спектакля ўзмацняўся, дзякуючы своеасаблівасці мовы дзеючых асоб, багатай народнымі параўнаннямі, прымаўкамі, фразеалагізмамі, трапнымі, часам грубаватымі дасціпнымі выразамі, а таксама дзякуючы нечаканым паваротам сюжэта, своеасаблівай пабудове дыялога і, вядома ж, ігры акцёраў Тамары Галаванавай, Сяргея Фурсы, Кацярыны Дзядовіч, Наталлі Шугай, Сяргея Лішыка і Віталя Спасюка.

Тым не менш мінскія тэатральныя крытыкі не дужа спрыяльна ацанілі «Прымакі» ў пастаноўцы Віктара Бутакова. Напрыклад, Вячаслаў Іваноўскі ў зборніку «Беларускі тэатр — 2001/2002» (Мінск, 2003. С. 9–10) пісаў: «На жаль, спектакль рэжысёра В. Бутакова ў недастаткова густоўна стылізаваных дэкарацыях і касцюмах персанажаў (мастак Аляксандр Толкач) хутчэй нагадваў звыклую для беларускага тэлебачання павільённую рэканструкцыю «Вячорак», чым знакаміты купалаўскі вадэвіль, багата насычаны беларускім фальклорным матэрыялам і лёгкім дабрадушным гумарам. Нягледзячы на пэўную рызыкоўнасць становішча, у якім пасля значнага падпітку мужчын Максіма Кутаса і Трахіма Сініцы апынуліся жанчыны — Даміцэля Сініца і Палагея Кутас, зранку прачнуўшыся і знайшоўшы ў сваіх ложках суседскага мужа, Янка Купала не дапускае ў сваім даволі простым народным жарце аніякай двухсэнсоўнасці альбо нават намёку на непрыстойнасць. Таму так важна пры пастаноўцы гэтага купалаўскага твора і рэжысёру, і выканаўцам знайсці адпаведныя выразныя сродкі, яскравыя мастацкія знаходкі, адчуць камедыйную стыхію жанру, каб імправізацыяй надаць спектаклю лёгкую іранічнасць, не даць магчымасці сцэнічнаму відовішчу апусціцца да пабытавай дробязнасці, захаваўшы адначасова з тым сакавітую народную характарнасць вобразаў…». З крытыкам варта пагадзіцца. Але ж вясёлы вадэвіль

«Прымакі» гледачам падабаецца, ён напоўнены смехам, мяккім, дабрадушным, народным смехам. Да сённяшніх дзён у рэпертуары Слонімскага драматычнага тэатра гэты спектакль ёсць, і на яго ідуць гледачы.

Гэта толькі выбраная вандроўка ў розныя тэатральныя калектывы і тэатры Слонімшчыны, дзе вось ужо на працягу 80 гадоў ідуць п'есы Янкі Купалы. Кожны спектакль па п'есе нашага песняра даваў і дае людзям адчуванне сваёй нацыянальнай годнасці. І народ наш любіў і будзе заўсёды любіць Купалаўскую драматургію, бо яна — неўміручая.

# ЯКУБ КОЛАС І СЛОНІМШЧЫНА

## 1

Музею беларускай кнігі, які існуе пры Слонімскай раённай бібліятэцы імя Якуба Коласа, у 2011 годзе споўнілася 20 гадоў. Гэта адзіны падобны музей на Гарадзеншчыне. Ён складаецца з дзвюх залаў. Першая прысвечана Якубу Коласу, другая — літаратурнай Слонімшчыне. І хоць Якуб Колас ні разу не быў у Слоніме, творчасць песняра неразрыўна звязана і з горадам над Шчарай, з яго людзьмі.

Кожны раз, калі я сёння іду па Ружанскай вуліцы ў цэнтр Слоніма, мне ўяўляецца спадарыня Ядвіся Бараноўская. Яна жыла побач з Ружанскаю вуліцай на Цвінтарным завулку (цяпер завулак Дастаеўскага). Так-так, гэта менавіта тая Ядвіся, якая стала прататыпам Ядвісі Баранкевіч у аўтабіяграфічнай аповесці Якуба Коласа «У палескай глушы». Гэтую аповесць Якуб Колас напісаў у 1923 годзе.

Галоўным героем аповесці з'яўляецца Андрэй Лабановіч — прадстаўнік перадавой часткі дэмакратычнай інтэлігенцыі пачатку ХХ стагоддзя. Іван Навуменка ў сваёй кнізе «Якуб Колас» (Мінск, 1982) адзначае, што Лабановіч можа быць і «залішне сур'ёзны для сваіх дваццаці гадоў, але маладосць — пара кахання, гарачых парыванняў, і ўсё гэта, зрэшты, не абмінае і нашага героя. Як ні заняты настаўнік філасофскім роздумам, школьнай працай, грамадскімі інтарэсамі, як ні суцяшае сябе тым, што яму падабаюцца тры дзяўчыны — панна Марына, панна Людміла і, нарэшце, Ядвіся (на яго думку, гэта зарука, што ён не закахаецца ні ў адну), але ўсё ж такі ён закахаўся, і каханне да Ядвісі, можа быць, самы істотны момант жыцця Лабановіча ў Цельшыне». Далей пісьменнік падкрэслівае, што «ўзаемаадносіны Лабановіча і Ядвісі, дачкі падлоўчага Баранкевіча, адносяцца да ліку лепшых любоўных старонак беларускай прозы».

Сапраўды, Якуб Колас стварыў вельмі яркі і прыгожы вобраз Ядвісі. Ці не той Ядвісі, якая ў 30–50-х гадах мінулага стагоддзя жыла ў Слоніме? І ці не рэальная асоба была апісана песняром? Памятаю, пра гэта мне неаднаразова нагадваў беларускі пісьменнік Сяргей Новік-Пяюн. А даведаўся ён пра Ядвісю ў ліпені 1936 года ад паэта Гальяша Леўчыка, з якім сябраваў.

Вось што мне расказваў Сяргей Новік-Пяюн: «Аднойчы Гальяш Леўчык спытаў мяне: «А ці ведаеш, Сяргей, што ў Слоніме жыве Ядвіся, тая Ядвіся, аб якой піша Якуб Колас «У палескай глушы»? Прозвішча яе Бараноўская, а жыве яна ў доме на ўзгорку насупраць Ружанскіх могілак. У «Нашай ніве» яна друкавала свае вершы, падпісваючыся псеўданімам Юстына». Я быў чалавек «паднаглядны». І, таму мне даводзілася наведвацца ў Слонімскі магістрат на рэгістрацыю. І неяк у тым жа ліпені 1936 года да мяне падышла высокая, стройная кабета ў чорным паліто і капелюшы, з-пад якога спадалі пасмы сівых валасоў. Адчувалася, што яна была некалі прыгожаю. Кабета з ветлівай усмешкаю прывіталася:

— Добры дзень! Я — Ядвіся!

Я запытальна глядзеў на яе.

— Так-так! Я — тая Ядвіся, аб якой напісаў Якуб Колас у сваёй аповесці « У палескай глушы». Мы сябравалі. Якуб Колас і я друкавалі вершы ў «Нашай ніве», я свае падпісвала псеўданімам Юстына. Мне пра вас расказваў Гальяш Леўчык. Маё прозвішча Бараноўская.

Спадарыня Бараноўская пацiснула мне руку. Праз некалькі хвілін да яе падышла маладая настаўніца.

— Гэта мая дачка, — пазнаёміла нас Бараноўская. Праўда, месца для гутаркі было нязручнае, таму яна на развітанне сказала: — Калі ласка, заходзьце да нас! Гальяш казаў, што даў вам наш адрас.

Праз некалькі дзён я наведаўся да Ядвісі. Яна паказала мне гадавік «Нашай нівы» са сваімі вершамі.

А калі вясною 1961 года мне давялося быць у Слоніме і я прыйшоў у дом Бараноўскай, мне сказалі, што яна з дочкамі ў 1945 годзе выехала ў Польшчу.

У лістападзе 1978 года я зноў наведаў Слонім. Прайшоў па былым Цвінтарным завулку і спыніўся каля дома № 8, у якім жыла Ядвіся. З суседняга дома выйшаў сівы чалавек, які назваўся Міхалам Юхновічам. Ён сказаў мне, што добра ведаў суседку Ядвісю Бараноўскую. Яна ўсё літаратурай займалася, пісала вершы. Але як склаўся яе пасляваенны лёс, спадар Юхновіч не ведаў».

Не ведаў пра далейшы лёс Ядвісі Бараноўскай і Сяргей Новік-Пяюн, а таксама і іншыя слонімцы.

Пра тое, што Ядвіся жыла ў Слоніме, Сяргей Новік-Пяюн у свой час прыгадваў і на старонках некаторых літаратурных выданняў. Ды і Алег Лойка часта згадваў пры сустрэчы, што гераіня Коласа Ядвіся жыла ў Слоніме, пісала вершы і друкавалася ў «Нашай ніве». Дарэчы, у штогодніку «Дзень паэзіі–86» Алег Лойка апублікаваў артыкул «Ці была паэтэсай Коласава Ядвіся?». Па словах Алега Лойкі, Ядвіся Бараноўская пакінула Слонім у 1954-м, а не ў 1944 годзе, як сцвярджаў Сяргей Новік-Пяюн. «Значыць, вы бачылі Ядвісю?» — пытаўся ў Алега Антонавіча. «Мой самы лепшы школьны сябра, з якім я сядзеў на адной лаўцы ў 9 і 10 класах, жыў на Цвінтарным завулку, — са шкадаваннем успамінаў Алег Лойка, які сам жыў да апошніх дзён у Слоніме. — Я ж амаль кожны дзень бываў у гэтага сябра. Я ж амаль кожны дзень праходзіў міма белых

вакон з кветкамі, паўз хату, у якой жыла Ядвіся. Я ж усіх суседзяў свайго сябра па Цвінтарным завулку бачыў у твар, усіх іх памятаю. Каторы ж з твараў быў тварам яе, Коласавай Ядвісі? Убачыў бы я цяпер яе фотаздымак, адразу б пазнаў, успомніў бы…».

Ад завулка Дастаеўскага і вуліцы Ружанскай да бібліятэкі, якая носіць імя Якуба Коласа, вельмі блізка — яна ў самым цэнтры горада. Музей знаходзіцца на другім паверсе. Напачатку экспазіцыі музея — вялікі партрэт песняра. Дарэчы, у 1954 годзе ў Мінску Якуба Коласа наведалі слонімскія бібліятэкары і расказалі яму, што ў Слоніме ёсць бібліятэка, якая носіць яго імя. Канстанціну Міхайлавічу гэта навіна спадабалася, і ён падараваў сваю кнігу «Адшчапенец» (Мінск, 1950) з аўтографам: «Слонімскай раённай бібліятэцы. Якуб Колас. 6.09.1954». Гэтая кніга і зараз захоўваецца ў музеі.

Музей бібліятэкі на працягу многіх гадоў падтрымлівае сувязі з унучкай песняра — Верай Міцкевіч. Дзякуючы ёй, Слонімскі музей кнігі атрымаў 25 фотаздымкаў і 20 кніг з сямейнай калекцыі Міцкевічаў. У 1961 годзе раённай бібліятэцы даслалі ад Літаратурнага музея Якуба Коласа альбом «Якуб Колас. Жыццё і творчасць» (Мінск, 1959). Свае аўтографы на ім пакінулі сын Якуба Коласа — Даніла Міцкевіч і вядомыя беларускія навукоўцы Ніна Ватацы, Юльян Пшыркоў і іншыя пісьменнікі. Захоўваюцца ў музеі беларускай кнігі ў Слоніме і коласаўская «Новая зямля», выдадзеная ў Вільні ў 1928 годзе і іншыя старыя выданні.

## 2

Генерал-лейтэнант інжынерных войск Яўген Леашэня (1900–1981) з Альбярціна (цяпер мікрараён Слоніма. — *С. Ч.*) вельмі любіў і цаніў беларускую мову, культуру і гісторыю сваёй Айчыны. Прыкладам гэтага можа служыць яго знаёмства з многімі беларускімі дзеячамі літаратуры і мастацтва. Асабліва шчырым было яго знаёмства і сяброўства з Якубам Коласам.

Імя Якуба Коласа Яўген Леашэня пачуў яшчэ тады, калі вучыўся ў Альбярцінскім (раней Альбярцін быў пасёлкам, а цяпер — мікрараён Слоніма. — *С. Ч.*) двухкласным вучылішчы (1912–1914), дзе выкладаў тады перадавы беларускі настаўнік Восіп Іванавіч Петрашкевіч. Ён знаёміў сваіх вучняў з творамі Янкі Купалы, Францішка Багушэвіча, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча. Гутаркі аб беларускай літаратуры Восіп Петрашкевіч праводзіў не ў класе, а ў школьным садзе, або падчас экскурсіі ў лесе, на берагах ракі Шчара і Альбярцінскага возера.

У пачатку лістапада 1942 года ў Ташкенце, у доме Савецкай Арміі адбыўся ўрачысты сход, прысвечаны 60-годдзю з дня нараджэння народнага паэта Беларусі Якуба Коласа. У прэзідыуме сходу сядзелі прадстаўнікі Вярхоўнага Савета і члены ўрада БССР. У цэнтры сядзеў сам юбіляр. Ён быў вельмі ўсхваляваны: не чакаў, што ў такі цяжкі для краіны час яго будуць віншаваць.

Ад імя арміі, Ваеннай акадэміі і франтавікоў юбіляра вітаў Яўген Леашэня. У перапынку Якуб Колас падышоў да Яўгена Варфаламеевіча, паціснуў руку і падзякаваў за цёплыя словы. У лютым 1943 года адбыўся чарговы выпуск Ваеннай акадэміі імя Фрунзе, і Яўген Леашэня запрасіў Якуба Коласа на ўрачыстасць.

У красавіку 1943 года Ваенная акадэмія імя Фрунзе, дзе Леашэня працаваў начальнікам кафедры інжынерных войск, вярталася ў Маскву. Слонімец пакідаў Ташкент. Цёплым вясновым надвячоркам 15 красавіка Яўген Варфаламеевіч развітаўся з Якубам Коласам.

У 1944 годзе Леашэня зноў накіраваўся на фронт. Пачаў ліставацца з Якубам Коласам, расказваў пра вызваленую заходнюю частку Беларусі, пра сустрэчу з маці.

Толькі ў 1954 годзе Яўген Леашэня вярнуўся ў Маскву. Зноў пачаў працаваць, аднавілася і перапіска з Якубам Коласам.

Неўзабаве нашага земляка перавялі працаваць за мяжу, і ліставанне з Якубам Коласам перапынілася. Толькі з газет даведаўся ён аб смерці беларускага песняра. Засталіся на ўсё жыццё цёплыя ўспаміны пра сустрэчы і кніжка вершаў «Голас зямлі», выдадзеная Дзяржаўным выдавецтвам Узбекістана да 60-годдзя паэта, з аўтографам: «На ўспамін земляку — палкоўніку Леашэню. Якуб Колас. Ташкент, 1942 г.».

У снежні 1981 года не стала і генерал-лейтэнанта Я. В. Леашэні — удзельніка трох войнаў (грамадзянскай, Вялікай Айчыннай і вайны з Японіяй), які быў узнагароджаны ордэнамі Леніна, Чырвонага Сцяга, Айчыннай вайны, Кутузава, Багдана Хмяльніцкага.

У 1984 годзе вуліца, якая вядзе са Слоніма на мікрараён Альбярцін, была названа яго імем. А значна раней з’явілася ў Слоніме і вуліца Якуба Коласа.

## 3

Амаль усе паэты Слонімшчыны прысвячалі свае паэтычныя радкі Якубу Коласу. Першым, хто напісаў верш пра песняра, быў паэт Гальяш Леўчык (1880–1943). Верш увайшоў у яго першы зборнік «Чыжык беларускі» (Вільня, 1912):

Не бачыў цябе я ніколі,
Як «Песні» твае прачытаў —
Здаецца, што ў горкай нядолі
Душой ты мне братняю стаў!
Нас гора адно прыціскае
У сумнай і цяжкай жальбе,
Няўмольна жаль горкі з’ядае
Абодвух — мяне і цябе…
Абодва мы — дзеці нядолі,
Век сумна, гаротна бяжыць.

І ў хаце, і ў лесе, і ў полі
Нам жальба на сэрцы ляжыць…

Вершы Якубу Коласу прысвячалі слонімскія літаратары Алег Лойка, Мікола Арочка, Анатоль Іверс, Іван Чыгрын. Псеўданімы класіка нашай літаратуры даследаваў Янка Саламевіч (Слоўнік беларускіх псеўданімаў. Мінск, 1983), пераклады Якуба Коласа на нямецкую мову — Уладзімір Сакалоўскі (кнігі «Пара станаўлення» (Мінск, 1986), «Беларуская літаратура ў ГДР» (Мінск, 1988)). У 1991 годзе Іван Чыгрын выдаў дыхтоўную манаграфію «Рэальнае і магчымае: проза Якуба Коласа». Манаграфія прысвечана праблеме мастацкай эвалюцыі творчасці Якуба Коласа. У ёй аўтар даследуе шляхі эпічнага станаўлення таленту пісьменніка ў жанры рэалістычнага апавядання, філасофска-алегарычнай прозы, у жанры рамана. Як сцвярджаў Іван Чыгрын (1931–2006), у адрозненне ад мастацкага лёсу іншых беларускіх празаікаў 20–30-х гадоў ХХ стагоддзя, творчасць Якуба Коласа доўжылася не адно дзесяцігоддзе, і, здавалася б, такі магутны талент, як яго, мог адзін акумуляваць шмат якія аспекты мастацкага вопыту, назапашанага сусветнай практыкай. У нейкім сэнсе так яно і здарылася. Але акумуляцыя падобнай шматстайнасці складанага літаратурнага працэсу ў практыцы аднаго творцы з пэўнай доляй паўнаты не пад сілу нікому. На ўвазе павінен жа мецца і адпаведны ўзровень мастацкага асэнсавання. Якуб Колас, як сцвярджае аўтар, належным чынам сцвердзіў сябе галоўным чынам у жанры рэалістычнага ды алегарычнага апавядання, ушчыльную падышоўшы да сцвярджэння жанру рамана, тым самым абазначыўшы ідэю неадольнасці жанравага руху прозы ў літаратуры, якая імкнулася стаць сапраўдным мастацтвам. Сучасную прозу без рамана ўявіць немагчыма. І заслугі Якуба Коласа перад беларускай літаратурай тут бясспрэчныя.

Доктар філалагічных навук Алег Лойка пісаў: «Якуб Колас — у сваёй геніяльнай простасці, беларускасці — адзіны, непаўторны. Простае ў Якуба Коласа — мудрае, не мудрагелістае, не экстазнае. У ім, як даўно ўжо было заўважана А. Адамовічам, усе колеры вясёлкі, — дзённае святло, само бясколернае, ды з колераў, з сямістужкавага спектру. І ў выніку ўвідочніць коласаўскую прастату, народнасць, паэтычнасць сапраўды не проста. Няпростая прастата — гэта, відаць, у красе, у літаратуры найвышэйшае і, можа, якраз найвышэйшай пробы элітарнае, паэтычнае» (Алег Лойка. Галгофа. Слонім, 2001. С. 150–151). Менавіта Алег Лойка ў 1961 годзе выдаў манаграфію «Новая зямля» Якуба Коласа: вытокі, веліч, харасство», у якой усебакова даследаваў паэму «Новая зямля» — «своеасаблівы гімн сялянству, песню ўслаўлення селяніна».

У сваёй двухтомнай «Гісторыі беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд» (Мінск, 1989) Алег Лойка таксама звяртаецца да аналізу жыццёвага і творчага шляху Якуба Коласа. Пісьменнік адзначае, што «дарэвалюцыйная (маецца на ўвазе да 1917 года. — *С. Ч.*) творчасць паэта — пляцоўка ўздыму Я. Коласа-мастака, такі этап у яго ідэйна-творчай эвалюцыі, без якога ідэя жыцця Коласа, канцэптуальнасць яго творчасці

ў цэлым, якімі яны бачацца сёння, не маглі б сфарміравацца. Дарэвалюцыйная творчасць яго — важнейшы этап станаўлення Якуба Коласа-мастака, вылучэнне асобнай коласаўскай эстэтычнай канцэпцыі жыцця і чалавека». Алег Лойка пісаў, што Якуб Колас як мастак, як філосаф канчаткова і шырэй сцвердзіў сябе ўжо ў савецкі час. У сваёй творчай эвалюцыі, на думку Лойкі, сімпатыі з селяніна Якуб Колас пашыраў на чалавека ўвогуле. У кожным чалавеку ён імкнуўся знайсці добрае, светлае. У трылогіі «На ростанях» Якуб Колас паказаў сімпатычнага айца Уладзіміра, які падчас споведзі Лабановіча замест Бібліі кладзе яго руку на том Пушкіна. І жандар у Якуба Коласа — не абавязкова свіное рыла, а чалавек, які спачувае Лабановічу, які адчувае сябе няёмка, мусячы выконваць абавязкі наглядчыка над гэтым маладым сумленным настаўнікам. Ні кроплі схематычнага, вульгарызатарскага разумення чалавека, людзей розных саслоўяў! А калі і паказваў Колас абывацельства, то з чалавечым шкадаваннем, з усмешкаю, са шчымлівай насмешкай, як гэта, напрыклад, можна назіраць у вобразе Тараса Іванавіча Шырокага ў трылогіі, або пана Зыгмуся ў апавяданні «Хатка над балотцам». З народных глыбінь браў пачатак гуманізм Якуба Коласа, глыбока народная маральная аснова была ў яго. Вера ў чалавека, любоў і павага да яго, непрыманне ўсяго, што робіць людзей нечалавечнымі, — вось што стала зыходным і асноўным у мастацкай канцэпцыі Якуба Коласа.

# ГІСТОРЫЯ СЛОНІМСКАГА НАРОДНАГА ТЭАТРА

Слонімскі народны тэатр — з’ява неардынарная, на мой погляд, — і па яго знітаванасці з гісторыяй Слонімшчыны, і па ўстойлівасці ўплыву на культуру прынёманскага краю, і па тым, што гэты самадзейны і творчы тэатр мае сваю цікавую гісторыю.

Яшчэ ў развалінах ляжаў старажытны Слонім пасля Другой сусветнай вайны, калі ў адзін з лістападаўскіх дзён 1948 года афішы паведамілі аб першым спектаклі толькі што створанага пры раённым Доме культуры тэатральнага калектыву. Кіраўніком калектыву быў тады дэмабілізаваны з арміі 27-гадовы франтавік Аляксандр Бялоў (1921–1985). У Слоніме Аляксандр Бялоў жыў да 1956 года. А пасля пераехаў у Мінск і працаваў акцёрам у Дзяржаўным рускім драматычным тэатры Беларусі. У 1977 годзе яму прысвоілі званне заслужанага артыста Беларусі. Як удзельнік Слонімскага драматычнага гуртка ў 1951 годзе ён быў адзначаны на Рэспубліканскім аглядзе сельскай самадзейнасці за выкананне роляў Курачкіна ў спектаклі «Вяселле з пасагам» па п’есе М. Дзяканава і Швандзі ў спектаклі «Любоў Яравая» па п’есе К. Транёва.

Але вернемся ў лістапад 1948 года, калі афішы ў Слоніме запрашалі на прэм’еру спектакля «Шляхі-дарогі» па п’есе А. Фёдарава. У тым жа годзе ў Слонім прыехаў вопытны рэжысёр Міхаіл Фрыдман (1894–1975),

які скончыў маскоўскую тэатральную студыю «Свабоднае мастацтва» ў 1928 годзе і вандраваў з яўрэйскай акцёрскай трупай па Украіне і Беларусі. Менавіта Міхаіл Фрыдман узначаліў тэатральны калектыў Слонімскага РДК, а Аляксандр Бялоў быў кіраўніком танцавальнага гуртка. Вопытны рэжысёр сур'ёзна працаваў над першым спектаклем, хоць яму было цяжка — не хапала дэкарацый, касцюмаў. Выручала толькі адно: для ўсіх патрэбны былі толькі вайсковыя мундзіры. А іх дастаткова пакінула вайна.

Тады, у 1948 годзе, драмгурток атрымаў ад слонімцаў першыя апладысменты. Спектакль меў поспех. Яго паказвалі 32 разы. Ён і замацаваў веру артыстаў і рэжысёра ў свае сілы. Пачалася сур'ёзная, мэтанакіраваная работа на сцэне, якая не спынялася дзесяцігоддзямі. Колькі пакут творчасці, памылак і расчараванняў пераносіў кожны артыст, пакуль іх гульня рабілася сапраўднай, пакуль кожны самастойна выходзіў на сцежку ўпэўненасці. Але рос талент артыстаў. Ён мацнеў на рэпетыцыях, раскрываўся ва ўсёй сваёй сіле на сцэне і гастролях.

У Слоніме Міхал Фрыдман ажыццявіў пастаноўкі дзясяткі спектакляў, сярод іх былі і лепшыя — «Перабежчык» А. і П. Тураў, «Сын» К. Турава, «Я хачу дамоў» А. Тур, «Выгнанне блудніцы» І. Шамякіна, «Вяселле з пасагам» М. Дзяканава, «Любоў Яравая» К. Транёва, «У добры час» В. Розава, «Кухарка замужам» А. Сафронава, «Жаніцьба Бялугіна» А. Астроўскага, «Апошнія» М. Горкага, «Нячыстая сіла» Г. Стафанскага, «У бэзавым садзе» Ц. Саладара.

У пачатку лютага 1964 года спектакль «Апошнія» па п'есе Максіма Горкага слонімскія артысты прывезлі ў Мінск. Прэм'ера адбылася ў сталіцы ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача. Паглядзець спектакль прыйшлі старэйшыя майстры беларускай сцэны — Ларыса Александроўская, Канстанцін Саннікаў, Вера Пола, Сцяпан Бірыла і іншыя. Зала тэатра была перапоўнена. У пачатку спектакля перад гледачамі выступіла народная артыстка СССР Ларыса Александроўская, якая шчыра павітала артыстаў са Слоніма, а таксама сказала, што ў спектаклі ролю Соф'і іграе народная артыстка Беларусі Вольга Галіна.

Спектакль сталічным гледачам спадабаўся. Пра гэту падзею напісалі амаль усе беларускія газеты. Пастаноўка таксама была паказана Мінскай студыяй тэлебачання. Тэатральны крытык Арсень Лабовіч у газеце «Знамя юности» 27 лютага 1964 года пісаў: «Достижение единства художественного стиля является подтверждением высокого режиссёрского мастерства постановщика, руководителя Слонимского народного театра М. И. Фридмана. Все исполнители объединяют свои усилия вокруг главной идеи спектакля — раскрыть перед зрителем бесперспективность общественных отношений, где человек человеку волк. В этом — современность и актуальность постановки. Исполнители понимают, чувствуют свои задачи, ощущают эпоху. Это хорошо. Вместе с тем эти индивидуальные цели не всегда сливаются в общую сверхзадачу спектакля, в отдельных сценах не хватает чувства ансамбля. Правда, исключительно большую помощь в этом смысле оказала коллективу Ольга Владимировна Галина. Своей

великолепной игрой она не только обогатила коллектив сценическим опытом, — её исполнение как бы сцементировало творческие усилия остальных исполнителей вокруг образа Софьи».

За спектакль «Апошнія» калектыў Слонімскага народнага тэатра і яго рэжысёр Міхаіл Фрыдман, а таксама артыстка Вольга Галіна атрымалі падзяку ад Міністэрства культуры БССР.

Добра быў падрыхтаваны і меў поспех спектакль у пастаноўцы Міхала Фрыдмана «Глыбокая плынь» па п'есе Івана Шамякіна. П'еса расказвала пра гераічную барацьбу беларускіх партызан у гады Другой сусветнай вайны. Спектакль у канцы 1950-х — пачатку 1960-х гадоў выклікаў гарачыя пачуцці гледачоў. Многія ўдзельнікі вайны, калі глядзелі гэтую сцэнічную пастаноўку, плакалі, міжволі перакідваліся думкамі ў гады вайны і зноў перажывалі за сцэнічных герояў, як за сваіх сяброў.

У 1961 годзе Міхаіл Фрыдман паставіў спектакль «Кухарка» па п'есе А. Сафронава. Працягам гэтай камедыі праз год стаў спектакль «Кухарка замужам». Як з добрымі знаёмымі гледачы сустрэліся з кубанскімі калгаснікамі Паўлінай і Сцяпанам Казанцамі, Галінай Чайкай, Андрэем Пчолкам і іх сябрамі. Хаця ў новым спектаклі былі тыя ж лірычныя канфлікты, аднак многае змянілася. Цяпер ужо Паўліна і Галя адчувалі сваю жаночую перавагу над мужамі. Узнікалі новыя непаразуменні. Але па-ранейшаму ў зале не сціхаў смех. У спектаклі было шмат гумару, рэжысёрскай фантазіі, імправізацыі акцёраў.

У 1968 годзе Слонімскі народны тэатр узначаліў Мікалай Варвашэвіч (1934–2001). Гэты чалавек аддаў усе свае сілы, веды, натхненне і жыццё тэатру ў Слоніме. Пры ім народны тэатр у горадзе над Шчарай стаў неад'емнай часткай культурнага жыцця Слонімшчыны. У рэпертуары тэатра сталі з'яўляцца п'есы класікаў беларускай і рускай драматургіі: А. Астроўскага, М. Горкага, Б. Лаўранёва, К. Транёва, В. Розава, Я. Купалы, У. Галубка, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Крапівы, А. Макаёнка і г. д. Гэта былі гады вялікай працы і пошукаў, адкрыццяў і знаходак. Вышэйшай узнагародай творчаму калектыву былі пастаянная цікавасць да тэатра і павага гледачоў. Слонімскі тэатр сталі ведаць ва ўсіх гарадах і пасёлках Беларусі. Але, як казаў сам Мікалай Варвашэвіч, творчы арганізм не можа стаяць на месцы. Таму творчы неспакой, нястомныя пошукі, імкненне ісці да вяршынь тэатральнага мастацтва — вось тое, чым жыў народны тэатр пад кіраўніцтвам Мікалая Варвашэвіча.

Ад спектакля да спектакля расло прафесійнае майстэрства слонімскіх акцёраў, больш выразна акрэсліваўся вобраз тэатра. З'яўляліся новыя імёны ў тэатры, звычайна маладых людзей, якіх прыцягвала ў тэатр жаданне далучыцца да мастацтва, выказаць са сцэны ўласныя ідэалы, уяўленні аб жыцці і яго каштоўнасцях. Працуючы над новымі сцэнічнымі вобразамі, маладыя артысты звяралі свае пачуцці і думкі з унутраным светам сваіх герояў, духоўна ўзбагачаліся. Ядром калектыву народнага тэатра шмат гадоў складалі людзі, для якіх захапленне тэатрам стала другой прафесіяй. Гэта былі Кацярына Палішчук, Лілія Літвіненка, Еўдакія Ануфрынюк,

Рыма Міско, Віктар Шчарбакоў, Анатоль Лаўрашчук, Людміла Клімовіч, Святлана Варвашэвіч, Віктар Піменаў, Анатоль Цярэнін, Іван Андрыеўскі, Аляксандр Ражкоў, Аркадзь Будзіловіч, Людміла Завадская, Феафанія Ракевіч, Ларыса Фірсава, Мікалай Федзюкоў, Ніна Жукоўская, Віктар Касікоўскі, Уладзімір Гардзіеўскі, Ніна Куршук, Андрэй Каханоўскі, Марыя Гурская, Таццяна Натарава, Людміла Грынчык, Пятро Струкаў і дзясяткі, нават сотні іншых аматараў сцэнічнага мастацтва.

У 1972 годзе Мікалай Варвашэвіч ставіць спектакль «Ганка» па п’есе Уладзіслава Галубка. Цікавасць да драматургіі Галубка ў Варвашэвіча была заўсёды. Ён любіў творы гэтага драматурга і з радасцю іх ставіў. Удалася яму тады і «Ганка». Спектакль кранаў адчуваннем эпохі, нацыянальнай своеасаблівасцю, мілагучнай, суладнай агульнаму настрою музыкай. Многія акцёры стварылі жывыя, запамінальныя вобразы. Але ў рэспубліканскай прэсе былі і заўвагі па некаторых выкананых ролях. Пісьменніца Вольга Іпатава ў «Літаратуры і мастацтва» пісала тады, што Ганка артысткі Святланы Варвашэвіч атрымалася зусім не пакорлівай, ціхай, схаванай і маўклівай дзяўчынай. А Ганка магла б стаць сапраўднай гераіняй спектакля, каб не была такой няроўнай. Святлана Варвашэвіч час ад часу, нібы перадумаўшы, рабіла Ганку слабай, разгубленай, палахлівай. І гэта неяк перашкаджала і самой выканаўцы «жыць у вобразе». А артыст Анатоль Цярэнін, які выконваў ролю Васіля, па словах пісьменніцы, свайго героя маляваў пераважна знешнімі прыёмамі, не пераЖыўшы да канца, не «перахварэўшы» ім.

У цэлым уражанне ад спектакля «Ганка» засталося ў беларускіх гледачоў вельмі добрае. На дэкадзе самадзейнага тэатральнага мастацтва ў Мінску ў красавіку 1973 года прафесар Уладзімір Няфёд сказаў: «Спектакль «Ганка» мне спадабаўся. Перададзена адчуванне эпохі. Ёсць жывыя вобразы, якія прымушаюць гледача хваляваецца. Як пажаданне на далейшае: хацелася б, каб была большая ансамблевасць у спектаклі, у ігры акцёраў» («Літаратура і мастацтва», 30.03.1973). Спектакль «Ганка» на дэкадзе быў удастоены дыплома першай ступені.

Слонімскую «Ганку» два разы паказвалі па тэлебачанню. Беларускі эміграцыйны часопіс «Баявая Ўскалось» (1972, № 12), які выходзіў у Канадзе, змясціў здымак «Ганкі» і тэкст да яго: «Артыстка Слонімскага народнага тэатра Святлана Варвашэвіч у ролі Ганкі з драмы «Ганка», напісанай у 1912 годзе беларускім драматургам Уладзіславам Галубком. Рэжысёр — М. Варвашэвіч. Музыка мясцовага кампазітара М. Гарабца».

У 1973 годзе ў Беларусі працавалі 49 народных тэатраў. Слонімскі народны тэатр займаў першае месца па колькасці выступленняў. І яго артысты працавалі не дзеля прыгожых справаздач ці ганарлівага самавыяўлення, а з глыбокім перакананнем, што задача мастацтва — гэта служэнне людзям, паўсядзённае, абавязковае і бескарыслівае.

Ад беларускай класікі рэжысёр Мікалай Варвашэвіч пераходзіць да рускай і ставіць у народным тэатры п’есу Максіма Горкага «Васа Жалязнова». Ролю галоўнай гераіні Васы Жалязновай выконвала артыст-

ка тэатра Кацярына Палішчук. Яна стварыла вобраз знешне валявой прадстаўніцы тагачаснага капіталістычнага свету, але разам з тым з унутранымі трывогамі. Для артысткі гэта была класічная роля, з багатай тэатральнай гісторыяй. І ўсё ж артыстка імкнулася даць сваё разуменне гераіні. Дзелавітасць, жорсткасць, настойлівасць Васы артыстка не толькі зразумела, а адчула іх. Горш атрымлівалася з яе любоўю да дзяцей. Васа артыстцы Палішчук не атрымалася пяшчотнай і любячай маці, ёй не хапала шчырасці. І, наогул, чалавечая натура, справа складаная, асабліва такая самабытная, як гераіня Горкага. Скупа і не без барацьбы адкрыла яна артыстцы Кацярыне Палішчук таямніцы сваёй душы.

У той 1974 год Юрый Сохар і Рычард Смольскі былі яшчэ маладымі драматургамі. Гэта цяпер Юрый Сохар — вядомы тэатразнавец, кандыдат мастацтвазнаўства, аўтар шматлікіх кніг па тэатру, а Рычард Смольскі — яшчэ больш знаная асоба ў тэатральных колах. Ён з’яўляецца доктарам мастацтвазнаўства, прафесарам. Іх сябра Мікалай Варвашэвіч у Слонімскім народным тэатры ставіць спектакль «Разбег» па п’есе Сохара і Смольскага. Зразумела, твор, які драматургі паказалі рэжысёру, быў не пазбаўлены недахопаў. Рэжысёр плённа папрацаваў з аўтарамі над сцэнічным увасабленнем п’есы. Гэта была добрая практычная вучоба і для маладых драматургаў, і для пастаноўшчыка спектакля.

Падзеі ў спектаклі, як і ў п’есе, адбываліся ў 1924 годзе. Яны былі прысвечаны нараджэнню камсамольскіх арганізацый на Беларусі. Спектакль «на поўны рост» паказваў вобразы маладых барацьбітоў за ўладу народа. Такія спектаклі, як і кінафільмы, ў той час былі вельмі папулярнымі. Таму рэжысёр дужа стараўся, ён спалучыў тонкі псіхалагізм характараў з публіцыстычнасцю агульнага рашэння спектакля. Гэтаму ў немалой ступені садзейнічаў і высокі выканаўчы ўзровень артыстаў народнага тэатра. А яшчэ поспеху спектакля ў многім паспрыяла лаканічнае, але вельмі ёмістае афармленне, над якім працаваў мастак Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Барыс Герлаван. Гэта быў яшчэ адзін прыклад (пасля народнай артысткі Беларусі Вольгі Галіны) плённага творчага супрацоўніцтва мастака-прафесіянала з народным тэатрам. Удала выкарыстаў рэжысёр у спектаклі аркестр народных інструментаў пад кіраўніцтвам Марата Малікава. А музыка, напісаная мясцовым кампазітарам-аматарам Міхасём Гарабцом, арганічна злівалася з мастацкім дзеяннем спектакля.

Вясёлым адкрыццём для слонімскіх гледачоў і для тэатра была камедыя Мікалая Віннікава «Ілюшка смяецца», якую ў 1974 годзе паставіў Мікалай Варвашэвіч. У спектаклі ўдала вылучаліся сур’ёзныя праблемы нашага жыцця — гэта роля сям’і ў выхаванні падрастаючага пакалення, абавязак чалавека перад грамадствам, яго адносіны да маральна-эстэтычных каштоўнасцей і іншае. Ды і сюжэт спектакля вельмі просты. У сям’і рабочага Сямёна Каліціна яго старэйшая дачка Аляксандра, якая была артысткай абласной філармоніі, нарадзіла і пакінула ў радзільным доме немаўлятка. Малодшая сястра — сямнаццацігадовая Галіна, атрымаўшы

гарачае адабрэнне старой нянькі бабы Мані, забрала хлопчыка дамоў. Яны ўзяліся даглядаць нованароджанага, як члена іх сям'і. Вакол усяго гэтага і адбываліся на сцэне вясёлыя прыгоды.

Да 30-годдзя Перамогі савецкага народа ў Другой сусветнай вайне, Мікалай Варвашэвіч на сцэне Слонімскага народнага тэатра ставіць спектакль «Людзі і д'яблы» па п'есе Кандрата Крапівы. П'еса драматурга, як і сам спектакль, адлюстроўвала падзеі першых дзён вайны 1941–1942 гадоў. У цэнтры падзей, якія адбываліся на сцэне, былі яркія фігуры савецкіх падпольшчыкаў і не менш каларытныя вобразы ворагаў. Таму акцёры прыклалі ўвесь свой вопыт і талент, каб дакладна перадаць той працэс гераічнай барацьбы. Тэатральны крытык Юрый Сохар у рэцэнзіі на спектакль пісаў: «Падпольную работу ў драме К. Крапівы ўзначальвае камуніст Рунец (Віктар Шчарбакоў), адзіныя з ім яго памочнікі: «Цётка» (Рыма Халмагорава), «Страказа» (Наталля Краснаруцкая) і салдат Кузьмін (Анатоль Цярэнін). Акцёр Віктар Шчарбакоў паказвае свайго героя думаючым, з вялікім жыццёвым вопытам, які прайшоў суровую школу падпольнай барацьбы. Рунец — Шчарбакоў паслядоўны ў сваіх учынках і рашэннях. Ён верыць людзям, але вера гэтая не сляпая, а лагічна прадуманая і дакладна вызначаная. Акцёр стварыў цікавы вобраз партыйнага кіраўніка ва ўмовах падполля, для якога галоўным з'яўляецца калектыўны метад кіраўніцтва ў барацьбе. Не проста склаўся гераічны лёс «Салдата» Кузьміна. Акцёр Анатоль Цярэнін стварае вобраз смелага, дысцыплінаванага чалавека. Ён напоўніў характар героя лірычнасцю і пяшчотнасцю ў сцэнах сустрэч з Вікцяй (Ніна Куршук). Але яго лірычнасць нікольki не зменшыла мужнасці ў барацьбе з ворагамі» (Літаратура і мастацтва. 1975. 1 жніўня).

Са спектаклем «Людзі і д'яблы» слонімскія артысты аб'ездзілі многія вайсковыя часці Беларусі. У 1975 годзе тэатр быў узнагароджаны дыпломам Цэнтральнага Камітэта работнікаў культуры і Міністэрства культуры СССР. Гэтай узнагароды драматычны калектыў быў удастоены за актыўны ўдзел ва Усесаюзным грамадскім аглядзе культурна-шэфскай работы ва Узброеных Сілах Савецкага Саюза, прысвечаным 30-годдзю Перамогі ў Другой сусветнай вайне. А рэжысёр Мікалай Варвашэвіч атрымаў дыплом Цэнтральнага Камітэта прафсаюза работнікаў культуры СССР.

Наогул, Мікалай Варвашэвіч заўсёды быў і застаўся ў памяці тых, хто яго ведаў і хадзіў на яго сцэнічныя пастаноўкі, папулярызатарам беларускай драматургіі. У 1977 годзе ён упершыню звярнуўся да творчасці Андрэя Макаёнка і паставіў спектакль па п'есе драматурга «Таблетку пад язык». Гэта была не проста камедыя, а камедыя-рэпартаж, у якой адсутнічала паслядоўнае нарастанне падзей. У спектаклі ўзнімалася мноства пытанняў. Бадай, адно з галоўных, якое больш за ўсё хвалявала тады вёску, ды і цяпер таксама, — гэта міграцыя сельскай моладзі ў горад.

Галоўны герой спектакля быў старшыня калгаса «Маяк» Уладзімір Каравай (артыст В. Шчарбакоў). Гэты вопытны, «прабіўны», хітры, разумны чалавек, галоўны клопат якога — зямля і ўраджай.

Ва ўсіх трох дзеях камедыі — адзін звычайны рабочы дзень старшыні. Адзін дзень, які напоўнены камічнымі і драматычнымі сітуацыямі,

markdown
рознымі сутыкненнямі, умяшаннем у лёс вяскоўцаў. Адначасова — барацьбой з уласнай немаччу. У Каравая шмат спраў: да яго заходзяць людзі, прыязджае прадстаўнік міністэрства, наведваюць нарыхтоўшчыкі, звоняць тэлефоны. І старшыня ўнікае ва ўсё. Ён мог бы не разбірацца ў тым, што было і чаго не было паміж Іванам Шведам (артыст В. Салтусаў) і Тамарай Смятанкінай (артыстка С. Навумавец). Але ж душэўны спакой людзей важны для вытворчасці. Нарэшце, сельскай гаспадарцы патрэбны рабочыя рукі, і варта, разважае старшыня, сасватаць Івана з Тамарай. Але моладзь вёскі цягнецца ў горад. Аб гэтым нервова перажывае Каравай.

У сваіх маналогах студэнт-завочнік Юрка (артыст Ю. Крэтаў), які збіраецца ў горад, кажа: «Новы спосаб вытворчасці дыктуе заканамернасці і ў пераразмеркаванні вытворчых сіл грамадства. Вось корань міграцыі… Трэба круціць, вярцець мазгамі, а не трымаць за полы лішняга чалавека… Я ж не мяккае месца шукаю, а сваё. Каб ад мяне максімум карысці было…».

І старшыня гаспадаркі разумеў: ні ўгаворамі, ні пагрозамі людзей не стрымаць. Толькі павышэнне культуры вёскі падзейнічае на імкненне людзей.

Але і моладзь з горада ідзе ў вёску. Пасля вучобы вяртаецца ў калгас Васіль (артыст А. Цярэнін): «Работу мне дайце па душы! Каб душа гарэла! Каб душа кіпела! Каб ні ранкам, ні вечарам спакою не было, каб дух займала, каб дня не хапала, каб папрасіў суткі падоўжыць!». Вось з такім намерам ішоў тады ў вёску малады інжынер — герой п’есы Андрэя Макаёнка.

Быў у спектаклі, акрамя іншых дзеючых асоб, яшчэ адзін чалавек, які стаяў асабняком ад іншых персанажаў. Гэта — калгасны пенсіянер дзед Цыбулька. У ім адлюстроўвалася народная філасофія, ён адразу выклікаў сімпатыю ў гледачоў, яго жарты цёпла ўсімі ўспрымаліся. Гэта быў той камічны дзед, які існуе і ў класічнай драматургіі. Цыбулька як персанаж выдзяляўся сярод сваіх прататыпаў. У камедыі ён не толькі жартаваў, разважаў, а казаў патэтычныя маналогі. Ролю Цыбулькі добра выконваў артыст народнага тэатра Аляксандр Рыжкоў, якога ўсе слонімцы ведалі, паважалі і любілі.

У 1982 годзе на сцэне Слонімскага народнага тэатра адбыліся дзве яркія прэм’еры — «Навальніца будзе» па п’есе Алеся Звонака і «Гняздо глушака» па п’есе Віктара Розава. Спектаклі паставіў Мікалай Варвашэвіч.

Спектакль «Навальніца будзе» Алеся Звонака (п’есу драматург напісаў паводле трылогіі Якуба Коласа «На ростанях») пачынаўся проста і хвалююча: гасла святло і прамень высвечваў партрэт Якуба Коласа. Удумліва глядзелі на гледачоў вочы песняра і нібыта запрашалі на Палессе да Андрэя Лабановіча і Ядвісі. Ролю Лабановіча выконваў Анатоль Цярэнін, а Ядвісі — Таццяна Натарава.

Пра што расказваецца ў трылогіі «На ростанях» Якуба Коласа, бадай, няма патрэбы напамінаць. Са зместам гэтага класічнага твора беларускай літаратуры ўсе мы знаёмыя яшчэ са школы, бо трылогія — твор

хрэстаматыйны. Алесь Звонак, разумеючы, што багаты, шматгранны па свайму гучанню і сацыяльнаму напаўненню матэрыял коласаўскага твора немагчыма цалкам «уціснуць» у жорсткія рамкі сцэны, пайшоў па шляху найбольш рацыянальнага выкарыстання таго асноўнага, што складае змест трылогіі. Асноўнае ж гэта было — сюжэтная лінія, звязаная з Андрэем Лабановічам, лінія, што дазваляла поўна і ўсебакова прасачыць шлях у рэвалюцыю прадстаўніка беларускай народнай інтэлігенцыі. Гэты шлях няпросты, як няпросты і працэс станаўлення маладога вясковага настаўніка. Як ён адбываецца, як вучыцца Лабановіч разумець народ і як самі людзі пераконваюцца, што ён сапраўдны выражальнік іх інтарэсаў, мар і спадзяванняў, — менавіта гэта і паказваў спектакль у Слоніме.

Рэжысёр Мікалай Варвашэвіч, ён жа быў і мастаком спектакля, даваў магчымасць гледачам адчуць адметнасць, своеасаблівую непаўторнасць падзей, якія адбываліся ў пачатку XX стагоддзя на Палессі. Подых новага часу даносіўся і туды. Лабановіч, які прыехаў на Палессе настаўнічаць, не мог не бачыць, не мог не адчуваць, якія людзі знаходзяцца вакол яго, наколькі яны душэўна багатыя і шчырыя, хоць знешне падаюцца маўклівымі, зацятымі і панурымі.

Цікавая была сюжэтная лінія спектакля, звязаная з узаемаадносінамі Андрэя Лабановіча і Аксёна Каля (артыст Уладзімір Гардзіеўскі). Здавалася б, зусім розныя, непадобныя паміж сабой гэтыя людзі. З аднаго боку — настаўнік, які скончыў семінарыю, а з другога — звычайны паляшук, межы навакольнага свету якога абмежаваныя вёскай, балотам, лесам. Але ці такі ўжо просты Аксён Каль? Гледачы ўважліва сачылі за дыялогам, які адбываўся паміж Лабановічам і Калем, прыслухоўваліся да кожнага іх слова. Спачатку больш слухаўся настаўнік, але паступова ўся ўвага скіроўвалася на Аксёна. Прыгожы ён быў у момант таго свайго духоўнага азарэння, калі па сутнасці ўпершыню пачынаў адкрываць для сябе жыццё, пазнаваў яго таямніцы. Першыя літары выводзіў ён непаслухмянай рукой пад дыктоўку Лабановіча, а адчуванне такое было, што на паперу кладуцца не звычайныя літары, а нейкімі штрышкамі, рысамі пачынае вымалёўвацца тая вялікая дарога, што павядзе Аксёна Каля і яго сяброў-палешукоў да іншага жыцця.

Спектакль слонімцаў «Навальніца будзе» ў 1982 годзе быў прыкметнай з'явай у культурным жыцці Беларусі. На рэспубліканскім конкурсе народных тэатраў, прысвечаным 100-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, самадзейныя артысты за яго пастаноўку былі ўдастоены дыплома і атрымалі некалькіх прызоў.

Спектакль «Навальніца будзе» адняў у слонімскіх артыстаў шмат сіл, часу і, здавалася, можна было б зрабіць перапынак, засяродзіць увагу на простым драматургічным творы з цікавым сюжэтам. Але рэжысёр Варвашэвіч і яго калектыў зноў зрабіў крок наперад, крок да найбольш поўнага ўвасаблення на сцэне глыбокіх і няпростых, як само жыццё, характараў, да паказу матываў добрых і дрэнных учынкаў людзей у адвечнай барацьбе дабра са злом. П'еса, выбраная тэатрам на гэты раз, была

пабудавана на ўнутраным дзеянні, пазбаўлена знешняй авантурнасці, у ёй развіццё сюжэту было запаволена самім драматургічным матэрыялам. Такім творам стала п'еса «Гняздо глушака» Віктара Розава. І спектакль атрымаўся праўдзівы. А гледачы глядзелі яго з вялікім задавальненнем. Хаця былі ў пастаноўцы і недахопы. Гэта — несупадзенне кульмінацыйных момантаў спектакля з рэакцыяй глядзельнай залы, неакрэсленае музычнае афармленне, дэкларатыўнасць некаторых маналогаў і г. д.

Слонімцы заўсёды любілі тэатральныя пастаноўкі Мікалая Варвашэвіча, што і казаць! А глядзельныя залы заўсёды былі перапоўненыя. Аншлагамі запомніўся і спектакль «Прахадны бал» па п'есе Уладзіміра Канстанцінава і Барыса Рацэра. Праз гумар і сатыру, часам прамалінейную, характэрную аўтарам п'есы «Прахадны бал», дзякуючы цікавым акцёрскім знаходкам, сцэнічнай культуры, адчуванню рэжысёрам і акцёрамі камедыйнага жанру, у спектаклі ўздымаліся важныя сацыяльныя, маральныя і псіхалагічныя праблемы, звязаныя з адказнасцю за лёс падлетка, за яго будучыню як асобы, як грамадзяніна. Пераканаўчыя і арганічныя ў вырашэнні сваіх герояў былі на сцэне артысты-ветэраны тэатра — Л. Літвіненка, А. Лаўрашчук, К. Палішчук, В. Шчарбакоў і іншыя. У спектаклі вялікая роля была даручана моладзі. Маладыя выканаўцы апраўдалі давер свайго рэжысёра. Абыякавым і непасрэдным, добрым і іранічным паказаў свайго героя Сяргея Голубева артыст Пётр Струкаў. Шчырасць, праніклёнасць, зацікаўленасць былі характэрныя для Вольгі Ражко, якая выконвала ролю Полі, сяброўкі Сяргея. Змог унесці дадатковыя фарбы ў вобраз навучэнца прафтэхвучылішча Лёні артыст Ігар Падгарадзецкі…

Паведамленні па радыё і тэлебачанні ў 1984 годзе аб тым, што Слонімскі народны тэатр паставіў «Уладу цемры» Льва Талстога, здзіўлялі і ўражвалі. Такі факт зацікавіў па многіх прычынах. Пяціактовая п'еса класіка рускай літаратуры для сцэнічнага ўвасаблення нават на прафесійнай сцэне з'яўляецца досыць складанай. Гэта па-першае. І па-другое, здзіўляла ўсіх смеласць тэатра, які ўзяўся за такі складаны матэрыял. На пытанне, чаму рэжысёр узяўся за пастаноўку менавіта гэтай п'есы, Мікалай Варвашэвіч адказаў: «Работа над класічнымі творамі, асабліва над рускай класікай, лепшая школа акцёрскага майстэрства. Любы тэатральны калектыў павінен час ад часу звяртацца да класікі для таго, каб праверыць, на што ён здатны, што здолеў назапасіць за мінулыя гады. Іншым разам у пагоні за злабадзённасцю, адлюстраваннем дня сённяшняга, мы свядома пазбаўляем сябе магчымасці працаваць з першакласным літаратурным матэрыялам. Пры выбары п'есы для пастаноўкі рэжысёр не павінен забывацца і на вучэбна-выхаваўчыя задачы. А драма Талстога насычана выдатнымі, сакавітымі вобразамі — Матроны, Мікіты, Аніссі, Акіма, Мітрыча і іншымі. У п'есе ёсць таксама некаторыя моманты, сугучныя нашаму часу. У ёй узняты праблемы, якія не вырашаны і сёння: праблема сэнсу жыцця, сумлення, злачынства і пакарання, праблема ўзаемаадносін бацькоў і дзяцей, і галоўнае — праблема бездухоўнасці існавання. Бо бездухоўнасць і ёсць сінонім той «цемры», у якую паступова апускаюцца

многія героі п’есы. Але тэатру хацелася паказаць не толькі «ўладу цемры», але і багацце душы рускага народа, яго спрадвечнае імкненне да святла, яго барацьбу супраць гэтага зла. «Душа ж патрэбная!» — гаворыць Мікіту яго бацька. Акім, адзін з тых герояў п’есы, якія з’яўляюцца промнем святла ў гэтым цёмным царстве. Нам здавалася, што нельга вялікую нацыю паказваць толькі з адмоўнага боку. У працэсе рэпетыцый мы імкнуліся да таго, каб героі спектакля былі не проста цёмнымі людзьмі, каб іх вобразы не былі адназначнымі, намаляванымі адной толькі чорнай фарбай. Яшчэ К. С. Станіслаўскі казаў пра тое, што, калі ты іграеш адмоўнага героя, шукай у ім станоўчае. Героі п’есы не нарадзіліся злачынцамі. Такімі іх шмат у чым зрабілі абставіны, акалічнасці, увесь уклад жыцця, улада грошай. У Матроны, маці Мікіты, добрыя, здавалася б, намеры: яна хоча забяспечыць свайму сыну заможнае жыццё. «Гаспадаром будзеш!» — кажа яна, падштурхоўваючы яго на злачынства. П’еса Талстога «абрасла» штампамі, трывала замацаваліся за ёй не лепшыя традыцыі. «Створым вобраз цемры!» — вырашалі многія рэжысёры і прыкладалі да гэтага ўсе намаганні. Тэатру хацелася паказаць, як, змагаючыся за ўласнае шчасце, за свой лёс, героі п’есы і спектакля не ацэньваюць належным чынам свае ўчынкі, не суадносяць іх з маральнай нормай. Народнаму тэатру гэтая п’еса блізкая па духу: у ёй дзейнічаюць не салонныя героі, а выхадцы з народнага асяроддзя, паказаныя на пераломе, у крытычныя моманты свайго лёсу. Нездарма рэпетыцыі спектакля доўжыліся амаль год. Сёння нельга прачытаць і ставіць п’есу так, як гэта рабілі сто ці пяцьдзясят гадоў назад. Трэба імкнуцца знайсці ў ёй тыя струны, якія і сёння гучаць свежа і сучасна. Тэатру хацелася, каб пасля спектакля глядач задумаўся: якія чалавечыя рысы, якасці, уласцівыя героям, яшчэ існуюць у наш час, каб глядач задумаўся над тым, як трэба жыць і што робіць чалавека чалавекам…» (Літаратура і мастацтва. 1984. 22 чэрв.).

Спектакль «Улада цемры» стаў сотай прэм’ерай народнага тэатра. І першы паказ гэтага спектакля адбыўся роўна праз дваццаць пяць гадоў пасля прысваення калектыву ганаровага звання «народны». Так што прэм’ера «Улады цемры» ў гісторыі тэатра была знамянальнай.

Акрамя рускай і беларускай класікі рэжысёр Мікалай Варвашэвіч не пакідаў без увагі і творчасць маладых беларускіх драматургаў. У 1987 годзе на сцэне народнага тэатра упершыню быў паказаны спектакль маладога драматурга з Віцебшчыны Уладзіміра Сауліча «Халімон камандуе парадам». Сюжэт п’есы быў просценькі. Жыхар вёскі Цельпухоўка Халімон Капытка, яго жонка Куліна на асабістым падворку выгадавалі самага вялікага ў вобласці парсюка. Абласное тэлебачанне, даведаўшыся аб гэтым, вырашыла распаўсюдзіць «цельпухоўскі» вопыт гадоўлі свіней. У вёску прыязджаюць карэспандэнты. Урэшце ж высвятляецца, што Халімонаў парсюк узгадаваны на хлебе і малацэ. Здымкі адмяняюцца…

Уладзімір Сауліч напісаў праўду. Так было ў савецкі час, калі свіней і кароў кармілі хлебам з крамы. Толькі крыўдна і балюча: як дайшлі да такога, што свінні засланілі людзей? Знакамітая рэпліка тэлеаператара Васі:

«Адступіцеся, парсюка засланілі!» — трапна характарызавала каманднаадміністрацыйны стыль тагачаснага кіраўніцтва народнай гаспадаркай.

П’еса і актуальнасць яе Мікалаю Варвашэвічу тады спадабаліся. Хаця камедыя мела і шэраг недахопаў. Гэта і сыход у некаторых месцах на стылістычную спрошчанасць мовы, і недастатковая кульмінацыйная насычанасць, і наіўнасць асобных эпізодаў, і слабая абумоўленасць развіцця ўзаемаадносін некаторых персанажаў. Але сацыяльна-псіхалагічная праблема, узнятая ў гэтай п’есе на той час, была надзвычай надзённая і вострая…

Спектаклем «Халімон камандуе парадам» і яшчэ некалькімі пастаноўкамі Слонімскі народны тэатр у 1987 годзе завяршыў свой 40-гадовы самадзейны тэатральны шлях. Праз народны тэатр у Слоніме прайшлі тысячы людзей. І дзякуючы ім, а таксама рэжысёрам Міхаілу Фрыдману і Мікалаю Варвашэвічу, Слонімскі народны тэатр у 1987 годзе набыў новы статут: ён стаў першым у Беларусі эксперыментальным тэатрам-студыяй на поўным гаспадарчым разліку. А ў 1990 годзе на базе тэатра-студыі быў створаны дзяржаўны Слонімскі беларускі драматычны тэатр (з 2005 года — драматычны тэатр).

# 2

## ГЕНЕРАЛ АД... КРАЯЗНАЎСТВА

Археолаг. Краязнавец. Гісторык. Філосаф. Вынаходнік. Заснавальнік аднаго са старэйшых у Беларусі Слонімскага раённага краязнаўчага музея. Гэта наш зямляк Язэп Стаброўскі, які заслугоўвае на зямлі слонімскай шчырай павагі і памяці. Памятаць жа пра тых, хто шмат добрага і карыснага зрабіў для сваіх людзей, сёння мы развучыліся. А Язэп Стаброўскі варты, каб пра яго ведалі нашчадкі, і ў першую чаргу яго землякі.

Язэп Стаброўскі нарадзіўся 2 лістапада 1870 года ў Слоніме. У сямейным альбоме, які захоўваецца ў дачкі Іосіфа Стаброўскага — Дзіляры Стаброўскай, ёсць цікавы і каштоўны здымак яго дзеда. Пад фатаграфіяй у альбоме напісана: «Вікенці сын Мацея Стаброўскі, рэгент земскі, гаспадар маёнтка «Кулікі». Памёр у 1868 годзе. Пахаваны ў пабудаванай за яго сродкі ўніяцкай царкве ў Мілавідах.

Бацька Язэпа Стаброўскага — Іосіф удзельнічаў у венгерскай, турэцкай і севастопальскай войнах. Штабс-капітан Мурамскага палка Іосіф Вікенцьевіч Стаброўскі быў паранены падчас бітвы пад Севастопалем і звольнены са службы па раненню ў 1859 годзе. Пахаваны ў вёсцы Орлавічы на Слонімшчыне.

Маці Язэпа Стаброўскага — Людвіка была родам з князёў Масальскіх. Памерла ў 1902 годзе, пахавана побач з мужам у Орлавічах. Дарэчы, бацька Людвікі Стаброўскай — Адольф Масальскі прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863 года. За гэта Мураўёў-вешальнік саслаў яго ў Нерчынскія руднікі. І родны брат маці — Карл Масальскі таксама ўдзельнічаў у гэтым паўстанні. Ён быў камандзірам аднаго з атрадаў Кастуся Каліноўскага.

У 1888 годзе Язэп Стаброўскі стаў курсантам Аляксандраўскага ваеннага вучылішча. Тут ён пазнаёміўся з будучым вядомым рускім пісьменнікам Аляксандрам Купрыным. Яны шчыра пасябравалі. А потым, калі Стаброўскі жыў на Слонімшчыне, доўга перапісваліся. Наш зямляк запрашаў яго ў госці ў вёску Орлавічы. Але, на жаль, Купрын на Слонімшчыне так і не пабываў. Адзначу, што Язэп Стаброўскі перапісваўся і з Львом Талстым. А ў час ганення Льва Талстога расійскім урадам ён напісаў яму шчырае пісьмо ў знак падтрымкі пісьменніка. У палку, дзе служыў Стаброўскі, гэтым учынкам былі ўсе здзіўлены.

У сваёй аўтабіяграфіі Язэп Стаброўскі пісаў: «У бытнасць на вайсковай службе ў 81 пяхотным Апшэронскім палку з 1891 да 1895 года загадваў палкавой швальняй. З'яўляўся палкавым інструктарам па сапёрнай справе. Па даручэнні шэфа Апшэронскага палка вялікага князя Георгія Міхайлавіча рабіў фатаграфічныя здымкі месц Дагестана, дзе Апшэронскі полк вёў баі з Шамілём, — для гісторыі палка. За гэтую працу атрымаў ад князя падарунак: гісторыю палка з уласнаручным подпісам. Пераведзены ў артылерыю з 1895 года. Шмат гадоў з'яўляўся справаводам, а пасля загадчыкам гаспадаркі батарэі і палка. Загадваў афіцэрскім сходам і бібліятэкай. З'яўляўся сябрам, а затым старшынёй брыгаднага суда і сябрам суда таварыства афіцэраў. Удзельнічаў у дзвюх палявых паездках 1910 года, якія мелі задачай рэкагнасцыроўку ўчасткаў рэк віслы і Варты з мэтай знішчэння крэпасцей Варшавы і Брэста, неабходнасць чаго пацвердзілася ў вайне 1914 года — абедзве гэтыя крэпасці былі здадзены без бою…».

Дзякуючы сваім здольнасцям Язэп Стаброўскі атрымаў магчымасць яшчэ закончыць Полацкі кадэцкі корпус, Маскоўскі археалагічны інстытут і Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце. Быў членам-карэспандэнтам Віленскага аддзялення Маскоўскага археалагічнага таварыства і сябрам Яраслаўскага археалагічнага таварыства.

Першую сусветную вайну Язэп Стаброўскі закончыў у чыне палкоўніка. Пасля кастрычніцкага перавароту ў Расіі служыў у Чырвонай Арміі. Але з цягам часу навуковыя інтарэсы ўзялі верх над прафесіянальна-ваеннымі, хоць Язэп Язэпавіч, да канца сваіх дзён не здымаў шыняля. А ў «Паслужным спісе» палкоўніка Я. Стаброўскага значыліся ордэны і знакі ўзнагарод: Св. Станіслава 2-й і 3-й ст., Св. Ганны 3-й ст., Св. Ганны 2-й ст. з мячамі, Св. Кн. Уладзіміра 4-й ст. і іншыя.

У 1921 годзе Язэп Стаброўскі вяртаецца на родную Слонімшчыну і ўсе свае сілы і веды аддае даследаванню роднага краю. Ён збірае ўсё, што, на яго погляд, уяўляла гістарычную каштоўнасць. У калекцыі Язэпа Стаброўскага былі такія экспанаты, якія маглі б упрыгожыць стэнды і залы найлепшых музеяў Еўропы: багатая калекцыя крамянёвых і каменных вырабаў часоў мезаліту і неаліту, галава старажытнаславянскага ідала, аўтографы Карамзіна, Дзяржавіна, Льва Талстога, два пісьмы Пушкіна да яго жонкі Наталлі Ганчаровай, гістарычныя рукапісы XVI–XII стагоддзяў і многія-многія іншыя рэчы. А што датычыць, напрыклад, каменнага ідала, дык пра яго Язэп Стаброўскі напісаў нават даследчы артыкул і змясціў у красавіцкім нумары часопіса «Беларусь» за 1946 год. Ён пісаў: «У ваколіцах Слоніма, на выгане, дзе ніколі не было ніякіх будынкаў, у 1934 годзе пракладвалі новую Альбярцінскую вуліцу. У час выкапкі катлавана пад будову фундамента для жыллёвага дома на глыбіні каля паўметра была знойдзена каменная галава, якая цяпер знаходзіцца ў Слонімскім гісторыка-краязнаўчым музеі.

Знойдзены аб'ект, высечаны з ракавістага вапняка, уяўляе сабою мужчынскую галаву з плоскім тварам, шырокім носам, без вусоў і з завостранай бародкай. Памеры яго невялікія — 46 см у вышыню, даўжыня 22 см, шырыня — 15 см. Шыя гэтай галавы мае выгляд кліна для ўстаноўкі

ў пні дрэў ці, можа, у спецыяльна выраблены каменны пастамент. Нельга меркаваць, што галава адбіта ад якой-небудзь статуі, бо няма ніякага злому, а клін выраблены вельмі выразна.

Параўнанне знойдзенай галавы з фігурамі святых у суседніх касцёлах сведчыць, што паміж імі няма ніякага падабенства. Іншыя веравызнанні, як праваслаўнае, масульманскае і яўрэйскае, зусім забараняюць ужыванне якіх бы то ні было фігур у мэтах рэлігійных. Такім чынам гэтая галава з'яўляецца помнікам дахрысціянскай пары…».

Нават сёння слонімцы сталага ўзросту расказваюць, што аднойчы, вяртаючыся дамоў, Стаброўскі стаў сведкам падзення метэарыта, які ўпаў непадалёку ад вёскі Азярніца. Пошукі працягваліся амаль паўстагоддзя, але метэарыт усё ж быў знойдзены і дастаўлены нашым земляком у музей.

Восенню 1924 года Язэп Стаброўскі арганізаваў у Слоніме выставу старадаўніх дакументаў і кніг, якія збіраў шмат гадоў. Выстава выклікала вялікую цікавасць у наведвальнікаў, асабліва сярод моладзі. Пасля яе закрыцца ўвесь сабраны археалагічны матэрыял і каштоўную калекцыю вырабаў каменнага веку Стаброўскі паклаў у аснову гісторыка-краязнаўчага музея, які расчыніў дзверы перад наведвальнікамі ў верасні 1929 года.

Сапраўдны росквіт музей Стаброўскага набыў у канцы 1939 года і на пачатку 1940-х гадоў. Жыхары горада і раёна ахвотна наведвалі музей. Дзякуючы нашаму гісторыку і краязнаўцу ён узбагаціўся дарагімі калекцыямі — мінералагічнай і палеанталагічнай, выставамі па гісторыі і рэлігіі, карцінамі, нумізматыкай, этнаграфічным матэрыялам. Усё складалася даволі добра, але раптам — вайна. У чэрвені 1941 года гаспадарамі ў Слоніме ўжо былі немцы. І ўсё ж 2 кастрычніка 1942 года на Паркавай вуліцы, 42 у старажытным горадзе над Шчарай музей зноў адчыніў свае дзверы. Давайце, напрыклад, паспрабуем уявіць гэты музей у кастрычніку 1943 года.

Як падае часопіс «Новы шлях» у нумары дзевятнаццатым за той жа год, у першай і другой залах была змешчана багатая калекцыя каменных прыладаў першабытнага чалавека эпохі неаліту на Слонімшчыне: каменныя малаткі, скрэблы, нажы, пілкі, свярдзёлкі, шылы, сякеры, наканечнікі стрэлаў. У асобных вітрынах месціліся калекцыі мінералаў і метэарытаў, пясчанікаў Юрскага перыяду са слядамі марскіх хваляў, якія сведчылі аб тым, што Слонімшчына была калісьці залітая вадою.

На сценах першых дзвюх залаў віселі карціны, якія адлюстроўвалі жыццё старажытных людзей ад незапомных часоў да навейшых. Былі ў экспазіцыі прадметы рэлігійных культаў розных народаў, напрыклад, «Свяшчэнны сікль» — срэбная манета 138 года нараджэння Хрыста і бронзавы знак з яго выявай, які служыў пропускам у катакомбы першых хрысціян.

У трэцяй зале — этнаграфічныя і гістарычныя экспанаты, многа рукапісных матэрыялаў, дакументаў з аўтографамі каралёў. Сярод іх — складзеныя па-беларуску і з «Пагоняй» на пячатках, з якіх найстарэйшы датуецца 1506 годам. Тут жа — папскія булы і аўтографы выдатнейшых

гістарычных асобаў, рэдкія кнігі: Статут Вялікага Княства Літоўскага, Энцыклапедыя часоў Пятра І, Вексельнае права Кацярыны ІІ ды іншыя. З ваенных экспанатаў захаваліся шлемы, панцыры, кальчугі XVI–XVII стагоддзяў, «гізарма» (сякач XIII–VIV стст.), крамянёвая стрэльба, гарматныя ядры, турэцкія барабаны-літаўры ад 1683 года. Асобная вітрына была прысвечана беларускаму першадрукару Францішку Скарыне. Сярод выданняў пра яго жыццё і дзейнасць — партрэт вялікага асветніка, выкананы слонімскай мастачкай Р. Бялецкай.

Быў у музеі і гістарычны партрэт беларускага дзяржаўнага мужа, слонімскага старосты Льва Сапегі. У экспазіцыі, яму прысвечанай, — шахматная дошка князя, віды яго палацаў у Дзярэчыне і Ружанах, Статут, рэдактарам якога быў сам Сапега. У гонар заслугі вялікага князя Слонім у 1591 годзе атрымаў магдэбургскае права і герб — залаты леў з каронай на сінім полі, які стаіць на задніх лапах, а ў пярэдняй трымае срэбную стралу з падвойным крыжам.

Далей у музеі Стабраўскага мы маглі б убачыць куток, прысвечаны Міхалу Агінскаму, вялікі партрэт, напісаны алеем, — «Кастусь Каліноўскі заклікае сялян да паўстання». Апошні — копія з арыгінала П. Сергіевіча, выкананая Р. Бялецкай. Другі вялікі партрэт — «Абаронцы Св. Тройца-Сергіевай Лаўры ў 1608 годзе», работы В. П. Верашчагіна. Была і карціна «Лірнік» мастака Якуба Кучара.

Не апошняе вартасці арыгінальныя вышыўкі жаночых блузак, мужчынскіх кашуляў, ручнікоў былі ахвяраваны музею мастаком Алесем Асіпчыкам. Ён вышываў нацыянальныя строі для Слонімскага гуртка пры Беларускім Народным доме, які існаваў пад акупацыяй. Быў у музеі пояс найдалікатнейшай работы, скіданы з афарбаванага ў розныя колеры конскага валосся. Яго аўтар — Міхал Галоўка, родам з Мацкалеўшчыны Слонімскага павета, які адсядзеў адзінаццаць гадоў у польскім астрозе, дзе, дарэчы, і вырабіў сваю цудоўную рэч.

Чацвёртая зала была прысвечана адраджэнню Беларусі. Упрыгожвалі экспазіцыю партрэты К. Каліноўскага, Ф. Багушэвіча, М. Багдановіча, маляваныя Р. Бялецкай, а таксама гістарычныя абразы В. Дуніна-Марцінкевіча і Цёткі, выкананыя слонімскай мастачкай Клаўдзіяй Хруцкай.

Пад знакам «Пагоні» ў прыгожай раме — Акт абвяшчэння незалежнасці 25 сакавіка 1918 года ў Менску, ніжэй, таксама ў прыгожай рамцы, — Беларускі нацыянальны гімн. Гэтыя дарагія рэліквіі дбайна аформлены былі мастаком Антонам Карніцкім. Тут жа фотаздымкі Ігната Грынявіцкага, Адама Гурыновіча, Івана Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага, групавы здымак пасяджэння Вялікай Беларускай Рады 15 кастрычніка 1917 года, на якім было вырашана склікаць Усебеларускі кангрэс, які потым быў разагнаны бальшавікамі.

Шмат чаго маглі б мы ўбачыць у Слонімскім музеі Стабраўскага ў ваеннае ліхалецце. Але вайна ёсць вайна, а акупанты заўсёды застаюцца акупантамі. Многае з музейнай маёмасці стала ахвярай грабежнікаў-фашыстаў і іх прыслужнікаў. Аднак Язэпу Стабраўскаму ўдалося частку

экспанатаў схаваць, хаця былі моманты, якія ледзь не каштавалі яму жыцця.

…Гітлераўскі афіцэр зайшоў у музей у той самы момант, калі Язэп Язэпавіч здымаў са сцяны адну з рэдкіх карцін Верашчагіна. Фашыст насмешліва тыцнуў пальцам у жывот сівому чалавеку і на дрэннай беларускай мове сказаў:

— Рус гэта не разумель… Верашчагін месца ў Дрэздан…

Стаброўскі паказаў фашысту фігуру з трох пальцаў…

Пасля гэтага толькі праз два дні Язэп Язэпавіч ачуняў. Цудам ён пазбегнуў смерці.

Другім прыкладам смеласці нашага земляка могуць служыць радкі з газеты «Советская Белоруссия» за 1944 год (№ 141): «Калі ў горад уварваліся гітлераўцы, перад Язэпам Іосіфавічам паўстала пытанне — што рабіць з экспанатамі? Варвары ж могуць знішчыць усё, чаму аддадзена столькі гадоў жыцця… Трэба схаваць экспанаты. Але куды? Закапаць у зямлю — сапсуюцца… І ўсё найбольш дарагое было схавана ў закрытыя шафы… Шафы Іосіф Іосіфавіч засунуў у далёкі кут пакоя і закідаў рыззём. Аднойчы ён выйшаў на гарадскую плошчу. У гэты час гітлераўцы прывезлі на грузавіках і скінулі на брук тысячы кніг. «Спаліць!», — загадаў камендант. Уначы, не адчуваючы стомы, Стаброўскі цягаў мяшкамі кнігі дадому. Тады яму ўдалося схаваць у надзейным месцы тысячы тамоў, якія пазней былі перададзены раённай бібліятэцы».

На жаль, большая палова каштоўных экспанатаў, якія сабраў Стаброўскі, да сёняшняга дня бясследна знікла са Слонімскага музея.

Пасля вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў Язэп Стаброўскі зноў пачаў збіраць калекцыі, прыводзіць у належны стан рукапісы, кнігі, фатаграфіі і займацца абсталяваннем музейных пакояў… І кожны, хто яго ведаў, здзіўляўся працаздольнасці і настойлівасці гэтага чалавека, якому ўжо тады ішоў восьмы дзясятак гадоў.

Язэп Стаброўскі быў не толькі выдатным археолагам і краязнаўцам, але і таленавітым гісторыкам і вынаходнікам. Ім даследавана больш за 150 курганоў на Гродзеншчыне, напісаны і надрукаваны дзясяткі артыкулаў па краязнаўству і гісторыі. Дарэчы, першы артыкул быў надрукаваны аж у 1899 годзе ў сакавіцкім нумары часопіса «Исторический вестник». Ён меў назву «К вопросу об ископаемых стеклянных шарах».

Спадаром Стаброўскім былі напісаны дзясяткі навуковых прац. Адны назвы гавораць самі за сябе. Гэта «Састаў і абсягі Сусвету», «Сутнасць жыцця і яго з'яўленне на Зямлі», «Праваслаўе, каталіцызм і унія. Іх узаемаадносіны на Слонімшчыне», «Каменны век (неаліт) на Слонімшчыне і ў суседніх рэгіёнах», «Норавы і звычаі ў Заходняй Беларусі ў XVI і XVII стагоддзях», «Сіметрыя і хараство ў прыродзе», «Крывавым следам», успаміны з вайны 1914 года, альбом з 300 здымкамі і мемуары і многія іншыя.

Што датычыць вынаходлівасці, то трэба адзначыць, што і яна была ў Стаброўскага. Асабліва знайшлі ў свой час прымяненне шрампель удасканаленага ўзору (зацверджаны ў 1907 годзе Галоўным артылерыйскім

упраўленнем) і тэлефон-прыёмнік удасканаленай канструкцыі (польскі патэнт № 18728).

Шмат перажыў на сваім вяку гэты мужны, шчыры і здольны чалавек. Але самыя страшныя абразы і здзекі яго чакалі ў пасляваенныя гады. Справа ў тым, што ў самым канцы саракавых гадоў на афармленне музейнага аддзела Вялікай Айчыннай вайны было выдаткавана 225 тысяч рублёў. На вялікі жаль, гэтыя грошы так Стаброўскі і не выкарыстаў, бо знайшліся ў раёне людзі, якія іх паклалі ў свае кішэні, а вінаватым у страце грошай зрабілі Стаброўскага. У сваёй кароценькай аўтабіяграфіі ён так і напісаў: «37 снежня 1948 года вызвалены ад працы ў музеі «як неадпавядаючы свайму ідэалагічнаму светапогляду» — у адказ на ўзбуджэнне справы аб злоўжываннях, дапушчаных пры выкарыстанні 225 тысяч рублёў, прызначаных на афармленне аддзела Вялікай Айчыннай вайны».

Пра грошы, відаць, у Слоніме ўсе добра ведалі, што гэта не яго віна. Але справа тады была не ў грашах, а ў «ідэалагічным светапоглядзе». А ён цікавіў і быў пад пільнай увагай органаў НКУС горада Слоніма. Прыкладам могуць служыць заявы спадара Стаброўскага ў мясцовы раённы камітэт партыі і начальніку канцылярыі Старшыні Савета Міністраў СССР (другія экзэмпляры і паштовыя квітанцыі, датаваныя 1951 і 1952 годам, знаходзяцца ў аўтара гэтай кнігі). У прыватнасці, ён пісаў: *«Начальнику Канцелярии Председателя Совета Министров СССР. Стабровского Иосифа Иосифовича, проживающего в г. Слониме Барановичской обл. по ул. Комсомольской, д. № 36. Основатель Слонимского музея и бывший его старший сотрудник за вмешательство в дело о расхищении 225 тысяч рублей, отпущенных на оформление Отдела Отечественной войны в этом Музее, подвергшийся жесточайшему преследованию и отрешению от должности со сторон группы лиц, расхищавших суммы и содействующих такому расхищению, не имея решительно никакой возможности передать дело для разбора судом, встречая всяческие к этому препятствия со стороны заинтересованных лиц, — я осмелюсь обратиться как к последнему источнику справедливости И. В. Сталину, а потому покорнейше прошу Вас по ознакомлении с делом на основании прилагаемых документов, проверенных со всей строгостью, сделать Ему соответственный доклад.*

*Последняя моя жалоба в Прокуратуру БССР, при сем прилагаемая, двукратно признана Ею, что, за отсутствием в ней фактов, нет оснований для возбуждения уголовного дела, между тем в этой жалобе имеются ясные указания на факты в виде:*

*1. Расследования ЦК КП(б) Белоруссии и обнаружение факта расхищения 225 тыс. государственных средств;*

*2. Расследования Слонимского ГОМВД и обнаружение злоупотреблений и главного виновника их Алексея Васильевича Черненко;*

*3. Признание факта расхищения двумя прокурорами;*

*4. Двух корреспонденций газеты «Літаратура і мастацтва», иллюстрирующих показательно и доказательно порядок расхищения сумм.*

*Вся огромнейшая переписка, накопившаяся свыше трёх лет, по этому делу изложенная в особой справке, сосредоточилась у Заместителя Председателя Министров БССР тов. Киселёва и частично у Председателя культпросветучреждений тов. Минковича, которые несмотря на мои настоятельные просьбы и домогательства не предают дело Суду, а настаивают на своём решении, без указания законных причин, что снятие нас с работ «правильно» и «нет оснований на восстановление нас в правах».*

*Убедительнейшее прошу Вас не отказать в моей просьбе, так как вследствие престарелого возраста, слабости и отсуствия материальных средств я не имею лично обратиться к И. В. Сталину, прося оградить меня от преследований расхитителей музейных сумм и восстановить в незаконно отнятых правах.*

*В настоящее время я с семьёй, состоящей из жены и дочери-ученицы, находимся в крайне тяжёлом положении, хотя я работаю кассиром в городском жилищном управлении с месячным окладом 360 рублей, но, не имея коровы, обременённый долгами, в особенности податными за время почти двухлетней безработицы по причине «вредной идеологии», которые ежемесячно выплачиваю, отдавая треть зарплаты, — приходится жестоко страдать…*

*Как офицер Русской Армии, участник войны 1914 года, происходя из семьи сплошь военной, заслуженной Родине, я считаю, что своей многолетней деятельностью на пользу России также заслужил на лучшую участь, чем та, которую испытываю теперь и которая довела меня до отчаяния…*

*19.12.51 г. И. Стабровский».*

Праз тры месяцы Язэп Стаброўскі зноў дасылае пісьмо ў Маскву: *«Начальнику Канцелярии Председателя Совета Министров СССР… убедительнейшее прошу не отказать сообщить мне какое последовало решение И. В. Сталина по моей жалобе, поданной на имя Председателя Совета Министров СССР, датированной 19 декабря 1951 года. Прошу также принять во внимание, что мне 82-й год и от дурного питания я стал пухнуть и слабеть; семья же моя терпит жестокую нужду. 19.04.52 г. И. Стабровский».*

Адказу наш зямляк так і не дачакаўся. А 19 мая 1952 года ён зноў піша пісьмо: *«Начальнику Канцелярии Председателя Совета Министров СССР… Вторично убедительнейшее прошу сообщить мне, какое последовало решение по моей жалобе, поданной на Ваше имя 19.12.51 г. И. Стабровский».*

І на гэты раз адказу не было, бо такі час быў. Ох, гэта быў чорны і страшны час. Відаць, тады і выратаваў Стаброўскага яго васьмідзесяцігадовы ўзрост. А калі б ён быў на гадоў 20–30 маладзейшы, зведаў бы і ён ГУЛАГ. Але і тут, на роднай Слонімшчыне, да апошніх сваіх дзён (памёр Язэп Стаброўскі на 99-м годзе жыцця ў 1968 г.) жыў ён у беднасці і забыты мясцовымі ўладамі. Журналіст Аляксандр Шлег у газеце «Звязда» за

21 студзеня 1964 года пісаў: «Колькі вам гадоў, Іосіф Іосіфавіч? Стары няспешна сцягнуў з рукі пальчатку, зняў акуляры і спакойна сказаў:

— Дзевяноста чатыры.

Аглядаю невялікі пакой. Два акны. Адно забіта знадворку. Уздоўж сцяны — кніжная паліца. На стале — шматлікія рукапісы. Тут жа — бутэлька з лекамі. Перахапіўшы мой позірк, стары ціха сказаў:

— Хварэю. Левая рука ў апошні час адмаўляе.

— Чаму не ляжыце?

— Мне, голубе, за сталом сядзець трэба. Шмат спраў незакончаных. Трэба запісы свае ў парадак прывесці…

— Халаднавата ў вас.

— Комін пачысціць трэба. Два разы пісаў у пажарную ахову. Не адказвалі…».

Так, не адказалі, не дапамаглі… Відаць, такі загад мелі…

Тры кіламетры неслі па снезе труну з целам славутага сына зямлі слонімскай яго слаўныя сябры і землякі. Пахавалі Язэпа Стаброўскага на могілках у вёсцы Орлавічы, побач з яго бацькамі…

У чэрвені 1988 года на Слонімшчыне пабываў беларускі пісьменнік Яраслаў Пархута. Мы сустрэліся, доўга гутарылі пра гісторыю і літаратуру, пра знакамітых людзей слонімскай зямлі. Гаварылі і пра Язэпа Стаброўскага. «Ці быў ты хоць раз у Орлавічах?» — запытаўся ў мяне Яраслаў Сільвестравіч. «Не, не быў, — адказаў тады я, — але добра ведаю, што там, на могілках, пахаваны Язэп Стаброўскі, яго бацька, жонка і дзеці».

На другі дзень Яраслаў Пархута папрасіў у мясцовых улад машыну і паехаў на Орлавіцкія могілкі. Вярнуўся без настрою: «Лепш бы я туды не ездзіў, толькі расхваляваўся».

Больш падрабязна пра сваю паездку ён напісаў у кнізе падарожжаў «Крыніца ёсць у родным краі…» (Мінск, 1992): «У дырэктара Слонімскага раённага краязнаўчага музея Ірыны Рыгораўны Шпырковай пытаюся пра Орлавічы, дзе пахаваны Стаброўскі, пра магілу, у якім яна стане. Шпыркова кажа: — Там усё як мае быць! Прыязджалі з Акадэміі навук, узвялі помнік — пазайздросціць можна!..

Назаўтра адшукаў Аркадзя Кашко, старшыню Азгінавіцкага сельсавета, на тэрыторыі якога знаходзяцца Орлавічы, і мы паехалі з ім туды. Толькі што прайшоў цёплы летні дождж. Хмара сплыла, выбліснула яркае сонца. Паабапал дарогі ляжалі палеткі амаль даспелай ярыны. За Орлавічамі раскінулася сухадольная лугавіна. Кашко прамовіў:

— Вось гэтую сенажаць некалі перадаў Стаброўскі сялянам.

Яшчэ мінут колькі язды, і спыняемся. Па правую руку бачым, як на бульбяным палетку завіхаецца кабета. Мы выйшлі з машыны.

— Кузьмінічна! — гукнуў старшыня. — Да вас едзем!..

Жанчына, пачуўшы гэта, пакінула свой клопат і напраскі, картапленнем, накіравалася да нас. Калі выбралася на дарогу, Кашко сказаў ёй, паказваючы на мяне:

— Чалавек з Менска цікавіцца Стаброўскім, хоча ўведаць, як жыў, дзе пахаваны.

Спахмурнеў твар жанчыны. Зірнула на старшыню сельсавета, на мяне, быццам раздумваючы: усё казаць незнаёмаму ці не, і, нарэшце, загаварыла:

— Дзедушку нашага даўно ведаю. Працавіты быў, не зухаваты, для людзей харошы. Але пад канец яму плоха жылося. І я насіла яму ў Слонім то малака, то смятанкі, то мукі — што мела… Сама я з Браншчыны. У вайну немцы сюды вывезлі, у лагер «Грыбава», што пад Слонімам. Сынка майго, Мішку, пад танк бросілі яшчэ там, ля нашай Скробаўкі. Дзевачку, Вальку, тут, у лагеры, смярцельнымі ўколамі закалолі… А я ўцякла з лагера і сюды прыбілася, на хутар. Потым замуж мяне ўзяў Хвіліп Курыловіч, што у Стаброўскіх гадаваўся. Ён, Хвіліп, у шэсць гадочкаў уцёк ад мачыхі і пайшоў, як тады казалі, да пана. І пан, гэта значыць Стаброўскі, прыняў яго, на ногі паставіў. Яны ўвесь час разам былі. І курганы раскопвалі, і камяні тачылі на помнік… Але я не туды забегла! Вам пра самаго Стаброўскага трэба… Так вот. Прыехала да яго аднойчы ў Слонім, а ён пры смерці, просіць: «Валюшка, перадай людзям, каб не мучыліся, не капалі глыбокую магілку. Зіма стаіць на двары!». Ускорасці і памёр. На дзевяноста дзявятым годзе жызні. Да гэтага завейка круціла, снегу намяло, а харанілі — сонечны дзянёк выдаўся. Вот вам і прырода паспачувала. Ад гасцінца труну на плячах неслі… Нашага дзедушку, як звалі яго тут, людзі з усіх дзеравень праводзіць прыйшлі. Жалобны стол у нашай хаце правілі. Мы яе з Хвіліпам якраз там пастроілі, дзе хата Стаброўскага стаяла…

Кузьмінічна змоўкла. Твар яе па-ранейшаму быў хмуры. Счакала нейкую хвіліну і працягвала:

— А магіла яго з краю пагоста, — паказала рукою на зялёную купу дрэў пры ўзгорку.

І вось мы прадзіраемся густымі зарасцямі. Пагост незвычайны. Тут знаходзяцца ажно 52 курганы, якія ў свой час даследаваў Стаброўскі. Але цяпер нам трэба пабачыць яго магілу. Нарэшце Кузьмінічна спыняецца. Расхінае кусты і тлумачыць:

— Вот гэтыя дубовыя крыжы, — на магілах яго блізкіх: жаны Амеліі, сына Міраслава і дачкі Іры. А маленькі крыжык, што прыслонены да помніка, з магілы дзедушкі. Зусім згніў… І магілка з зямлёю зраўнялася…

Толькі цяпер я заўважаю высокі, з чорнага каменя, чатырохярусны помнік, і прыгадваю словы Шпырковай. Але Кузьмінічна пярэчыць:

— Мана усё гэта! Помнік стаўляў сваім родным Стаброўскі. З маім Хвіліпам. Яны і камяні з поля вазілі, і часалі… Гады са тры іх часалі-тачылі…

Яна памаўчала трошкі і дадала:

— А ён, Стаброўскі, чыста ведаў, што ніхто яму не паставіць помніка… То як бы і сабе паставіў тады яго…

Пакідаў Орлавіцкі пагост з цяжкім сэрцам. Адчуваў: камень лёг і на сэрца старшыні сельсавета.

Развітваючыся, Аркадзь Кашко мовіў:

— Сорамна. Усім нам. Трэба падказаць школьнікам, няхай возьмуць шэфства над магілай Стаброўскага. Чалавек заслужыў гэтага…»

Так, Язэп Стаброўскі заслужыў шмат чаго, але толькі не людской памяці. Дык што ж змянілася на Орлавіцкіх могілках за гэты час?

Неяк разам з рэжысёрам Беларускага тэлебачання Аляксандрам Сухоцкім, які здымаў дакументальны фільм пра Стаброўскага, я наведаў Орлавіцкі пагост. Апісаць убачанае было проста немагчыма. Здаецца, мы трапілі ў трапічны непраходны хмызняк, дзе сотні гадоў не ступала нага чалавека. Магілы Стаброўскіх зраўняліся з зямлёй, крыжы пагнілі і валяліся пад сухім, чорным лісцем, Мы ледзь-ледзь адшукалі і вялікі каменны чатырохярусны помнік, які рабіў і ставіў Язэп Стаброўскі разам з Піліпам Курыловічам. Орлавіцкія «джунглі» за сялом Аляксандр Сухоцкі зняў на відэастужку.

Набліжаліся Дзяды — памінальны абрад нашых продкаў. І каб неяк выратаваць ад поўнага знішчэння магілы знакамітых Стаброўскіх, невялікая група слонімскіх энтузіястаў завітала ў Орлавічы. Дзякаваць Богу, жыла яшчэ і Кузьмінічна, якая нам падказала, дзе хто ляжыць са Стаброўскіх, дзе які крыж трэба ставіць, расказала нам і пра Язэпа Стаброўскага, які ў свой час перадаў орлавіцкім сялянам у вечнае карыстанне 65 гектараў зямлі… Але ці ў гэтым справа? Ці толькі гэтага заслугоўвае наш знакаміты зямляк?

Тым не менш у верасні 2002 года, калі Слонім адзначаў сваё 750-годдзе, на будынку музея была ўстаноўлена мемарыяльная дошка (аўтар Леанід Богдан), прысвечаная Язэпу Стаброўскаму — заснавальніку музея. А крыху пазней яго імем назвалі і сам Слонімскі раённы краязнаўчы музей.

## ПАДАРУНАК СЯЛЯНАМ — 65 ГЕКТАРАЎ СВАЁЙ ЗЯМЛІ

На Камсамольскай вуліцы ў Слоніме жыве дачка Язэпа Стаброўскага Дзіляра Смірнова. Яна пагадзілася расказаць трохі пра бацьку аўтару кнігі.

— *Спадарыня Дзіляра, раскажыце трохі пра сябе.*

— Я нарадзілася ў Слоніме. Вучылася ў першай беларускай школе. Потым скончыла Слонімскае медвучылішча. Выехала ў Крым. Там працавала медработнікам. Некалькі гадоў таму вярнулася на Бацькаўшчыну, жыву ў бацькоўскай хаце.

— *У якім годзе Вы пакінулі Слонім?*

— Пасля смерці таты ў 1968 годзе я паехала ў Крым і там як медык у санаторыі знайшла працу. Потым выйшла замуж і ўсё жыццё жыла там. Хаця кожны год наведвала родны Слонім. Цяпер вярнулася сюды назаўжды. Калі я паехала ў Крым, мама здавала кватэру навучэнцам медвучылішча і ўсім, каму неабходна было жыллё. У нас была вялікая бібліятэка, шмат чаго засталося ад спадчыны таты. Але яно ўсё прапала, знікла. Дарэчы, тата аддаў раённай бібліятэцы, якая сёння носіць імя Якуба

Коласа, 6 тысяч кніг. Калі немцы зносілі спальваць кнігі на цэнтральную плошчу ў Слоніме, тата іх ноччу сабіраў і прыносіў у музей, дзе іх хаваў у сховішчы, а сховішча застаўляў шафамі.

— *Ці збіраў што-небудзь каштоўнае Ваш тата дома, акрамя кніг?*

— Можа, і збіраў, я не ведаю. Але ўсё каштоўнае было ў ягоным музеі.

— *З кім перапісваўся Ваш тата?*

— Перапіску ён вёў з усім светам. У нас быў вялікі круглы стол, дык ён быў завалены пісьмамі, кнігамі, газетамі, часопісамі. Памятаю, што перапісваўся ён з генералам Яўгенам Леашэням. Шчыра сябраваў з паэтам Сяргеем Новікам-Пеюном. Як толькі Сяргей Міхайлавіч прыязджаў у Слонім, адразу прыходзіў да нас. Яны суткамі аб нечым вялі гутаркі, спрачаліся. А калі Сяргей Новік-Пяюн быў рэпрэсаваны і сасланы ў лагер, бацька з ім пастаянна перапісваўся, а таксама дасылаў лісты ў яго абарону ў розныя інстанцыі. Тата выпісваў многа розных перыядычных выданняў, вельмі шмат чытаў. А я выпісвала медыцынскія газеты і часопісы. Дык прынясу дамоў, а ён кажа: «Дзе ж я іх змагу прачытаць». Чытаў усё. Ды і зрок у яго быў добры. А што не бачыў, дык чытаў пры дапамозе лупы. І калі ён паспяваў — я не ведаю.

— *Кім ён сябе лічыў — палякам, беларусам ці рускім?*

— Не ведаю. Але ён быў католікам. А я лічылася дачкою памешчыка. Мяне нават не хацелі прымаць у камсамол. Але потым прынялі.

— *У Орлавічах быў маёнтак Стаброўскіх. Так?*

— Так. Гэта быў вялікі маёнтак. Там тата займаўся садаводствам і пчалярствам. Я там была адзін толькі раз. Памятаю вялікі дом і маленькі. У маленькім доме было тры пакоі. Кіравала ўсімі справамі маёнтка яўрэйка Шаіна. Калі пачалася Другая сусветная вайна, яна з'ехала ў Амерыку. Там працаваў Піліп Курыловіч, якога тата вельмі любіў і паважаў. Гэты маёнтак тату дастаўся ў спадчыну ад яго бацькоў. Мой тата падараваў бедным сялянам 65 гектараў сваёй зямлі. Нават ад сваёй вялікай ваеннай пенсіі адмовіўся.

— *А чаму ён адмовіўся?*

— Пенсію ён сказаў, каб пералічвалі бедным людзям. А калі на Слонімшчыну ў 1939 годзе прыйшлі бальшавікі, нас у Орлавічах чуць не расстралялі. Нашу сям'ю ноччу з маёнтка ў Орлавічах Курыловіч на возе вывез у Слонім. А тут у нас на вуліцы Кірава жыла бабуля. У яе быў вялікі дом. Сюды мы і прыехалі ноччу. Курыловіч называў тату прозвішча тых, хто нас хацеў расстраляць. Але я ўжо не памятаю. Магчыма, гэта былі супрацоўнікі НКУС. Праўда, у Слоніме нас ніхто ўжо не чапаў.

— *І што стала з Вашай сядзібай у Орлавічах?*

— Яе спаліў Пракоп Герасімчык разам з партызанамі. У агні згарэлі карціны мастакоў, старая мэбля, бібліятэка і ўсё, што сабралі Стаброўскія за шмат гадоў. Там быў кабінет і таты. Ён туды нікога не пускаў. Памятаю, там было шмат кніг.

— *А дзе Ваш бацька браў экспанаты для музея?*

— Купляў. Ён ездзіў па Беларусі і ўсё сабіраў. Ён служыў на Каўказе, лавіў рыбу на Каспійскім моры, аб'ездзіў усю Расію. І каштоўныя экс-

панаты, якія ўдавалася дзе знайсці ці купіць, прывозіў у Слонім. У 1899 годзе ў часопісе «Исторический вестник» была надрукавана першая праца майго бацькі «К вопросу об ископаемых стеклянных шарах».

*— Ці былі Вы ў музеі Вашага таты?*

— Была. Памятаю ў гады вайны такі выпадак. У мяне забалела вуха. І тата мяне павёў да доктара ў ваенны нямецкі шпіталь. А ў яго на пінжаку вісеў значок «Археолаг», які ён атрымаў у пачатку XX стагоддзя. Дык немцы пыталіся ў яго, што гэта за значок. А тата ведаў нямецкую мову і немцам ён казаў, што гэта значок называецца «Археолаг».

*— Ці чапалі немцы тату падчас акупацыі Слоніма ў гады Другой сусветнай вайны?*

— Мы былі ў спісках тых, каго павінны былі расстраляць немцы на Пятралевіцкай гары ў Слоніме. Аб гэтым нас папярэдзіў паэт Сяргей Новік-Пяюн. Але потым нехта той спісак у немцаў украў, і нас ніхто не чапаў.

*— Ці праўда, што Ваш тата заўсёды хадзіў у салдацкім шынялі?*

— Гэта так. Не хацеў мяняць яго ні на што.

*— А калі яго запрашалі на якія фэсты?*

— На якія фэсты?! Да вайны, наадварот, да нас у Орлавічы прыязджала шмат гасцей. Асабліва летам. А пасля вайны тату было не да фэстаў.

*— Ваша мама была другой жонкай Стаброўскага?*

— Так. Першая яго жонка Амелія Давыдоўская, якая нарадзіла яму сына Міраслава і дачку Ірэну, рана памерла. Другой жонкай стала мая мама Эльміра Байрашэўская. Тата за яе быў старэйшы на 37 гадоў. Яны пажаніліся ў 1930 годзе.

*— Як удалося Вашаму тату пражыць 98 гадоў?*

— Ён мала еў мяса і каўбас. Больш харчаваўся салатамі, садавіной і агароднінай.

*— Ці бываеце Вы ў Орлавічах?*

— Вельмі рэдка. Некалькі гадоў таму з сяброўкай, якая працавала ў Слонімскім аўтапарку № 3, паехала на аўтобусе ў Орлавічы. Наведала родныя мясціны. А калі ад'язджала дамоў, дык мясцовыя людзі з Орлавічаў і з суседніх вёсак, калі даведаліся, што прыехала Стаброўская, на кані прывезлі да аўтобуса мне бульбы, малака, смятаны, сыроў і іншых вясковых ласункаў і пачаставалі. Я была вельмі здзіўлена і ўзрушана, калі даведалася, што ўсе гэтыя пачастункі ў знак падзякі і памяці пра майго бацьку Іосіфа Стаброўскага і ўсіх Стаброўскіх разам узятых. Я тады расчулілася да слёз.

*2009*

# ЧАЛАВЕК ВЯЛІКАЙ ПРАЦЫ

Імя яго ў Беларусі незаслужана забытае. Ды й напісана пра яго зусім-зусім мала. Хіба толькі ў кнізе Л. Дробава «Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.» (Мінск, 1974), дзе сам аўтар адзначае, што в «белорусской искусствоведческой литературе о К. Стабровском упоминаний нет».

Казімір Стаброўскі быў стрыечным братам Язэпа Стаброўскага. У свой час ён славіўся сваёй вядомасцю на ўсю Беларусь, Польшчу і Расію як мастак, артыст і педагог.

Нарадзіўся Казімір Стаброўскі ў маёнтку Крупляны на Навагрудчыне ў сям'і вайскоўца. Пасля заканчэння Беластоцкага рэальнага вучылішча паступіў у Пецярбургскую акадэмію мастацтваў. Вучыўся сем гадоў з невялікімі, але частымі перапынкамі. З-за хваробы вачэй прыязджаў дамоў, каб падлячыцца. У апошнія гады вучобы займаўся ў майстэрні Ільі Рэпіна.

Пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў Казімір Стаброўскі працягваў вучобу ў Акадэміі Жуліяна ў Парыжы.

У канцы 1894 года наш зямляк вяртаецца на Навагрудчыну, дзе доўгі час тут жыве і працуе. Як вядомы ўжо і вопытны мастак, ён пачынае ўдзельнічаць у мастацкіх выставах у Пецярбургу, Парыжы, Мюнхене, Венецыі. За карціну «Цішыня вёскі» ў 1900 годзе ў Парыжы на міжнароднай выстаўцы Казімір Стаброўскі атрымаў сярэбраны медаль. Яго карціна «Ля раз'езда» была набыта для музея ў Мюнхене, а «Лазенкаўскі парк у Варшаве» — для Венецыянскай нацыянальнай галерэі.

Казімір Стаброўскі марыў адкрыць сваю Школу прыгожых мастацтваў. І яго мара збылася. У 1904 годзе на сродкі, якія былі сабраны за кошт асабістых ахвяраванняў, у Варшаве ён адкрывае Школу прыгожых мастацтваў. На працягу шасці гадоў наш зямляк быў яе дырэктарам і выкладчыкам. Гэтая школа на той час лічылася лепшай навучальнай установай Варшавы. Выкладанне ў ёй вялося на вышэйшым прафесійным узроўні. На еўрапейскіх выставах працы вучняў Казіміра Стаброўскага заўсёды адзначаліся прэміямі. Сярод іх нямала было беларусаў.

У 1912 годзе наш жывапісец і педагог пакідае Варшаву і поўнасцю аддаецца мастацкай творчасці. Ён пачынае падарожнічаць па свеце. Быў у Турцыі, Грэцыі, Егіпце, Іспаніі, Італіі, Швецыі і многіх іншых краінах. З падарожжаў К. Стаброўскі заўсёды прывозіў новыя свае карціны, большасць якіх вылучалася лірычнасцю вобразнага ладу і пяшчотным каларытам.

У гэты час мастак пачынае працу над славутай серыяй з адзінаццаці карцін «Шэсце навальніцы». Сам Казімір Стаброўскі тлумачыў, што ён ужо тады прадбачыў у сваіх карцінах першую сусветную вайну, якая прынясе шмат гора і бяды на беларускую зямлю.

«Шэсце навальніцы» распадаецца на некалькі карцін, з якіх кожная ўяўляе сабой самастойную «сімфонію ў фарбах». Уласцівая творчасці Казіміра Стаброўскага прыгожая і змястоўная сімволіка пранікае ў іх і надае характар паэтычных твораў, у якіх змест пераважае над формай.

Усяму цыклу, за выключэннем апошняй светлай і радаснай карціны, уласцівы змрочны, з прыцемкам тон, што таксама характэрна для твораў Стаброўскага.

Шэсце навальніцы… Над ціхімі беларускімі палямі сабіраюцца змрочныя хмары. Сонца схавалася, і ў хмарах заклубіліся злавесныя вобразы, і той, каму дадзена гэта бачыць, бачыць у іх злосны пачатак, які прыняў формы дзікіх звяроў і пачвар. А да ўрагану, які нясецца над безабароннай і змрочнай краінай, працягнуліся чыесьці ўчэпістыя кіпцюрастыя лапы… і з гучным карканнем ляцяць прадвеснікі навальніцы і няшчасця чорныя груганы.

І вось грымнуў пярун. І на магільных узгорках сталі бясконцымі чародамі маўклівыя крыжы. Цэлы лес крыжоў — Галгофа ўсяго беларускага народа. А ў хмарах зноў паказаліся драпежныя чорныя лапы страшнай пачвары, і маланка асвятляе іх.

Палымнеюць вёскі і гарады Беларусі. Гараць і гінуць у полымі вогненнага патопу скарбніцы народнай творчасці, палацы і хаты. Запалалі помнікі даўніны, запунсавала зарывам неба над старажытным багатым горадам, і паплылі жудасныя цені па вуліцах і завулках. А ў воблаках дыму ўюцца страшныя змеі. Гэта д'ябальствуюць і трыумфуюць злосныя сілы, якія сарваліся з ланцуга пад віхорам вялікай навальніцы.

І наступіць пара, калі над гаротнай краінай, над руінамі і крыжамі, панясуцца пад аблокі душы няшчасных пакутнікаў, а высока ў небе з'явіцца распятая на крыжы Справядлівасць, і цень ад яе крыжа працягнецца па ўсёй краіне. А яна, засмучаная і знявечаная ворагамі, будзе ахінутая гэтым страшным ценем, і куды ні працягнецца ён, усюды стануць чорнымі спаленыя мястэчкі, гарады і вёскі.

Знявечаны, зморaны сам твар беларускай зямлі. Высечаны старыя векавыя лясы. Толькі пні засталіся вакол, ды ўзвышаюцца то тут, то там маўклівыя курганы. Пуста на зямлі. Але затое там, уверсе, пануе таемнае жыццё: зборышча ўкленчаных просіць ратунку ў неба аб выратаванні ад прыгнёту бязлітасных цёмных сіл. І ўзнімаецца благаславёны палец, і цёмныя курганы на апусцелай зямлі прыслухоўваюцца і да малення, і да благаславення.

Узараныя і скапаныя палі пакрыліся снегам. Зямля сцішылася пад дыханнем смерці, і над бязлюднымі мёртвымі раўнінамі пануе цемра ночы і холад зімы. І маркотна ўзвышаюцца тры крыжы — помнікі брацкіх магіл. Але хутка ўжо світанне. У небе пачынаюць мільгацець першыя праменні золака, які іграе барвовым водбліскам на латах і збруі таямнічых вершнікаў. Там, у святлеючай вышыні, над разарванымі навальнічнымі хмарамі, гэтыя крылатыя вершнікі іграюць на чатыры бакі святла абуджальны «гейналь» — песню, якую некалі выконвалі на світанні, каб разбудзіць войска. Над мёртвай, можа быць, толькі заснуўшай краінай хутка прагучыць першы заклік вызвалення. Прачнуцца тыя, хто спаў, уваскрэснуць мёртвыя, і мільёны палымяных віцязяў з крыламі на залатых латах панясуцца на конях у апошнюю бітву з цёмнымі і злымі сіламі. Гімн абуджэння зменіцца грознай рапсодыяй нябачнай бітвы. Злыя сілы будуць

пераможаны народам, навальніца пройдзе, і над вызваленай і шчаслівай краінай заззяюць вясёлка і светлая брама новага жыцця.

Такое тлумачэнне сваім карцінам даваў сам мастак. Казімір Стаброўскі, відаць, прадбачыў не толькі Першую сусветную вайну, але і Другую, а таксама чарнобыльскую бяду, якія ператварылі і ператвараюць Беларусь у сапраўдную галгофу беларускага народа.

Усё ж жах і шэсце Першай сусветнай вайны мастак добра адчуў на сабе. Яго маёнтак у Круплянах быў разгромлены немцамі, а сам таленавіты жывапісец стаў бежанцам, прыхапіўшы з сабою некалькі дзясяткаў сваіх карцін. Ён прыехаў у Петраград, дзе наладзіў у Таварыстве падтрымкі мастацтваў выставу сваіх прац. Пасля яе заканчэння пераехаў у Маскву. Там у залах мастацкага салона на Вялікай Дзмітраўцы зноў арганізоўвае выставу сваіх карцін, якая зрабіла вялікае ўражанне на мастацкую грамадскасць Масквы. Перадавыя рускія мастакі В. Бяклемішаў, І. Рэпін, В. Матэ і іншыя ўнеслі прапанову на разгляд савета Расійскай акадэміі мастацтваў аб наданні Казіміру Стаброўскаму звання акадэміка жывапісу. Адбылося галасаванне: 16 чалавек прагаласавалі «за», а 19 — «супраць». І ўсё ж не ў гэтым справа, а ў тым, што творчасць нашага земляка ўжо тады мела вялікую сілу і папулярнасць…

Казімір Стаброўскі быў не толькі мастаком, вучоным і педагогам, але і артыстам. Ён меў нават ступень артыста першай катэгорыі, выступаў на сцэнах многіх тэатраў.

Пражыў наш зямляк крыху больш за пяцьдзясят гадоў. Памёр ад інфаркту ў 1929 годзе. Газета «Кур’ер Варшаўскі» 10 чэрвеня 1929 года пісала: «Памёр вядомы чалавек, знакаміты артыст, энтузіяст усяго прыгожага, слынны арганізатар і філосаф Казімір Стаброўскі… Гэта быў чалавек вялікай працы».

Сапраўды, Казімір Стаброўскі працаваў шмат і пакінуў пасля сябе багатую спадчыну. На жаль, творы яго раскіданы па свеце. Нават цяжка ўявіць, што праз месяц, ці праз год, ці праз дзесяць гадоў надарыцца мажлівасць наладзіць на яго радзіме — роднай Беларусі ці Навагрудчыне выставу ягоных карцін. Але верыцца ў гэта. І калі каму пашанцуе пабываць у мастацкіх музеях Польшчы, Германіі, Італіі, Расіі, вы сустрэнецеся з карцінамі нашага славутага земляка Казіміра Стаброўскага. Яны вас прыцягнуць маркотнымі вясковымі краявідамі Беларусі, міфалагічнымі вобразамі, драмай і містыкай.

## СЦЕЖКАМІ ВАЛЯНЦІНА ТАЎЛАЯ

Да сённяшніх дзён не магу паверыць, што на Слонімшчыне ўжо не існуе Вялікакракоцкая сельская бібліятэка імя Янкі Купалы. Яе ў 2008 годзе мясцовыя вертыкальшчыкі зачынілі назаўсёды. Бібліятэка перажыла дзве вайны (польска-савецкую і нямецка-савецкую), рэпрэсіі, калектывізацыю, сацыялізм і ўсе іншыя «ізмы», а цяпер «часоў бурлівы

родны мацярык», як пісаў Мікола Арочка, утрымацца не змог. А гэта была першая ўстанова культуры ў Беларусі, якой было нададзена імя песняра беларускага народа Янкі Купалы. У Вялікую Кракотку некалькі разоў прыязджала жонка Янкі Купалы Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. Там гасцілі Пятрусь Броўка, Янка Брыль, Сяргей Грахоўскі, Уладзімір Караткевіч, Мікола Аўрамчык, Пятро Прыходзька і многія-многія іншыя беларускія пісьменнікі. Сотні кніг з аўтографамі дасылалі слыннай бібліятэцы беларускія пісьменнікі, сярод якіх быў і Якуб Колас. 80 гадоў адчыняла дзверы перад вяскоўцамі і пісьменнікамі Купалаўская бібліятэка на Слонімшчыне. А сёння яе ўжо няма.

Чаму я так сумна пачаў з Вялікакракоцкай сельскай бібліятэкі? Ды таму, што ўдзел у яе стварэнні ў другой палове 1920-х гадоў прымаў таксама і паэт Валянцін Таўлай з суседняй вёскі Рудаўка. Калі ён вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, для вясковай бібліятэкі са сваімі землякамі ён прывозіў і дасылаў сюды беларускія кнігі і часопісы, што выдаваліся ў Вільні. Беларускія выданні Валянцін Таўлай з сябрамі прывозілі і ў Чамяроўскую сельскую бібліятэку імя Якуба Коласа, якая таксама была адкрыта ў тым далёкім 1927 годзе. Але яна перастала існаваць на Слонімшчыне раней за Вялікакракоцкую бібліятэку.

Прыехаў Валянцін Таўлай з бацькам у вёску Рудаўка Слонімскага павета ў 1924 годзе з Ліды, дзе бацьку звольнілі з працы. У Рудаўцы жыла бабуля — маці бацькі Валянціна. Яна і дапамагала гадаваць Валянціна і яго брата Аляксандра разам з мачахай Сцепанідай Паўлаўнай.

Вёска Рудаўка тады была невялікая, яна налічвала крыху больш за 70 жыхароў. А вось суседняя з Рудаўкай — Вялікая Кракотка па колькасці насельніцтва была ў тры разы большая. Там працавала польская школа, куды і аддаў бацька Валянціна. Вучыўся хлопчык добра, таму ў чэрвені 1925 года паступіў у Слонімскую польскую дзяржаўную настаўніцкую семінарыю. Пра вучобу ў семінарыі Валянцін Таўлай напісаў у сваёй аўтабіяграфіі «Аб сабе», якія ўпершыню была апублікавана ў чэрвеньскім нумары часопіса «Полымя» за 1948 год. Нагадаю толькі, што хлопчык у семінарыі вучыўся вельмі паспяхова, атрымліваў стыпендыю. Але за тое, што пры перапісе насельніцтва адмовіўся запісацца палякам, стыпендыю знялі — таму давялося з-за крыўды і беднасці пакінуць вучобу і вярнуцца ў Рудаўку. «Прыходжу дамоў. Расказваю бацьку, што і як. Бацька спахмурнеў. Пакруціў галавой, але за сарваную вучобу не журыў: «Што ж, пасядзі ў хаце, павучыся дома, а на другі год пабачым» — згадвае ў сваіх успамінах Валянцін Таўлай.

У Рудаўцы хлопчык рыхтаваўся да паступлення ў Віленскую беларускую гімназію, дзе ўжо вучыліся знаёмыя хлопцы з Кракоткі, Вострава, Чамяроў, Азярніцы, Мяльканавіч і з іншых слонімскіх вёсак. Дапамагала яму ў гэтым мачаха Сцепаніда Паўлаўна.

У верасні 1927 года Валянцін Таўлай стаў вучыцца ў Віленскай беларускай гімназіі. Тут сустрэўся са сваімі сябрамі-землякамі, пазнаёміўся з тымі, пра каго раней толькі чуў. «На гэтага ціхмянага, шчуплага, крыху сарамлівага хлопца спачатку ніхто са старэйшых вучняў не звяртаў увагі.

У яго быў адкрыты, з мангольскімі рысамі твар, яшчэ, здаецца, дзіцячыя, але вельмі ўважлівыя і задумлівыя вочы, шырокі лоб і крыху адвіслыя вушы. Ён трымаўся неяк у баку ад іншых вучняў. У час перапынкаў хадзіў адзін па актавай зале з кнігай або сшыткам у руках і паўтараў урокі. Вучыўся добра, і настаўнікі не раз ставілі яго ў прыклад іншым. Ніхто, вядома, і не думаў, што сарамяжлівы слонімскі хлопец з вёскі Рудаўка неўзабаве заявіць аб сабе поўным голасам», — прыгадваў у сваёй кнізе «Маё маўклівае сэрца» Якуб Міско з вёскі Чамяры. Кніга гэта выйшла з друку пасля смерці Якуба Міско ў 1983 годзе. Да друку яе рыхтаваў Янка Брыль.

У Віленскай беларускай гімназіі хлопцы і дзяўчаты з усіх курсаў трохі пазней даведаюцца, як вучыўся Валянцін Таўлай у Слонімскай польскай гімназіі і чаму ён яе пакінуў. І гімназісты распавядалі адзін аднаму пра тое, як у польскай гімназіі ў Слоніме Валянцін, запяўняючы анкету для настаўніка, сказаў, што ён — беларус, што мова яго — беларуская, што жыве ён на Слонімшчыне ў Беларусі… Гэтага было дастаткова, каб больш у польскай гімназіі не вучыцца.

Наогул, у Рудаўцы Валянцін Таўлай часта праводзіў прапагандысцкую работу, бо на гэта ён быў добры спецыяліст. Як згадвае Павел Кулак у кнізе «Валянцін Таўлай» (Мінск, 1984. С. 98), Валянцін умеў пагаварыць і са старэйшым, і з малодшым, і з усімі прыходзіў да аднаго вываду: змагацца за сваё вызваленне. Ён любіў выступаць на масоўках. Аднойчы яго затрымалі ў лесе каля Альбярціна на Слонімшчыне і пасадзілі ў турму. У жніўні 1929 года за ўдзел у канферэнцыі Слонімскага акружнога камітэта камсамола юнака зноў арыштавалі і пасадзілі на 6 месяцаў за краты. У слонімскім астрозе паэт піша вершы:

І сэрца ў міраж, як шчасце, паверыць
І соладка таяць пачне…
А раніца збудзіць, — акутыя дзверы,
Іржавыя краты ў акне…

З Валянцінам Таўлаем слонімцы вельмі любілі сябраваць. І ніхто з іх пры жыцці ніколі нават слоўца дрэннага не сказаў пра Таўлая. Паэт Анатоль Іверс (Іван Міско) мне вельмі часта згадваў пра земляка. Пазнаёміўся ён з ім у верасні 1927 года. Іверс ужо год вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, а Таўлай толькі паступіў. Амаль усе прыезджыя жылі ў інтэрнаце, і гэта зблiжала, давала магчымасць лепш прыгледзецца адзін да другога. У інтэрнаце часта праводзіліся калектыўныя чытанні лепшых твораў рускай літаратуры, кніг беларускіх пісьменнікаў. Пад кіраўніцтвам старшакласнікаў у гімназіі выдаваліся на шапірографе рукапісныя вучнёўскія газеты і часопісы. І тут не абыходзілася без Таўлая. Ён пісаў вершы, занатоўкі са школьнага жыцця. «Я гэта помню, бо сам прымаў удзел у выпуску некаторых гэтых выданняў. Крыху зайздросціў свайму земляку, што яго вершы друкавалі нават у грамадаўскіх газетах», — распавядаў мне Анатоль Іверс.

Расстаўся Іверс з Таўлаем пад канец 1929 года, калі іх выключылі з гімназіі за ўдзел у вучнёўскай забастоўцы. Іверс вярнуўся на Слонімшчыну, Таўлай апынуўся ў БССР. Аднойчы ў маі 1931 года ён атрымаў павестку з Касцянёўскага паштовага агенцтва, што яму прыйшла пасылка. Пасылка была з Мінска ад Валянціна Таўлая. Паэт прыслаў 7 кніг.

Найбольш памятная сустрэча Анатоля Іверса і іншых слонімскіх літаратараў з Таўлаем адбылася ў Лідзе напрадвесні 1940 года ў час прыезду туды Янкі Купалы да выбаршчыкаў. А ўжо летам 1940 і 1941 гадоў Валянцін Таўлай сам прыязджаў у Слонім, наведваў Рудаўку, Кракотку, Чамяры і іншыя вёскі, дзе прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады. Памятаю, Анатоль Іверс мне вельмі часта распавядаў, як ён у пачатку красавіка 1947 года наведаў у бальніцы Таўлая. «Адсунуўшы ўбок лісткі паперы, з ледзь улоннай усмешкай ён сказаў: «Доктар абяцаў выпусціць да 1 мая…». Але, як вядома, Валянцін Паўлавіч не дажыў да гэтага дня, ён памёр 27 красавіка 1947 года», — успамінаў з горыччу Анатоль Іверс.

Імя беларускага паэта на Слонімшчыне не забыта. Амаль ва ўсіх слонімскіх пісьменнікаў ёсць творы, прысвечаныя земляку. Мікола Арочка ў 1969 годзе напісаў і выдаў асобнай кнігай крытыка-літаратурны нарыс «Валянцін Таўлай». Скульптары Іван Міско і Леанід Богдан зрабілі бюсты Таўлая. У Слоніме, у вёсках Жыровічы і Ганькі ёсць вуліцы, якія носяць імя слыннага земляка.

У 1984 годзе, дзякуючы настаўніцы роднай мовы і літаратуры Раісе Іванаўне Каласоўскай, у Слонімскай сярэдняй школе № 1 (цяпер гэта ліцэй) да 70-годдзя паэта быў адкрыты музей-пакой Валянціна Таўлая. Да Другой сусветнай вайны менавіта тут знаходзілася польская дзяржаўная настаўніцкая семінарыя, дзе вучыўся Таўлай. Школьны музей Валянціна Таўлая ў тыя 1980-я гады шмат рабіў спраў па прапагандзе беларускай літаратуры і творчасці пісьменнікаў-землякоў, найперш Таўлая. Савет музея перапісваўся з многімі беларускімі літаратарамі, сюды прыходзілі лісты ад жонкі пісьменніка Лідзіі Сяргееўны, ад дачкі Галіны Таўлай, ад сястры Ніны Паўлаўны. Яго наведвалі экскурсіі з усіх куткоў Беларусі. Многія госці пакідалі свае аўтографы ў музейнай кнізе. Захаваўся аўтограф Дануты Бічэль: «Прыемна бываць у такіх музеях, створаных рукамі і стараннямі саміх школьнікаў і энтузіястаў-настаўнікаў. Думаю, што вобраз паэта-змагара Валянціна Таўлая ў многім вызначыць напрамак грамадскага жыцця тых маладых душ, якія дакрануцца да гэтай літаратурнай з'явы. Дзякуй шчыра».

У 1990-х гадах музей Таўлая ліквідавалі. І толькі напачатку 2000-х гадоў у Слонімскім агульнаадукацыйным ліцэі пакой-музей Валянціна Таўлая і літаратурнай Слонімшчыны з'явіўся зноў. Хочацца спадзявацца, што гэта ўжо надоўга.

# ПРА ПЕРШАЕ КАХАННЕ ВАЛЯНЦІНА ТАЎЛАЯ

Нядаўна сланімчанка Вера Кузьмінічна Кулак перадала мне фотаздымачак. На ім адлюстраваны партрэт беларускага паэта Валянціна Таўлая. На адваротным баку здымка напісана: «На добрую памятку Тоні К. ад Валянціна Таўлая. Рудаўка. 19.VIII.1929».

Сам па сабе здымачак арыгінальны. Але ж паўстае пытанне: хто ж гэта такая Тоня К.? Што за прыгажуня, якой ужо вядомы на той час паэт дараваў свой фотаздымак і прысвячаў вершы, напісаныя ў Рудаўцы і ў Слоніме:

Не гаруй — надарвеш толькі грудзі,
Без пары жаўрука не кляні:
Серабром аб замерзлыя груды
Жаўруковае сэрца звініць…

Тоня К. — гэта дзяўчына з вёскі Рудаўка Слонімскага павета — Антаніна Кулак. Яна на тры гады была старэйшая за Валянціна. У Рудаўцы прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Валянціна Таўлая. Там прыйшло да яго і першае каханне — Тоня Кулак. Чым жа ён запомніўся Антаніне Кулак? Чаму яна выбрала менавіта яго, Валю? Валя, так у вёсцы ўсе называлі Валянціна Таўлая, быў прыгожы, гаваркі, адукаваны. Ён вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, а калі прыязджаў у Рудаўку, то прывозіў шмат навінаў, кніг, сябрам чытаў свае вершы. Валя быў завадатарам і арганізатарам моладзі. Яго слухалі, любілі, ішлі за ім.

Хлопцы і дзяўчаты з Рудаўкі і суседняй Вялікай Кракоткі, падахвочаныя Валянцінам Таўлаем, змагаліся за сваю беларускую школу, пісалі дэкларацыі, складалі заявы, а ў 1927 годзе заснавалі Вялікакракоцкую беларускую бібліятэку — асяродак нацыянальнага руху.

Антаніне Кулак свой фотаздымак Валянцін Таўлай падараваў 19 жніўня 1929 года. А 29 жніўня 1929 года ў слонімскай дэфензіве з’явіўся фотаздымак паэта з ганебнай арыштанцкай дошкай на грудзях. Валянцін, напэўна, прадчуваў арышт, таму і напісаў каханай дзяўчыне: «На памятку…» Але ў турме ён думаў пра каханую:

Кожную ноч салавейка пяяў,
Зоры глядзелі у вочы.
Дзе ж ты сягоння, дзяўчына мая?
Дзе ж вы, шчаслівыя ночы?..

А вось як напісаў Мікола Арочка ў сваёй кнізе «Валянцін Таўлай» (Мінск, 1969): «На мулкіх астрожных нарах малады паэт не знаходзіў сабе месца ад успамінаў пра «салаўіныя ночы» і дзявочыя рукі. Як шчасліва яму мроілася, калі ён зноў бачыў сябе з ёй, зграбнай, усмешлівай, самай прыгожай з усіх рудаўскіх дзяўчат — з Тоняй Кулак. Там, на волі, дзе,

здавалася, яго ўсяго забірала праца падполля, усё ж хапала начэй і на «сцежкі ў жытным», на пяшчотную радасць быць поруч з ёй…».

Тоня кахала Валянціна. Але так здарылася, што сям'я Антаніны Кулак пераехала ў вёску Вішава Слонімскага павета. Бацька яе Кузьма Андрэевіч Кулак працаваў на чыгунцы брыгадзірам будаўнікоў, таму прыходзілася мяняць месца жыхарства. Вёска Вішава даволі далёка знаходзілася ад вёскі Рудаўка, зусім у іншым канцы павета. Там, у Вішаве, да Тоні пасватаўся мясцовы юнак Віктар Бараноўскі. Бацькі пачалі рыхтавацца да вяселля і нават купілі дачцэ вэлюм. І раптам Тоня атрымлівае пісьмо ад Валянціна Таўлая, які прасіў яе не выходзіць замуж за Віктара. Прачытаўшы ліст ад свайго былога сябра, Тоня заявіла бацькам, што вяселля не будзе, што яна паедзе ў Рудаўку. І бацькі не пярэчылі дачцэ, а Кузьма Андрэевіч на возе неяк адвёз дзяўчыну ў Рудаўку…

Але пазней лёсы Антаніны Кулак і Валянціна Таўлая разышліся. У снежні 1932 года паэта з Савецкай Беларусі, куды ён перабег ратуючыся ад чарговага арышту, накіроўваюць у Варшаву для падпольнай работы. У дарозе Валянціна заўважылі шпікі, але яму ўдалося на хаду саскочыць з цягніка і да канца зімы хавацца ў гумне ў Рудаўцы. Тоні перадалі сябры, што Валянцін у Рудаўцы. Яна яго вельмі чакала, але каханы да яе чамусьці не прыйшоў. Чаму — застаецца загадкай: ці то баяўся арышту, ці то не хацеў падстаўляць дзяўчыну, ці была нейкая іншая прычына.

У 1933 годзе Антаніна Кулак выйшла замуж за Браніслава Гародку, які тады працаваў настаўнікам у Рудаўцы. Браніслава хутка мабілізавалі ў Войска Польскае. Ён ваяваў з немцамі, нават трапіў да іх у палон. З палону яго вызвалілі англічане. Але пасля вайны Браніслаў Гародка на Слонімшчыну ўжо не вярнуўся, ён застаўся жыць у Польшчы ў горадзе Чэнстахова. У 1946 годзе да яго пераехала і жонка Антаніна Кулак.

Малодшая родная сястра Антаніны Вера, якая жыве ў Слоніме, сказала, што апошні раз яна наведала сястру ў Польшчы ў 1999 годзе. Як толькі ўвайшла ў яе кватэру, Тоня адразу спытала: «А ці прывезла ты кнігу вершаў Валі Таўлая?»…

Антаніна Кулак пражыла 89 гадоў. Яна ўсё жыццё кахала Валянціна і помніла пра яго. А ў сямейным альбоме захоўвала і фотаздымачак юнага Таўлая з аўтографам. І калі Валянціна ад'язджала на Беларусь, Тоня дастала з альбома здымак і перадала яго сястры: «Вазьмі, Вера, гэты фотаздымак. Няхай ён вяртаецца на Беларусь, на бацькоўскую зямлю. Я яго тут берагла, няхай цяпер ён зберагаецца дома. Там ён не прападзе».

Вера абняла Тоню на развітанне і заўважыла, як з вачэй старэйшай сястры паліліся слёзы.

Першае каханне Валянціна Таўлая Антаніна Кулак памерла ў 2000 годзе і пахавана побач з мужам Браніславам Гародкам на могілках у Лодзі.

# ВАСІЛЬКОВЫ РОССЫП ПАЭТА

У крывавую хвалю сталінскага генацыду ў 1936 годзе трапіў і мой зямляк са Слоніма паэт Сяргей Дарожны (Серада Сяргей Міхайлавіч). Ён быў арыштаваны ў канцы жніўня ў Мінску проста на кватэры, дзе пражываў на Першым беларускім завулку 3-А. Праз год органы НКУС асудзілі паэта за тое, што ён быў «членам антысавецкай нацдэмаўскай арганізацыі», на 8 гадоў…

Па крупінцы збіраю звесткі пра Сяргея Дарожнага. Магчыма, некалі напішацца пра яго асобная кніга. У пошуках матэрыялаў пра свайго земляка мне шмат дапамагалі беларускія пісьменнікі Васіль Хомчанка, Павел Пруднікаў, Станіслаў Шушкевіч, Максім Лужанін, Сяргей Грахоўскі, якія добра ведалі паэта пры жыцці. Але цяпер ужо няма ў жывых і гэтых літаратараў. Засталіся толькі іх пісьмы да мяне, згадкі, успаміны, некаторыя здымкі. Васіль Хомчанка 8 ліпеня 1988 года пісаў мне: «Я Сяргея Дарожнага ў 1940 годзе сустрэў у лагеры (Ніжне-Амурскі лагер). З ім разам быў у калоніі, ці лагпункце, да 5 красавіка 1941 года. Я вызваліўся, а ён застаўся. Сястра Дарожнага, якая жыве ў Мінску, сказала, што Сяргей памёр у 1943 годзе ў калоніі ад запалення лёгкіх — так ёй паведамілі. Але гэтаму я мала веру. Сяргей, відаць, памёр ад голаду і ад цяжкай працы…».

Магчыма, і так. Паэта не стала летам 1943 года ў Камсамольску-на-Амуры (Расія). Па хадайніцтву сястры Сяргея Надзеі Юшкевіч, ён быў рэабілітаваны прэзідыумам Вярхоўнага суда БССР 29 снежня 1957 года і ўзноўлены ў Саюзе пісьменнікаў.

На Слонімшчыне людзі кажуць: калі нарадзіўся няшчасным, то няшчасным і памрэш. Так было і з Сяргеем Дарожным. Нарадзіўся ён у Слоніме ў сям’і вайскоўца 25 лютага 1909 года. Калі пачалася Першая сусветная вайна, бацьку забралі на фронт, скуль ён ужо ніколі не вярнуўся. А маці Сяргея з чацьвярыма дзяцьмі была эвакуіравана аж у Варонеж. Дамоў вярнуліся толькі ў 1918 годзе. Але вярнуліся не ў Слонім, а ў вёску Ляскавічы Петрыкаўскага раёна Гомельскай вобласці. Маці было цяжка адной гадаваць дзяцей, таму Сяргея, Марыю і Надзею яна аформіла ў Мазырскі дзіцячы дом, а з малодшай дачкой засталася жыць у вёсцы. «Мама нам не дапамагала, бо сама хадзіла па вёсках і жабравала», — пісала мне ў лісце 17 ліпеня 1989 года Надзея Юшкевіч — родная сястра Сяргея Дарожнага.

У 1924 годзе Сяргей скончыў сямігодку і паступіў ў Мінскі беларускі педтэхнікум, а з трэцяга курса перавёўся на літаратурна-лінгвістычнае аддзяленне педагагічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта.

У адзін са шчаслівых дзён 1925 года Сяргей Серада прынёс у рэдакцыю газеты «Беларуская вёска» сшытак сваіх вершаў. Загадчыкам літаратурнага аддзела газеты быў тады Кузьма Чорны, які папрасіў юнака пачытаць яму свае радкі. І Сяргей пачаў:

Беларусь больш не стане крыжам
Пры дарозе, з Хрыстом распятым…

Калі гэтыя радкі пачуў Кузьма Чорны, то вельмі расчуліўся, бо дужа спадабаліся яны слыннаму пісьменніку. А самыя лепшыя паэтычныя творы маладога паэта ён хутка апублікаваў. З той пары вершы Сяргея Дарожнага рэгулярна пачынаюць з'яўляцца ў перыядычным друку. У 1926 годзе ён становіцца сябрам літаратурнага аб'яднання «Маладняк», а потым — «Узвышша». Каля паэту споўнілася 17 гадоў, ён (у сааўтарстве з родным братам Змітрака Бядулі — Ізраілем Плаўнікам) адным з першых сярод сваіх аднакурснікаў выдае свой паэтычны зборнік «Звон вясны». Пасля былі асобныя паэтычныя зборнікі «Васільковы россып» (1929) і «Пракосы на памяць» (1932).

Найбольш за ўсё талент Сяргея Дарожнага раскрыўся ў лірыцы. Ды і сам ён быў вельмі прыгожым хлопцам, якога дужа любілі дзяўчаты. У адным з пісем да аўтара гэтых радкоў пісьменнік Павел Пруднікаў пісаў: «Сяргей Дарожны быў прыгожы, чарнабровы і чорнавалосы, высокі юнак. Заўсёды быў акуратна апрануты. Насіў белую сарочку з накрухмаленым каўнерыкам і чорны гальштук. Ніколі не хваліўся сваімі поспехамі. Любіў і цаніў сяброўства. Аднойчы на шклозаводзе ў Барысаве мы наладзілі літаратурны вечар. Былі я, Сяргей Дарожны, Мікола Нікановіч, Клім Грыневіч, Віктар Казлоўскі, Змітрок Астапенка. Калі ў заключэнне вечарыны выступіў наш галоўнакамандуючы — Сяргей Дарожны — і прачытаў свой верш «Белымі пялёсткамі», зала грымела. Апладысменты не змаўкалі, яго прасілі чытаць і чытаць». А паслухаць моладзі тады было што. І такое яна любіла:

Пасінела неба раніцой над гаем,
Пасінела рана —
Скрозь.
А сягоння любая у мяне другая,
Ў залатым убранні,
Ля бяроз…

Вельмі папулярнай ў 1930-я гады была на Беларусі песня Сяргея Дарожнага «Нявеста». Яна амаль штодня гучала па радыё, яе спявалі многія беларускія хары…

Рыхтаваўся да друку і чацвёрты зборнік вершаў паэта са Слоніма, але выйсці не паспеў. Сяргей Дарожны назаўсёды застаўся 34-гадовым у далёкай расійскай глыбінцы, многа чаго не дагаварыўшы ў сваіх песнях. Яго асабовая справа № 9935-С знаходзіцца ў архіве КДБ Беларусі за сямю пячацямі.

# ЖЫЎ РОДНАЙ ПЕСНЯЙ

## З Мяльканавіч да Лунінца

На Беларусі няма ніводнага такога кутка, які б не меў сваіх слаўных сыноў ці дачок, імёны якіх навечна звязаны са сваёй маленькай радзімай. Сярод іх пачэснае месца на Слонімшчыне займае беларускі кампазітар, музыкант, харавы дырыжор, педагог, заслужаны работнік культуры Беларусі Антон Валынчык (1896–1985), які нарадзіўся ў вёсцы Мяльканавічы. Сама вёска знаходзіцца недалёка ад Слоніма. Упершыню яна ўпамінаецца ў XVI стагоддзі як сяло, цэнтр Мяльканавіцкага войтаўства, дзяржаўная ўласнасць у Слонімскім старостве Вялікага Княства Літоўскага.

У 1852 годзе ў Мяльканавічах было адкрыта народнае вучылішча, якое скончыў бацька Антона Міхась Валынчык. У сям'і Валынчыкаў было некалькі сыноў. Адзін з іх у 1920–1930-х гадах займаўся палітыкай. Польскія ўлады яго арыштавалі і трымалі за кратамі. А калі юнак моцна захварэў на сухоты, выпусцілі на волю, дзе праз некалькі месяцаў ён памёр. Аб гэтым казаў на мітынгу ў Мяльканавіч у верасні 1939 года сам Міхась Валынчык. «Мне было 9 гадоў. Але я памятаю той мітынг і бацьку Антона Валынчыка — высокага, худога. І памятаю таксама ягоныя словы пра сына», — сказаў неяк пры сустрэчы мне кандыдат філалагічных навук, перакладчык Уладзімір Сакалоўскі, які таксама родам з Мяльканавіч.

Другі сын Міхася Валынчыка Антон нарадзіўся 23 ліпеня 1896 года ў Мяльканавічах. У 1910 годзе хлопчык скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча. Гэта вучылішча рыхтавала хлопцаў на дзякаў, кіраўнікоў царкоўных хароў і настаўнікаў парафіяльных школ. Спевы і ігра на музычных інструментах былі там на першым месцы. Менавіта ў вучылішчы Антон Валынчык навучыўся добра іграць на скрыпцы.

Пасля заканчэння вучылішча займаўся на двухгадовых настаўніцкіх курсах у Гродне. Там, у горадзе над Нёмнам, ён таксама браў урокі музыкі ў кампазітара Банькоўскага.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, Антон Валынчык быў мабілізаваны на вайну. У вольны ад баёў час малады салдат уладкаваўся яшчэ рэгентам вялікага салдацкага хору рускай арміі.

Калі сын знаходзіўся на фронце, ягоныя бацькі з роднай вёскі Мяльканавічы былі эвакуіраваныя ў Курскую вобласць Расіі. Пасля вайны Антон паехаў да іх, але там яму не спадабалася, і ён хутка вярнуўся на Бацькаўшчыну. З цягам часу дамоў прыехалі і яго бацькі.

Па дарозе на Беларусь Антон спыніўся ў Ветцы і знайшоў працу на будоўлі ў аднаго багатага чалавека. Калі дом пабудавалі, ён вырашыў завітаць у Гомель. Вельмі хацелася хлопцу спяваць. Ідзе па Гомелі і бачыць цэркаўку. Зайшоў туды. Чуе — там спяваюць, але тэнары вельмі слабыя. Вырашыў ім дапамагчы. Непрыкметна зайшоў на клірас. Пасля будоўлі сам — брудны, замучаны. Усе ў царкве сталі на яго пазіраць. А ён як заспяваў!..

Пасля службы да Антона Валынчыка падышлі некалькі святароў і пытаюцца: «Хто ты такі?» — «Проста рабочы», — адказвае Антон. Святары не вераць. «Вось мае рабочыя рукі», — паказвае ім юнак (З аўтабіяграфіі Антона Валынчыка, якая захоўваецца ў музеі гісторыі Клеччыны).

Яшчэ некалькі хвілін з ім гутарылі святары, але канкрэтных прапаноў ад іх Антону так і не паступіла. Ён зноў вярнуўся ў Ветку. Працаваў там да зімы. А ў адзін з марозных дзён у горад на санях прыехаў святар і забраў Валынчыка ў Гомель. Яго прывезлі ў вялікі горад, напаілі гарбаткай і паклалі спаць. На другі дзень гаспадар кватэры, дзе начаваў Антон, апрануў яго ў свой касцюм і павёў у галоўнае ўпраўленне таварыства Чырвонага Крыжа. Там хлопец сустракае начальніка цягніка Чырвонага Крыжа, які яго нядаўна вёз са Смаленска ў Гомель. Гэты начальнік запрашае слонімскага юнака на працу статыстам ва ўпраўленне Чырвонага Крыжа. І Антон Валынчык з радасцю пагаджаецца.

Тут ён з цягам часу знаёміцца з харавым дырыжорам Аляксандрам Ягоравым, які пазней стане прафесарам Ленінградскай кансерваторыі. Гэта знаёмства перарасло ў асабістае сяброўства, а работа ў хоры пад кіраўніцтвам Ягорава вельмі шмат дала Валынчыку як музыканту. Цікавыя сустрэчы ў Гомелі адбываюцца ў Валынчыка з кампазітарамі Туранковым, Аляксандравым і іншымі. У іх малады Валынчык вучыцца дырыжыраванню і музыцы ў цэлым.

У 1919 годзе Антон Валынчык вырашыў вярнуцца на родную Слонімшчыну. Але ў раёне Лунінца ён трапляе ў паласу ваенных дзеянняў, якія распачаліся паміж польскімі і савецкімі войскамі. А 10 ліпеня 1919 года Лунінец поўнасцю занялі палякі, і юнак нечакана становіцца грамадзянінам іншай дзяржавы.

Там, у Лунінцы, Валынчык хутка атрымлівае дыплом настаўніка народных вучылішчаў і да 1924 года працуе ў прыватным рускім рэальным вучылішчы настаўнікам.

Лунінецкае прыватнае рускае рэальнае вучылішча да 1917 года было чыгуначнай школай. Але палякі яе зачынілі. Тым не менш на той час у Лунінцы было шмат рускіх, якія стварылі рускае дабрачыннае таварыства. Гэтае таварыства было даволі актыўным. Яно мела ў Лунінцы сваю бібліятэку, выпісвала рускія газеты і часопісы з іншых краін, актыўна падтрымлівала сувязі з рускімі арганізацыямі ў многіх гарадах Польшчы. Але польскія ўлады перашкаджалі прарускай дзейнасці. І ўсё ж актывісты рускага дабрачыннага таварыства намаганнямі фундатараў ствараюць у Лунінцы рускае прыватнае рэальнае вучылішча, якое польскія ўлады называлі «гняздом бальшавізму». У гэтае «гняздо бальшавізму» трапіў і Антон Валынчык. Ён выкладаў там спевы і адначасова быў рэгентам у мясцовай царкве. Менавіта ў Лунінцы Антон Валынчык пачаў больш сур’ёзна разважаць пра жыццё, Бацькаўшчыну і пра родную мову і культуру. Ён палічыў сваім абавязкам дапамагаць менавіта беларусам, а не рускім, і перш за ўсё беларускай моладзі, актыўна далучацца на свету нацыянальнай музыкі. І вырашыў, што рабіць гэта трэба на кожным уроку спеваў, на кожнай рэпетыцыі харавых гурткоў для дарослых. Рабіць цярпліва,

настойліва і апантана. І ён старанна рабіў, працаваў, шукаў. З Лунінца пачаліся самыя актыўныя гады яго музычна-асветніцкай дзейнасці. Пра яго прафесійную педагагічную і музычную дзейнасць ведалі ўжо многія настаўнікі Заходняй Беларусі. А ў 1924 годзе дырэкцыя Клецкай беларускай гімназіі запрасіла Антона Валынчыка да сябе на працу. І ён пагадзіўся.

## У Клецкай беларускай гімназіі

Клецкая беларуская гімназія была арганізавана і пачала сваю працу ў 1923 годзе ў Нясвіжы. Напачатку былі адчынены чатыры класы. Гімназія знаходзілася на Альбянскай вуліцы ў доме Дылеўскіх. Першымі настаўнікамі гімназіі былі Рыгор Якубёнак, Франц Шнаркевіч, Вячаслаў Арэнь, Ганна Малойла.

Але ў Нясвіжы гімназія праіснавала толькі адзін год. У 1924 годзе яна перабралася ў Клецк. Спачатку гімназія знаходзілася ў доме Паповічаў у канцы Нясвіжскай вуліцы. Было адчынена пяць класаў. Дырэктарам гімназіі быў Рыгор Якубёнак. І тыя настаўнікі, якія працавалі ў Нясвіжы, таксама пераехалі ў Клецк, акрамя Шнаркевіча, які падаўся ў Вільню.

У 1926 годзе Рыгору Якубёнку ўдалося наняць памяшканне на Татарскай вуліцы, куды і пераехала гімназія. У ёй вучылася пераважна сялянская моладзь з ваколіцаў Клецка, а таксама вучні з Нясвіжскага, Баранавіцкага, Лунінецкага і Слонімскага паветаў. Невялікую колькасць вучняў складалі дзеці святароў і дзякаў.

Плата за вучобу ў гімназіі была невялікая. Ды і то аплочвалася вучнямі не вельмі рэгулярна, бо вучылася там сялянская бедната. Таму дырэкцыя гімназіі мела вялікія матэрыяльныя клопаты, а настаўнікі-беларусы працавалі ахвярна, зарабляючы часам толькі па 50 злотых у месяц, а гэтых фінансаў хапала толькі на харчаванне і плату за жыллё. Ахвярна працаваў і дырэктар гімназіі Рыгор Якубёнак. Ён выкладаў у старэйшых класах матэматыку, роднае слова і гімнастыку. Акрамя гэтага знаходзіў час на працу ў сталярцы, дзе сам асабіста рамантаваў вокны, дзверы, парты.

Адносіны паміж вучнямі і настаўнікамі былі ў гімназіі вельмі шчырымі. Гэта была адна сям’я. Вучні вельмі добра разумелі ахвярную працу настаўнікаў. Клецкая беларуская гімназія тады была сапраўднай кузняй беларускага нацыянальнага выхавання.

У гімназіі існавалі літаратурны і драматычны гурткі, хор і аркестр. Тут вельмі часта ладзіліся розныя мерапрыемствы. Асабліва ўрачыста адзначаліся святкаванні 25 Сакавіка — Дня Беларускай Народнай Рэспублікі. Вось як згадвае пра свята нехта В. К. у газеце «Беларус» за 1964 год: «25-га сакавіка 1929 года. Прыгожае сонечнае надвор’е. У Клецкай беларускай гімназіі вольны дзень ад навукі, але ў пакоі чацвёртага класа кіпіць гарачая праца. Вучні старэйшых класаў прыйшлі ўпрыгожыць залу да ўрачыстай акадэміі. На фронце залы крывіцкая Пагоня заняла сваё пачэснае месца. Паабапал яе два бел-чырвона-белыя сцягі. Пад Пагоняй вялікі надпіс: «Няхай жыве Беларуская Народная Рэспубліка!». Вакол на

сценах прыбраныя партрэты беларускіх паэтаў і пісьменнікаў: Купалы, Коласа, Багдановіча, Гаруна, Бядулі і іншых.

Угодкі незалежнасці Беларусі ўрачыста святкаваліся гімназіяй штогод. Ад пачатку яе заснавання. Але 1929 год адзначаўся асабліва ўрачыста па дзвюх прычынах. Першая: у гэтым годзе рыхтаваўся выпуск 16 васьмікласнікаў, у тым ліку і аўтар гэтых успамінаў. Другая: у той час Клецкая беларуская гімназія мела добры струнны аркестр і надзвычайна моцны і прыгожы хор пад кіраўніцтвам вядомага беларускага дырыгента-кампазітара Антона Валынчыка.

У дзве гадзіны дня пачалася акадэмія. Паміж грамады 180 вучняў прайшоў педагагічны персанал, які заняў месца ў прэзідыуме… Акадэмію адкрыў дырэктар гімназіі Рыгор Якубёнак, які каратка праінфармаваў усіх аб беларускім свяце незалежнасці. Магутны і прыгожы хор выканаў нацыянальны гімн «Не пагаснуць зоркі ў небе…». Глыбока запалі ў душу моладзі словы «Не загіне край забраны, пакуль будуць людзі». Пасля гімна дырэктар расказаў аб гістарычных падзеях і Акце 25 Сакавіка.

Пасля ўрачыстай часткі пачаўся канцэрт. Моцна гучаць песні Антона Валынчыка, напісаныя ім у Клецку. Гэта такія песні, як «За праўду», «Устаньце, хлопцы», «Не бядуй», чароўная сваім выкананнем песня «Ліпы старыя» і іншыя. Песні перапляталіся дэкламацыямі патрыятычных вершаў беларускіх паэтаў. Акадэмія скончылася кароткім словам дырэктара…» (Беларус, 1964. № 84).

У Клецкай беларускай гімназіі Антон Валынчык першым чынам узяўся за арганізацыю хору. І яму гэта ўдалося. Хор налічваў 60 вучняў (Віці. 1957. № 1/10. С. 14).

За тры месяцы працы Валынчыку ўдалося наладзіць у гімназіі першае выступленне хору. Дасканала выкананыя беларускія песні, пераважна самога кампазітара і дырыжора, мелі вялікі поспех. Пры дапамозе хору гімназія праводзіла шырокую нацыянальна-культурную працу як у самім Клецку, так і ў навакольных вёсках. А ў 1928 годзе Антон Валынчык арганізаваў у гімназіі яшчэ і струнны аркестр, які налічваў 50 чалавек. Часта наладжваліся канцэрты, выступленні, гастролі, а грошы папаўнялі пустую касу гімназіі.

Пяцігадовая праца ў Клецкай беларускай гімназіі для Антона Валынчыка была самым шчаслівым перыядам яго жыцця. «У мяне назаўжды ў памяці Клецкая гімназія. Там неяк усё было па-асабліваму, там выкладчыкі і навучэнцы жылі адной сям'ёй — душа ў душу. Якубёнак… гэта быў цудоўны, рэдкі, дзівосны, непараўнаны чалавек, папраўдзе родны бацька дзецям. Ён аддаў ім душу, час, сродкі, усе свае здольнасці, думкі і мары. Я з дзецьмі займаўся хорам, мы ставілі драмы, у гімназіі быў аркестр. Валодзя Гуль — кантрабасіст, актывісты хору — Мароз, Шыдлоўскі… Арэнь Барыс — цудоўны бас, Валя Тычына — альт… Але ў гімназію пастаянна прысылалі паганых інспектараў. Мэтай было закрыццё гімназіі. Памятаю, у 1929 годзе прыслалі паганых інспектараў. Мэтай было закрыццё гімназіі. Памятаю, у 1929 годзе прыслалі з Віленскага куратарыума інспектара Мяноўскага — вельмі гадкага чалавека. Хадзіў на ўрокі, прыдзіраўся да

дробязей, даводзіў выкладчыкаў да непрытомнасці. А я даведаўся, што ён украінец… І вечарам мы як далі яму канцэрт на паўгадзіны! Праспявалі і знакамітую «Кобзу» Давыдоўскага, і «Відзьма». Ну, і беларускія таксама: «Ліпы старыя», «Касцы» (Гэту песню на словы Якуба Коласа называлі па-рознаму: «Касцы», «Ідуць касцы», «На сенажаці») (гэта мае), народных вельмі многа. Ведаеце, «Ліпы старыя» я пісаў у 1927 годзе, калі быў страшна хворы, з высокай тэмпературай, у стане трызнення. Лепшая мая рэч… А наконт Мяноўскага… Мабыць, здолелі мы яго праняць да душы. Ён нават расчуліўся і доўга дзякаваў. І галоўнае — ніякіх дрэнных наступстваў візіту! А наогул у гімназіі спявалі многа, ахвотна. Спявалі і мае: «Як на свет нарадзіўся Янка», «Зайшло ўжо сонейка», «За праўду», «Устаньце, хлопцы»… Усё ж такі гэта быў цудоўны час…», — прыгадваў у сваіх успамінах Антон Валынчык (Памяць. Клецкі раён: Гісторыка-дакументальныя хронікі гарадоў і раёнаў Беларусі. Мінск, 1999. С. 205–206).

У пачатку 1990-х гадоў неяк пры сустрэчы запытаўся ў слонімскага паэта Анатоля Іверс (Івана Дарафеевіча Міско) пра Антона Валынчыка. Тым больш, што паэт ў канцы 1920-х гадоў вучыўся ў Клецкай беларускай гімназіі. Іван Дарафеевіч, падумаўшы, пагадзіўся мне расказаць пра свае сустрэчы з Антонам Міхайлавічам. «Зіма 1929 года была снежная і марозная, — пачаў успамінаць Анатоль Іверс. — Я паехаў на вучобу ў Клецк. Выйшлі мы з цягніка на станцыі Ляхавічы і, узяўшы з сабой чамаданы, пайшлі шукаць падводу, каб даехаць да Клецка. Селі мы, двое выгнаннікаў з Віленскай беларускай гімназіі (Паэт Анатоль Іверс (1912–1999) летам 1926 года паступіў у Віленскую беларускую гімназію, але ў 1928 годзе ён быў выключаны з гімназіі за актыўную камсамольскую падпольную дзейнасць. Вучобу працягваў у Клецкай і Навагрудскай беларускіх гімназіях, але закончыць поўны курс навучання польскія ўлады так і не далі. — *С. Ч.*), у буду, наставілі каўняры і рушылі ў дарогу. У галаву лезлі невясёлыя думкі: як там сустрэнуць, ці прымуць? «Ідзіце на Слабадскую вуліцу, — адказаў дзядзька, — знойдзеце хату Івана Нікановіча, там будзе інтэрнат». Мы трапілі, як кажуць, з карабля на баль. Гімназісты вельмі ветліва сустрэлі нас, не далі нават як след абагрэцца і павялі на ёлку. У зале пачаўся канцэрт мастацкай самадзейнасці. Хор пад кіраўніцтвам настаўніка спеваў Антона Міхайлавіча Валынчыка выконваў цудоўныя, дагэтуль не чутыя беларускія песні «За праўду, за шчасце», «Як на свет радзіўся Янка» Янкі Купалы, «Ліпы старыя» на словы Якуба Коласа, «Я люблю густыя шумы», «Вечарам» на словы Уладзіміра Жылкі і іншыя. Гэтыя песні мяне тады заваражылі. Колькі ў іх было душэўнай прыгажосці! Але тады я яшчэ не ведаў, што музыку да вершаў беларускіх паэтаў напісаў Антон Міхайлавіч. І не ведаў таго, што ён быў маім земляком з вёскі Мяльканавічы Слонімскага павета.

Другая сустрэча з Антонам Валынчыкам адбылася ў мяне ў Гродне. Будучы аднойчы там, захацелася мне наведаць земляка. Пастукаў у дзверы Гродзенскага педінстытута, на якіх красавалася дошчачка з надпісам «Кафедра музыкі і спеваў».

— Заходзь, заходзь! — пачуўся знаёмы голас.

Прывітаўшыся, я пажартаваў:

— Хачу ўзяць інтэрв'ю.

— Можна, можна. — І Антон Міхайлавіч расказаў аб сваёй працы…

З яго слоў я даведаўся, што кампазітар напісаў музыку да многіх вершаў беларускіх паэтаў, і найбольш — на тэксты Янкі Купалы і Якуба Коласа. Сабраў і апрацаваў тады каля пяцідзесяці беларускіх народных песень. А Ленінградскі завод запісаў на пласцінкі ў выкананні беларускай Дзяржаўнай капэлы яго песні «Ліпы старыя» і «Ідуць касцы».

Трэцяя сустрэча з маім земляком адбылася ў Мінску, дзе праходзілі дні Гродзенскай вобласці. Ішоў заключны канцэрт. Выступалі ўсё новыя і новыя мастацкія калектывы. І вось на сцэне пачаў выступаць хор гродзенскіх настаўнікаў на чале са сваім кіраўніком. І паліліся песні «Люблю наш край» і «Як на свет радзіўся Янка». Тыя самыя песні, што давялося чуць у дзяцінстве. Было столькі ў зале апладысментаў, што я ніколі больш у сваім жыцці не чуў, каб каму так апладзіравалі…».

Цёпла і шчыра пра Антона Валынчыка прыгадваў і былы выкладчык беларускай мовы ў малодшых класах Клецкай беларускай гімназіі Аляксей Кішкель. Аб гэтым згадваў у сваіх успамінах заслужаны настаўнік Беларусі Апанас Цыхун: «Амаль кожны дзень мы (маецца на ўвазе Апанас Цыхун і Аляксей Кішкель. — *С. Ч.*) сустракаліся. Кішкель мне вечарамі расказваў пра Клецкую гімназію. Успамінаў настаўнікаў, у тым ліку і Антона Міхайлавіча Валынчыка. Згадваў, у прыватнасці, як кіраваў той вучнёўскім хорам, якім вялікім аўтарытэтам карыстаўся Валынчык сярод беларускага насельніцтва» (Цыхун Апанас. Выкладчыкі Клецкай беларускай гімназіі // Наша слова. 1994. № 26).

У 1929 годзе Антон Валынчык развітаўся з калектывам Клецкай беларускай гімназіі і пераехаў у Навагрудак.

## Праца ў дзвюх гімназіях

Навагрудская беларуская гімназія, куды пасля Клецка прыехаў працаваць Антон Валынчык, існавала з 1919 да 1934 года. Тэрмін навучання ў гімназіі быў 8 гадоў. У ёй выкладаліся беларуская, польская, французская, лацінская, нямецкая мовы, Закон Божы, гісторыя і геаграфія Беларусі і Польшчы, сусветная гісторыя і геаграфія, матэматыка, фізіка, хімія, прыродазнаўства, маляванне, спевы, ручная праца, фізкультура і іншыя прадметы. У сярэдзіне 1920-х гадоў у гімназіі навучалася каля 250 вучняў. Гімназія існавала на сродкі бацькоў, на ахвяраванні грамадскіх арганізацый, на адлічэнні з заробкаў беларускіх паслоў, за кошт вулічных збораў і г. д.

Беларуская гімназія ў Навагрудку мела на мэце падрыхтоўку да паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, захаванне беларускай нацыянальнай самасвядомасці, павышэнне культурнага ўзроўню, павагі да народных звычаяў і традыцый. У гімназіі дзейнічалі самадзейныя ха-

равы, вакальны, танцавальны, літаратурны, драматычны гурткі, аркестр, спартыўныя секцыі. Вучні выдавалі нават свой часопіс на шапірографе.

Вось там да 1934 года Антон Валынчык выкладаў спевы, а таксама арганізаваў хор і аркестр, бадай ці не самы найлепшы ў Заходняй Беларусі. Пра адзін з канцэртаў у Навагрудскай беларускай гімназіі музыказнаўца Ірэна Здановіч тады пісала: «Праграма была вельмі разнастайная. Разнароднасць песень, пераплеценая з канцэртамі на мандалінах і танцамі, пакінула незнішчальнае ўражанне… Цудоўнай была кампазіцыя Валынчыка «Вечарам». На гэтую мелодыю я звярнула ўвагу яшчэ намнога раней. Часта, ідучы вечарам дахаты, я з-за мураў беларускай школы слухала выплываючую адтуль сумную, журботную песню глухога вечара, якая раптам ператваралася ў сімфонію птушынага шчэбету, пошуму лісцяў. Спынялася я тады і доўга ўслухоўвалася ў гэтую дзіўную, нязнаную мелодыю» (Чэмер Андрэй. Наваградзкая беларуская гімназія. Вільнюс, 1997. С. 26–27).

Не толькі талент Антона Валынчыка цанілі музыказнаўцы. Напрыклад, выкладчык музыкі і спеваў Навагрудскай польскай дзяржаўнай гімназіі імя Адама Міцкевіча прафесар Лозінскі вельмі часта прыводзіў свае класы ў беларускую гімназію, каб паслухаць рэпетыцыі хору Валынчыка. Дзеці займалі месца на самых апошніх лаўках і ціха сядзелі да канца рэпетыцыі. Прафесар Лозінскі глыбока шанаваў Антона Валынчыка і шчыра пакланяўся яго самабытнаму таленту. А Андрэй Чэмер згадваў: «Кожнаму, хто сустракаўся з Валынчыкам, назаўсёды запомнілася высокая культура і шчырая спагаднасць гэтага чалавека. Яго сонечны характар нагадвае мне дзядзьку Язэпа Драздовіча і Пётру Сергіевіча. Відаць, гэта адметная рыса вялікіх мастацкіх талентаў».

У чэрвені 1934 года польскія ўлады закрылі Навагрудскую беларускую гімназію. Большасць яе вучняў паехалі працягваць вучобу ў Вільню, а іншыя перайшлі вучыцца ў польскую гімназію імя Адама Міцкевіча. Перайшоў на працу ў польскую гімназію і Антон Валынчык. Аб гэты нават са шкадаваннем пісаў часопіс «Шлях моладзі» (1937. № 1): «Менш, на жаль, маем вестак аб заслужаным працаўніку для беларускай песьні і кампазытару Антоне Валынчыку, вучыцелю беларускай гімназіі ў Навагрудку. Апрача працы пры вядзеньні хору гімназіяльнага і агульнага, А. Валынчык зьяўляецца аўтарам цэлага раду песьняў на словы беларускіх паэтаў, як Колас, Купала, Жылка і г. д. Выступленьні хору і аркестру А. Валынчыка былі ў сваім часе ў Наваградку сапраўднай мастацкай стравай. Над народнай песьняй А. Валынчык не працуе. Апошнім часам, у зьвязку з зачыненьнем беларускай гімназіі ў Наваградку і пераходам А. Валынчыка ў гімназію польскую там жа, творчасць ягоная на ніве беларускай з канешнасьці мусіла агранічыцца. З беларускага пункту гледжаньня вялікая гэта шкода».

Тым не менш Антон Валынчык ад беларускасці ніколі не адыходзіў. Вядомасць і аўтарытэт яго так выраслі, што таленавітага кампазітара запрасілі ў Вільню праводзіць святы студэнцкіх хораў. Здавалася б, былі ўсе падставы замацавацца ў буйным культурным цэнтры. Але Антон

Валынчык выбірае іншы шлях. Сумленне мастака падказвае яму неабходнасць пашыраць свае музычныя веды, і ён уладкоўваецца на вучобу ў Варшаўскую кансерваторыю пры Крамянецкім музычным ліцэі, дзе пад кіраўніцтвам вядомых майстроў Б. Рачкоўскага і К. Сікорскага чатыры гады вывучае сакрэты хормайстарскай справы, фалькларыстыку і гармонію.

У лютым 1925 года ў Варшаўскім універсітэце быў адкрыты багаслоўскі праваслаўны факультэт. Вялікае дачыненне да адкрыцця гэтага факультэта меў мітрапаліт Варшаўскі і ўсяе Польшчы Дзіянісій (Канстанцін Валядзінскі). Сам Канстанцін Валядзінскі быў рускім чалавекам, які скончыў Казанскую духоўную акадэмію. У 1924–1948 гадах кіраваў польскай аўтакефальнай праваслаўнай царквой. Пасля адкрыцця праваслаўнага багаслоўскага факультэта ў Варшаўскім універсітэце быў прафесарам гэтага факультэта.

Аднойчы да Дзіянісія завітаў Антон Валынчык і паказаў яму свае ўласныя царкоўныя музычныя творы з прапановай надрукаваць іх. Уладыка мітрапаліт, спасылаючыся на тое, што не з’яўляецца спецыялістам у царкоўнай музыцы, адмовіў у просьбе Валынчыку. Пры гэтым Дзіянісій дадаў, што і так маецца шмат добрых царкоўных песнапенняў.

Але беларускі кампазітар і дырыжор не пакрыўдзіўся. Пазней, у першыя пасляваенныя гады, Антон Валынчык будзе выкладаць царкоўныя спевы ў Мінскай духоўнай семінарыі ў Жыровічах. Вось толькі дзе падзеліся яго ўсе музычныя царкоўныя творы — пакуль невядома. Барыс Данілюк з ЗША ў лісце да аўтара гэтай кнігі паведаміў неяк, што была інфармацыя аб тым, што частку гэтых твораў нехта выявіў у Вялікабрытаніі.

Вяртаючыся ў Навагрудак, хочацца нагадаць яшчэ адзін выпадак, які згадваў Міхась Шунько — саліст хору Валынчыка: «Восенню 1939 года мы выступалі ў сваёй вёсцы. У праграме канцэрта была песня «Ідуць касцы» Антона Валынчыка на словы Якуба Коласа. Калі выконвалі апошні куплет, харысты нечакана ўзялі ў рукі сярпы і косы, якія загадзя былі падрыхтаваныя, і, падняўшы іх высока над галовамі, з вялікім пад’ёмам праспявалі апошнія радкі:

Касцы, ваякі ціхай працы,
Выходзяць з косамі на пляцы,
І на палоскі верставыя
Кладуцца коскі іх крывыя.

Палякі, якія сядзелі ў зале, атрымалі шок. А беларусы радасна апладзіравалі і нехта нават крыкнуў: «Ура!» (Дзяляціцкая народная харавая капэла. Гродна: АДНТ, 1973. С. 8–9).

## У родным Слоніме

З пачаткам Другой сусветнай вайны Антон Валынчык з сям’ёй пераехаў у родны Слонім. У горадзе над Шчарай ён стаў працаваць настаўнікам спеваў у сярэдняй школе. Але падчас нямецкай акупацыі са школы зрабілі

прагімназію і настаўніцкую семінарыю. І Валынчык, як выбітны майстра спеваў і музыкі, працаваў і ў прагімназіі, і ў настаўніцкай семінарыі. Пра гэты час у Слоніме згадвае ў пісьме да аўтара гэтай кнігі яго былая вучаніца Надзея Дземідовіч: «Антон Валынчык шмат ведаў беларускіх народных песень, вершаў беларускіх паэтаў, пісаў да іх музыку. У палітыку ён далёка не залазіў, і песні падбіраў больш народныя, а таксама пра прыроду свайго краю. Ён быў не ганарыстым, а простым чалавекам, сціплым і даволі разумным. Падчас акупацыі, калі я вучылася, пачала складаць нейкія вершыкі. Аднойчы выпадкова Антон Валынчык зазірнуў у мой сшытак, які ляжаў на лаўцы, дзе я сядзела на занятках. На ўроку ён прамаўчаў, але падчас перапынку на калідоры паклікаў мяне да акна і ціха сказаў: «Ты зразумей, які цяпер час, і памятай, што нельга сёння пісаць і ўзгадваць ні пра бальшавікоў, ні пра немцаў, бо і адны, і другія за гэта могуць нас знішчыць. Пішы аб прыродзе, пра свой край, пра сваю школу, сяброў, складай казкі, яны ў цябе добра атрымліваюцца. Не лезь у палітыку, бо гэта брудная справа, а ты яшчэ малая…» Спадар Антон Валынчык кіраваў хорамі вучняў прагімназіі і настаўніцкай семінарыі, а таксама старэйшых людзей, настаўнікаў і слынных асобаў Слоніма — усіх тых, хто любіў і мог спяваць. У Слоніме дзейнічала праваслаўная царква. Немцы маліцца не забаранялі. Там быў святар, які адпраўляў набажэнствы на рускай мове. Пры царкве быў і дзяк, які кіраваў царкоўным хорам (прозвішча ягонае я не памятаю). Але калі на вялікія святы ў царкве збіралася мноства народу, спадар Валынчык заўсёды быў у царкве, і ўжо не дзяк кіраваў хорам, а Антон Міхайлавіч. У той час мы, вучні, сваіх настаўнікаў і старэйшых людзей па імені і па бацьку нікога не называлі, а проста казалі: спадар Валынчык, спадар Паважынскі, спадарыня Жукава ці спадарыня Заброўская. Вось такі ў той час быў закон, як пры Польшчы — пан, а ў нас у той час — спадар.

Антон Валынчык быў жанаты. Меў дачку, якая, пэўна, на год была маладзейшая за мяне, бо я апошні год пры немцах вучылася ў чацвёртым класе, а яна — у трэцім. Асабіста я з ёю не была знаёмая. Жылі Валынчыкі далёка за вакзалам. Слонім быў яшчэ не разбудаваны, і з цэнтра горада да іх хаты быў добры кавалак дарогі. Каб неяк пражыць, спадар Валынчык вымушаны быў працаваць не толькі ў школах настаўнікам спеваў. Ён прыватна наймаўся да больш заможных людзей вучыць дзяцей музыцы. Яму за гэта бацькі плацілі, дапамагалі. Я ведаю адну сям'ю, дзе ён працаваў і вучыў музыцы дзвюх дзяўчынак. Жылі яны ў мікрараёне Рэзкі ў доме № 1. Гэта Ніна і Зіна Карач. Ніну Антон Валынчык вучыў іграць на скрыпцы, а Зіну — на гітары. Я ў іх кватаравала. А з Нінай вучылася ў адным класе ў прагімназіі, а як выгналі немцаў з Беларусі, мы пайшлі вучыцца ў беларускую школу № 1 у восьмы клас.

У 1944 годзе я неяк спаткала Антона Валынчыка на вуліцы ў Слоніме. Ён вельмі кепска выглядаў — схуднеў, быў апрануты ў нейкі абшморганы, налатаны пінжак. Мы сталі гутарыць, і ён упершыню выказаўся пра немцаў: што яны нашы ворагі, што ад іх усяго можна было чакаць і што тварылі яны — ты сама ведаеш. Цяпер таксама нялёгкі час, але імкніся

вучыцца, нікуды не лезь. На гэтым я са спадаром Валынчыкам развіталася назаўсёды. Чула толькі ад іншых асоб, што ён развёўся з жонкай. А што датычыць некаторых вучняў Антона Валынчыка, дык скажу, што ноччу 13 снежня 1944 года ў Слоніме, як зараз памятаю, пачаліся масавыя арышты НКУС. Ноччу забралі Ніну Карач, я ў іх кватэры была. Мяне шукалі, але не знайшлі, бо жыла ў Ніны Карач, а прыпісана была ў іншых людзей. Пасля арышту Ніны, яе бацькі тэрмінова адправілі мяне дамоў да маіх бацькоў са словамі: «Ідзі, хай робяць, што хочуць, з табой, у нас і так бяды хапае». Я дабралася ў родную вёску. Бацькі даведаліся, у чым справа, і сталі плакаць. Ноччу, каб ніхто не бачыў, тата адвёз мяне на Палессе да сваякоў. Праз некалькі дзён супрацоўнікі НКУС зрабілі ператрус у нас дома, шукалі мяне. Але не здагадаліся мае родныя прыхаваць фотаздымкі і розныя паперы. Частку фотаздымкаў забралі. А што засталося, мама закруціла разам з паперамі і закапала ў склепе ў зямлю, дзе яшчэ не аднойчы шукалі — пароли штыкамі, але не ўдалося ім знайсці мамінай сховы. З цягам часу, калі супрацоўнікі НКУС трохі супакоіліся, мама адправіла мяне да старэйшага брата Мікалая ў Паўночны Казахстан. Тата быў ужо ў ГУЛАГу. Неяк мама хацела перасушыць свае сховы, адкапала, але не было чаго сушыць — за гады фотаздымкі і паперы пажоўклі і згнілі. На тых фотаздымках быў і Антон Валынчык.

Дамоў я вярнулася ў 1965 годзе, але больш сваіх былых школьных сяброў не сустракала, магчыма, не ўсе нават хацелі і бачыцца, акрамя Ніны і Зіны Карач, Ганны Дрочкі ды некаторых яшчэ. Карач Ніны ўжо няма на гэтым свеце, а Зіна Карач жыве ў Слоніме. Яна пра спадара Валынчыка павінна ведаць болей. Прабачце, што я так мала ведаю пра такога выбітнага чалавека, як Антон Міхайлавіч Валынчык. Калі б спаткалася са сваімі былымі слонімцамі, дык разам, мабыць, шмат чаго прыгадалі б. Але ўжо амаль няма нас і няма магчымасці, каб пабыць у Слоніме і сустрэцца з былымі вучнямі нашай школы і былымі сябрамі».

Зінаіду Емяльянаўну Карач (Ломпік) я адшукаў у Слоніме. Але нічым новым пра Антона Валынчыка жанчына мне не дапамагла. Яна толькі сказала, што ён быў яе і сястры Ніны настаўнікам, вучыў іграць на музычных інструментах. Фотаздымкаў у сямейных альбомах Антона Валынчыка не захавалася. «Калі б жыла сястра Ніна, то яна вам расказала б пра Антона Міхайлавіча шмат. А я толькі ведаю, што пасля вайны ён жыў у Гродне», — паведаміла Зінаіда Карач-Ломпік.

У акупаваным немцамі Слоніме Антон Валынчык, як згадаў у адным з пісем да аўтара гэтай кнігі Барыс Данілюк з ЗША, яшчэ ў верасні 1941 года арганізаваў у Народным доме даволі вялікі і добры хор, у якім спявала сястра Надзеі Дземідовіч Марыя і сам Барыс Данілюк. Рэпертуар хору складаўся з кампазіцый самога Валынчыка, такіх, як «Ліпы старыя», прыгожыя вальсы «Вось і паў ужо змрок», «Пусты ўлетку нашы сёлы» ды патрыятычныя і звычайныя песні, як «Устаньце, хлопцы, устаньце, браткі», «Ідуць касцы» і іншыя. «Апрача гэтых песень, удзельнікі хору спявалі творы іншых кампазітараў, такія, як «Не пагаснуць зоркі ў небе» ці не Тэраўскага Уладзіміра, «Вясна, вясна жаданая» Міколы Равенскага,

ды народныя — «А ў лузе каліна…», «Пайшоў мілы лужком, лужком…», «Чачотачка» — усіх не пералічыць. Быў таксама добры жаночы дуэт, што, як помніцца, спяваў «Я люблю густыя шумы» на словы Уладзіміра Жылкі і цудоўную музыку ці не самога Валынчыка. Акрамя працы з хорам, Антон Валынчык выкладаў спевы ў Слонімскай настаўніцкай семінарыі, якая адчынілася, здаецца, напачатку 1942 года і праіснавала да 1944. Кіраваў Валынчык пры немцах і добрым царкоўным хорам у слонімскай Свята-Троіцкай царкве. Гэты хор, між іншым, спяваў на маім з жонкай вяселлі, а Валынчык быў госцем на нашым вяселлі», — успомніў Барыс Данілюк.

Пасля заканчэння вайны Антону Валынчыку ў Слоніме было жыць не проста. Вельмі часта яго наведвалі супрацоўнікі НКУС. Што настаўніка і рэгента выратавала ад арышту — цяжка сказаць. Магчыма, сваякі і сябры, якіх на Слонімшчыне ў яго было шмат. А магчыма, віны ў слонімскага кіраўніка хароў і настаўніка спеваў ніхто так і не знайшоў. Але пасля вайны Антон Міхайлавіч шмат гадоў шукаў працы, у пошуках яе вандраваў па ўсёй Беларусі — працаваў у Маладзечне, Ашмянах, Горках, Мінску, Пухавічах, Іўі, Лідзе, Гродне. Ён заўсёды быў пад пільным вокам КДБ. З часоў Клецкай беларускай гімназіі і да канца свайго жыцця кампазітар і дырыжор насіў кляймо нацыяналіста. Заслужаны настаўнік Беларусі Аляксандр Пасько, які жыве ў Слоніме, прыгадаў, як сустракаўся з Антонам Валынчыкам у гады Другой сусветнай вайны і ў пасляваенны час. «У нашай сям'і пра яго вельмі добра адгукаліся. Дый у Слоніме ўсе казалі пра Антона Валынчыка толькі шчырыя словы. Я памятаю яго падцягнутым, хударлявым, энергічным, ён любіў насіць карычневы плашч і капялюш. Мая родная сястра наведвала хор, якім кіраваў кампазітар. Гэта быў тыповы беларускі інтэлігент, вельмі сціплы, шчыры, размаўляў з намі па-беларуску. Мне здаецца, што ад рэпрэсій яго выратавалі самі выканаўцы. Ім шкада было арыштоўваць і ў чымсьці абвінавачваць гэтага таленавітага і апантанага музыкай чалавека», — сказаў Аляксандр Пасько.

## У Маладзечне

У асабістым лісце па ўліку кадраў Антона Валынчыка, які захоўваецца ў архіве Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы, запісана: 1939–1947 гады — працаваў у слонімскіх сярэдніх школах і настаўніцкай семінарыі. 1947–1949 гады — мастацкі кіраўнік ансамбля славянскай песні і танца ў Ашмянах. 1952–1954 гады — мастацкі кіраўнік Пухавіцкага РДК. 1954–1955 гады — мастацкі кіраўнік сельскагагаспадарчай акадэміі ў Горках Магілёўскай вобласці. 1956–1957 гады — настаўнік спеваў у Пухавіцкай СШ і ў Талькаўскай СШ Мінскай вобласці. 1957–1961 гады — хормайстар Мінскага ансамбля песні і танца ў Маладзечне. З 1961 года — выкладчык кафедры спеваў і музыкі Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы (Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. Асабістыя справы звольненых выкладчыкаў, 1973–1975, А–К. Т. 1. Л. 207–257).

Найбольш плённа пасля вайны Антону Валынчыку працавалася ў Маладзечне. Ён так захапіўся сваёй працай, што ў вольны ад работы час

адпраўляўся ў дарогу па Беларусі. Кампазітар і хормайстар ездзіў і хадзіў па вёсках і ўсіх, хто любіў музыку, клікаў у свой ансамбль у Маладзечне.

Аднойчы прыехаў у Пінск. Ідзе па адной з вуліц і чуе, аднекуль даносіцца песня. Цудоўны дзявочы галасок спяваў: «Ой, рэчанька, рэчанька…». Антон Міхайлавіч уважліва прыслухаўся і накіраваўся туды, адкуль лілася песня. Зайшоў ў маленькую кавярню і спыніўся каля ўваходу. Там нікога не было, акрамя адной дзяўчынкі. Яна прыбірала са сталоў посуд і спявала. Убачыўшы незнаёмага мужчыну, дзяўчынка збянтэжылася і спыніла песню. «Спявай, спявай. Гэта вельмі прыгожа», — сказаў ёй Антон Міхайлавіч. І яна зноў заспявала. А калі скончыла пець, ён звярнуўся да яе з пытаннем: «А можа, у наш ансамбль пойдзеш?» І дзяўчына пагадзілася.

Так папаўняўся калектыў у Маладзечне. Хутка ў ім было 40 юнакоў і дзяўчат, якія прыйшлі туды, як кажуць, з гушчы народнай. Праз некалькі месяцаў пасля таго, як Мінскі міжабласны ансамбль песні і танца ў Маладзечне ўзначаліў Антон Валынчык, калектыў выступіў з першай праграмай. Потым былі паспяховыя выступленні па Беларусі, у Прыбалтыцы, на Украіне. І ўсюды ўдзячныя гледачы ўзнагароджвалі калектыў з Маладзечна апладысментамі і кветкамі. У той час Антон Валынчык атрымаў першую Ганаровую грамату за развіццё самадзейнага мастацтва рэспублікі і актыўны ўдзел у ім.

Пра Антона Валынчыка ў Маладзечне ўспомніў заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь, ганаровы грамадзянін горада Маладзечна, мастацкі кіраўнік ансамбля песні і танца «Спадчына» дзяржаўнай установы «Палац культуры г. Маладзечна» Іосіф Сушко: «З Антонам Міхайлавічам Валынчыкам я пазнаёміўся ажно ў 1956 годзе, калі ён працаваў хормайстрам у прафесійным ансамблі песні і танца «Партызанскі». Гэты ансамбль быў заснаваны яшчэ ў 1943 годзе ў партызанскай зоне Мядзельшчыны. У тыя 1950-я гады я працаваў мастацкім кіраўніком у клубе ў гарадскім пасёлку Варапаева. А ансамбль «Партызанскі» быў частым госцем у нашым клубе. Тут я з Валынчыкам і пазнаёміўся. Пачынаючы з 1955 года ў Маладзечанскай вобласці штогод праходзілі агляды аматарскіх калектываў. Лепшыя нумары адбіраліся на заключны канцэрт, дзе галоўным дырыжорам быў Антон Валынчык.

Антон Міхайлавіч развучваў партыі пад сваю скрыпачку, на якой ён даваў абсалютную інтанацыю для голасу, а дзе было патрэбна — дырыжыраваў смычком. Ён ніколі не павышаў голасу на таго, хто няправільна спяваў.

З 1959 года я працаваў метадыстам у абласным Доме народнай творчасці па музыцы і кіраваў Лебедзеўскім хорам, якому ў 1963 годзе было прысвоена званне «народная харавая капэла». Антон Міхайлавіч у гэтыя гады яшчэ кіраваў народным хорам у Вілейскім раёне ў вёсцы Бараўцы. Шмат разоў па яго просьбе я ездзіў з ім на рэпетыцыю і акампаніраваў на баяне ўвесь ягоны рэпертуар. Пасля рэпетыцый ці канцэртаў мы часам любілі пасядзець, выпіць чарачку, пагутарыць пра мастацтва, пра жыццё, пра духоўнасць. Я любіў яго слухаць, таму што

ён заўсёды казаў праўду, казаў шчыра і адкрыта. Антон Міхайлавіч быў для мяне вялікім аўтарытэтам як музыкант і як чалавек. І вельмі добра адносіўся да мяне. Аднойчы быў такі выпадак. У 1959 годзе Домам народнай творчасці ў Маладзечне быў аб'яўлены конкурс на лепшую песню для свята песні на возеры Нарач, якое праводзілася штогод 3 ліпеня. У гэтым конкурсе ўдзельнічалі Валынчык, Гембіцкі, я і іншыя. Нашы песні адвезлі на прагляд Рыгору Шырму і Генадзю Цітовічу. І хутка для свята была прапанавана мая песня на словы Адама Русака «Слаўся, народ беларускі». Таму што яна была прасцейшай, лягчэйшай, а песня Валынчыка была больш разгорнутай, складанай у харавым плане. Мне напачатку было неяк ніякавата, што ўзялі менавіта маю песню, а не Антона Міхайлавіча. Але ён на мяне зусім не пакрыўдзіўся, наадварот, узяў ноты маёй песні і паказаў мне гарманічныя музычныя памылкі. Я паслухаў яго, пагадзіўся і ўсе памылкі выправіў. Гэтым прыкладам я хачу падкрэсліць добрыя чалавечыя якасці кампазітара Антона Валынчыка.

Жыў ён у Маладзечне на вуліцы Вялікі Гасцінец у маленькім пакойчыку са сваёй мілай жонкай (Антон Валынчык быў жанаты двойчы. — *С. Ч.*). Не так часта, але я там бываў. Потым, калі мы развіталіся, я шмат апрацовак ягоных песень выкарыстоўваў у сваёй «Спадчыне». Яго песні «Сонейка зайшло», «Як на свет радзіўся Янка» дваццаць гадоў былі ў рэпертуары ансамбля песні і танца «Спадчына»…

У маёй памяці Антон Міхайлавіч Валынчык застаўся шчырым і добрым чалавекам, вялікім майстрам харавога мастацтва». (Усе ўспаміны пра Антона Валынчыка запісаныя аўтарам гэтай кнігі восенню 2009 года.)

## З песняй праз жыццё

З 1961 года Антон Валынчык стала жыве ў Гродне. У горад над Нёманам яго запрасілі выкладаць музыку і спевы ў Гродзенскім педагагічным інстытуце імя Янкі Купалы (Загадам Міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь № 474 ад 24 лістапада 2000 года Гродзенскі педагагічны інстытут імя Янкі Купалы перайменаваны ў Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. — *С. Ч.*).

У архіўнай даведцы Гродзенскага ўніверсітэта так і запісана: «Загадам № 46 ад 25 красавіка Антон Міхайлавіч Валынчык прыняты на працу на пасаду выкладчыка кафедры музыкі і спеваў з 16 красавіка 1961 года. Загадам № 127 ад 13 верасня 1961 года залічаны старшым выкладчыкам і прызначаны загадчыкам кафедры музыкі і спеваў з 1 верасня 1961 года».

У Гродне Антон Валынчык не толькі плённа працаваў загадчыкам кафедры музыкі і спеваў Гродзенскага педінстытута, але адначасова з'яўляўся хормайстрам гродзенскага народнага ансамбля песні і танца «Нёман», быў мастацкім кіраўніком Гродзенскай народнай капэлы настаўнікаў. Прыгадвае беларускі кампазітар Віктар Войцік: «На жаль, я мала кантактаваў з шаноўным спадаром Антонам Валынчыкам. Я быў зусім юным, іграў у ансамблі «Нёман» на балалайцы. Толькі зрэдку мне прыходзілася назіраць за работай хору. Антон Міхайлавіч мне запомніўся

высокім і хударлявым чалавекам. У яго постаці было нешта імклівае і артыстычнае. Памятаю, як ён карпатліва працаваў над сваім творам «Ліпы старыя». Увесь час нервова штосьці падпраўляў і ў харавой партытуры, і ў гучанні хору. Магу яшчэ адзначыць, што Антон Міхайлавіч дамагаўся ад харыстаў высокай харавой культуры. Трэба сказаць, што хор у ансамблі «Нёман» пад яго кіраўніцтвам быў даволі добрым, але са спевамі ў стылі а капэла выступаў рэдка».

Незабыўныя тыя часы былі ў жыцці гродзенскіх калектываў, калі там за пультам стаяў Антон Валынчык. Высокая творчая патрабавальнасць хормайстра, уменне здабыць інтанацыйную чысціню спявання, дамагчыся сапраўднага гучання і ансамблевасці партый, глыбіня прачытання аўтарскай партытуры — усё гэта заўсёды вабіла тых, хто разумеў і любіў харавую музыку.

Багацце рэпертуару тых калектываў, якімі кіраваў Антон Валынчык, была адной з іх адметных рысаў. Каб упэўніцца ў гэтым, хочацца нагадаць хаця б рэпертуар той Гродзенскай капэлы настаўнікаў, якой паспяхова кіраваў слынны маэстра. Там былі і бахаўскі хор «Сэрца, маўчы», і «Вячэрняя песня» Танеева, «Ухваленне прыроды» Бетховена, і «Что смолкнул веселия глас…» Чайкоўскага, цудоўныя творы Рымскага-Корсакава, Кюі, Шуберта, Манюшкі, Вебера, Расіні, не кажучы ўжо пра музыку Аляксандрава, Дунаеўскага, Хрэннікава, Фляркоўскага, іншых майстроў песні, а таксама шматзначны рэпертуар беларускіх аўтараў. Такому рэпертуару можа пазайздросціць і сёння не адзін прафесійны харавы калектыў. А песні Антона Валынчыка «Ліпы старыя» і «Касцы» на словы Якуба Коласа — гэта найярчэйшы ўзор харавой музыкі, у якой аўтар выступаў не толькі знаўцам сакрэтаў партытуры для ансамблевага спявання, але таксама тонкім мастаком, які выдатна пераўтвараў багацце народнай музычнай мовы ў строгі і дакладны па форме твор. Больш 100 хораў, песень, апрацовак музычнага фальклору напісана ім. Нават самыя патрабавальныя прыхільнікі харавой музыкі не змогуць знайсці ў гэтай творчасці адхіленняў ад прафесіянальных законаў і мастацкага густу. Натхнялі кампазітара цудоўныя радкі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Адама Русака і іншых беларускіх паэтаў, у творах якіх адлюстраваны прыгажосць роднага краю, самаадданая праца людзей, з якімі сутыкаў яго лёс. А колькі плёну было ад супрацоўніцтва Антона Валынчыка з самадзейнымі кампазітарамі, музыцы якіх ён першы даваў пуцёўкі на эстраду. Кампазітар шчыра і самааддана кансультаваў як хормайстар шматлікія харавыя калектывы Гродзеншчыны. Тым не менш з-за незразумелай нячуласці да Антона Міхайлавіча некаторых работнікаў і адказных чыноўнікаў за культурнае жыццё Гродзеншчыны ён рана пакінуў і Гродзенскую капэлу настаўнікаў, і народны ансамбль песні і танца «Нёман». Капэле ён аддаў 6 гадоў сваёй творчасці, а «Нёману» — 4 гады. Прыгадвае былы дырэктар Гродзенскага абласнога Дома народнай творчасці Марк Коп: «Абласны Дом народнай творчасці ў Гродне я ўзначальваў 27 гадоў — з 1971-га да 1998-га. І музычнай творчасцю Гродзеншчыны я вельмі цікавіўся і добра яе ведаю. У пасляваенны час у Гродне была

створана і актыўна працавала сапраўдная кампазітарская школа, праз якую прайшлі такія вядомыя кампазітары, як П. Радаліцкі, Л. Ляшэнка, С. Малчанаў, Л. Амелін, П. Шаўко, У. Ыркевіч, В. Нікіценка, Э. Казачкоў, М. Гарабец, І. Трухалёў, А. Аржаннікаў, А. Шыдлоўскі, Я. Петрашэвіч, В. Войцік і, вядома ж, Антон Міхайлавіч Валынчык. Антон Валынчык быў сапраўдным фанатыкам беларускай музыкі і песні. Ён, як і Цітовіч, як і Шырма, хадзіў па вёсках і збіраў беларускія народныя песні. Пасля — іх апрацоўваў. У 1970-х гадах Антон Міхайлавіч стварыў адзіны ў вобласці Новагерніцкі мужчынскі хор у Шчучынскім раёне сумесна з гродзенскім заводам «Аўтапровад». І мы Валынчыка пастаянна вазілі туды на рэпетыцыі. І ён вывеў гэты хор на рэспубліканскі ўзровень. Былі і да яго падобныя хары і пасля яго, але гэта было не тое. Ён валодаў выключным музычным слыхам. Валынчык даставаў сваю скрыпачку, настройку рабіў і хор з першых рэпетыцый спяваў трохгалоссе. Антон Валынчык быў спецыялістам ад Бога.

А пазнаёміўся я з Антонам Міхайлавічам тады, калі быў студэнтам Гродзенскага педінстытута імя Янкі Купалы. І паколькі я меў музычную адукацыю, вучыўся і адначасова быў канцэртмайстрам ва ўніверсітэцкім хоры. Спачатку хорам кіраваў Павел Радаліцкі, а калі ён памёр, кіраўніком стаў Антон Валынчык. Вось тады мы з ім і пазнаёміліся.

Калі я працаваў у Доме народнай творчасці, Антона Міхайлавіча мы пастаянна запрашалі ў журы на розныя конкурсы, фестывалі, агляды. Валынчык — гэта была музычная глыбіня, талент, энцыклапедыя. У апошнія гады жыцця мы прыйшлі да яго, каб ён перадаў нам свае сшыткі нотаў і песень. А ён кажа: «Не, хлопцы, не дам. Вы ўсе роўна ўсё сапсуяце». Ён быў у сваёй справе — суперпрафесіянал, мэтр, вялікі знаўца. Яго заўсёды хвалявала чысціня беларускай мелодыі, чысціня роднай мовы, шчырасць у гэтых пытаннях. У Беларусі іх можна паставіць разам — Шырму, Цітовіча, Валынчыка і Роўду. Гэта вялікія беларускія музычныя рэгенты.

Як чалавек, Антон Міхайлавіч вельмі не любіў хамства, быў даволі інтэлігентным чалавекам. Бяздарных людзей, якія імкнуліся з сябе стварыць вялікіх знаўцаў музыкі, ён не вельмі паважаў. За тое, што ён кіраваў у свой час царкоўнымі харамі, да яго неяк чыноўнікі адносіліся асцярожна. Ён не быў членам кампартыі, ён жыў песняй. Але не любіў і не пісаў розных партыйных і ленінскіх гімнаў, яго хвалявала найперш наша беларуская песня. На жаль, да сённяшніх дзён памяць пра яго ў Гродне не ўшаноўваецца. Я, дарэчы, гадоў восем таму рыхтаваў дакументы на адкрыццё мемарыяльных шыльдаў у Гродне А. Валынчыку, А. Шыдлоўскаму, Л. Ляшэнку, А. Чопчыцу, П. Радаліцкаму. Але дакументы так і засталіся ляжаць у шуфлядах Гродзенскага аблвыканкама…».

Лепш за ўсё ў тыя 1960-я гады Антону Валынчыку працавалася ў Гродзенскім педінстытуце. Працаваў ён шчыра і аддана, быў патрабавальны не толькі да студэнтаў і выкладчыкаў, але і да самога сябе. Ён любіў і цаніў у працы прафесіяналізм. Вось што згадаў аўтару кнігі пра Антона Міхайлавіча былы студэнт Гродзенскага педінстытута журналіст Аляксей Дземідовіч: «Вядома, у мяне, як і ў бальшыні студэнтаў, многае

пра Антона Валынчыка пралятала міма вушэй. Але тое, што тычылася музычнага мастацтва, то мяне яно не мінула. Бо калісьці мой бацька, вясковы музыка-самавук, не толькі навучыў мяне іграць на нямецкім трафейным гармоніку, але і перадаў з маленства любоў да музыкі, захапленне яе віртуозамі-майстрамі. Вось таму я, студэнт першага выпуску факультэта педагогікі і методыкі, з пачатку вучобы падыходзіў да ўсяго таго, што тычылася нашай музычнай адукацыі на факультэце, менавіта з гэтай бацькоўскай меркай. Да таго ж, з першага курса мне давялося яшчэ і працаваць на палову стаўкі лабарантам кабінета музыкі. Такім чынам, я быў у нейкай ступені і памагатым нашых выкладчыкаў, такіх цудоўных педагогаў, як Павел Аляксандравіч Радаліцкі, Антон Міхайлавіч Валынчык, Вера Антонаўна Нісцюк і іншых. Калі першы з іх — Павел Аляксандравіч Радаліцкі — быў як на ўроках музыкі, так і на канцэртах самым ветлівым і абаяльным, то Антон Міхайлавіч Валынчык, пры ўсёй яго справядлівасці, заўсёды прытрымліваўся дысцыпліны і патрабавальнасці да кожнага, хто прысутнічаў на яго лекцыях ці практычных занятках. Маэстра Валынчык лічыў, што музыку і песню ўсе павінны любіць так, як ён, і не інакш. Таму на яго занятках проста сядзець і не слухаць, што казаў выкладчык, ды яшчэ сам загадчык кафедры музыкі і спеваў, нельга было. Калі ж знаходзіліся такія, хто проста бавіў час, гэта выводзіла педагога з раўнавагі, нават злавала яго. Тым не менш Антона Міхайлавіча мы ўсе любілі. А калі ў музкабінеце заставалася якая вольная хвіліна, мы прасілі выкладчыка паіграць на скрыпцы і праспяваць якую-небудзь найбольш папулярную рэч са сваіх твораў. Лёгкая ўсмешка асвятляла яго, здавалася б, заўсёды строгі твар, і Антон Міхайлавіч сваім ціхім, трохі сіпаватым, але шчырым голасам пачынаў, затым рабіў пройгрыш — і песня працягвалася да таго часу, пакуль такія радасныя хвіліны не перапыняў залівісты званок на калідоры… Яго скрыпку, як і аўтара песень, мы ўсе шчыра любілі… Як жа сёння хацелася б вярнуцца ў той нялёгкі, але шчаслівы малады час!..».

Два гады працы ў Гродзенскім універсітэце для Антона Міхайлавіча не прайшлі марна. Загадам Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 28 верасня 1963 года Антону Валынчыку было прысвоена ганаровае званне «Заслужаны дзеяч культуры Беларусі». У архіве Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы захоўваецца некалькі характарыстык на Антона Міхайлавіча Валынчыка, падпісаныя былымі рэктарам педінстытута Маркоўскім Д. С., сакратаром парткама (Антон Валынчык членам кампартыі ніколі не быў. — *С. Ч.*) Крэнем І. П. і старшынёй мясцкама Васільевым П. В. (Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. Асабістыя справы звольненых выкладчыкаў, 1973–1975, А–К. Т. 1. Л. 207–257).

Гэтыя характарыстыкі пісаліся на прысваенне яму заслужанага дзеяча культуры Беларусі, на розныя ўзнагароджванні, на хадайніцтва ў выканкам Гродзенскага гарадскога Савета дэпутатаў працоўных аб прызначэнні Антону Валынчыку персанальнай пенсіі рэспубліканскага значэння. Праўда,

персанальнай пенсіі рэспубліканскага значэння Антону Міхайлавічу так і не далі. Тым не менш давайце пачытаем адну з характарыстык на нашага слыннага педагога і кампазітара: «Антон Міхайлавіч Валынчык з'яўляецца выдатным спецыялістам сваёй справы, дасканала валодае методыкай выкладання, аддае ўсе сілы і веды для павышэння музычнай адукаванасці і культуры студэнтаў. З'яўляючыся загадчыкам кафедры, ён правёў вялікую працу па паляпшэнню выкладання музычных прадметаў і па павышэнню якасці працы гурткоў мастацкай самадзейнасці. Інстытуцкі хор, які ўзначальваў Антон Міхайлавіч, штогод выступаў на гарадскіх аглядах мастацкай самадзейнасці. Вялікую дапамогу аказваў А. М. Валынчык настаўнікам школ г. Гродна і вобласці ў справе павышэння іх тэарэтычнага і метадычнага ўзроўню ў выкладанні музыкі і спеваў. Добры знаўца харавога мастацтва, Антон Міхайлавіч унёс вялікі ўклад у развіццё музычнай культуры Заходняй Беларусі. Больш 55 гадоў працоўнай дзейнасці ён прысвяціў служэнню свайму народу на ніве музычнай асветы.

Працуючы выкладчыкам музыкі ў настаўніцкай семінарыі, у сярэдніх школах, а потым у педінстытуце, з'яўляючыся мастацкім кіраўніком Беларускага дзяржаўнага міжабласнога ансамбля песні і танца, хармайстрам народнага ансамбля песні і танца «Нёман», харавой капэлы настаўнікаў г. Гродна і шэрагу харавых калектываў Слоніма, Мінска, Маладзечна, Лунінца, Клецка, Мар'інай Горкі, Антон Міхайлавіч усе свае сілы і веды аддаў справе павышэння музычнай культуры беларускага народа. Многія калектывы вобласці, у тым ліку ансамбль песні і танца в. Збляны Лідскага раёна, народны хор вёскі Баранова Іўеўскага раёна, Дзяляціцкая народная харавая капэла, сваімі поспехамі таксама абавязаны А. М. Валынчыку.

Антонам Міхайлавічам напісана каля ста музычных твораў. Гэта хары і песні на словы Янкі Купалы («Зайшло ўжо сонейка», «За праўду» і іншыя), Якуба Коласа («Ліпы старыя», «На сенажаці», «Не бядуй», «Устаньце, хлопцы» і іншыя), П. Броўкі і А. Русака («Крочым наперад», «Слаўся, народ беларускі» і іншыя), шмат апрацовак народных песень («Ці свет, ці світае», «Купалінка» і іншыя). Многія з іх уваходзяць у рэпертуар лепшых харавых калектываў рэспублікі, у тым ліку Дзяржаўнага беларускага народнага хору пад кіраўніцтвам Г. Цітовіча, Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы БССР пад кіраўніцтвам Р. Шырмы. Два творы («Ліпы старыя» і «На сенажаці») у выкананні харавой капэлы выдадзены ў грамзапісе. Гэтыя музычныя творы і песня «А зязюлька кукавала» ўвайшлі ў «залаты фонд» нашай краіны…» (Гродзенскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Янкі Купалы. Асабістыя справы звольненых выкладчыкаў, 1973–1975, А–К. Т. 1. Л. 207–257).

І калі ў 1940–1950-х гадах Антон Валынчык не меў дзяржаўнай службы і быў незапатрабаваны як спецыяліст, то ў 1960-х гадах ён даказаў апантанай працай свае адносіны да педагогікі і беларускай культуры, хаця яму ўжо было нямала гадоў. У 1966 годзе ўпершыню за ўсё ягонае жыццё ў актавай зале Гродзенскага педінстытута быў наладжаны творчы вечар кампазітара і дырыжора з нагоды 70-годдзя з дня нараджэння і 50-годдзя

працоўнай дзейнасці. З юбілеем Антона Міхайлавіча павіншаваў і Рыгор Шырма тэлеграмай: «Шчыра віншую з днём 70-годдзя. Жадаю моцнага здароўя, асабістага шчасця і далейшых творчых поспехаў на карысць нашай Радзімы!».

Звольніўся па асабістаму жаданню з педінстытута Антон Валынчык ажно 1 сакавіка 1974 года ва ўзросце 78 гадоў. Праўда, зрэдчас яго клікалі на месяц-другі на працу ў інстытут, і ён пагаджаўся.

Жыў Антон Міхайлавіч са сваёй жонкай Вольгай Данілаўнай і сынам Леанідам спачатку на Сацыялістычнай вуліцы, 66 у Гродне, а потым у сваёй невялікай двухпакаёвай кватэры на першым паверсе ў доме № 33 на вуліцы Ажэшка. Пра кампазітара ўспамінае кіраўнік фальклорнага ансамбля «Гарадзенскія дударыкі» кампазітар і музыкант з Гродна Яўген Петрашэвіч:

«Першы раз з Антонам Міхайлавічам я сустрэўся ў Мінску тады, калі быў яшчэ студэнтам. На адным з канцэртаў спяваў хор Валынчыка з Маладзечна. Пасля яго выступлення падняўся старшыня журы і папрасіў, каб яго хор праспяваў яшчэ раз свае песні. Гэта быў даволі рэдкі выпадак, каб журы некага прасіла выступіць зноў. Там я пазнаёміўся з Антонам Валынчыкам.

Калі ў Гродне я вёў свой прафсаюзны хор, яго наведвала і жонка Валынчыка Вольга Данілаўна. Гэта была даволі сімпатычная жанчына, добрай душы чалавек, нядрэнная спявачка.

Антон Валынчык у вольны час вельмі любіў нешта майстраваць. У яго было шмат розных інструментаў, запчастачак, шрубікаў, гаечак. Любіў рыбалку, марыў злавіць у Нёмане сома. Ён ведаў, што недзе насупраць Каложы ў Нёмане ёсць яма і там вядзецца сом. Ён рабіў вялікія кручкі і часта туды хадзіў. А ці злавіў ён сома — я не ведаю. Рыбалка для яго была не проста захапленне, а там, на прыродзе, ён думаў музыку.

Антон Валынчык быў высокага росту, твар меў яркі, які лёгка можна было намаляваць.

Я бываў у яго двухпакаёвай кватэры, мы шмат гутарылі пра наша жыццё. Але, напрыклад, пра сваё маленства ён не любіў прыгадваць. Ён быў больш замкнуты чалавек, індывідуаліст.

Антон Міхайлавіч вельмі прафесійна рабіў аранжыроўкі песень. Ён у добрых адносінах быў з кампазітарам Аляксандрам Шыдлоўскім, рабіў да яго песень аранжыроўкі. Неяк мне Валынчык расказваў, што калі ён працаваў у навагрудскіх польскай і беларускай гімназіях, дык напісаў музыку да санетаў. І ўсе выкладчыкі былі здзіўленыя гэтым, бо напісаць музыку да санетаў вельмі нялёгка.

У яго была вельмі вялікая калекцыя пласцінак, і ён меў патэфон. На некалькіх пласцінках былі і яго песні ў выкананні капэлы Рыгора Шырмы. Але ён быў незадаволены самім выкананнем песень і якасцю запісаў. Чуў я, што гэтыя ўсе пласцінкі Антон Міхайлавіч перадаў Гродзенскаму праваслаўнаму сабору. Але потым адтуль іх забраў адзін чалавек. Прозвішча і адрас гэтага чалавека я не ведаю. Дарэчы, Антона

Валынчыка не вельмі любілі праваслаўныя свяшчэннікі, бо яго царкоўныя хары заўсёды былі лепшымі, чым сама дзейнасць гэтых свяшчэннікаў.

Антон Валынчык быў моцны харавік акадэмічнага складу. Мы вучыліся ў яго гэтаму прафесійнаму майстэрству. Зніклі кудысь і яго царкоўныя музычныя творы. Калі памёр Валынчык, жонка пераехала да сына на Украіну. Пра дачку я нічога не чуў…»

Антона Валынчыка не стала 13 лістапада 1985 года. У адным з пісем да аўтара гэтай кнігі заслужаны настаўнік Беларусі Апанас Цыхун (1910–2005) пры жыцці неяк згадаў, што з Антонам Валынчыкам ён шчыра сябраваў, часта сустракаўся, калі той ішоў са спінінгам ці з вудамі на Нёман. «Апошні раз быў у ягонай кватэры разам з гродзенскім кампазітарам Яўгенам Петрашэвічам. Валынчык тады ўжо цяжка хварэў — ён перанёс інсульт. Яго жонка Вольга Данілаўна выканала нам песню, якую даўней спявалі гімназісты Клецкай беларускай гімназіі кожны дзень перад пачаткам заняткаў і пасля іх: «Вучыся, нябожа, вучэнне — паможа», здаецца, на словы Янкі Купалы… Хаця гэты выдатны дырыжор і кампазітар стараўся прынесці як мага больш карысці роднай Бацькаўшчыне, але наменклатуршчыкі не любілі Антона Міхайлавіча. Так, ён без усялякай прычыны быў адхілены ад кіраўніцтва ансамблем песні і танца «Нёман». Прышывалі яму ярлыкі «неблагонадёжный», «националист». Пасля смерці Антона Валынчыка, яго жонка Вольга Данілаўна жыве на старым месцы на вуліцы Ажэшка. Яна і зараз спявае ў царкоўным хоры», — пісаў Апанас Пятровіч Цыхун.

Застаць Вольгу Данілаўну ў Гродне мне ўжо не ўдалося. Пісаў я некалькі разоў ёй і сыну Антона Валынчыка Леаніду на Украіну, але адказаў так і не атрымаў. Шукаў сляды і дачкі кампазітара ад першага шлюбу Дзіны Валынчык — не знайшоў. Даведаўся толькі, што пасля вайны яна з’ехала ў Вільню.

* * *

Восенню 2009 года я дамовіўся з гродзенскімі кампазітарам Яўгенам Петрашэвічам і гісторыкам Аляксандрам Талерчыкам прайсціся па вуліцах Гродна, дзе жыў і працаваў Антон Валынчык. Мы сустрэліся ў цэнтры горада каля дома, дзе жыў Антон Міхайлавіч. Няма на ім, няма і на будынку ўніверсітэта мемарыяльнай шыльды, якая нагадала б усім, што тут жыў і працаваў чалавек, які ўсё сваё нялёгкае жыццё ратаваўся роднай песняй, які ўсе свае гады нёс гэту песню ў сэрцы і шчодра дарыў яе людзям і сваім вучням.

З Гродна мы паехалі на гарадскія могілкі ў раёне ААТ «Гродна-Азот», дзе пахаваны славуты гродзенец. Знайшлі яго магілу, на якой няма ніякага помніка, а ўстаноўлены толькі просты жалезны крыж, на якім прымацавана шыльдачка з надпісам: «Антон Міхайлавіч Валынчык 23.07.1896 — 13.11.1985 беларускі кампазітар». Ад часу крыж нават трохі пахіліўся на правы бок. Аляксандр Сямёнавіч Талерчык прыхапіў з сабой фарбы, мы пафарбавалі гэты крыж, прыбралі магілку і моўчкі пакінулі могілкі.

Не ўшанавана памяць пра заслужанага дзеяча культуры Беларусі і на радзіме Антона Валынчыка — Слонімшчыне. У вёсцы Мяльканавічы, дзе нарадзіўся педагог і кампазітар, многія вяскоўцы пра свайго земляка ніколі нічога не чулі. Толькі старэйшыя вяскоўцы згадалі пра яго, а адна жанчына нават заспявала:

Ідуць касцы, звіняць іх косы,
Вітаюць буйныя іх росы,
А краскі ніжай гнуць галовы,
Пачуўшы косак звон сталёвы…

## ХАЛІМОН З-ПАД ПУШЧЫ

У верасні 1915 года родны брат вядомага беларускага літаратуразнаўцы, педагога, бібліёграфа і бібліятэказнаўцы Яўгена Хлябцэвіча Уладзімір пісаў яму: «Усе сёлы гарэлі пры непрысутнасці нашых людзей. Кнігі (10 скрыняў) закапаны ў вельмі надзейным месцы. Там тваё ўсё. Закапывалі я і Маліш. Твае рукапісы пра беларускіх пісьменнікаў і лісты іх тожа былі схаваныя там, у скрынях. Я знаю дзе…» (Białoruskie Zeszyty Historyczne. 1995. № 2 (4). С. 135). Гэтыя скрыні ў вёсцы Кленікі на Беласточчыне шмат гадоў шукала настаўніца беларускай мовы і літаратуры мясцовай школы Марыя Базылюк (Марыйка — як яе ласкава называлі вяскоўцы і беларускія літаратары ў Польшчы). У гэтых скрынях захоўваецца невядомы літаратурны скарб Хлябцэвічаў. І Марыя Базылюк яго шукала, а таксама сама даследавала творчасць Яўгена Хлябцэвіча. Яна нават напісала магістарскую працу на тэму «Публіцыстыка і літаратурная крытыка Яўгена Хлябцэвіча», якая да сённяшніх дзён чакае асобнага выдання. Але так склаўся лёс, што гэтыя скрыні Марыі Базылюк знайсці не ўдалося. Яе зламала хвароба ў 1996 годзе ва ўзросце 38 гадоў.

Цікава, якія рукапісы Яўгена Хлябцэвіча ляжаць у тых скрынях? Пісьмы якіх пісьменнікаў захоўвае гэты скарб на Беласточчыне? Можа, там лісты ад Янкі Купалы, Цёткі, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Максіма Горкага? Ён шчыра з імі сябраваў, сустракаўся, перапісваўся. Цяпер цяжка сказаць, хто той скарб адшукае. І ці адшукаецца ён наогул. Усё ж прайшло з таго часу шмат гадоў.

Да сённяшніх дзён пад адну вокладку так і не сабрана, і не выдадзена спадчына Яўгена Хлябцэвіча. А напісана ім было вельмі шмат. У Коўне ў 1912 годзе выйшла з друку яго першая кніга «Бібліятэка і кааперацыя», дзе аўтар разгледзеў пытанні тэорыі і арганізацыі бібліятэчнай справы. У Пецярбургу свет пабачылі ягоныя працы «Адраджэнне беларускай народніцкай літаратуры» (1914), «Народніцкая паэзія беларусаў» (1917), у якіх малады крытык са Слонімшчыны прааналізаваў вытокі і характар беларускага мастацкага слова, даў высокую ацэнку творчым пошукам Янкі

Купалы, Якуба Коласа і Максіма Багдановіча. А ў маскоўскіх выдавецтвах з'явіліся яго кнігі «Масавы чытач і антырэлігійная прапаганда» (1928), «Масавы чытач і праца з кнігаю» (1936).

Яшчэ ў Пецярбургу Яўген Хлябцэвіч пасябраваў з Янкам Купалам. Пясняр часта наведваў не толькі беларускія вечарынкі, але бываў і на розных рэпетыцыях. Ён удзельнічаў у рабоце беларускага студэнцкага навуковага гуртка, слухаў даклады пра Беларусь, часам чытаў свае вершы. Аднойчы Янка Купала перадаў Яўгену Хлябцэвічу верш «Прарок», прысвечаны гэтаму студэнцкаму гуртку.

Вельмі часта наш зямляк і Янка Купала гулялі па ўзбярэжжы Нявы, бывалі адзін у аднаго ў гасцях. Іх апошняя сустрэча адбылася ў 1930 годзе ў Маскве ў Камуністычнай акадэміі, калі адзначаўся юбілей Купалы. Пасля трагічнай смерці народнага Песняра Яўген Хлябцэвіч быў адзін з першых, хто прыйшоў на дапамогу Уладзіславе Францаўне Луцэвіч у справе стварэння Літаратурнага музея Янкі Купалы ў Мінску. Ды і пры жыцці Купалы Яўген Хлябцэвіч рашуча выступаў у абарону песняра ад шматлікіх несправядлівых абвінавачванняў беларускай вульгарнасацыялагічнай крытыкі 1930-х гадоў.

Пасля вайны ў беларускім друку з'явіліся ўспаміны Яўгена Хлябцэвіча пра беларускага песняра. Найперш гэта артыкулы «Янка Купала ў Пецярбургу» (Беларусь. 1945. № 2), «Янка Купала на пецярбургскіх агульнаадукацыйных курсах А. С. Чарняева» (Беларусь. 1946. № 8), «Янка Купала і Пецярбургскі ўніверсітэт» (Беларусь. 1947. № 9), «Пісьмо Янкі Купалы ў газету «Новая Русь» і ўдзел у ёй Л. М. Талстога» (Полымя. 1953. № 9) і іншыя.

У шчырых адносінах Яўген Хлябцэвіч быў і з Якубам Коласам. Пазнаёміўся ён з ім завочна тады, калі працаваў выкладчыкам бібліятэчнага тэхнікума ў Кіраве. Падчас Вялікай Айчыннай вайны Яўген Хлябцэвіч выступаў з лекцыямі ў шпіталях сярод параненых. Воіны-беларусы прасілі пачытаць вершы Янкі Купалы і Якуба Коласа на беларускай мове. Па дапамогу наш зямляк звярнуўся да Якуба Коласа. Народны паэт хутка адклікнуўся на просьбу Яўгена Хлябцэвіча. Яны сталі перапісвацца, і такое сяброўства працягвалася дзесяць гадоў.

Перапісваўся Яўген Хлябцэвіч і з Максімам Багдановічам. Як сцвярджаў даследчык творчасці Яўгена Хлябцэвіча Віталь Скалабан, «чатыры лісты Багдановіча да Хлябцэвіча захоўваліся напярэдадні вайны ў Акадэміі навук БССР. Мусіць іх перадаў яшчэ ў 20-я гады ў Інбелкульт сам адрасат Яўген Хлябцэвіч. Ці пакінуў ён копіі Багдановічавых лістоў у асабістым архіве? Адказаць на гэта пытанне пакуль цяжка…» (ЛіМ. 1984. 24 жн.). А можа, копіі гэтых пісем, а таксама іншыя пісьмы Багдановіча да Хлябцэвіча, ляжаць на дне тых 10 скрыняў, што закапаныя на беластоцкай зямлі?..

Сам Яўген Хлябцэвіч нарадзіўся 6 жніўня 1884 года ў вёсцы Жыровічы Слонімскага павета. Бацька яго Іван Андрэевіч быў даволі адукаваным чалавекам. Спачатку выкладаў грэчаскую мову і латынь, потым арыфме-

тыку і геаграфію ў Жыровіцкім духоўным вучылішчы. Але галоўным яго клопатам і заняткам была мясцовая бібліятэка, дзе зберагаліся беларускія старажытныя кнігі з прыгожымі ілюстрацыямі і летапісы ў скураных пераплётах. Іван Андрэевіч Хлябцэвіч складаў падрабязны каталог, упарадкаваў і ашчадна захоўваў гэтыя скарбы. А таксама пісаў, бо меў літаратурны талент. Выдаў некалькі брашур пра гісторыю Жыровіцкага манастыра, напісаў шэраг артыкулаў пра людзей, якія звязалі свой лёс з рэлігіяй. Наогул, Іван Хлябцэвіч добра ведаў гісторыю Беларусі, даследаваў жыровіцкія рукапісы.

У бібліятэцы вельмі часта бываў яго сын Яўген. Ён усё гэта бачыў на свае вочы, а таксама вучыўся ў бацькі, як трэба ўмець чытаць кнігу, ведаць яе, даследаваць гісторыю свайго краю.

У 1897 годзе сям'я Хлябцэвічаў пераехала ў вёску Кленікі Бельскага павета, дзе Іван Хлябцэвіч стаў працаваць святарам. Тут ён арганізаваў некалькі пачатковых школ, быў загадчыкам бясплатнай народнай бібліятэкі. А ягоны сын Яўген Хлябцэвіч у 1900 годзе скончыў Жыровіцкае духоўнае вучылішча, а пасля Віленскую праваслаўную духоўную семінарыю. Жывучы ў Вільні, Яўген Хлябцэвіч пазнаёміўся з беларускай інтэлігенцыяй, актыўна ўключыўся ў беларускі нацыянальна-вызвольны рух. Падтрымліваў цесныя сувязі наш зямляк і з рэдакцыямі беларускіх газет «Наша доля» і «Наша Ніва», дасылаў свае розныя допісы, многія з іх падпісваў псеўданімам «Халімон з-пад пушчы». Найперш гэта былі інфармацыі на тэмы культуры і адукацыі. Вось што пісаў Халімон з-пад пушчы ў «Нашай Ніве» 1 лютага 1908 года: «У вёсцы Кленікі Бельскага павета 12 студзеня быў тут сельскі сход аб бібліятэцы-чытальні імя Паўленкава. Сход шоў так, што стыд і сорам за яго ўсім мужыкам тутэйшым! І хто мог бы паверыць, што грамада сталых людзей паслухае аднаго п'янага мужыка? А гэта і зрабілася на сходзі, дзе слухалі аднаго п'янага мужыка, што даводзіў: «На што нам бібліятэка? Усе роўна кнігі не мае. Лепш куплю за 5 злотых псалтыр, дык будзе ў мяне назаўсягды!». Бібліятэка-чытальня ледзьве толькі пачала шырыць вакруг свой ясны сьвет, сеяці зерне дабра, праўды і навукі. І вось ужо людзі пачынаюць таптаць гэтую вялікую работу. Выходзіць, што гутарка п'янюгі нашым мужыкам з Клебаноў і Загадзя даражэй за дзетак, каторыя бяруць з бібліятэкі кніжкі. Зразумейце, людцы, што бібліятэка будзе для вас карысна, калі яе будзеце падтрымліваць. Цяпер усяго 500 кніжак, а трэба да іх парабіць акладкі, каб не растрэсліся і не парваліся. Вось жа і сам нябожчык Паўленкаў пакінуў пасля смерці ўсё дабро і кніжкі свае, каб даваць помач народным бібліятэкам, але з тым варункам, каб і самы мужыкі давалі крыху грошай на ўтрыманне бібліятэк. Паўленкаў дае кніг больш як на 100 рублёў, калі дадуць на бібліятэку 50 рублёў самы мужыкі».

У 1906 годзе Яўген Хлябцэвіч стаў студэнтам Юр'еўскага ўніверсітэта, а праз год перавёўся ў Пецярбургскі ўніверсітэт. Тут ён рэдагаваў «Кніжны і бібліятэчны лісток» пецярбургскай газеты «Новая Русь», дзе дапамог на яе старонках друкавацца Янку Купалу.

Будучы студэнтам Яўген Хлябцэвіч выступаў на Першым Усерасійскім з'ездзе па бібліятэчнай справе з дакладам «Развіццё бібліятэчнай справы на Беларусі». А калі закончыў універсітэт, працаваў інструктарам Беларускага пададдзела аддзела асветы нацыянальных меншасцей Народнага камісарыята асветы РСФСР у Кіеве.

У 1919 годзе наш зямляк атрымаў новую пасаду — ён стаў узначальваць бібліятэчнае аддзяленне Палітычнага ўпраўленне Рэўваенсавета РСФСР, а пасля перайшоў у Народны камісарыят асветы.

З 1943 года Яўген Хлябцэвіч працаваў у Маскоўскім бібліятэчным інстытуце, шмат пісаў, абараніў кандыдацкую дысертацыю. У Маскве і пражыў ён свае апошнія гады: яго не стала ў кастрычніку 1953 года. Час прыспешвае выдаць асобнымі кнігамі працы Яўгена Хлябцэвіча па бібліятэказнаўству, а таксама пакінутыя ім успаміны пра беларускіх пісьменнікаў і палітыкаў, якіх ён ведаў і з якімі сябраваў. І яшчэ. Адна з бібліятэк на Слонімшчыне і Бельшчыне павінна насіць імя знакамітага слонімца.

# КАНДРАТ ЛЕЙКА НА ЎКРАІНЕ

Жыццё дзейнасць беларускага празаіка, паэта, драматурга і педагога Кандрата Лейкі, які жыў у канцы XIX — пачатку XX стагоддзя, яшчэ зусім мала даследаваны. Асабліва яго ўкраінскі перыяд жыцця з 1884 да 1921 года. Пра яго ўкраінскі перыяд і пойдзе ў кнізе размова, тым больш што на Харкаўшчыне ўдалося знайсці пра яго шмат новых звестак.

Кандрат Лейка нарадзіўся ў 1860 годзе ў вёсцы Збочна на Слонімшчыне. Спачатку вучыўся ў Азярніцкім народным вучылішчы, а пасля скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю.

Пяць гадоў малады настаўнік адпрацаваў настаўнікам у Косаве. А ў вольны ад педагогікі час пісаў па-беларуску вершы для дзяцей. Да сённяшняга часу захаваліся яго паэтычныя творы «Сарока», «Песня ластаўкі», «Бусел» і іншыя, датаваныя 1883 годам.

Яшчэ ў маленстве Кандрат Лейка застудзіў ногі, якія ў яго пастаянна балелі. Аднойчы доктар параіў памяняць месца жыхарства і пераехаць туды, дзе клімат больш сухі і цёплы. І ў 1884 годзе наш зямляк пакідае Беларусь і пераязджае жыць на Украіну ў Харкаўскую губерню. Тут ён спачатку працуе настаўнікам у Лініўскім пачатковым народным вучылішчы, а пасля праз год яго пераводзяць у Аснавянскае народнае вучылішча.

У 1887 годзе ў двухпавярховым доме сваякоў украінскага пісьменніка Грыгорыя Квіткі-Аснаўяненкі ў Харкаве адкрылася вучылішча для сляпых дзяцей. Праз пяць гадоў вучылішча пераехала ў новы трохпавярховы корпус на Сумскую вуліцу. Гэты корпус быў пабудаваны па ўзоры дрэздэнскай школы для сляпых дзяцей, на грошы, сабраныя жыхарамі Харкава, а таксама за кошт мясцовага ўніверсітэта. Начальнікам вучылішча ў новым корпусе быў прызначаны беларус Кандрат Фёдаравіч Лейка.

З вялікай любоўю Кандрат Лейка ўзяўся за справу выхавання сляпых дзяцей. Ён уважліва вывучаў іх псіхалогію, распрацаваў сваю методыку навучання. Для дзяцей, якія не бачылі, праводзіліся экскурсіі ў поле, у лес, ажыццяўляліся паездкі на экскурсіі ў Палтаву і Кіеў. Найбольш таленавітых хлопчыкаў і дзяўчынак на свой страх і рызыку ён пачаў навучаць музыцы.

Шмат увагі наш зямляк удзяляў фізічнаму выхаванню сваіх гадаванцаў, бо лічыў, што з дапамогаю гімнастычных практыкаванняў можна пазбавіцца дэфектаў каардынацыі цела дзіцяці. На кожным пасяджэнні папячыцельскага савета Кандрат Лейка паўтараў адно і тое: «Гаспада! Прашу вас асігнаваць дадатковыя сродкі на спартыўныя снарады для вучылішча». А яму адказвалі: «Еще чего придумали! У нас приют для слепцов или обезьяний цирк?» Але сродкі Лейка знаходзіў. І на пляцоўцы каля вучылішча з'явіліся турнікі.

Становішча навучальнай установы пагоршылася тады, калі старшыня папячыцельскага савета прафесар К. А. Андрэеў быў пераведзены на службу з Харкава ў Маскву. З ад'ездам прафесара на вучылішча пачалі менш выдаткоўваць сродкаў. Тады Кандрат Лейка вырашыў прыдбаць свой агарод. Выхаванцы самі саджалі градкі, а восенню збіралі ураджай бульбы, морквы, капусты, буракоў, цыбулі, якіх хапала на ўсю зіму.

У 1897 годзе вучылішча выпусціла 6 першых вучняў. Але ўсе яны паехалі да сваіх бацькоў, і далей вучыцца ніхто з іх не пайшоў, а дома былыя вучні займаліся пляценнем карзін. Усё гэта бачыў іх начальнік і вельмі перажываў. Ён пачынае выношваць новыя планы падрыхтоўкі сваіх выхаванцаў і рыхтуе іх да паступлення ў гімназіі і ва ўніверсітэты. Вучылішча пачынае працаваць па праграме пачатковых класаў гімназіі.

Працуючы ў Харкаўскім вучылішчы для сляпых дзяцей, Кандрат Лейка прайшоў спецыяльныя курсы ў Пецярбургу, а таксама слухаў лекцыі ў Харкаўскім універсітэце. Ён вельмі часта выступаў у друку з артыкуламі на розныя педагагічныя тэмы. Друкаваўся ў пецярбургскіх часопісе «Слепец» і газеце «Южный край», а таксама ў харкаўскай перыёдыцы — газеце «Губернские ведомости» і «Южный край». Некаторыя свае артыкулы падпісваў псеўданімам Мрачный.

У 1893 годзе ў Харкаве Кандрат Лейка выдае сваю першую кнігу «Русская азбука. Учебник родной грамоты для классного и домашнего употребления». Сярод педагагічных матэрыялаў на сённяшні дзень удалося адшукаць яго артыкулы «Экскурсия воспитанников и воспитанниц Харьковского училища слепых в Киев», «Подвижник народной школы», «Основа», «Письмо в редакцию», «О правовом положении слепых в России». Дарэчы, апошняя праца нашага земляка выдавалася асобнаю кнігаю ў бібліятэчцы часопіса «Слепец» у Пецярбургу ў 1906 годзе. Нядаўна яе ўдалося мне адшукаць і набыць на Украіне.

У Харкаве Кандрат Лейка не забываў і пра родную мову. У гэты час ён піша шмат паэтычных твораў, прысвечаных птушкам, хатнім жывёлам, а таксама сатырычныя вершы. Верш пра сабаку Рабко паэт напісаў у 1886 годзе:

Рабко верна у нас служыць,
І жыве сабе, не тужыць:
Удзень грэецца на сонцы,
Ноччу дрыхне на саломцы.
Пільнуе ён гумно, садок,
З двара не ступіць ні на крок.
Але тады толькі брахне,
Як хто ў бок нагой штурхне.

Ішоў студзень 1905 года, і ў вучылішча для сляпых дзяцей уварваўся вецер рэвалюцыі ў Расіі. Вучні і настаўнікі абмяркоўвалі падзеі ў сваім горадзе, цікавіліся навінамі і нелегальнай літаратурай. Кандрат Фёдаравіч патураў ім. Аб гэтым даведаліся мясцовыя ўлады і звольнілі яго з пасады за «опасное вольнодумство в вопросах воспитания слепых детей». На яго месца прыйшоў нехта Захараў — чалавек далёкі ад педагогікі і выхавання. Пры ім усе наваўвядзенні, якімі ганарыўся Лейка, хутка зніклі, а вучылішча ператварылася ў «богоугодный приют». Аднойчы нават каля кабінета новага начальніка адбыўся пратэст. Хлопчыкі і дзяўчынкі патрабавалі, каб у вучылішчы было ўсё, як пры Кандрату Фёдаравічу Лейку, найперш — прагулкі па горадзе, спартыўныя мерапрыемствы, экскурсіі. Цяжка сёння адказаць, ці дабіліся былыя гадаванцы нашага земляка сваіх патрабаванняў, але Кандрат Лейка ў вучылішча больш не вярнуўся.

Гэтая навучальная ўстанова для сляпых дзяцей існуе ў Харкаве і сёння. Але называецца яна інакш. Цяпер гэта абласная спецыяльная гімназія-інтэрнат для сляпых дзяцей імя У. Г. Караленкі. У архіве вучылішча ўдалося нядаўна адшукаць кароткую характарыстыку Кандрата Лейкі на ўкраінскай мове: «Лейко Кіндрат Фёдорович керував училищем з 1892 по 1907 р. Прекрасний педагог, організатор. Разробив методику навчання для сліпих. Програми навчальних предметив наблизив до програм гімназії, в ремісних класах ввів нові спеціальності: в'язання, виготовлення щіток, настроювання роялей. Було організовано хор, музичні гуртки. Велика увага приділялась розвитку у сліпих почуття орієнтації у малому і великому просторі. Лейко К. Ф. висунув програму покращення становища сліпих у країні, пропонуючи визнати за сліпими громадянські права, а саме: одержання безкоштовноі освіти, працевлаштування та гарантія пенсіі. Про свої вимоги Лейко К. Ф. писав до інстанцій, виступав зі статтями в журналі «Сліпець». По суті Лейко К. Ф. — один із перших творців тифлопедагогіки».

Пасля Харкаўскага вучылішча для сляпых дзяцей Кандрат Лейка пэўны час працуе выкладчыкам рускай мовы ў Елісаветградскім камерцыйным вучылішчы, а пасля ў адной з прыватных жаночых гімназій.

У 1911 годзе наш зямляк пераязджае ў горад Валкі Харкаўскай губерні і ўладкоўваецца на працу ў мясцовае павятовае ведамства на пасаду загадчыка навучальнага аддзела. Гэта быў самы плённы і шчаслівы час для Кандрата Лейкі. Праўда, калі не лічыць смерць ягонай маладой жонкі. Яна

памерла падчас родаў у 1916 годзе. Дактарам удалося выратаваць толькі сына Віталя, якога на выхаванне забрала на Палтаўшчыну Анастасія Васільеўна Пеліпенка — родная сястра жонкі Кандрата Лейкі.

У Валках Кандрат Лейка наладжвае шчыльныя сувязі з Бацькаўшчынай. Ён перапісваецца з Лявонам Дубяйкоўскім, Гальяшом Леўчыкам, Янкам Купалам, з living рознымі беларускімі таварыствамі і камітэтамі, а таксама з рэдакцыямі беларускіх газет і часопісаў. Шмат піша і перакладае з украінскай мовы на беларускую. Свае творы дасылае ў Вільню, а з кастрычніка 1911 года друкуецца ў «Нашай Ніве» — апавяданне «Успамін» і верш «Зязюлька». На старонках «Нашай Нівы» з'яўляюцца яго апавяданні «Кульгавы дзядзька Раман», «Таклюся-сухотніца», «Лес шуміць», Панас Крэнт», «Абмылка», «Пан Трудоўскі», верш «Навальніца» і іншыя творы. Друкуецца таксама ў «Беларускім календары на 1916 год», у «Гомане», «Беларускай думцы», пазней — у «Нашай думцы».

У сваіх апавяданнях і вершах Кандрат Лейка апісваў унутраны свет сваіх герояў, расказваў пра сацыяльныя канфлікты рэчаіснасці. Творы яго па-свойму філасофскія і псіхалагічныя, а таксама разнастайныя па жанру і тэматыцы. Некаторыя з іх, асабліва вершы, напісаны з гумарам, з баечнай мараллю, з элементамі выкарыстання фальклору:

Бусел, бесел, галяндач,
Пайшоў жыта аглядаць.
Яшчэ жыта зеляно,
Буслу ногу адняло.
Скача бусел на кію,
Кляне долечку сваю.

У 1912 годзе ў Вільні асобнаю кнігаю выходзіць з друку п'еса К. Лейкі для дзяцей «Снатворны мак», якую ён прысвяціў вясковым дзецям Слонімскага павета. Яна паклала пачатак беларускай нацыянальнай драматургіі для дзяцей.

У 1917 годзе хвароба ног, на якую захварэў у юнацтве, дала пра сябе знаць. А праз год Кандрата Лейку спаралізавала. У чэрвені 1918 года пляменнікі перавезлі яго ў горад Здалбунаў на Валынь да роднага брата Івана.

Пісьменнік моцна перажываў, найперш тое, што быў прыкаваны да ложка і не мог бачыцца са сваім маленькім сынам Віталем, якога часта наведваў на Палтаўшчыне. Ды і матэрыяльнае становішча стала жахлівым. Валынь перайшла пад Польшчу, і пенсію, якую Кандрат Лейка атрымліваў праз Ровенскае казначэйства, палякі адмянілі. Таму апошнія тры гады ў Здалбунаве жыў ён за кошт дапамогі сяброў з Беларусі і Беларускага камітэта ў Варшаве. Землякі клікалі Кандрата дамоў у Гародню альбо на Слонімшчыну, але сіл вяртацца ўжо не было. «Падацца на Бацькаўшчыну, жыць там паміж сваіх братоў, умерці і легчы ў магілу на сваёй зямлі — о, якая б гэта была для мяне радасьць, шчасьце, але я не змагу гэтага выканаць, бо жыцьцё мяне зусім задавіла, а аб Маці-Айчыне магу цяпер

толькі ў салодкіх марах успамінаць…», — пісаў Кандрат Лейка ў адным са сваіх пісем Лявону Дубяйкоўскаму (Наша Ніва. 1999. № 6).

Перад самай смерцю ён паспеў паслаць у Беларускае навуковае таварыства восем сшыткаў сваіх твораў з надзеяй, што таварыства выдасць іх асобнаю кнігаю пад загалоўкам «Засеўкі». Пра кніжку ён марыў і ў 1914 годзе, калі атрымаў ліст ад Янкі Купалы, які паведамляў, што Беларускае выдавецкае таварыства ў Вільні хоча выдаць асобнаю кнігаю ягоныя творы. Але вершы і апавяданні Кандрата Лейкі асобным зборнікам свет так і не пабачылі, а многія з іх проста згубіліся. Ды і сам пісьменнік памёр у верасні 1921 года ў Здалбунаве на Украіне, дзе і быў пахаваны.

Магіла нашага земляка знаходзіцца на адных са старых могілак Здалбунава. За ўсе гэтыя дзесяцігоддзі ніхто з беларускіх літаратараў там ніколі так і не пабываў. Магіла забытага пісьменніка ўжо зраўнялася з зямлёю і зарасла травою і кустамі. Толькі дзякуючы жалезнаму крыжу з шыльдачкаю ўдалося яе знайсці.

На крыжы на ўкраінскай мове напісаны словы:

Нудьга його задавила
На чужому полю.
В чужу землю положила —
Така його доля.

*К. Лейко*

Світла память про Вас
Завжди буде жити
В серцях наших.

*Родичи*

Увесь час Кандрат Лейка хацеў вярнуцца на сваю Радзіму, памерці на роднай зямлі. Але гэта яго мара так і не збылася. А ён быў, кажучы словамі Алега Лойкі, «першы беларускі дзіцячы паэт, заснавальнік рэпертуару беларускага нацыянальнага тэатра для дзяцей, арыгінальны паэт і празаік, які сваёй шматжанравай творчасцю пачынаў і значна ўзбагаціў новую беларускую літаратуру другой паловы XIX — пачатку XX ст.» (Алег Лойка. Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Мінск, 1989. 2-я частка. С. 409).

## МАКСІМ БУРСЕВІЧ — РЭПРЭСАВАНЫ ПАЛІТЫК З ЧАМЯРОЎ

Аляксандра Бергман (1906–2005) — польскі і беларускі гісторык, якая даследавала беларускі нацыянальны рух у Заходняй Беларусі першай паловы XX стагоддзя напісала і апублікавала пры жыцці выдатныя артыкулы

пра Б. Тарашкевіча, Л. Родзевіча, С. Рак-Міхайлоўскага, І. Дварчаніна, А. Луцкевіча, У. Самойлу, П. Мятлу, П. Валошына і іншых беларускіх дзеячаў XX стагоддзя. Пры жыцці мне пашанцавала з Аляксандрай Бергман сябраваць. А пазнаёміў мяне з ёю слонімскі паэт Анатоль Іверс дзесьці ў канцы 1980-х гадоў. Я цікавіўся і збіраў звесткі пра свайго земляка Ігната Дварчаніна. А Аляксандра Бергман шмат пра яго ведала, бо ў 1990 годзе ў Варшаве яна разам з Аляксандрам Баршчэўскім і Ежы Тамашэўскім выдала кнігу на польскай мове «Ігнат Дварчанін — беларускі палітык і вучоны». У 1992 годзе Аляксандра Рыгораўна адзін паасобнік гэтай кнігі прыслала мне з аўтографам: «Сяргею Чыгрыну — А. Бергман. Warszawa. 24.9.1992». Крыху раней яна выдала ў Варшаве кнігу на польскай мове «Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej» (1984). Сюды ўвайшлі цікавыя артыкулы пра Максіма Бурсевіча, Сымона Рак-Міхайлоўскага, Браніслава Тарашкевіча, Антона Луцкевіча, Леапольда Родзевіча, Паўла Валошына.

Аляксандра Бергман была вельмі ўзрушана, што я цікаўлюся лёсам тых людзей, пра якіх яна некалі пісала і якія заслужылі вялікай памяці ў гісторыі зямлі беларускай. Але гэтыя людзі ў нас незаслужана забытыя: і тады былі, і тым больш цяпер. Пра Максіма Бурсевіча гісторык Бергман казала: «Максім Бурсевіч належыць да тых дзеячаў Беларускай сялянска-рабочай грамады, якія ў яе дзеянні адыгралі важную ролю і адначасова засталіся найменш вядомымі. Ён быў сакратаром Цэнтральнага камітэта і кіраўніком Цэнтральнага сакратарыята Грамады, загадваў касай арганізацыі і вёў яе рахункаводства».

Беларускі палітык, педагог, публіцыст Максім Бурсевіч нарадзіўся ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета ў сялянскай сям’і беларусаў Тараса і Марыі. Сям’я была вялікая, таму адукацыю атрымаць удалося толькі яму і старэйшаму брату Андрэю, якія закончылі Слонімскае двухкласнае вучылішча і настаўніцкую семінарыю ў Жыровічах.

Пасля заканчэння семінарыі ў 1910 годзе Максім паехаў да брата ў Ваўкавыскі павет. Можа, хацеў пераняць педагагічны вопыт ці знайсці работу, але менавіта там сустрэў на хутары Тарасаўка дзяўчыну Апалінарыю Мацвееву, з якой ажаніўся. Да апошніх сваіх дзён яна была верным сябрам і памочнікам Максіма ў яго нялёгкім жыцці.

Адразу пасля вяселля пачалося іх вандроўнае жыццё. Спачатку ў 1911 годзе ён з сям’ёй жыве і настаўнічае на Кобрыншчыне, потым — на Украіне. А ў пачатку 1922 года вяртаецца ў родную вёску Чамяры, дзе стаяла яшчэ бацькава хата.

У 1925 годзе, з дапамогай сваіх землякоў, Максім Бурсевіч адкрывае ў вёсцы прыватную беларускую школу. У гэты час якраз у Чамярах пачаў узмацняцца нацыянальны рух, галоўным завадатарам якога быў мясцовы інтэлігент і педагог Максім Бурсевіч. У 1925 годзе з дапамогай сваіх землякоў ён адкрыў у вёсцы прыватную беларускую школу. Знайшлася прасторная хата якраз пасярэдзіне вёскі. Выпісалі з Вільні сякія-такія падручнікі. Мужчыны парабілі парты, і заняткі пачаліся. Цеснавата было, не хапала кніжак і сшыткаў, але дзеці з вялікім настроем беглі ў школу. У сваю школу, дзе гучала родная мова. Але тады Максім Бурсевіч адчуваў,

што за беларускую школу польскія ўлады яго не пагладзяць па галоўцы. І тым не менш ён рабіў усё, каб у самадзейнай школе было так, як у сапраўднай, а можа, нават і лепш. Тут вучылі не толькі пісаць і чытаць, але пачалі наладжваць вечары мастацкай самадзейнасці, у якіх прымалі ўдзел і вучні, і іх бацькі. Яны дэкламавалі беларускія вершы, спявалі песні, паказвалі сцэны з «Паўлінкі», «Прымакоў» і з іншых п'ес.

Тры месяцы існавала беларуская школа ў Чамярах. Усё, здавалася, ішло добра, пакуль аднойчы ў час заняткаў у клас не ўвайшлі два паліцыянты.

Школу ў Чамярах закрылі. А Бурсевічу не дазволілі больш займацца педагагічнай дзейнасцю. Тым не менш у сваіх Чамярах ён быў самым адукаваным чалавекам, таму аддаў сябе грамадскай дзейнасці.

З пачатку 1920-х гадоў Максім Бурсевіч падтрымліваў сувязь з беларускімі арганізацыямі ў Вільні. А праз пэўны час яго кандыдатура была вылучана Беларускім цэнтральным выбарчым камітэтам на пасла ў польскі сейм. У чэрвені 1925 года ён увайшоў у першы актыў Беларускага пасольскага клуба, а праз год быў залічаны ў склад ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ) і выбраны кіраўніком яе Цэнтральнага Сакратарыята.

Максім Бурсевіч загадваў фінансавымі сродкамі БСРГ, ствараў яе мясцовыя камітэты, наладжваў іх работу. У яго рукі аддалі ўсе фінансавыя сродкі — не інакш, мелі да яго бязмежны давер, як да чалавека сумленнага. Высока ацэньвалі яго здольнасці і прадбачылі, што ён адолее ўсё. Хоць гэта і быў для Бурсевіча незвычайны скок: з вёскі ў горад і адразу за руль вялікай і ўвесь час растучай арганізацыі. І справіўся ён дастойна. Аб гэтым сведчыць і рашэнне апеляцыйнага суда, які ўсім паслам з 12 гадоў зняволення зменшыў тэрмін напалову, а Максіму Бурсевічу зменшыў толькі на 2 гады.

Пакаранне наш зямляк адбываў у турмах Лукішкі, Вронкі, Каранова. У 1931 годзе, у выніку абмену палітычнымі зняволенымі, ён трапіў у БССР. Жыў у Мінску. Працаваў членам прэзідыума і выконваў абавязкі кіраўніка аддзела культуры і навукі Дзяржплана БССР. Удзельнічаў у рабоце камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры АН БССР.

У другой палавіне 1933 года Максім Бурсевіч быў беспадстаўна абвінавачаны ў так званым нацыянал-дэмакратызме, арганізацыі антысавецкага цэнтра, «заснаванага для аддзялення Беларусі ад СССР на карысць Польшчы». А 9 студзеня 1934 года яго асудзілі да вышэйшай меры пакарання, якая была заменена 10 гадамі зняволення. Пакаранне Максім Бурсевіч адбываў на Салаўках і на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала.

9 кастрычніка 1937 года тройкай УНКУС па Ленінградскай вобласці мой зямляк быў асуджаны да вышэйшай меры пакарання. Яго расстралялі 3 лістапада 1937 года. І толькі ў 1956 годзе ён быў пасмяротна рэабілітаваны па абодвух прысудах.

Максім Бурсевіч — не менш значная постаць ў гісторыі Беларусі, як Браніслаў Тарашкевіч і Сымон Рак-Міхайлоўскі. І калі пра іх напісаны кнігі, выдадзены іх творы і выступленні, адкрыты мемарыяльныя шыль-

ды, дык Максім Бурсевіч зусім забыты. Няма ні помніка, ні шыльды, не напісана пра яго манаграфія, ні выдадзены яго выступленні і літаратурныя творы (пісаў гумарэскі, фельетоны, байкі, інфармацыі, друкаваўся ў «Беларускай долі», «Змаганьні», «Сялянскай праўдзе», «Беларускай ніве», «Беларускай справе», «Загоне», «Савецкай Беларусі»). Сёння наогул пра Максіма Бурсевіча мала хто ведае. Хіба толькі гісторыкі…

## УСЛЕД ЗА БАЦЬКАМ

Лёс сына Максіма Бурсевіча — Ігара Бурсевіча быў не менш трагічным за лёс ягонага бацькі. Пра Ігара Максімавіча Бурсевіча сёння і хочацца расказаць. Тым больш, што нядаўна я адшукаў дачку Ігара Максімавіча Бурсевіча Таццяну Ігараўну Бурсевіч, якая жыве ў Магілёве. Таццяна Ігараўна шмат расказала мне пра свайго знакамітага дзеда Максіма Бурсевіча і пра бацьку Ігара Бурсевіча.

Ігар Бурсевіч нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Чамяры ў сям’і беларускага палітыка і дзеяча Максіма Бурсевіча. Якуб Міско ў сваёй кнізе «Маё маўклівае сэрца» (Мінск, 1983) прыгадвае: «У Вільню я ехаў разам з Ігарам Бурсевічам, які да гэтага ўжо год вучыўся ў беларускай гімназіі і перайшоў у чацвёрты клас. Бацька вёз мяне і Ігара на станцыю позна вечарам… Пакуль я аддаваўся ўспамінам, цягнік наблізіўся да Вільні. Мы з Ігарам пачалі рыхтавацца да выхаду са сваімі вялізнымі куфэркамі, набітымі бялізнай, коўдрай, ежывам. Я спытаўся ў Ігара: «А нам куды?» Ігар усміхнуўся — вядома, бывалы: «Ідзі за мной, не заблудзіш». Узваліўшы куфэркі на плечы, мы накіраваліся ў бок славутай Вострай Брамы. Я ішоў не азіраючыся, бо стараўся не згубіць з вачэй Ігара. Праз якія дваццаць мінут мы, дашчэнту спацелыя, былі ўжо ў інтэрнаце беларускай гімназіі…».

Першапачатковую адукацыю Ігар Бурсевіч атрымаў у Віленскай беларускай гімназіі. Пасля яе заканчэння юнак марыў працягваць вучобу. Але бацька займаўся палітыкай, таму вучобе перашкодзіў ягоны арышт польскімі ўладамі. Нагадаю, што бацька Ігара Бурсевіча за спробу арганізаваць беларускія школы ў Чамярах і ў Навагрудскім павеце быў двойчы арыштаваны. А ў лютым 1927 года арыштаваны на судовым працэсе пяцідзесяці шасці і прыгавораны да 8 гадоў турмы. Пакаранне адбываў у Лукішках, Вронках, Каранове.

У выніку абмену палітычнымі зняволенымі Ігар Бурсевіч разам з бацькамі праз Данцыгскі калідор, Усходнюю Прусію, Латвію пераязджае ў БССР. Здавалася, што там будзе ўсё добра і шчасліва. І напачатку так было. Ігар паступае на энергетычны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Там вучыцца, бацькі працуюць. Адным словам, жыццё ў Мінску стала наладжвацца. Але хутка і тут ягонага бацьку арыштоўваюць органы НКУС і беспадстаўна абвінавачваюць у нацыяналізме, у арганізацыі антысавецкага цэнтра, у шпіянажы на карысць Польшчы і г. д. А пасля арышту бацькі Максіма Бурсевіча хутка мяняецца і лёс ягонага сына Ігара.

Спачатку яго выключылі з камсамолу, а потым з інстытута. І толькі вера ў справядлівасць, сіла волі выратавалі юнака ў тыя цяжкія хвіліны. Ён збіраецца і едзе ў Маскву і трапляе на прыём да Надзеі Канстанцінаўны Крупскай (Крупская — жонка Уладзіміра Ульянава (Леніна). — *С. Ч.*), якая шчыра падтрымала юнака. Дзякуючы званку Крупскай у Мінск, Ігар Бурсевіч быў адноўлены ў ВНУ, здолеў скончыць інстытут і паехаў па размеркаванню ў якасці маладога інжынера-электрыка працаваць ў Расію ў горад Іванава. Там ён знайшоў Іванаўскі шклатрэст, звярнуўся ў аддзел кадраў з накіраваннем. «Добра, — сказалі, — афармляйцеся. Вось вам анкеты, пішыце аўтабіяграфію…» Пасля ўсіх працэдур Ігара Бурсевіча накіравалі на завод імя Валадарскага ў горад Курлова Іванаўскай вобласці на пасаду начальніка электрацэха.

Калі наш зямляк туды прыехаў, то даведаўся, што на заводзе днямі было многа падзей. Знялі ўсё кіраўніцтва завода і адвезлі ў Іванава. Вось цяпер сюды накіроўвалі новыя кадры.

Паўтара месяца Ігар адпрацаваў на заводзе. І ў канцы жніўня 1937 года раніцай да яго на кватэру прыбылі тры чалавекі з оперупаўнаважаным ДПУ, пра’явілі ордар на арышт і зрабілі вобыск. Пакапаліся ў чамаданах, забралі ўсе дакументы і павялі ў «чорны варанок». Потым прывезлі ў дом папярэдняга зняволення (ДПЗ) і пасадзілі ў камеру-адзіночку. Знаходзіўся там каля трох дзён. Потым пад аховай адправілі ў Курлова. Ніякіх допытаў і роспытаў не вялі. З Курлова прывязлі ў Іванаўскую турму. Турма была старога тыпу, вялікія сцены і вароты. Прайшоў кароткую рэгістрацыю, вобыск. Потым распісаўся ў нейкім акце, і павялі беларускага юнака ў следчую камеру…

Так скончылася яго вольнае жыццё і пачаліся змрочныя гады цяжкага зняволення. Сам Ігар Максімавіч пазней меркаваў, што яго арыштавалі з-за бацькі, а таксама таму, што акрамя рускай мовы дасканала валодаў беларускай, польскай, ведаў нямецкую і эсперанта. А такіх знаўцаў у той 1937 год траплялася няшмат. Ды і быў знаёмы Ігар Бурсевіч са шматлікімі беларускімі дзеячамі нацыянальнага руху, прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі, якія заўсёды былі побач з ягоным бацькам.

У сталінскіх лагерах наш зямляк адбыў роўна 10 гадоў. У жніўні 1947 года яго выклікалі ў кантору лагера наконт афармлення дакументаў на звальненне. А потым хутка развітаўся з сябрамі па лагеру і рабоце. Спачатку дабраўся да Томска, а потым паехаў на Беларусь у Магілёў, дзе жылі яго родныя і блізкія людзі. Там Ігар Бурсевіч уладкаваўся на працу, плённа працаваў па спецыяльнасці. Ён рэалізаваў, як кажа яго дачка Тацяна, у гэтым жыцці цалкам, нягледзячы на тое, што ў «застойныя часы» яму не адзін раз напаміналі яго лагернае мінулае. Ігар Максімавіч захаваў цікавасць да жыцця: ён шмат займаўся сабой, чытаў, вывучаў літаратуру па спецыяльнасці, кнігі па гісторыі Беларусі, краязнаўству. Ён перапісваўся з многімі беларускімі дзеячамі культуры і літаратуры, палітыкі і навукі. Яго заўсёды непакоіла памяць пра незаконна рэпрэсаванага і амаль забытага бацьку Максіма Бурсевіча, хацелася аднавіць яго гонар і імя. Вынікам яго працы з’явіліся ўспаміны пра бацьку і пра сваё ўласнае жыццё. Ігар

Бурсевіч таксама пакінуў згадку і пра вучобу ў Віленскай беларускай гімназіі. Усе гэтыя ўспаміны дачка Ігара Максімавіча Бурсевіча Таццяна Ігараўна перадала аўтару гэтых радкоў. Успаміны пра лагернае жыццё ўжо былі апублікаваныя ў часопісе «Магілёўская даўніна» ў 1994 годзе. Успаміны пра Віленскую беларускую гімназію апублікаваў часопіс «Маладосць» у красавіцкім нумары 2001 года.

Ігара Бурсевіча не стала ў 1985 годзе. Яго жонка Клаўдзія Рыгораўна памерла ў 2004 годзе. Рана пайшоў з жыцця і іх сын Сяргей. У Магілёве жыве дачка Таццяна Ігараўна, унукі і праўнукі Максіма і Ігара Бурсевічаў.

## ЛАРЫСА ГЕНІЮШ І ЖЫРОВІЧЫ

Стаім ля святыняў зачыненых брам,
Ды ўсюды ёсць праўды крыніца.
Дзе чуецца Божае слова — там Храм,
Там Богу належыць маліцца.

Гэтыя радкі напісала славутая беларуская паэтка Ларыса Геніюш (1910–1983). Лёс паэткі быў няпростым. Нарадзілася яна ў фальварку Жлобаўцы на Ваўкавышчыне. Вучылася ў Гудзевіцкай школе, закончыла Ваўкавыскую польскую гімназію.

У 1935 годзе ў Воўпенскай царкве на Ваўкавышчыне ўзяла шлюб са студэнтам медыцынскага факультэта Карлавага ўніверсітэта з Прагі Янкам Геніюшам. Спачатку сям'я жыла ў Зэльве, а потым Ларыса Геніюш з сынам Юркам перабралася да мужа ў Прагу, дзе ён працаваў лекарам.

У 1943 годзе ў Празе выходзіць першы паэтычны зборнік паэткі «Ад родных ніў». Дарэчы, факсімільнае выданне гэтага зборніка пабачыла свет у Слонімскай узбуйненай друкарні ў 1995 годзе.

У Празе Ларыса Геніюш актыўна займалася літаратурай і грамадскай дзейнасцю, уваходзіла ў Беларускі камітэт самапомачы, была сакратаром Беларускай Народнай Рэспублікі.

5 сакавіка 1948 года Ларыса Геніюш разам з мужам была арыштаваная ў Чэхаславакіі і пазбаўлена чэхаславацкага грамадзянства. Геніюшаў выдалі савецкім спецслужбам і пад канвоем даставілі ў Мінск. Яе асабіста дапытваў тагачасны міністр МГБ БССР Л. Цанава.

7 лютага 1949 года Вярхоўны суд БССР прыгаварыў Ларысу і Янку Геніюшаў да 25 гадоў папраўча-працоўных лагераў. Пакаранне паэтка адбывала на Поўначы ў Комі АССР, Мардоўскай ССР і ў іншых рэгіёнах. У сталінскіх лагерах паэтка адбыла 7 гадоў. У 1956 годзе яе разам з мужам вызвалілі паводле пастановы ААН — як несавецкіх грамадзян. Геніюшы прыехалі ў Зэльву, дзе і пражылі да канца свайго жыцця.

Ларыса Геніюш жыла са сваім мужам у Зэльве на Савецкай вуліцы, 7а (былой Царкоўнай вуліцы). Насупраць іх дома стаяла і стаіць сёння Троіцкая царква, верніцай якой была Ларыса Антонаўна. У царкве ця-

пер знаходзіцца невялічкі пакой-музей, прысвечаны ёй, мемарыяльная шыльда, а побач з царквой — помнік, які быў адкрыты з благаславення мітрапаліта мінскага і слуцкага, экзарха усяе Беларусі Філарэта. «Божа, барані Беларусь» — гэтыя тры словы адлітыя ў метале. І, як піша Міхась Скобла, «малітва да Звышняга, да тых высокіх сфераў, дзе «зорка зорцы голас падае», — з наземнае моўчы. Помнік — у ахоўным полі царквы, за царкоўнай агароджай» (Геніюш Ларыса. Каб вы ведалі. Мінск, 2005. С. 12).

Пры жыцці і пасля смерці паэткі з друку выйшлі каля 20 кніг яе вершаў, прозы і эпісталярнай спадчыны. Тысячы паэтычных радкоў і пісем паэткі яшчэ знаходзяцца ў розных архівах і прыватных бібліятэках.

Жывучы ў Зэльве на былой Царкоўнай вуліцы (сказаць «на Савецкай» у мяне не паварочваецца язык), Ларыса Антонаўна амаль штодня бывала ў Троіцкай царкве. Але самымі шчаслівымі момантамі ў ейным жыцці быў той час, калі паэтка наведвала Жыровічы. Жырава — як яна казала і як заўсёды казалі і кажуць старэйшыя людзі Слонімскага, Івацэвіцкага, Пружанскага і Зэльвенскага раёнаў-суседзяў. Жырава Ларыса Геніюш любіла, любіла, як Беларусь, моцна і шчыра, заўсёды спяшалася ў Жыровічы, асабліва 20 траўня, калі штогод адзначаецца свята Жыровіцкага абраза Маці Божай.

Упершыню Ларыса Міклашэвіч даведалася пра Жыровічы тады, калі яе родны брат Расціслаў вучыўся ў Жыровіцкай сельскагаспадарчай школе. Гэта быў, як згадвае ў сваёй «Споведзі» Ларыса Геніюш, высокі, прыгожы і паслухмяны хлопец. Пазней ён загінуў на фронце Другой сусветнай вайны. Паэтка прысвяціла яму некалькі сваіх вершаў. У адным з іх яна напісала:

Ты казаў калісьці: не сумуй, сястронка,
Над пакутным Краем злітуецца Бог.
Барані і цеш ты родную старонку,
А я буду бацькаў сцерагчы парог.

Дзед Ларысы Геніюш Павел Міклашэвіч быў родам з Крынак з Беласточчыны. Ён ажаніўся ў 18 гадоў з 16-гадовай Марфай з вёскі Чамяры Слонімскага павета. Юная Ларыса вельмі часта бывала ў Чамярах, якія побач са Слонімам. Ну, а быць у бабулінай вёсцы і не завітаць у Жыровічы быў бы для яе грэх. Таму дзяўчынка разам з бабуляй Марфай і з маці спяшаліся на вялікія святы ў Жыровічы. Ці не Успенскі сабор і Крыжаўзвіжанская царква натхнялі паэтку на вершы, многія з якіх прысвечаны рэлігійным падзеям, а духоўнасць скразною лініяй праходзіць праз яе паэзію? У сваіх вершах паэтка пастаянна звяртаецца да Бога, просіць у яго дапамогі, бласлаўлення, дазволу:

О Божа! Народ свой пакутны, убогі,
Як вернае сэрца ў адданых грудзёх,
Кладу Табе сёння пад Божыя ногі,
Каб Ты не забыўся, каб Ты дапамог.

Шмат вершаў Ларыса Геніюш прысвяціла рэлігійным святам, якія адзначаюцца ў памяць аб важных царкоўных падзеях ці ў гонар святых. Гэта шчырыя радкі, прысвечаныя Вялікадню, Калядам і іншым святам:

Даражэнькія, блізкія, родныя —
Боль адзіны, супольны лёс!
Звоняць ў сэрцы званы Велікодныя:
Уваскрос! Уваскрос! Уваскрос!..

А верш «Святы вечар» — калядная беларуская класіка, гімн Калядам. Ну, скажыце, калі ласка, хто ў беларускай літаратуры мацней і прыгажэй за Ларысу Геніюш напісаў пра Каляды? Ды ніхто. Бо многія нават ведаюць, альбо часта чулі яе калядныя радкі:

Каляда, Каляда, на зямлі — Святы Вечар,
Нарадзіўся у яслях Збавіцель і Бог.
І пасталі бярозаў танклявыя свечкі
Паабапал заснежаных, белых дарог…
Каляда, Каляда… Нават зорам трывожна.
Па заблытаных сцежках крутога жыцця
Да сваіх ў гэты вечар спяшаецца кожны,
Дзе ў сям’і за сталом нас чакае куцця…

У 2008 годзе, калі творчая інтэлігенцыя Беларусі сабралася ў Троіцкай царкве ў Зэльве адзначыць 98 гадоў з дня нараджэння Ларысы Антонаўны, святар царквы, які праводзіў службу, сказаў аб тым, што ў Жыровіцкай духоўнай семінарыі яны вывучалі творчасць і вершы Ларысы Геніюш. А яшчэ святар нагадаў, што Жыровічам Ларыса Геніюш прысвяціла адзін верш. Святар памыліўся. Жыровічам Ларыса Геніюш пры жыцці прысвяціла два вершы. Яны апублікаваны ў Зборы твораў у 2 тамах (Мінск, 2010). Адзін верш пра Жыровічы даволі вядомы, ён пачынаецца радкамі:

Жыровічы — святы для нас куточак,
Дзе цэрквы ў неба вежы узнялі.
На дрэве Маці Божай абразочак —
Благаславенне для маёй зямлі…

Упершыню гэты верш апублікавала газета «Звязда» 6 красавіка 1993 года. Публікацыю верша да 10-годдзя смерці паэткі падрыхтаваў пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік. Дарэчы, пазней верш пра Жыровічы паэткі друкаваўся ў многіх выданнях, у тым ліку і на старонках буклета «Свято-Успенский Жировичский ставропигиальный мужской монастырь» (Мінск, 2006). І хоць буклет выйшаў з друку на рускай мове, на яго старонках знайшлося месца і для чатырох строф выдатнага верша Ларысы Геніюш пра Жыровічы.

Другі верш пра Жыровічы, які апублікаваны ў Зборы твораў у 2 тамах Ларысы Геніюш, адшукаў у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба

Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (Ф. 31. Воп. 1. Спр. 16) пісьменнік Міхась Скобла. Верш складаецца з 9 строф па 4 радкі:

Прыехаць у Жырава лёс мне выпаў,
Дождж хрысціць галаў грэшную маю.
І я пад голлем шматвяковай ліпы
Пілігрымам сціплым сцішана стаю.

Святыні побач белыя, як дзіва,
Ў абдымках хмараў і высокіх дрэў.
Ідзе святар, як галубочак сівы,
Стаміўшыся, на лаўку хтось прысеў.

Сюды травой, аброшанай і мяккай,
На цудатворны пераможны кліч
Прыходзяць людзі з горам і падзякай.
Людскія душы ачышчае зніч.

Перада мной зямля мая святая,
Тут у паклоне дрэвы над вадой,
Дзе галубы бясшумна пралятаюць,
Ступала Маці Божая па ёй.

Не знатныя, а пастушкі віталі.
Да нас прыйшла ў вясняны дзень знарок
І Краю міламу, каб лепшымі мы сталі,
Пакінула на дрэве абразок.

Над намі храм, туманныя нябёсы.
Крынічанька пад храмам б’е з зямлі.
Як пастушок у світцы белай, босы,
Стаю, і слёзы твар мой залілі.

Адданасцю стукочуць нашы сэрцы
З крыніц благаславенных праўду піць.
Мінуласці святой з зямлі не сцерці
І веры ў Бога ў сэрцы не спыніць.

Жыровічы, славутая мясціна,
Здаўна пралажаны для нас дзядамі шлях.
Малітвы боль ў нялёгкую хвіліну
Мы на тваіх складаем алтарах.

Хай будзе мір, і згода будзе ўсюды.
Ды калі грозьбай азарыцца сінь, —
Нашай зямлі, дастойнай Тваіх цудаў,
Ў сваёй апецы, Божа, не пакінь!

Гэты верш нібы з’яўляецца працягам папярэдняга верша пра Жыровічы. Абодва яны былі напісаны паэткай у 1981 годзе. У тым годзе зэльвенскі святар Васіль Чыкіда, з якім Ларыса Антонаўна шчыра сябравала, узяў яе з сабой у Жыровічы на свята Жыровіцкага абраза Маці Божай. Ад той паездкі паэтка атрымала вялікае задавальненне. Яна так была ўзрушана і шчаслівая паездкай у Жырава, што пра гэта ў пісьмах пісала многім сваім сябрам. 23 чэрвеня 1981 года паэтка паведамляла Язэпу Найдзюку ў Польшчу: «Жывецца мне па-ранейшаму. Справа кніжкі нейк заглохла. Не вельмі гэтым праймаюся. Усё пакідаю часу. Тым часам наш святар узяў мяне з сабою ў Жыровічы. Быў дождж, але белыя вежы святыняў аж свяціліся на цемені хмараў і зелені дрэў. Пастаяла каля шырачэзнай ліпы, якой, кажуць, што ўжо многа соцен гадоў. Барадатыя Айцы паказалі мне святыні і іх цудоўныя скарбы. Сярод гэтай, духоўнай нейкай, цішыні я адчувала сябе, як у сярэднявеччы. І яшчэ я пад гэтым уражаннем.

Доля мая ў Яго Божых руках,
Мілей за харомы, карону
Пакутны, цярнёвы жыцця Яго шлях
І храм, гдзе прыбытак ягоны».

Пра паездку ў Жырава 29 чэрвеня 1981 года Ларыса Антонаўна напісала таксама Лілеі і Ігару Чарняўскім: «Дні маі то паўзуць, то ляцяць. Айцец Васіль завёз мяне днямі ў Жыровічы. Некалькі стагоддзяў, як там з’явіўся пастушкам абразок Маці Божай на грушы. Кажуць, што аддалі яны пану той абразочак, і ён схаваў яго ў куфар. Але абразочак знік з куфра. Яго знайшлі на той самай грушы, на якой ён з’явіўся. На тым самым месцы выпырснула з зямлі крынічка, і цяпер стаяць там храмы з белымі, натхнёна выцягнутымі ў неба вежамі. Ёсць там велічэзная старая ліпа…».

І Алесю Белакозу ў Гудзевічы пра паездку ў Жыровічы таксама згадала 30 чэрвеня 1981 года: «Нядаўна завезлі мяне ў Жыровічы. Там — храмы белыя, натхнёныя і звонку, і ў сярэдзіне. Ёсць там шырачэзная ліпа, некалькі стагоддзяў ёй, і тая цудоўная легенда-быль. Усё гэта робіць уражанне на беларускую душу».

Ларыса і Янка Геніюшы любілі ў Зэльве сустракаць гасцей. У іх доме былі беларускія пісьменнікі, мастакі, кампазітары, палітыкі. Вядома, не забывалі паэтку і праваслаўныя святары. А ў верасні 1982 года Ларыса Геніюш пісала Валянціне Трыгубовіч, што да яе «ў госці прыйшлі тры маладыя, харошыя манашанькі з Жырава. Яшчэ паслушніцы, дык апранутыя больш-менш нармальна. Як птушаняты, нешта ўсё шчабяталі. Добра, што было пудэлка цукеркаў у хаце. Хварэла, дык спечанага не было нічога. Папрасілі мой «Чабарок» (маецца на ўвазе зборнік вершаў паэткі «На чабары настоена» (Мінск, 1982). — *С. Ч.*). Для манахаў» (Радкі з пісем Ларысы Геніюш цытуюцца з пісем паэткі, якія захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі (Ф. 31. Воп. 1. Спр. 16).

Летам 2010 года, да 100-годдзя з дня нараджэння слыннай беларускай паэткі, інак Мікалай (Бембель) з Жыровіцкага манастыра выдаў у Слонімскай друкарні накладам 300 асобнікаў паштоўку-партрэт маладой Ларысы Геніюш. З другога боку паштоўкі брат Мікалай надрукаваў свае паэтычныя радкі, ёй прысвечаныя:

…не паланілі хімеры…
І не скарыў цябе час…
…чайка, спаведніца веры, —
Вымалі ў Госпада нас!..

Калі я прыязджаю ў Жыровічы, каля Успенскага сабора мне заўсёды ўяўляецца постаць гэтай мужнай і таленавітай беларускі і прыгадваюцца яе вялікія радкі:

Мудрасць спелую сівых вякоў
П'ю з народных жывых крыніцаў.
Паважаю чужых багоў,
Ды прывыкла сваім маліцца.

# «УСЕ МЫ РОДЗІЧЫ»

Часта перачытваю кнігу ўспамінаў «Лёс аднаго пакалення», якія выйшлі з друку ў Беластоку ў 1996 годзе. Янка Жамойцін у сваіх успамінах «З перажытага» прыгадвае некалькі разоў Андрэя Вайтовіча: «Асабліваю ўвагаю, аднак, абдзялілі мяне два блізкія мне сябры: гаваркі, упэўнены ў сваіх здольнасцях і дасягненнях Філя Давідчык і маўклівы, працавіты, салідны і скромны Андрэй Вайтовіч. Абодва яны ахвотна завязвалі ў інтэрнаце гутарку на грамадскія тэмы, цікавіліся маімі поглядамі і ацэнкай актуальных падзей. Стараліся папоўніць недахопы ў харчаванні, балазе абодва былі нядрэнна забяспечаны прадуктамі» (С. 79). І яшчэ: «Па-другое, у яго (маёра Вінакурава. — *С. Ч.*) распараджэнні былі пратаколы з допытаў маіх, раней спомненых, сяброў Філі Давідчыка і Андрэя Вайтовіча, якія былі ўжо зняволеныя…» (С. 145).

Прайшоўшы ўсе жыццёвыя нягоды і сталінскія катаванні, Андрэй Вайтовіч застаўся жыць і вярнуўся ў родную Беларусь. Ён жыў у Слоніме (памёр у 2008 годзе. — *С. Ч.*) на вуліцы Касманаўтаў. З Андрэем Вайтовічам я быў добра знаёмы. Пазнаёміў мяне з ім гісторык Сяргей Ёрш. Часта бываў ў яго гасцінным, утульным і светлым, як і сам гаспадар з гаспадыняю, доме. Мы гутарылі пра жыццё, пра родны край і яго знакамітых землякоў. Але больш за ўсё любіў Андрэй Вайтовіч успамінаць пра Ларысу Геніюш, з якою шмат гадоў сябраваў. Неяк ён паказаў мне свой сямейны альбом. О, гэта незвычайны альбом! Справа ў тым, што пры сустрэчах з Ларысай Геніюш Андрэй Вайтовіч расказваў ёй пра сваіх

бацькоў, сясцёр, братоў. Паэтка ўважліва слухала і затым перапраўляла пачутае ў вершаваныя радкі: некалькі соцень іх ён занатаваў у свой сямейны альбом са здымкамі сваякоў. А бывала, папросіць паэтку напісаць верш для сына, для суседа, у якога юбілей, — і яна пісала. Вось так і захавалася ў Андрэя Вайтовіча не вядомая нікому асабістая літаратурная спадчына Ларысы Геніюш, прысвечаная ягоным сваякам. Усе гэтыя вершаваныя радкі пры жыцці спадар Вайтовіч перадаў мне. У іх — любоў да сваіх сяброў, да беларускай зямлі і яе працавітых і мужных людзей, пачуццё нацыянальнай годнасці і гонару.

Што датычыць знаёмства Андрэя Вайтовіча з Ларысай Геніюш, то яно адбылося з дапамогай сяброў па сталінскіх лагерах. Андрэй Вайтовіч нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Залозкі, што на Навагрудчыне. Скончыў сем класаў у Любчы і паступіў у Віленскую гімназію, але закончыць яе не паспеў, бо пачалася вайна. У час акупацыі вучыўся ў Навагрудскай настаўніцкай семінарыі, у 1943 годзе ўступіў у беларускі батальён Барыса Рагулі, які ахоўваў вёскі Навагрудчыны ад нямецкіх карнікаў і розных марадзёраў. Летам 1944 года выехаў у Прагу, каб працягваць вучобу. Там трапіў у беларускі батальён «Дальвіц». Пасля падрыхтоўкі вярнуўся на Беларусь для арганізацыі падполля Беларускай незалежніцкай партыі. У верасні 1944 года быў выдадзены здраднікам і арыштаваны. Яго дапытваў асабіста Цанава. Пасля допытаў атрымаў восем гадоў лагераў, якія адбываў у Казахстане і Сібіры. У 1960 годзе вярнуўся на зямлю роднай Беларусі, пасяліўся і жыў у Слоніме.

У 1972 годзе Андрэй Вайтовіч наведаў свайго сябра па рэпрэсіях Казіміра Гінца ў Вроцлаве, які быў знаёмы з Ларысай Геніюш. Той папрасіў Вайтовіча наведаць паэтку ў Зэльве і перадаць ёй прывітанне, а таксама даў Андрэю хусцінку, якую некалі ў лагерах падаравала яму паэтка. Вярнуўшыся з Вроцлава, Андрэй Вайтовіч паехаў у Зэльву да Ларысы Геніюш… Так яны пазнаёміліся і да апошніх дзён жыцця паэткі шчыра сябравалі. Гэта Андрэй Вайтовіч дапамог ёй зрабіць помнік на магілу Янкі Геніюша і даставіў яго з Навагрудка ў Зэльву. То свежанінкі прывязе, то мёду — ні ў чым і ніколі не адмовіла сям’я Вайтовічаў мужнай і таленавітай жанчыне з Зэльвы.

Чытачам кнігі прапаную два вершы Ларысы Геніюш, якія паэтка прысвяціла сваякам Андрэя Вайтовіча. Усе астатнія паэтычныя радкі, прысвечаныя сваяка Вайтовіча, захоўваюцца ў маім хатнім архіве.

*Ларыса Геніюш*

## Бацькам Вольгі

Мамачка родненька, татка мой мілы,
Што гадавалі мяне і любілі,
Што апраналі мяне, даглядалі,
Што для сямейкі ўвесь век працавалі,
Каб выйсьці ў людзі маглі мы, вучыцца,

Сяньня хачу Вам за ўсё пакланіцца
І выразіць сэрцам падзяку, пашану
Заўсёды такім дарагім і каханым.
Вечна ў гняздзе птушанё не бывае,
Час надыходзіць — яно адлятае.
Дзявочая доля ад веку такая,
Што нас ад матулі арол забірае.
Сьцежкі да Вас я ў жыцьці не забуду.
Была Вашай дочкай і век ёю буду.
Калі не дай Божа якое няшчасьце,
Дык не адну, а дваіх нас чакайце.
Схапіў і аднёс арол з хаты дзяўчыну,
Але праз яе ён зрабіўся Вам сынам.
Пойдзем у людзі, як Вы нас вучылі,
І з чэснае Вашай дарогі не змылім.
Падзяка ад сэрца і татку, і маме,
Ды хоць не сумуйце па мне вечарамі
І не чакайце часьценька ў хату,
Бо я ўжо кавалак адрэзаны, тату.
Ды не сумуйце, бацькі мае, верце,
Што буду ля мужа, ля вашага сэрца.
Жадаем Вам долі, здароўя і шчасця
І вы маладым нам таго ж пажадайце.

## Галі і Пецю

Дарагая, каханая Свацьця,
Калі ў думках адкінуць гады,
Дык Вы сяньня мне свацьця і маці,
А я побач — Ваш сын малады.
У гады некалі Вашай навукі,
У вясьняным прыбоі жыцьця,
На дзявочыя кволыя рукі
Вам паклалі малое дзіця.
Дзякуй Вам за імя дарагое,
Што калісьці маломy далі,
Дзякуй Вам, Педагог, і за тое,
Што настаўніцай часам былі.
Сяньня зноў ля мяне Вы, як мама,
За плячыма забыты «фізмат»,
Усё ж даеце жыцьцёвы напрамак,
Наш вясельны вядзеце абрад.
Дзякуй Вам за любоў і спагаду,
За прыхільнасць да нашай сям'і,
За жыцьцёвую, сьветлую праўду,

Што даеце такім вось, як мы.
І за тых хай падзяка Вам будзе,
Што з-пад Вашага выйшлі крыла.
Шмат каго Вы ўжо вывелі ў людзі,
У інстытуцкія сьцежкі з сяла.
Паклон нізкі і Вам, дзядзя Пеця,
Хай такія жывуць на вякі.
Няма лепшых на цэлым сьвеце,
Як з Наваградчыны сваякі.
За наваградскую сардэчнасць
І за нашу да нас любоў
Мы Вам дорым магутных, адвечных,
З Белавежскае пушчы зуброў.
Родам з поля, і з лесу, і з бору мы,
Усе мы родзічы, усе Сябры,
Дык будзьма мужныя і непакорныя
Й пушчам верныя, як зубры.

# УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ НА СЛОНІМШЧЫНЕ

Уладзімір Караткевіч моцна любіў Беларусь, яе гісторыю і людзей. Але больш за ўсё ён любіў падарожнічаць па роднай Бацькаўшчыне. З вандровак ён прывозіў новыя задумкі, тэмы і творы.

Бываў Уладзімір Караткевіч і на Слонімшчыне. Упершыню ён наведаўся сюды летам 1963 года. Разам з ім прыязджалі Янка Брыль і Уладзімір Калеснік. Пазней пра гэту паездку на Слонімшчыну і пра сваіх сяброў пісьменнік напіша ў артыкулах «Мой друг і мая зямля» і «Шляхі ў палях». Што ж уразіла ў Слоніме вялікага літаратара ў першы прыезд? «Быў Слонім, роўны канал і крэмавыя старыя будынкі, ля муроў якіх, у закутках, раслі каравыя старажытныя каштаны, — піша Уладзімір Караткевіч. — У Слонімскім музеі ўразіла мяне адна рэч. Я тады пасаромеўся пра яе сказаць. А шкада, можа б, насмяяліся. Уразіла каменная галава язычаскага бога. Невядомы скульптар, высякаючы яе, відавочна, меў на ўвазе Янку. Аблічча было такое самае — моцнае і масіўнае. Вачэй, што праўда, не хапала. Разумных чалавечых вачэй. Што зробіш, продкі таксама ўсяго не прадбачылі… І толькі гэта ўнутранае падабенства дало мне тады шчаслівае адчуванне рэальнасці таго фантастычнага хараства, што буяла вакол. Аднаго з найпрыгажэйшых гарадоў і адной з найпрыгажэйшых вёсак Беларусі — Кракоткі, і замкаў, і старых муроў».

Што датычыць вёскі Кракотка, дык пісьменнік яе, сапраўды, вельмі моцна палюбіў. У артыкуле «Шляхі ў палях» ён зноў прыгадвае гэтую вёску і яе людзей: «Мы ў Малой Кракотцы, у сябра-настаўніка, дужа до-

брага чалавека. Малая Кракотка — адна з найпрыгажэйшых вёсак, што мне давялося бачыць за ўсё жыццё…».

Вёска Кракотка — вельмі прыгожая вёска з багатай гісторыяй, нацыянальнымі традыцыямі, са знакамітымі людзьмі. У такім прыгожым і багатым на таленты куточку Слонімшчыны не пабываць і не палюбіць яго — Уладзімір Караткевіч проста не мог.

Другі раз наведаў ён Слонім у жніўні 1966 года ў складзе здымачнай групы «Беларусьфільма», якая здымала кароткаметражны дакументальны фільм «Памяць каменя». Са Слоніма іх шлях ляжаў у Сынковічы, Пружаны, Брэст.

Уладзімір Караткевіч не толькі бываў на Слонімшчыне, але і шчыра сябраваў з многімі слонімцамі. У добрых сяброўскіх адносінах ён быў з Анатолем Іверсам, Іванам Чыгрыным, Сцяпанам Міско і з Міколам Грынчыкам, які быў родам з Быценя. Дарэчы, у маі 1967 года разам з Міколам Грынчыкам Уладзімір Караткевіч зноў наведаў Слонім і Быцень, а таксама вёску Мілавіды, дзе ў 1863 годзе адбыўся бой паміж паўстанцамі і царскімі войскамі.

Вельмі шчыра сябраваў Уладзімір Караткевіч з Алегам Лойкам. Разам яны аб’ездзілі амаль усю Беларусь, прымалі ўдзел у літаратурных вечарах і сустрэчах. Бываючы ў Слоніме, пісьменнік заўсёды гасціў у бацькоўскай хаце Алега Лойкі, якая знаходзіцца на Зялёнай вуліцы.

У жніўні 1981 года Уладзімір Караткевіч прыехаў у Слонім разам з жонкай Валянцінай Баніславаўнай і гісторыкам Анатолем Кулагіным. Тады Валянціна Караткевіч і Анатоль Кулагін збіралі матэрыялы для будучай сваёй кнігі «Помнікі Слоніма». Яны спыніліся ў хаце Алега Лойкі, дзе за багатым сталом вялі гутарку пра гісторыю Слоніма. А пасля Валянціна Караткевіч паклікала пісьменнікаў на вуліцу і сфатаграфавала іх на памяць.

Вялікую дапамогу ў напісанні кнігі «Помнікі Слоніма» аказваў жонцы Уладзімір Караткевіч. Кніга атрымалася ўнікальнай, да сённяшняга дня ніхто падобнай пра помнікі Слоніма так і не напісаў. На жаль, Валянціна Караткевіч сваю кнігу так і не пабачыла. Яе не стала на пачатку 1983 года, а кніга выйшла з друку праз паўгода.

Бываючы ў Слоніме, Уладзімір Караткевіч любіў пахадзіць па берагах Шчары і канала Агінскага, а таксама завітаць у Слонімскі краязнаўчы музей. У сваім знакамітым нарысе «Зямля пад белымі крыламі» ён пісаў: «Ціхая даліна Шчары. Песцяць вока зялёныя лугі, узгоркі, лясы. І на беразе, як цацка, Слонім. Сямісотгадовы юнак. Чыстая вада з зялёнымі косамі водарасцяў, што звіваюцца ад хуткасці, амывае яго, бягуць угору і ўніз маляўнічыя вулачкі, бялеюць вежы. Галоўным чынам беларускае барока XVI–XVII стст., але не вычварнае і раскошнае, а простае і строгае. Мясцовы густ.

Тут найлепшы мясцовы музей ва ўсёй Беларусі, музей, які не саступіць і абласному. Прынамсі, ён быў такі, пакуль жыў яго заснавальнік і дырэктар на працягу дзясяткаў год І. Стаброўскі. Пры апошнім наведванні музей мне спадабаўся менш. Экспазіцыя горшая, некаторыя вельмі цікавыя рэчы ў запасніку, а менш цікавыя занялі іх месца.

Прамысловасць тут, галоўным чынам, харчовая, лёгкая (ільнозавод, фабрыка тэкстыльная і мастацкіх вырабаў) і металаапрацоўчая.

А вакол колькі ўсяго! Канал, пабудаваны дзядзькам кампазітара Агінскага, цікавы папярова-кардонны камбінат у Альбярціне, унікальная ў сваёй прыгажосці і суровасці не толькі на Беларусі, але і ва ўсёй Еўропе царква-крэпасць у Сынковічах, такая сумнаадлучаная ад усяго сярод масіваў яблыневых садоў. І комплекс былога ўніяцкага манастыра ў Жыровічах (XVII ст.) з неацэнным сваім жывапісам…».

Захапляўся Уладзімір Караткевіч і Бяздонным возерам, цікавіўся старажытнаславянскім могільнікам V–IX стагоддзяў, што ля вёскі Клепачы. Пра гэта ён пісаў у сваім рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні».

Уладзімір Караткевіч пражыў усяго 54 гады. Ён заўсёды радаваўся сустрэчам са слонімскай зямлёй і яе людзьмі. Зямля наша захавала яго сляды, а мае землякі — памяць пра пісьменніка.

## ПРАВАСЛАЎНЫ СВЯТАР ПАВЕЛ ЛЫСУХА

Праваслаўны святар протаіерэй Павел Лысуха (1892–1954) 27 гадоў адслужыў у Свята-Мікалаеўскім праваслаўным кафедральным саборы ў Беластоку. Я вырашыў сёння згадаць пра гэтага чалавека, беларуса, майго земляка са Слонімшчыны. Тым болей, што большую палову свайго нядоўгага жыцця ён пражыў на Беласточчыне.

Напісаць мне пра Паўла Лысуху прапаноўваў пры жыцці беларускі праваслаўны дзеяч на эміграцыі Барыс Данілюк (1923–2011). Спадар Данілюк пісаў, каб я абавязкова сабраў звесткі і напісаў артыкул пра Паўла Лысуху. У адным са сваіх лістоў Барыс Данілюк паведамляў, што Павел Лысуха меў братоў Мікалая, Серафіма, Аркадзя і сястру Тэклю. «Тэкля была замужам за маім дзядзькам Пракопам з вёскі Сурынка Слонімскага павета. Наймалодшы брат Аркадзь быў кульгавы, але падвучыўся царкоўным спевам і ў 1930-х гадах аж да вайны быў дзякам ва ўніяцкай місіі ў Альбярціне пад Слонімам. Жонка айца Паўла паходзіла, здаецца, з Жыровічаў. У 1930 годзе, калі мы жылі ў вёсцы Шчара на Слонімшчыне, яны прыязджалі нас адведваць. Пра лёс іншых братоў Паўла Лысухі і іх сем'і нічога не ведаю», — пісаў Барыс Данілюк.

І вось я пачаў пошукі. Спачатку завітаў на радзіму Паўла Лысухі — у вёску Сурынка Слонімскага раёна. Звярнуўся да настаяцеля храма святога прарока Іллі ў вёсцы Сурынка айца Генадзя Логіна. Айцец Генадзь паабяцаў дапамагчы, бо ён чуў пра Паўла Лысуху, а ў вёсцы Сурынка амаль палова яе жыхароў маюць прозвішча Лысуха. І праўда, праз некалькі дзён айцец Генадзь мне патэлефанаваў і сказаў, што ў вёсцы жыве пляменнік Паўла Лысухі Уладзімір.

Спадар Уладзімір Лысуха жыве адзін. Жонка памерла пяць гадоў таму. Прыгадваючы яе, стары чалавек заплакаў. Але потым супакоіўся і пачаў распавядаць пра айца Паўла Лысуху. «Павел Лысуха — мой родны дзядзь-

ка, бацькаў родны брат. Я трохі памятаю яго. Ён жыў і служыў у Беластоку, да нас у Сурынку прыязджаў рэдка. Але калі гасцяваў на Бацькаўшчыне, то любіў пасядзець у агародзе каля жыта. Ён садзіўся на табурэтку і доўга глядзеў, як каласуе жыта. І ўсё нешта думаў. У мяне ў памяці гэта засталося на ўсё жыццё», — пачаў распавядаць Уладзімір Лысуха.

— А вы чый сын? — пытаюся ў спадара Уладзіміра.

— Я — сын Мікалая Лысухі, роднага брата Паўла. Іх была чацвёра сыноў. Павел быў старэйшым. Зямлі было мала, таму, каб не дзяліцца з братамі і не спрачацца з-за зямлі, Павел пакінуў вёску і паехаў у Беласток. Ажаніўся. У іх была дачка Раіса. Але яна ўжо таксама памерла ў Беластоку.

— А вы ў царкву ходзіце?

— Вядома ж. Мне і бацюшка наш паведаміў, што вы шукаеце сваякоў Паўла Лысухі.

— Якім яшчэ вам запомніўся дзядзька Павел?

— Я памятаю мала, бо бачыў яго рэдка. Але ведаю, што ён яшчэ добра іграў на скрыпцы. Наогул, дзядзька Павел быў вельмі таленавітым чалавекам.

— Сумна вам, Уладзімір Мікалаевіч, аднаму?

— Так, сумна…

З Сурынкі — роднай вёскі Паўла Лысухі — мой шлях ляжаў у Слонім да ўнучкі Уладзіміра і праўнучкі Паўла Лысухаў — Наталлі. Спадарыня Наталля захавала некалькі здымкаў Паўла Лысухі. Яна ведала, што яе прадзед быў вядомым у Беластоку святаром, але больш пра яго нічога не чула.

Павел Лысуха нарадзіўся ў вёсцы Сурынка Слонімскага павета ў звычайнай беларускай сялянскай сям'і. Сям'я была бедная, таму пра вучобу хлопчыка і размовы быць не магло. Але Паўлік хацеў вучыцца, найперш у Жыровіцкім духоўным вучылішчы. Толькі ў Жыровічы, якія знаходзіліся недалёка ад яго роднай вёскі, паступіць не атрымалася. Тады хлопец паступае ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Праўда, там правучыўся толькі два гады і пакінуў вучобу. Ён становіцца слухачом пеўча-рэгентскіх курсаў у Гродне, якія скончыў у 1912 годзе.

Пасля заканчэння курсаў у Гродне Павел Лысуха працуе псаломшчыкам-рэгентам у прыходзе вёскі Востраў Сакольскага благачыння. Але працаваць доўга не давялося, бо пачалася Першая сусветная вайна. Малады святар вяртаецца на радзіму. І толькі пасля вайны атрымлівае пасаду псаломшчыка-рэгента ў прыходзе Старадзявяткавічы Слонімскага павета. У 1923 годзе Паўла Лысуху пасвячаюць у сан дыякана і ён прызначаецца для служэння ў царкве ў мястэчку Рось (цяпер Ваўкавыскі раён. — *С. Ч.*).

Праз чатыры гады айцец Павел па запрашэнню настаяцеля Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага кафедральнага сабора пераязджае на дыяканскую службу ў Беласток. У 1940 годзе пратадыякан Павел Лысуха прыязджае ў Жыровічы. Там яго архіепіскап Панцеляймон Ражноўскі асвячае ў сан прасвітэра і прызначае вікарным святаром Свята-Мікалаеўскага праваслаўнага кафедральнага сабора ў Беластоку.

27 гадоў служыў айцец Павел Лысуха ў саборы. За гэты час амаль увесь праваслаўны люд Беластока добра ведаў святара, вернікі вельмі паважалі і любілі айца Паўла за яго ціхі, спакойны характар, за пастаянную цеплыню сэрца, за набожнае і пранікнёнае правядзенне царкоўных службаў. Ён даслужыўся ў Беластоку да протаіерэя.

Але жыццё протаіерэя Паўла Лысухі было нядоўгім— ён пражыў няпоўныя 62 гады. Яго не стала 5 мая 1954 года. Протаіерэй В. Рафальскі ў «Церковном вестнике» ў 1954 годзе пісаў, што тры дні праваслаўныя вернікі Беласточчыны развітваліся з Паўлам Лысухам. На паховінах яго, пісаў протаіерэй Рафальскі, было «много венков, утопающий в цветах катафалк, сонм духовенства во главе с Высокопреосвященным архиепископом Тимофеем и множество народа — это редкая и поучительная была картина».

Гэтая невялікая зацемка няхай будзе данінай светлай памяці праваслаўнага беларуса Паўла Лысухі.

## ЖУРАЎЛІНЫ ШЛЯХ ПАЭТА

Старшыня Згуртавання беларусаў Канады Мікола Ганько неяк сказаў: «Пра жыццё і дзейнасць Сяргея Хмары можна напісаць цэлую гісторыю, а можна абысціся некалькімі сказамі» (Лявон Юрэвіч. Камэнтары. Мінск, 1999. С. 170). Андрэй Чэмер паспрабаваў напісаць такую гісторыю пра гэтага чалавека. У 1998 годзе ў Вільні ён выдаў кнігу, якая так і называецца «Сяргей Хмара». Але пра самога беларускага паэта, змагара, выдаўца там так нічога і не было сказана. У кнізе аўтар прайшоўся па старонках газеты «Беларускі голас», якую ў Канадзе выдаваў Сяргей Хмара-Сіняк, і працытаваў розныя факты з газетных публікацый. Цікавымі ў гэтым выданні з'яўляюцца хіба толькі «Прадмова» і «Замест пасьляслоўя».

Наогул, пра Сяргея Хмару-Сіняка напрацягу першых пасляваенных 50 гадоў у беларускім друку пісалася ўсё толькі адмоўнае. Як маглі, так і палівалі брудам яго ў савецкім друку Л. Прокша, В. Раманоўскі, В. Мацкевіч. І толькі аўтару гэтых радкоў у сакавіку 1991 года ў тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» ўдалося надрукаваць невялікі артыкул-згадку пра гэтага своеасаблівага чалавека. Але і гэтая публікацыя выклікала неадназначны рэзананс у Беларусі і ў Канадзе. У газеце «Зважай» (Таронта, верасень 1991) Кастусь Акула, прачытаўшы гэтую першую лімаўскую публікацыю пра Сяргея Хмару, выказаў сваё абурэнне. Ён абураўся тым, што Хмара з 1945 года «сядзеў на Пятровым пасадзе Ватыкану», што «Сіняк-Хмара ніколі не навучыўся беларускае мовы і быў ужо ведамым графаманам у паэзіі», што «падтрымліваў і праслаўляў шарлатана «патрыярха» Рыжага-Рыскага», што «ў 1952 годзе намагаўся захапіць Беларускі Выдавецкі Фонд і газэту «Беларускі Эмігрант», а калі тое не ўдалося, пачаў выдаваць сваю газэту «Беларускі Голас» і г. д.

У канцы 1930-х — пачатку 1940-х гадоў у Слоніме іх усе добра ведалі. Яны пісалі вершы, выступалі на літаратурных вечарах, сустрэчах, друкаваліся ў мясцовай і віленскай прэсе. Гэта былі — Сяргей Хмара-Сіняк, Анатоль Іверс і Сяргей Новік-Пяюн. А яшчэ іх аб'ядноўвала тое, што яны любілі свой край, свой народ, размаўлялі на роднай мове. Пры паляках два Сяргеі і Анатоль былі пад наглядам польскай паліцыі, пасля 1939 года — пад пільным вокам НКУС, у гады вайны — страх быў і перад немцамі, і перад савецкімі партызанамі. Менавіта вайна скразною лініяй прайшла праз лёс гэтых хлопцаў, яна іх разлучыла назаўсёды. Сяргею Хмары (старэйшы за іх быў і больш вопытны) удалося ўцячы на Захад, Сяргей Новік-Пяюн у снежні 1944 годзе быў арыштаваны органамі НКУС, а праз год адпраўлены на 10 гадоў на Калыму. Анатоля Іверса арышты мінулі, хаця немцы расстралялі ягоных жонку і бацьку. А сам паэт, жывучы ў Слоніме, да самай смерці насіў кляймо «нацыяналіста». Пасля вайны, як пісаў Васіль Быкаў у сваёй кнізе «Доўгая дарога дадому», Анатоль Іверс «быў звольнены з працы, выключаны з СП і пятнаццаць гадоў прарабіў на смалакурні ў лясгасе» (Васіль Быкаў. Доўгая дарога дадому. Мінск, 2002. С. 319).

Мне пашанцавала ў жыцці з гэтымі людзьмі быць добра знаёмым, шмат гадоў сябраваць. З Анатолем Іверсам сустракаліся і гутарылі часцей, бо жыў ён са мною побач у адным нашым родным Слоніме. З Сяргеем Новікам-Пяюном сустрэчы адбываліся і ў Слоніме, і ў Мінску ў ягонай маленькай кватэры на вуліцы Купрыянава. А вось спаткацца з Сяргеем Хмарам не давялося, хаця мы дзесяць гадоў перапісваліся. Шмат гэтыя людзі мне распавядалі пра сваё жыццё-быццё, найперш пра акупацыйны немцамі Слонім. І што дзіўна, што кожны з іх у сваім трагічным лёсе абвінавачваў сяброў. Паэты адышлі на той свет, але так і не паміryліся. Хаця Сяргей Хмара гэтага хацеў, часам дасылаў ім свае газеты і часопісы. Але хлопцы маўчалі. І хто з іх у чым быў вінаваты — сёння цяжка судзіць. Кожны з іх ратаваў сябе, як мог. І кожнаму з іх у жыцці было нялёгка. Тым не менш слонімскія паэты не скарыліся, не прапалі, не зніклі. Ды і пражылі яны доўгія жыцці: Сяргей Новік-Пяюн — 88 гадоў, а Анатоль Іверс і Сяргей Хмара — па 87 гадоў. Бог, як кажуць, адмераў ім аднолькава.

І ўсё ж самым неразгаданым, розным і супярэчлівым быў у жыцці і застаецца ў гісторыі беларускай літаратуры і гісторыі нацыянальнага руху Сяргей Хмара-Сіняк. Нават месца яго нараджэння падаецца па-рознаму. Адны выданні пісалі, што ён нарадзіўся ў Пінску, другія — у Адэсе, трэція — у Слоніме. Ды і сам ён паведамляе ў сваёй аўтабіяграфіі, што нарадзіўся ў Адэсе (Запісы Беларускага інстытута навукі і мастацтва. Вып. 24. Нью-Ёрк, 1999. С. 149). І ўсё ж Сяргей Сіняк нарадзіўся не ў Адэсе і не ў Пінску, а ў вёсцы Казлоўшчына былога Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён) 25 траўня 1905 года. А калі яму споўніўся год, бацькі ў пошуках працы выехалі на Украіну, пасля ў Варшаву, а потым, калі пачалася Першая сусветная вайна, жылі ў Казані, Растове-на-Доне і ў Варонежскай губерні.

У 1918 годзе пры нявысветленых абставінах загінуў бацька. Сяргей Сіняк з маці і з малодшаю сястрою вярнуліся ў родную вёску. Вучыцца хлопчыку не было за што. Таму, пасля расійскай пачатковай школы, ён займаўся самаадукацыяй: шмат чытаў па-руску, па-беларуску і па-польску, асабліва зачытваўся раманамі Генрыка Сянкевіча. І вельмі шмат працаваў: пастухом, лесарубам, землякопам, агароднікам, падзёншчыкам у маёнтку, будаўніком… На працы заўсёды дабіваўся справядлівасці. Аднойчы нават кінуў каменем у панскага аканома за тое, што няправільна і мала налічылі заробак. Аканом выгнаў яго з работы і даў мянушку «бунтар». Пасля «бунтара» выганялі з будаўніцтва дарогі за арганізаваны страйк, пасля, калі працаваў касцом у маёнтку, і з іншых месцаў.

У пачатку 1920-х гадоў Сяргей Сіняк наладжвае кантакты з сябрамі Беларускай Народнай Рэспублікі, з рознымі адказнымі заданнямі ездзіць у Варшаву, Вільню, Слонім. Ён хутка знаёміцца з беларускімі вайскоўцамі, з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі — Рамуальдам Зямкевічам, Гальяшом Леўчыкам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Аляксандрам Уласавым і з іншымі. Становіцца адным з арганізатараў Таварыства беларускай школы (ТБШ), арганізоўвае 12 беларускіх школ. У Брэсцкім абласным архіве знаходзіцца, як пацвярджэнне, пасведчанне на імя Сяргея Сіняка, што ён з’яўляўся сябрам ТБШ (Ф. 2042. Воп. 1. Спр. 8869).

У сярэдзіне 1920-х гадоў Сяргей Сіняк уступае ў Беларускую сялянска-работніцкую грамаду. На Слонімшчыне ён арганізоўвае 32 гурткі Грамады, якія налічвалі каля трох тысяч чалавек.

У 1930 годзе Сяргея Хмару выбіраюць сакратаром пасольскага клуба «Змаганьне» ў Пінску, ён спрабуе закласці беларускую гімназію і выдаваць часопіс. Праз год юнак працуе інструктарам Галоўнай управы ТБШ у Вільні, а яшчэ праз год яго арыштоўвае польская дэфензіва і разам з Браніславам Тарашкевічам саджае ў турму. У час працэсу Грамады польскі пракурор-абвінаваўца назваў С. Сіняка «лятаючым рыцарам Грамады». Наогул, Сяргей Сіняк пры палягах, пры саветах і пры немцах за сваю актыўную беларускую палітычную і творчую дзейнасць адсядзеў каля 11 гадоў у турмах. У аўтабіяграфіі (зборнік «Мы», выданне суполкі «Ускалось» на чужыне, 1949) ён пісаў: «Мае школы — Лукішкі, турмы ў Слоніме, Гародні, Пінску, Берасьці, канцэнтрацыйны лагер Картуз-Бяроза і шмат іншыя». Пра яго актыўнасць і смеласць у Заходняй Беларусі паведамляла нават Тэлеграфнае Агенцтва Савецкага Саюза (ТАСС). Гэтае паведамленне апублікавалі ўсе газеты былой вялікай краіны. «Слоним (Западная Белоруссия). 13 октября. Заместителем начальника городского отряда рабочей гвардии Слонима работает широко известный в Западной Белоруссии молодой, талантливый поэт Сергей Хмара. С оружием в руках он охраняет свой город и организует борьбу с притаившимся остатками офицерских бандитских шаек. До прихода в Слоним Красной Армии поэт находился в концентрационном лагере Картуз-Береза. В польских тюрмах, казематах и лагерях он провел 6 лет. В своих произведениях Сергей Хмара писал о тяжелой доле угнетавшихся панами хлеборобов Западной Белоруссии и выражал уверенность в том, что скоро настанут

времена, когда крестьяне будут свободными и счастливыми. Сбылись слова поэта, эти времена настали» — пісала газета «Социалистическая Якутия» 17 кастрычніка 1939 года.

Са зброяй у руках Сяргей Сіняк не ваяваў, а вось пяром валодаў добра. Першы надрукаваны верш з'явіўся ў газеце «Беларуская крыніца» ў 1925 годзе. Ён меў назву «Годзі, мы доўга цярпелі, мы доўга хадзілі ў ярме». А праз тры гады паэты і празаікі Заходняй Беларусі выдаюць у Вільні зборнік «Рунь веснаходу», дзе побач з вершамі Хведара Ільяшэвіча, Наталлі Арсенневай, Міхася Васілька, Яўгена Бартуля і іншых аўтараў надрукаваны і творы Сяргея Хмары-Сіняка. А вось першыя паэтычны зборнік «Бунтарнае» і кніга прозы «Шляхам барацьбы» загінулі падчас ліквідацыі выдавецтва «Рунь». Але ў 1939 годзе першая кніга вершаў «Жураўліным шляхам» Сяргея Сіняка пад псеўданімам Хмара ўсё ж пабачыла свет у Вільні.

Зборнічак быў невялікі, ён налічваў усяго 24 вершы. Паэт шчыра апісваў жыццё сваіх землякоў з яго праблемамі і традыцыямі. Цікава і дасціпна паказаў вобразы землякопаў і краўчых, а таксама вобраз вёскі. Гэтыя паэтычныя радкі гучалі як заклік да жыцця і змагання. Але ў кожным вершы адчувалася нейкая самота і адзінота:

Неба начой было яснае, яснае!  
Белае, белае, — як малако.  
Недзе жалеза затворамі ляснула,  
Сумна зайржаў ў хляве конь.

Мацнейшымі ўсё ж былі ў зборніку радкі, прысвечаныя Прыпяці, Палессю і наогул — роднай прыродзе:

Цэлы дзень у паветры сонным  
Кос гарыць пажар.  
Плача кнігаўка і звоне  
Травяны абшар.

Паэт вылучаўся сярод сваіх равеснікаў вынаходніцтвам новых беларускіх слоў, якімі любіў насычаць свае вершы. Праўда, не ўсе яны ў нашай мове прыжыліся. Напрыклад, такія словы, як «запраўляч», «шувары», «ладунак».

У 1937 годзе Сяргей Сіняк у Дзятлаве арганізоўвае літаратурную сустань «Баявая Ўскалось». Плануе разам са сваімі равеснікамі і старэйшым слонімскім паэтам Гальяшом Леўчыкам выдаваць аднайменны літаратурны часопіс. Але палякі не дазволілі.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь Сяргей Хмара жыве ў Слоніме. Праз два тыдні яго арыштоўваюць органы НКУС і саджаюць у мінскую турму, а пасля пераводзяць у Чэрвень. З пачаткам вайны арыштаваных з Чэрвеня гоняць пехатою ў Магілёў. Па дарозе Сяргею Хмары ўдаецца ўцячы, і ён вяртаецца ў акупаваны немцамі Слонім. Прыдбаўшы невялікую кніжную краму, ён прадае беларускія часопісы,

газеты і кнігі, прымае ўдзел у выданні газеты «Слонімскі кур'ер», выступае на раённым радыё. Акрамя гэтага наш зямляк арганізоўвае брыгаду Беларускай самапомачы. Але пасля таго, як гэтая брыгада адмовілася ўдзельнічаць у грабяжах гета, яна была немцамі ліквідавана, а Сяргея Хмару зноў пасадзілі ў турму (дзякуючы сябрам праз пэўны час яго вызвалілі). Таму меў рацыю Юрка Віцьбіч, калі казаў, што «ўсялякі без вылучэньня акупант Беларусі (паляк, расеец, немец) саджаў Сяргея Хмару за краты, а таму ён больш за іншых мае права пісаць:

Усьцяж Беларусь!
Беларусь на губах,
У сэрцы ж —
Чорная здрада!

Мне прыемна, што ў трэцім нумары «Шыпшыны» (беларускі эміграцыйны часопіс, які выдаваўся ў 1946–1950 гадах, выйшла 9 нумароў. — *С. Ч.*) быў надрукаваны гэты верш Сяргея Хмары «Беларусь», які зьяўляецца клясычным узорам палітычнае паэзіі, патрыятычнага мастацтва. Урэшце-рэштаў, ён успрымаецца як паэтычны маніфэст «Баявое Ўскалосі» (Лявон Юрэвіч. Літаратурны рух на эміграцыі. Мінск, 2002. С. 78–79).

У 1944 годзе Сяргей Сіняк едзе ў Германію, баючыся, што пасля яе капітуляцыі ён зноў трапіць у засценкі НКУС. Спачатку працуе дырэктарам Беларускага інфармацыйнага бюро, а пасля рэдактарам газеты «Голас беларусаў». Ужо тады ён пачынае адраджаць літаратурную сустань, але на гэты раз не маладой, а «Баявой Ўскалосі» са знакам «Двупагоняй», г. зн. з абаронай Беларусі з Захаду і з Усходу. Па-ранейшаму піша вершы і выдае свой другі зборнік паэзіі «Мы». Сюды ўвайшлі вершы, напісаныя ў 20–30-х гадах, а таксама новыя, у якіх адчуваецца настальгія па Бацькаўшчыне і сум развітання з ёю:

Хусткай пунсоваю ўсход упрыгожыўся,
Шоўкавы дотык вецер прынёс.
Вылезла сонца, умыўшыся росамі,
І засьмяялась, запесьціла косамі
Статныя станы бяроз.

З Германіі яго шлях ляжыць у Канаду ў Таронта, дзе і пражыў усё сваё жыццё.

У Таронта Сяргей Хмара найперш займаўся выдавецкай дзейнасцю. Выдаў там 18 нумароў часопіса «Баявая Ўскалось», а таксама каля 370 нумароў газеты «Беларускі голас». Апошнія два нумары выйшлі з друку пад назваю «Водгаласы». Усе гэтыя выданні выдаваў за свой асабісты кошт.

Многія беларускія суайчыннікі на эміграцыі крытыкавалі Сяргея Хмару за тое, што ён шмат у сваіх выданнях пісаў пра сябе, пра сваю сям'ю, публікаваў у кожным нумары свае здымкі. Але яму гэта можна

сёння даравацъ, тым больш, што гэта былі яго ўласныя выданні. Але яны заўсёды выдаваліся па-беларуску, у іх паведамлялася пра жыццё на Беларусі, пра справы беларускай дыяспары на эміграцыі, друкаваліся вершы беларускіх паэтаў, цікавыя гістарычныя матэрыялы, напрыклад, успаміны Сяргея Хмары пра Гальяша Леўчыка, Антона Луцкевіча, Якуба Міско, Піліпа Пестрака, Максіма Танка, Уладзіміра Дубоўку і пра многіх іншых вядомых беларусаў. На старонках «Баявой Ускалосі» і «Беларускага голасу» публікавалі свае творы многія беларусы, якіх лёс закінуў у розныя дзяржавы свету. Сярод іх — Янка Юхнавец, Кастусь Мярляк, Юрка Віцьбіч, Міхась Кавыль, Алесь Змагар, Вольга Трэска, Мікола Целеш, Мікола Вярба, Уладзіслаў Сноп, Васіль Вір, Наталля Арсеннева, Ніна Змагарка, Мікола Панькоў — ды усіх не пералічыць. Вядома, у выданнях Сяргея Хмары было і засталося шмат памылак, недакладнасцяў, найперш у датах, геаграфічных мясцінах, нават у прозвішчах. Відаць было, што рэдактар не карыстаўся энцыклапедычнымі даведнікамі, а шмат пісаў тое, што ведаў, што захавала памяць. Жыццё на чужыне для яго не было лёгкім, тым больш, што з Радзімай Сяргей Хмара-Сіняк развітаўся ў 40-гадовым узросце. Яму і там хацелася дзейнічаць, змагацца за Беларусь іншым шляхам, іншымі метадамі. Ён любіў і паважаў, крытыкаваў і злаваў на прадстаўнікоў БНР і БЦР, але сам ад іх заставаўся ўбаку. Ён быў прыхільнікам «трэцяй сілы» на эміграцыі. І нам сёння трэба з гэтым змірыцца і прымаць Сяргея Хмару такім, якім ён быў.

Акрамя выдавецкай дзейнасці, наш суайчыннік на эміграцыі даследаваў беларускую міфалогію. Па гэтай тэме выдаў кнігі «Аб Багох крывіцкіх сказы» (два выданні) і «Сказы Бацькаўшчыны». У іх аўтар паспрабаваў зрабіць сваю «рэканструкцыю» міфалогіі. Хмара расказаў пра Дальбога, Чарнабога, Ярылу Санцалістага, Яшчара, Воласа, Ляля, Зюзю і іншых крывіцкіх багоў беларускай міфалогіі.

Да ўсяго сказанага вышэй пра Сяргея Хмару-Сіняка трэба дадаць, што ён шмат гадоў употайкі перапісваўся з Піліпам Пестраком, які дасылаў яму беларускія кнігі. А ў рамане «Сустрэнемся на барыкадах» П. Пестрак нават змясціў невялікі ўрывак з яго песні «Годзе, мы доўга цярпелі…».

У добрых адносінах ён быў з Валянцінам Таўлаем, Андрэем Чэмерам і з іншымі беларускімі літаратарамі. У адным з апошніх лістоў да аўтара гэтых радкоў Сяргей Хмара пісаў: «У нас тут на чужыне многія ўжо памерлі ці хутка памруць. І мне штораз горш. Бывае не магу ані пісаць, ані хадзіць нават. Вір — у Гамільтоне, Вольны — у Нью-Ёрку, Змагар — на Флярыдзе. Усе хварэюць. Янка Макарэвіч у Аўстраліі, год як ляжыць паралізаваны. Нешта падобнае там і з Сасноўскім. Смаленскі жыў у Англіі, ужо не піша. Не піша і Дуброўскі з Аўстраліі. Ён і Жамойда нявылечна хворыя. Дрыгвіч з Англіі таксама не піша. Замоўк Юхнавец. Цэлеш і Ліманоўскі з ЗША — таксама. Нядаўна памерла Ніна Змагарка. Замоўкла Валянціна Сірата… Маладой руні мы не маем. З нашым адыходам — скончыцца тут і Беларусь…». Сумна такія радкі чытаць. А яшчэ горка было тады, калі з Канады прыйшла вестка, што не стала Сяргея Хмары-Сіняка. Яго жураўліны

шлях закончыўся 4 верасня 1992 года ў Таронта. На жаль, беларускі друк пра гэта не паведаміў. А дзясяткі замежных часопісаў і газет змясцілі на сваіх старонках развітальныя словы. Вось што напісала, напрыклад, украінская газета «Новий шлях» (Канада): «Сяргей Сіняк народився 87 років (і три місяці) тому в Білорусії, пережив царя, революцію, дві світові війни, табори, еміграцію, і розвал комуністичноі імперіі. І тепер, власне тепер він був потрібний своій Батьківщині, але — Бог рішив інакше…».

## НЕВЯДОМЫ ПАЭТ І АРХЕОЛАГ ГЕНРЫХ МІЛАЧЭЎСКІ

Даўно яшчэ чуў ад старых сваіх землякоў, што ў пачатку XX стагоддзя на Слонімшчыне жыў цікавы паэт і археолаг Генрых Мілачэўскі. Знайсці хоць якія-небудзь звесткі пра яго ў Беларусі і ў Польшчы мне шмат гадоў не ўдавалася. Няма звестак пра яго і ў «Польскім біяграфічным слоўніку».

Тым не менш у апошні час сёе-тое з біяграфіі Генрыха Мілачэўскага ўдалося даведацца. Найбольш у гэтым дапамагла 85-гадовая сланімчанка Ганна Пішчыкевіч. Ганна Фёдараўна родам з Мілачэўскіх. Пра сваіх дзядоў і прадзедаў яна мне расказала вось якую гісторыю.

Браты Мілачэўкія ў XIX стагоддзі жылі ў вёсцы Блізная, недалёка ад шашы па дарозе са Слоніма на Ружаны. Адзін з братоў — Міхал Мілачэўскі — браў удзел у паўстанні 1863 года. А пасля паражэння паўстання Міхалу Мілачэўскаму ўдалося ўцячы ў Парыж. Там ён ажаніўся з француженкай і ад гэтага шлюбу меў дачку і сына. Пражыўшы ў Парыжы 13 гадоў, Міхал з сям'ёй вярнуўся на Слонімшчыну. Але браты не дужа ветліва яго сустрэлі і адмовілі Міхалу ў спадчыне, якая засталася ад бацькоў. Але за прывезеныя з Францыі грошы Міхалу Мілачэўскаму ў 1878 годзе ўдалося купіць невялікі маёнтак на хутары Камілёва і млын у вёсцы Клепачы Слонімскага павета. А калі Міхал састарэў, то ўсю сваю спадчыну ён перадаў сыну Паўлу.

На той час Павел жыў добра, у яго было чацвёра дзяцей — Генрых, Ганна, Марыя і Паўліна. Кожнаму з дзяцей Паўла пасля смерці ў спадчыну засталося па 5 гектараў зямлі і па 1/4 частцы млына ў вёсцы Клепачы. Праўда, сына Генрыха праца на зямлі мала цікавіла, яго больш цягнула да кніг, да вывучэння гісторыі роднай зямлі.

Генрых Мілачэўскі нарадзіўся прыблізна ў 1897 годзе на хутары Камялёва, недалёка ад чыгуначнай станцыі Азярніца. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Слоніме. Потым, магчыма, вучыўся ў Вільні. Але дзе канкрэтна, аўтару гэтых радкоў даведацца пакуль не ўдалося.

Генрых Мілачэўскім пісаў на польскай і беларускай мовах, якія сам дасканала ведаў. У 1929 годзе ў Гродне ў друкарні К. Крамкоўскага ён выдаў зборнік выбраных вершаў на польскай мове «Płyń, piosenko». Сюды ўвайшлі вершы, напісаныя аўтарам на працягу 1908–1922 гадоў. Гэта вершы, прысвечаныя роднай прыродзе, бацькоўскай зямлі, сябрам,

землякам, шмат радкоў на рэлігійныя тэмы, а таксама вершы, прысвечаныя бежанству перыяду Першай сусветнай вайны. У адным з вершаў паэт сам шчыра прызнаўся: «Для вас — знаёмых і незнаёмых сёстраў і братоў я пішу свае паэтычныя радкі».

Генрых Мілачэўскі для Ганны Пішчыкевіч быў родным дзядзькам, гэта родны брат яе мамы. У Ганны Фёдараўны да сённяшніх дзён захоўваецца вышэй названы зборнічак вершаў з аўтографам для яе мамы: «Каханай маёй сястры Полі — на памятку. Г. Мілачэўскі. 17.XI.1930».

Сама Ганна Пішчыкевіч не памятае роднага дзядзькі. Але па яе словах, як расказвала ёй мама, дамоў са Слоніма, Гродна і Вільні Генрых прыязджаў з кнігамі, часопісамі і газетамі, альбо з калекцыямі розных старых рэчаў. Дарэчы, у фондах Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея знаходзіцца крамянёвы інвентар з ваколіц маёнка Антонава былога Слонімскага павета (ГИАМ 3642). Ён быў перададзены ў музей Генрыхам Мілачэўскім перад Другой сусветнай вайной і налічвае 28 адзінак. Той факт, што калекцыя складаецца толькі з крамянёвых прыладаў працы, сведчыць аб тым, што іх збіральнік валодаў пэўнымі археалагічнымі ведамі. Асноўная частка гэтых знаходак колькасна і тыпалагічна адносіцца да перыяду канца неаліту — пачатку бронзавага веку (другая палова III — першая палова II тысячагоддзя да нашай эры). І на сённяшні дзень гэта знаходка з’яўляецца каштоўнай у фондах Гродзенскага музея.

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны Генрых закахаўся ў прыгожую яўрэечку са Слоніма. Ён прысвяціў ён шмат сваіх паэтычных страфаў. Але вайна і тагачасныя расійскія парадкі выгналі сям’ю Мілачэўскіх у глыб Расіі. Пасля вяртання спаткаць сваё першае каханне Генрых не змог. Ён пайшоў у прымы да багатай жанчыны, якая жыла на хутары Антонава. У іх нарадзілася дачка Галіна.

У канцы 1930-х гадоў Генрых Мілачэўскі моцна захварэў на цукровы дыябет. Яму аднялі нагу, а 3 лютага 1941 года паэта і археолага не стала. Пахавалі яго на могілках вёскі Моўчадзь, цяпер гэта Баранавіцкі раён.

## ЛУКАШ ДЗЕКУЦЬ-МАЛЕЙ

У канцы лістапада 2008 года ў Мінскай багаслоўскай семінарыі евангельскіх хрысціян-баптыстаў адбылася канферэнцыя, прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння беларускага грамадскага і рэлігійнага дзеяча, прапаведніка баптызму, перакладчыка рэлігійных тэкстаў на беларускую мову нашага земляка Лукаша Дзекуця-Малея.

Выступоўцы на канферэнцыі называлі Л. Дзекуця-Малея «героем веры» і падкрэслівалі, што сёння важна не толькі зразумець такіх людзей, але і браць з іх прыклад.

У прыватнасці, як зазначыў выканаўчы дырэктар беларускай службы хрысціянскай радыёвяшчальнай арганізацыі «Транссусветнае радыё»

(Брэст) Сцяпан Пекун, Лукаш Дзекуць-Малей з'яўляецца «змагаром за свабоду сумлення і пламенным патрыётам».

Паводле слоў доктара гістарычных навук, прафесара Захара Шыбекі, Лукаш Дзекуць-Малей быў адным з тых, хто спрабаваў зрабіць пратэстантызм беларускай нацыянальнай царквой у Заходняй Беларусі. Гісторык Шыбека лічыць, што жыццё Лукаша Дзекуць-Малея з'яўляецца «яскравым прыкладам таго, як пратэстантызм на мове народа абуджае ў ім дух творчасці і прадпрымальніцтва.

У 1918–1920 гады Дзекуць-Малей займаўся стварэннем беларускіх школ, дапамогай сіротам і місіянерскай дзейнасцю на Гродзеншчыне. З 1921 года на працягу 20 гадоў ён узначальваў евангельскую абшчыну на Брэстчыне, а таксама адкрыў у Брэсце Дом малітвы з прытулкам для дзяцей-сірот, навучаннем настаўнікаў нядзельных школ, курсамі для прапаведнікаў і рэгентаў.

Лукаш Дзекуць-Малей разам з беларускім дзеячам Антонам Луцкевічам пераклаў на беларускую мову і выдаў у 1931 годзе ў Хельсінкі (Фінляндыя) 25-тысячным накладам «Новы Запавет і Псалмы».

Лукаш Дзекуць-Малей нарадзіўся 1 кастрычніка 1888 года ў Слоніме, па іншых звестках — у Слонімскім павеце, у сям'і настаўнікаў. У чатыры гады страціў сваіх бацькоў. Да 16 гадоў выхоўваўся ў сям'і педагогаў Фунтаў. Пасля школы скончыў Слонімскую настаўніцкую семінарыю (1906). Спачатку працаваў настаўнікам, а пазней — інспектарам народнай адукацыі на Слонімшчыне. Служыў у расійскім войску ў Беластоку, дзе пазнаёміўся з вернікамі евангельска-баптысцкага веравызнання, стаў наведваць іх царкву. У ноч з 31 снежня 1911 года на 1 студзеня 1912 года ў Беластоку на рацэ Супрасль прыняў вадохрышча паводле баптысцкага абраду. Выкладаў вадохрышча прэсбітэр беластоцкае царквы Раман Хамяк.

У 1912 годзе пачаў прапаведваць евангельска-баптысцкую веру, за што быў арыштаваны ў Лыскаве на Пружаншчыне і прывезены ў турму ў Брэст, але хутка быў вызвалены.

У 1913 годзе Лукаш Дзекуць-Малей становіцца студэнтам першых біблейскіх курсаў евангельскіх хрысціянаў Праханава ў Санкт-Пецярбургу. У 1915 годзе пачаў вучыцца ў духоўнай семінарыі. І з 1917 года заняўся душпастырскай працай у Гродне. У канцы 1918 года наш зямляк быў прызначаны беларускім урадам камісарам крэйзу Крынкі — Лунна.

У снежні 1918 года святар Дзекуць-Малей удзельнічае ў Гродзенскім беларускім сялянскім з'ездзе, на якім яго абіраюць у Гродзенскую павятовую раду і аргкамітэт па скліканні Краёвага беларускага з'езда. Часта наведвае Гродна і Слонім, становіцца сябрам Камітэта нацыянальнага адраджэння Беларусі, клуба «Беларуская хатка». За гэта яго некалькі разоў арыштоўваюць польскія ўлады.

Восенню 1919 года Дзекуць-Малей скончыў беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні. З ліпеня 1919 года ён — старшыня Гродзенскай цэнтральнай беларускай настаўніцкай рады, а з чэрвеня 1920 года — Гродзенскай беларускай школьнай рады. Уваходзіў у склад прэзідыуму Цэнтральнай

беларускай школьнай рады ў Мінску, быў кіраўніком беларускага дзіцячага прытулку.

У сярэдзіне лістапада 1919 года наш зямляк адаслаў у Вільню пратэст ад імя гродзенскіх беларускіх арганізацыў супраць летувіскіх замахаў на Гродзеншчыну. 20 лістапада 1919 года Антон Луцкевіч перадаў пры сустрэчы Ю. Пілсудскаму сабраныя Лукашом Дзекуць-Малеем матэрыялы аб перашкодзе з боку польскіх уладаў у адкрыцці беларускіх школ на Гродзеншчыне. 29 лістапада 1919 года атрымаў ад Антона Луцкевіча для беларускіх арганізацый Гродзеншчыны 25 тысяч марак. Тады ж, магчыма, хварэў на тыф і быў арыштаваны ўжо трэці раз. У пачатку 1920 года Дзекуць-Малей становіцца сябрам Гродзенскага беларускага нацыянальнага камітэта. 19 ліпеня 1920 года, падчас польскай эвакуацыі з Гродна, Вацлаў Іваноўскі выдаў яму з Цэнтральнай касы БНР 2 тысячы марак грашовага крэдыту на беларускія справы. У канцы ліпеня 1920 года ён з'яўляўся кіраўніком пададдзела ясляў і прытулкаў пры аддзеле сацзабеспячэння Гродзенскага рэўкама. Узначальваў гарадзенскіх баптыстаў і нават выпускаў уласны баптысцкі друкаваны орган на беларускай мове. Летам 1921 года нашага земляка зноў арыштавалі і вывезлі ў Беластоцкую турму. З канца 1921 года жыве ў Брэсце, дзе прапагандуе баптызм. Яшчэ з 1920 года супрацоўнічае з Грэгарам — кіраўніком баптысцкай місіі ў Лодзі.

У 1920–1924 гадах Лукаш Дзекуць-Малей пераклаў 17 рэлігійных брашур на беларускую мову, у тым ліку разам з Антонам Луцкевічам выдаў у 1931 «Новы Запавет і Псальмы» (Гельсінгфорс). У снежні 1927 года адкрыў малітоўны дом, пры якім арганізаваў кравецкія і пчалярскія курсы. Пазней там таксама адчыніў дзіцячы прытулак і нядзельную школу.

19 чэрвеня 1941 года Лукаш Дзекуць-Малей быў арыштаваны ў Брэсце органамі НКУС і прыгавораны да смяротнага пакарання. Вызвалены разам з прыходам нямецкіх войскаў. У гады Другой сусветнай вайны быў прасбітарам беларускіх баптыстаў на акупаванай тэрыторыі Беларусі. У 1942 годзе ў Мінску выдаў малітоўнік на беларускай мове. У 1943 годзе за дапамогу мясцовым жыдам быў высланы нямецкімі ўладамі ў лагер працы ў Ліпяны каля Шчэціна. Потым вызвалены. Удзельнічаў у Другім Усебеларускім кангрэсе.

У 1944–1945 гадах наш зямляк жыў у Германіі. А калі скончылася вайна, ён пераехаў у Польшчу. З сакавіка 1947 года да сакавіка 1949 года быў баптысцкім прапаведнікам і акруговым прасбітарам у Гданьску.

Быў жанаты з Серафімай Кішко, загадчыцай Гродзенскай прытулкавай беларускай школы. Меў траіх дзяцей: Серафіму (1928), Альжбету (1929) і Данеля (1930).

Лукаш Дзекуць-Малей памёр у польскім горадзе Гданьску ў 1955 годзе. Яго імем там названа вуліца і ўстаноўлены помнік.

# У ВЯНОК ЛУКАШУ ДЗЕКУЦЬ-МАЛЕЮ

У адной з мінскіх кнігарняў набыў выдатную кнігу «Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі» (Брэст, 2011). Абмінуць яе я проста не мог. Па-першае, Дзекуць-Малей — мой зямляк, родам са Слонімшчыны. Па-другое, ён — беларускі святар, патрыёт, перакладчык. Па-трэцяе, гэта першае сур'ёзнае даследаванне жыцця, дзейнасці і творчасці Лукаша Дзекуць-Малея. Гэта ён у пісьме ад 22 кастрычніка 1928 года пісаў Антону Луцкевічу: «Дай Бог, каб мы маглі дачакацца не толькі выхаду ў свет поўнага Евангелля з Псалтырам, але, каб маглі ўбачыць поўную Біблію на нашай роднай мове беларускай».

Зборнік матэрыялаў, артыкулаў і дакументаў не мог не быць цікавым, змястоўным, сур'ёзным выданнем. Над ім працавалі вядомыя даследчыкі духоўнай гісторыі нашай Бацькаўшчыны — Алена Глагоўская, Андрусь Унучак, Сцяпан Пекун, Уладзімір Ляхоўскі, Андрэй Чарнякевіч, Аляксандр Ільін, Захар Шыбека, Юрась Бачышча. Разам яны зрабілі добрую справу — гэтым выданнем ушанавалі памяць беларускага пастара, якога смела можна паставіць ў адзін шэраз з самымі выдатнымі беларусамі XX стагоддзя.

Аўтары зборніка грунтоўна прааналізавалі гарадзенскі «эпізод» жыцця пастыра Лукаша Дзекуць-Малея, яго дзейнасць у дакументах Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобласці, на аснове новых крыніц распавядалі пра беларускі пераклад «Новага Запавету і Псалмоў» (1931), пра ўзаемаадносіны Дзекуць-Малея з Антонам Луцкевічам, Янам Пятроўскім, дзейнасць пастара на ніве беларускай школьнай справы ў Гродне і г. д.

Сапраўды, у 1920–1930-я гады ідэя перакладу і гістарычная інтэрпрэтацыя на беларускай мове Святога Пісьма становяцца нацыянальнай справай. Цікавіла яна і такіх вядомых беларускіх дзеячаў, як Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Радаслаў Астроўскі, Сымон Рак-Міхайлоўскі, Гальяш Леўчык, Аляксандр Уласаў, Кастусь Езавітаў. У праваслаўным асяродку да гэтай справы далучыліся святар Васіль Раманоўскі і Сяргей Паўловіч. У пратэстанцкім асяродку адным з першых, хто звярнуўся да ідэі перакладу, быў менавіта Лукаш Дзекуць-Малей. Ён перадаў свае пераклады са стараславянскай мовы Новага Запавету Антону Луцкевічу, і той захапіўся працай, бо ўбачыў у перакладзе не толькі сродак сцвярджэння і прызнання беларускай мовы, абуджэнне нацыянальнага гонару, але і сродак паяднання беларускага народа. У 43 гады Бог даў Лукашу Дзекуць-Малею магчымасць убачыць і патрымаць у руках плён сваёй 10-гадовай тытанічнай працы — «Новы Запавет і Псалмы» на беларускай мове.

Як пішуць ва ўступным слове да кнігі Юрась Гецэвіч і Андрусь Унучак, выданне Новага Запавету і Псалмаў цяжка пераацаніць. У той час, калі ў БССР нішчылася нацыянальная інтэлігенцыя, знішчалася царква і гвалтоўна фармаваўся савецкі народ, у Заходняй Беларусі, што ўваходзіла

ў склад Польшчы, моцна закаранялася хрысціянства. 25 000 асобнікаў Новага Запавету і Псалмаў разышліся даволі хутка. Працу пастара Л. Дзекуць-Малея вельмі высока «ацанілі» бальшавікі, засудзіўшы яго ў чэрвені 1941 года да смяротнай кары. Выратаваў святара толькі пачатак нямецка-савецкай вайны. Вымушаны ў выніку ваенных падзеяў да канца жыцця жыць у польскім Гданьску, пастар Лукаш і там пакінуў пасля сябе добрую памяць. Як доказ гэтага, адна з вуліц Гданьска носіць ягонае імя.

У выданні «Лукаш Дзекуць-Малей і беларускія пераклады Бібліі» апублікаваны і пісьмы Дзекуць-Малея і яго жонкі Серафімы да Антона Луцкевіча і Яна Пятроўскага, выяўленыя ў архівах Аленай Глагоўскай. Я шмат гадоў сябраваў з Янам Пятроўскім, перапісваўся з ім. Ён даволі часта прыгадваў добрымі, шчырымі словамі маіх землякоў Лукаша Дзекуць-Малея і Гальяша Леўчыка. У адным з пісем, што змешчаны ў кнізе, да Антона Луцкевіча ў 1926 годзе пастар Лукаш жадае, каб Бог «мог нарадзіцца ў душах мнагапакутнага беларускага народу і каб у цемры ўбачылі святло Таго, хто так цяжка пакутаваў, каб людзі з Яго сілаю ўсе перамаглі і сталіся Яго дзяцьмі». У пісьме да Яна Пятроўскага 13 студзеня 1945 года Дзекуць-Малей зычыць, «каб святло нашага Госпада засвяціла ўва ўсе куткі нашай маці-Беларусі».

Змешчаны ў кнізе і цікавыя дакументы, матэрыялы да гісторыі перакладу Новага Запавету і Псалмоў на сучасную беларускую мову (1925–1932), знойдзеныя ў архівах Юрасём Бачышчам.

Упершыню публікуюцца ў кнізе дакументы, адшуканыя ў архівах Уладзімірам Ляхоўскім і Андрэем Чарнякевічам, якія распавядаюць пра беларускія школьныя справы Дзекуць-Малея ў 1919–1921 гадах у Гродне. З гэтых дакументаў, напрыклад, можна даведацца аб тым, як 22 кастрычніка 1919 года Дзекуць-Малей выступіў з дакладам аб адабранні польскім школьным інспектарам п. Рафалам Вазьнякоўскім будынка Пушкінскай школы, дзе знаходзілася Першая гродзенская беларуская школа, і аб становішчы, перанесенай у будынак Мар’інінскай гімназіі беларускай школы і яе настаўнікаў. Публікуецца і ліст старшыні Беларускай школьнай рады ў Гродне Лукаша Дзекуць-Малея да Прэзідыума Цэнтральнай беларускай школьнай рады ў Мінску ад 6 чэрвеня 1920 года і г. д. Няпроста тады было беларускаму школьніцтву, і, што дзіўна, гэтыя праблемы і знішчэнні беларускіх школ працягваюцца і сёння, хаця прайшло ўжо каля стагоддзя.

У кнізе змешчаны вельмі цікавы і грунтоўны артыкул Сцяпана Пекуна, які распавёў пра жыццёвы, творчы і богаслужбовы шлях Лукаша Дзекуць-Малея. З яго чытачы даведаюцца, што ў 1946 годзе жонка пастара Лукаша Серафіма разам з дзецьмі прыехала з Савецкага Саюза ў Польшчу. Іх сустрэча адбылася ў Беластоку. Пасля таго яшчэ сем гадоў пражылі яны разам. Але час, праведзены ў высылцы, падарваў здароўе спадарыні Серафімы. Там яна перажыла тры інфаркты, адзін раз была ў стане клінічнай смерці, працавала на лесапавале. Але ласка Божая ахоўвала іх. Вяртанне жонкі нібыта аднавіла сілы Лукаша Дзекуць-Малея. Акрылены, ён узяўся за працу ў царкве Гданьска. Але ў 1953 годзе Серафімы не ста-

ла. Пастар Лукаш пражыў яшчэ два гады і памёр 20 студзеня 1955 года. Труну з целам неслі на руках ад царквы да могілак. Было шмат людзей. Пахавалі беларускага святара, партрыёта, перакладчыка і грамадскага дзеяча ў Гданьску на гарнізонных могілках…

Пісаць і ацэньваць зробленае Лукашом Дзекуць-Малеем можна бясконца. Таму гэтае выданне — толькі першая цаглінка ў падмурак даследаванняў пра яго.

*2012*

# ПАЭТ СЛУЖЫЎ РАДЗІМЕ

У Слоніме ў доме № 8 на вуліцы Дабрыяна цяпер жывуць іншыя людзі. Я стараюся ў тым раёне бываць рэдка. Бо калі праходжу каля хаты, дзе жыў паэт Анатоль Іверс (Іван Дарафеевіч Міско) са сваёй жонкаю Нінай Паўлаўнай, сэрца пачынае шчымець ад таго, што ўжо няма гэтага сціплага чалавека і цікавага паэта. Яго не стала ў кастрычніку 1999 года, а крыху раней памерла і Ніна Паўлаўна.

Калі бываў вольны час, я спяшаўся ў гэтую хату. Адчыняў знаёмыя веснічкі, праходзіў па невялікім дагледжаным надворку, заходзіў у сенцы, дзе пахла бульбаю і сушанымі яблыкамі ці грушамі. З парога мяне вітала шчырая Ніна Паўлаўна — сяброўка па жыцці і жонка паэта. А Іван Дарафеевіч, як звычайна, сядзеў за сталом у сваім чысценькім невялікім пакойчыку і нешта пісаў.

«Пажаніліся мы летам 1945 года, — расказвала Ніна Паўлаўна. — Вось з таго часу і разам. А пазнаёміліся ў рэдакцыі слонімскай газеты «Вольная праца», дзе я працавала літработнікам. Мне ён тады вельмі спадабаўся. Раней у Слоніме я не бачыла і не сустракала прыгажэйшага за яго мужчыну. Хаця на першы погляд здавалася, што Іван звычайны, як усе. Але заўсёды, у адрозненне ад іншых, ён быў і заставаўся паэтам. Вершы яго мне таксама падабаюцца. Я, напрыклад, як выйду зімою на вуліцу, заўжды прыгадваю яго радкі:

Марозам траскучым па хвоях
Наступная прыйдзе зіма.

Асабіста мне муж прысвяціў толькі адзін верш — «Развеяліся хмары». Але я ніколі на гэта не крыўдавала…».

Гэты верш быў надрукаваны ў апошнім зборніку Анатоля Іверса «Травень» (Слонім, 1997). У ім ёсць і такія радкі:

Сяброўка трапілася мне
Не горшая, чым марыў.
І перастала ўжо цямнець,
Развеяліся хмары.

Так, хмараў у жыцці паэта са Слоніма было шмат. Нарадзіўся ён 15 траўня 1912 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета. Праз два гады сям'я падалася ў бежанства. Жылі ў Казанскай губерні і ў Кіеве. Вярнуліся дамоў толькі ў 1918 годзе.

Як ні цяжка было, але за гэты час маленькі Іван навучыўся чытаць па-руску, а калі вярнуўся з бацькамі ў родныя Чамяры, пайшоў «перавучвацца» ў польскую пачатковую школу. Але гэтыя мовы былі для яго чужыя. Хлопчыку хацелася вучыцца ў беларускай школе. Аднойчы летам з Віленскай беларускай гімназіі прыехаў у Чамяры Казімір Чартовіч, які за лета падрыхтаваў чамяроўскіх дзяцей да паступлення ў гімназію. Сярод гэтых вучняў быў і Іван Міско. У 1926 годзе ён становіцца вучнем Беларускай гімназіі ў Вільні. Там чамяроўскі хлопец знаёміцца з Алесем Салагубам, Язэпам Урбановічам, Міхасём Васільком. Раскідвае лістоўкі, носіць у турму мапраўскія перадачы для вязняў, расклейвае плакаты, ходзіць на дэманстрацыі рабочых. Аднойчы паліцыя разагнала забастоўшчыкаў, а некалькі дзясяткаў навучэнцаў былі выключаны з гімназіі, у тым ліку і Іван Міско, якога пад канвоем прывезлі ў Чамяры і пад распіску здалі бацькам.

Потым былі яшчэ дзве спробы працягваць адукацыю — у Клецкай і Навагрудскай гімназіях, але і адтуль «бунтар» Міско быў выключаны. У 1931 годзе юнак вярнуўся ў родную вёску.

У адзін з вечароў да Івана Міско зайшоў незнаёмы хлопец, перадаў прывітанне ад Валянціна Таўлая і папрасіў згоды на подпіс пад Дэкларацыяй сялянска-рабочых пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Дэкларацыя і першы верш Івана Міско пад псеўданімам Анатоль Іверс былі апублікаваныя ў студзеньскім нумары часопіса «Літаратурная старонка» за 1934 год. Праўда, наклад часопіса быў канфіскаваны, з друкарні ўдалося вынесці толькі некалькі нумароў.

Праз пэўны час вершы Анатоля Іверса сталі часта друкавацца на старонках выданняў «Літаратурная старонка», «Калоссе», «Беларускі летапіс», «Шлях моладзі», «Наша воля», «Асва». А ў верасні 1939 года ў Вільні выходзіць яго першы паэтычны зборнік «Песні на загонах».

Аб чым пісаў малады паэт са Слонімшчыны? Ды пра тое, як шуміць жыта, як «хтось расчэсваў зялёныя сосны», як «заігралі ветры ў полі», як «залацілася раніца ападаючым шэлестам». Ці пра тое, як «ціха гарэлі аўсяныя росы…». А яшчэ паэт пісаў пра Беларусь, пісаў шчыра і светла, натхнёна і радасна:

Адзначыць каб добрую ўдачу,
Я зораў з сабой набяру
І жменяю сыпну — няйначай,
На славу табе, Беларусь.

Калі прыйшлі «першыя саветы» і ў Слоніме пачала выдавацца раённая газета «Вольная праца», яе першы рэдактар Іосіф Чарняўскі запрасіў Івана Міско на пасаду літсупрацоўніка рэдакцыі. А ў 1940 годзе на выязным

пасяджэнні ў Беластоку кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі БССР прыняло Анатоля Іверса ў Саюз пісьменнікаў.

У гады Другой сусветнай вайны Іван Міско ўзначальваўваў Слонімскую падпольную антыфашысцкую арганізацыю і быў намеснікам камандзіра партызанскага атрада імя Дзяржынскага па разведцы. У лесе выдаваў антыфашысцкую газету «Барацьба», лістоўкі, дапамагаў выпускаць падпольную «Вольную працу».

Вайна прайшла праз сэрца і душу Анатоля Іверса. Ён страціў першую жонку і бацьку, ды і сам быў на валаску ад гібелі. Але, нягледзячы на ўсе яго асабістыя пакуты і заслугі перад Айчынай, для савецкай улады паэт Анатоль Іверс у Слоніме заўсёды заставаўся чужым. І нават другі паэтычны зборнічак вершаў выйшаў з друку ажно праз 31 год пасля першага. «Не хацелі камуністы выдаваць», — казаў ён мне. Зборнік называўся «З пройдзеных дарог». Дарог, сапраўды, было пройдзена шмат. Нялёгкіх дарог, пакручастых, небяспечных і палыновых. Таму выхад другога зборнічка вершаў для Івана Дарафеевіча быў вялікай радасцю. У яго ўвайшлі вершы, напоўненыя пачуццём шчырай любові да роднага краю і яго працавітых людзей. У сваіх паэтычных радках Анатоль Іверс стараўся праўдзіва адлюстраваць перамогі над усімі акупантамі, якія не давалі спакойна жыць і працаваць на роднай зямлі:

Перамога! Перамога!
Абіваем з ботаў пыл.
І на пройдзеных дарогах
Ставім новыя слупы.
Вецер гутарыць з ліствою,
Ад кастра адносіць дым.
А слупы ўсе пахнуць хвояй,
Нашым лесам маладым.

Але як цяжка Анатолю Іверсу ні было і дзе б ён ні працаваў, заўсёды пісаў вершы, ніколі не цураўся матчынай мовы. «Я заўсёды размаўляў на сваёй мове. За гэта мяне называлі нацыяналістам. Мяне не арыштоўвалі, хоць дапытвалі больш чым паўсотні разоў, але двойчы звальнялі з працы за тое, што «не внушал политического доверия», — часта шчыра ўспамінаў паэт.

Але слонімскі аўтар трываў і «шчасце спазнаваў» у сваіх вершах. Трэці зборнік паэзіі «Жыву ў бацькоўскім краі» пабачыў свет у Мінску ў 1982 годзе. Ва ўступным слове да яго прафесар Алег Лойка трапна заўважыў, што «вершы Анатоля Іверса другой паловы 60-х — 70-х гадоў раскрылі жыццёвы лёс паэта найбольш шырока і глыбока, і іх дэкларацыі — часцей за ўсё менавіта ёмістыя паэтычныя формулы жыцця і барацьбы, вернасці Радзіме, праўды лёсу чалавечага, як, напрыклад, гэтыя:

Таварышы, паверце,
Хачу не проста жыць,

Хачу да самай смерці
Радзіме паслужыць.

Нялёгка было ў правінцыі жыць, але вершы пісаліся і выдаваліся новыя кнігі: «Я пайшоў бы ўслед за летам…» (Мінск, 1987), «Прыдарожныя сосны» (Слонім, 1995), «Травень» (Слонім, 1997).

Для мяне, а таксама для ўсіх землякоў Анатоль Іверс найперш застаўся ў нашай памяці як паэт, які шчыра служыў свайму народу і Бацькаўшчыне. У вершы «На дзяды» ён сам падвёў вынікі пражытага і сказаў пра ўсё смела і адкрыта:

Я тры рэжымы пражыў:
Быў пан, быў гітлерац, «таварыш».
І памяць кажа: беражы,
Каго яны закатавалі.
Палегла многа без віны
За мову родную ў змаганні.
А голас іх дасюль звініць
На гістарычным скрыжаванні…

На гістарычным скрыжаванні па-ранейшаму гучаць і вершы слонімскага паэта Анатоля Іверса. Лепшыя з іх склалі кнігу «Аўсяныя росы» (Мінск, 2011). Акрамя вершаў, туды ўвайшлі і ўспаміны паэта. Іван Дарафеевіч пісаў і друкаваў іх на машынцы па некалькі экзэмпляраў. А калі я да яго прыязджаў, ён казаў: «Вазьмі сабе на памяць, няхай будуць. Можа, калі спатрэбяцца ці дзе-небудзь апублікуеш…».

Цяпер такі час наступіў. Успаміны вельмі цікавыя і нясуць у сабе гістарычную каштоўнасць, таму што паэт быў сведкам тых падзей, пра якія напісаў. А вершы паэта — нібы пачатак і працяг тых успамінаў.

У 2012 годзе з друку выйшла кніга ўспамінаў пра Анатоля Іверса «Жыццё і творчасць Анатоля Іверса», а таксама кніга артыкулаў «З глыбінь жыцця», напісаная паэтам у 1960–1990-я гады падчас журналісцкіх і літаратурна-краязнаўчых вандровак па родным краі.

Родны кут слонімскі паэт прайшоў і праехаў удоўж і ўпоперак. І ведаў яго вельмі добра. Паэт быў знаёмы з многімі слонімцамі, якія жылі з ім побач, сябраваў, перапісваўся з літаратарамі, заўсёды шчыра запрашаў да сябе ў госці.

Шмат пісаў пра сваіх землякоў Анатоль Іверс, калі працаваў карэспандэнтам у Слонімскай раённай газеце. Пісаў у раёнку, у іншыя выданні і тады, калі працаваў на смалакурні, у раённым аддзяленні Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, калі пайшоў на пенсію. У 1960–1970-я гады Іван Дарафеевіч найчасцей у сваіх артыкулах прыгадваў Другую сусветную вайну, акупацыю, людзей, якія з ім разам змагаліся супраць гітлераўцаў, сяброў-равеснікаў, што загінулі маладымі, а таксама жыццё ў былой Заходняй Беларусі.

Пісаў пісьменнік і пра лес. Лясная тэма была яму з маленства знаёмая і блізкая. На чамяроўскім хутары каля лесу ён гадаваўся, жыў. З лесам была звязана яго антыфашысцкая дзейнасць. З лістапада 1943 года Анатоль Іверс быў партызанам брыгады імя Ракасоўскага. Брыгада знаходзілася ў лесе недалёка ад Слоніма.

Пасля вайны Іван Дарафеевіч Міско шмат гадоў адпрацаваў на смалакурні, пяшком абышоўшы сотні кіламетраў лясных дарог і сцяжын. Таму, відаць, на Слонімшчыне не было лепшага за яго лесазнаўца. Паэт любіў лес, яму прысвяціў вязанку паэтычных твораў і артыкулаў. Прыгадваю яго радкі:

І што тут дзівіцца: родам
Я з гэтых лясных мясцін.
І гоман люблю, і водар,
І шум маладых ялін…

Калі гартаеш Слонімскую раённую газету, на вочы трапляецца шэраг артыкулаў І. Д. Міско пра лес, работнікаў лясной гаспадаркі, розныя гісторыі, звязаныя з жыццём і прыгодамі лясных звяроў. У Слонімскай раёнцы Іван Дарафеевіч Міско вёў некалі старонку «Чалавек і прырода», дзе і друкаваў свае нататкі пра лес.

Але найлягчэй і найцікавей пісалася паэту і журналісту заўсёды пра літаратуру, культуру, мастацтва, пра людзей, якіх Бог надзяліў талентам: мастакоў, рэзчыкаў па дрэву, вышывальшчыц, ганчароў… Пісалася яму проста і вольна, бо гэта была яго тэма, яго жыццё, яго захапленне. Героямі матэрыялаў былі і бібліятэкары Чамяроўскай і Вялікакракоцкай сельскіх бібліятэк імя Янкі Купалы і Якуба Коласа, артысты Слонімскага народнага тэатра (цяпер Слонімскі драматычны тэатр), работнікі музеяў, клубаў, настаўнікі. Шмат пісаў паэт пра новыя кнігі, якія тады выходзілі з друку. Ён, як і аўтары тых кніг, шчыра радаваўся кожнаму новаму выданню — ці гэта была гістарычная і краязнаўчая кніга, ці зборнікі паэзіі і прозы, ці кнігі ўспамінаў.

Анатоль Іверс любіў тэатр. Пасля Другой сусветнай вайны ў Слоніме пры РДК існаваў народны тэатр, які спачатку кіраваў Міхаіл Фрыдман, а потым — Мікалай Варвашэвіч. Рэжысёры Івана Дарафеевіча заўсёды клікалі на прэм’еры спектакляў, і ён з вялікім задавальненнем іх глядзеў, а потым выказваў сваю суб’ектыўную думку на старонках газет і часопісаў.

Шчыра і цёпла пісьменнік пісаў і ўспамінаў пра Валянціна Таўлая, Гальяша Леўчыка, Піліпа Пестрака, Ігната Дварчаніна, Адама Станкевіча, Янку Купалу і іншых знакамітых людзей Беларусі. Вядома ж, у тыя 1960–1980-я гады не ўсё ён мог надрукаваць тое, аб чым хацелася сказаць, успомніць. Тым не менш артыкулы і ўспаміны, якія склалі кнігу «З глыбінь жыцця» Анатоля Іверса, вельмі каштоўныя як з гісторыка-краязнаўчага пункту гледжання, так і з творчага. Яны розныя, але адлюстроўваюць і час, і тыя падзеі, калі жыў паэт, калі артыкулы пісаліся. Няпросты быў той час і нялёгка жылося Анатолю Іверсу ў Слоніме. Але ён лячыўся творчасцю,

спагадаю і добрымі словамі родных людзей і сяброў. Анатолем Іверсам было шмат пройдзена дарог па роднай зямлі, якую ён любіў. І беларуская зямля, і нашы людзі яго будуць доўга памятаць.

## ПАЭТ, ЯКОМУ ЗАЎСЁДЫ ХАЦЕЛАСЯ ШЧАСЦЯ

Яго не стала раптоўна, хоць нічым не хварэў і не скардзіўся на хваробы. Жыць бы яму ды жыць… У той дзень, 27 жніўня 1993 года, калі паэт Алесь Сучок (Пётр Навумавіч Дабрыян) ляжаў на аперацыйным стале ў Слонімскай бальніцы, па тэлебачанні ўпершыню паказвалі пра яго дакументальны фільм, які падрыхтаваў Юрка Голуб на Гродзенскім тэлебачанні. Цудоўны фільм, шчыры і светлы, якім быў і сам Пятро Навумавіч. Ён паспеў папярэдзіць усіх сваіх сваякоў, сяброў, аднавяскоўцаў аб тым, што будуць «яго паказваць па тэлевізары». Але больш за ўсё чакаў гэтай перадачы ён сам. Чакаў, але на жаль, так і не ўбачыў сябе на тэлеэкране. У гэты дзень паэта Алеся Сучка не стала.

Апусцела, асірацела хата ў вёсцы Азярніца на Слонімшчыне. У ёй шмат гадоў жыў гэты энергічны, рухавы, вясёлы і добры чалавек. Я часта гасцяваў у Пятра Навумавіча Дабрыяна. Ён шмат мне распавядаў пра гісторыю навакольных вёсак, пра лёсы яго аднавяскоўцаў. Бывала, мы з ім ішлі да Бяздоннага возера, якое знаходзіцца побач з Азярніцай. «Люблю гэтыя мясціны, — казаў Пятро Навумавіч. — Памятаеш, як пісаў пра іх Уладзімір Караткевіч у сваім рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні»: «Пад вечар мы прыйшлі з ім на бераг Бяздоннага возера пад Слонімам і тут вырашылі начаваць. Возера было ўсё празрыста-чырвонае, гладкае, як люстра. І лясы вакол яго былі таксама зялёна-аранжавыя…».

Побач з Бяздонным возерам знаходзіцца ўнікальны старажытнаславянскі могільнік V–IX стагоддзяў. А недалёка — вёска Збочна, радзіма беларускага паэта, празаіка і дзіцячага драматурга Кандрата Лейкі (1860–1921). Гэтыя мясціны добра ведаў Алесь Сучок, бо амаль усё жыццё было звязана з імі.

Нарадзіўся Пётр Дабрыян 7 кастрычніка 1916 года ў вёсцы Ахматава Алатырскага раёна Чувашыі, дзе бацькі знаходзіліся ў бежанстве. У 1922 годзе разам з бацькамі вярнуўся дамоў у вёску Какошчычы Слонімскага павета. На радзіме пайшоў у першы клас Мяльканавіцкай польскай школы. Вясной 1932 года ўступіў у нелегальную піянерскую арганізацыю, а праз год яго выбіраюць сакратаром Слонімскага падпольнага райкама піянераў.

Аднойчы пасля вечарынкі ў вёсцы Мяльканавічы Пятро Дабрыян папрасіў застацца сваіх юных сяброў у хаце. «Нам патрэбна навучанне на беларускай мове, — палымяна казаў Пятро. — Трэба падрыхтаваць забастоўку вучняў, каб адкрыць такую школу…».

Юныя змагары горача ўзяліся за справу. За некалькі тыдняў размножылі на шапірографе больш за дзвесце пракламацый. 16 студзеня 1934 года

дзеці прыйшлі ў школу і заявілі дырэктару Вішнеўскаму, што жадаюць вучыцца на роднай мове. Для Вішнеўскага гэта быў гром з яснага неба. Ачомаўшыся ад нечаканасці, ён са злосцю кінуў: «Ніколі гэтага не будзе!». Тады школьнікі выйшлі на вуліцу і разгарнулі транспарант са словамі: «Патрабуем школы на роднай мове!». Больш за дзвесце вучняў прайшлі па вуліцах вёскі Мяльканавічы, раскідваючы лістоўкі з такім жа зместам.

Праз некаторы час Пятра Дабрыяна арыштавала паліцыя, а ў верасні 1935 года буржуазны акруговы суд прыгаварыў яго да чатырох гадоў турэмнага зняволення. Адбываў зняволенне ў Картуз-Бярозе.

Але да Картуз-Бярозы была яшчэ турма ў Слоніме. Там ён і пачаў пісаць свае першыя вершы. «Паперы і алоўка мець у камеры адміністрацыя не дазваляла. Але я ўхітрыўся… Пісаў алюмініевай лыжкай на сцяне…» — распавядаў Пятро Навумавіч. Калі юнак выйшаў на волю, паціху адсылаў вершы ў Вільню. А каб схавацца ад праследаванняў, падпісваўся псеўданімам Алесь Сучок.

У 1938 годзе віленскі часопіс «Шлях моладзі» ўпершыню змясціў яго верш «Я бачыў». А праз год той жа часопіс друкуе новыя вершы Алеся Сучка «Зіма», «Мне ахвота», «Вясна, вясна, прыйдзі хутчэй». У простай і непасрэднай форме, выкарыстоўваючы традыцыйныя вобразы вясны, сонца, вольнай птушкі, паэт услаўляў свабоду. Ён пісаў пра жыццё вясковага бедняка, пра сялянскага хлопца-бунтара, які сядзіць у турме. Герой твораў заходнебеларускага паэта быў моцны і рашучы чалавек, які верыў у сілы народа:

Мы здабудзем перамогу,
Бо за намі ўвесь народ.
Падымайма ўжо трывогу,
Смела пойдзем у паход.

Сёння вершы Алеся Сучка, напісаныя ў 1930-х гадах, маюць перш за ўсё літаратурна-гістарычную цікавасць. Іх агульны пафас — стваральны, сугучны нашым пераўтварэнням. Гэта вершы-заклікі, вершы-лозунгі. Паэт-змагар вучыўся майстэрству ў Валянціна Таўлая, Міхася Васілька, Максіма Танка, Анатоля Іверса і ў іншых паэтаў Заходняй Беларусі.

Перад Другой сусветнай вайной Пятро Дабрыян працаваў літработнікам слонімскай раённай газеты «Вольная праца». З рэдакцыі яго прызвалі ў армію. Вайна захапіла юнака каля Гродна. Адтуль ён прабраўся на акупіраваную немцамі Слонімшчыну. Былыя падпольшчыкі і равеснікі Заходняй Беларусі шукалі адзін аднаго. Пятро Дабрыян скантактаваўся з сакратаром Слонімскага раённага падпольнага антыфашысцкага камітэта Феакцістам Міско. Ён, асуджаны на 12 гадоў судом Польшчы, уцёк з турмы горада Грудзёндза, калі гітлераўцы напалі на Савецкі Саюз. Гэта быў сапраўдны старэйшы сябра і дарадца.

У лютым 1942 года Пётр Дабрыян быў выбраны сакратаром маладзевай падпольнай антыфашысцкай арганізацыі Какошчыцкага падраёна. Але з адступленнем немцаў яго забралі на фронт, давялося служыць у

кавалерыйскім палку, дывізіёне баявога забяспячэння кавалерыйскай школы…

Дамоў Пятро Дабрыян вярнуўся вясной 1946 года. Працаваў на гаспадарцы, потым загадчыкам вясковага клуба, старшынёй сельскага Савета, стрэлачнікам на станцыі Азярніца. Калі быў вольны час — пісаў вершы, дасылаў допісы пра вясковае жыццё ў мясцовы друк. Уладзімір Калеснік у кнізе «Сцягі і паходні» (Мінск, 1965) адзначыў: «Мастацкая вартасць прыкметна паблекла ў смузе часу, але для гісторыі літаратуры такія рэчы, як, напрыклад, вершы Алеся Сучка (Пятра Навумавіча Дабрыяна), маюць сваё значэнне, іх нельга выкінуць, як слова з песні».

Пятро Навумавіч Дабрыян быў вельмі актыўным чалавекам, ён паспяваў усюды: на пасяджэнне раённага літаб’яднання, на сустрэчы з вучнямі і настаўнікамі, да сяброў у госці, заўсёды шчыра адгукаўся на бяду, дапамагаў і справай, і словам. Ён прымаў актыўны ўдзел у рабоце раённага хору ветэранаў вайны і працы «Памяць». А як ён хораша, цудоўна спяваў! Спяваў «Зорку Венеру» Максіма Багдановіча, «Цячэ і стогне Днепр шырокі…», беларускія народныя песні. Я яго заўсёды прасіў, штонебудзь праспяваць. І ён спяваў з радасцю. Ён умеў чытаць свае вершы, чытаў, як артыст. Ён жыў музыкай, паэзіяй, у вершах была і засталася яго біяграфія, яго хваляванні, радасці і трывога:

Прайшоў я з мовай праз пакуты,
Праз дзікі здзек былых паноў.
Не раз кайданамі быў скуты,
Не раз цярпеў боль бізуноў.
Але ад мовы не адрокся:
Я з ёю сеяў і касіў…
Сваю любоў да роднай мовы
Заўжды у сэрцы я насіў.

Алесь Сучок ніколі не мецiў у вялікія паэты, ды й пра гэта не думаў. Жывучы ў вёсцы, ён дасылаў свае творы ў раённы і абласны друк. І радаваўся кожнай публікацыі. Вершы яго друкаваліся таксама ў зборніках «Сцягі і паходні» (Мінск, 1965), «Ростані волі» (Мінск, 1990), «Золак над Шчарай» (Слонім, 1994). Яго бясхітрасныя радкі напоўнены шчырасцю, адкрытасцю і даверлівасцю:

Як жаўрука пачую спеў,
У захапленні стану:
Так прывітацца б з ім хацеў —
Рукою не дастану.

Калі мне бывала сумна і надакучвала гарадская мітусня, я ехаў да яго ў Азярніцу. Ён радаваўся сустрэчы. Ён любіў людзей і любіў жыць, яму заўсёды хацелася шчасця. Памятаю, у 1990-х гадах, калі быў дэфіцыт мэблі, ён, як ветэран вайны, купіў у вясковай краме для мяне кніжную шафу. Потым мы дваіх яе з крамы ледзьве прывалаклі дахаты Пятра

Навумавіча. А калі прынеслі, то ён мне пажадаў, каб я напісаў і выдаў столькі добрых кніг, каб былі запоўненыя ўсе паліцы гэтай шафы. Тая азярніцкая мэбля і цяпер стаіць у маім пакоі гарадской кватэры. На яе паліцах месцяцца не толькі мае кнігі, але і кнігі іншых беларускіх пісьменнікаў і гісторыкаў. А цяпер на паліцах шафы будзе стаяць і паэтычны зборнічак Алеся Сучка «Захацелася шчасця» — як успамін пра шчырага паэта і добрага чалавека. Гэту кніжку мне ўдалося сабраць і выдаць у 2012 годзе ў Мінску.

## СПЯШАЎСЯ ЖЫЦЬ ДЛЯ СЛОНІМШЧЫНЫ

Такіх людзей у Слоніме сёння няма, якім быў заслужаны работнік культуры, педагог, гісторык і краязнавец Аляксандр Жукоўскі — апантаны, пунктуальны, адданы энтузіяст сваёй справы.

Я яго бачыў і сустракаўся з ім у горадзе амаль штодня. Ён заўсёды з папкаю ў руках кудысьці спяшаўся, найперш да мясцовых чыноўнікаў, каб нешта ім паказаць, прапанаваць, папрасіць. Не часта яны слухалі Аляксандра Сямёнавіча, але ён не адступаў — заўсёды настырна, нават надакучліва стаяў на сваім і дабіваўся таго, чаго хацеў, што задумаў. І ўдача яму спрыяла. Я маю на ўвазе ўдачу на ніве слонімскага краязнаўства, у дзейнасці створанага ім народнага музея СШ № 4 г. Слоніма, сёння народнага музея імя А. С. Жукоўскага. Дарэчы, гэты музей Аляксандр Жукоўскі стварыў 45 гадоў таму. У СШ № 4 ён спачатку займаў увесь трэці паверх школы, а цяпер музей месціцца ў асобным будынку, агульнай плошчай 300 кв. м. У фондах музея сёння захоўваецца звыш 6 тысяч унікальных экспанатаў, сабраных Аляксандрам Жукоўскім. Найбольш экспанатаў, прысвечаных Другой сусветнай вайне. Ёсць шмат дакументаў 1920–1930-х гадоў, скульптурныя партрэты, творы жывапісу вядомых беларускіх мастакоў, некаторыя адзінкі зброі, узнагароды, франтавыя пісьмы, фотаздымкі, альбомы і г. д.

Экспазіцыі школьнага музея сёння складаюцца з наступных раздзелаў. Гэта такія, як «Наш край у 1914–1920 гадах», «Слонімшчына пад уладай Польшчы ў 1920–1939 гг.», «Сацыяльныя ператварэнні на Слонімшчыне (1939–1941 гг.)», «Наш край у гады Другой сусветнай вайны», «Слонімшчына сёння», «Выпускнікі СШ № 4». Па ўсіх гэтых раздзелах, дзякуючы найперш Аляксандру Жукоўскаму, сабраны вельмі багатыя і цікавыя матэрыялы.

У 1992 годзе я папрасіў Аляксандра Сямёнавіча напісаць для мяне сваю біяграфію. Ён спачатку адказваўся, маўляў, не люблю пісаць аўтабіяграфій, але потым неаходна пагадзіўся і праз некалькі дзён мне яе прынёс, надрукаваную на пішучай машынцы. Гэта біяграфія захоўваецца ў мяне да сённяшніх дзён. З яе я даведаўся, што не так проста і лёгка складваўся жыццёвы лёс Аляксандра Жукоўскага.

Нарадзіўся ён у беларускай сям'і, якая, як і тысячы беларусаў, была эвакуіравана ў глыб Расіі. Сям'я Жукоўскіх апынулася аж у Арэнбургу, дзе іх напаткала вялікае гора. Там памерлі маці, два браты і сястра. Бацька Аляксандра Жукоўскага Сямён Мікалаевіч дамоў у родную вёску Ашнаравічы на Слонімшчыну вярнуўся з маленькім Сашам і са сваёй маці. Сашу Жукоўскаму тады было ўсяго шэсць месяцаў. Але бацька хутка зноў ажаніўся, і ў Сашы з гадамі з'явілася яшчэ пяць братоў і сясцёр.

Першым і галоўным настаўнікам Сашы Жукоўскага быў ягоны бацька — сельскі шавец, якога ў Ашнаравічах і ў навакольных вёсках добра ведалі як дасціпнага чалавека і выдатнага майстра. Ён вельмі хацеў, каб сын атрымаў адукацыю. Таму спачатку хлопчык скончыў сямікласную польскую школу ў вёсцы Дзераўная, а потым, параіўшыся са сваім настаўнікам Стэфанам Іванашкам, здаў уступныя экзамены ў польскую дзяржаўную гімназію імя Т. Касцюшкі № 922 у Слоніме. Паколькі плаціць за навучанне Жукоўскаму не было чым, Стэфан Іванашка дапамог яму за дзяржаўны кошт паступіць у гімназію № 5 Ю. Панятоўскага ў Варшаву. Туды і паехаў вучыцца беларускі юнак. Там правучыўся да пачатку Другой сусветнай вайны і ў канцы 1939 года вярнуўся ў Слонім. Паступіў у Першую беларускую сярэднюю школу, якую закончыў паскораным тэмпам, бо датэрмінова здаў усе экзамены.

Падчас вайны Аляксандр Жукоўскі жыў з бацькамі ў Ашнаравічах. Працаваў настаўнікам пачатковай школы ў вёсцы Дзераўная. Вайна вайной, а дзяцей вучыць трэба было. Што і рабіў малады беларускі настаўнік.

Пасля вайны ўсё сваё жыццё звязаў з педагогікай. Ён скончыў гістарычны факультэт Баранавіцкага дзяржаўнага беларускага педагагічнага інстытута, працаваў загадчыкам Ашнаравіцкай пачатковай школы, потым Ёцавіцкай, Горкаўскай школ на Дзятлаўшчыне, намеснікам дырэктара і дырэктарам Вішаўскай школы, потым дырэктарам Чамяроўскай васьмігадовай школы на Слонімшчыне і г. д.

У вёсцы Чамяры напачатку 1960-х гадоў Аляксандр Жукоўскі пачаў збіраць першыя звесткі пра гісторыю роднага краю. А аднойчы ў школу ён запрасіў усіх вяскоўцаў і выступіў з дзіўнай па тых часах прапановай адкрыць у Чамярах музей. Некаторыя нават на смех яго паднялі: хіба няма больш важнай справы, чым музей… Але Аляксандру Жукоўскаму ўдалося зацікавіць людзей, і хутка ў Чамяроўскай школе адкрыўся краязнаўчы куток, а потым музей, які праз пэўны час стаў народным. На жаль, цяпер даўно ў Чамярах няма школы і слядоў не засталося ад таго музея. І куды ж падзеліся ўсе экспанаты?..

У 1964 годзе Аляксандр Жукоўскі стаў працаваць настаўнікам гісторыі ў СШ № 4 г. Слоніма. Але і тут ён займаўся не толькі педагогікай, але і краязнаўчай, музейнай справай. Створаны ім музей у СШ № 4 г. Слоніма да сённяшніх дзён лічыцца адным з найлепшых школьных музеяў рэспублікі. Выключная працавітасць, выдатная памяць, талент даследчыка, прынцыповасць, настойлівасць і неардынарнасць думкі дамагалі яму да апошніх дзён жыцця весці пошукавыя і даследчыя працы па ўзнаўленню гераічнага мінулага Слонімшчыны.

Акрамя гэтага, Аляксандр Жукоўскі на працягу ўсяго свайго жыцця шмат пісаў і друкаваў сваіх артыкулаў па гісторыі, краязнаўству і педагогіцы. У 1971 годзе (другое выданне выйшла ў 1973 годзе) выдавецтва «Народная асвета» выпусціла ў свет ягоную кнігу «Школьны музей рэвалюцыйнай і баявой славы», дзе аўтар абагульніў свой багаты вопыт па збору матэрыялаў і арганізацыі школьнага музея, цікавара распавёў пра разнастайную працу юных краязнаўцаў, пра тое, як трэба выкарыстоўваць матэрыялы музея ў вучэбнай і выхаваўчай рабоце ў школе і па-за школай. А ў 1990 годзе ў Гродне выйшла яго невялікая кніжачка «Назаві яго імем», прысвечаная героям Другой сусветнай вайне.

Дзякуючы Аляксандру Сямёнавічу Жукоўскаму, савету яго музея ўдалося ўстанавіць 55 прозвішчаў савецкіх воінаў, якія загінулі падчас вайны на тэрыторыі Беларусі. На тэрыторыі школы ў гонар удзельнікаў баёў за Слонім у гады Другой сусветнай вайны быў адкрыты памятны абеліск…

Пры жыцці Аляксандр Жукоўскі быў узнагароджаны шматлікімі нагруднымі знакамі, медалямі, граматамі, у тым ліку і граматай Савета Міністраў СССР. У 1990 годзе яму было прысвоена ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларусі. Але, на жаль, хадайнічалі ў гэтым не слонімскія чыноўнікі, а зусім іншыя людзі. У Слоніме такіх людзей не ўмелі і не ўмеюць пры жыцці і пасля жыцця ўшаноўваць і шанаваць.

# ЛЮБІЎ СВАЮ БАЦЬКАЎШЧЫНУ

Хачу прыгадаць шчырага беларуса, добрага настаўніка і слонімскага краязнаўца Уладзіміра Шундрыка.

Пазнаёміўся я з ім дзесьці ў другой палове 1980-х гадоў. Гэта ён, Уладзімір Іванавіч, мне падараваў тады кнігі Уладзіслава Казлоўшчыка, Сяргея Хмары, Станіслава Грынкевіча, Хведара Ільяшэвіча, якія выдаваліся ў Заходняй Беларусі ў 1930-х гадах. Аднойчы Уладзімір Шундрык паказаў мне кнігу Язэпа Найдзюка «Беларусь учора і сёння», выдадзеную ў 1943 годзе ў Мінску. «Гэтую кнігу я хачу падараваць табе, каб ты добра вывучыў гісторыю нашай Бацькаўшчыны і ведаў праўду», — сказаў мне Уладзімір Іванавіч. Я «адным глытком» яе «праглынуў», потым чытаў і перачытваў дзясяткі разоў. Яна і цяпер стаіць на паліцы на самым відным месцы ў маёй кватэры.

Уладзімір Іванавіч Шундрык нарадзіўся ў Рышчыцах. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Слоніме. Вось што пра яго вучобу прыгадвае былы настаўнік, цяпер пенсіянер Мікалай Ракевіч: «Сам Валодзя мне расказваў пра вучобу пры немцах. Ён казаў, што ў школе працавалі даволі адукаваныя настаўнікі, таму на ўроках заўсёды было цікава. Настаўнікі адкрывалі нам праўдзівую гісторыю Беларусі, распавядалі пра выдатных дзеячаў, якія праславілі наш край. Запомніўся асабліва настаўнік Паважынскі. Яго ўрокі мы чакалі з нецярпеннем, яны прабягалі для нас, як адна хвіліна.

Цікавая работа вялася і па лініі Саюза беларускай моладзі (СБМ). Усе вучні былі сябрамі СБМ. Насілі сваю адметную форму, якую выдавалі бясплатна. У летні час у Альбярціне праводзілася работа з дружынамі: вучні развучвалі беларускія песні, рыхтавалі сцэнары розных мерапрыемстваў. Потым дружыновыя вялі такую работу ў сваіх дружынах. Шмат увагі надавалася спорту. Перыядычна адбываўся збор арганізацыі СМБ на гарадской цэнтральнай плошчы ў Слоніме. Завяршаўся збор паходнай песняй і маршыроўкай. Ніякай антысавецкай агітацыі не праводзілася. Нават настаўнікі нашы стараліся нас папярэдзіць, каб мы не ўдзельнічалі ні ў якіх палітычных мерапрыемствах».

Але, на жаль, дзейнасць Саюза беларускай моладзі (СБМ) у пасляваенныя гады трактавалася савецкімі ўладамі як калабарацыя з нямецкімі акупантамі, а ягоныя сябры амаль усе былі рэпрасаваныя. Баяўся рэпрэсій і Уладзімір Шундрык. Летам 1944 года ён хацеў з’ехаць на Захад. Нават сеў у цягнік, але бацька адшукаў юнака, зняў з цягніка і забраў дахаты. А калі Слонім занялі савецкія войскі і прыйшла ў наш горад зноў савецкая ўлада, Уладзіміра Шундрыка некалькі разоў выклікалі на допыт супрацоўнікі НКУС. Яны распытвалі пра СБМ, пагражалі арыштам і расстрэлам. Але на адным з допытаў Уладзімір сказаў, што кінуў вучобу ў школе, не быў у СБМ, а працаваў вучнем у каваля. Больш яго НКУС не чапаў.

У 1951 годзе Уладзімір Шундрык скончыў Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Па накіраванню спачатку настаўнічаў на Міншчыне, але ў 1957 годзе вярнуўся ў родны Слонім, дзе шмат гадоў працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры, а таксама выкладаў сталярную справу.

У вольны час Уладзімір Шундрык даследаваў гісторыю роднага краю, сам спрабаваў пісаць, выступаў з артыкуламі на краязнаўчую і літаратурную тэматыку ў мясцовым і абласным друку. «Мне аднойчы запомніўся яго цікавы і змястоўны даклад пра Гальяша Леўчыка на секцыі настаўнікаў беларускай літаратуры, — прыгадвае настаўнік-пенсіянер Мікалай Ракевіч. — Валодзя меў схільнасць і да паэзіі, пісаў вершы на патрыятычныя тэмы, іншы раз па памяці дэкламаваў іх. Шкада, што я не запісаў вершаў Уладзіміра Шундрыка».

Адзін з твораў Уладзіміра Шундрыка быў надрукаваны ў зборніку «Золак над Шчарай» (Слонім, 1994), ён прысвячаўся роднай мове. Вось як гучыць адна страфа з таго верша:

Беларуская мова — гэта факел свабоды,
Гэта промень святла ў паднявольнай начы.
Паважае ўвесь свет толькі тыя народы,
Што змаглі сваю мову, свой край зберагчы…

Беларускую мову і слова Уладзімір Іванавіч Шундрык шанаваў, як самае святое на зямлі. Ён любіў Бацькаўшчыну і свой горад. Ён шчыра вітаў незалежнасць Беларусі, быў сябрам БНФ, прымаў удзел у многіх мерапрыемствах, якія ладзіліся сябрамі БНФ.

У апошнія гады ён жыў адзін. Ён перажываў за ўсё, што адбывалася ў Беларусі. Гэтыя перажыванні, адчай і самота ўкарацілі яму жыццё.

# НЕЗАБЫЎНЫ АЛЕГ ЛОЙКА

Мне здаецца, што мой зямляк Алег Лойка меў вялікае шчасце, што нарадзіўся ён у Слоніме на беразе ракі Шчара. Пра свой родны горад і пра Шчару ён напісаў тысячы радкоў:

І я рады, што зразумеў:
З гэтай радасцю — не таіцца,
Што я шчасце вялікае меў
Па-над Шчараю нарадзіцца!..

Упершыню са сваім знакамітым земляком я сустрэўся ў Мінску на філфаку ў 1980 годзе. Я, як і многія мае аднакурснікі, запісаліся да яго ў літаратурнае аб'яднанне «Узлёт». Не часта адбываліся пасяджэнні літаб'яднання, але калі яны былі, то праходзілі даволі цікава, весела, актыўна. І Алег Антонавіч нас адразу запамінаў, ведаў і шанаваў.

Да мяне старастай літаб'яднання была паэтка-студэнтка Ала Канапелька. А потым, калі Ала скончыла філфак, Алег Лойка прызначыў мяне. Хлопцы нават жартавалі: «Слонімцы літаратуру хочуць узяць пад свой кантроль». Іншыя называлі мяне вядомым лойкавым радком «Юнак быў з-пад Слоніма родам…». Тым не менш ніхто за гэта ў крыўдзе не быў. Літаб'яднанне актыўна працавала, а ў 1985 годзе «ўзлётаўцы» выдалі свой чарговы паэтычны зборнік «Вусны».

Быў 1984 год. На філфаку сустрэў мяне Алег Антонавіч і кажа: «На наступным тыдні будзе пасяджэнне «Узлёту». Напішы аб'яўку і вывесі на другім паверсе (мы тады вучыліся на Чырвонаармейскай вуліцы, 6). І я «выканаў» просьбу прафесара. Напісаў: «У такі дзень і час адбудзецца пасяджэнне літаратурнага аб'яднання «Узлёт». Запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску».

Вечарам да мяне ў пакой прыбягае вахцёр і кажа, што прафесар Лойка тэлефануе і хоча тэрмінова са мной пагутарыць. Я бягу на першы паверх, падымаю трубку і чую голас Алега Антонавіча: «Сяргей, калі ты пісаў гэтую аб'яву, чым ты думаў — галавой ці іншым месцам?» — «Галавой!» — адказваю. «Не думаю, што галавой», — сказаў прафесар і паклаў трубку. Нічога не зразумеўшы, я пайшоў у свой пакой. Толькі потым я даведаўся, што Алега Антонавіча па змесце аб'явы выклікалі ў дэканат ці ў рэктарат і зрабілі заўвагу. А ён папярэдзіў мяне. Бо ў тыя 1980-я гады радок «запрашаюцца паэты і празаікі, якія пішуць і думаюць па-беларуску» «пах» нацыяналізмам. У апошнія гады жыцця, калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я яму прыгадаў гэты студэнцкі факт. Алег Антонавіч сказаў: «Ей Богу, Сяргей, не памятаю…»

У 1982 годзе прафесар Лойка выдаў у Маскве ў серыі «ЖЗЛ» кнігу «Янка Купала». Гэта была першая кніга напісаная беларусам пра беларуса і выдадзеная ў вядомай расійскай серыі, якую заснаваў Максім Горкі яшчэ ў 1933 годзе. Пасля выхаду кнігі ў актавай зале філфака БДУ адбылася яе прэзентацыя. Зала была паўнюткая студэнтамі і выкладчыкамі. Прафесар

Сцяпан Александровіч выступіў з вострай крытыкай кнігі, усе астатнія выступоўцы яе хвалілі і віншавалі Алега Антонавіча. Пазней я запытаўся ў свайго земляка: а чаму ваш сябра і калега так крытычна аднёсся да выдання кнігі? Алег Лойка адказаў: «Сцяпан Хусейнавіч хацеў у Маскве выдаць адначасова кнігу і пра Якуба Коласа. Але Маскве тэкст той кнігі не спадабаўся. Вось ён і зазлаваў».

Прадмову да кнігі Алега Лойкі напісаў народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Прадмова была невялікая, але важкая. У ёй Іван Пятровіч адзначыў, што «кніга ёсць, — гістарычна дакладная, праўдзівая, шчырая».

Супраць выдання кнігі Алега Лойкі пра Янку Купалу ў Маскве была і пляменніца Янкі Купалы Ядзвіга Юліянаўна Раманоўская. Па словах Алега Лойкі, у 1981 годзе яна паехала ў Маскву, завітала ў выдавецтва «Молодая гвардия» і прасіла, каб не выдавалі кнігу Алега Лойкі пра Янку Купалу. «Лойка, — казала Раманоўская, — кулак, памешчык, у яго было шмат зямлі на Слонімшчыне. А цяпер ён з'яўляецца членам польскай «Салідарнасці». Кнігу такога чалавека ў Маскве выдаваць нельга». Але кніга выйшла. Наклад яе тады быў 150 тысяч экзэмпляраў. Тым не менш купіць у Беларусі кнігу было немагчыма. Толькі праз 16 гадоў Алег Лойка мне яе падпісаў у Слоніме: «Майму земляку і філфакаўцу Сяргею Чыгрыну, што Купалаўскімі сцежкамі крочыць. Поспехаў і шчасця! Алег Лойка, 1998 г.».

Калі Алег Лойка жыў у Слоніме, я вельмі часта яго наведваў. З ім можна было гутарыць бясконца, гутарыць на ўсе тэмы. Мне здаецца, што побач з Алегам Антонавічам я скончыў два філалагічныя факультэты. Неяк я спытаў у яго: а які ганарар вы атрымалі за маскоўскае выданне кнігі пра Янку Купалу? Алег Антонавіч сказаў: «Сорак тысяч савецкіх рублёў». О, гэта былі вялікія грошы на той час! Калі груба іх перавесці ў даляры, то атрымаецца — больш за сорак тысяч амерыканскіх даляраў. «Я быў тады самым багатым беларускім пісьменнікам. Грошай нікому не шкадаваў: даваў ці пазычаў пісьменнікам, сябрам…» — прызнаваўся Алег Антонавіч.

У Слоніме Алегу Лойку жылося цяжка, але пісалася лёгка. Хвароба яго даймала. Але, калі я да яго прыязджаў, — ён радаваўся, ажываў, усміхаўся. Алег Антонавіч адказваў на ўсе мае пытанні. Найбольш я ў яго пытаўся пра Янку Купалу і Якуба Коласа. Гэта з яго вуснаў я даведаўся, што Янка Купала першы заўважыў і ацаніў талент Канстанцыі Буйло. Калі Купала быў рэдактарам «Нашай Нівы», да яго ў кабінет часта заходзіла Канстанцыя. Дарэчы, яна была тры разы замужам, па пашпарту — значна маладзейшая, бо мяняла гады. Купала быў у яе закаханы і нават паэтку цалаваў. У 1914 годзе ў друкарні Марціна Кухты выйшаў яе першы паэтычны зборнік «Курганная кветка», адрэдагаваны Янкам Купалам.

Алег Антонавіч пра Купалу і Коласа мог распавядаць гадзінамі. Ён казаў, што Янка Купала і Якуб Колас былі добрымі сябрамі. Хаця паміж імі здаралася рознае. Жонка Якуба Коласа — Марыя Дзьмітрыеўна была даволі багатай жанчынай, ідэальнай, інтэлігентнай мяшчанкай, вельмі выхаванай, хатняй, адданай мужу. Яна кахала Якуба Коласа. І Якуб Колас

яе кахаў. Але падчас вайны, калі песняр апынуўся ў Ташкенце, ён моцна закаўся ў перакладчыцу Сомаву з Санкт-Пецярбурга. Колас прысвяціў ёй цэлы цыкл вершаў «Ташкенцкая торба». Гэты цыкл не апублікаваны да сённяшніх дзён. Толькі пару вершаў з гэтага цыкла трапілі ў друк…

Расказваў Алег Лойка і пра іншых беларускіх пісьменнікаў, прыгадваў вучоных, медыкаў, палітыкаў. І калі я сёння прыгадваю свайго Настаўніка, успамінаюцца яго радкі: «Думаў я — усё наперадзе, аказалася — ззаду». На жаль.

## СЛОНІМШЧЫНА Ў ПАЭЗІІ АЛЕГА ЛОЙКІ

Бадай што ніхто з беларускіх паэтаў не прысвяціў столькі вершаў свайму роднаму гораду, бацькоўскаму кутку і землякам, як Алег Лойка. Нават Рыгор Барадулін разам з Еўдакіяй Лось і Петрусём Броўкам не напісалі столькі паэтычных радкоў пра сваю Ушаччыну, колькі Алег Лойка адзін пра слынны і старажытны Слонім і Слонімшчыну, з іх прыродай, працавітымі і мужнымі людзьмі, багатай гістарычнай спадчынай.

У 90-х гадах мінулага стагоддзя з-пад пяра паэта выйшлі тры паэмы, і ўсе яны прысвечаныя Слонімшчыне. Драматызаваная паэма ў дзвюх дзеях «Развітанне з Радзімай» вяртае чытачоў у XVIII стагоддзе да польнага літоўскага пісара, а пасля гетмана Вялікага Княства Літоўскага Міхала Казіміра Агінскага і яго пляменніка — дыпламата і кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага. У 1775 годзе Міхал Казімір Агінскі прыехаў у Слонім, дзе пабудаваў некалькі прадпрыемстваў, друкарню, заснаваў оперны тэатр і капэлу. Па яго ініцыятыве быў пабудаваны канал Агінскага. Гетман быў вельмі здольны музыкант і паэт. Выдаў «Гістарычныя і маральныя аповесці» (1782) і «Байкі і не-байкі» (1788). У Слоніме прайшло дзяцінства і яго пляменніка Міхала Клеафаса Агінскага:

Карціна наплывае на карціну,
Выразныя і ясныя без слоў.
Таму мо, што Агінскага дзяцінства,
Як і маё, у Слоніме прайшло.

*(Зборнік «Задуменныя пералескі».*
*Мінск, 1961. С. 24)*

Наогул, Алег Лойка да Агінскіх звяртаўся шмат разоў. Вязанку сваіх вершаў паэт прысвяціў чулліваму паланэзу Агінскага «Развітанне з Радзімай». Бо хто гэты музычны твор сёння не любіць?! Нават простыя гараджане і вяскоўцы:

Казала цётка Надзя,
Як цвіў вясёлы бэз,

Калі памру, хавайце
Мяне пад Паланэз.

*(Зборнік «Ушанаванне».
Слонім, 2001. С. 181)*

У драматызаванай паэме «Развітанне з Радзімай» падзеі адбываюцца ў канцы 1763 года (дзея першая), калі амаль год польны літоўскі пісар Міхал Казімір Агінскі знаходзіўся ў Пецярбургу, дабіваючыся прыхільнасці маладой царыцы Расіі Кацярыны ІІ. У палац ён прывёў і балетную трупу са Слоніма. Натхнёна і віртуозна іграе Агінскі на скрыпцы, але адчувае холад адчужэння царатворцаў, якія хутка пакідаюць залу.

Другая дзея адбываецца ў 1794 годзе — пад Мацяёвіцамі. На поле бітвы пасля паражэння паўстанцаў, што змагаліся пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі, сустракаюцца героі. Паэт цікава апісаў дыялог двух Агінскіх. У гэтым дыялогу гучыць горыч паражэння, але і надзея на будучае. Хор славіць здзейсненае князем Міхалам Казімірам Агінскім:

Віват канал, што Ясельду і Шчару
Звянчаў, як з прышласцю вянчаюць мару!..
І ў Слуцку тканым паясам віват,
І габеленам, Кракаў якім рад,
Мурам у Міры, Навагрудку, Гальшанах
З цагельняў, што багацяць у пашанах;
Віват дванаццаці на Шчары шлюзам,
Віват і Слонімскім, і Целяханскім музам;
Віват будаўніку, музыку і паэту!..

*(Зборнік «Ушанаванне». С. 303)*

Другую сваю паэму Алег Лойка напісаў пра Жыровічы, яна мае назву «Посах душы». Вёска Жыровічы знаходзіцца кіламетраў за дзесяць ад Слоніма. Цяпер тут дзейнічаюць праваслаўныя духоўныя акадэмія і семінарыя. Але Жыровічы вядомы яшчэ тым, што тут у XVI стагоддзі быў заснаваны манастыр базыліян з цэрквамі і семінарыяй. І сёння Жыровічы — гэта беларуская праваслаўная Мекка. Сюды з усіх куткоў свету спяшаюцца вернікі, спяшаюцца да жыровіцкай святыні з комплексам храмавых і манастырскіх пабудоў, што захаваліся да нашых дзён. Жыровіцкая святыня цікавая не толькі як унікальны праваслаўны рэлігійны асяродак, але і як помнік архітэктуры і гісторыі, як сімвал складанага і нялёгкага лёсу беларусаў. А побач з Жыровічамі струменіць святая крыніца. Кожны, хто бывае ў Жыровічах, абавязкова набірае з сабою вады з гэтай крыніцы. Алег Лойка з крыніцы і пачынае сваю Жыровіцкую паэму:

Стаяла ў лесе крыніца,
А ў крыніцы — вадзіца,

Над вадзіцай — груша,
Да грушы — душою рушу.
Рушу я да крыніцы —
Вады святое напіцца,
Рушу да светлае грушы —
Светла на грушу дзівіцца.
Між пастушкамі стану,
Малітву з сэрца дастану,
Пець, пакуль сілы хваціць,
Жыровіцкай Багамаці…

*(Зборнік «Ушанаванне». С. 240)*

Паводле народнай легенды, у 1470 годзе на лясной дзікай грушы пастушкі знайшлі абразок. Абразок яны заняслі ў маёнтак Аляксандру Солтану. На тым святым месцы пабудавалі цэркаўку. А калі здарыўся пажар і цэркаўка згарэла, дзіўны абразок з'явіўся на камені недалёка ад крыніцы. На тым месцы быў пабудаваны новы храм. Цяпер там узвышаецца Яўленская царква. А абразок Жыровіцкай Божай Маці зберагаецца ва Успенскім саборы.

Алег Лойка ў сваёй паэме апісаў гісторыю Жыровіцкай святыні, склаў гімн Жыровічам. У абліччы Жыровіцкай Божай Маці, як піша Георгій Сіненка ў сваёй кнізе «Насуперак канону» (Мінск, 1997. С. 407–408) «праглядваецца ідэал беларускай жанчыны, які ўвабраў у сябе самыя прыцягальныя рысы нацыянальнага характару. Гэта не строгае аблічча святой Прамаці, якое глядзіць з іконы і заклікае да малітвы і пакаяння, а жывы вобраз беларускай жанчыны, азораны святлом красы і святасці, гэта — «Радзімы дух непарушны», «Млечны наш Шлях прарочы!..» — пуцяводная зорка ў духоўным станаўленні і адраджэнні».

Трэцюю паэму Алег Лойка назваў «На залатым перазове»:

Чыгуначныя перагоны,
Слаўны ваш светлы гон,
І я ў вас да ціхага скону
Ўлюбёны з маленчых дзён…

*(Зборнік «Ушанаванне». С. 268)*

Паэма своеасаблівая і арыгінальная. Паэт едзе ў электрычцы з Зэльвы да Баранавічаў. І апісвае тыя станцыя, якія праязджае. Згадвае гісторыю станцый, асабліва слонімскіх, людзей, якія там жылі ці жывуць, падзеі, якія там адбываліся. У раздзеле «На Азярніцкім паўстанку» Алег Лойка вёску Азярніца называе сталіцай, бо тут жыла ягоная сястрыца, а ў Грынках «прысела бульба — зеляніцца качкай, іду я з маці, маці ідзе з гачкай». Пасля Грынкоў — Чамяры, дзе жыў паэт і партызан Анатоль Іверс, а за Чамярамі адразу пачынаецца Слонім, пасля — Альбярцін і г. д.

У 2002 годзе Алег Лойка напісаў шчымлівую паэму «Плач зямлі Слонімскай», якая ўвайшла ў яго паэтычны зборнік «Плач зямлі» (Мінск, 2004). Рэфрэнам праз усю паэму праходзяць радкі паэта:

Нікому ніколі не дадзена знаць,
Дзе нарадзіцца, дзе — сканаць.
Ды ведаю я, знаю,
Кім, дзе, калі сканаю,
Любячы край свой родны,
Што гіне беззваротна.
Ды ў ім, любым і лядачым,
Не ўзняць не магу галаву:
Пакуль жыву, плачу,
Плачу, пакуль жыву…

*(Зборнік «Плач зямлі». Мінск, 2004. С. 72)*

Алег Лойка — паэт народна-слонімскі. Ён найбольш зразумелы нам, слонімцам. На Слонімшчыне яго ведаюць усе, нават тыя, хто ніколі ў жыцці не чытаў вершаў, хіба толькі ў школе. Тут у кожнай вёсцы ў яго ёсць сваякі і сябры. Пра лёс кожнага земляка Алег Антонавіч ведае ўсё, можа распавядаць суткамі цэлыя жыццёвыя гісторыі. І гэтыя гісторыі розныя: трагічныя, радасныя, шчаслівыя, смешныя. Паэма «Плач зямлі Слонімскай» — своеасаблівая гістарычная энцыклапедыя слонімскіх вёсак і яе жыхароў:

Азгінавічы, Сялявічы
Жылі, Бога сэрцам славячы;
Ламашы, Кastровічы
Жылі, суседзям наровячы;
Не зруселыя, не спольшчаныя,
Жылі Шышкі і Сянькоўшчына;
З Новадзявяткавіч Крэчыкі
Жылі, няпраўдзе пярэчылі,
Як і з Шундроў Маскалікі,
Што зуб ні на кога не скалілі;
Жылі, дзетак хрысцячы, жэнячы,
Міжэвічы, Харашэвічы,
Жылі, словы шчырыя мовячы,
Бы ў Якімавічах Якімовічы,
Бы ў Какошчыцах — Дабрыяны,
Рукавы закасаўшы старанна;
Талькаўскія негаротнікі,
Без борцяў шчыравалі Бортнікі;
Рыбнымі тонямі рышчучы,
Нараставічы шчыравалі, Рышчычы;

Жылі, жыць, дабрэць муселі,
Бы ў Лапухове Мукасеі…
Пілі не нарзан, рычэў не Тарзан, —
Іншая слава вілася:
З Васілевіч Пракоп — гучны партызан
І ахоўнік Сталіна Ўласік…

*(Зборнік «Плач зямлі». С. 72–73)*

Асноўны раздзел кнігі «Плач зямлі» склалі вершы Алега Лойкі, якія ён прысвяціў сваёй жонцы Ліліі, з якой пражыў усё жыццё. Нядаўна яе не стала:

Гора маё ты, гора,
Чарней усіх пячораў,
Глыбей, чым учора,
Гарчэй, чым пазаўчора…

*(Зборнік «Плач зямлі». С. 47)*

Сапраўды, Алег Антонавіч вельмі перажывае страту свайго любага чалавека — жонкі Ліліі. На ёй трымалася ўся гаспадарка ў доме на Віленскай вуліцы ў Слоніме. Я часта там бываў і бываю цяпер. Дом Алега Лойкі стаіць у прыгожым месцы. Адразу за агародам цячэ Шчара. А над Шчараю растуць бярозы і вербы. Тут заўсёды майму земляку добра пісалася і пішацца. Пра Шчару Алег Лойка напісаў дзясяткі вершаў. І вобраз сваёй Ліліі ён параўнаў нават са Шчараю:

Словы душу накалілі,
Жару — поўны прыпол…
Зямная, як Шчара, Ліля,
Ратуй мяне, як анёл!

*(Зборнік «Плач зямлі». С. 45)*

У другім вершы пра Шчару паэт прызнаецца:

І я рады, што зразумеў:
З гэтай радасцю — не таіцца,
Што я шчасце вялікае меў
Па-над Шчараю нарадзіцца!

*(Зборнік «Плач зямлі». С. 17)*

А ў вершы «Тут, над Шчарай» Алег Лойка марыць:

Я шчаслівы, што ўбачыў свет тут,
Ды пра большае шчасце я мару:

У апошні свой міг без пакут
На цябе пазіраць, Шчара!

*(Зборнік «Неўміручасць».*
*Слонім, 2000. С. 147)*

Слонімшчына прысутнічала ўжо ў першым зборніку паэта «На юначым шляху» (Мінск, 1959). Вершы «Няхай славяцца», «Дзед Ігнат», «Ледзь скрыпнуў журавель», «Бацькі», «Юнак быў з-пад Слоніма родам» і іншыя з'яўляюцца доказам таго, што паэзія Алега Лойкі ўжо тады, амаль паўстагоддзя назад, жывілася сокамі роднай зямлі, пачынала расці на ўрадлівай глебе народнай творчасці. І калі б ён больш нічога не напісаў, а толькі адну баладу «Юнак быў з-пад Слоніма родам», гэтага хапіла б, каб майго земляка называць Паэтам з вялікай літары і друкаваць яго баладу ў розных хрэстаматыях. Дарэчы, балад, прысвечаных Слонімшчыне, у паэта шмат. Усе яны ўвайшлі ў зборнік «Балады вайны і міру» (Мінск, 1988). Галоўная тэматычная аснова іх — асуджэнне вайны, насілля, сцвярджэнне гераізму, пачуццё Бацькаўшчыны і палымяная любоў да Слонімшчыны і яе гісторыі, а таксама да людзей. Гэта «Балада аб выратавальным», «Балада Дзеда Мароза», «Балада пра Шчару», «Балада шаснаццаці год», «Балада пра неўзарваную гранату». А «Баладу Сынковіцкай царквы» Алег Лойка прысвяціў нацыянальна-вызваленчаму паўстанню 1863 года. У канцы 1862 года, едучы са Слоніма ў Ваўкавыск, Кастусь Каліноўскі раскідваў трэці нумар «Мужыцкай праўды». Трапілі гэтыя нумары і да жыхароў Сынковіч (вёска знаходзіцца якраз па дарозе):

Даць, даць!.. Ляцелі са званіцы,
Як птахі вольныя, лісткі
«Мужыцкай праўды» аб зямліцы,
Каб іх чыталі мужыкі.

*(Зборнік «Балады вайны і міру».*
*Мінск, 1988. С. 139)*

У трыпціху «Роднае» (Выбраныя творы: у 2-х тамах. Мінск, 1992. Т. 2. С. 336) Алег Лойка сказаў: «Мае першыя святло, прастор і любоў — Слонім». Тут паэт на Татарскай вуліцы нарадзіўся, на Зялёнай вуліцы жыў, на Чырвонаармейскай — хадзіў у першую беларускую школу. І пра ўсе гэтыя вуліцы ў паэта напісаны вершы:

Я вырас на Зялёнай,
Дзе яблыні і вішні,
І маладыя клёны
Ля вербаў, зграбных, пышных…
Па самай жа галоўнай —
Па Чырвонаармейскай,

Слязою шчасця поўны,
Я нёс байцам пралескі!

*(Зборнік «Грайна». Мінск, 1986. С. 23)*

На Чырвонаармейскай вуліцы (былой 3 Мая) да вайны ў невялікай хатцы жыў слынны беларускі паэт Гальяш Леўчык. Да яго ў 1939 годзе, едучы з Беластока ў Мінск, заязджаў Янка Купала. Ён, дарэчы, быў рэдактарам першай кніжкі Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі» (Вільня, 1912). Старыя сябры сустрэліся, паабедалі ў Першым беларускім рэстаране, і Купала на сваім «шаўрале» паехаў па вуліцы Маставой на Мінск. Цяпер вуліца Маставая носіць імя Янкі Купалы. Алег Лойка так і назваў свой верш «На вуліцы Янкі Купалы ў Слоніме». А пачынаецца ён радкамі, у якіх любоў да роднага горада шчыра асветлена памяццю пра вялікага паэта:

Родны мой горад, спрадвечны горад,
Памяць чыя глыбей, чым твая?..
Дай скалыхнуць твае радасці, гора,
Дай перажыць іх з табой удвая!
Дай, прывярні тыя дні, тыя хвілі,
Госцем калі тут Купала быў:
Вулкі твае яго не забылі,
І ён жа іх, пэўна, нідзе не забыў.
Чуў ты біццё яго сэрца, горад,
Хвалямі Шчары думы ўздымаў:
Усю Беларусь абдымаўшы, як мора,
Ён і цябе, горад мой, абдымаў…

*(Зборнік «Грайна». С. 12–13)*

Гальяш Леўчык загінуў у 1944 годзе ў Варшаве. Разам з паэтам вайна знішчыла і яго варшаўскую кватэру і вялікі беларускі архіў, які ён збіраў усё сваё жыццё. Нібы працягам верша пра вуліцу Янкі Купалы ў Слоніме з'яўляецца верша Алега Лойкі «На Маршалкоўскай пад Аркадамі». Ён прысвечаны былым слонімцам, цяпер — варшавякам, якія раз у месяц — у сераду — збіраюцца ў Варшаве на Маршалкоўскай вуліцы і ўспамінаюць Слонім.

Родны горад і слонімцы гняздзяцца ў кожным паэтычным зборніку Алега Лойкі. Напісаны дзясяткі вершаў — прысвячэнняў землякам: Анатолю Іверсу, Валянціну Таўлаю, Янку Саламевічу, Міколу Арочку, скульптару Івану Міско, старшыні калгаса Антону Дабрэнку, настаўнікам, аднакласнікам. Сам Слонім ва ўяўленні і выяве паэта ў кожным вершы заўсёды раствараецца ў прыродзе, зліваецца ў гістарычных і экалагічных усведамленнях паэта. Гэта вершы шчырыя, добрыя, запамінальныя. А інакш ён пра родны горад і пісаць не ўмее:

У зелені — бель камяніц, касцёлаў.
Уецца Шчара, бліскаючы срэбрам.
Спыніўшыся на ўзгорках, навакола
Лясы стаяць, падпёршы купал неба.
Я вырас, захапляючыся тут
Высокім небам, Шчары ціхім звонам,
Агністым сонцам, лесам задумёным,
Мурамі і людзей жыццём штодзённым,
І сэрцам палюбіў я гэты кут —
Цябе, мой старадаўні родны Слонім.

*(Зборнік «Пралескі ў акопах».
Мінск, 1987. С. 11)*

# ТЭАТРАЛЬНЫ РЭЖЫСЁР МІКАЛАЙ ВАРВАШЭВІЧ

З заслужаным работнікам культуры Беларусі, тэатральным рэжысёрам Мікалаем Фёдаравічам Варвашэвічам я быў знаёмы шмат гадоў. Не раз пісаў пра яго сцэнічныя пастаноўкі яшчэ тады, калі ён узначальваў Слонімскі народны тэатр, і пра ўсе прэм'еры Слонімскага беларускага драматычнага тэатра. Аднойчы, а гэта было ў 1992 годзе, ён узяў мяне на гомельскі фестываль «Драматычнае мастацтва Беларусі». «Складвай чамадан, паедзем на тыдзень у Гомель. Трэба табе дасканала ведаць сённяшнюю тэатральную сітуацыю ў Беларусі. А таксама пазнаёмлю цябе са сваімі сябрамі», — сказаў Мікалай Фёдаравіч. І мы паехалі.

Менавіта там, у Гомелі, сярод беларускіх акцёраў, рэжысёраў і тэатральных крытыкаў я адчуў і ўбачыў, якім усё ж вялікім аўтарытэтам і павагай карыстаўся сярод творчай тэатральнай інтэлігенцыі гэты апантаны і ўлюбёны ў сваю справу чалавек.

Бацькоў сваіх Мікалай Варвашэвіч не памятаў. Іх знішчылі немцы ў гады Другой сусветнай вайны. Сіроцкі лёс закінуў яго спачатку ў Целяханскі дзіцячы дом, а затым да цёткі ў Ленінград. Шмат яны тады зведалі гора і бяды ў пасляваенным, разбураным горадзе на Няве. Але ўсе цяжкасці вытрымалі і перажылі.

У 1957 годзе беларускі юнак (нарадзіўся ў вёсцы Раздзялавічы Ганцавіцкага раёна) Мікалай Варвашэвіч паступае ў Ленінградскі інстытут тэатра, музыкі і кінематаграфіі. Ён любіў успамінаць гады вучобы, сваіх аднакурснікаў і выкладчыкаў. Відаць, вучоба пайшла юнаку на карысць і прадвызначыла яго далейшы лёс.

Пасля заканчэння інстытута маладога рэжысёра накіравалі на працу ў Калінінскі абласны тэатр (цяпер гэта горад Цвер). Першай яго самастойнай пастаноўкай быў спектакль «На бойкім месцы» па п'есе А. Астроўскага.

Пасля былі пастаўлены іншыя спектаклі па п'есах рускіх і савецкіх драматургаў.

Жывучы ў Калініне, Мікалай Варвашэвіч вельмі хацеў вярнуцца на Бацькаўшчыну. Але такой мажлівасці, на жаль, не было. І вось неяк ён сустракае свайго аднакласніка Эдуарда Усачова, які працаваў тады ў Горацкай беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Ён прапануе Мікалаю Варвашэвічу прыехаць на Беларусь. З радасцю прапанова была прынята, а ў 1964 годзе наш зямляк працуе ўжо дырэктарам Дома культуры ў Горках Магілёўскай вобласці і адначасова ўзначальвае тэатральны калектыў мясцовай сельскагаспадарчай акадэміі.

У пачатку 1968 года Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч прыязджае ў горад над Шчарай і пачынае кіраваць Слонімскім народным тэатрам. І тут яго першай самастойнай працай быў таксама спектакль «На бойкім месцы» А. Астроўскага. Памятаю, неяк спытаўся ў яго наконт любімага спектакля. Ён задумліва і з нейкай настальгіяй адказаў: «Ты пытаеш, ці ёсць у мяне любімыя спектаклі, якія я часта ўспамінаю. Вядома ж ёсць. Гэта ў першую чаргу «На бойкім месцы» А. Астроўскага, «Барабаншчыца» А. Салынскага, першая пастаноўка «Паўлінкі» Янкі Купалы, «Ганка» У. Галубка, «Сабака з залатым зубам» У. Сауліча… Ды дзе ж іх усіх пералічыш».

Так, сапраўды, спектакляў у Слоніме рэжысёрам М. Варвашэвічам было пастаўлена шмат. Але больш за ўсё майстар сцэны звяртаўся да беларускай драматургіі. За заслугі перад тэатральным мастацтвам рэспублікі яму ў 1975 годзе было прысвоена званне заслужанага работніка культуры Беларусі.

Мікалай Варвашэвіч шмат працаваў. У яго было многа задумак, планаў, энергіі. Народны тэатр ён ператварыў у самастойную тэатральную студыю. А ў 1990 годзе на базе тэатра-студыі быў адкрыты прафесійны дзяржаўны беларускі драматычны тэатр. Шчыра кажучы, гэта быў беларускі тэатр Мікалая Варвашэвіча. Тэатр у асноўным працаваў на роднай мове. Ён шмат гастраляваў па Беларусі, а на прэм'ерах заўсёды былі аншлагі.

Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч стараўся сабраць у свой калектыў таленавітых людзей Слоніма, найперш тых, хто хоць трохі меў дачыненне да тэатральнага мастацтва, культуры, літаратуры. І людзі да яго ішлі і ў яго вучыліся. Ён і мяне пастаянна клікаў да сябе, калі я працаваў у рэдакцыі газеты «Слонімскі веснік». «У тэатры ты будзеш вальнейшы чалавек, у цябе будзе шмат часу пісаць тое, што ты хочаш», — казаў ён мне. І я паслухаў Мікалая Фёдаравіча і прыйшоў у тэатр на пасаду загадчыка літаратурнай часткі. І аб гэтым зусім не шкадую.

Мы часта з ім размаўлялі пра жыццё, пра тэатр і драматургію. Неяк ён мне сказаў: «Даўно мару ажыццявіць пастаноўку п'есы Лопэ дэ Вэга «Сабака на сене». Вельмі люблю гэты драматычны твор. Таксама хачу паставіць п'есу Шэкспіра «Рамэа і Джульета». Хачу паказаць сённяшняму гледачу, як па-сапраўднаму можна кахаць, якія чыстыя і светлыя пачуцці ёсць у чалавека. Праўда, ёсць і ў беларускай літаратуры добрыя драматычныя творы. Але гэта не такія ўсё ж глыбокія, як, напрыклад, п'есы Шэкспіра, Мальера. Прычынай, відаць, застаецца той савецкі час,

калі творы пісаліся амаль па заказу. Таму шмат згублена. Але тое, што напісана Янкам Купалам, Уладзіславам Галубком, Вінцэнтам Дунінным-Марцінкевічам, — гэта наш нацыянальны скарб. І да гэтага скарбу трэба нам часцей звяртацца. І мы гэта пастаянна будзем рабіць».

Мікалай Варвашэвіч быў у Слоніме даволі вядомым чалавекам. Ён добра ведаў жыццё і людзей. Таму ў 1995 годзе мастацкі кіраўнік Слонімскага беларускага драмтэатра вырашыў вылучыць сваю кандыдатуру на пасаду дэпутата Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. І шансы ў яго былі вялікія. Тым больш, што Мікалай Фёдаравіч не быў за сваё жыццё разбэшчаны пасадамі, хабарам, карупцыяй, а гэта быў культурны, адукаваны, працаздольны чалавек.

Але стаць дэпутатам Мікалаю Варвашэвічу не пашанцавала. Бо ён, па падліках камісіі, не набраў пэўную колькасць галасоў выбаршчыкаў. «Сфальсіфікавалі выбары», — казаў Мікалай Фёдаравіч. Але ён аб гэтым не шкадаваў, ён перажываў толькі аб тым, што былыя партыйныя камуністычныя функцыянеры і наменклатуршчыкі розных узроўняў не здольныя былі зразумець новы час і яго патрабаванні.

Наогул, Мікалай Варвашэвіч не любіў мясцовых чыноўнікаў і не хацеў з імі асабліва кантактаваць. Ён любіў тэатр, ён ім жыў і шанаваў свой калектыў, які яго паважаў і цаніў.

Летам 2000 года Мікалай Фёдаравіч Варвашэвіч звольніўся з тэатра па стану здароўя. А восенню 2001 года яго не стала. Пахавалі Мікалая Варвашэвіча ў Свіслачы на радзіме ягонай жонкі.

## БЕЗ БЕЛАРУСІ ЁЙ НЕ БЫЛО Б СПАКОЮ

Пра слонімскую паэтку і настаўніцу Валянціну Ададураву нагадвае толькі адзіны зборнічак яе вершаў «Глыбінка», які выйшаў з друку ў Слонімскай друкарні за год да смерці Валянціны Захараўны — у 1994 годзе.

Кожны раз, калі еду ў родную вёску паэткі Хадзявічы, а гэта і мая родная вёска, мне прыгадваюцца яе цудоўныя шчырыя радкі:

Куточак родны — Хадзявічы.
Да вас шляхі з усіх канцоў.
Ды незнаёмы, непрывычны
Мне твары юных хадзяўцоў.
Дадому ў госці… Крыўдна шчыра.
Ды птушкам быць не век ў гняздзе.
Хай будзе найцяплейшы вырай,
А сцежка зноў сюды вядзе.

Разам з гэтымі радкамі прыгадваецца і сама Валянціна Захараўна. Не так часта прыходзілася з ёй сустракацца, бо жыла яна ў суседняй з

Хадзявічамі вёсцы Елка Зэльвенскага раёна, але такія сустрэчы былі. Найбольш яе цікавіла тое, аб чым я пішу. Яна пыталася заўсёды, што новае ў літаратуры, у нашай культуры. Была Валянціна Ададурава вельмі сціплай, адукаванай, інтэлігентнай жанчынай. Але лёс ёй не даў пажыць шмат, невылечная хвароба яе рана загнала ў магілу.

Як Максім Багдановіч, так і наша зямлячка пры жыцці паспела выдаць толькі адзіны зборнічак светлай паэзіі «Глыбінка». Па сваіх светаадчуваннях, светаразуменнях, манеры думаць і гаварыць Валянціна Ададурава была найперш вясковай, сялянскай паэткай. Яе любоў да роднага краю была настолькі магутнай, усеабдуманай, што, правёўшы дзяцінства, юнацтва ў вёсцы паэтка зрабіла яе галоўным героем у сваіх паэтычных радках. Свае вершы яна прысвяціла роднай вёсцы Хадзявічы, зэльвенскім вёскам Шавулічы, Манцякі, Ялуцавічы, Елка, Крамяніца, родным краявідам і землякам. Уся істота паэткі была ахоплена такой нястрымнай любоўю да маленькай радзімы, што нічога, апроч яе, яна проста не магла ўспрымаць:

Гайдае рэчка тут ваду
Знаёмымі усплёскамі.
А я сцяжынкаю іду,
А я прыспешваю хаду —
Спаткацца з роднай вёскаю.

Валянціну Ададурава вельмі хваляў і лёс роднай зямлі, мовы і народа, прыгажосць беларускай прыроды, пытанні маралі і міру. Пра гэта яна таксама пісала. Няўтольная прага любові да ўсяго блізкага, да гродзенскага краю, Бацькаўшчыны, шчырых і добрых людзей гучалі ў яе мілых, адкрытых паэтычных радках. Вельмі часта перачытваю яе «Глыбінку» — зборнічак жаночых пачуццяў, захапленняў, радасці, дзе хораша апета родная зямля, якая як магніт прыцягвала яе чуллівае сэрца. Чытаю яе вершы сёння і адчуваю, што без Беларусі ёй не было б спакою, не было б натхнення і святасці. Паэзія, землякі і родная зямля яе лячылі, суцяшалі, а паэтка іх апявала ў сваіх вершах. Гэтыя вершы Валянціна Ададурава пакінулам нам як напамін пра яе, як наказ, як трэба любіць бацькоўскі кут, захапляцца ім, берагчы і шанаваць яго.

## ГІСТОРЫК МІХАІЛ МІСКО

Пра доктара гістарычных навук з вёскі Чамяры Слонімскага раёна Міхаіла Міско звестак захавалася вельмі мала. Сціпла і рэдка пра яго згадвалі рэспубліканскія выданні. А апошнім часам і зусім забыліся пра чамяроўскага гісторыка. Нідзе немагчыма было знайсці і фотаздымкаў нашага земляка.

Спачатку давайце прыгадаем яго кароткія біяграфічныя звесткі.

Нарадзіўся ён у Чамярах у 1904 годзе ў сялянскай сям'і. Першая сусветная вайна выгнала сям'ю Міско ў бежанства, ажно ў горад Сярдобск Пензенскай губерні. Там хлопчык пачаў вучыцца ў школе, а пасля вяртання ў Чамяры працягваў вучобу ў роднай вёсцы. У 1920 годзе, калі Слонімшчына адышла пад Польшчу, Міхаіл Міско нелегальна перайшоў мяжу і праз пэўны час апынуўся ў Маскве. Там ён здаў экзамены і паступіў на гістарычны факультэт Маскоўскага ўніверсітэта. Паспяхова скончыўшы ўніверсітэт, працягваў вучобу ў аспірантуры Інстытута чырвонай прафесуры.

У гады Другой сусветнай вайны наш зямляк быў ваенным карэспандэнтам. А пасля зноў вярнуўся ў Маскву, дзе да 1964 года працаваў у Інстытуце славяназнаўства Акадэміі навук СССР. Памёр Міхаіл Міско ў 1972 годзе.

У вёсцы Чамяры на Слонімшчыне сёння жыве Тамара Якаўлеўна Лаўрашчук. Яна — родная пляменніца Міхаіла Васільевіча Міско. Са слоў Тамары Якаўлеўны стала вядома, што яе тата і Міхаіл Міско былі роднымі братамі. Шмат гадоў яны не ведалі, дзе знаходзіцца Міхаіл, таму што ў свой час Слонімшчына была пад Польшчай, а брат жыў дзесьці ў Савецкім Саюзе. І толькі пасля 1939 года яны атрымалі вестачку з Масквы.

«Дзядзька Міхась да нас прыехаў за дзень да пачатку вайны, — пачала ўспамінаць Тамара Якаўлеўна. — Мы вельмі яго чакалі і былі шчаслівымі ад сустрэчы. Але на другі дзень гітлераўская Германія напала на Савецкі Саюз. І мой тата з дзядзькам пайшлі ў Слонімскі ваенкамат, каб спытацца, што ім рабіць. Бацьку адпусцілі дамоў, а дзядзьку сказалі тэрмінова вяртацца назад у Маскву. Так мы з ім зноў развіталіся на цэлыя чатыры гады».

Пасля вайны Міхаіл Міско часта наведваў родныя Чамяры. У хаце Тамары Якаўлеўны Лаўрашчук да сённяшняга часу захоўваюцца кнігі яе дзядзькі з аўтографамі. Дзве кнігі ён падпісаў роднаму брату, а адну — пляменніцы: «Маёй пляменніцы Тамары ад аўтара. Кастрычнік, 1962 г. М. Міско».

Тамара Якаўлеўна таксама расказала, што яе дзядзька вельмі позна ажаніўся. Жонка яго была бібліятэкарам. У іх нарадзілася дачка Ганначка (Аня — так яе ўсе называлі). Аня цяпер жыве ў ЗША. Пляменніца Міхаіла Міско паказала і рэдкія фотаздымкі доктара гістарычных навук, якія раней нідзе не друкаваліся.

Пры жыцці Міхаіл Міско выдаў дзве кнігі і быў сааўтарам некалькіх выданняў. Найперш наш зямляк даследаваў гісторыю Польшчы, асабліва эканамічнае і палітычнае становішча Польшчы ў пачатку XX стагоддзя.

У 1958 годзе ў Маскве выйшла вялікае трохтомнае даследаванне «Гісторыя Польшчы», дзе асобныя раздзелы былі напісаныя Міхаілам Міско.

А першая ўласная гістарычная манаграфія нашага земляка пабачыла свет у Маскве ў 1957 годзе. Яна называлася «Октябрьская революция и восстановление независимости Польши», дзе аўтар разглядае польскае пытанне і становішча польскіх земель напярэдадні Першай сусветнай

вайны і падчас акупацыі Польшчы германскімі і аўстрыйскімі войскамі, а таксама становішча Польшчы падчас рэвалюцыі ў Расіі 1917 года.

Другая кніга «Польское восстание 1863 года» прысвечана паўстанню пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Вядома, цяпер аўтар па-іншаму назваў бы сваё выданне, а тады, у пачатку 1960-х гадоў, ён гэтага зрабіць не мог. Яму проста не дазволілі б. Якое можа быць паўстанне ў 1863 годзе на Беларусі, ды яшчэ супраць расійскага царызму? А вось у Польшчы — гэта іншая справа. Хаця сам гісторык усё разумеў, што паўстанне такое ўзнікла не толькі на тэрыторыі Польшчы, але і Беларусі, і беларускі народ змагаўся за сваю незалежнасць.

## АЛЬБЯРЦІНЕЦ, ЯКІ БЫЎ МАРШАЛКАМ СЕЙМА ПОЛЬШЧЫ

Багата нашая Слонімшчына на таленавітых людзей. Але лёс многіх з іх склаўся так, што ўсё сваё свядомае жыццё яны пражылі ў іншых краінах свету. Пра многіх пры іх жыцці мы нават і не ведалі.

Асабліва шмат нашых землякоў жыве ў Польшчы. Нядаўна ўдалося адшукаць звесткі пра яшчэ аднаго знакамітага, але малавядомага нам слонімца — польскага палітыка, сацыёлага, публіцыста, доктара гуманітарных навук, прафесара Мікалая Казакевіча. Мікалай Казакевіч з 1989 да 1991 года быў маршалкам (спікерам парламента) Сейма Польшчы Х склікання, гэтак званага Кантрактнага сейма.

Бацька нашага земляка быў родам з Віцебшчыны. Калі пачалася рэвалюцыя ў Расіі ў 1917 годзе, ён дабравольцам пайшоў у польскую пятую Сібірскую дывізію генерала Чумы, якая супрацоўнічала з арміяй адмірала Калчака. Ад Калчака старэйшы Казакевіч нават атрымаў Георгіеўскі крыж. А калі ў 1920 годзе бальшавікі занялі Сібір, бацьку Мікалая Казакевіча ўзялі ў палон. Як палонны, ён працаваў у адным з сібірскіх атрадаў, які шукаў серабро. Праўда, праз год, у выніку абмену ваеннапалоннымі, сям’я Казакевічаў прыехала ў Слонім.

У Сібіры ў Казакевіча закахалася дачка Аляксея Чудагашава, які быў кіраўніком хакаскага племені манголаў, праваслаўнага веравызнання, але яе маці была з роду Янкоўскіх, ды яшчэ каталічкай. Сям’я Чудагашавых займалася конегадоўляй і гандлявала з суседнім Кітаем. Пляменнікі Чудагашавых умела палявалі на собаляў і мелі вялікі прыбытак. Адным словам, сям’я Чудагашавых была даволі багатай, а таксама ўсе падтрымлівалі дзейнасць і палітыку Калчака і не любілі бальшавікоў.

У Сібіры ў сям’і Казакевічаў нарадзіліся дачка і сын. Усе яны разам за некалькі месяцаў дабраліся да Слоніма. А высакародны арыстакрат Войцех Пуслоўскі падараваў Казакевічам у Альбярціне (цяпер мікраён Слонім. — *С. Ч.*) участак зямлі і даў магчымасць на гэтым участку пабудаваць дом. Акрамя гэтага яны адкрылі яшчэ ў Альбярціне сваю харчовапрамысловую краму, а таксама сам гаспадар — паручнік у адстаўцы —

атрымліваў штомесячную кампенсацыю з войска. «Палякаў у Альбярціне было мала, — успамінаў пазней Мікалай Казакевіч, — а тыя, што тут жылі, часта паводзілі сябе ганарыста. Напрыклад, яны патрабавалі, каб беларусы з імі размаўлялі па-польску. Таму тут існаваў нейкі двухбаковы нацыянальны і палітычны канфлікт. Многія беларускія сяляне, як і нешматлікія яўрэі ў Альбярціне, падтрымлівалі Савецкі Саюз. Беларусы не вельмі любілі палякаў, але майго бацьку паважалі, бо ён ведаў рускую мову, якая была падобна на беларускую. Ды і ён не патрабаваў, каб беларусы з ім размаўлялі па-польску. Апрача гэтага, ён шчыра дапамагаў беларусам. Пісаў ім прашэнні і апеляцыі ў справах вызвалення з турмаў, арыштаў, штрафаў. Лічыў таксама, што польская дзяржава прымяняе ў адносінах да беларусаў неразумную і несправядлівую палітыку, што сама ўпіхвае іх у абдымкі камунізму…»

У 1923 годзе ў Альбярціне ў сям'і Казакевічаў нараджаецца сын Мікалай. Дзяцінства хлопчыка прайшло ў Альбярціне сярод беларускіх, польскіх і яўрэйскіх дзяцей. Але ў 1929 годзе Казакевічы пераязджаюць у Слонім. Гэта было звязана найперш з тым, што старэйшая сястра Мікалая паступае ў ліцэй, і штодзённа дзесяць кіламетраў дадому са Слоніма ў Альбярцін было дабірацца цяжка.

У Слоніме Казакевічы пабудавалі вялікі драўляны дом, а побач адкрылі новую манапольную краму. Ды і бацька Мікалая, як ваенны інвалід, атрымаў ліцэнзію на гандаль гарэлкаю і тытунём. І хоць большая палова жыхароў Слоніма ў той час аддавала перавагу самагонцы і самасейцы, вайскоўцы і чыноўнікі горада над Шчарай былі пастаяннымі кліентамі іх крамы, і менавіта яны давалі прыбытак сям'і.

У краме гандлявала маці. За гэтыя гады яна вывучыла польскую і беларускую мовы. На якой мове пакупнікі ў краме да яе звярталіся, на такой яна ім і адказвала. Ды і сяброў у сям'і Казакевічаў у Слоніме з кожным годам павялічвалася.

Мікалай з братам былі католікі, а сястра — праваслаўная. Але бывала так, што на святы ўсе разам наведвалі і каталіцкія, і праваслаўныя слонімскім храмы. Адным словам, у Слоніме Казакевічам жылося вельмі добра. Але калі сястра скончыла ліцэй і паступіла ў Віленскі ўніверсітэт, нашы землякі ў Слоніме ўсё прадалі і пераехалі ў Вільню, дзе купілі трохі зямлі і невялікі домік на скрыжаванні вуліц Пілсудскага і Наваградскай. «На гэтым участку, — успамінаў Мікалай Казакевіч, — бацька планаваў пабудаваць мураваны дом з магазінам, а ўдалося яму толькі памяняць плот і пабудаваць мураваную пральню з пракладзеным водаправодам, унітазам і праточнай вадою. Гэта быў першы ўнітаз у маім жыцці. Будова планавалася пачацца ў 1939 годзе, але ў снежні 1938 года бацькі раптоўна не стала. Ён памёр ад запалення лёгкіх».

Пасля смерці бацькі, для сям'і Казакевічаў наступілі нялёгкія часы. Але дзеці паціху атрымлівалі адукацыю. Мікалай, пасля агульнай школы, вучыўся ў мужчынскім ліцэі імя караля Зыгмунда Аўгуста, а потым — у беларускай гімназіі.

Калі пачалася вайна, юнак быў моцна паранены. А калі паправіўся, працаваў на розных фізічных работах. Пасля вайны Мікалай быў арыштаваны органамі НКУС. З кіпцюроў НКУС дапамог вызваліцца ягоны сябра.

У другой палове 40-х гадоў Казакевічы пераязджаюць у Польшчу і Мікалай паступае на філасофскі факультэт Варшаўскага ўніверсітэта, які закончыў са ступенню магістра. Пасля абараніў доктарскую дысертацыю, стаў прафесарам.

У 1947 годзе наш зямляк уступае ў сялянскую партыю «Стронніцтво людовэ», а пасля яе аб'яднання з партыяй «З'едночонэ стронніцтво людовэ» (ЗСЛ), быў яе сябрам і да канца яе дзейнасці (да 1989 года) прымаў актыўны ўдзел у партыйнай рабоце.

Падчас ваеннага становішча ў Польшчы Мікалай Казакевіч быў адным з заснавальнікаў і членам Прэзідыума Часовай краёвай рады Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння Польшчы (1982–1983). У 1985 годзе ўпершыню стаў дэпутатам Польскага сейма. Быў намеснікам старшыні парламенцкай камісіі нацыянальнай адукацыі і моладзі, а таксама членам камісіі па навуцы і тэхнічнаму прагрэсу. У сейме X скліканння (1989–1991), выбраным згодна з рашэннем пагадненняў, дасягнутых з дэмакратычнай апазіцыяй, выконваў абавязкі дэпутата ад партыі ЗСЛ, а пасля ад партыі «Польске стронніцтво людовэ». З 4 ліпеня 1989 года быў спікерам парламента да датэрміновага яго роспуску. А ў 1991 годзе зноў абіраецца дэпутатам Сейма і прымае актыўны ўдзел у парламенцкай камісіі замежных спраў, канстытуцыйнай камісіі Нацыянальнага Сходу, спецкамісіі па абмеркаванню праектаў канстытуцыйных законаў «Хартыя правоў і свабод».

Наш зямляк у свой час актыўна прадстаўляў польскі парламент на міжнародным форуме як прадстаўнік дэлегацыі Сейма і Сената Рэспублікі Польшча ў Паўночнаатлантычнай Асамблеі. Ён уваходзіў у склад заснавальніцкай рады Народна-дэмакратычнай партыі Польшчы.

Спіс усіх палітычных пасад Мікалая Казакевіча можна яшчэ працягваць. Але акрамя палітыкі наш зямляк з Альбярціна актыўна займаўся і навукай. Ён працаваў у аддзеле сацыялогіі Інстытута развіцця вёскі і сельскай гаспадаркі Польскай акадэміі навук. Быў заснавальнікам Польскага педагагічнага таварыства і намеснікам старшыні Міжнароднай федэрацыі планавання сям'і Рэгіёна Еўропы. Мікалай Казакевіч напісаў і выдаў дзясяткі кніг па педагогіцы, філасофіі, выхаванню і сацыялогіі, а таксама кнігу парламенцкіх мемуараў «Быў я маршалкам кантрактнага…». Навукова-папулярныя яго кнігі для моладзі і пра моладзь выдаваліся ў Варшаве, Жэневе, Рыме, Лондане і ў іншых гарадах свету.

Мікалая Казакевіча не стала ў 1998 годзе. Ён пахаваны ў Варшаве. Кожны раз пры жыцці, калі журналісты прасілі нашага земляка расказаць пра сваё жыццё, ён заўсёды прыгадваў родны Альбярцін 20–30-х гадоў мінулага стагоддзя: «Альбярцін раскінуўся на пласкагор'і, якое апускалася з поўначы на поўдзень у напрамку невялікага возера. У гэтай частцы пасёлка знаходзіўся падобны на класічны палац графаў Пуслоўскіх. Яго фасад трохі напамінаў Палац на Вадзе ў Лазенках у Варшаве. Гэтую пры-

гожую сядзібу Пуслоўскіх акружаў намнога прыгажэйшы за яе ліставы парк. На другім канцы Альбярціна стаялі пабудовы кляштара айцоў езуітаў грэка-каталіцкага абраду. Белыя муры кляштара напаміналі казармы, але шматлікія і мілагучныя званы заўсёды пераконвалі, што гэта сакральны аб'ект і сядзіба яго слуг. Недалёка ад нашага дома на высокім падмурку стаяла драўляная каплічка каталіцкага касцёла. У нядзелю выразна быў чуваць ціхі звон, які заклікаў вернікаў на набажэнствы. А штодзень апоўдні адбываўся арганізаваны манахамі канцэрт царкоўных званоў…».

## НЕ ЗАЙЗДРОСЦІЎ, КАМУ ЛЁГКА ЖЫВЕЦЦА

Педагог і паэт Уладзімір Весялуха — мой зямляк. Але так склаўся лёс, што сустрэцца нам на гэтым свеце, на вялікі жаль, не ўдалося. Аб чым, як заўсёды, вельмі шкадую.

Памятаю, калі быў яшчэ школьнікам, у Слонімскай раённай газеце сяды-тады друкаваліся вершы Уладзіміра Весялухі. Я іх чамусьці добра запомніў. Бо неяк аднойчы Генадзь Каханоўскі мне напісаў у лісце, што ў Вілейцы жыве мой зямляк Уладзімір Весялуха — добры паэт, педагог і краязнавец, які падрыхтаваў і выдаў некалькі кніг. І прыслаў мне вілейскі адрас земляка. Я адразу ўспомніў пра вершы з раёнкі Уладзіміра Весялухі і падумаў: магчыма, гэта і ёсць той Весялуха. А потым напісаў у Вілейку пісьмо. Але адказу доўга не было. І дзесьці ў сярэдзіне 1990-х гадоў прыйшоў ад Уладзіміра Весялухі ліст і невялікая бандэролька з кнігамі. Нядаўна ў папках свайго хатняга архіву адшукаў я гэты першы ліст. Прыгожым роўненькім почыркам Уладзімір Мікалаевіч пісаў: «Паважаны Сяргей Мікалаевіч! Шчыра ўдзячны Вам за лісты і ўвагу да мяне. І адразу прашу прабачэння за маўчанне. Першае пісьмо прыйшло на адрас аддзела адукацыі, дзе я працаваў, але нехта памылкова, мабыць, яго са сваімі паперамі знішчыў, а адраса ў мяне не засталося. Спрабаваў даведацца ад брата, які жыве ў Слоніме, але ён мне не змог дапамагчы. Цяпер, маючы адрас, пастараюся трымаць з Вамі сувязь.

Коратка пра сябе. Працую ў Вілейскай гімназіі намеснікам дырэктара па вучэбна-метадычнай рабоце і выкладаю беларускую мову і літаратуру. Па меры магчымасці займаюся з вучнямі, якія праяўляюць літаратурныя здольнасці. Патроху пішу і сам. Друкаваўся ў мясцовай газеце. Некалькі вершаў змясціў у калектыўным зборніку «Спатканне» (1994), які Вам дасылаю.

Наконт дзвюх кніг, аб якіх гаварыў Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі. Гэта кнігі не з маімі творамі: адна з іх накшталт даведачнага матэрыялу пра літаратурную Вілейшчыну на аснове сабранага мною матэрыялу (экзэмпляр Вам дасылаю, праўда, ужо засталіся без вокладак (працую над дапаўненнем брашуры); а другая — з вершамі вучняў сельскіх школ — «Усё пачынаецца са школы», укладаннем якой я з'яўляюся.

Шчыра дзякуй, Сяргей Мікалаевіч, за зборнік Вашых вершаў «Шчырая Шчара». Прачытаў на адным дыханні, прачытаў і нібы пабываўна радзіме, па якой часам сумую. Многія вершы ўражваюць, а адзін з іх (думаю, Вы не пакрыўдзіцеся) я выкарыстаў у 11-м класе на заключным уроку па творчасці Васіля Быкава. Дарэчы, Ваша імя часта сустракаю ў перыядычным друку, што, безумоўна, радуе.

На гэтым свой кароткі ліст заканчваю. Да чарговай, хоць і завочнай, сустрэчы! З удзячнасцю і найлепшымі пажаданнямі Уладзімір Весялуха».

Вось такі быў першы ліст ад майго земляка са Слонімшчыны Уладзіміра Весялухі. Пасля мы перапісваліся. Але не так часта. Тым не менш сувязі не гублялі. А летам 2004 года зайшоў у рэдакцыю «Газеты Слонімскай», дзе я працаваў, пляменнік Уладзіміра Весялухі — міжнародны арбітр па шашках Аляксандр Аніська, і сказаў, што 1 жніўня не стала Уладзіміра Мікалаевіча. Я быў шакіраваны: майму земляку 2 студзеня споўнілася толькі 56 гадоў.

Уладзімір Весялуха нарадзіўся 2 студзеня 1948 года ў вёсцы Старыя Дзявяткавічы Слонімскага раёна. У сям'і Весялухаў было шасцёра дзяцей. Гадавала іх адна маці, бо бацькі рана не стала — яго забіла маланка.

Уладзімір скончыў мясцовую дзесяцігодку. Спачатку працаваў загадчыкам клуба, бібліятэкарам у роднай вёсцы, а пасля завочна паступіў на філфак Белдзяржуніверсітэта. Калі стаў завочнікам-студэнтам, яго прызначылі на пасаду дырэктара Хмяльніцкай васьмігадовай школы на Слонімшчыне. Дарэчы, той школы, дзе з восені 1912 да траўня 1915 года настаўнічаў Ігнат Дварчанін. Цяпер у Хмяльніцы няма школы.

У пачатку 1980-х гадоў Уладзімір Весялуха з сям'ёй пераехаў у Вілейку. У апошнія гады свайго жыцця ён працаваў у мясцовай гімназіі № 1. Настаўнік не толькі актыўна займаўся педагагічнай дзейнасцю, але і прывіваў любоў у дзяцей да роднай культуры, да матчынай мовы. Ён добра разбіраўся ў паэзіі, ведаў яе, цаніў працу беларускіх літаратараў. Уладзімір Весялуха даследаваў літаратурную Вілейшчыну. Для школьнікаў ён падрыхтаваў і выдаў брашурку пра літаратараў Вілейшчыны. А ў 1990 годзе ў Вілейцы, пры падтрымцы аддзела народнай адукацыі Вілейскага райвыканкама, выйшаў зборнічак паэзіі школьнікаў пад назваю «Усё пачынаецца са школы…». Гэты зборнічак склаў і рэдагаваў Уладзімір Мікалаевіч. У ім надрукаваны вершы 22 юных паэтаў Вілейшчыны. І ўсе вершы на беларускай мове, толькі адзін па-руску. Цяпер гэтым паэтам па 30 і больш гадоў. А тады яны былі вучні 5–11-х класаў. Зборнік пачынаўся вершам «Беларусь» вучаніцы Даўгінаўскай сярэдняй школы Святланы Ляшковіч:

Беларусь, родны край,
Мілы кут.
Люба сэрцу ты мне,
Бо радзіма мая —
Гэта звонкая песня,
Што ля рэчкі плыве,

Гэта матчына доля,
Што жыццё мне дае,
Гэта тыя бярозы,
Што стаяць у бары,
Гэта бацькавы рукі,
Што ў працы заўжды.
Ўсім паклон я даю:
Лясам, рэкам і долам,
Людзям, птушкам, звярам,
Маладым навасёлам.
Пакуль сонца свеціць,
Пакуль месяц ззяе,
Беларусь назаўжды
Застаецца з намі!

Ва ўступным слоўцы да гэтай кніжачкі Уладзімір Весялуха сказаў: «Усё пачынаецца са школы…». Такая назва зборніку вучнёўскіх вершаў дадзена невыпадкова. Як вялікая рака пачынаецца з маленькіх ручайкоў, так і вялікая любоў да Радзімы, людзей, усяго, што акружае, пачынаецца са школьнай парты… Не будзем строга судзіць юных паэтаў у некаторай недасканаласці іх вершаў. Галоўнае, што іх вызначае, — шчырасць, дзіцячая непасрэднасць, а часам — і летуценнасць. Пажадаем жа ім любоў да мастацкага слова пранесці праз усё жыццё. Магчыма, нехта з іх стане нашым гонарам…»

Магчыма, нехта з аўтараў зборнічка «Усё пачынаецца са школы…», і сапраўды, стаў гонарам Вілейшчыны. Але гэта найперш дзякуючы сціпламу і шчыраму настаўніку Уладзіміру Мікалаевічу Весялуху. Творы некаторых паэтаў з вышэй упамянутага зборнічка я прачытаў ужо ў кнізе вершаў «Спатканне» (Вілейка, 1994). Яны былі надрукаваны побач з паэтычнымі радкамі іх настаўніка. Гэты зборнік тады з’яўляўся вынікам творчай дзейнасці сяброў аб’яднання «Майстэрства. Фантазія. Шчодрасць», якое працавала пры Вілейскай гарадской бібліятэцы. У «Спатканні» на суд чытачоў Уладзімір Весялуха вынес 7 вершаў, прысвечаных настаўнікам, Масіму Багдановічу, Н. Ф. Купрыянавай, якая ў часы Другой сусветнай вайны не дачакалася сваіх сыноў, а таксама вершы-развагі пра наша жыццё.

Многія творы Уладзіміра Весялухі раскіданы па розных выданнях. Бо ён пісаў не толькі вершы, але і педагагічныя артыкулы, рэцэнзіі на кнігі і падручнікі. Свае працы друкаваў у раённых выданнях Слоніма і Вілейкі, у «Настаўніцкай газеце» і ў іншай перыёдыцы. У адным з пісем Уладзімір Мікалаевіч напісаў, што «сваіх зборнікаў я пакуль не выдаваў і не планаваў выдаваць. Думаю, што пакуль рабіць гэта не варта…». Тым не менш творчая спадчына Уладзіміра Весялухі павінна быць сабрана пад адну вокладку і выдадзена. І гэта будзе найлепшай памяццю пра яго.

# ПАЭТ, ЯКІ ЗАЎСЁДЫ ЖЫЎ ПЕСНЯЙ

Нядаўна дастаў з паліц свайго хатняга архіва цэлую папку пісем, вырazак з газет, паштовак, лістоў з вершамі ад Сяргея Новіка-Пеюна. Яшчэ раз усё перачытаў, пераглядзеў, успомніў гэтага мужнага, цярплівага, таленавітага і сціплага чалавека. Лісты Сяргей Міхайлавіч пісаў вялікія, шчырыя, сур'ёзныя. У пісьмах заўсёды мяне называў па-бацьку і на «вы», а пры сустрэчах — на «ты» і проста па імені. На лістах абавязкова ставіў тры пячаткі: адна была з адваротным адрасам, на другой было напісана «Сяргей Міхайлавіч Новік-Пяюн г. Мінск», а на трэцяй былі словы «Сяргей Новік-Пяюн». Вось некалькі радкоў з яго пісем: «25-га лістапада 1943 года па даносе правакатара мяне арыштавалі гестапаўцы і асудзілі на смерць за антыфашысцкую дзейнасць. Са слонімскага музея, дзе я працаваў і жыў, рабаўнікі пазабіралі ўсе мае рэчы, і ў тым ліку маю мандаліну. Чакаючы смерці ў адзіночцы слонімскага астрогу, я стварыў песню «Мандалінaчка» і «запісаў» яе ў памяці…» (з пісьма ад 18 жніўня 1988 года); «Я некалькі разоў званіў у рэдакцыю тыднёвіка «Беларускае тэлебачанне і радыё», каб звярталіся да чытачоў па-беларуску «добры дзень», а не па-польску «дзень добры»! Па-беларуску спярша стаіць прыметнік, а пасля імя, а па-польску наадварот: спярша — імя, а пасля — прыметнік. А рэдакцыя, хоць абяцала выправіць памылку, працягвае далей яе друкаваць. Яшчэ пішуць «раніцой», хаця па-беларуску трэба «раніцай». Ужываюць польскае слова «мажліва» замест беларускага «магчыма», «па крайняй меры» замест беларускага слова «прынамсі». Шмат памылак робяць і тыя, што выкладаюць на філфаку, псуюць беларускую мову…» (з пісьма ад 20 лістапада 1988 года).

Сябраваў я з Сяргеем Міхайлавічам шмат гадоў. Ён часта наведваў Слонім, дзе жыла яго сястра, заходзіў да мяне ў рэдакцыю раённай газеты, дзе я працаваў. А калі я бываў у Мінску — забягаў да яго ў маленькую аднапакаёўку на вуліцы Купрыянава. Пра што толькі ён мне не расказаў!.. Але найбольш любіў распавядаць пра Слонім, пра мастака Антона Карніцкага, пра гісторыка і краязнаўца Язэпа Стаброўскага, пра генерала Яўгена Леашэню і пра іншых землякоў. Часта паэт згадваў пра сустрэчу з Янкам Купалам у Слоніме ў 1939 годзе, калі пясняр вяртаўся з Беластока з народнага сходу.

У 1938 годзе ў Слоніме Сяргей Новік-Пяюн разам са сваёй жонкаю Людмілай пачалі выдаваць на польскай мове (на беларускай мове польскія ўлады не дазволілі) «Газету Слонімскую». Гэта быў тыднёвік, і выходзіў ён да верасня 1939 года…

Аднойчы я прыехаў да Сяргея Новіка-Пеюна ў Мінск, а ён адчыняе дзверы ў лагернай фуфайцы з нумарам на плячах. «Гэта мой сталінскі касцюм», — сказаў Сяргей Міхайлавіч. А пасля сеў на табурэтку і ціха заспяваў свае славутыя «Зорачкі»:

Дні праходзяць, дні адходзяць, дні лятуць,
Быццам рэк бурлівых хвалі ўдаль бягуць.

Трэці год як на выгнанні ў чужыне
Трэба мучыцца душой і сэрцам мне…

*(Зборнік «Заўсёды з песняй». Мінск, 1984. С. 7)*

З вачэй у паэта пакаціліся слёзы. Гэты выпадак памятаецца мне да сённяшніх дзён. Не верыцца, як змог выжыць Сяргей Новік-Пяюн у тых жыццёвых сітуацыях, у якіх ён бываў. Бо лёс яго не песціў. Пры Польшчы сядзеў у турме ў Баранавічах, у чэрвені 1941 года быў паранены, у 1943 годзе — арыштаваны слонімскім СД і асуджаны да пакарання смерцю. У турме захварэў на тыф. Хворага паэта немцы кінулі ў канцлагер Калдычэва, дзе крыху раней загінула яго жонка. А цешча з дзвюма ягонымі дочкамі ўцякла ў Польшчу, пасля чаго дзяцей сваіх Сяргей Міхайлавіч больш ніколі ў жыцці не бачыў. Па іншай версіі, што і жонка таксама вырвалася з Калдычэва і выехала ў Польшчу. Але сувязей з паэтам не падтрымлівала.

4 ліпеня 1944 года немцы вялі вязняў на расстрэл. Сярод усіх быў і беларускі паэт. У час расстрэлу яго паранілі. Прыкінуўся мёртвым, а пасля схаваўся ў бліжэйшым лесе. Так застаўся жыць. А калі 10 ліпеня 1944 года савецкія войскі вызвалілі Слонім, Сяргей Новік-Пяюн пачаў працаваць тут дырэктарам мясцовага краязнаўчага музея. Але і гэта шчасце было нядоўгім. Вясною 1945 года без прад'яўлення яму афіцыйных абвінавачванняў паэт быў зноў арыштаваны органамі НКУС і асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Этапам яго адправілі ў пасёлак Нэлькан у Якуцію:

Плывуць дні за днямі, як шэрыя хвалі.
Нам сніцца радзімага неба блакіт.
Пад сопкай мы многа сяброў пахавалі.
Тут снег нашай цёплай крывёю заліт.
Праз краты нам свецяць паўночныя зоры,
Бы шлюць прывітанне ад роднай зямлі.
Сярэбраны месяц схаваўся за горы,
І чорныя цені вакол заляглі…

*(Зборнік «Песні з-за кратаў». Мінск, 1993. С. 128–129)*

У Беларусь Сяргей Новік-Пяюн вярнуўся ажно ў 1959 годзе. За плячыма ўжо былі 53 пражытыя гады, але трэба было пачынаць усё спачатку. Яго рэабілітавалі, а ў якасці «кампенсацыі» за гады, праведзеныя без віны ў турме, яму выдзелілі аднапакаёвую кватэру ў пяціпавярховым доме ў Мінску на вуліцы Купрыянава, 9 і датэрмінова прызначылі пенсію, залічыўшы год Калымы за два…

Сяргей Новік-Пяюн нарадзіўся ў вёсцы Лявонавічы Нясвіжскага раёна 27 жніўня 1906 года. Скончыў мясцовую рускую гімназію і беларускія настаўніцкія курсы ў Вільні. У 1926 годзе ў роднай вёсцы стварыў беларускі народны хор, які існуе да сённяшніх дзён. Як сказаў Алег Лойка

ва ўступным слове да зборніка вершаў паэта «Заўсёды з песняй» (Мінск, 1984. С. 4): «Душа юнака рвалася да песень, а песню глушылі». Але заглушыць не змаглі. Бо паэт Сяргей Новік-Пяюн пісаў, спяваў і жыў. Жыў словам, песняй, любоўю да Бацькаўшчыны. Друкавацца ён пачаў ажно ў 1924 годзе ў заходнебеларускіх выданнях «Сын беларуса», «Студэнцкая думка», «Маланка», «Сялянская ніва», «Шлях моладзі», Беларуская крыніца», «Заранка» і іншых. З друку асобнымі кніжкамі пачалі выходзіць яго драматычныя і вершаваныя творы «Ёлка Дзеда Мароза» (Вільня, 1927), «Пакой у наймы» (Вільня, 1927), «Цудоўная ноч» (Вільня, 1927), «Прадка пад крыжам» (Вільня, 1939), «Заўсёды з песняй» (Мінск, 1984), «Зорачкі ясныя» (Мінск, 1986), «Песні з-за кратаў» (Мінск, 1993). У сваіх паэтычных кнігах Сяргей Новік-Пяюн пісаў пра тое, пра што сам перажыў у астрогах, лагерах і ссылках. Паэтычныя радкі яго прасякнуты пяшчотай да Бацькаўшчыны, верай у заўтрашні дзень:

Быць можа, ў халоднай памру Калыме,
Сям'ю не пабачыўшы ў роднай больш хаце,
Я веру, мяне, песняра, ўспамяне
Не раз Беларусь — мая Маці.
Але ў маім сэрцы наяве і ў сне
Надзея святая таёмна крадзецца:
Да роднае Бацькаўшчыны, усё-ткі мне
Вярнуцца яшчэ давядзецца!

*(Зборнік «Песні з-за кратаў», Мінск, 1993. С. 114)*

У 1966 годзе Сяргей Новік-Пяюн наладзіў цесныя літаратурныя сувязі з беларускім тыднёвікам «Ніва» ў Беластоку, якія працягваліся аж да самай смерці паэта (памёр у 1994 годзе). У студзені і ліпені гэтага года ён друкуе вершы для дзяцей «Дзед Мароз», «Вожык», «Верабейчыкі» і апавяданне «Цешка». Асабліва шмат паэтычных радкоў Сяргей Новік-Пяюн апублікаваў у беларускім тыднёвіку ў 1980-х гадах. Найперш гэта былі вершы пра родную прыроду, лясных і хатніх жывёл, а таксама ўспаміны пра гісторыка Язэпа Стаброўскага, паэта Гальяша Леўчыка і пра Ядвісю — гераіню трылогіі Якуба Коласа, якая жыла ў Слоніме.

## ПРА АЎТАРА «КАРЭСПАНДЭНЦЫЙ СА СЛОНІМА»

У пачатку XIX стагоддзя на Слонімшчыне жыў цікавы і таленавіты чалавек. Быў ён спачатку ўніяцкім, пасля праваслаўным свяшчэннікам. А яшчэ ён пісаў на польскай і рускай мовах аповесці, апавяданні, вершы, успаміны, нататкі. Імя гэтага чалавека — Плакід (Яўстафій) Янкоўскі. На вялікі жаль, пра яго ў Беларусі ведаюць хіба толькі літаратуразнаўцы,

ды і твораў Плакіда Янкоўскага на беларускую мову перакладалася даволі мала. Некалькі абразкоў пераклаў і апублікаваў навуковец Мікола Хаўстовіч, і верш «Шчыпцы і свечка» ў перакладзе Віктара Шніпа быў надрукаваны ў анталогіі беларускай польскамоўнай паэзіі XIX стагоддзя «Раса нябёсаў на зямлі тутэйшай» (Мінск, 1998). Вось, бадай, і ўсё. Праўда, у 2004 годзе ў Мінску на рускай мове выйшлі «Записки сельского священника» Плакіда Янкоўскага.

Плакід Янкоўскі нарадзіўся ў 1810 годзе ў вёсцы Вайская Камянецкага раёна ў сям'і ўніяцкага святара. Ён быў наймалодшым з чацвярых дзяцей. Таму і імя яму бацькі выбралі Плакід ад лацінскага слова «лагодны». Праўда, лагодзілі і песцілі хлопчыка нядоўга, бо ў 8-гадовым узросце ён ужо пачаў навуку ў Свіслацкай гімназіі, а пасля працягваў у базыльянскай школе ў Брэсце. У 1826 годзе, нягледзячы на свой малады ўзрост, Плакід Янкоўскі паступае ў Віленскую ўніяцкую семінарыю пры мясцовым універсітэце і заканчвае яе са званнем магістра святога багаслоўя. Добрага студэнта прызначаюць на пасаду прафесара ў Жыровіцкую духоўную семінарыю, што на Слонімшчыне.

Прыехаўшы ў Жыровічы, дваццацігадовы выкладчык вырашае свой лёс і жыццё звязаць з гэтым мястэчкам, бо вельмі яму яно спадабалася. Але ў гэты час на Беларусі пачынаецца нацыянальна-вызваленчае паўстанне, і семінарыя часова спыняе сваю дзейнасць. Тады Плакід пакідае Жыровічы і вяртаецца ў Вільню, дзе пачынае збіраць матэрыялы на званне доктара багаслоўя і шукае сабе працу. У пошуках працы яму дапамагае прафесар Анёл Доўгірд. Ён уладкоўвае Плакіда хатнім настаўнікам дзяцей маршалка Тадэвуша Чудоўскага на Магілёўшчыне. Янкоўскі не толькі вучыць дзяцей, але і сам рыхтуецца да абароны доктарскай дысертацыі і вывучае мовы. На польскую мову наш зямляк перакладае з італьянскай мовы кнігу Сільвіа Пеліко аб абавязках людзей і ў 1835 годзе асобнаю кнігаю выдае яе ў Вільні.

У 1832 годзе Плакід Янкоўскі зноў вяртаецца ў Жыровічы. Але гэтае вяртанне было азмрочана смерцю бацькі, які яму шмат даваў парад і дапамагаў. Тым не менш жыццё працягвалася і ў дадзенай сітуацыі трэба было неяк выжываць. Наш зямляк па-ранейшаму шмат працуе і піша. А праз два гады пасля вяртання ў Жыровічы вырашае скончыць сваё халасцяцкае жыццё і жэніцца з 16-гадовай Аленай Тупальскай — адной з пяці дачок сябра кансісторыі Антона Тупальскага.

Самым нялёгкім, пераломным момантам у жыцці нашага земляка быў той, калі ён паставіў свой подпіс у падтрымку пераходу уніі ў праваслаўе. Найперш, відаць, Плакід Янкоўскі гэта зрабіў дзеля будучай сваёй кар'еры. Ён пачынае пісаць на рускай мове, хаця яе дрэнна ведаў і не любіў, навуковыя багаслоўскія працы і выступленні. А ў маі 1838 года яго павышаюць да звання малодшага сабornага протаіерэя і ўзнагароджваюць залатым крыжам. Тым не менш заробак Плакід меў слабы. А ў сям'і было пяць дзяцей. І калі памірае яго сястра і сястрын муж, ён забірае на выхаванне яшчэ шэсць дзяцей. У такой складанай сітуацыі Плакід Янкоўскі просіць перавесці яго на пенсію. І каб неяк адцягнуць увагу ад жыццёвай

складанасці і праблем, па-ранейшаму шмат піша і друкуецца. А ў 1842 годзе ў Вільні выходзіць яго першая кніга «Chaos» пад псеўданімам Джон Оф Дыкалп.

У 1845 годзе наш зямляк разам з Жыровіцкай семінарыяй, кансісторыяй і епіскапам пераязджае ў Вільню. Яго прызначаюць настаяцелем праваслаўнай Свята-Мікалаеўскай царквы. У Вільні Плакід Янкоўскі падтрымлівае цесныя літаратурныя кантакты з літаратарамі, краязнаўцамі і навукоўцамі, у тым ліку з Юзафам Ігнатам Крашэўскім. Ён становіцца папулярным літаратарам, прадаўжае друкавацца пад псеўданімам Джон Оф Дыкалп. У Вільні, Пецярбурзе, Лейпцыгу выходзяць з друку яго кнігі. Найперш гэта «Засценак» (1841), «Хвіля» (1842), «Апавяданні» (1843), «Складзеная аповесць» (1843, разам з Крашэўскім) і многія іншыя. Але разумовая праца адмоўна адбіваецца на яго здароўі. Яму неабходны былі спакой і цішыня. Таму ў 1847 годзе Плакід вяртаецца на Слонімшчыну, атрымлівае невялікі прыход каля Жыровічаў, дзе працуе і жыве. А праз дзесяць гадоў спыняе сваю літаратурную працу, купляе ў Жыровічах хату і з сям'ёй тут спакойна пражывае. Тым не менш у пачатку 60-х гадоў супрацоўнікі рускіх выданняў «Литовские епархиальные ведомости» і «Виленский вестник» прапаноўваюць яму вярнуцца да літаратурнай дзейнасці на рускай мове. Плакід Янкоўскі пагаджаецца і на працягу шасці гадоў (з 1863 да 1868 г.) друкуецца па-руску. Яго публіцыстыку ў гэты час можна падзяліць на дзве тэмы — праваслаўная царкоўная рэформа і ліквідацыя уніі, а таксама — вясковыя замалёўкі пра жыццё вёскі і некралогі па тых, хто памёр. У друку з'яўляюцца яго артыкулы «Мясцовыя забабоны і прымхі» (1863), «Сялянская праўда» (1865), «Карэспандэнцыі са Слоніма» (1867) і многія іншыя.

У 1867 годзе ў Жыровічы да Янкоўскіх з Расіі прыходзіць сумная вестка — памірае іх сын, які там вучыўся. Ад гэтага гора не вытрымлівае сэрца ў жонкі Плакіда, і яна хутка таксама памірае. З гэтага часу пісьменнік пакідае пісаць свае творы і нават не ходзіць у царкву. Уцехай яго становяцца кніжкі і агарод пры хаце. А 11 сакавіка 1872 года ў Жыровічах не стае і Плакіда Янкоўскага. Яго пахавалі дзеці і землякі на жыровіцкіх могілках у падзямеллі царквы святога Георгія побач з жонкаю. На сцяне царквы дзеці ўстанавілі мемарыяльную шыльду на рускай мове. Гэтая шыльда зберагаецца да сённяшніх дзён.

Праз год пасля смерці Плакіда Янкоўскага з друку выйшла яго кніга «Фанабэрыя пана старосты Канёўскага». А ў 1928 годзе слонімскі паэт і краязнавец Валяр'ян Харкевіч у Вільні выдае невялікую кніжачку «Плакід Янкоўскі (Джон Оф Дыкалп): жыццё і творчасць». Дарэчы, Валяр'ян Харкевіч у Слоніме і Вільні выдаў некалькі гісторыка-краязнаўчых кніг. Гэта «Гібель касцельнай уніі на Літве і Беларусі» (1929), «Zyrowice — lask krynice…» (1930), «Bez steru i busoli» (1929) і іншыя.

Нядаўна сябры з Польшчы прыслалі мне кнігу Плакіда Янкоўскага «Доктар Пантэвуш у пераменах і іншыя творы». Кніга выйшла ў Варшаве ў 1985 годзе. Яна яшчэ раз нагадала пра нашага малавядомага і забытага земляка.

# ЧАЛАВЕК МАЎКЛІВАГА СЭРЦА

Калі я паступіў на першы курс Белдзяржуніверсітэта, у часопісе «Маладосць» (1980. № 9) з'явілася дакументальная аповесць майго земляка, пісьменніка і журналіста Якуба Міско «Было яно калісьці…». Я купіў часопіс і на адным дыханні прачытаў гэтую аповесць. У ёй Якуб Міско цікава апісваў свае дзіцячыя і юнацкія гады, беларускую Вільню, дзе вучыўся і сталеў, а таксама шчыра пісаў пра родную Слонімшчыну. А дзесьці ў 1989 годзе яшчэ адзін мой зямляк, доктар гістарычных навук Васіль Мялешка прыслаў мне верш Якуба Міско, які называўся «Наперад». Гэты верш гісторык знайшоў у архіве, ён друкаваўся ў 1926 годзе ў падпольным часопісе вучняў Віленскай беларускай гімназіі. Я параіў Васілю Іванавічу даслаць верш Якуба Міско ў «ЛіМ», што ён і зрабіў. І 6 кастрычніка 1989 года верш «Наперад» Якуба Міско быў надрукаваны на адной са старонак тыднёвіка. Гэты верш у той час заклікаў моладзь да шчаслівейшай долі, да барацьбы за лепшае жыццё:

Наперад, да лепшае долі!
Наперад, да сонца, да зор!
Мы ў цемры не можам жыць болей,
Нам трэба святло і прастор!..

Якуб Міско нарадзіўся 1 чэрвеня 1911 года ў вёсцы Чамяры Слонімскага павета ў сялянскай сям'і. Вучыўся ў пачатковай школе ў бежанстве ў Расіі.

А калі сям'я вярнулася ў Чамяры ў 1921 годзе, паступіў у Віленскую беларускую гімназію, адкуль яго за рэвалюцыйную дзейнасць некалькі разоў выганялі. Друкавацца пачаў у 1926 годзе ў падпольным часопісе вучняў гімназіі «Наперад». Публікаваўся ў польскіх газетах. У 1932–1934 гадах працаваў у галоўным сакратарыяце арганізацыі «Змаганне», а потым у рэдакцыі віленскай «Беларускай газеты» (легальнае выданне КПЗБ). На працягу 1930-х гадоў Якуб Міско неаднаразова арыштоўваўся польскімі ўладамі, некалькі гадоў правёў у турмах. У лістападзе 1939 года разам з братам быў арыштаваны НКУС. Але дзякуючы ўмяшанню П. Панамарэнкі яго вызвалілі.

Пасля вызвалення прыехаў у Ліду, дзе да пачатку вайны быў літсупрацоўнікам лідскай раённай газеты «Уперад».

Калі пачалася вайна, Якуба Міско забралі на фронт. Спачатку быў радавым разведчыкам, а да Берліна дайшоў гвардыі маёрам з пяццю ордэнамі. Калі вярнуўся на Радзіму, паступіў і скончыў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут. Усё жыццё Якуб Міско адпрацаваў журналістам. З іх амаль 30 гадоў — у «Сельской газете». Пісаў не толькі журналісцкія матэрыялы, але і апавяданні, гумарэскі, артыкулы пра былых дзеячаў Заходняй Беларусі, рэцэнзіі на кнігі Максіма Танка, Янкі Брыля, Алеся Адамовіча, Міхася Машары, Віктара Казько. На беларускую мову перакладаў творы польскіх літаратараў. У «Сельской газете» шмат гадоў вёў вельмі папулярны сярод чытачоў «калючы куток сатыры і гумару».

У 1967 годзе Якубу Міско было прысвоена званне заслужанага дзеяча культуры Беларусі. Да апошніх сваіх дзён Якуб Герасімавіч шмат працаваў, сустракаўся са сваімі сябрамі. Журналіст М. Шыбаліс пісаў пра Якуба Міско: «До последних дней он продолжал накапливать знания, много читал, пополнял свою богатую библиотеку. Доступный и общительный, любивший шутку, розыгрыш, дороживший дружбой с товарищами, он был твёрд и требователен в работе, прежде всего, к самому себе» (Шибалис М. Голос молчаливого сердца // Сельская газета. 1983. 6 марта).

Пасля смерці Якуба Міско (памёр 23 кастрычніка 1981 года) народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль сабраў яго лепшую спадчыну і выдаў асобнаю кнігай, якую назваў «Маё маўклівае сэрца». У першы раздзел кнігі ўвайшла дакументальная аповесць «Было яно калісьці…», а ў другі — нарысы, артыкулы і гумарэскі. Ва ўступным слове да кнігі Янка Брыль сказаў: «Найлепш пісалася яму тое, што звязана з былой Заходняй Беларуссю, з яе горкай нядоляй, са слаўнай барацьбой яе лепшых сыноў і дачок за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. У гэтай цікавай, высокакультурнай публіцыстыцы амаль усюды натуральна і неабходна прысутнічае аўтар — як актыўны ўдзельнік многіх галоўных падзей свайго часу, са сваім глыбінным веданнем прадмета, са сваёй ідэйнай перакананасцю, грунтоўна праверанай у выпрабаваннях на сталасць» (Брыль Янка. Замест прадмовы // Міско Якуб. Маё маўклівае сэрца. Мінск, 1983. С. 4.).

Такім да сённяшніх дзён і памятаюць майго земляка тыя яго маладзейшыя сябры, якія яшчэ жывуць, такім ён і застанецца ў памяці ўсіх беларусаў.

## ПІСЬМЕННІК З КАСТРОВІЧАЎ

Пачну з прозы: «Вяртаюся са школы. Адзін. Хлопцы ўжо разбегліся па хатах. Мне — ісці далей, ледзь не ў самы канец вуліцы. Сунуся памалу, нехаця, знарок спыняюся, пільна азіраюся вакол сябе. Нізкае, сівое неба маўкліва туліцца да сіратліва застылых садоў і адразу за хлявамі непрыкметна зліваецца з пакатымі пагоркамі, што падступаюць да самай вёскі. На рыжай, уезджанай дарозе — ні душы, і ад таго, мусіць, яна выдае чужою і няўтульнаю. Калючы пранізлівы вецер, што раптам дзьме ў твар і кусае шчокі, пахне едкім гаркавым попелам, высыпаным у гародчык. Хачу і не магу паверыць, што заўтра — вясна. Так пазначана ў календары. Не скажу, што вельмі абрыдла зіма, і ўсё ж міжволі і нецярпліва шукаю першыя веснавыя прыкметы…». Гэтымі цудоўнымі, трохі тужлівымі радкамі пачынаецца аповесць «Вочы начніцы» (Мінск, 1989) майго цудоўнага земляка і сябра пісьменніка Уладзіміра Ягоўдзіка. Перачытваю аповесць зноў і зноў, хоць яна напісана 26 гадоў таму, бо гэты твор мяне, як і аўтара, вяртае заўсёды на Слонімшчыну да гадоў маленства. І неяк страшна становіцца, і неяк не верыцца, што нам, дарагі Валодзя, ужо за 50. Я, праўда, цешуся тым, што маладзейшы за цябе на

пару гадоў, але чым тут цешыцца. Хутчэй за ўсё мне не верыцца, што табе 14 лютага 2011 года намяло ўжо 55. І за гэты час, як і ты пісаў, жыццёвая завіруха з ветрам пякла цябе калюча і пранізліва. Але ты не спыняўся і не спыняешся на паўдарозе, а заўсёды лечышся літаратурай, творчым і жыццёвым цярпеннем, маральнай чысцінёй і характарам.

На Слонімшчыне ад маёй роднай вёскі да Валодзевых Кастровічаў напрамкі зусім недалёка. Але ён мала жыў і вучыўся ў Кастровічах, бо вельмі рана застаўся без бацькоў. Яго домам былі Дзятлаўская, Зэльвенская і Слонімская школы-інтэрнаты. Неяк даўно пры сустрэчы былы дырэктар Слонімскай школы-інтэрната Будзіловіч сказаў: «Не вельмі проста было з гэтым хлопцам, уцякаў з інтэрната, не слухаўся нікога». Але ад лёсу, як кажуць у народзе, не ўцячэш. І хоць жыццёвы лёс не вельмі песціў майго земляка, творчы лёс яму ўсё ж спрыяў. Я яшчэ быў студэнтам-філолагам, а Уладзімір Ягоўдзік ужо трымаў у руках сваю першую кнігу апавяданняў і аповесці «Стронга» (Мінск, 1984) з прадмовай Яўгена Лецкі. «Яго першай кнізе ўласцівы праўдзівасць, шчырасць і пошукавасць адначасова», — пісаў аўтар прадмовы. Гэта было так. Праўдзівасць — балючая і шчырая, вяскова-юнацкая і непаўторна-запамінальная — прымушала чытаць прозу Уладзіміра Ягоўдзіка, чытаць ад пачатку да канца, чытаць і думаць, чытаць і бачыць перад вачыма тое, што апісваў твой равеснік, твой зямляк, тое, што было побач.

Праз тры гады пасля беларускага выдання першага зборніка Уладзіміра Ягоўдзіка ягоная «Стронга» выходзіць у Маскве на рускай мове ў перакладзе Валянціны Шчадрыной з прадмовай Уладзіміра Калесніка. «Галоўнае для пісьменніка — тэма чалавека, пошукі сэнсу і сутнасці жыцця ў нашым складаным свеце», — пісаў у прадмове Уладзімір Калеснік. Пісаў і зычыў маладому тады празаіку быць і заставацца сабой. І ён застаўся і застаецца сабой.

Услед за «Стронгай» выходзяць дзясяткі новых кніг Уладзіміра Ягоўдзіка. Гэта кнігі аповесцяў, апавяданняў, дзіцячых казак, сур'ёзных нарысаў, рэцэнзій, партрэтаў пісьменнікаў і мастакоў, кнігі аб прыродзе, зборнікі гістарычных твораў і дзіцячых п'ес і г. д. І ўсё, як сказаў некалі Янка Брыль, «мне прыемна засведчыць, з цікавасцю перачытваецца, хораша гаворачы гэтым пра сваю таленавітасць».

Уладзімір Ягоўдзік — сапраўды таленавіты і вопытны літаратар. Некалькі гадоў таму ён стварыў серыю «Скарбы Беларусі» і ў гэтай серыі выдае цудоўныя кніжкі для юных і дарослых чытачоў. Свет пабачылі ўжо выданні, прысвечаныя нацыянальным паркам «Прыпяцкі», «Браслаўскія азёры», Бярэзінскаму біясфернаму запаведніку, азёрам Беларусі, матылькам, ваўкам, камяням, дзятлам, зубрам і г. д. Пісьменнік піша кнігі, сам выдае і сам распаўсюджвае па садках, школах, бібліятэках Беларусі. Нехта неяк сказаў: вучыцеся ў Ягоўдзіка Уладзіміра, які не спадзяецца ні на кога, а сам піша добрыя творы і прапагандуе іх па ўсёй Беларусі. А як жа інакш? З 1995 года выдаваў Уладзімір Ягоўдзік і свой прыватны цудоўны часопіс сяброў прыроды «Лесавік». Летась «Лесавік» закрылі, бо тыя ўмовы, якія

выдаўцу прапанавалі ў Міністэрстве інфармацыі, паставілі выданне проста на калені, таму выдаваць часопіс ужо не было сэнсу.

Але Уладзімір не спыняецца — ён па-ранейшаму працуе над родным словам, лечыцца родным словам, нясе яго ў людзі. Далёкі продак пісьменніка — класік французскай літаратуры Гіём Апалінэр (Вільгельм Кастравіцкі) пісаў: «Мой скарб — маё слова… Мелодыя слова — цана не малая!» Чаму я тут прыгадаў Гіёма Апалінэра, продкі якога маюць непасрэднае дачыненне і да роднай вёскі Уладзіміра Ягоўдзіка — Кастровічы? Дзед паэта Гіёма Апалінэра — Міхась-Апалінарый Кастравіцкі быў чалавекам дэмакратычных поглядаў. Разам са сваімі братамі Юзафам і Адамам прымаў удзел у паўстанні 1863 года. Адзін брат быў высланы царскімі ўладамі ў Сібір, другі — у Арэнбург, Міхасю-Апалінарыю ўдалося ўцячы разам з сям'ёй у Італію. У Рыме і нарадзіўся вялікі паэт Францыі. Ён быў пазашлюбным сынам Ангелікі Кастравіцкай. Дзякуючы сваёй маці, Апалінэр назаўсёды захаваў любоў да Літвы. Магчыма, маці ці бабуля Кастравіцкія распавядалі Гіёму і пра Наваградчыну і пра мястэчка Кастровічы на Слонімшчыне, дзе праз 76 гадоў народзіцца наш беларускі Кастравіцкі (адзін з псеўданімаў Ягоўдзіка) — Уладзімір Ягоўдзік. І я тут не перабольшыў, бо, насамрэч, пісьменнікам напісана і зроблена для гісторыі беларускай культуры і літаратуры даволі шмат. І многа яшчэ напішацца.

А цяпер слова пра земляка завяршу таксама прозай: «Суха пазвоньвае каля плота вецер, раптам узвейвае і цярусіць шчодраю жменяю проста ў твар дробнае калючае сяйво. Я не адварочваюся і нават не заплюшчваю вачэй. Праз якое імгненне лёгка змахваю са шчок буйныя кроплі і пераконваю, запэўніваю сам сябе, што гэта ніякія не слёзы, а снегавая расталая вада, што плакаць мне, шасцікласніку, брыдка…». А мне бачацца ў дзённіку шасцікласніка Валодзі Ягоўдзіка дзве пяцёркі — тыя найвышэйшыя адзнакі, якія ў свой час мы атрымлівалі ў школе.

## ПРАЦАЎНІК НА НІВЕ ДЗВЮХ КУЛЬТУР

Пра беларускага пісьменніка і перакладчыка Уладзіміра Сакалоўскага прафесар Адам Мальдзіс неяк сказаў: «Я не ўяўляю сабе беларуска-нямецкія грамадска-культурныя, асабліва літаратурныя сувязі без прац Уладзіміра Сакалоўскага. Ён адкрыў многія іх факты, сістэматызаваў і абагульніў». Да гэтых слоў я хачу яшчэ дадаць, што я, як зямляк Уладзіміра Лявонцьевіча, не ўяўляю Слонімшчыну без яго. Хаця асоба Уладзіміра Сакалоўскага даволі значная не толькі ў маштабах сваёй маленькай радзімы, але і ў маштабах усёй Бацькаўшчыны.

Здаецца, пазнаёміўся я з Уладзімірам Лявонцьевічам Сакалоўскім дзесьці ў сярэдзіне 1980-х гадоў. Тады якраз з друку выйшлі дзве яго арыгінальныя кнігі, якія адразу зрабілі даследчыка літаратуры вядомым і кампетэнтным знаўцам у галіне перакладу і нямецка-беларускіх сувязяў.

Гэта былі кнігі «Пара станаўлення» і «Беларуская літаратура ў ГДР». Гэтыя кнігі літаратуразнавец мне даслаў у Слонім, і я пра іх напісаў добрыя словы ў мясцовым друку. Так мы пасябравалі. І хоць зрэдчасу ён цяпер бывае на роднай Слонімшчыне, але не мінае маёй хаты, бо нам заўсёды было і ёсць аб чым пагутарыць.

4 ліпеня 2012 года Уладзіміру Сакалоўскаму споўнілася 82 гады. Калі б я не ведаў гадоў яго нараджэння, то ніколі б не паверыў, што гэтаму рухаваму, руплівому, таленавітаму і няўрымсліваму творцу ўжо 82. Для мяне гады майго земляка спыніліся дзесьці на лічбе 60, не болей. Магчыма, дзякуючы яго шчырай сяброўцы Галіне Антонаўне, з якой Уладзімір Лявонцьевіч па жыцці разам ідзе ўжо 58 гадоў, мой зямляк штодня сядае за камп'ютар і піша тое, што жадаюць яго душа і сэрца.

Родам Уладзімір Сакалоўскі са слонімскай вёскі Мяльканавічы. Бацька яго Лявонцій Аляксеевіч на вёсцы быў даволі адукаваным чалавекам. Ён у свой час скончыў гімназію і некалькі курсаў Варшаўскага ўніверсітэта. Добра валодаў беларускай, польскай, рускай і нямецкай мовамі, ведаў таксама лацінскую і старажытнагрэчаскую мовы, прымаў актыўны ўдзел у мясцовай філіі Таварыства беларускай школы (ТБШ). Так што прыклад Уладзіміру было з каго браць. Таму юнак з далёкай слонімскай вёскі таксама пайшоў у навуку, бо меў талент да замежных моў, да вучобы.

Пасля заканчэння факультэта замежных моў Гродзенскага ўніверсітэта Уладзімір Сакалоўскі працаваў перакладчыкам ва Усходняй Германіі, потым выкладаў нямецкую мову ў Латвіі, працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы, пасля — у Бонскім універсітэце. Побач з беларускай мовай у яго заўсёды была нямецкая. А асноўнай тэматыкай даследаванняў стала гісторыя развіцця і ўзаемадзеяння беларускай і нямецкай культур.

Ведаў даўно, што ў 1961 годзе ў Боне на нямецкай мове выйшла кніга Анджэя Цеханавецкага «Michal Kazimierz Oginski und sein Musenhof zu Slonim». Кніга гэта ўнікальная, яна з'яўляецца адным з першых спецыяльных даследаванняў па гісторыі прыдворнага тэатра Беларусі, да таго ж напісаная аўтарам на невядомых раней архіўных матэрыялах. Доўгі час гэтае выданне было недаступным беларускім даследчыкам і простым чытачам. І толькі дзякуючы Уладзіміру Сакалоўскаму кніга Анджэя Цеханавецкага пабачыла свет і ў Беларусі. Першае выданне па-беларуску выйшла ў 1993 годзе і адразу хутка разышлося. Другое выданне з дапоўненымі каментарыямі ў перакладзе Уладзіміра Сакалоўскага з'явілася чатыры гады таму.

У апошні час беларускі вучоны і перакладчык вялікую ўвагу аддае даследаванню Беларусі ў перыяд Першай сусветнай вайны, а таксама Надзвычайнай місіі БНР у Нямеччыне. Справа ў тым, што адну з важных роляў у знешнепалітычнай дзейнасці Беларускай Народнай Рэспублікі адыграла Надзвычайная місія рэспублікі ў Берліне, якая на працягу амаль сямі гадоў (1919–1925) у цяжкіх і складаных умовах годна прэзентавала Беларусь у Нямеччыне і доўгі час з'яўлялася адным з галоўных цэнтраў БНР па каардынацыі дзейнасці беларускіх дыпламатычных прадстаўніцтваў за мяжой. Вось гэты перыяд актыўна і грунтоўна дас-

ледуе Уладзімір Сакалоўскі. Вялікі артыкул на гэту тэму ён апублікаваў летась у часопісе «Arche».

Усе кнігі, артыкулы, выступленні Уладзіміра Сакалоўскага немагчыма пералічыць. Ды й няма сэнсу. Усё зробленае ім трэба чытаць, даследаваць, аналізаваць. Працы яго — сур'ёзны ўклад у нашу айчынную гісторыю.

## ЗЯМЛІ ПАТРЭБНА ЖЫТА, А НАМ – МІКОЛА АРОЧКА

Некалі Алег Лойка, рэцэнзуючы адну з кніг Міколы Арочкі «Матчына жыта», напісаў, што зямлі патрэбна жыта, а нам, вядома ж, ён, Мікола Арочка — мой слаўны зямляк, доктар філалагічных навук, паэт, крытык, перакладчык.

Нарадзіўся Мікола Арочка ў вёсцы Вецявічы Слонімскага раёна ў сялянскай сям'і. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Азярніцкай сярэдняй школе. Пасля закончыў філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Працаваў у часопісе «Сельская гаспадарка Беларусі», у газеце «Літаратура і мастацтва». З 1966 года быў навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Але так склаўся лёс, што другую палову свайго жыцця Мікола Арочка вымушаны пражываць з сям'ёй у сваёй роднай вёсцы Вецявічы, дзе жыве і цяпер.

У друку з вершамі наш зямляк пачаў выступаць з 1949 года. А першы зборнік паэзіі «Не ўсе лугі пакошаны…» выйшаў у свет у 1958 годзе, Затым выдаваліся новыя кнігі паэзіі «Ветраломная палаcа» (1962), «Крылатае семя» (1967), «Кветкі бяссмертніка» (1972), « Матчына жыта» (1978), «Курганне. Крэва» (1982), «Падземныя замкі» (1986) і іншыя. Ужо ў ранніх паэтычных радках паэта абазначаліся матывы, вобразы, якія сталі, па сутнасці, галоўнымі ў яго паэзіі, — гэта бацькаўшчына, зямля, зерне, жыта, жыццё, родная мова… Паэтызацыя бацькоўскай зямлі і свету родных людзей пачалася з першых творчых крокаў і доўжыцца да сённяшніх дзён. Мянялася жыццё, а разам з ім мяняўся ракурс яго спасціжэння, паглыбляліся каардынаты вымярэння. Мастацкае слова Мікалая Арочкі прасякнута турботай пра высокую еднасць духоўнасці і хлеба надзённага — гэта клопат пра гістарычную жыццяздольнасць свайго народа і яго невычэрпныя патэнцыяльныя магчымасці. Лепшыя вершы аўтара з'яўляюцца аўтабіяграфічнымі («Далучэнне да зямлі», «Дарогай світання», «Пах саломы»). Балючая памяць вайны нарадзіла вялікую колькасць твораў пра перажытае (вершы «Перакалочаныя ночы», «А салдаты ішлі», «Партызанскі пароль», «Начная балада салдаткі» і інш.). Мікола Арочка належыць да пакалення, дзяцінства якога апалена вайной. Але памяць пра ўласна зведанае ажыве на старонках кніг не адразу, а ў 1960-я гады, калі дастатковы жыццёвы і творчы вопыт надаў эмоцыям асэнсаваны характар, павышаная ўвага да лёсу народа, яго вялікіх выпрабаванняў і драм усё больш схіляла аўтара да пазнання мінулага.

Сённяшняя паэзія Міколы Арочкі прыцягвае ўвагу перш за ўсё двума вымярэннямі: прагай спазнання глыбінных пластоў роднай зямлі і ўстурбаваным далучэннем да яе сучасных праблем і патрэб. Пафас усвядомленнага спазнання і шанавання нашага «гістарычнага дому» ўласцівы ўсім без выключэння драматычным паэмам Міколы Арочкі. Важкім дасягненнем сучаснай беларускай літаратуры стала драматызаваная паэма пісьменніка «Судны дзень Скарыны». З глыбінь XVI стагоддзя паэт выводзіць светлы воблік беларускага першадрукара. Усе сюжэтныя калізіі твора (рэальныя, бытавыя, сацыяльна-палітычныя падзеі) так ці інакш закранаюць самую істотную праблему, у якой сканцэнтравана сутнасць жыцця Скарыны — ідэю Асветы, культуры, нацыянальнага Адраджэння.

Вядома, што адна з прыкмет нашага часу — паварот грамадства да агульначалавечых хрысціянскіх каштоўнасцей. Гэта з'ява, узмоцненная горкім вопытам Чарнобыля, выклікала да жыцця творы на біблейскія матывы. Зварот паэта да хрысціянскіх вобразаў, пытанняў веры абумоўлены да таго ж і акрутным асабістым лёсам (вершы «Укрыжаванне», «Малітва сына Віталія», «Святая зямля», «У пустой капліцы», «Асвячэнне крыніцы» і інш.).

За гады сваёй творчай працы аўтар нярэдка звяртаўся да вобраза каханай жанчыны (вершы «Ласкавасць», «Ты даравала ўсё…», «Маёй супольніцы» і іншыя). Вельмі высока ацэнены і літаратуразнаўчыя кнігі Міколы Арочкі — «Валянцін Таўлай» (1989), «Галоўная служба паэзіі» (1974), «Сучасная беларуская паэзія» (1976), «Беларуская савецкая паэма» (1979), «Саюз часу і майстэрства» (1981), «Максім Танк: жыццё ў паэзіі» (1984), «Поэзия и война» (1987) і шэраг іншых.

Шмат гадоў Мікола Арочка жыве ў родных Вецявічах. Хоць рэдка, але наведваю нашага слыннага, таленавітага земляка. Цяжка прыгадаць сёння вёску, дзе б шмат гадоў жыў доктар навук. А ён, дзякаваць Богу, жыве, рухаецца, дыхае, піша. Бывае, гляджу на яго — і неяк балюча становіцца ад таго, што лёс загнаў гэтага чалавека сюды, у глыбінку, на хутар жыцця. Не па добрай волі загнаў. На мясцовым пагосце пахаваны два яго сыны, таму вярнуўся да сыноў, да землякоў, на Бацькаўшчыну. Але не скарыўся, вытрымаў, бо лячыўся матчыным жытам, літаратурай, Айчынай.

## ЛЁС РАКЕВІЧАЎ — ЛЁС БЕЛАРУСАЎ

З друку выйшла кніга «Радзімы кут мой» (2009). Яе напісаў слонімскі настаўнік Мікалай Іванавіч Ракевіч, які ўсё сваё жыццё аддаў дзецям, вучыў іх роднай мове, літаратуры і культуры.

Кнігу я прачытаў на адным дыханні. Магчыма, яе так лёгка і захапляльна чытаць таму, што напісаў успаміны не вопытны навуковец і гісторык, а просты чалавек, які шмат перажыў у сваім жыцці, бачыў, сустракаў і ведае.

Мікалай Ракевіч напісаў споведзь пра лёс сваёй роднай вёскі Ваўчкі Слонімскага раёна, а таксама пра лёс вяскоўцаў і сваякоў — Ракевічаў. Але

лёс сям'і Ракевічаў — гэта лёс беларусаў. Разважаючы ў сваёй кнізе пра родную вёску Ваўчкі, аўтар шчыра думае пра людзей, якія там спрадвеку жылі, якую карысць яны прыдбалі сабе, сваёй сям'і, родным і блізкім людзям, сваёй нацыі і Бацькаўшчыне. У многіх варунках лёс землякоў Мікалая Ракевіча, ды і лёс самой Беларусі залежаў ад тых акалічнасцей, у якіх ім прыходзілася жыць, працаваць, радавацца і гараваць.

Хачу сказаць, што пра беларускія вёскі не так і шмат у нас напісана кніг. І мінулае нашых вёсак пакуль што дрэнна ведаюць не толькі шырокі чытач, але і спецыялісты. А аб'ектам даследавання сёння мае права быць кожны населены пункт, і вельмі шкада, як пісаў Мікола Улашчык, што гісторыі вёсак і невялікіх паселішчаў наогул няма. Шкада, бо без вывучэння гісторыі нашых вёсак, хутароў немагчыма і глыбокае веданне гісторыі краіны.

Магчыма, наша Беларусь ступіць на сапраўдны шлях сваёй незалежнасці толькі тады, калі мы напішам пра кожную беларускую вёскі асобную кнігу.

Сёння я магу прыгадаць цікавыя выданні на Гродзеншчыне пра свае вёскі — кнігі Міхася Скоблы «Дзярэчынскі дыярыюш» (Мінск,1999), Аляксандра Талерчыка «Парэчча» (Гродна, 2002), Сяргея Токця «Беларуская вёска ў эпоху зменаў. Другая палова XIX — першая траціна XX ст.» (Мінск, 2007) і некалькі яшчэ. Але гэтага мала, бо кожная беларуская вёска: і тая, якая жыве, і тая, якой ужо няма, — патрабуе спецыяльных даследаванняў.

Пра сваю вёску Ваўчкі і яе ваколіцы сабраў і цікава напісаў Мікалай Ракевіч. На прыкладзе сваіх вяскоўцаў, родных людзей з роду Ракевічаў, людзей з суседніх вёсак аўтар даволі ўважліва, дасціпна, абгрунтавана апісаў спецыфіку гаспадарчага і сацыядэмаграфічнага развіцця заходнебеларускай вёскі, працэс пашырэння пісьменнасці сярод вясковага насельніцтва і фармаванне інтэлігенцыі сялянскага паходжання, змены ў рэлігійным жыцці, раскладанне традыцыйных каштоўнасцей і нормаў паводзін, эвалюцыю ў самаідэнтыфікацыі сялян і фарміраванне беларускай нацыянальнай самасвядомасці.

Вось невялікі прыклад. У Ваўчкі прыходзіць Першая сусветная вайна. Пачалася эвакуацыя беларускага насельніцтва ў Расію. Далей аўтар разважае досыць правільна: спачатку ацэньвалася маёмасць гаспадара, якая не магла быць забрана з сабой, і дзяржава абяцала вярнуць страты. Але, як аказалася, страты потым ніхто беларускаму насельніцтву ніколі не вярнуў. Казакі прымусова выганялі беларусаў на ўсход, а будынкі палілі. Ды што там — правільна разважае? Яно так і было. Гэта трагічная гісторыя беларускіх вёсак і яе жыхароў пачатку XX стагоддзя. Аб гэтым, на вялікі жаль, напісана мала. А пісалася савецкімі гісторыкамі няпраўда, што беларусы ўцякалі на ўсход ад Першай сусветнай вайны. Ад якой вайны ўцякалі беларусы? Калі немцы ім прывозілі плугі, бароны, іншы сельскагаспадарчы інвентар — бярыце, жывіце, апрацоўвайце зямлю. А беларусы любілі зямлю, любілі працаваць на ёй, бо зямля, як пісаў Якуб Колас:

Не зменіць і не здрадзіць,
Зямля паможа і дарадзіць,
Зямля дасць волі, дасць і сілы,
Зямля паслужыць да магілы,
Зямля дзяцей тваіх не кіне,
Зямля — аснова ўсёй Айчыне.

Мікалай Ракевіч піша, што самай вялікай праблемай для беларускіх сялян было малазямелле. Многа зямлі — многа багацця. Бо пабочнага заробку ніякага тады не было. Таму лёс беззямелля і розныя войны гналі Ракевічаў, як і ўсіх беларусаў, па свеце. Родная вёскаВаўчкі жыла сваімі звычайнымі, працоўнымі буднямі, сваім жыццём. Вось толькі ўлада там мянялася, ад якой найцяжэй было беларусам Ракевічам.

Кніга пра вёску Ваўчкі — гэта добрая вязанка ўспамінаў аўтара. Цікава чытаецца згадка пра бацьку, асабліва тыя мясціны, дзе прыводзяцца жыццёвыя гісторыі пра бацьку, якому пры кожнай уладзе прыходзілася выжываць з сям'ёй, бо сям'я, як піша Мікалай Іванавіч Ракевіч, — такі калектыў, дзе ўсім павінна быць утульна. А за гэта мусяць адказваць бацькі.

Шмат цёплых радкоў аўтар адрасаваў маці, з якой пражыў ўсяго 13 гадоў. Але ён пяшчотна згадвае, што маці была «сярэдняга ўзросту, з адкрытым прыгожым тварам і з задумлівым поглядам шэрых вачэй». Маці рана памерла, але на ўсё жыццё Мікалай Ракевіч запомніў яе словы: «Ты павінен вучыцца, і вучыцца добра, настойліва, бо вучоба адкрывае перад чалавекам шырокую і больш светлую дарогу».

Кнігу ўспамінаў Мікалая Ракевіча дапаўняюць успаміны пра сваякоў-Ракевічаў, лёс якіх склаўся ў жыцці кожнага па-рознаму. Адным шанцавала больш, іншым — менш. Вядома, абмяжоўвацца аднымі Ракевічамі ў Ваўчках і ў суседніх вёсках аўтар не стаў. Ён згадвае вялікую сям'ю Хартановічаў, пра працавітых суседзяў Ваўчкоў, якія жылі вельмі сціпла, пра сям'ю Турлай, гаспадар якой прывучаў дзяцей да працы, пра цётку Зосю Петрукевіч і яе сям'ю і г. д.

Значнае месца ў кнізе адведзена Азярніцакаму вучылішчу, якое было адкрыта ажно ў 1862 годзе. Дарэчы, тут некалі вучыўся беларускі драматург і паэт Кандрат Лейка з суседняй з Ваўчкамі вёскі Збочна. Мікалай Ракевіч не мінуў у сваёй кнізе настаўнікаў, якія жылі побач і вучылі яго і равеснікаў — вясковых дзетак. У Азярніцкай школе, гэта побач з Ваўчкамі, вучыліся спявак, вядучы барытон Францыі Аркадзь Валадось, паэт Мікола Арочка, віцэ-адмірал Балтыйскага флоту Васіль Апановіч, перакладчык Уладзімір Сакалоўскі і іншыя вядомыя людзі Беларусі.

Пасля прачытання кнігі Мікалая Ракевіча ўзнікла пэўнае адчуванне, што аўтар — прафесійны нарысіст, мудры і цікавы апавядальнік. Ён расказаў не толькі пра сваю вёску Ваўчкі, але па-сапраўднаму ўмела апісаў рэчаіснасць, якая мела дынамічны характар і ўяўляла складанае перапляценне ўзаемазвязаных сацыяльных, культурных і палітычных працэсаў.

# «КРЭСІВА»
# ПРАВАСЛАЎНАГА ПАЭТА ЗЬНІЧА

Вы чулі, як выконвае на раялі творы Агінскага ці Шапэна праваслаўны паэт Зьніч (Алег Бембель, брат Мікалай), які жыве ў Жыровічах на Слонімшчыне? Не чулі?.. Шкада!.. А я іх слухаў шмат разоў і бачыў, як спакойны Зьніч сядае за музычны інструмент і пачынае іграць. Ён ведае, што я люблю паланэз ля мінор Агінскага «Развітанне з Радзімай». І мне здаецца, што ніхто на свеце лепш за яго гэты музычны твор не выконвае. Бо гледзячы на паважнага, спакойнага, мудрага і таленавітага чалавека — хочацца жыць, радавацца жыццю, рабіць людзям дабро, хочацца пісаць, думаць, спадзявацца. Музыка і паэзія — родныя сёстры Зьніча. Хаця паэзія ўсё ж найбліжэй і найвышэй, хаця ў 1969 годзе Алег Бембель скончыў кансерваторыю. Праўда, потым была і аспірантура пры Інстытуце філасофіі і права Акадэміі навук БССР. Нават напісалася дысертацыя аб народных і інтэрнацыянальных элементах у літаратуры, але яна, на жаль, не была абаронена, таму што працу тады прызналі нацыяналістычнай.

За 73 гады Зьнічом пералсыта шмат. Ён працаваў на тэлебачанні, у Акадэміі навук, у Нацыянальным навукова-даследчым цэнтры імя Скарыны і г. д.

Яго лічылі нацыяналістам, а за выданне ў Лондане ў 1985 годзе сваёй уласнай кнігі «Роднае слова і маральна-этычны прагрэс» наогул рэпрэсавалі. Таму ў 1996 годзе Алег Бембель прыехаў у Жыровічы:

Жыровічы… Тут — сэрца Беларусі…
Тут — Маці Божая прыйшла да нас —
Як явіла Ікону — другі раз, —
Калі усе былі ў тузе і скрусе…

Прыехаў у Жыровічы і застаўся тут назаўжды, прыняўшы послух у праваслаўным Жыровіцкім манастыры. Але паслушнік брат Мікалай не зачыніўся ў Жыровіцкім манастыры ад людзей, сяброў, спраў жыццёвых, а тым болей ад літаратуры. Ён сёння жыве імкліва, як і бегае, у самым прамым значэнні гэтага слова, па старажытных і новых вуліцах і завулках Жыровічаў, Слоніма, Мінска, Гродна. Я яго часта сустракаю натхнёным, заклапочаным, імклівым. У яго спраў хапае. Ён выдае шмат гадоў багаслоўска-літаратурна-мастацкі лісток «Жыровіцкая абіцель», арганізоўвае канферэнцыі, прымае ўдзел у сустрэчах, прэзентацыях і піша вершы і філасофскія роздумы. Янка Запруднік у артыкуле «Паэзія Зьніча», якім адкрываецца вялікі 500-старонкавы том новай кнігі Зьніча «Крэсіва» (Слонім, 2012), сказаў: «Праз свае нешматслоўныя кампактныя вершы Зьніч выявіў чулую душу, гарачыя пачуцці любасці да роднага краю, глыбокую пашану праўды ды няштодзённую эрудыцыю».

Сапраўды, вершы ў Зьніча кампактныя, кароткія, сціслыя, але з вялікім падтэкстам. У кожным вершы многа шматкроп'я. І гэтае шматкроп'е нясе

ў сабе падтэкст. Зьнічовыя шматкроп'і імкнуцца дагаварыць за аўтара, кампенсаваць паэтычную абмежаванасць:

…Бог даў мне родавую сілу:
Пладзіся й засяляй Зямлю…
Любі, як Я цябе люблю…
…а я?..
…скажаюся паныла…

У тлумачальным слоўніку слова «крэсіва» азначае металічную прыладу для высякання агню з крэменю, інакш кажучы — красала. «Крэсіва» праваслаўнага паэта Зьніча — гэта выбраныя публікацыі розных гадоў, якія высвечваюць творчае і духоўнае станаўленне аднаго з нашых сучаснікаў у адной асобе — інака Мікалая, паэта Зьніча, філосафа і музыканта Алега Бембеля. У «Крэсіва» ўвайшло ўсё лепшае, напісанае аўтарам за гады яго жыцця і творчасці.

Красала Зьніча распачынаецца кнігай «Рэха малітвы», выдадзенай у Нью-Ёрку ў 1988 годзе:

…з россыпу слоў-крышталю
прэлюдыяй і высновай,
промнем Хрыстовай хвалі
блісне Боскае слова…

Затым публікуецца лонданскае выданне «Роднае слова і маральна-этычны прагрэс». Потым — «Саната ростані», якая пабачыла свет у Беластоку ў 1988 годзе. Гэта кніга складалася з пяці частак, дзе кожная з іх і сёння кранае грамадскімі, маральнымі, філасофскімі тэмамі. Але ў тыя савецкія часы паэтычныя радкі Зьніча выклікалі неадназначную рэакцыю. Ды і не маглі тады надрукавацца ў Беларусі, напрыклад, вось такія радкі:

Каб палепшыць нашы справы,
Партыю — а не Маскву! —
Мы аддзелім ад дзяржавы,
Быццам грэшную царкву…

Уключыў у свой аднатомнік Зьніч і зборнік вершаў «Малітвы за Беларусь» — першы зборнік, што выйшаў на Радзіме ў Мінску ў 1989 годзе. Гэта кніга-гімн Беларусі, гімн роднаму слову, гэта пачатак адраджэння веры ў беларускай інтэлігенцыі.

Вядома, кніга паэта Зьніча была б няпоўнай, калі б там адсутнічалі іншыя яго выданні: «Нябеснае і зямное» (1994), «За мурам» (2007), «Мне не цябе шкада, а тваю маці…» (2009), «Між тэктанічных пліт» (2011) і г. д.

Пасуюць да выдання і гутаркі Зьніча з паэтам Алесем Клышкам. Іх аўтар таксама не абмінуў увагай, і яны даволі чытэльныя і разнастайныя: там і вера, літаратура, палітыка, культура, гісторыя, чалавечыя ўзаемадносіны скразнымі лініямі праходзяць праз усе гутаркі.

Чытаецца ў кнізе і гутарка Алега Бембеля з журналістам Юрасём Залоскам. Гэта вялікае інтэрв'ю, даволі грунтоўнае, біяграфічнае, літаратуразнаўчае і рэлігійна-культуралагічнае, не састарэла і сёння. Яно цікава чытаецца, а на пытанне: «Як з вышыні Жыровіцкай абіцелі ты глядзіш на творчасць?» брат Мікалай адказвае:

Зямную сцяжыну завершы
Раскаяным сэрцам, найперш…
Маленні — вышэй за вершы,
Хай стане маленнем — верш!..

Знайшлося месца ў «Крэсіве» і артыкулам пра творчасць Зьніча. Вядома, сюды ўвайшлі не ўсе артыкулы і не ўсе інтэрв'ю, але многія аўтары гэтых артыкулаў прафесійна разважаюць пра творчасць паэта і філосафа. Людка Сільнова, напрыклад, кажа, што «Зьніч — безумоўна, адметная зорка на сцямнелым небасхіле сучаснай беларускай паэзіі». А Любоў Турбіна падкрэслівае, што Зьніч «стварае вобраз Паэта, міфалагему пра яго, а гэта дадзена далёка не кожнаму, хто піша сапраўдныя, жывыя вершы». Наталля Марціновіч мяркуе, што «аснова светапогляду А. Бембеля — суцэльнасць успрымання жыцця, дадзенага Богам». А Галіна Тварановіч адзначае, што «Зьнічовы тэксты адметныя шматпланавай лексікай, своеасаблівым рытмам, інтанацыяй». Міхась Скобла нібы падводзіць рысу творчай і грамадскай дзейнасці брата Мікалая: «Паслушнік Алег Бембель у Жыровіцкім манастыры — стваральнік вершаў-маленняў, каталізатар беларушчыны». Гэты таленавіты каталізатар беларушчыны і сам шырока разважае і ўмее разважаць пра творчасць Алега Лойкі, Уладзіміра Конана і іншых вядомых асоб Беларусі. Гэтых людзей ужо няма сярод нас, яны пайшлі да Госпада. Але шчырыя словы пра іх напісаў у сваёй новай кнізе Зьніч. Аўтар прыгадвае і пра паэму «Стагоддзяў жырандоля» невядомага аўтара, якую ён знайшоў у архіве Жыровіцкага манастыра на рускай мове. Прынёс паэму Алегу Лойку, які за тыдзень пераклаў яе на беларускую мову.

Шмат у кнізе Зьніча аднастрофных вершаў, вершаў-думак, развагаў, вобразнасці, філасофскіх радкоў. У іх — любоў да праваслаўнай Беларусі, малітвы за Беларусь, за мову, за родны народ беларускі:

…Світальную ратункавую ніць
Ніколі нас пакінуць не прымусяць…
Жыла, жыве і вечна будзе жыць
Патронка Праваслаўнай Беларусі!..

Творам аднатомніка «Крэсіва» Зьніча заўсёды было і застаецца вострае адчуванне часу, імкненне зазірнуць у складаны свет сучасніка, у гістарычны працэс. Радкі паэта сугучныя настроям, поўныя любові да ўсяго роднага, да нашай светлай і вялікай Айчыны. Кніга чытаецца, запамінаецца, над ёй можна доўга разважаць, думаць, асэнсоўваць. Бо такі гэты Зьніч і ягонае яркае «Крэсіва»! Ды і вершы, як пісаў паэт, павінны зіхцець! Доўга-доўга… Вечна!

# 3

## КРАКОТКА – РОЗДУМАЎ ПЯКОТКА

31 ліпеня 2012 года не стала майго слыннага земляка са Слонімшчыны кандыдата філалагічных навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, вядомага беларускага энцыклапедыста, літаратуразнаўца Янкі Саламевіча. А за два гады да смерці мы сустрэліся ў Мінску і доўга гутарылі пра родную вёску Івана Уладзіміравіча, пра яго сваякоў і сяброў, пра фальклор, календары, літаратуру — адным словам, пра нашу Бацькаўшчыну. Гэту гутарку я вырашыў уключыць у кнігу.

### Пра вёску маленства

— *Спадар Янка, некалі Уладзімір Караткевіч назваў вёску Кракотка Слонімскага раёна самаю найпрыгажэйшай вёскай у Беларусі. Што звязвае Вас з Кракоткаю і з яе людзьмі, акрамя таго, што Вы адсюль родам?*

— Цяпер, на жаль, амаль нічога. Добра, што яшчэ можна спыніцца ў бацькавай хаце, дзе жыве мой брат Анатоль. Ведаеш, Сяргей, нездарма кажуць, што да роднай хаты няма далёкай дарогі. У роднай вёсцы, дзе ты малым, некалі гуляў у розныя гульні (жмуркі, лапта, «у ножыка», «гусі-гусі за гарой» і іншыя), пачуў першыя ў сваім жыцці песні (некалі баба Наталля, маціна маці, гайчукала нас на каленях і прыпявала: «Гоп, гоп, гопа-па, чорна срака у папа, а ў папіхі белая — поп за ёю бегая!». Мне перарабілі ў «Дзіцячым фальклоры» сраку на морду — і ўсё прапала), дзе босы хадзіў у лес па грыбы, часта пасвіў кароў, далучаючыся несвядома да нашай цудоўнай прыроды, на пашы, лежачы ў траве любіў слухаць песні жаваранкаў, калі яны маленечкімі кропачкамі завісалі ў небе, махалі крылцамі недзе высока-высока, што амаль не відаць было, і выдавалі свае дзівосныя трэлі, яшчэ вучнем школы памагаў не толькі бацьку, а і калгасу касіць, хочацца прыехаць хоць на дзень.

— *І добра ўмееце касіць?*

— Дарэчы, усе хлопцы з нашай сям'і ўмеюць касіць. Гэта бацькава заслуга, ён нас навучыў, яму мы ўдзячныя за гэту навуку. У 1966 годзе, калі я 10 месяцаў знаходзіўся ў навуковай камандзіроўцы ў Польшчы, ездзіў на заходнія землі, каб наведаць меншага бацькавага брата — дзядзьку Сяргея. Пайшлі мы з дзядзькам на яго поле. Я ўзяў касу і пачаў шпарыць

серадэлю, якую дзядзька хацеў скасіць. Ён разгубіўся, вочы вылупіў і кажа: «Янка, і ты касіць умееш, та ж мае хлопцы ні адзін не ўмее». — «Гэта вы вінаваты, — адказаў я яму, — думаеце, што ў калгасе мы нічога не ўмеем. Нашы хлопцы ўсе косяць — бацька навучыў».

Наогул, калі пабываеш дома, пабываеш там, дзе жыў у маленстве, як палякі кажуць, сельскім, анельскім, хопіш таго паветра, якім дыхаў некалі, адчуваеш тую біялагічную аўру, якая дабратворна ўплывае на цябе дасюль, душа растае, дух мацуецца роднымі сокамі, усё ў табе ажывае, нават родная гаворка, хоць хлопцы кажуць: «Ты гаворыш па-беларуску, а мы па-нашаму, па-кракоцкі». Нездарма ёсць такое народнае пажаданне (люблю яго казаць маладым, я 36 разоў быў сватам на вяселлях): «Будзь здаровы, як зіма, вясёлы, як вясна, рабочы, як лета, багаты, як восень». Усё ў ім праўда, усё выверана тысячагадовай практыкай і назіраннямі селяніна, рабочая менавіта на зямлі. Глядзіш, што чалавеку трэба найперш. Вядома ж, здароўе. Гэта калі малады, думаеш: калі яшчэ тая старасць, буду такім заўсёды. Але ж пад старасць на цябе нападаюць усякія немачы, з якімі мусіш змагацца, пераадольваць іх.

Вясною чалавек, яго душа растае пасля зімы. Яе цяпер ён скідае, святлее душою, ажывае. Таму пажаданне быць вясёлым, як вясна, тройчы справядлівае. Не так сабе людзі кажуць, што летні дзень год корміць. Трэба ж сабраць ураджай, сабраць з поля ўсё, што вырасла, бо тое, што ў гумне, пасля будзе на стале. Жадаючы быць працавітым, як лета, чалавек жадае і вам, і сабе не стамляцца ў гэтай цяжкай вечнай кругаверці, здаровым працаваць і працаваць.

Некалі мяне здзіўляла, як бацька кожны дзень хадзіў на работу ў калгас, калі там працавалі толькі за «палачкі» — не давалі на працадзень ні грама зерня, ні капейкі грошай. А дарэмна. У тым, аказваецца, і праяўлялася сялянская вытрымка, любоў ці прывычка да ўсялякай працы (маці даіла карову кожны дзень у 5 гадзін раніцы). Пакуль не было трактароў, аралі коньмі. Як пойдзе бацька гнаць баразну на 1,5 км па нашых пясочках, вяртаецца з мокраю кашуляю на спіне і пад рукамі. Усё гэта я бачыў.

*— І гэта было навукаю на будучае?*

— Было, яшчэ якою. Без гучных слоў, без непатрэбнага маралізатарства і дэмагогіі. Таму пасля, калі ўжо стаў працаваць сам, рабіў любімую работу з задавальненнем. Калі прафесар, слонімец ад нараджэння Алег Антонавіч Лойка, добры паэт, празаік, перакладчык з польскай, нямецкай, французскай, рускай моў, крытык, літаратуразнавец, які выдаў больш за 100 кніг, таму нездарма Уладзімір Дамашэвіч, яго аднакурснік, сказаў, што пара Лойку заносіць у кнігу рэкордаў Гінеса, называе сябе гультаём, становіцца смешна. Таму і стараешся кожны дзень нешта рабіць, каб не быць «гультаём» большым, чым Алег Лойка.

Тут, у Малой Кракотцы, сувязь з роднай вёскай — неабходная духоўная повязь з родным краем, нягледзячы на ўсё негатыўнае, што там дзеецца сёння, асабліва жахлівае п’янства, ломка нейкіх традыцыйных каштоўнасцей, маральных прынцыпаў і асноў. Так жа было заўсёды, што

маладыя не прымалі многае ад старэйшага пакалення, пасля іх дзеці ад іх і г. д.

— *Дык за што Уладзімір Караткевіч назваў Кракотку самаю прыгожаю вёскай у Беларусі? Памятаеце, у ягоным артыкуле «Мой друг і мая зямля» пісьменнік піша: «І толькі гэта ўнутранае падабенства дало мне тады шчаслівае адчуванне рэальнасці таго фантастычнага хараства, што буяла вакол. Аднаго з найпрыгажэйшых гарадоў (маецца на ўвазе Слонім) і адной з найпрыгажэйшых вёсак Беларусі — Кракоткі, і замкаў, і старых муроў».*

— А найпрыгажэйшай нашу Малую Кракотку (з Вялікай быццам злілася ў 1967 годзе) Уладзімір Караткевіч назваў, вядома, з-за яе шыкоўнай прыроды (некалі ж нашу вёску называлі Малой Швейцарыяй). Яна сапраўды прыгожая: за ёй узгоркі (Быстраўка), сасновы лясок Язвіны (сам лазіў некалі на маяк, з якога відно 12 вёсак), побач за агародамі, за Іярданкаю, якая бяжыць у Зяльвянку, альховая паласа, а за ёю — сасновы лес, поўны грыбоў і ягад. Сама вёска высаджана вязамі, ліпамі, скрозь садкі з кветкамі. Гэта ўсё некалі было незаўважнае, быццам так і трэба. Вяскоўцы адчуваюць так і цяпер. Няма калі ім любавацца гэтай прыгажосцю. Толькі, калі доўга тут не бываеш, усю гэту прыгажосць заўважаеш найбольш адчувальна, ярка, выразна.

— *Ды і равеснікаў Вашых усё менш і менш застаецца…*

— Сапраўды, усё менш і менш, на жаль, тых, з кім хацелася б пагаварыць, успомніць былое, паразважаць над праблемамі часу, жыцця. І ўсё ж у вёску цягне як магнітам. Хочацца тут бываць, ачышчацца душою, вяртацца ўспамінамі ў наша маленства, якое, і праўда не заўсёды было бязвоблачным, як думаеш цяпер. Рамантызм, ці што, мае свой уплыў, ці мо нейкая настальгія. Раней, кажуць, і яблыкі былі смачнейшыя, і большыя, і пахучайшыя. Было, ды сплыло.

— *А ці памятаеце, як у Кракотцы арганізоўваўся калгас?*

— Калі арганізавалі калгас (у Вялікай Кракотцы ў 1948 годзе, а ў Малой у 1949-м), абагулілі коней у нашай вёсцы ў Клімовічавым гумне. Кожны свайму каню на першым часе прыносіў паесці ці папіць чаго-небудзь. Гэта называлі фураж. Пасля, як селянін убачыў, што яго абдурылі, што клопат яго нікому не патрэбны, ды і шкадаванне прайшло, перасталі карміць ужо калгасных коней. Яны пачалі здыхаць, бо работы было па горла, а кармёжка была слабая. Бывала ідзеш са школы, а здохлага каня ці кабылу ланцугом за шыю валакуць на выган.

Аднаго дня прыходзіць бацька ранічкай дахаты і кажа: «У Ецяўской альшыне нашлі здохлага каня. А на ім запісачка: «Наеўся фуражу, задраў ногі ды ляжу, не смейцеся з мяне, бо й вас гэта не міне». Было пасля і такое, рознае даводзілася бачыць, над розным задумвацца. А гэта запісачка засела ў памяці мо таму, што напісана ў рыфму. Хоць памяць чалавечая, страшэнна цікавая, часта невытлумачальная штука. Мая, скажам, не пазбавілася і ўжо, відаць, не пазбавіцца ад вызначэння тыповага з даклада Г. М. Малянкова на нейкім з'ездзе партыі: «Типическое не то, что чаще встречается в жизни, а что с наибольшей полнотой и заостренностью

выражает сущность данной социальной силы». Як нейкая напасць гэта фармуліроўка сядзіць ужо болей за 50 гадоў недзе ў падкорцы.

А родная вёска — любоў да смерці, да крыжа. Мо таму ўжо даўнавата склаўся пра яе радок: «Кракотка — роздумаў пякотка». З гэтым нічога не зробіш, ды і навошта. Уладзімір Караткевіч насіў у памяці радок 20 гадоў, пакуль не напісаў з ім верш. Пра гэта некалі прачытаў у «ЛіМе».

*— Спадар Янка, вядома, час бяжыць хутка. Але няўжо Вы з самага маленства марылі стаць пісьменнікам ці энцыклапедыстам? І наогул, калі б Янка Саламевіч не стаў літаратуразнаўцам і фалькларыстам, дык тады кім?*

— Не задумваўся над такім пытаннем, усё сталася само сабою. У школьныя гады (недзе з 1947 да 1955 гадоў) я прачытаў добрую палову фонду нашай бібліятэкі імя Янкі Купалы (створана ў 1927 годзе).

*— Цяпер бібліятэка-музей імя Янкі Купалы ўжо не існуе.*

— Практычна ніколі, як не было дажджу, не гнаў кароў на пашу без кніжкі. Яны мяне выхоўвалі. Ужо тады нарадзілася велізарная любоў да гэтага геніяльнага, непаўторнага вынаходніцтва чалавецтва, якая не гасне і да сённяшняга дня. Без свежай газеты, цікавай кніжкі я проста не магу жыць. Веды набываліся і набываюцца, але галава пакуль не трэснула. Так казаў сваім малым дзецям, калі яны скардзіліся на вялікія заданні на дом у школе, асабліва калі трэба было нешта вучыць на памяць. Мы з 4-га класа па 10-ы здавалі па 10 экзаменаў. Пры падрыхтоўцы да іх пачынаў разумець нават не вельмі любімыя алгебру і геаметрыю. Ведама ж, найперш любіў літаратуру, гісторыю, батаніку, заалогію, геаграфію. Мы з Васілём Леўчыкам (жыве ў Слоніме, быў, пасля політэхнічнага інстытута, доўга начальнікам РЭС у Слоніме) ганялі пад партаю на нецікавых уроках геаграфічны атлас, дык ведаў увесь свет: сталіцы, буйныя гарады, рэкі, астравы і паўастравы, краіны і г. д. Гэта дапамагло мне на экзаменах па геаграфіі ў БДУ на філфак (у 1955 годзе мы такі здавалі). Аспірант, які прымаў экзамен, заўважыўшы, што я не рыхтую свой білет (пытанні былі такія: «Реки СССР»; «Распределение осадков на земном шаре», таму што там не было чаго рыхтаваць, я ўсё ведаў!), а падказваю нейкай Шаўчэнка, якая не ведала добра адказу на пытанне пра хімічную прамысловасць БССР, папярэдзіў: «Готовтесь, я у вас спрошу!» І задаў 15 дадатковых пытанняў па карце свету. Але для мяне гэта былі семечкі. Мусіў паставіць пяцёрку, але папярэдзіў: «Если будете так себя вести на следующем экзамене, получите, при всех ваших знаниях, двойку и уедете домой ни с чем».

Наступны экзамен быў па рускай літаратуры. Прымаў яго жоўты і худы М. А. Паўленка з метровымі вусамі.

*— Мікалай Андрэевіч Паўленка на філфаку вучыў і мяне. Гэта быў своеасаблівы, сур’ёзны выкладчык. А выкладаў ён у нас уводзіны ў моваознаўства. Сфера яго навуковых інтарэсаў была даволі шырокая — гэта словаўтварэнне ў беларускай і рускай мовах, тэорыя мовы, гісторыя мовы. Дарэчы, спадар Янка, калі я не памыляюся, Вы былі рэдактарам яго кнігі «История письма», якая выйшла ў 1987 годзе.*

— Так, быў. А калі паступаў ва ўніверсітэт, адказваў яму лірыку Маякоўскага. Адказваў добра, што Паўленка нават папытаў, хто ў нас выкладаў рускую літаратуру ў школе. Я адказаў, што выкладаў Іван Іванавіч Хатэнка. Гэта быў случак, якога мы ў школе звалі «рускі». Як ён умеў гаварыць! Ніколі нікога не папярэджваў, але калі тлумачыў урок — можна было пачуць, як бзыіць муха. А яшчэ мне дапамагала тое, што я шмат самастойна сам чытаў. Чытанне ў школьнай і вясковай бібліятэцы выпрацоўвала нават пачуцці і не самыя горшыя: нейкую мяккасць характару (яна, мусіць, была і ад бацькоў, асабліва ад мамы, Валянціны Раманаўны), спагаду да людзей, асабліва бедных, няшчасных, любоў да іх, калі хочаце.

*— Мы тут прыгадалі Вашу Кракоцкую сельскую бібліятэку імя Янкі Купалы — першую ўстанову культуры Беларусі, якой было нададзена імя народнага песняра. Мабыць, і чытаць Вы вучыліся па творах Янкі Купалы і Якуба Коласа?*

— Найперш ведаў творы Якуба Коласа. З трох гадоў я дэкламаваў перад дарослымі «Не сядзіцца ў хаце хлопчыку маломy» (навучыў бацька, відаць таму, што рэаліі верша былі яму, як селяніну, блізкія, родныя, зразумелыя, ды яшчэ вельмі цанілася тое, што паэт пісаў «складно»). Памятаю, як мама ткала кросны, а я, ужо школьнік, чытаў ёй «Новую зямлю». «От, халера, як складно ён піша, як у нас гавораць», — рэзюмавала яна. У душы засталіся самыя светлыя, самыя цёплыя ўспаміны пра паэму Якуба Коласа «Сымон-музыка», якую люблю і дагэтуль. Бо гэта была кніжка, над якой я плакаў. Мне стала бясконца шкада герояў, так горасна, калі Сымон расстаецца з Ганнаю. Слёзы плылі самі. Каровы, праўда, не разумелі, чаго гэта малы пастух плача над нейкаю кніжкаю, хоць яны ўсё бачылі. Было гэта ранічкай каля Ецявічавага агароду (так у нас завуць алешнік каля пашы), вельмі рана, бо сонца яшчэ не ўсходзіла, раса была халодная, як у нас казалі, «аж у зубы заходзіць».

*— У 20–30-х гадах мінулага стагоддзя на Слонімшчыне, у тым ліку ў Кракотцы, Чамярах і ў іншых вёсках, моладзь і школьнікі ставілі спектаклі па п’есах беларускіх драматургаў, глядзець якія прыходзілі сотні людзей. Цікава, ці працягваліся гэтыя самадзейныя тэатральныя традыцыі ў той час, калі Вы былі школьнікам?*

— У школе мы за год ставілі па 4 п’есы — да Новага года, Мая, у верасні, калі пачыналіся заняткі, і да Кастрычніцкіх святаў. Толькі здзіўляюся, калі мы паспявалі. Даводзілася вучыць ролі, а гэта, як ні кажы, развівала памяць. На рэпетыцыі поначы, у страшэннай цемры, хоць вока выкалі, адзін хадзіў з Малой Кракоткі ў Вялікую восенню па гразі. Вось што такое была любоў да спектакляў. Недзе падсвядома наіўна хацелася быць артыстам. Не разумеў, дурань, што гэта не маё.

*— І, як кожны школьнік, мабыць пісалі вершы?*

— Пісаў па-беларуску і па-руску. Вельмі саромеўся, калі аднойчы Алег Антонавіч Лойка над Шчараю прафесійна разабраў іх. Параіў пісаць толькі на роднай мове, бо руская мова не натуральная, з беларусізмамі. А я думаў, што мае рускія вершы лепшыя за беларускія. Яшчэ Алег Антонавіч параіў

ісці на філфак, бо я збіраўся паступаць на гістарычны факультэт. Помню пытаў у мяне, якія раманы Тургенева я ведаю. Я назваў амаль усе. Ён сказаў, што столькі ведае не кожны студэнт. Так я апынуўся на філфаку.

Але найбольш за ўсё я ведаў рускіх народных песень — больш за 100. Асабліва папаўняўся мой песенны рэпертуар, калі ў вёску летам 1954 года правялі радыё (давялося дапамагаць ставіць слупы). Якія цікавыя перадачы былі тады на радыё! Не тое, што цяпер — музыка, шлягеры, шлягеры. Памятаю, як доўга і напружана, мо з паўгадзіны, чакалі мы першую радыёперадачу. Ажно вуха прыкладвалі да прыёмніка, а ён усё не гаварыў. Якая была радасць пачуць: «Гаворыць Мінск»! А якія глыбокія калектыўныя, сямейныя перажыванні-хваляванні нас усіх апаноўвалі, калі, напрыклад, трансліравалі «Навальніцу» А. Астроўскага. Нават мой бацька сказаў пра Кабаніху: «Такую гадасць забіць мала».

Запомніліся песні і рамансы Лемешава, Казлоўскага, Шаляпіна, Бунчыкава, Нячаева, Русланавай, прыпеўкі Мардасавай, сатырычныя рэчы Тарапунькі і Штэпселя, Мірава і Навіцкага, Рыкуніна і іншых, беларускія народныя песні ў выдатным выкананні Ларысы Александроўскай, Варвулёва, Дзянісава, песні хору Пятніцкага, капэлы пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы (пасля давялося нават быць у яго хаце), хору Цітовіча, хору Лапацінай, многіх самадзейных калектываў. Помню, як у мяне малога мурашкі бегалі па спіне, калі хлопцы (чалавек 30) і дзяўчаты (чалавек 20) спявалі ваенныя песні каля плоту ў Малой Кракотцы (пасля вайны моладзі ў вёсцы было шмат), альбо хор звычайных непрафесіяналаў, але з добрымі галасамі. З вёскі Сялявічы ў нашай школе недзе ў 1952 ці ў 1953 годзе спяваў хор Антона Валынчыка на словы Янкі Купалы «Ужо зайшло сонейка». Як грымнулі, дык хацелася плакаць, сэрца выскоквала з грудзей. А цяпер у энцыклапедыі «Беларускі фальклор» Антона Валынчыка не далі нават асобным артыкулам. Хто лепш за яго ведаў наш фальклор? Хіба Шырма, Цітовіч, Мажэйка. Але ж наш Валынчык быў і кампазітарам, ды кампазітарам з вялікай літары.

*— Антон Валынчык, Вы ж ведаеце, быў і кампазітарам, і хармайстрам, і музычным педагогам. У 1964 годзе ён стаў заслужаным дзеячам культуры Беларусі. У свой час кіраваў царкоўнымі хорамі ў Клецку, Навагрудку, Слоніме, Жыровічах, Мінску, Горках. Узначальваў Маладзечанскі абласны ансамбль песні і танца, загадваў кафедрай музыкі і спеваў Гродзенскага тады пединстытута, быў кіраўніком Гродзенскай народнай харавой капэлы настаўнікаў. Ім напісаны песні на словы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Адама Русака, Петруся Броўкі і іншых беларускіх паэтаў. Такога чалавека абмінаць нельга. Дарэчы, спадар Янка, мастацкая самадзейнасць была і ва ўніверсітэце, дзе Вы вучыліся.*

— Была і ёсць. Самадзейнасць я не пакідаў і ў БДУ. Хадзіў у драмгурток універсітэцкі, якім кіраваў Кузьма Львовіч Кулакоў (Рутштэйн), артыст Рускага тэатра, а таксама ў гуртку філфака — драматычны і танцавальны. Іван Якаўлевіч Навуменка неяк сказаў: «Іване, ды Вы яшчэ і падбрыкваеце». З 1956 года спяваў ва ўніверсітэцкім хоры (мастацкім кіраўніком быў Ілья Кліёнак). Калі Кліёнак пайшоў кіраваць хорам Палаца прафсаюзаў,

нашым хорам некалькі месяцаў кіраваў Рыгор Шырма, вялікі прафесіянал, фалькларыст, педагог. Пасля — А. Кагадзееў. Ён, дарэчы, пасля 1960 года на Беларускім радыё зрабіў з нас хор за паўгода. А я думаў: ці будзе спяваць гэты натоўп? Галасы добрыя (прайшлі конкурс на дыктараў), а спяваць не ўмеюць. Ха! Які я быў наіўны! Што значыць прафесіянал сваёй справы. Калі праз год ці паўтара Павел Данілаў, рэжысёр Купалаўскага тэатра, драматург, які кіраваў нашым драмгуртком, аддаў нам на замочку грошы са свае Дзяржаўнае прэміі, у рэстаране на фабрыцы-кухні пасля першай чаркі мы так грымнулі «Степь да степь кругом» у апрацоўцы Свешнікава, што ўвесь рэстаран збегся і толькі пыталі: «Откуда вы, откуда вы? Видимо, какой-то профессиональный хор отмечает какой-то свой юбилей». Дарэчы, з Кліёнкам у 1958 годзе мы ездзілі ў Латвію. У Рызе, у Межу-парку спявалі 11-тысячным студэнцкім хорам гімн студэнтаў на латыні: «Gaudeamus igitur, juvenes dum sumus» (дырыжыраваў намі славуты Густаў Эрнэсакс). Пабачылі ў Сігулдзе (60 км ад Рыгі) іх свята Ліго (наша Купалле). З велізарнай цікавасцю слухаў прыбалтыйскія мужчынскія хары (у іх гэта развіта, а ў нас няма зусім). Захапляўся тады нацыянальнай свядомасцю латышоў: бабкі ў нацыянальных касцюмах вялі за ручку маленькіх унучак таксама ў іх нацыянальных строях…

## Гілевічы

*— І калі нацыянальная свядомасць прыйдзе да ўсіх беларусаў? Сумна ад таго, што Вы расказваеце, і адначасова радасна за нашых суседзяў. Тым не менш, спадар Янка, вернемся да нашай гутаркі. Тут прыгадалася ідэя «Фаўста»: «Толькі той годны жыцця і волі, хто кожны дзень ідзе за іх на бой». Пасля ўніверсітэта Вы яшчэ паступілі ў аспірантуру. Значыць, бой за веды працягваўся. Так?*

— Неяк да нас у Дзяржаўную бібліятэку, дзе я працаваў пасля ўніверсітэта, прыходзіць Ніна Іванаўна Гілевіч. «Дачулася, — кажа, — што тут нейкі хлопец заўсёды гаворыць па-беларуску. Ідзіце да нас, якраз у выдавецтве (цяпер «Вышэйшая школа», а тады Міністэрства сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР) з’явілася вольнае месца — Фадзей Савіцкі ідзе дырэктарам «Навукі і тэхнікі» (быў 1963 год). «Якая там зарплата?» — пытаюся. «83 рублі, але праз год абяцалі павысіць», — сказала Ніна Іванаўна. Я згадзіўся і пайшоў у выдавецтва.

*— Ніна Іванаўна Гілевіч была выдатным чалавекам, выкладала на філфаку ў нас беларускую мову. Яна вельмі любіла, шанавала і паважала хлопцаў-філолагаў, якія пісалі вершы і друкаваліся. Паэты залік у яе здавалі «аўтаматам».*

— А неяк Ніна Іванаўна прыносіць вялікую пласцінку Міхася Забэйды-Суміцкага. Мне так прыпалі да сэрца яго песні, што я выпрасіў у яе адрас спевака. Дасюль маю 9 яго лістоў. Не публікаваліся.

Пасля Ніна Іванаўна пайшла ў аспірантуру. Прыходзіць да нас у снежні і кажа: «План па аспірантуры недавыканалі. Таму адну адзінку далі і філфаку. Дзе мы цяпер будзем шукаць чалавека на перыферыі? Калі?

Прападзе адзінка. Іван Уладзіміравіч, — кажа мне, — паступайце». Ашарашаны такою прапановай, кажу: «Я ж і не думаў пра гэта, не рыхтаваўся». Пайшоў па параду да Алега Лойкі, а той кажа: «Я ўжо ведаю, што ёсць нягласнае распараджэнне двоек не ставіць. Паступай. Калі нават і дысертацыю не напішаш, то за тры гады хоць начытаешся кніг уволю». За ноч прачытаў 700 старонак «Гісторыі КПСС». У галаве — каша. Паступіў.

Аднойчы на кафедры Ніл Гілевіч кажа: «Учора купіў у магазіне «Дружба» два тамы «Люду беларускага» з беларускімі народнымі песнямі Міхала Федароўскага. Хто такі Федароўскі?». Уся прафесура маўчыць. «Іван Уладзіміравіч, — кажа Ніл Сымонавіч, — тамы выйшлі пад рэдакцыяй А. Абрэмбскай-Яблонскай, а яна, ведаю, загадчыца кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта. Паспрабуйце ёй напісаць. Мо яшчэ і за мяжу паедзеце». Пішу. Адказ прыходзіць праз 2–3 тыдні: «Архіў Міхала Федароўскага ў Рукапісным аддзеле бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта, згодна кіраваць вашаю тэмаю». Так я апынуўся ў Польшчы на цэлых 10 месяцаў. Вось якое вялікае месца Гілевічаў у маім лёсе.

## Слова пра беларускі фальклор

*— Некалькі гадоў таму ў Мінску пабачыў свет двухтомнік энцыклапедыі «Беларускі фальклор» — першае ў гісторыі нацыянальнай культуры галіновае навукова-даведачнае выданне, якое асвятляе пытанні духоўнай культуры беларусаў. Выданне адлюстроўвае багацце мастацкай творчасці беларускага народа, разнастайнасць яе відаў і жанраў, створаных паэтычным словам вобразаў. У энцыклапедыі змешчана каля 3 тысяч артыкулаў, прысвечаных абрадам, звычаям, традыцыям і вераванням беларусаў, іх вуснапаэтычнай творчасці, народнаму мастацтву. Значная частка артыкулаў прысвечана фалькларыстычнай навуцы, яе гісторыі, асноўным тэндэнцыям развіцця, а таксама даследчыкам беларускага фальклору, яго збіральнікам і папулярызатарам.*

*Спадар Янка, ці задаволены Вы асабіста, як фалькларыст і даследчык фальклору, выхадам двухтомнай энцыклапедыі «Беларускага фальклору»?*

— Энцыклапедыя «Беларускі фальклор» паказвае, што ў нас самая багатая ў Еўропе вуснапаэтычная творчасць (не будзем разбірацца, чаму). Але, каб праславіць беларусаў на ўвесь свет, неабходна было б ад душы паказаць нашу вуснапаэтычную творчасць грунтоўна і ўсебакова, а не лапідарна і сцісла, як гэта зроблена ў цяперашнім выданні (а была ж сітуацыя, калі гэту энцыклапедыю хацелі прыкрыць альбо выдаць у адным томе). Слоўнік энцыклапедыі «Беларускі фальклор», які я складваў на два тамы, аказаўся не выкананы амаль напалову: ці аўтараў не знайшлі адпаведных, ці проста паленаваліся (рэдактары нават не нюхалі фальклору, не ведаюць ніводнай персаналіі, не ведаюць, да каго звяртацца, каб зрабіць артыкул. І гэта не іх віна, а бяда), ці яшчэ нейкія прычыны. Усё ж энцыклапедыя выйшла. Але гэтага мала!

*— Вы лічыце, што энцыклапедыя «Беларускі фальклор» павінна пабачыць свет не ў двух тамах, а значна больш?*

— У дзесяці тамах, і не менш. Справа ў тым, што многія артыкулы пра розныя фальклорныя жанры без літаратуры, а яна ёсць (рэдактары не змаглі дапамагчы аўтарам). У энцыклапедычных артыкулах гэта вялікі недахоп. Многія артыкулы надрукаваны без прыкладаў-тэкстаў. Чытачу, каб ён паверыў, што ў нас фальклор не абы-які, менавіта яны патрэбны, як паветра, а не тое, што напісаў даследчык. Чытач сам зробіць выснову. І ўсё ж гэта можна было зрабіць. Чытачу ж можна было паказаць у кожным канкрэтным выпадку багацце нашага фальклору, каб ён бачыў, адчуваў яго высокую паэтычнасць, вобразнасць, вымоўнасць слова, адчуваў яго гаворкасць, філасофскую глыбіню, уменне народа выказвацца сцісла, афарыстычна, смачна. Каб чытач не толькі прачытаў артыкул, а ўзяў гэтае слова на зуб, на смак, каб адчуў радасць ад судакранання з высокай паэзіяй мудрасцю народа, яго ўменнем і вобраз ствараць, і слова адпаведнае знайсці, каб выказаць свае думкі і пачуцці.

— *Ды і пісаць ёсць аб чым?..*

— Пісаць ёсць пра што і паказваць што. Толькі патрэбны адпаведныя ўмовы. Скажам, персаналію абмежавалі настолькі, што калі пра таго ці іншага чалавека мала біяграфічных звестак, фактаў, вядомы толькі працы фальклярыста, яго публікацыі, ён ужо ў энцыклапедыі не праходзіць. Тут патрэбен быў больш ашчадны падыход. А то падыход абсалютна няправільны. Успомніце, як у даведніку Л. А. Чарэйскага «Пушкин и его окружение» (Л., 1989, издание второе, дополненное и переработанное) змешчаны артыкулы: «Аграфена — по-видимому, прислуга у Гончаровых в Москве. Упоминается Пушкиным в письме к Н. Н. Гончаровой от начала июня 1830 года». «Богомолов — московский книгопродавец, букинист. Рассказывал И. А. Бунину о встрече и разговоре с Пушкиным». «Марченко Василий — секретарь Попечительского комитета при И. Н. Инзове, титулсоветник. Пушкин мог встречаться с ним в Кишинёве». «Фишер Авраам Матвеевич — врач-акушер Бессарайской управы. Пушкин мог встречаться с ним за обеденным сталом у И. Н. Инзова (Кишинев, 1820–1823)». Вось дзе ашчаднасць!

— *І пра фальклор з Беласточчыны ў двухтомніку амаль няма згадкі…*

— На Беласточчыне пакуль фальклор жыве паўнакроўна. Наладжваюцца фестывалі беларускай песні. Тут выступаюць, дарэчы, добра, прафесійна, выконваючы мясцовы фальклор, розныя гурты. Мы іх у энцыклапедыі фактычна абышлі, не наладзілі з імі або журналістамі «Нівы» ніякага кантакту. А гэта ж беларусы са сваім арыгінальным вуснапаэтычным словам, сваімі абрадамі, святамі, вераваннямі, забабонамі і г. д. Амаль поўнасцю абыдзены і людзі Беласточчыны, якія маюць дачыненні да вуснай народнай творчасці. Скажам, тая ж Людміла Панько, этнамузыколаг, якая да соцень песень, сабраных Міколам Гайдуком, расшыфравала мелодыі з магнітафоннай стужкі. І гэта ж аўтэнтычны фальклор, жывы яшчэ, на шчасце, замацаваны ў людской памяці, выконваемы ў асяроддзі мясцовых сялян. А не такі, як цяпер у нас — апрацаваны, як казаў Рыгор Шырма, з мексіканскімі мелодыямі. Ці псеўдафальклор (такога артыкула ў энцыклапедыі найхутчэй, калі не напіша Уладзімір Конан, не будзе).

Няма ў «Беларускім фальклоры» артыкулаў пра Н. Мушынскую, С. Лукашука, Я. Крупу, Э. Гойліка, Э. Цюкшу, В. Стахвюка, Я. Карповіча, А. Максімюка, пра журналістаў-нарысістаў, якія не раз пісалі пра мясцовы фальклор, фальклорныя фестывалі, мясцовыя святы, абрады — В. Рудчыка, А. Чачугу, М. Лукшу, М. Хмялеўскага, М. Ваўранюка, Я. Целушэцкага, Г. Кандрацюк-Свярубскую і іншых. А на добры толк маглі б быць. Таму, ніколькі не жартуючы кажу, што энцыклапедыю «Беларускі фальклор» трэба было выдаваць у 10 тамах.

*— Калі Вы згадалі Беласточчыну, то ў 1970-х гадах шмат пісаў пра фальклор Міхась Шаховіч…*

— На вялікі жаль, апушчаны (няма каму з мінчан напісаць) артыкул пра памерлага Міхася Шаховіча, які разам з Я. Леанчуком з 1977 года друкаваў у «Ніве» масу артыкулаў пра народную абраднасць (радзінную, сямейную, вясельную, пахавальную) , пра легенды, выпрабаванні, магію, народную медыцыну, метэаралогію, птушак і звяроў, дрэвы, травы, кветкі, фізічныя і псіхічныя рысы чалавека, нябесныя свяцілы. А колькі Міхась Шаховіч — аматар-фальклярыст — надрукаваў запісаных ім на Беласточчыне прыказак і прымавак, загадак, легенд, твораў дзіцячага фальклору, народных гульняў, забаў і інш. Усё гэта трэба было б паказаць шырока, падрабязна. Бо Беласточчына пакуль, як наша Палессе, — вялікі рэзервуар аўтэнтычнага фальклору, хоць старэйшае пакаленне з кожным годам меншае, адыходзіць у іншы свет, забіраючы з сабою і тысячагадовую дасведчанасць, веды, практыкі на зямлі, творы вуснапаэтычнай творчасці з іх непераўзыдзенай паэтыкай і вобразнасцю, з іх гаваркім народным словам.

*— Спадар Янка, калі гаварыць пра фальклор у цэлым, то мне здаецца, у беларусаў ужо ёсць 6 тамоў толькі сабраных вясельных песень, не кажучы пра іншыя жанры…*

— Калі на з’ездзе славістаў даведаліся, што беларусы маюць ужо 6 тамоў вясельных песень, Еўропа літаральна «ўпала». У мяне ёсць 2 тамы пра ўкраінскае вяселле.. Усё (і апісанне абраду) улезла ў 2 тамы. А Е. Раманаў нездарма беларускае вяселле называў своеасаблівай операй. Але дзе вы чулі ў оперы 208 арый (у кнізе «Люд беларускі. Вяселле» (Мінск, 1991), якую я складаў з архіўных матэрыялаў М. Федароўскага ў бібліятэцы Варшаўскага ўніверсітэта, апісанне беларускага вяселля ў Ваўкавыскім павеце ілюструюць 208 народных песень)? Леаніла Малаш, якая складала гэтыя 6 тамоў беларускіх народных песень, не магла адбіцца ад соцень пытанняў даследчыкаў фальклору з розных краін. Не паверылі, дзівакі, што ў нас ёсць такое багацце. Фальклярыстку нават баранілі рускія, украінцы, палякі. А яна ж мае яшчэ 3 тамы вясельных песень, сабраных пазней, якія пакуль не выдадзены. Немцы дакляравалі ёй выдаць гэтыя 3 тамы, хоць абмежаваным тыражом. Каб тамы трапілі ў буйнейшыя бібліятэкі. Пакуль гэта не зроблена. Леаніла Апанасаўна — з 1927 года, яе муж Анатоль Аксамітаў, вядомы наш навуковец і фальклярыст, доктар філалагічных навук, нядаўна памёр. Да яго смерці не стала і іхняга сына. Якая трагедыя. Яна апошнім часам хварэла. Разгарнуцца няма як. Але цяпер спадарыня Малаш крыху ачуняла і рыхтуе для «Бе-

ларускага кнігазбору» том навуковых прац, палявых запісаў Зарыяна Якаўлевіча Даленгі-Хадакоўскага — піянера беларускай, украінскай, польскай фалькларыстыкі, этнаграфіі, дыялекталогіі (пачатак XIX стагоддзя). Украінскія песні ў запісах З. Даленгі-Хадакоўскага выйшлі асобнай кніжкаю. Польскія Леаніла Малаш надрукавала ў часопісе «Lud». Толькі беларускія не выдаваліся. А калі ўсё збярэцца разам, будзе вельмі салідная кніжка. Наш вучоны вырасце ў вачах адукаванай Еўропы яшчэ больш. Як такім не ганарыцца?! І падобных прыкладаў можна прывесці дзясяткі.

## Беларускія прыпеўкі і жарты

— *Ведаю, што і Вы ўсё жыццё запісваеце ад людзей беларускія прыпеўкі, жарты, выразы, анекдоты і гэдак далей, адным словам фрывольны фальклор. Дарэчы, ён у нас слаба даследаваны. Раскажыце пра гэта.*

— Калі ляжаў неяк у бальніцы, у галаву пачаў лезці гэты самы фрывольны фальклор. Я пачаў яго запісваць. Ніл Гілевіч, калі мы сустракаліся на яго кватэры, аднойчы сказаў, што такі фальклор у нас вельмі багаты, але пакуль ніхто яго не выдаваў асобным томам ці тамамі. Некалі ўкраінскі фалькларыст Уладзімір Гнацюк назбіраў украінскага фрывольнага фальклору на некалькі тамоў. Але выдаў 2 тамы па-нямецку. Прапаў увесь цымус.

У 1949 годзе ў роднай вёсцы на вяселлі Адамчыкавага Валіка і Грыцэвічавай Мані я пачуў і запомніў такі тост: «Каб ваш ложак добра скрыпаў і да году сынок выпаў!». Пасля, на вяселлі недзе ў 1980 годзе ў вёсцы Талькаўшчына на Слонімшчыне я за гэты тост выйграў першае месца. Ён заўсёды добра ўспрымаецца вясельнікамі.

Мой дваюрадны брат Сяргей у 1947 годзе, сам яшчэ смаркач, бо з 1939 года, памятаецца, спяваў прыпеўкі:

Пайшоў дзед вальца,
Пайшоў дзед вальца.
Вывернуў капусту,
Апарыў яйца.

Ці пра нейкую Палагею:

Пайшла танцаваць
Наша Палагея:
Спераду барабан,
Ззаду батарэя.

Наш былы старшыня калгаса (ужо памёр), па-вясковаму Мікіцюк, выспеўваў пад мухаю:

Курыца зайца любіла,
Яна яму яйца прышыла.

Калі мой дзед Раман Сцяпанавіч мацюкаўся на бабу Наталлю Антонаўну, то казаў: «Ябіт тваю маць, няхай!». Нечаму абавязкова дадавалася гэта «няхай». А яна абавязкова парыравала: «Сучку!».

Мы, энцыклапедысты, ездзілі ў свой час у калгас на праполку і збор ураджаю капусты, морквы і г. д. Валодзя Сацута ўспамінаў, як там адна з жанчын выказвала сваю адзіноту:

Наварыла, напякла —
Няма каму есці.
Лягла, ногі развяла —
Няма каму лезці.

У архіве Міхала Федароўскага (рукапісны аддзел бібліятэкі Варшаўскага ўніверсітэта) знайшоў такі запіс: «Вясною вол рые рогам зямлю і буіць: «Уебу-у-у, уебу-у-у!». А верабей на плоце: «Чым, чым?!» — «Хуям-м-м! Хуям-м-м!».

Наш зямляк з вёскі Вяценеўка Дзмітрый Супрун пачуў у Жыровічах: «Каб ты ўсраўся на вяселлі» і праклён «Каб тваю хату жабракі абміналі!». На экспромт Грышы (Рыгорам ён стаў пасля) Барадуліна

Памёр Бальзак,
Памёр Уну,
Сумуй, труна,
Па Супруну.

Дзіма адказаў імгненна і, па-мойму, здорава:

Даўно сумую
Па труне,
Ды як тут будзе
Без мяне?

Некалі Рыгор Барадулін пад псеўданімам Алесь Чабор надрукаваў у «ЛіМе» (1963. № 84) такую пародыю на Алега Лойку (Лойка, праўда, думаў, што аўтар — Пятрусь Макаль):

З БДУ выходзяць у людзі,
Расце ў СП кандыдатаў праслойка.
Калі зусім на рыфмы забудзе,
Дык акадэмікам стане Лойка.

Якубу Коласу прыпісваюць словы, што найчасцей кажуць на вяселлях. Алег Лойка сцвярджае, праўда, што гэта мо народныя словы з Мікалаеўшчыны:

Душа ў гарэлцы меру знае,
І лішку не бярэ ніколі —
Як ракам стаў,
Дык і даволі…

Эпітафія на Грызель Грым Роберта Бёрнса ў перакладзе Язэпа Семяжона:

Спыніся, падарожны пілігрым,
Глядзі, якая д'ябальская ў смерці сіла,
Што нават гэту грыжу, Грызель Грым,
Загрызла і зубоў не пакрышыла.

І яшчэ адна з Роберта Бёрнса ў перакладзе таго самага Семяжона:

З такой укормленасцю твару
Вам быць бы шыльдай пры тавары,
Дзе надпіс гэтакі прыблізна:
Свіныя вушы, лыч і галавізна.

Пачуў ад Анатоля Валахановіча:

Вось і вер пасля гэтага людзям.
Я яму аддалась пры луне.
Ён узяў мае белыя грудзі
І вузлом завязаў на спіне.

І яшчэ ад Валахановіча:

Мяне мілы тузаў, тузаў,
Думаў, што я без рэйтузаў.
— Дурань ты, не рві штаны,
Гузік з левай стараны!

Бацька мой казаў пра надта вузкі загон зямлі: «Станеш сцаць — на чужое ляціць!». А на карову, якая залезла ў агарод, крычаў: «Вылазь, падло, каб табе моль голаў аб'еў!» Дурны смех мяне аж душыў, калі ўявіў карову з голай галавой — толькі рогі і чэрап, аб'едзеная моллю галава.

Памятаю, адзін раз зайшоў да Алега Лойкі. Туды заходзіць якраз Уладзімір Караткевіч. Ён так цікава заўсёды расказваў, нібы пісаў. Апавядаў пра адзін заходнебеларускі каляндар, дзе былі партрэты беларускіх паслоў і грамадскіх дзеячаў з рознымі подпісамі. Янку Станкевічу далі подпіс: «Не прымкнуў ні да якога клюбу». Калі мне тут жа падпісваў сваю «Матчыну душу» Уладзімір Караткевіч, напісаў: «Ад аўтара, які не прымкнуў ні да якога клюбу».

Люблю лавіць яркія, гаваркія словы, фразеалагізмы — асаблівасці любой мовы. Ну скажы, у каго ты сустракаў слова «аб'я́сніць»? Я ў рукапісе Янкі Купалы ў яго музеі трапіў на такі радок: «Няхай цябе аб'ясніць розум ясны». Здорава, праўда! Бацька некалі казаў: «Мёрзлая зямля заскалела» (стала цвёрдаю, як скала). Ён успамінаў аднаго жыхара Кракоткі, які еў блінцы: сем мазаных, сем німазаных, сем сухама — збольшага перакусіў. І яшчэ чуў: маленькі хлопчык, не проста хлапчаня, а хлапчачок, не зладзейчык, а зладзяйчук. Тоўсты чалавек — паўтарак, раскалі — два будзе.

Цётка Надзя ў Слоніме казала: «Нейкія гэтыя картоплі патруляшалі». У вёсцы маёй мовілі: сучка маленька, нізенька, як слончык на чатырох ножках. Пачуў ад бацькі таксама: ідзе нага за нагу, як назаўтра; е што гаварыць, ды німа чаго слухаць; з носа кап, ды ў рот хап; здохлік (той, хто кепска есць); трыбухлей (з вялікім жыватом); ужэ наш суп у сватэ збіраецца (пачаў кіснуць). Пачуў ад маці: «Мыслаўскі ты пярдзідуда!»

На вяселлі ў Салігорскім раёне казалі: «Дару вам кляновы ліст, каб першы сын быў трактарыст, гарманіст, праграміст ці яшчэ нейкі іст». Фёдар Янкоўскі некалі згадваў: «З мядком і цвік праглынеш»… Як бачыш, Сяргей, наплёў табе кучу і горбу, мех і торбу.

## Беларускі дзіцячы фальклор

— *Спадар Янка, Вы даследавалі беларускі дзіцячы фальклор — гэты дзіўны феномен беларускай традыцыйнай культуры. Але ён таксама не выдадзены асобнымі выданнямі так, як ён таго заслугоўвае. Том «Дзіцячы фальклор» (1972), які выйшаў у серыі «Беларуская народная творчасць», не ахапіў шмат тэкстаў, асабліва варыянтаў з многіх рэгіёнаў Беларусі. Зразумела, што адзін том і ёсць адзін. Хаця дзіцячы фальклор у нас багацейшы, чым у суседзяў, хоць рускія і ўкраінцы таксама нараджалі дзяцей, гадавалі іх, мусілі ім нешта співаць, расказваць. А падросшы, дзеці самі нешта прыдумвалі, асабліва ў гульнях (жмуркі, гульня «ў ножыка», «у каменьчыка», у лапту і г. д.). лічылках (каб выбраць вядучага), загадках, пасля ў жанры страшылак, якія цяпер вельмі папулярныя, скажам, у рускіх (мо пад уплывам фільмаў жахаў). Што вы можаце сказаць і расказаць, як даследчык фальклору, пра нашу вуснапаэтычную творчасць для дзяцей?*

— Калі гаварыць пра нашу вуснапаэтычную творчасць для дзяцей і створанае самімі дзецьмі, бачым, колькі ў нас яшчэ не сабрана, колькі не апублікавана. З дзяцінства памятаю, як мама нам спявала:

Цілі-бом, цілі-бом,
Загарэўся кошчын дом.
Бяжыць курачка з вядром,
Залівае кошчын дом.

Дзіцячая фантазія адразу малявала і гэту кошку (шкада яе было), і яе пышны дом, і пажар, і курачку з вядром, якая яго тушыць. Ці ёсць гэты тэкст у томе «Дзіцячы фальклор»? Па-мойму, няма.

А вось непрыстойныя тэксты. Іх увогуле саромеліся друкаваць. Але ж яны ёсць. З маленства помніцца:

— Кажы: «І я!».
Пайду я ў лес.
— І я!
Ссяку сасну.
— І я!
Зраблю карытцо.

— І я!
Насяру ў карытцо.
— І я!
Свінні будуць есці.
— Э-э, дурная, сама еш!

Ці такое, якім спынялі, падмацоўвалі малых, якія надта ўжо прычэпліваліся, каб ім расказвалі казку:

— Расказаць казку?
— Раскажы, раскажы.
— Насраў кот у вязку,
Нёс, нёс каля калёс
І — тыц табе пад нос.

Усе прыклады, якія я тут прыводжу і буду прыводзіць, з галавы, з нашае Слонімшчыны, з мае Малое Кракоткі, ад маці і ад бабы Наталлі.

— *Давайце пачнём з калыханак.*

— Давай з калыханак — раздзеле пазаабрадавай бытавой лірыкі. У нас многа варыянтаў (гэта ж адна са спецыфічных асаблівасцей фальклору), менавіта варыянтаў, вядомых па ўсёй Беларусі песенек. Прывяду некалькі прыкладаў гэтых даступных зместам і формаю, наіўнай займальнасцю, выразнасцю паэтычнага малюнка, прастатой кампазіцыі, абавязковай рыфмай — каб «складно было». А як яны развівалі дзіцячую фантазію, як спрыяюць мысленню вобразамі:

Люлі, люлі, люлі,
Прыляцелі куры.
Селі на варотах,
У чырвоных ботах.
Куры пазляталі,
Боты паспадалі.

* * *

Люлі, люлі, люлі,
Пайшоў кот па дулі,
Памарозіў лапкі,
Скочыў на палаткі.
Сталі лапкі грэцца,
Німа дзе катку дзецца.

Як пасля такога не будзе ажыўляцца і працаваць дзіцячае ўяўленне?! Дарэчы, кот, і гэта ўсім вядома, — самы любімы персанаж нашых калыханак. Гэта і зразумела, ён быў у кожнай хаце, праз яго найперш малыя знаёміліся з жывёльным светам. Чаго толькі не прасілі ў ката ў калыханках

(успомні цудоўную і па мелодыі калыханку Міхася Забэйды-Суміцкага) — укласці малога ў люльку, пазабаўляць яго. Каб хутчэй заснуў, прынесці паясок, пайсці на таржок, каб купіць малому піражок, на вулку, каб купіць булку і г. д.

А гайчуканкі? У нас гайчукаць — падкідаць дзіця на калене, каб не плакала, гуляць з ім. Некалі мая баба Наталля спявала нам такую гайчуканку:

Гоп, гоп, гопа-па,
Чорна срака у папа,
А ў папіхі белая, —
Ён за ёю бегая.

Я даў фалькларыстам гэты тэкст. Яны надрукавалі яго ў томе «Дзіцячы фальклор», але адрэдагавалі: сраку замянілі на морду.

Успомнілася і такая гайчуканка:

Гоп, камень-валун,
За каменем горка.
Пасеяла буракі,
А вырасла моркаў.

Малое само пачынае думаць і ўяўляць: як так, пасеяла буракі, а вырасла морква. Відаць, недарэка пераблытала насенне. Што яна, не бачыла, што сее? Ці што?!

А вось гульні з пальчыкамі, ножкамі малышні, прыгаворкі-забаўлянкі пра іх. Іх тысячы:

Кую, кую ножку,
Паеду ў дарожку.
Дарожка крывенька,
Кабылка сляпенька.
Жарэбятко пад мосцік,
А Вася цап-царап яго за хвосцік.

* * *

— Ладу, ладу, ладкі.
Дзе былі?
— У бабкі.
— Што рабілі?
— Муку малолі.
— Дзе падзелі?
— Мышкі з’елі.
— Куды панеслі?
— Сюды, сюды, сюды (у рукаў).

Па-мойму, такія варыянты, калі не мыляюся, у нашых фалькларыстаў, у хрэстаматыях не трапляліся. Ці забаўлянкі пра казу рагатую:

Ішла каза рагатая,
Барола дзіця пузатае,
Калі, калі, калі…

(Двума пальцамі паказвае малому, як каза барола яго ў жывоцік.)

Ці наша «Сарока-варона». Па-мойму, нашы варыянты арыгінальныя. Мяркуй сам:

Сарока-варона
Дзеткам кашку варыла.
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала.
А гэтаму чык —
Галоўку адцяла.

* * *

Сарока-варона
Дзеткам кашку варыла.
После ўсіх лічыла.
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Гэтаму дала,
Чацвёртаму дала.
А гэты малы гультай:
Круп ні драў,
Хлеба ні мясіў,
Вады ні насіў.
Яму кашка на паліцы,
У чарапіцы.

— *Адным з жанраў дзіцячага фальклору з'яўляюцца лічылкі. Даволі папулярныя былі ў маё маленства, ды і зараз.*

— Лічылкі вельмі простыя па змесце і форме, часам нават без усялякага сэнсу, абы складна было:

Анцы, цванцы,
Трычы, рычы,
Эны, бэны,
Мэны-вэк.

* * *

Кацілася торба
З высокага горба.
А ў той торбі
Хлеб, пшаніца.
З кім ты хочаш
Падзяліцца?

* * *

Міхась, Сцяпан,
Падай стакан.
Падай лімон,
Выходзь вон.

Ёсць яшчэ заклічкі, прыгаворкі. Нашых варыянтаў, па-мойму, у друку не было:

Дожджык, дожджык,
Секані.
Я паеду на кані.
Богу маліцца,
Хрысту хрысціцца.

* * *

Дожджык, дожджык,
Перастань.
Я паеду на Растань.
Богу маліцца,
Хрысту хрысціцца.

* * *

Ядзерка, ядзерка*,
Паляці на неба,
Прынясі нам хлеба.

Песенька, ці лепш прыпеўка, пра бусла, якую спрацаваў некалі наш слонімскі паэт Кандрат Лейка:

---

* Божая кароўка.

Бусел, бусел, клекатун,
Узяў бабу за каўтун.
Валачыў, валачыў,
Ды ў карыце намачыў.

*— А ў Кандрата Лейкі верш гучыць так, напісаны ажно ў 1883 годзе:*

*Бусел, бусел, галяндач,*
*Пайшоў жыта аглядаць.*
*Яшчэ жыта зеляно,*
*Буслу ногу адняло,*
*Скача бусел на кію,*
*Кляне доленьку сваю.*

*Дарэчы, акрамя прыпевак беларускі дзіцячы фальклор багаты на загадкі. У 1989 годзе Вы склалі і выдалі цэлую кніжку беларускіх загадак.*

— Да вайны на Палессі ад 16-гадовай дзяўчынкі руская фальклярыстка Рыбакова запісала больш за 100 загадак. Яны ў том «Беларускай народнай творчасці» не ўвайшлі. У нас іх безліч. Вось некалькі. «Загану загадку — вымі з сракі ягадку, абліжы і зноў улажы» (лыжка і міска). «Дзед на бабі рыпаў, рыпаў, пакуль з яе кіндзюк выпаў» (баба і журавель у калодзежы). «Авечка ў карові» (нага ў шкарпэтцы з авечай воўны ў чаравіку, які зроблены са шкуры каровы). Ці многа такіх у кніжках фальклору?

*— А скорагаворкі?*

— Гэта ж скарб для любога лагапеда (беларускамоўнага найхутчэй не знойдзеш). Паспрабуй сказаць, вымавіць спалучэнне нялёгкіх літар ці складоў хутка, каб не зблытацца. Напрыклад, «дзе цётчынаму дзядзьку дзецца?». Дарэчы, я сам гэта прыдумаў. Па-мойму, у чытанні для дзяцей іх трэба ўключыць паболей. Ці многа іх выдавалася асобнымі кніжкамі? Я ведаю толькі пакуль сваю кніжку «Мама мышка сушыла шышкі». У такія чытанкі, відаць, трэба ўключаць і аўтарскія творы. Многія нашы паэты спрабуюць іх пісаць. Гэта ж гульня са словам, выпрабаванне яго эўфанічных магчымасцей.

*— Цяпер сталі папулярнымі страшылкі. Рускія нават пішуць пра іх навуковыя даследаванні.*

— Я да іх адношуся неяк кансерватыўна. Лічу, што яны нічому добраму дзяцей не навучаць. Але дзеці любяць страшылкі. Асабліва сучасныя. Калі я чытаў лекцыі па беларускаму фальклору (1988–1997), прасіў студэнтаў даваць мне праклёны і страшылкі. І быў здзіўлены, калі адна студэнтка-мінчанка, якая працавала ў дзіцячым садку, дала мне тэксты на беларускай мове. Ну, ці не цікавая сваёй незвычайнасцю такая страшылка (а можа, проста гумарэска):

Дзедка старэнькі
Пайшоў у лясок,
Дзедка старэнькі

Прысеў на пянёк.
Выбух!
Доўга над лесам
Ляталі штаны —
Гэта праклятае
Рэха вайны.

Каб спыніць тых малых, якія разышліся не на жарты, у нас казалі:

Мышка здохла,
Хвост аблез.
Хто прамовіць,
Той і з’есць.

Ніхто не хацеў есці здохлую мыш, таму адразу замаўкалі. Або вось як абыгрывалася імя Ліда. Колькі тут гумару. Праўда, хто меў такое імя, крыўдзіліся:

Ліда-гніда,
Вош пузата,
Выйшла замуж
За салдата.
А пасля і за матроса,
Што падмазываў калёса.

Мяне заўсёды расчульвалі песенькі ў казках. Яны нейкія вельмі сентыментальныя, быццам разлічаны, каб малое пашкадавала персанажаў, што трапілі ў бяду. Вось як жаласна пеўнік, якога ліса схапіла, абдурыўшы, просіць катка:

Коце, браце,
Мяне ліска нясе
У высокія горы,
У глыбокія норы.
Па барах, па каменні,
Па ўсялякім зеллі.
Ратуй, братка, мяне,
Адбяры мяне ў яе.

У казцы каза просіцца ў сваіх казлянят, каб адчынілі:

Дзетачкі, казлятачкі,
Я ваша мама.
Чуць дадому прыйшла,
Малачка прынясла.
Поўны цыцы малачыцы.

Слухаючы казку, перачытваючы за персанажаў, малая ўнучка з вочкамі, поўнымі слёз, прыціскаецца да цябе, ёй страшна, яна іх шкадуе, гатовая вось-вось заплакаць.

Цепяху, лепяху,
Сем вёрст па маху.
Плыве па балоце змей.

Малая перажывае, што гэтая пачвара можа паесці галоўных герояў, якія робяць дабро людзям. Думаю, што тут болей спагаднасці, дабрыні, светлых пачуццяў, чым у рускіх страшылках:

Маленький мальчик
Нашёл пулемёт,
Больше в деревне
Никто не живёт.

* * *

Мальчик на кухне
Варил холодец,
Рядом валялся
Безногий отец.

Ну, скажы праўду, чаму могуць навучыць такія «творы»? Думаю, што нічому добраму і гуманнаму. Не так сабе на радзінах беларусы жадаюць немаўляці тры долі ўзяці: хлебавую, салявую, здаровейкую. Толькі калі змалку ў душу дзіцяці будзе закладзена тое, што вучыць яго добраму, светламу, спагаднаму, у будучым народзіць Чалавека, народзіць тую асобу, якая будзе думаць не толькі пра сябе, а і пра іншых. Усяму гэтаму выдатна вучыць наш дзіцячы фальклор. Таму і кажу, што лепшыя ўзоры трэба збіраць, друкаваць, каб выхаванне маладога пакалення ішло на высокім педагагічным узроўні, каб яно расло здаровае, вясёлае, радаснае, каб любіла бацькоў сваіх, суседзяў, усіх добрых людзей, каб думала, як не перашкаджаць жыць іншым, як дапамагаць слабейшым, як шкадаваць усё жывое на зямлі.

## Пра кнігі і календары

— *Спадар Янка, ведаю, што Вы ўсё жыццё з'яўляецеся заядлым бібліяфілам. Калі гэта не сакрэт, якія каштоўныя і арыгінальныя кнігі Вы маеце ў сваёй асабістай хатняй бібліятэцы?*

— Ці варта хваліцца? Але табе па сакрэту раскажу, што ў мяне найцікавейшага ёсць. Па-першае, гэта зборнік Гальяша Леўчыка «Чыжык беларускі» (1912), тры тамы «Матэрыялаў…» П. Шэйна (1887–1893), том «Смаленскага этнаграфічнага зборніка» У. Дабравольскага (1891),

зборнік А. Сержпутоўскага «Сказки и рассказы белорусов-полешуков» (1911), 8 тамоў «Люду беларускага» М. Федароўскага (1897–1981), камплекты часопісаў «Kwartalnik Litewski», «Калосьсе», газет «Наша Ніва» (1906–1915), «Гоман» (1916–1918), «Беларускі голас» (Таронта), часопіса «Полымя» за 1945–1955 гады. «Полымя» мой вясковец Аляксандр Іванавіч Жыткевіч хацеў выкінуць у касцёр, а я забраў. Маю таксама кнігі «Zoologica» Юндзіла (1807, 1827), «Piosnki wiesniacze znad Niemna i Dzwiny» Яна Чачота (1846), «Opisanie powiatu Borysowskiego» Я. Тышкевіча (1847), «Sztuka u slowian» Ю. Крашэўскага, «Dzieje Litwy» К. Скірмунта (1886), «Apawiadannia i lehendy wiersam» (1914), «Dudka biełaruskaja» М. Бурачка (1914), «Памятная книжка Виленского генерал-губернатарства на 1868 год» (1868), «Программы для собирания особенностей народных говоров» Я. Карскага (1897), «Щорсовская библиотека графа Литавора Хрептовича» С. Пташыцкага (1899), «Беларусы», т. 1 Я. Карскага (1904), «Беларускія народныя песні» С. Малевіча (1907), якія падараваў мне некалі Мікола Лобан, «А хто там ідзе?» Янкі Купалы з нотамі (1909), «Обзор новейшей русской истории» М. Доўнар-Запольскага (1912), «Материалы по этнографии Гродненской губернии» Е. Раманава (т. 1–2, 1911–1912), «Вянок» Максіма Багдановіча (1913, 1927), «Движение белорусов к национальному возрождению» А. Навіны (1914), «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» М. Доўнар-Запольскага (1919), «Дзіцячыя гульні» Л. Чарняўскай (1919), «Расейска-беларускі слоўнік» М. і Г. Гарэцкіх (1920), «Беларусь» Л. Родзевіча (1922), «Хрэстаматыя беларускай літаратуры» М. Гарэцкага (1923), «Малочная карова» Я. Пачопкі (1923), «Навука спеву» А. Грыневіча (1923), «Апавяданні» Адама Бабарэкі (1925), «Якуб Колас у літаратурнай крытыцы» (1926), «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі» В. Ластоўскага (1926), «Снапок» А. Паўловіча (1927), «Па рэвізіі» М. Крапіўніцкага, «Модны шляхцюк» К. Каганца (1928), «Рунь веснаходу» (1928), «Беларускі спеўнік з нотамі» (1929), «З роднага загону» А. Зязюлі (1931), «Лясныя хаткі» В. Біянкі (1931, пераклад Зоські Верас), «Наша песня» Р. Шырмы (1938) і іншыя.

*— О, Ваш кнігазбор можна параўнаць хіба што з кнігазборамі Масальскіх у Белічанах, Оштарпаў у Дукорах, Слізняў у Новых Дзявяткавічах, Пуслоўскіх у Песках і ў Альбярціне, Храптовічаў у Шчорсах. Але акрамя кніг, Вы усё жыццё калекцыянуеце беларускія календары. Якія цікавыя календары маеце ў сваёй калекцыі? І ці не пара напісаць і выдаць добрую кніжку пра беларускія календары?*

— Я маю вельмі шмат матэрыялаў па календарах. Можна напісаць вартую кніжку. Але ўсюды, як казалі ў нас дома, не ўскураеш. Калі Бог і лёс мне жыцця адпусціць, я такую кніжку напішу. Артыкулы мае пра календары ўжо былі змешчаны ў некаторых энцыклапедыях Беларусі з ілюстрацыямі, наколькі іх можна было ілюстраваць. Маю здымкі такіх календароў, як «Kalendarz polski, y ruski» (Супрасль, 1714), «Гаспадарчы каляндар» (Гродна, 1780), «Kalendarz białoruski na rok pański» (Магілёў, 1793), «Kalendarz polityczy Połocki na rok pański 1802», «Календарь Се-

веро-Западного края на 1890 год» пад рэдакцыяй М. Доўнар-Запольскага (Масква), «Северо-Западный календарь на 1893 год» пад рэдакцыяй А. Слупскага (Менск).

У сваёй хатняй бібліятэцы маю календары-кніжкі «Нашай Нівы» на 1910, 1911, 1913 гады. Ёсць насценны каляндар «Нашай Нівы» на 1913 год, каляндар «Заранка» (Мінск, 1919), «Bielaruski kalendar Swajak na 1919 hod», «Bielaruski kalendar Krynica na 1920 hod». Маю заходнебеларускія календары на 1924, 1929, 1932 гады, каляндар Сахарава (Рыга) на 1937 год. Ёсць усе беластоцкія беларускія календары ад 1957 года. Маю беларускі праваслаўны каляндар на 1968 год, мінскія календары на 1974, 1976 гады, каляндар «Янка Купала і Якуб Колас», выдадзены да іх 100-годдзя з дня нараджэння ў 1982 годзе, шыкоўны каляндар «Шляхам Францыска Скарыны» (1990), увесь адрыўны каляндар «Родны край» з 1990 года, беларускі каляндар на 1991–1993 гады (выданні «Беларускай энцыклапедыі», пасля 1993 года захлынуўся). Маю ксеракопію вельмі цікавага артыкула А. Мілавідава «Русский календарь в Северо-Западном крае, его историческое значение» (Вільня, 1908). З адрыўных беларускіх календароў ёсць толькі адзін на 1939 год, які ты мне, Сяргей, падараваў.

## Алег Лойка і сябры

— *Шмат кніг і календароў у Вашу калекцыю трапілі ад знаёмых, сяброў, калег па працы. З кім Вы сябруеце і сябравалі ўсё жыццё? Ці ёсць у Вас сябры, пра якіх можна сказаць, што вас вадою не разальеш, ці вас вада не размые, ці вашы прыязні сам чорт не разарве?*

— Самым дарагім, самым лепшым маім сябрам, з якім ішлі поплеч болей за 50 гадоў быў прафесар, доктар філалагічных навук, выдатны беларускі паэт і празаік, перакладчык, крытык, літаратуразнавец, Чалавек з вялікай літары, слонімец ад нараджэння, улюбёны ў свой горад, — Алег Антонавіч Лойка. Усе думалі, што мы сваякі. Але ж гэта не так. Мой дзед Лявонь (па-мясцоваму Левась) быў чыгуначнікам. Лёс занёс яго ажно ў Іркуцк. Калі пачалася ў 1914 годзе Першая сусветная вайна, баба Зося (1880–1929), забраўшы дзяцей на воз, падалася таксама туды. Неяк даехалі. Быў там дзед па бабе (значыць, мой прадзед, які там, у Іркуцку, і памёр), мой бацька (1909–1987), яго сёстры Надзя (1908–1987) і Вольга (1902–1982). Там у 1916 годзе нарадзіўся мой дзядзька Сяргей (працаваў на чыгунцы ў Баранавічах, але калі яму паведамілі, што ім цікавіцца НКУС, уцёк у Польшчу). Дзядзька добра ведаў польскую мову, жыў у Кашалінскім ваяводстве. Я некалькі разоў гасціў у яго. Цяпер ён ужо памёр.

Прадзед бачыў у Іркуцку, што там, калі хаваюць нябожчыкаў, у магіле паяўляецца вада. Паказваў, што хоча памерці ў сухой зямлі, у Беларусі. Добра памятаю, як жыхар нашай Малой Кракоткі Ігнат Данілавіч Мічуда расказваў, што калі быў яшчэ падлеткам, бачыў, як наш нямко страшэнна плакаў над жарабіцаю, якую забіў на пашы гром. Мусіць, любіў гэту кабылу па-свойму, бо не толькі плакаў, а абдымаў яе. Відаць, ведаў, што такое конь у гаспадарцы селяніна.

У 1921 годзе дзед Лявонь дастаў ад уладаў цэлы вагон і вяртаўся з сям'ёй дахаты ў Беларусь, якая была ўжо пад Польшчаю. На вакзале ў Іркуцку заўважылі, што па пероне ходзіць малады чалавек з чамаданчыкам і водзіць за ручку дзяўчынку (аказалася, што гэта быў бацька Алега, Антон Цімафеевіч Лойка з-пад Дзярэчына, які прасіўся ў Беларусь, а дзяўчынкай была яго родная сястра Марыся, Алегава цётка). У кнізе «Дрэва жыцця» Алег Лойка пра гэта напісаў падрабязней. Мой дзед Лявонь узяў Антона Цімафеевіча ў свой вагон.

*— Расказваў і мне пра гэты выпадак Алег Лойка. Ягонаму бацьку тады было 20 гадоў, а сястры — 13. Эшалон ішоў за эшалонам, але ніхто не браў гэтых сірат, што прасіліся ў Беларусь на Зэльвеншчыну. Ды, на шчасце, знайшоўся з Гродзеншчыны чалавек, які на свае харчы, у свой вагон-цялятнік узяў двух сірат з Крывіч. «Быў гэта бацька цёткі Надзі — Лявон Саламевіч з Кракоткі. Шлях быў далёкі з Іркуцка да Зэльвы. Пасястрыніліся, пабраталіся — мой бацька Антон з сынам Лявона Валодзем, аднагодкі-дзяўчаткі Надзя і Маруся», — часта згадваў мне пры сустрэчы Алег Антонавіч.*

— Алег Лойка мне больш за іншых дапамагаў. Спрабаваў вучыць пісаць рэцэнзіі, хоць іх не друкавалі. Дапамагаў разбірацца ў літаратуры. Як аспірантам, мною афіцыйна кіраваў загадчык кафедры беларускай літаратуры філфака БДУ Міхась Рыгоравіч Ларчанка. Але трэба ўжо нарэшце прызнацца, што ён нават не прачытаў маёй работы. Алег жа чытаў, правіў, крэсліў, падказваў, што і як лепш рабіць, як пісаць навуковую працу. Калі на абароне ў траўні 1971 года я сказаў у заключным слове, што ў мяне было два кіраўнікі — Міхась Ларчанка і Алег Лойка, Ларчанка нават пакрыўдзіўся, бо круціў носам. На банкет, праўда, прыйшоў.

Алег Лойка цяпер вярнуўся і жыў у родным Слоніме. Калі ён застаўся без правай нагі — я страшэнна за яго перажываў. А перажываў таму, што ён мне быў як брат, як мудры настаўнік, лепшы друг. Яго бацька Антон Цімафеевіч быў вельмі задаволены, што мы з Алегам сябруем. Алегава маці Марыя Іванаўна была маёй матулькаю-хроснаю, трымала мяне малога ў Альбярціне да Хрыста. Бацькі былі бедныя, поп і ксёндз бралі за хрышчэнне болей, дык яны, толькі каб дзіця было ахрышчана, аддалі мяне-малечу ў рукі ўніяту. У мяне ёсць метрыка майго хрышчэння ў Альбярціне, падпісаная кім ты думаў… самім Антонам Неманцэвічам.

*— Няўжо? Вось гэта навіна. Антон Неманцэвіч — выдатны беларускі ўніяцкі царкоўны дзеяч. У свой час скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю і Петраградскую каталіцкую духоўную акадэмію. З 1929 года быў сябрам ордэна езуітаў, прыняў усходні грэка-каталіцкі абрад і прыехаў у Слонім у Альбярцін, дзе быў настаяцелем грэка-каталіцкай царквы, а з 1933 года — у Сынковічах. Выдаваў і рэдагаваў часопіс «Да злучэньня». Многія слонімцы да сённяшніх дзён яго памятаюць. Але вернемся да Алега Антонавіча Лойкі.*

— Колькі мы, калі я жыў блізка ад Алега, на вуліцы Янкі Маўра ў Мінску, перагаварылі, гуляючы кожны вечар па дарожцы ў дварах. А колькі гарэлкі выпілі! Я даў нават назву аднаму з яго зборнікаў вершаў «Дзівасіл».

У мяне ўсе яго кнігі з аўтографамі. А гэта ні мала ні многа — 101! Калі я выдаў манаграфію пра Міхала Федароўскага, падпісаў яе цётцы Надзі, старэйшай бацькавай сястры, у чыёй хаце на Цагельнай вуліцы ў Слоніме яе напісаў, падпісаў матульцы, якая сказала, што гэта пасля Алегавых кніг для яе самы дарагі падарунак, Алегу і Лілі, натуральна, былі падпісаны самыя першыя экзэмпляры. Так што Алег Лойка — мой самы дарагі, самы сардэчны, самы разумны, шчыры, самы вялікі сябар застаўся на ўсё жыццё. Яго я любіў больш за ўсіх на свеце! Ён быў маім настаўнікам, маім аднадумцам, кумірам, маім вечным захапленнем! На вялікі жаль — быў…

— *Ведаю, што Вы шчыра сябруеце і з Віктарам Чабаненкам — прафесарам з Запарожжа…*

— Гэта сапраўды так. Я перапісваюся з ім фактычна ўсё свядомае жыццё — з 1968 года, калі ён быў у нас у Мінску на адной навуковай канферэнцыі, дзе мы пазнаёміліся. Я лётаў да яго ў Запарожжа ў 1980 годзе. Ён паказаў мне Днепрагэс, Хорціцу, востраў, дзе жыло казацкае войска, звадзіў ва ўкраінскі тэатр. А жонка яго частавала мяне сапраўдным украінскім баршчом (з гесем і каб лыжка стаяла ў місе). Меў гутаркі з яго бацькам, які ў 1933 годзе перажыў голад на Украіне, бо вакол стаялі кардоны войскаў НКУС і выйсці куды-небудзь было немагчыма. Здыхайце дома! Расказваў жахі, як у сваім сяле (цяпер яно затоплена Запарожскім морам) іх 5 маладых хлопцаў хавалі мёртвых. Гутарыў і з маці Віктара. Аднойчы мой сябра пажартаваў: «Янка, давай сфатаграфуемся каля мае кніжнае паліцы. Мо я, чым чорт не жартуе, стану прафесарам». — «Абавязкова станеш», — сказаў я сябру. І ён ім стаў. Быў дэканам філфака Запарожскага ўніверсітэта болей за 10 гадоў. У бібліяграфіі да 60-годдзя В. А. Чабаненкі болей за 600 публікацый, а цяпер каля 1000. Закруціць яму ў галаве, лекцыю па параўнальным мовазнаўстве чытае па-беларуску. На перапынку студэнты пытаюцца: «Віктар Антонавіч, адкуль Вы ведаеце беларускую мову?» — «То я ж білорус», — жартуе прафесар, украінец з дзядоў-прадзедаў. Калі ў Запарожжы стваралі беларускую суполку, адзіны, хто на сходзе выступіў на чыстай беларускай літаратурнай мове, быў прафесар Віктар Чабаненка. У яго на паліцах стаяць творы Купалы і Коласа, Брыля і Быкава, Пташнікава і Адамчыка, Сачанкі і Лойкі, Максіма Багдановіча (як ён яго выдатна пераклаў па-ўкраінску) і Барадуліна, Цёткі і Гілевіча, Макаля і Сіпакова і іншых беларускіх літаратараў. Так што нашае сяброўства (ад яго ў мяне некалькі паліц украінскай літаратуры) не гасне ўжо каля 40 гадоў.

Яшчэ адзін мой сардэчны сябар жыве ў Чэрвені. Гэта Яўген Антонавіч Несцяровіч, мой аднакурснік, былы выдатны, нават скажу — ад Бога, настаўнік (пакінуў выкладаць з-за інфаркту), які мяне некалі жаніў, а пасля я быў на і на яго вяселлі. У сям'і гэтага сябра заўсёды адпачываю душою, такія добрыя ён і яго жонка Шура людзі! Калі быў нядаўна ў іх гасцях у Чэрвені, на дачы за багатым сталом жанчыны павялі гаворку пра тое, чаму мы такія дружныя, сардэчныя, добрыя, таварыскія, нават добрасардэчныя. Я ім патлумачыў: «Усё гэта ад таго, што мы з вамі з

вялікіх сялянскіх сем'яў, ведаем, што такое голад, што такое не мець абутку, касцюма ў маладосці, калі хочацца апрануцца як найлепш, а няма ў што, калі хочацца перад дзяўчатамі выглядаць у новых чаравіках, а на нагах лапці ці чуні. Я на ўсё жыццё запомніў сялянскую без гучных слоў педагогіку і буду помніць яе да скону: маці падала на стол вялізную патэльню са скваркамі (сама мо была і галоднаю), усе кінуліся, каб схапіць найбольшую, бацька падняў лыжку, усе ад патэльні адхіснуліся, ён не сабе ўзяў самую большую скварку, а сунуў самаму меншаму нашаму брату Віцю і сказаў: «Бяры, засранец, бо з'ядуць і скажуць, што так і было!».

Шчыра сябраваў з Генам Шупенькам, выдатным нашым крытыкам, некалі класным музыкантам, якому за ігру на Нямізе нават без святла мы ў 1956 годзе купілі курсам баян (хлопцы скінуліся па 25 рублёў, дзяўчаты па 15 рублёў). Гена перанёс 8 аперацый. Але мы не забыліся, як напаўгалодныя, але вясёлыя, з 1955 года жылі на Нямізе, 21, пакой 6 у Мінску (у гэтым пакоі, як высветлілася, некалі жыў Алег Лойка). Гэта быў шчаслівы час!

— *І вядома ж, шчыра сябравалі з Генадзем Каханоўскім?*

— Гэта быў добры і надзейны сябра, якога ўжо, на жаль, няма з намі. Ён быў і доктарам гістарычных навук, і краязнаўцам (ведаў Беларусь як свае пяць пальцаў), і музеязнавец (працаваў у краязнаўчым музеі ў Маладзечне адзін час), вечны вандроўнік па родным краі, па далёкіх краях таксама. Хто яго знаў, чалавека з ціхім голасам (як толькі ён вёў вяселлі?), але чалавека велізарнай сілы духу, у якога мы, здаецца, мацнейшыя за яго фізічна, вучыліся гэтай любові да свайго роднага, не можа шчыра не пашкадаваць, што яго ўжо няма, а ён цяпер нам так патрэбен. Ён натхняў нас рабіць менавіта для свайго народа. Не ленавацца, не ныць, не кіснуць, а працаваць, бо застаецца толькі зробленае. Адным словам, сваім прыкладам Генадзь Каханоўскі пацвярджаў выдатныя словы Пятруся Броўкі: «Мая душа, яна не спіць, чырвоным полымем палае, зялёным полымем гарыць». Ці калі Жаліо-Кюры спыталі, для чаго яму такія альтруістычныя грамадскія нагрузкі, якія ён мае, ён адказаў выдатным пытаннем: «І калі я гарэць не буду, і калі ты гарэць не будзеш, дык хто ж тады разгоніць цемру?» Словы, якія мне падабаюцца, якія нам, цяперашнім беларусам, не варта забываць.

— *Спадар Янка, відаць, добрымі сябрамі да сённяшніх дзён застаюцца і Вашы аднакласнікі?*

— Не будзе граху, калі ўспомню сваіх аднакласнікаў. У 1955 годзе мы скончылі Вялікакракоцкую сярэднюю школу (ужо, на жаль, зачыненую). З маёй Малой Кракоткі сябрам з дзяцінства застаецца Васіль Леўчык. Разам некалі пасвілі коней на раніцу, на начлезе. Спалі пад адною буркаю. Разам хадзілі ў грыбы, касілі, аралі. Спрабавалі нават «сачыняць» нешта накшталт «сноў» (адзін пачынаў, а другі працягваў) — апавяданні ці аповесці «без канца». Ён адзіны ў нашым класе быў сярэбраным медалістам. Я з ім доўга сядзеў за адной партай. Скончыў Васіль Мінскі політэхнічны інстытут. Быў начальнікам РЭС у Слоніме. Цяпер пенсіянер.

Калі я захварэў, ён шмат разоў званіў са Слоніма, выказваў спачуванне. А калі памерла мая жонка, многа раіў патрэбнага, нават прыязджаў да мяне ў Мінск. Добра пагутарылі, паўспаміналі нашу вёску, наша не заўсёды радаснае маленства, школу, настаўнікаў. Такое многа значыць у нашым жыцці, ці не праўда?

Сябрам застаецца аднакласнік Міша Рудак з Рудаўкі. Доктар-акуліст першага класа. Зрабіў 10 тысяч аперацый.

Аднакласнік Тадзік Крушневіч з вёскі Сялявічы стаў кандыдатам фізіка-матэматычных навук. Мог бы быць доктарам. Але жыццё так склалася, што стаў (нездарма ў класе мы называлі яго прафесарам) спецыялістам па перагонцы нафты. Пабудаваў у ЗША завод. Жыве і яшчэ працуе ў Кіеве. Кожны раз, калі едзе ў свае Сялявічы або да сястры ў Слонім, бывае ў мяне ў Мінску, не мінае, на шчасце. Як забудзеш пра такіх хлопцаў (Слонімская кніга «Памяць» Крушневіча ўспомніла па маёй падказцы, а Леўчык і Кулак нават не згадваюцца. Крыўдна!). Што тут скажаш? Як казаў некалі мой бацька: «Е пра што гаварыць, німа чаго слухаць!».

У сэрцы, у душы жыве пачуццё шчырай удзячнасці сябрам, якія цябе не цураюцца, памятаюць, наведваюць. Так і павінны жыць людзі, калі яны людзі, а не чурбаны.

У адным з вершаў Алег Лойка напісаў: «Якое шчасце мець сяброў!» Гэта чыстая праўда, незапярэчная ісціна. Чалавек, калі ён пустышка, не ардынарнае смецце, не чэрствы вырадак, не манкурт, як трупа Мінскага тэатра юнага гледача, якая нядаўна без прымусу перайшла на рускую мову (французы абараняюць сваю мову ад англійскай экспансіі на дзяржаўным узроўні, законам), павінен мець шчырых аднадумцаў, сяброў, на якіх можа разлічваць у любы час дня і ночы, якія падтрымліваюць яго, калі не матэрыяльна, то добрым шчырым словам у кожную цяжкую хвіліну. Сябры павінны быць! А як жа інакш?! Хай ім заўсёды будзе добра, светла і цёпла, радасна і шчасна на гэтым свеце!

*2010*

# ТРЭБА АДЧУЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ГОДНАСЦЬ

Слонімец Барыс Данілюк (1923–2011) 67 гадоў пражыў на эміграцыі. За гэты час пражыта было шмат. Бо чужына — гэта ўсё ж не Бацькаўшчына.

Жывучы ў ЗША, ён да апошніх дзён прымаў самы актыўны ўдзел у жыцці беларускай дыяспары ў гэтай вялікай краіне. Спачатку ўзначальваў беларускі студэнцкі рух, пасля беларускі хор у Нью-Ёрку, выдаваў газеты «Царкоўны Пасланец» і «Навіны з роднае Сьвятыні», з’яўляўся сакратарам кансісторыі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ў ЗША. Пры жыцці ў 2006 годзе я зрабіў з ім гэта інтэрв’ю.

*— Спадар Барыс, у Беларусі сёння больш ведаюць пра Вашага бацьку — беларускага святара Хведара Данілюка, чым пра Вас. Раскажыце, калі ласка, крыху пра сябе, пра Ваша дзяцінства і юнацтва.*

— Людзей цэняць па заслугах. Мой бацька быў нацыянальным і царкоўным дзеячам, а я толькі работнікам на нацыянальнай ніве, якой аддаў усё сваё жыццё.

Нарадзіўся я 5 красавіка 1923 года ў вёсцы Старыя Дзявяткавічы на Слонімшчыне, дзе мой бацька ў той час быў святаром. Дзіцячыя і пачатак хлапцоўскіх гадоў прайшлі ў Наваельні Навагрудскага павета і ў Парэччы Слонімскага павета, куды духоўныя ўлады перакідалі майго бацьку і дзе я наведваў пачатковыя польскія школы.

Наведваючы сельскія школы, я шчыра сябраваў з сялянскімі дзецьмі і часта бываў у хатах маіх сяброў, ды гэтак і знаёміўся з нялёгкім сялянскім жыццём.

Далей, пачынаючы з восені 1933 года, я вучыўся ў пачатковай школе ў Слоніме, а з восені 1935 года да канца 1939 года — у польскіх гімназіях у Слоніме і ў Баранавічах. За тое, што польская ўлада праследавала майго бацьку, я хутка загарэўся беларускім патрыятызмам і за гэта ў гімназіях меў нямала непрыемнасцей.

На вялікі жаль, не толькі з маім беларускім патрыятызмам, але і з мінулай бацькавай нацыянальнай дзейнасцю давялося таіцца і пасля далучэння ў 1939 годзе Заходняй Беларусі да СССР.

Пры савецкай уладзе на малой парафіі ў Гавенавічах, куды польскія ўлады былі заслалі майго бацьку, пражыць было цяжка. Таму сям'я наша ў канцы 1939 года пераехала ў бацькава роднае сяло Сурынку, што на Слонімшчыне, дзе бацька ўзяў парафію з дзвюма цэрквамі і чатырма малымі вёскамі. Разам з гэтым бацька меў і гаспадарку на трох з паловаю гектарах спадчыннае зямлі, ды ўпрасіўся жыць у старую цётчыну хату з глінянаю падлогай.

Але і ў гэтым, як здавалася, зацішку савецкая ўлада не дала бацьку спакою: на парафію пачалі накладаць вялікія падаткі, на якія ўрэшце не было адкуль узяць грошай, а несвоечасовая аплата каралася арыштам і высылкай. Таму, адчуваючы немінуючы бацькаў і матулін арышт ды мой вываз у Сібір ці ў Казахстан, я вясною 1940 года пакінуў навуку ў дзесяцігодцы і пачаў дапамагаць бацьку на гаспадарцы, а таксама вучыўся самастойна далей па танных савецкіх падручніках.

Арыштаваць майго бацьку і вывезці нас саветы не паспелі, бо ўлетку 1941 года пачалася вайна і на Беларусь прыйшлі немцы.

*— І ў сям'і Данілюкоў пачаліся новыя выпрабаванні?*

— Гэта так. Тым не менш у пачатку восені 1941 года я ўладкаваўся на працу сакратаром у школьны інспектарат у Слоніме, а ўзімку 1942 года перайшоў на пасаду сакратара ў Беларускую Самапомач. Акрамя гэтага спяваў у хоры Антона Валынчыка, быў танцорам у танцавальным гуртку, а таксама ўдзельнічаў у драматычным гуртку, які існаваў пры Слонімскім Народным доме.

Школьны інспектарат у Слоніме адразу правёў беларусізацыю школ, былі беларусізаваны таксама мясцовая і павятовая адміністрацыі. Аднак у горадзе заставалася моцным польскае падполле, якое выдавала немцам беларусаў як камуністаў. Ды і паліцыю немцы да канца ўпорыста пакідалі ў польскіх руках.

Але найбольшым усё ж няшчасцем для нашых людзей хутка сталі савецкія партызаны, якія рабавалі сялян і здзекаваліся з іх, а таксама нападалі на немцаў каля вёсак. Гэтым самым яны правакавалі нацыстаў на крывавыя расправы над нявіннымі мірнымі людзьмі. А каб не партызанка, беларусы, як і чэхі, маглі б з малымі стратамі дачакацца канца нямецкай акупацыі і вяртання савецкай улады.

*— Спадар Барыс, калі Вы згадалі праз свайго бацьку, дык раскажыце пра яго больш падрабязна. Мне вядома, што ён у 1920 годзе прымаў удзел у Слуцкім антыбальшавіцкім паўстанні…*

— Мой бацька, айцец Хведар, ці, як у нас казалі, Тодар Данілюк, нарадзіўся 25 жніўня 1887 года ў вёсцы Сурынка Жыровіцкае воласці Слонімскага павета. Ягоны бацька Васіль быў інвалідам расійска-турэцкае вайны 1877–1878 гадоў, і гаспадаркай у асноўным займалася маці Агрыпіна. Яна гадавала яшчэ ў курнай хаце пяцёра дзяцей.

Зямлі было мала, і таму на аднаго з хлопцаў, г. зн. на майго бацьку, у якога выявіліся здольнасці да навукі, выпаў выбар «ісці ў людзі».

Гэтай «дарогай у людзі» была, аднак, толькі парафіяльная школа, а пасля яе «духоўнае вучылішча» пры Жыровіцкім манастыры, куды малым хлопчыкам і паслалі майго бацьку здабываць навуку.

Пасля духоўнага вучылішча бацька некалькі гадоў працаваў настаўнікам народнага вучылішча каля Кобрына, а пазней — у Забуллі на Слонімшчыне.

Бываючы часта ў Жыровічах, ён пазнаёміўся там з маёй маці Марыяй Стальмашук і ажаніўся з ёю ў 1910 годзе. А праз год у іх нарадзілася дачка Глафіра і бацька атрымаў прызначэнне на дзяка ў Вярэйкаўскую парафію каля Ваўкавыска.

У Вярэйках маладую сям’ю застала ў 1914 годзе Першая сусветная вайна. Бацьку адразу мабілізавалі на службу ў артылерыю пад Варшаву.

Летам 1915 года расійская армія пачала адступаць і, дзе магла, прымушала беларускае насельніцтва выязджаць у бежанства ў глыб Расіі. Гэткім чынам мая маці з дачкою, ейнымі бацькамі і братам апынуліся ажно ў Таганрогу. А дзе тады служыў у войску мой бацька — я не ведаю. Вядома толькі, што ён быў накіраваны ў лістападзе 1916 года ў школу прапаршчыкаў у Гатчына.

Скончыўшы гэтую школу, ужо пасля лютаўскай рэвалюцыі, у сакавіку 1917 года бацька служыць у гарнізоне горада Таржка, дзе далучаецца да беларускага нацыянальнага руху сярод вайскоўцаў і нават прымае ўдзел у іхнім з’ездзе.

У лістападзе 1917 года бацька атрымлівае прызначэнне на Румынскі фронт. Але расійская армія хутка капітулюе і пачынае дзяліцца на нацыянальныя адзінкі. Хведара Данілюка выбіраюць ці прызначаюць нацыя-

нальным беларускім камісарам IV корпуса. Ён рыхтуе адну беларускую роту і накіроўвае яе на Беларусь.

Летам 1918 года бацька вяртаецца ў Вярэйкі. Але Заходняя Беларусь яшчэ была пад немцамі, і бацька арганізоўвае Беларускі нацыянальны камітэт у Ваўкавыску. Сябры Камітэта купляюць у немцаў збожжа і дапамагаюць беларусам, якія вяртаюцца з бежанства, а таксама паціху займаюць адміністрацыйныя пасады.

На жаль, беларускіх вайскоўцаў на абарону гэтых дасягненняў не хапала, і ў пачатку 1919 года Польскае Войска пачынае займаць Заходнюю Беларусь і арыштоўваць беларускіх дзеячаў ды вывозіць іх у канцлагер у глыб Польшчы.

Быў арыштаваны і мой бацька, але ён уцёк з арышту ў Беластоку і падаўся ў Гродна, дзе дзейнічаў Першы Беларускі полк. З Гродна яго накіроўваюць у Коўна, дзе арганізаваліся беларускія адзінкі пры літоўскім войску, у адной з якіх бацька трохі служыць.

Пасля няўдачы з арганізацыяй Першага Беларускага палка і беларускіх аддзелаў пры літоўскай арміі Хведар Данілюк зноў вяртаецца ў Вярэйкі і служыць у царкве. Летам 1920 года яго арыштоўваюць бальшавікі, але па дарозе на Барысаў ён уцякае і накіроўваецца зноў у Гродна, дзе пачала дзейнічаць Беларуская вайсковая камісія, якая павінна была займацца арганізацыяй беларускіх аддзелаў пры Войску Польскім.

*— А калі і пры якіх абставінах ён трапляе ў Слуцк?*

— У Гродне Хведар Данілюк запісваецца ў Камісію афіцэрам і ў пачатку лістапада 1920 года едзе ў Слуцк, дзе пачалося антыбальшавіцкае паўстанне. Аднак у Слуцк ён з капітанам Якубецкім і падпаручнікам Падгурскім фурманкамі дабрацца не паспяваюць, а далучаюцца да паўстанцаў у Семежаве. Там майго бацьку прызначаюць камандзірам вучэбнай каманды (падафіцэрскае школы) Грозаўскага палка Слуцкай брыгады Беларускай Народнай Рэспублікі, а падпаручнік Падгурскі становіцца ягоным памочнікам (капітан Якубецкі праз пару дзён вярнуўся ў Гродна). Паўстанцы, як вядома, з-за нястачы зброі і іншых вайсковых патрэб не здолелі ўстаяць супраць вялікай Чырвонай Арміі і былі вымушаны перайсці польскую мяжу, дзе ў большасці былі інтэрнаваныя, а падафіцэрская школа, мой бацька і падпаручнік Падгурскі былі накіраваныя ў Першы Беларускі батальён у Лодзь.

Пасля Рыжскае дамовы ў красавіку 1921 года Першы Беларускі батальён быў ліквідаваны, бацька вярнуўся дамоў і стаў працаваць святаром. А 24 кастрычніка 1921 года гродзенскім епіскапам Уладзімірам ён быў асвечаны ў святарскую годнасць і прызначаны на парафію ў Сынковічы, а пасля ў Старыя Дзявяткавічы на Слонімшчыне.

*— У гэты час Заходняя Беларусь ужо была пад Польшчаю.*

— Займацца беларускай дзейнасцю святару тады было немагчыма, бо ён быў у падвойнай няволі: у іерархіі і амаль ва ўсім духавенстве праваслаўнай царквы ў Польшчы былі тады не толькі расійскія манархісты, але і чарнасоценцы, плюс да ўсяго польская ўлада лічыла кожнага беларуса за камуніста і дзяржаўнага ворага. Найгорш, аднак, было

тое, што масавы беларускі рух у той час быў чырвоны і антырэлігійны, дык спадзявацца на падтрымку з ягонага боку не было як.

Азіраючыся ў мінулае, шкада, што нашы тагачасныя палітыкі не ўбачылі магчымасці стварэння беларускай праваслаўнай партыі, дэвізам якой мог быць кліч: «За веру і зямлю!». І якая магла б быць не менш масавай, чым «Грамада», ды прычапіцца да яе палякам было б цяжэй.

Таксама лічу, што беларускі рух з-за ягонае абыякавасці да царкоўных спраў не звярнуў увагі на тое, што пасля вайны не хапала праваслаўных святароў і епіскапамі асвячалі белагвардзейцаў, якія кінуліся на гэтую нажыву, а беларусы гібелі на маленькіх гаспадарках або служылі кволымі ўрадоўцамі.

Наогул, бацьку было цяжка і пры паляках, і пры саветах, і пры немцах. Палякі яго абвінавачвалі ў «антыпольскай дзейнасці», а ў 1936 годзе асудзілі на шэсць месяцаў. І толькі дакумент з Першага Беларускага батальёна з Лодзі яго выратаваў. Праз тры гады ён быў арыштаваны бальшавікамі. Дзякуючы паказанням сумленных сведкаў, яму ўдалося выратавацца з кіпцюроў НКУС. У 1942 годзе, як былога слуцкага паўстанца, яго хацелі забіць партызаны. Тым не менш у 1942 годзе мой бацька прымаў удзел ва Усебеларускім Праваслаўным Саборы, на якім урачыста была абвешчана Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква. Дарэчы, вернасць ідэі беларускай аўтакефаліі ён захаваў да канца жыцця.

— *І калі сям'я Данілюкоў назаўсёды развіталася з Бацькаўшчынай?*

— Сям'я наша пакінула Беларусь у ліпені 1944 года, праз некалькі дзён пасля таго, як я вярнуўся з Другога ўсебеларускага кангрэса з Мінска. Апісаць цяжкае падарожжа ў чужы край і жахлівае жыццё там проста немагчыма. Спачатку мы жылі ў французскай акупацыйнай зоне Германіі, дзе нас французы некалькі разоў перавозілі ў розныя месцы, пакуль у рэшце рэшт не пасялілі каля вялікай цэлюлознай фабрыкі.

Пражылі мы там шэсць гадоў і летам 1950 года эмігрыравалі ў Амерыку. Спыніліся ў Нью-Ёрку, дзе бацьку давялося пайсці працаваць рабочым на сернікавую фабрыку. Разам з гэтым ён пачынае арганізоўваць першыя ў Амерыцы парафіі Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. А калі быў куплены беларусамі кафедральны сабор св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне і ў Нью-Ёрк прыехаў епіскап Васіль — усе справы бацька перадаў яму. А летам 1960 года бацькі не стала.

— *Спадар Барыс, дзякуй Вам за такі грунтоўны расказ пра Вашага бацьку. А чым Вы асабіста гэтыя 60 апошніх гадоў займаліся на чужыне?*

— З восені 1944 да пачатку 1951 года я з сям'ёю жыў у Нямеччыне. Калі бацька працаваў на фабрыцы, я ездзіў вучыцца на інжынера-будаўніка ў Мюнхенскі ўніверсітэт.

Адначасова зарабляў я маркі ад продажу кавы і адзення, якія атрымліваў ад дабрачынных арганізацый. Прадаваў іх яўрэям-уцекачам у Мюнхене. Мая жонка таксама ўладкавалася на працу ў адну французскую ўстанову. Тады я пачаў займацца і беларускімі справамі. У Беларускім студэнцкім згуртаванні ў Мюнхене быў сябрам рэдакцыйнай калегіі, што выдала некалькі нумароў часопісу «Крывіцкі Сьветач», прымаў удзел у іншых

беларускіх культурна-масавых мерапрыемствах. А вясною 1948 года я быў прыняты ў Раду Беларускай Народнай Рэспублікі.

Але доўга працягваць навуку мне не ўдалося, бо не было грошай. Таму далей я займаўся самаадукацыяй: шмат чытаў кніг, газет, часопісаў, займаўся магчымай беларускай дзейнасцю ды дапамагаў бацьку ў царкоўных справах. А калі прыехаў у Амерыку — давялося працаваць на самых розных работах, а пасля знайшоў працу чарцёжніка ў фірме, якая праектавала дарогі, дзе і адпрацаваў 25 гадоў, пакуль не пайшоў на дзяржаўную пенсію. Да сённяшніх дзён у ЗША займаюся таксама рознымі беларускімі і рэлігійнымі справамі.

*— Ці пашанцавала Вам хоць раз пасля вайны пабываць на Беларусі ці ў іншых рэспубліках былога Савецкага Саюза?*

— У Беларусі я, на вялікі жаль, не быў, бо сваякоў у мяне тут ужо няма, а ў не ачышчаны ад саветчыны край не хацелася ехаць. Восенню 1997 года надарылася мне паехаць па царкоўных справах на тыдзень у Кіеў, дзе ўкраінізацыя заўважвалася ў большай ступені, але савецкасць адчувалася таксама.

Падчас таго самага падарожжа давялося затрымацца мне і ў чэшскай Празе, дзе нацыянальнае жыццё ўжо поўнасцю адрадзілася, але шкода ад савецкай акупацыі яшчэ ёсць.

*— Што сабой сёння ўяўляе беларуская дыяспара ў ЗША?*

— Беларуская эміграцыя ў ЗША праходзіць сёння змену пакаленняў. Дзеячы і працаўнікі пасляваеннай эміграцыі, якія шмат зрабілі для прапаганды беларускай справы, альбо ўжо адышлі на той свет, альбо на парозе адыходу. Але на іх месца з'явілася новая беларуская эміграцыя, якая, аднак, мае характар больш эканамічны і не вельмі спешная да беларускае грамадскае актыўнасці.

Хвалюе найперш тое, што ў ЗША ёсць нямала новых эмігрантаў з добрай вышэйшай адукацыяй, але яны не горнуцца, як іхнія папярэднікі, да нацыянальнае працы.

Усё ж Беларуска-амерыканскае задзіночанне ў Нью-Ёрку збірае на сваіх сходах паважную колькасць прысутных, і таму будучыня гэтае арганізацыі выглядае забяспечанай. Шкада толькі, што ў іншых вялікіх гарадах Амерыкі, дзе таксама нямала новых беларускіх эмігрантаў, арганізацыйная дзейнасць слабейшая альбо яе зусім няма.

*— Спадар Барыс, Вы вельмі веруючы чалавек. Шмат сілаў і здароўя аддаяце Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве. Нават выдаяце часопісы «Царкоўны Пасланец» і «Навіны з роднае Сьвятыні». Раскажыце крыху пра Вашу і наогул беларускую царкоўную дзейнасць у ЗША.*

— Свая царква на эміграцыі вельмі патрэбна. Хопіць таго, што ў сярэдзіне XX стагоддзя сотні тысяч беларускіх сялян, якія эмігрыравалі ў Паўночную і Паўднёвую Амерыку ў першай палове XX стагоддзя, былі заманугы ў расійскую царкву, сталі спярша расійскімі, а пасля і савецкімі патрыётамі.

Апрача таго, існаванне беларускіх праваслаўных парафій у замежжы важна яшчэ і таму, што царкоўныя будынкі пазбаўленыя ўсіх падаткаў і

іх залы выкарыстоўваюць на розную дзейнасць грамадскія арганізацыі, якія не маюць дастаткова ўласных сродкаў на ўтрыманне сваіх будынкаў. Нарэшце, царква, нават на эміграцыі, можа быць выкарыстана і для варожых палітычных мэтаў, ды і для асабістай карысці, што таксама прадэманстравала пасляваенная беларуская эміграцыя.

Яшчэ ў Нямеччыне беларуская пасляваенная царква раскалолася на дзве часткі: БНРаўскую (што падтрымлівала аднаўленне БАПЦ) і БЦРаўскую. Нагадаю, БНР — Беларуская Народная Рэспубліка — была створана 25 сакавіка 1918 года, а БЦР — Беларуская Цэнтральная Рада — падчас нямецкай акупацыі.

*— Спадар Барыс! Вы пражылі доўгае жыццё. Што Вы хацелі б вярнуць назад, што Вам не ўдалося за Вашыя гады ажыццявіць, здзейсніць?*

— Дзякуючы Божай апецы і заступніцтву Жыровіцкай Божай Маці, маё жыццё хоць мяне і не песціла, але абышлося са мною даволі ласкава. І таму шкадую ў ім я толькі аднаго, што не выпала мне стаць беларускім філолагам ці фалькларыстам ды вывучаць у сваім краі нашы народныя гутаркі, песні і звычаі.

*— Якая мара ўсё жыццё была ў Барыса Данілюка?*

— Каб наша Бацькаўшчына стала сапраўды незалежнай, дэмакратычнай і заможнай краінай. А наш народ вярнуў сабе ягонае даўняе імя «ліцвіны», а дзяржава вярнула назоў «Вялікае Княства Літоўскае», у якой канстытуцыйныя правы былі б замацаваныя ў IV Літоўскім Статуце.

*— Што Вы хочаце пажадаць сваім землякам на Бацькаўшчыне?*

— Адчуць нацыянальную годнасць і нічога не баяцца.

*2006*

## «З ГОНАРАМ КАЖУ, ШТО Я — БЕЛАРУС»

*Гутарка з беларускім паэтам Анатолем Іверсам (1912–1999), чэрвень 1992 года*

Старэйшым беларускім паэтам Анатолем Іверсам (Іванам Дарафеевічам Міско) за жыццё было пражыта ўсяго шмат, але як там ні было, паэт і чалавек Анатоль Іверс ніколі не развітваўся з роднай беларускай мовай. Ці не дзякуючы ёй давялося выжыць і дачакацца, калі Беларусь стане на шлях незалежнасці.

*— Іван Дарафеевіч, Вамі пражыта доўгае і нялёгкае жыццё. Але ніколі і ні пры якіх абставінах Вы не цураліся сваёй роднай мовы. Ці не так?*

— Аднойчы ў 1922 годзе бацька, прыехаўшы са Слоніма, паклаў на стол кніжку пад загалоўкам «Гусляр». Нягледзячы на лацінскія літары, там усё напісана было на беларускай мове. З той пары я, дзесяцігадовы хлопчык, стаў беларусам. Нарэшце я здабыў сваё нацыянальнае імя! Вучоба ў Віленскай беларускай гімназіі, сустрэча з такімі выдатнымі педагогамі, як Ігнат Дварчанін, Рыгор Шырма, Сяргей Паўловіч, яшчэ

больш пашырылі мой кругагляд у справе беларушчыны. Нават у польскім падручніку па гісторыі Польшчы было напісана, што кароль Ягайла сваю каранацыйную прамову казаў па-беларуску…

Моладзь у той час гарнулася да навукі, да культурна-асветнай працы. Таму і ў нашай вёсцы на сродкі сялян была адкрыта бібліятэка-чытальня імя Якуба Коласа, пабудаваны Народны дом. Юнакі і дзяўчаты ладзілі беларускія вечарыны-спектаклі. Мы, выгнанцы з беларускіх гімназій, не былі апошнімі ў гэтай справе. Але нашу самадзейную і самаахвярную працу на культурна-асветнай ніве спынілі панскія служкі. Яны закрылі Народны дом, бібліятэку-чытальню, забаранілі ставіць беларускія спектаклі. Словам, глушылася ўсё беларускае, нават слонімскія друкарні не хацелі, ці мо баяліся, надрукаваць афішу на беларускай мове.

Нельга забыць, як у 1937 годзе пасля спектакля на вясковай сцэне, дзе я дэкламаваў верш Янкі Купалы «Ворагам Беларушчыны», мяне паклікалі ў дэфензіву. Шпікі катавалі і прыгаворвалі: «Ото тобе, хаме, гімназ'юм бялоруске і «беларуская мова!» Як мне тады абрыдла чужая польская мова, хоць ведаў, што мова тут ні пры чым.

Прайшло з таго часу шмат гадоў. Адзін раз давялося пабыць у Польшчы, у Плоцку, дзе я служыў некалі ў кавалерыі. Як ветліва сустракалі мяне жыхары гэтага горада! Здаецца, так і слухаў бы іх здаўна знаёмую польскую мову, на гэты раз пяшчотныя словы.

Напрошваецца вывад, што кожны народ на сваёй тэрыторыі павінен размаўляць на роднай мове. І гэта стварае своеасаблівае прыемнае ўражанне.

*— Пры панскай Польшчы тых, хто размаўляў па-беларуску, лічылі камуністамі, бальшавікамі, пры савецкай уладзе — нацыяналістамі. Калі ж было адраджаць сваю мову?*

— У захопніцкай палітыцы такія жахлівыя абсурды, якія павінны былі б самі сябе з'есці. Але ж — народ церпіць увесь час. І сапраўды, пры панскай Польшчы, хто размаўляў па-беларуску, лічылі бальшавіком. Пры савецкай уладзе, наадварот, таго, хто размаўляў па-беларуску, лічылі нацыяналістам. Так званыя «камуністы» пакутавалі ў панскіх турмах і канцлагерах Бяроза Картузская, а так званыя «нацыяналісты», яны ж яшчэ былі і «ворагі народа», зведалі шматлікія лагеры савецкай поўначы, навек спачылі ў Курапатах і іншых месцах.

Вось такімі шляхамі ішло адраджэнне беларускай мовы, і цяпер, калі рэспубліка стала незалежнай дзяржавай, развіццё роднгай мовы ўперлася ў варожую сцяну рускамоўных партакратаў і ўрадавых бюракратаў. І ўсё ж з непахіснай надзеяй, як заўсёды, магу паўтарыць словы са свайго верша, прысвечанага Скарыне, які знаў: «з-за хмараў алавяных праб'ецца сонца да зямлі».

*— У адным з Вашых вершаў прачытаў і такія радкі: «Я не паляк і не расеец, даволі жыць як набяжыць!» Што Вы мелі на ўвазе?*

— Беларусь знаходзіцца паміж магутных дзяржаў — Расіяй і Польшчай. Гэта павінна было б спрыяць развіццю нармальнага жыцця нашага народа. Не будзем прыгадваць, колькі на нашай тэрыторыі праходзіла захопніцкіх

войнаў. Усход і Захад спаборнічалі паміж сабой, хто перацягне на свой бок найбольш беларусаў і зробіць іх палякамі або расейцамі. І пры пасіўных паводзінах карэннага народа гэта ім удавалася сяды-тады. І таму ў адным з маіх вершаў з'явіліся і такія радкі: «Я не паляк і не расеец, даволі жыць як набяжыць!»

*— Іван Дарафеевіч, не ведаю, як было ў Заходняй Беларусі да верасня 1939 года, але зараз у Беларусі многія беларусы-католікі лічаць сябе палякамі...*

— Як вядома, Заходняя Беларусь амаль дваццаць гадоў знаходзілася пад акупацыяй панскай Польшчы. Цяжка жылося тады працоўным, асабліва сялянам, спрадвечным ахоўнікам беларускай мовы і культуры. Каб лягчэй было эксплуатаваць і апалячваць насельніцтва, улады закрылі ўсе беларускія школы, праследавалі прагрэсіўных беларускіх дзеячаў. І ўсё ж гэта не давала належнага эфекту. Тады акупацыйнаму ўраду дапамагалі каталіцкі касцёл і праваслаўная царква, пэўна, яны аб гэтым дамовіліся. Вось прыклады. Жэняцца маладыя, нараджаюцца дзеці — усё трэба было афармляць праз рэлігійных чыноўнікаў, бо гэтага патрабаваў закон. І вось едзе маладая пара да праваслаўнага папа, каб абвянчаў. А ён патрабуе 25 злотых, што раўнялася больш чым 12 пудам збожжа. Грошай няма, і маладыя едуць вянчацца ў касцёл. А там вянчаюць бясплатна, толькі запісваюць католікамі. А раз ты католік, то, значыць, і паляк. У сапраўднасці рэлігія ніколі не атаясамлівалася з нацыянальнасцю. Напрыклад, французы таксама католікі, але не палякі.

Яшчэ хачу прыгадаць такі выпадак пра апалячванне. Вайсковыя зборы ў другой палове 1930-х гадоў я праходзіў у 27-м палку уланаў, што знаходзіўся ў Баранавічах. На зборы паклікалі пераважна беларусаў. Аднойчы вечарам праводзіў заняткі з кавалерыстамі ксёндз у званні маёра. Гэта была не рэлігійная, а палітычная прапаганда. Маёр тлумачыў, даказваў рэзервістам, што мы не беларусы, а праваслаўныя палякі, значыць, не ўсіх перацягнулі ў каталіцтва, каб потым апалячыць, што тут спрадвеку была Польшча і г. д. Потым дакладчык запытаў, можа, хто хоча выказацца па гэтым пытанні. Навагрудскія хлопцы бачылі, што я хвалююся і прасоўваюся наперад, уляпіліся ззаду за мой шынель, але я падняў ужо руку. Выйшаўшы наперад, адразу я запярэчыў пану маёру, што тут не Польшча, а Беларусь, і што мы не палякі, а беларусы. А каб не было беларускага народа, то не было б і беларускага народнага паэта Янкі Купалы. Ксёндз не мог мне запярэчыць і хуценька закончыў «пагаданку». Салдаты групамі, без строю і каманды пакрочылі ў казармы. Усе думалі, што мяне арыштуюць. Пранясло. Толькі як вярнуўся са збораў, праз некалькі дзён паліцыянт прынёс павестку з'явіцца ў пастарунак ў вёсцы Касцяні Слонімскага павета. Камендант паліцыі загадаў, каб я на працягу шасці месяцаў двойчы на тыдзень хадзіў да іх на «мяльдунак» — спецыяльную рэгістрацыю.

*— Нешта падобнае адбывалася і з русіфікацыяй праваслаўнай царквы на Беларусі? Ды не толькі царквы?..*

— Русіфікацыя, як усім нам вядома, адбывалася больш маштабна. У гарадах закрылі ўсе беларускія школы, амаль усе пасады занялі прысланыя да нас з усходу рускамоўныя чыноўнікі. Культурныя ўстановы былі прапагандыстамі не нацыянальнай культуры, а нейкага савецкага сурагату. Сфальсіфікавалі гісторыю Беларусі. Як жа тут было прабіцца парасткам беларушчыны?

Вельмі неспрыяльную дзейнасць у адносінах да беларускай мовы і культуры праявілі руская праваслаўная царква і празмерная колькасць савецкага, гэта значыць, расійскага войска на тэрыторыі рэспублікі. Уся служба ў цэрквах вялася на чужой мове. Армія праводзіла толькі камуністычна-русіфікатарскую палітыку.

*— І ўсё ж, Іван Дарафеевіч, ці адродзім мы сваю мову, культуру і гісторыю?*

— Беларусь пакрысе ідзе да адраджэння незалежнасці, беларускай мовы, гісторыі, культуры, якія перамагаюць шматлікія перашкоды, і ў першую чаргу ў сваім жа парламенце. У праекце Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь запісана, што «Дзяржаўнай мовай Рэспублікі Беларусь з'яўляецца беларуская мова». Гэта трэба вітаць і ўсямерна садзейнічаць напаўненню Закона зместам. Я ўпэўнены, што адродзім сваю мову, культуру, гісторыю. А калі станем сапраўды вольным народам ад усіх варожых заскокаў, тады і будзем інтэрнацыяналістамі.

*1992*

## ПІЛІП ШЧАРБАКОЎ БУДАВАЎ НА ШЧАРЫ ШЛЮЗЫ

Дзед сланімчанкі Марыі Ляцецкай Піліп Сяргеевіч Шчарбакоў у пачатку XX стагоддзя будаваў на Шчары шлюзы, а бацька Ілья Піліпавіч Шчарбакоў усё жыццё служыў псаломшчыкам у Слонімскай Свята-Троіцкай царкве. Разам з Марыяй Ільінічнай Ляцецкай вырашылі згадаць пра гэтых родных ёй людзей і пра той час, калі яны жылі на Слонімшчыне.

*— Марыя Ільінічна, прозвішча Вашага дзеда Шчарбакоў. Гэта не слонімскае прозвішча, а рускае. Ці я памыляюся?*

— Не, вы не памыляецеся. Дзед мой Піліп Сяргеевіч Шчарбакоў родам быў з Расіі, з Разанскай губерні. Ён прыехаў на Слонімшчыну яшчэ маладым у канцы XIX стагоддзя, бо там было цяжкае жыццё, ды і сям'я ў іх была даволі вялікая. У Слонім яго паклікаў знаёмы інжынер будаваць на Шчары шлюзы.

*— Што гэта былі за збудаванні такія?*

— Шлюзы ў Слоніме будавалі на Шчары і на канале Агінскага для пропуску суднаў пры розным узроўні вады на шляху іх руху, якое складвалася са спецыяльных камер з варотамі. Судна заходзіла у шлюз, шлюз закрываўся, узровень вады тады падымаўся і апускаўся. Адным словам,

шлюз у судаходстве — гэта было спецыяльнае збудаванне для пад’ёму і апускання судоў з аднаго ўзроўню вады на другі. Вось такія шлюзы на Слонімшчыне ў канцы XIX — пачатку XX стагоддзя будаваў мой дзед.

*— Дзед Ваш быў простым рабочым на будаўніцтве шлюзаў ці не?*

— Пад кіраўніцтвам майго дзеда Піліпа Шчарбакова будаваліся гэтыя шлюзы. Яшчэ захаваліся рыштаванні на канале Агінскага, дык іх забіваў мой дзед. Дзецям і ўнукам сёння паказваю гэтыя рыштаванні і кажу, што іх будаваў ваш прадзед і прапрадзед.

*— Дзед Ваш прыехаў у Слонім адзін?*

— Ён прыехаў са сваёй маладой жонкай. Яна нідзе не працавала, а ён кіраваў будаўніцтвам шлюзаў. Відаць, заробак у яго быў добры. Ён нават з Расіі прывозіў золата, каб разлічвацца з рабочымі. Адзін раз выйшаў з цягніка ў Слоніме і забыўся карзіну ў вагоне. Потым стаў крычаць: «Хлопцы, падайце мне карзіну!..» Адзін чалавек узяў цяжкую карзіну і вынес з вагона, пытаючыся: «Што вы тут везяце? Цэглу?» А ён адказвае: «Золата!». Чалавек моцна здзівіўся. Хаця насамрэч там былі залатыя манеты — заробак для слонімскіх будаўнікоў шлюзаў.

*— Дзед займаўся толькі будаўніцтвам шлюзаў?*

— Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам у Слоніме быў пабудаваны былы Народны дом, руіны якога засталіся яшчэ на плошчы Леніна. І на месцы яго, веру, хутка пабудуюць драматычны тэатр. Гэты дом яго брыгада ўзвяла ў 1900 годзе ў формах утылітарнай архітэктуры. Дзеду тады было 30 гадоў.

*— Дык Ваш дзед, Марыя Ільінічна, заслугоўвае ў гісторыі Слоніма самай вялікай пашаны…*

— Акрамя гэтага ён пабудаваў і шэраг іншых будынкаў, у тым ліку прыгожы будынак на вуліцы Пушкіна, дзе цяпер знаходзіцца падатковая інспекцыя.

*— Па тым часе, відаць, Ваш дзед Піліп Шчарбакоў у Слоніме быў даволі багатым чалавекам?*

— Так. У Дубках каля Дзеравянчыцаў ён меў 10 гектараў зямлі. І там быў у яго невялікі фальварак. Дарэчы, калі дзед са сваёй жонкай прыехалі ў Слонім, у іх нарадзіліся двое дзяцей. Пасля нараджэння другога дзіцяці яна памерла ад родаў. Помнік ёй захаваўся на старых могілках на Віленскай вуліцы ў Слоніме. Тады дзед ажаніўся са сваёй служанкай Марыяй Жукоўскай з вёскі Ашнаравічы. У іх нарадзілася трое дзяцей: Ілья Піліпавіч — гэта мой тата, 1902 года нараджэння, Яўгенія Піліпаўна — дачка, Мікалай Піліпавіч — малодшы сын. Жылі яны ў Слоніме на Рыбацкай вуліцы, там быў у іх свой дом. Жэня і Коля скончылі Віленскі ўніверсітэт.

*— А што сталася з фальваркам у Дубках?*

— Яго знішчылі саветы. Як толькі яны прыйшлі ў 1939 годзе, то там зрабілі аэрадром.

*— Колькі гадоў пражыў Ваш дзядуля?*

— Дзядуля пражыў 92 гады. Я яго добра памятаю. Цікавы ён быў чалавек. Ведаў некалькі моў. Ён да самай смерці выпісваў шмат газет і часопісаў, нават выпісваў на нямецкай мове «Берлінскую газету». Дзядулю

выклікалі аднойчы ў КДБ і пыталіся, навошта ён выпісвае гэту газету. Дзядуля адказаў: «Я ведаю нямецкую мову і што хачу, тое і чытаю».

*— Марыя Ільінічна, а цяпер раскажыце пра свайго бацьку Ілью Піліпавіча Шчарбакова.*

— Ведаю, што спачатку тата працаваў каморнікам, а потам служыў у польскім войску. А калі ён вярнуўся з войска, то ў Слоніме ўжо былі немцы. І пры немцах ён трапіў у Свята-Троіцкую царкву. Спачатку ён працаваў у царкве рэгентам, а потым усё жыццё — псаломшчыкам. Настаяцелем царквы тады быў айцец Міхаіл Славінскі — бацька нашага былога слонімскага доктара Ірыны Міхайлаўны Булыга, якой ужо таксама, на жаль, няма на гэтым свеце. Пасля вайны нялёгкі час быў для праваслаўных вернікаў і для нашых храмаў. Не памятаю ў які час, але айцец Міхаіл, відаць не па сваёй волі, адмовіўся быць настаяцелем Свята-Троіцкай царквы. І на яго месца прыйшоў айцец Міхаіл Кашэня. Ён жыў у Жыровічах. Тата і з ім працаваў. Калі я вучылася ў школе і казала, дзе працуе мой бацька, то ў настаўнікаў ад гэтага аж крывіўся твар.

*— На якіх мовах тады вяліся ў царкве службы?*

— На царкоўнаславянскай. А калі ў Слоніме з'явіўся айцец Сяргей Гардун, то ён мне неяк прапаноў зрабіць літургію на беларускай мове. Але хутка яго перавялі ў Мінск.

*— Ці сябраваў Ваш бацька з айцом Міхаілам Славінскім?*

— Вядома ж! Прыходзілі ў госці адзін да аднаго сем'ямі, шмат размаўлялі пра царкоўныя справы, жыццё слонімскіх прыхаджан. Да нас вельмі шмат людзей прыходзілі ў госці на Ілью — 2 жніўня.

*— Ці шмат, напрыклад, у 1940–1960-я гады слонімцаў хадзіла ў царкву?*

— Даволі многа.

*— Можа, Вы памятаеце, ці прыязджаў да Вас у госці наш кампазітар і дырыжор Антон Валынчык?*

— Не памятаю. Можа, і прыязджаў. Я ж была яшчэ маленькай дзяўчынкай. Але ведаю, што Валынчык Антон кіраваў у гады Другой сусветнай вайны царкоўным хорам у Слоніме.

*— А цяпер я ведаю, што адным з царкоўных хароў кіруеце Вы?*

— Так. Калі ў 1972 годзе не стала таты, то ў царкву пайшла я. Цяпер у Спаса-Праабражэнскім саборы кірую царкоўным хорам, бо маю музычную адукацыю.

*— Ці многа чалавек наведвае Ваш хор?*

— Нямнога. Ён налічвае 11 чалавек. Але сёння ў Спаса-Праабражэнскім саборы, акрамя нашага хору, дзейнічаюць яшчэ два хары. Адным з іх кіруе Мікалай Мукасей, другім — Генадзь Бабошкін. Але я кірую і яшчэ адным хорам, ён называецца сястрынскі хор. Адным словам, сёння працягваю традыцыю свайго таты. Ды і дзядуля быў не толькі будаўніком, але і даволі веруючым чалавекам. Пастаянна хадзіў у царкву, а на яго стале заўсёды ляжала Евангелле.

*2010*

# УСПАМІНЫ ПРА ДАВАЕННЫ СЛОНІМ

Адна са старэйшых сланімчанак Ніна Пятроўна Лукашэйка жыве на Камсамольскай вуліцы ў Слоніме. Тут мы сустрэліся і доўга гутарылі пра Слонім 1930–1940-х гадоў, разглядалі яе сямейныя фотаальбомы, дакументы, газетныя выразкі…

*— Ніна Пятроўна, раскажыце трохі пра сябе.*

— Я нарадзілася 28 сакавіка 1925 года ў Слоніме. Дзявочае маё прозвішча Сяменік, а па мужу — Лукашэйка. У Слоніме на Камсамольскай вуліцы (на былой Замкавай) я ўсё жыццё пражыла і працавала ўвесь час таксама на сваёй Замкавай вуліцы ў медвучылішчы з 1945 па 1980 год. І Слонімскае медвучылішча было маім другім родным домам. Там я спачатку працавала бухгалтарам, а потым, пасля вучобы, выкладала нямецкую мову. Будынак медвучылішча — гэта быў прыватны яўрэйскі дом, які належаў Рабіновічам — лесапрамыслоўцам. На Замкавай вуліцы было тры іх дамы, шэсць дамоў належалі Варонкам і шэсць дамоў Сяменікам і г. д.

*— Дык вы добра валодаеце нямецкай мовай?*

— Трохі ведаю. Але нядрэнна вывучыла і польскую мову, бо я вучылася ў Слонімскай прыватнай жаночай гімназіі імя Марцэліны Дароўскай. Там 8 гадоў правучылася да 1939 года.

*— А потым прыйшлі бальшавікі. І наогул, як слонімцы сустракалі бальшавікоў у верасні 1939 года?*

— Па-рознаму.

*— Да простых слонімцаў палякі лепш адносіліся ці саветы?*

— Мне цяжка сказаць. Хаця я бачыла, як бальшавікоў сустракалі з кветкамі і як ад іх хаваліся.

*— Якія пры Польшчы ў Слоніме выдаваліся газеты і часопісы?*

— Вы лепш ведаеце, чым я. Вы даследуеце гісторыю Слоніма. А я пры Польшчы была маленькай дзяўчынкай. Ведаю толькі, што «Газету Слонімскую» пры Польшчы выдавала Людміла Новік — жонка паэта Сяргея Новіка-Пеюна. Дарэчы, пакажу Вам адзін слонімскі часопісік на польскай мове. Ён называецца «Рэха школьных муроў». Вось такі выходзіў у Слоніме ў 1930-х гадах.

*— Гэта часопіс, які распавядаў пра жыццё і справы слонімскіх вучняў і настаўнікаў?*

— Так. Вось, напрыклад, апублікавана справаздача спартыўнай секцыі Слонімскай дзяржаўнай гімназіі імя Тадэвуша Касцюшкі. Дзе напісана, што секцыя праявіла даволі актыўную дзейнасць на спаборніцтвах па валейболу і баскетболу і г. д.

*— А дзе месцілася Першая беларуская школа?*

— Першая беларуская школа ў Слоніме знаходзілася на Чырвонаармейскай вуліцы і ў будынку ВВК на Савецкай вуліцы. Першы выпуск беларускай школы быў 17 чэрвеня 1941 года.

*— Ці памятаеце такога кампазітара Антона Валынчыка?*

— Вядома, памятаю. Калі я вучылася ў школе, ён у нас выкладаў спевы і вёў школьны хор. Гэта было ў 1939/40 навучальным годзе ў Слонімскай першай беларускай школе.

*— А ці памятаеце пра айца Міхаіла?*

— Айца Міхаіла я вельмі добра ведала. Прозвішча яго было Славінскі.

*— Ён быў родам з Украіны, як я не памыляюся?*

— Так. З сям'і святара. Міхал Славінскі прыехаў у Слонім у 1932 годзе. Яго сын Ігар нарадзіўся ў 1932 годзе ў Слоніме. А дачка Ірына (вядомы наш доктар Ірына Міхайлаўна Булыга, якой нядаўна не стала) нарадзілася таксама ў Слоніме ў 1936 годзе. Чаму я так добра памятаю? Таму што мы жылі побач. Айцец Міхаіл быў цудоўным, шчырым чалавекам. Без слёз я не магу яго згадваць. Калі ён хрысціў дзяцей ці праводзіў нейкі іншы абрад і людзі пыталіся, колькі за гэта неабходна заплаціць, айцец Міхаіл, калі бачыў, што вернікі не вельмі заможныя, казаў, што нічога не трэба плаціць. Служыў ён у Спаса-Праабражэнскім саборы.

*— А з заснавальнікам Слонімскага музея Язэпам Стаброўскім Вы былі знаёмыя?*

— Гэта быў дабрэйшай душы чалавек і вельмі таленавіты. Я сустракала яго часта ў Слоніме. Была нават на яго радзіме ў вёсцы Орлавічы.

*— Ніна Пятроўна, а калі Слонім быў прыгажэйшы: цяпер ці да вайны?*

— Вядома ж, цяпер, нават параўнаць немагчыма.

*— А ці ведалі Вы слонімскага фатографа Юзафа Шыманчыка?*

— З ім асабіста я не была знаёмая, але ведаю, што ён да нас прыехаў з Косава і меў тут сваю фотамайстэрню. Пры Польшчы быў у Слоніме і добры фатограф Садурскі.

*— Ці шмат пры Польшчы ў Слонім прыязджала артыстаў?*

— На гастролі да нас прыязджала тады многа артыстаў з усёй Польшчы. Быў і вядомы, папулярны артыст Збігнеў Цыбульскі. Я была ў яго на канцэрце. Канцэрт адбываўся на дамбе на канале Агінскага, дзе была спецыяльная эстрадная сцэна і бар. У мяне нават захаваўся яго аўтограф. Пасля канцэрта я падышла да Цыбульскага і папрасіла аўтограф, ён даў. Гэта было 21 траўня 1939 года.

*— А спортам у маладосці Вы займаліся?*

— Тады былі секцыі пры школах, і мы наведвалі іх дзеля цікавасці, і ўсё. Але ў той час у Слоніме было шмат добрых спартсменаў. Амар Байрашэўскі быў лепшым у горадзе па скачках з трампліна і па плаванню. Хрэшчыкаў Арсень быў лепшым па лёгкай атлетыцы. Мой брат гімназіст Леанід Сяменік прымаў удзел у спаборніцтвах на лыжах, па турызму. На байдарках плаваў да Гродна, а на веласіпедзе ездзіў ажно ў Вільню.

*— Ніна Пятроўна, давайце прыгадаем слонімскія вуліцы.*

— Давайце. Ці ведаеце, што ў Слоніме да вайны была вуліца Тадэвуша Касцюшкі? Касцюшка нарадзіўся ў Марачоўшчыне, якая належала да Слонімскага павета.

*— Касцюшка таксама пэўны час вучыўся ў Слоніме.*

— Магчыма. Таму ён наш двойчы знакаміты зямляк.

*— Праўду кажуць, што гісторыя горада — у назве вуліц.*

— Наш горад уключаны ў спіскі турыстычных гарадоў Беларусі. А такія вуліцы Слоніма, як Віленская, Мінскі тракт, Косаўскі тракт, Ружанская, Жыровіцкая, Брэсцкая, кажуць пра тое, куды гэтыя вуліцы вядуць. Была ў нас вуліца Замкавая, на якой я цяпер жыву, але яна ўжо называецца Камсамольская. Яна вяла тутэйшых людзей да слонімскага замка. Я прапаную вярнуць назву Замкавая, бо гэта гістарычная вуліца Слоніма. Яна вядома з XVII стагоддзя, а магчыма, і раней на некалькі стагоддзяў. Гэта гісторыя нашага горада.

*— А ці любіце Вы літаратуру?*

— О, я нават пераклала на польскую мову верш «Паланэз Агінскага» нашай зямлячкі-паэткі Валянціны Ададуравай…

*Ніна Пятроўна пачала чытаць свой пераклад верша Валянціны Ададуравай. Пераклад атрымаўся цудоўным. І верш па-польску гучаў не горш за арыгінал.*

*2010*

# ЗМЕСТ

---

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Чыгрын** Сяргей Мікалаевіч

СЛОНІМСКІЯ ПАДМУРКІ

*Гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактар *А. Спрытніч*
Набор *С. Чыгрына*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 23.08.2012. Фармат 60×84 $^{1}/_{16}$. Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 17,21. Ул.-выд. арк. 19,45. Наклад 100 ас. Зак. 598.

ПУП «Кнігазбор». Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.